Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Вольгі Гардзіёнак:
на 1-й стар.: «Нацюрморт», 2010;
на 4-й стар.: «Антычны матыў», 2008.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.

Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by, dzieja@list.ru
www.dziejaslou.by
Тэл. 200-80-91.

Здадзена ў набор 10.10.2011 г. Падпісана да друку 26.11.2011 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛВ № 02330/0548592 ад 09.07.2009.
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№6(55)
/ лістапад-снежань / 2011

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Генадзь Бураўкін



...І нашымі абветранымі вуснамі
І час, і Бог хоць зрэдку гаварыў...

# Нагаварыцца з зоркамі...

* * *

*Аднагодкам*

Старэем.
Запазнела служым прозе.
Прыгладжваем густую сівізну.
Спыняемся часцей на паўдарозе,
Прыгадваючы даўнюю вясну.

Усё яшчэ стараемся спяшацца
За днямі хутканогімі паспець,
Хаця ўсё меней пакідае шанцаў
Ужо зусім не прывідная смерць.

Мы ж грэемся спадзевамі нятускнымі,
Што не патух наш малады парыў
І нашымі абветранымі вуснамі
І час, і Бог хоць зрэдку гаварыў...

* * *

Я вам скажу з дасведчанасцю ўсёй:
Не загружайце памяць непатрэбшчынай –
Палітыкаю,
Варажбой,
Папсой,
Пустой гамонкай
І дурнымі вершамі.

Не трацьце час
На познюю гульбу,
На хмельны сон
І спадзяванку гіблую,
На лёс не закапыльвайце губу –
Шапчыце модлы
І чытайце біблію.

Шчасліва пастарайцеся змагчы
Наслухацца бацькоўскіх запаветаў,
Нагаварыцца з зоркамі ўначы
І наглытацца баравога ветру...

* * *

Пра смерць сваю мы разважаем лёгка.
З бравадай неўсвядомленаю кпім,
Пакуль яна ад нас яшчэ далёка,
Не нас шукае позіркам сляпым.

А як гады рубцамі сціснуць сэрца,
Наблізіцца паважны юбілей,
Усё радзей мы згадваем аб смерці,
Сустрэчу з ёй адклаўшы як далей...

* * *

Ведаю,
Што немагчыма гэта,
Смешна,
Недарэчна
І дарма,
Ды хачу
Яшчэ хоць трошкі
Лета
У гаях надрэчных затрымаць,
Каб,
Калі з-за хмаркі сонца гляне

І нагрэе ўмомант сіняву,
На глухой бярозавай паляне
Кінуцца ў высокую траву...

Толькі колькі б Бога ні малілі,
Я зямны парадак не змяню.
Жнівеньскія позняя маліны
Падаюць пад ветрам на зямлю.

І, не забываючы аб слоце,
Непазбежна,
Як і кожны год,
Жураўліны вырай
На балоце
Сцішана збіраецца ў адлёт...

* * *

Грымяць палітыкаў басы –
Не рэагуе маса,
Бо маса хоча каўбасы,
Бо маса хоча мяса.

Нашто ёй вабнасць перспектыў
І заўтрашнія гоні,
Калі ў душы адзін матыў:
Што будзем есці сёння?

Яна не выйдзе з-за стала,
Ёй хочацца спакусна,
Каб чарка поўная была
І тлустая закуска...

І ці не прыйдзе потым злосць
Спазнела,
Як заўсёды,
Што мяса ёсць,
І маса ёсць,
Але няма народа?

* * *

Хітранькая дробная палітыка
Павуціннем
Ліпне на душу.
Хіба што з яе магчыма выткаць,
Нават негустую паранджу?

Прывідныя кволенькія ніткі
Не гатовы сшыць і рызманы.
Вось і віснуць на галінках нізкіх
Разарванай сеткаю яны.

Прагінаюцца ад пацярухі,
Цягнуцца за лапкамі жукоў...
Хіба што
Адны дурныя мухі
Робяцца здабычай павукоў...

* * *

Лёстачкам
І гучным хваласпевам,
Клятвам,
Што ліюцца цераз край,
Саслужыўцам хітрым,
Пышным дзевам
Ты заўжды не надта давярай.

І калі жыццё
Пры ператрусе
Абарвецца тонкаю струной,
Ты не дужа вер,
Што ў горкай скрусе
Пойдуць яны дружна за труной.

Ні каханка юная,
Ні цешча
Не асірацеюць ад бяды.
Толькі жонка верная
Няўцешна
Будзе плакаць доўгія гады...

* * *

Іх лёс адна звязала ніць –
І зналі ў грамадзе:
Іх ні вадою не разліць,
Не разлучыць бядзе.

Яны суладна
Душ цяпло
Дарылі кожны міг
І ўсё,
Што даць жыццё магло,
Дзялілі на дваіх.

І шчасце вечнае было б –
На ўзор сяму-таму, –
Каб аднаго з сяброў
Паклёп
Не кінуў у турму.

Яшчэ не ўведаўшы ўсяго,
Ішлі мы да муроў.
І толькі не было яго,
Найлепшага з сяброў.

А вязень
Доўга праз вакно
На нас усё глядзеў
І ў позірку яго
Адно
Было пытанне:
“Дзе?”

І калі выйшаў ён з турмы
На поўны кветак двор,
“Дзе ж сябра твой?” –
Спыталі мы.
Ён адказаў:
“Памёр.”

### *ФЕМІДА*

*Спроба стварэння легенды*

Яна ласкавы позірк мела,
Без падазронасці і зла,
У вочы ўсім глядзела смела,
Бо непадкупнаю была.

Ды ўсё змянілася аднойчы,
Калі зямныя каралі
У сне ёй выкалалі вочы
І ў суд з павязкай прывялі.

І вось яна
Стаіць ціхмяна,
Слабой рукой сціскае меч,
А ад яе вачэй схавана
Усё,
Што побач насамрэч...

* * *

Каштанаў свечкі-спарышы
Паўсюль вясна развесіла...
Хай будзе светла на душы,
Хай будзе сэрцу весела.

Няхай у юнай гамане
Шчасліва дзень купаецца
І валасы кудлацяць мне
Вятроў залётных пальцы.

За радасцю,
Нязваны госць,
Я ўсцешана віжую
І клічу ў грудзі
Маладосць
І вольніцу чужую.

Няхай духмянай талакой
На дол пялёсткі сеюцца...
І прыцемкі,
І супакой –
Яны яшчэ паспеюцца...

* * *

У душным мораку сталіц
І ў будане ў цяньку палянаў
Стаміўся я ад навальніц,
Ад буралломаў і ўраганаў.

Маланкі апраметны бліц
Сцяжынку выхапіць са змроку.
Мая ж душа ізноў баліць,
Шчыміць яна навідавоку.

Ёй хочацца
З надзвінскіх стром
Дыхнуць лагоды і спакою.
А тут
Грыміць злавесна гром
І льецца шумны дождж ракою,
І б'ецца вецер аб зямлю,
Вяршаліны бяроз калыша...

А я зняверана лаўлю
Намёк на заўтрашнюю цішу.

* * *

Задушная спёка
Старым аваднём
Зашылася ў мяккую засень травы.
Няўлоўная хвіля
Між ноччу і днём
Схавалася моўчкі ў туман лугавы.

За вёскаю тлум заклапочаны знік.
Над хмаркаю першая зорка ўзышла.
І ціха
Над садам усплыў маладзік –
Абрэзаны цемрай пазногаць святла.

* * *

Сяджу на прызбе ў вечаровай цішы,
Лаўлю вясковы гоман незнарок.
Туман з ракі ўзнімаецца ўсё вышай.
І ўсё гусцее аксамітны змрок.

Цяжкія думкі ціснуць мне на карак,
А згадкі ў жылах падганяюць кроў.
І зоркі –
Як агеньчыкі цыгарак
Маіх даўно ўжо страчаных сяброў.

* * *

Калісьці паверыў я сам
На светлым світанні дзяцінства,
Што я па лясных верасах
Паспею яшчэ нахадзіцца.

З'язджаў ад расонскіх атаў,
Ад родных дубоў пракаветных,
Чужыя сцяжынкі таптаў
І дыхаў прасоленым ветрам.

А дома
На новых кладах
Сасонкі маліліся Богу,
Ды я на пасля адкладаў
Да матчынай хаты дарогу...

На чорныя гронкі ажын
Мне восень даўно не скупая...

А тых верасовых сцяжын
Усё яшчэ мне не хапае.

* * *

У цёмных соснах заблудзіўся вецер,
Кідаецца,
Як звер,
Ва ўсе бакі,
У драным пазалочаным саеце
Чапляецца за вострыя сукі.

Мармыча лес,
Як хворая дзяціна.
Ігліца ападае на грудок.
На вейкі наліпае павуціна.
І за каўнер крадзецца халадок.

Трывожны шум на вершаліны лезе.
Зацiхла птушак бойкая гурма.
І за кустамі голымі
На ўзлессі
Стаілася ўжо
Хітрая зіма.

* * *

Вада замерзла ў бочках у двары
І шэрань пабяліла панадворак.
Збірай садоў апошнія дары
І з лецішча з'язджай у цёплы горад.

Хоць поўня шчодра свеціць уначы
І на траву не высыпае іней,
Цяпер ужо ад сцюжы не ўцячы.
Яна дрыжыць за кожнаю асінай.

Памалу адвыкай ад летніх мар,
Забудзься на ўтравелыя сцяжынкі,
Бо хутка ўжо з ацежалелых хмар
Сарвуцца ўніз бахматыя сняжынкі.

* * *

*Памяці Васіля Быкава*

Ідзе жыццё.
За годам год мінае.

Мяняецца пагода на зямлі...
Усё часцей цябе я ўспамінаю
У выцертым салдацкім шынялі.

І што б такое не было са мною,
Здаецца мне
І ў сонца,
І ўначы
Стаіш ты моўчкі за маёй спіною,
Гатовы мне хоць нечым памагчы.

Абражаны,
Зняважаны,
Ранімы,
Без спадзяванняў тайных
І без сіл
Ты кожны раз вяртаўся да Радзімы
І літасці і ласкі не прасіў.

На ўсіх шляхах,
Пры жудасных адлівах,
Калі змывала саснякоў камлі,
Ты нёс свой крыж
Зацята і цярпліва,
Каб з ім упасці на сваёй зямлі.
Да памяці тваёй не прыліпае
Ні павуцінне звад,
Ні подлы час...
Нам так цябе сягоння не хапае,
Як не хапае і табе ўсіх нас...

* * *

Ці лагоднаю месячнай ноччу,
Ці як сонейка ўспыхне ў акне,
Добра ведаю я,
Што аднойчы
І мяне ціха неба гукне.

І пакліча ў бясхмарныя высі,
У апошні халодны мой дом,
Дзе людскія шляхі ўсе сышліся
Перад самым галоўным судом.

Перад тым,
Як я зводдалі ўбачу
Языкі незямнога агню,

Я хацеў бы
Зрабіць справаздачу
Хоць на міг сам сабе ўпершыню.

Перад блізкімі мне павініцца,
Даравацьдаўнім ворагам люць,
Згледзець зорку ў бацькоўскай крыніцы
І матуліну песню пачуць.

Пакланіцца
І травам,
І дрэвам,
І гняздзечку ў зялёным галлі
І шчасліва адчуць:
Недарэмна
Я радзіўся на гэтай зямлі.

Алесь Пашкевіч



...няма чалавеку на зямлі горшай кары,
як перажыць узлёт свой паднебны
і зведаць гібель зробленага і задуманага...

# Сім победиши

## *Раман-прыпавесць*

*Усё знікае – нічога не змяняецца.*

### 0

*Верасень 2012 года*

*Калі б страх ратаваў ад смерці, зайцы жылі б вечна. Аднак бясконцыя толькі ўцёкі. Як і ў ягоным лёсе... Галоднае маленства ў акупаваным мястэчку – і ён, лапавухі хлапец з прозвішчам Заяц, падаўся вучыцца ў пранямецкую школу ды запісаўся ў Саюз вольнай моладзі: кармілі два разы на дзень, апранулі. І да сёння тыя канапляныя нагавіцы памятае... А праз сем гадоў прыехаў у сталіцу, здаў на выдатна ўступныя экзамены ва ўніверсітэт – дык тая апратка ледзь не вылезла бокам: выклікалі да асабіста на «чысцец», і выратавала толькі тое, што пра СВМ сам шчыра прызнаўся ў аўтабіяграфіі ды... не адмовіўся ад супрацоўніцтва.*

*Словам, падціснуў вушы – і галаву ў траву. І быў*

*залічаны на гістарычны факультэт, і адвучыўся, пазбягаючы непрыемнасцяў, і патрапіў у аспірантуру, і стаў кандыдатам навук. А тут зноў пачалі барацьбу з гісторыяй, і ён, дацэнт Мікалай Заяц, не адмаўляўся ад выкрывальніцкіх публікацый – і быў запрошаны на стажыроўку ў Акадэмію навук, абараніў доктарскую з гучнай назвай «Ідэя ўлады і народа ў развіцці рускай дзяржаўнасці ў XVI стагоддзі», займаўся даследаваннем кнігадрукарства ды прымаў удзел у эксгумацыі пахавальні Івана Грознага. А затым узначаліў кафедру, стаў акадэмікам – і, не зважаючы на палітычнае пацяпленне, высока не скакаў. Як і падчас свайго дэпутацтва ў Вярхоўнай Думе, куды выбралі ад роднага ўніверсітэта.*

*З парламенцкай краіна ператварылася ў прэзідэнцкую, вярталіся гістарычная праўда ды нацыянальная сімволіка, але...*

*Але жыццё зноў запатрабавала «ўцёкаў» – і ад тае праўды, і ад рэальнасці. А ён ужо быў старым, ужо не мог бегчы. А галоўнае – надакучыла хавацца, прыстасоўвацца. Зайцы не жывуць вечна, бо страх не ратуе ад смерці...*

*І ён нарэшце ўздыхнуў на поўныя грудзі ды адчуў трымценне патаемнай свабоды – але ж жыць вечна не будзеш... Даконваў дыябет, і цяпер ён – пенсіянер Заяц – без нагі. Тут нават і хацеў бы – не пабяжыш, не ўцячэш...*

*На вакзальнай плошчы было мітусліва і шматлюдна. Ён спыніў свой інвалідны вазок і выклікаў ліфт. Зіхоткія дзверы расчыніліся бязгучна. «Цывілізацыя», – хітнуў галавой і націснуў на ніжнюю кнопку. Спусціўся ў доўгі тунэль падземнага перахода, скаціўся, трымаючыся адной рукой за парэнчы, па пандусе да шкляных дзвярэй, перад якімі «цывілізацыя» і закончылася: а як іх адкрыць? Нахіліўся, адпіхнуў, але вазок ад'ехаў назад.*

*Тое заўважыла маладжавая брунетка ў кароткай чорнай сукенцы з вертыкальнымі хвалямі стразаў на спіне – і прытрымала спружыністыя дзверы. Але праём быў малы, і кола некалькі разоў чаплялася за металічны стаяк. Нарэшце выкаціў і ўсміхнуўся маладзіцы:*

*– Дзякуй, прыгажунька. Дай Бог табе здароўя.*

*І тая ўсміхнулася, паглыбіўшы на шчочках сімпатычныя ямінкі:*

*– Вам таксама...*

*І пацокала на бліскучых абцасах да турнікетаў. А ён толькі цяпер зразумеў, што не ведае, як і дзе плаціць за жэтон ці нейкую картку. Усё, здавалася, прадумаў дасканала, а вось гэта...*

*– Калі ласка, праязджайце, – заўважыла ягоную зніякавеласць кантралёрка і адкінула ланцужок. – Ды не бойцеся, другім разам заплоціце... Маладыя людзі! – спыніла яна даўгалыгіх хлопцаў. – Дапаможыце дзядулю на эскалатары... Дадумаліся ж наверсе ільготы адмяніць...*

*Заяц спыніўся каля краю платформы, бліжэй да аграмаднага люстэрка – каб патрапіць у першы вагон. Дыхнула прахалодай і чыгуначнай змазкай, пасля чаго з цемры насцярожана бліснулі фары электрычкі. Паміж бетонам з жоўтай паласой і вагонам – з паўпядзі прастора, адолець якую дапамог вусаты чалавек у форме машыніста метрапалітэна з моднымі зацемненымі акулярамі.*

*– Асцярожна, дзверы зачыняюцца! Наступны прыпынак – станцыя «Лістападная», пераход на «Зарэчную» лінію, – няспешна прагучала дыктарская абвестка.*

*Цягнік крануўся і пачаў набіраць разгон. «Вусач-машыніст» падышоў да дзвярэй – не тых, на якіх бялеў надпіс «Не прислоняться!», а амаль*

*нябачных, у кабіну машыніста, зачыненых знутры, – дастаў з кішэні цёмна-сіняга пінжака адмысловы накідны ключ, крутануў некалькі разоў і, зірнуўшы на інвалідны вазок, незаўважна націснуў на нікеляваную ручку. Дзверына ціха зачынілася за ім.*

*– Служба бяспекі метрапалітэна! – выгукнуў «Вусач» зніякавеламу кіроўцу. – Паступіла інфармацыя, што на лініі – п'яны машыніст. Праверка. Калі ласка, дыхніце вось сюды, – дастаў з унутранай кішэні невялікі балонік, нахіліўся над машыністам, у вачах якога выявілася неўразуменне, і нечакана пшыкнуў у твар. Машыніст было ўсхапіўся, але імгненна асунуўся, а «Вусач» адкрыў фортку, затым адсунуў беспачуццёвае цела і піхнуў рычаг хуткасці ад сябе: цягнік запаволіў рух.*

*У той час Заяц дастаў са скуранога дыпламата, прывязанага да білца інваліднага вазка, загадзя ўключаны ноўтбук, па электроннай пошце адаслаў невялічкі тэкст – і зноў схаваў.*

*Цягнік спыніўся. Патухлі лямпы асвятлення – і эканомна ўспыхнулі запасныя, па дзве на вагон. За шклом вокнаў знерухомела шурпатая сцяна тунэля.*

*– Паважанае спадарства, просім не хвалявацца... – прагучаў у дынаміках спакойны голас «Вусача». – На лініі – збой электранапругі. Праз некалькі хвілін рушым зноў. Кіраўніцтва метрапалітэна выказвае свае прабачэнні. – А затым той жа голас загучаў у рацыі галоўнага дыспетчарскага пульта: – Увага! Састаў № 8 першай лініі захоплены тэрарыстамі і, замініраваны, знаходзіцца паміж станцыямі «Вакзальная» і «Лістападная». Усе патрабаванні нашай групы – на электроннай пошце Адміністрацыі прэзідэнта. Папярэджваем: з абодвух бакоў электрасастава выстаўленыя сэнсарныя відэакамеры. Пры першым выяўленні якіх-небудзь рухаў спецслужбаў цягнік з пасажырамі будзе ўзарваны! Гэта не жарт! Канец сувязі...*

## I

*Чэрвень 1429 года ад нараджэння Хрыстовага*

Калі манах пакінуў пячору, пачало ўзыходзіць сонца.

Усю ноч ён маліўся, а над зямлёй грукатала навальніца. Маланкі распорвалі неба, падалі ў марскую бездань і – атушаныя – распырскваліся па наваколлі. І тады ўзрываўся гром, стагналі зямля і горы, страшнае рэха кацілася з вышыняў – нібыта ўадначас заходзіліся тысячы іерыхонскіх трубаў ці насмерць біліся за прастору дахрысціянскія Ярыла і Зеўс.

І перакульвалася неба, і расцякалася вадою па горных стромах, і нельга ўжо было зразумець, дзе ніз і дзе верх, дзе сцяжына людская, а дзе Божая, дзе ўява і дзе жыццё.

Затым усё аціхла. І было чутна, як словы зліваліся з шаптаннем нястомных раўчукоў, па якіх неба сцякала ў недалёкае мора.

А калі ўзышло сонца, манах-адзінец пакінуў пячору.

На Афоне, ён жыў з сонцам і ветрам, сыціўся зямнымі дарамі, мацаваўся святым словам. І прасіў Бога назаўсёдна пакінуць яго тут – аднак нядаўні сон змусіў перапыніць скіт ды спусціцца ў зямныя клопаты...

Дарога адабрала ўсе старэчыя сілы, але ён не адчуваў гэтага. Не адчуваў ні збітых ног, ні задубелай ад глеістай гразі тогі, ні спапяляльнай смагі. Ішоў ды ішоў, гохкаючы кіем, сунуўся ды поўз, калі строміўся горны схіл. Рада-

ваўся дзённаму святлу, а кароткія ночы праводзіў у сонным памараку. Ды крочыў далей – аж пакуль не ўбачыў перад сабой манастырскія вароты.

Сілаў узняць жалезнае кольца і пастукаць ужо не засталося. «Дзякуй табе, Божа», – вымавіў ці падумаў манах – і страціў прытомнасць.

Першымі яго заўважылі рыбакі, якія прывезлі з Салонікаў муку і воск. Яны занеслі старога за манастырскія сцены, паклалі ў цень кіпарыса ды паведамілі ігумену Нілу. Калі той прыйшоў, манах ужо агоўтаўся ды радасна глядзеў на царкоўны крыж.

– Брат Філафей?.. Вітаю цябе, богалюбівы сябар! Пасля нялёгкай дарогі зрабі ласку: будзь госцем у маёй келлі, – ігумен азірнуўся на маладога келейніка, каб той дапамог, але стары манах нечакана ўпаў да іхніх ног.

– Эвлагітэ (Дабраславіце)! – прашаптаў ён традыцыйнае афонскае прывітанне, перахрысціўся і пачаў прасіць даравання, але словы патаналі ў перасмяглай глотцы.

– О Кірыёс (Гасподзь дабраславіць), – крыху збянтэжыўся ігумен. Ён паслаў келейніка па ваду і паспрабаваў падняць старца Філафея, але той зноў лёг на зямлю і апантана зашаптаў:

– Паляць цела маё грахі непагасныя, каменнямі іхнімі рукі й ногі абцяжараныя, і няма мне даравання за тое, што выпрасіў я ў Бога скіт высокі – ды пакінуў яго...

Слёзы цяклі па худых шчоках, па старэчых маршчынах, па крывавых драпінах. У сівую бараду ўблыталіся некалькі сухіх лістоў айвы і алівы: пячора Філафея была ў Каруле, найвысокім і найсуровым афонскім месцы...

Ігумен Ніл прысеў да старца і пачаў гладзіць ягоны хітон, правільней – тое, што засталося ад яго пасля доўгага пустэльніцтва. Філафей – ягоны папярэднік на ігуменстве, дванаццаць гадоў таму падаўся ў пустэльніцкі скіт – і з'явіўся нібыта з іншага свету...

Прыбег келейнік. Хоць Філафей і не піў ужо трое сутак, але вадзе не абрадаваўся: зрабіў тры невялікія глыткі ды аддаў карэц. І, укленчыўшы, загаварыў гучней:

– Як вучыў айцец Іаан, Сінайскі ігумен: пакінуўшы людскі свет, больш не дакранайся да яго, бо страсці зручна зноў вяртацца. Маліцеся, браты мае ў Хрысце, каб страсці тыя мной зноў не апанавалі...

Ігумену і келейніку ўдалося ўзняць манаха з каленяў ды адвесці ў трапезную. Але і ад сціплай манастырскай ежы ён адмовіўся:

– Не магу я сыціць цела, не спатоліўшы перш душу малітваю, а вочы – сузіраннем святых іконаў. Пакіньце, браты любыя, мяне ў адзінотнай малітве, а потым я распавяду вам аб прычыне майго прыходу...

Філафей так і не ўвайшоў у царкву: як укленчыў перад каменнымі прыступкамі, так і сам скамянеў на ўвесь астатні дзень. Вусны дрогка шапталі словы да Усявышняга, а вочы – па-ранейшаму глыбокія і маладыя – іскрыліся слёзнай мілатою ды глядзелі некуды наперад праз царкоўныя сцены, праз час і прастору...

Стук драўлянай калатухі абудзіў яго. Была сярэдзіна начы, і манахаў звалі на службу. Афон пачынаў малітву за дабрастаянне свету, і Філафей разам з усімі, але апошнім, увайшоў у храм. Усё ахутваў змрок, толькі мігцелі пад іконамі некалькі цьмяных лампадак. Але ён памятаў тут кожную пядзю...

Прачыталі ўрачыстую паўночніцу, адслужылі ранішнюю з паліелеем, і калі заспявалі Херувімскую – надышоў світанак.

– Кірые элейсон! – прагучала справа ад алтара.

– Госпадзі, памілуй! – паўтарыў-падхапіў нізкі голас...

Аніішто не здольна перадаць адчуванне вечнасці і ўзнёсласці так, як грэчаскія царкоўныя песняспевы...

Пасля літургіі манахі перайшлі ў трапезную, дзе з нагоды нядзельнага ранку да гарбаты з хлебам дадалі мёд, халву і тахін. Усе павольна расселіся на лавы, ігумен запрасіў у галаву стала старца Філафея, але той зноў адмовіўся ад ежы і пайшоў да ўзвышэння чытаць: у манастыры падчас трапезы гучалі жыцці святых. А затым, калі ўсе паснедалі і яшчэ раз агульнай малітвай падзякавалі Стваральніку за мілату, Філафей папрасіў слова.

– Браты мае ў Хрысце, – мовіў ён ціха, – хацеў я закончыць шлях свой у пячоры пустэльніка і там перадаць дух свой літасціваму Богу. Ды спадобіў Ён мяне, грэшнага, на іншае: паслаў недастойным вачам маім сон нечаканы. Разбудзіла ў ім мяне Дабраслаўная афонская апякунка і Усяшчодрая роду нашага заступніца Маці Божая ды сказала: «Не спі, чалавеча! Глянь, не світанак на ўсходзе разгараецца, а полымя душагубнае». І паглядзеў я на ўсход, і сэрца маё анямела. Убачыў я сцены Царгорада ў агні дымным, а над Храмам Саборным – двух галубоў. У дзюбе ў белага – пшанічны колас. Чорны ж б'е яго люта, і з коласа не зярняты выпадаюць, а словы Божыя. І ўпала першая сцяна канстанцінопальская. І зноў стукнуліся галубы, і другая сцяна абвалілася. І трэці раз стукнуліся – і знікла сцяна Верхняга горада. І гром трубны загучаў нада мной. І ўбачыў я, як вадой вуліцы запаўняюцца, як рушыцца купал саборны, а на алтар белы голуб падае. «Ідзі і раскажы», – казала Апякунка Нябесная, і ўбачылася мне, як у полымі словы Божыя гараць – кнігі Святога Пісання... – па трапезнай прабег трывожны ўздых, і старац узвысіў голас: – «Ідзі і раскажы», – паўтарыла Валадарка Цноты, і ўбачыў я, як увайшла Яна ў агонь, і выйшла непашкоджанай, і паклала на ваду кнігу, і сказала: «Вось цела Сына майго». І разгарнула кнігу, і перст свой да радкоў прыклала, і сказала: «А гэта кроў Ягоная»... – старац памаўчаў і закончыў: – Пасля таго сну і спусціўся я са скіту свайго. І не стамлюся прасіць вас, браты любыя, аб малітвах да Бога літасцівага, каб дараваў мне зыход мой...

Ён перахрысціўся і памкнуўся было выйсці з трапезнай, але манахі кінуліся, перабіваючы адзін аднаго, распытваць, што абазначаюць тыя нябесныя знакі.

– А тое, што чакаюць народ Хрыстовы новыя выпрабаванні, – Філафей наблізіўся да ігумена, паклаў яму на плячо сваю дрыготкую руку, пранікнёна паглядзеў у вочы ды падрахаваў: – Пройдзе два разы па стольkі, як я пакінуў наш манастыр, і Царгорад, Канстанцінопаль, захопяць чужынцы. І ты, добрапрыстойны брат Ніл, мусіш ехаць да патрыярха і папярэдзіць яго аб небяспецы. Не ўваскрэснуць таму, што не памерла. Але цела Божага ад крыві Ягонай адлучаць нельга. У Канстанцінопалі захоўваецца найбагацейшы скрыпторый. Не дай яму знікнуць! Ратуй слова Збаўцы!

– Брат Філафей... – голас ігумена задрыжэў. – Разам і ў малітвах, і ў справах клапаціцца аб тым будзем.

– Не наканавана таму збыцца, – прачула ўсміхнуўся афонскі старац. – Праз сем дзён Усявышні пакліча мяне на суд свой строгі...

***

*Верасень 1429 года*

Сонца гарэла над святой гарой, і каб не мружыцца, ігумен Ніл насунуў на сівыя бровы востраканечны куколь выцертага схімніцкага хітона. Чорная тканіна, сшытая зверху над галавой, разрэзы на рукавах – усё сведчыла пра строгасць і пакору абранага жыцця, адасобленага ад свету...

Бераг адплываў далей і далей, а Ніл не мог адарваць ад яго свайго блакітнага позірку. Што было ў ягоных вачах, у якіх адбівалася вада і неба, смутак і надзея? Што, акрамя малітвы, было ў ягонай душы?

Калі адышоў да Бога старац Філафей, у манастырскай царкве заплакала ікона Божай Маці «Троеручыца», а наранiцу пасля пахавання старца ў келлю ігумена ўляцеў белы голуб: сеў на падваконне і не варушыўся ўвесь час малітвы...

І тады ігумен вырашыў адправіцца ў Канстанцінопаль да патрыярха – распавесці пра Філафееў сон ды папрасіць святой парады.

Афон з карабля ўжо здаваўся невялікай даланёй – толькі заручальны пярсцёнак хмаркі завісаў над гарой. Там – падумалася ігумену – і злучалася неба з зямлёй.

...Яшчэ ў язычніцкія часы на паўвостраве ўзвышалася пазалочаная статуя Апалона, а на гары быў ягоны храм. І само месца звалася Апаланіядай. Пазней там узвялі храм Зеўса, якога па-грэцку звалі Афос (Афон). Цяпер жа і да заканчэння свету той край з нябесным спалучаны імем Маці Божай. Калі яна плыла да Лазара Чацвёрадзённага на Кіпр, на моры раз'юцілася бура – і карабель прыбіла да скалістага афонскага берага. Гавораць, калі святая Марыя ступіла на яго, статуя Апалона павалілася...

– Дык ці будзе, ойча, у нас добры ўлоў? – спытаў ігумена старэйшы рыбак (напрыканцы шляху збіраліся закідваць невад – каб прадаць рыбу на канстанцінопальскім рынку).

Ігумен Ніл усміхнуўся, правёў даланёй па мяккай барадзе і мовіў:

– Я ж не варажбіт, чалавеча. Нікому са смяротных не дадзена знаць пра жыццёвую лоўлю. На тое ёсць вечны лавец душаў – Бог наш нябесны. Папрасіце ласкі Ягонай – і будзе вам улоў...

Яшчэ тры разы вынырвала з марскіх глыбіняў і атухала ў паружавелай вадзе вераснёвае сонца, пакуль іхні карабель скінуў якар на дно бухты Залаты Рог.

Кажуць, выспа – вароты Басфора – нагадвае галаву арла. Арол з дзвюма галовамі – герб Усясветнай Канстанцінопальскай Патрыярхіі і цяперашняй імператарскай дынастыі Палеалогаў.

У даўнія часы грэкі-каланісты заснавалі на выспе горад Візантыя ў гонар свайго правадыра Візанта. Затым ён стаў новай сталіцай Рымскай імперыі і назваўся Канстанцінопалем – у памяць пра першага хрысціянскага імператара Канстанціна Вялікага. З Рыма, Афінаў, Эфеса ды іншых гарадоў сюды звозілі лепшыя скульптуры, каштоўныя рукапісы ды таленавітых архітэктараў.

Прайшла пасля таго тысяча гадоў, а прасолены Мармуровым морам ды ўсушаны высокім сонцам горад выглядаў маладым і бадзёрым. Як і раней, сцякаліся на форум – рынкавую плошчу – гандляры і купцы, узвышаўся над засмяглай у спёцы зелянінай і квеценню Букалеон – імператарскі палац,

за ім – жоўтыя каменныя сцены цырка, тэатра, ніжэй, уздоўж пыльных выпетраных вулак – двух-трохпавярховыя дамкі з аркадамі, грамадскія лазні, якія ледзь не ўсутыч ляпіліся да старой гарадской сцяны.

Цяпер жа горад пераліўся і праз тую, і цераз новую сцяну: яго абаранялі ўжо тры рады каменнай цвержы з глыбокімі забраснелымі ірвамі перад кожнай і дзевяноста шэсць вартавых вежаў. І сем абшытых тоўстымі металёвымі лістамі брамаў.

Калі стомлены дарогай ігумен з дапамогай келейніка спускаўся ў лодку, штось бліснула ў ягоных вачах.

– Хвала Табе невымерная, Нябесны стваральнік, – прашаптаў Ніл і перахрысціўся.

На асмужаным даляглядзе вынырнуў пазалачоны купал Святой Сафіі.

Толькі напрыканцы трэцяй варты[1] афонскі ігумен патрапіў у Верхні горад. Патрыяршы спраўнік запрасіў у гасцёўны пакой, дзе манахі – Ніл і ягоны келейнік – маглі памыцца і адпачыць з дарогі.

– Яго Вялікасць Боская Усесвяцейшасць Архіяпіскап Канстанцінопальскі-Новага Рыма і Усясветны Патрыярх, – паведаміў ён, развітваючыся, – зможа прыняць вас пасля вячэрні.

Службу ў Святой Сафіі яны аніяк не маглі прапусціць – калі б нават раскрыліся нябёсы над Вечным горадам і загулі трубы іерыхонскія. Келейнік наведваў храм упершыню, а ігумен Ніл у свае маладыя гады быў ягоным дыяканам – ды таксама адчуў першасную акрыленасць ад сузірання велічных сценаў. Унутры яны, як і падлога, да самага мазаічнага ўзвышша пакрытыя прыроднымі роспісамі мармура з белымі, бірузовымі і вогненна-карычневымі вертыкальнымі разводамі... Вось і Харалагін, дзверы, праз якія можна выйсці на каменны пандус і дабрацца на верхнюю галерэю – нібы на нябачных крылах узняцца да залачоных архангелаў і зверху ўвабраць у дрыготкую душу храмную прастору...

Аграмадны купал, які – здавалася звонку – уціскаў святыню ў грэшную зямлю, унутры на далонях двух нефаў выглядаў лёгкім і ўзлётным. Можа – ад сонечнага вянка ўрэзаных у яго авальных вокнаў, можа – ад гонкіх узалочаных фрэсак, можа – ад высозных калонаў, а можа – ад намоленых слоў, што гучалі пад тым купалам і ўжо не месціліся ў храме.

Але ім, малітоўным словам, было прасторна ў манашскіх душах, якія ў час гэтай вячэрні таксама ўзнімаліся да нябеснага купала...

– Эвлагітэ! – ігумен упаў на калені, калі патрыярх увайшоў у свой тронны пакой – пераапрануты, у простым падрасніку. На галаве замест сферычнай клабукі была белая скуфія.

– Бог дабраславіць, мой дарагі брат! – адказаў патрыярх і таксама ўкленчыў перад госцем. – Думаў, ужо й не пабачу тваю мудрую сівізну.

Яны абняліся і прыселі на лаву, прыстаўленую ўздоўж сцяны з высокім арачным акном. Леваруч ад іх на пакрытым дарагім дыванам узвышэнні стаяў залачоны трон з аксамітнай падушкай і доўгімі кутасамі.

Патрыяршы трон ніколі не пуставаў: на ім месцілася кніга старадаўняга рукапіснага Евангелля ў залатых вокладках. Па абодва бакі трону – глі-

[1] Па старадаўняй традыцыі суткі ў Канстанцінопалі падзяляліся на 8 вартаў. Вояў на гарадскіх сценах змянялі праз тры гадзіны – адну варту.

няныя вазы-гаршкі з доўгімі пальмавымі галінамі. Просты ж драўляны сталец патрыярха быў пад узвышэннем, але ўладыка сеў побач з госцем.

– Ці добрай была дарога? І як цячэ жыццё Божае на Афоне?

– Хвала Богу, і дарогі, і жыццё нашае добрыя, – пачаў Ніл – і спыніўся, не ведаючы, як падступіцца ў размове са сваім клопатам, але патрыярх нібыта адгадаў ягоныя думкі:

– Аднак бачу пакутнае ў вачах тваіх: гавары.

– На дванаццатым годзе чорнага скіту адкрылася нашаму старэйшаму брату Філафею відзежа нябесная: Маці Божая паказала яму бой двух галубоў, чорнага з белым. І ўбачыў брат наш Божы... смерць Канстанцінопаля і разбурэнне Святой Сафіі... – ігумен сполашна перахрысціўся і адвёў ад патрыярха вочы.

Праз акно ў залу запаўзалі першыя вечаровыя цені. Бліснула пад нізкімі промнямі астылага свяціла залатое акаймленне Евангелля на патрыяршым троне – і адлюстравалася ў блакітных зрэнках ігумена.

– Гавары далей, – загадаў-папрасіў патрыярх.

Ігумен уздыхнуў, нярвова скрыгатнуў зубамі – ажно зварушыліся абветраныя жаўлакі – і прадоўжыў:

– Апякунка Нябесная спусцілася ў агонь высокі, у якім гарэлі словы Божыя – кнігі Святога Пісання... «Ідзі і раскажы», – загадала Валадарка Цноты старцу Філафею, і ўбачыў ён у тым сне, як выйшла Бязгрэшная з агня, і паклала на ваду кнігу, і сказала: «Вось цела Сына майго». І разгарнула кнігу, і перст свой да радкоў прыклала, і сказала: «А гэта кроў Ягоная»...

Патрыярх устаў, прайшоў да трона, укленчыў перад Евангеллем:

– Госпадзе, Божа мой! Ты паставіў зямлю на цвёрдых асновах: не пахіснецца яна векавечна! – прашаптаў словы псалма і, не паварочваючыся да ігумена, спытаў:

– І як брат Філафей тлумачыў сваю відзежу?

– Загадаў адпраўляцца да Вашай Усесвяцейшасці і папярэдзіць аб небяспецы. «У Канстанцінопалі захоўваецца найбагацейшы скрыпторый, – мовіў. – Ратуйце і пашырайце слова Хрыстова. Цела Божага ад крыві Ягонай адлучаць нельга»...

– І якім чынам ратавацца Святому гораду? Мне, можа, ігумен, пайсці да імператара і папрасіць яго новую сталіцу заснаваць, калі гэтай вы смерць прарочыце?! – у словы патрыярха ўпляталіся ноткі абурэння: – Канстанцінопаль цяпер як ніколі моцны. Рыхтуецца Фларэнційскі Сабор і падпісанне царкоўнай уніі з Рымам... І туркі цяпер аслабленыя: Цімур-мангол на Анкары надоўга сілу з іх выбіў. Успомні, як восем летаў таму Мурат Другі насмеліўся напасці на Канстанцінопаль – і што з таго сталася?! – патрыярх трывожна памаўчаў, падышоў і зноў прысеў да ігумена: – Ідзі з Богам, браце Ніл. Дзякуй за расповед. Адпачні, колькі трэба, ды вяртайся мацаваць веру Хрыстовую ў душах манашскіх...

Яны расцалаваліся і развіталіся.

...А ноччу ў патрыяршы сон увайшла сумная Нябесная Апякунка. У правай руцэ яна трымала раскрытую вогненную кнігу, а левай гладзіла канстанцінопальскага ўладыку і шаптала: «Вось цела Сына майго». І кнігу бліжэй падносіла... «А гэта кроў Ягоная», – і пераставала гладзіць, і праводзіла пальцам па радках. І адышла ў вогненную сферу, адкуль яшчэ доўга чуліся Ейныя словы: «Рабі, Іосіф, што засведчана... Перад ранкам пакажацца табе трэці знак»...

Яшчэ да ўзыходу сонца патрыярх упаў ніцма перад іконаю Маці Божай і доўга маліўся, а калі ўстаў, святло ўжо разыходзілася па храме. Там яго адшукаў спраўнік – хацеў паведаміць пра нейкі клопат, але ўзрушана застыў, прыкрыўшы рукою рот. Патрыярх неўразумела нахмурыўся, але служка нават не варухнуўся: як прыкіпеў вачыма да іканастасу. Азірнуўся патрыярх – і яго як дзідай працялі: упершыню заміраточыла старадаўняя ікона Божай Маці...

Ён зноў кінуўся перад ёй на калені і ўмольна зашаптаў:

– Апякунка Нябесная! Злітуйся і дапамажы нам, грэшным... Выратуй і зберажы!.. – па яго сухіх шчоках пабеглі слёзы. Затым звярнуўся да спраўніка і папрасіў дрыготкім голасам: – Пакліч сюды афонскага ігумена...

Але той, правёўшы ноч у малітве, як толькі прагучала першая варта – рушыў са сваім келейнікам да карабельнай прыстані. Там яго і адшукаў спалоханы спраўнік. І вось ігумен – зноў у троннай зале.

– Сядай, браце, на маё месца, – паказаў яму патрыярх на свой сталец, – а я, грэшны і сляпы, буду каля ног тваіх літасці прасіць, – і ўкленчыў перад ігуменам. Той усё зразумеў і асунуўся-звяў каля патрыярха.

Яны абняліся і плакалі, не маючы сілаў на словы. І слёзы былі іхнімі словамі.

Так і сядзелі: адзін насупраць другога.

– Што яшчэ распавёў брат Філафей? Што сам аб тым думаеш?

– Думаю, што храм унутры кожнага з нас, і калі ёсць вера – аніводзін вораг яго не разбурыць. А ў кожнай душы павінна быць слова Божае. Думаю, – ігумен натхнёна зірнуў патрыярху ў вочы, – святую Канстанцінопальскую бібліятэку небяспечна захоўваць у адным месцы...

– Прапануеш перавезці скрыпторый?

– Так, часткова. Падзяліць на тры траціны – і ў спакойнае месца, пад апякунства братоў праведных... «Чаму сонца асвятляе ўсю зямлю? – казаў нам брат Філафей. – Бо вандруе па ўсім свеце. Так і святыя кнігі павінны асвятляць усе землі Гасподнія. Асабліва тыя, дзе мала святла»...

Зноў доўга маўчалі.

– І яшчэ... – абудзіўся ігумен. – Варта шырыць Евангелле й словы апосталаў ды святых айцоў Царквы Хрыстовай. Некалі пры патрыярху Фоцію квітнела вялікая школа перапісчыкаў. Дзейнасць яго вучня асветніка Канстанціна-Кірыла ад балгараў да русаў увасобілася ў літарах і словах. І ўжо хутка дзень, калі святую кнігу будзе мець кожная авечка Хрыстовая...

Патрыярх неўразумела апусціў бровы, а ігумен патлумачыў:

– Святло веры Хрыстовай шырыцца па ўсім свеце, і перапісчыкі ўжо не могуць, не паспяваюць задаволіць кнігамі нават святароў новаўзведзеных цэркваў. Не хапае пергамена, не кажу ўжо пра танчэйшы велен... – і Нілавы вочы раптам заззялі: – Мы павінны даць кніжнаму слову новае жыццё!

Бровы патрыярха апусціліся яшчэ ніжэй.

– Так, новае! – ігумен Ніл аглядзеўся наўкол, узняўся (за ім – і патрыярх) ды падышоў да глінянай вазы, асцярожна павярнуў яе, прымружыў вочы: – Так, вось... – ён пастукаў пальцам па ганчарнай метцы-таўру. – Вось знак адціснуты, а не напісаны. Гэта – новае нараджэнне і знака, і слова.

Патрыярх стаяў каля ігумена, слухаў, але – было відаць – мала што разумеў.

– Ці яшчэ... Вашая Свяцейшасць, колькі разоў вы прыкладалі на булы й пасланні сваю патрыяршую пячатку?

– Дык хіба ж тое злічыш?

– Вось! – узрадаваўся ігумен. – А цяпер уявіце, што пячатка мае памер кнігі – гэта ж колькі старонак за адну варту адціснуць можна! Тысяча пісцоў з тым не справіцца!

Патрыярх змуліў вусны, прыгладзіў акуратна падрэзаную бараду, а ігумен працягваў:

– На тое мне нядаўна наш малады манах паказаў, брат Максім. Ён прыйшоў на Афон аднекуль з прыморскай Сербіі і паслушнікам выціскаў алей з маслінаў. Аднойчы падклаў пад вінт аліўні гліняную дошку і стварыў на ёй крыжы Гасподнія. Прынёс да мяне і кажа: «А на іх месцы могуць літары быць. А замест гліны – пергамен ці папера!»...

Пасля службы яшчэ доўгі вечар і бяссонную ноч прагаварылі патрыярх з ігуменам. Вырашана было павялічыць колькасць перапісчыкаў скрыпторыя і падзяліць старадаўнюю бібліятэку на тры часткі. А вось куды выпраўляць? І хто будзе ахоўваць?

– Колькі ў тваім манастыры манахаў? – раптам як пра нешта ўспомніў патрыярх.

– Акром тых, хто ў скітах, трыццаць два...

– З табой, значыць, трыццаць тры?

– Так, – ігумен яшчэ не разумеў прычыны пытанняў.

– Вось, нават і ў гэтым – сімвалічна... – патрыярх устаў і паклаў на плячо ігумена руку. На пярсцёнках завесяліліся адлюстраванні свечак. Ігумен таксама памкнуўся ўстаць, але патрыяршая рука спыніла яго, і позіркі абодвух сустрэліся: – З нябеснай дапамогаю Госпада нашага Ісуса Хрыста, са святою падтрымкаю Маці Ягонай Вечнадзевы Марыі наракаю аб стварэнні патрыяршага манашскага брацтва, клопатам якога навекі стануць зберажэнне і пашырэнне Евангельскага слова і кніг царкоўных. У іх наш пачатак, і канец, і аднаўленне. «На пачатку было слова, – вучыў святы апостал Ян, – і Слова было ў Бога, і Слова было Богам»... – на хвілю запанавала продумнае маўчанне. Патрыярх перахрысціўся і закончыў: – Веру ў промысел Божы, які, брат Ніл, спадобіў цябе. Быць табе магістрам брацтва, і называцца яму адсюль і навекі ў гонар любімага Хрыстовага вучня апостала Яна...

***

*1453 год*

Ганец з Канстанцінопаля дабраўся да афонскага манастыра роснай чэрвеньскай ноччу. Манах-брамнік правёў яго да ігумена, а калі пачуў навіну – выпусціў з рук паходню...

– У мяне пасланне ад патрыярха, – прахрыпеў змучаны ганец. Ягоны твар быў пакрыты брудам ды потам і ў цьмяных усполыхах свечак здаваўся васковым. Доўгія валасы збіліся ў пасмы, сцягнутыя на ілбе вяроўчынай. Вочы пасля доўгай коннай дарогі – марскі шлях быў перакрыты – патухлі. – Горад гарадоў Візанцій памёр... «І зацьміліся сонца і паветра ад дыму... І з дыму выйшла саранча на зямлю, і дадзена ёй была ўлада...»

Ганец не дагаварыў – галава хітнулася, і ён цяжка зваліўся на каменную падлогу. Пакуль паслушнік і манах-брамнік вярталі яго ў прытомнасць, ігумен, мружачы павекі, прачытаў пасланне патрыярха Афанасія, які тры гады таму ўзышоў на святы сталец.

«Брат мой любы ў Хрысце, дабраслаўны Ніле! Хай вечна будзе з табою Божая мілата!.. У гэтыя страшныя дні, калі руйнуюцца святыя сцены Канстанцінопаля, калі іншаверцы захопліваюць нашыя храмы і забіраюць хрысціянскія жываты, пішу табе гэтыя апошнія свае радкі... Будзем маліць Збаўцу ўмацаваць веру нашую... Бо ў Бога не застанецца бяссільным аніякае слова...

Любы браце, рабі тое, на што дабраславіў цябе святой памяці патрыярх Іосіф! Можна знішчыць храм на зямлі, але слова Божае ў целе нашым застанецца! Нагадваю наказ апостала Пётры: «...быццам толькі што народжаныя немаўляты, палюбіце чыстае малако слова, каб ад яго ўзраслі вы дзеля выратавання»... Вераю Хрыстовай выратуемся!

Амаль усю ліберыю вывезлі мы да аблогі горада ды захавалі там, дзе ўмоўліваліся з табой. Візантыйская Сафія рушыцца, але застаюцца яшчэ тры ейныя сястры, узведзеныя ў гонар і ў славу Госпада нашага Ісуса Хрыста ў Кіеве, Полацку і Ноўгарадзе. Хай Нябесная Апякунка дапаможа табе й братам-янітам здзейсніць задуманае і перадаць ім Слова Ягонае...

А я малю Божага заступніцтва на паству нашую ды застаюся з ёй і базілеўсам...».

Агоўтаўся ганец і пачаў прагна есці прынесены хлеб. Запіваў квасам і вінавата хаваў галодныя вочы. А затым загаварыў:

– Туркі абклалі горад напачатку вясны. Войска султана Мехмеда ў сто разоў перавышала імператарскае. Султан запатрабаваў здаць горад – і наўзамен паабяцаў усім жыццё. Імператар адказаў ягоным пасыльным: «Аддаць табе Горад немагчыма ні мне, ні каму іншаму. Духам адзіным усе памром па волі сваёй і не пашкадуем жывата свайго»... Першы наступ мы адбілі, але турэцкі флот увайшоў у Залаты Рог. Быў страшэнны абстрэл з бамбардаў... І другую хвалю вытрымаў Канстанцінопаль, але вораг прабіў сцяну перад брамай Святога Рамана. Ноччу пачалася апошняя атака, бясконцая, у некалькі накатаў. Фанатыкаў ятрылі дэрвішы. Мехмед кінуў у бой янычараў... Яны захапілі Ксілапорту – падземны ход замка. І – як здані Апакаліпсіса – накінуліся на нас ззаду... Калі раніцай у сталіцу ўвайшоў султан і аддаў загад перарабіць Сабор Сафіі ў мячэць, каля ейных сценаў яшчэ дабівалі раненых і палонных...

Ігумен і манахі перахрысціліся.

– Як завуць цябе і хто бацькі твае? – спытаў ігумен.

– Максім. Бацькі з-пад Спарты...

– Што ж, Гасподзь выпрабоўвае веру нашую... – як аб нечым іншым уголас падумаў ігумен і ўздыхнуў: – Ідзі адпачывай з цяжкай дарогі. А мы з братамі памолімся. Ідзі...

Праз паўмесяца да Афона даплыў карабель пад сцягам двухгаловага арла Палеалогаў. Некалькі вояў-генуэзцаў, абаронцаў Канстанцінопаля, дабраліся на лодцы да берага і распавялі манахам пра апошнія хвіліны імператара, які сустрэў сваю смерць з мячом на гарадской сцяне. Каля сотні хрысціянаў з рэштай імператарскай сям'і – дзесяцігадовая пляменніца Зоя з цёткамі – змаглі прабіцца да прыстані і выйсці ў мора.

Генуэзцы перадалі ігумену Нілу апошнія словы патрыярха: ідзіце ў народы візантыйскай веры. Папрасілі харчоў ды вады і вярнуліся на карабель. Іх чакала дарога ў Фракію...

Восенню трыццаць манахаў афонскага брацтва янітаў пасля трохдзённай малітвы выправіліся пад ачолам айца-магістра Ніла ў свой першы місіянскі паход. Іх ахоўвалі генуэзцы, якія на тым жа адбітым у янычараў караблі паспелі вярнуцца да Святой гары. Пераадолеўшы марскія хвалі і пакручастыя балканскія дарогі, яны аб'ядналіся са сваімі братамі-янітамі ў гарыстым балгарскім манастыры Белы, дзе месціўся святы схрон – Канстанцінопальскі скрыпторый-кніжніца – і паплылі да Крыму. Перазімавалі ў Судацкай крэпасці і, калі з рэкаў сышоў лёд, з дапамогай тамтэйшага дзясятніка-павадыра падаліся па Дняпры да кіеўскай Сафіі. Адтуль, пакінуўшы частку святых кніг і некалькі перапісчыкаў, да наступнай зімы дабраліся да Полацка, дзе і закончыліся зямныя дні сямідзесяцісямігадовага айца-магістра Ніла. Перад паходам, які ён назваў *кніжным шляхам з грэкаў у варагі*, Ніл склаў з сябе ігуменскія абавязкі, але манахі адмовіліся абіраць на яго месца іншага – і малітоўна запрасілі стаць манастырскай апякункай Божую Маці.

Ніл развітаўся з братамі-янітамі на высокім беразе Дзвіны, наклаў на кожнага крыж Хрыстоў, узняў у неба свае блакітныя вочы і прашаптаў:

– Мацуйце і пашырайце нашую справу, Богам дадзеную.

А затым нізка пакланіўся.

– Чую званы Божыя... – былі яго апошнія словы.

Па хартыі янітаў кожны павінен быў пасвяціць у брацтва трох наступнікаў. Ніл прывёў у яго трох Максімаў: Максіма Серба (які падаўся з місіяй на радзіму ў землі Зеты[1]), Максіма Спартанца (ён, колішні патрыяршы ганец з Канстанцінопаля, прыняў на Афоне манашскі пострыг) і перапісчыка-тлумача Максіма Грэка.

Апошні застаўся ў Кіеве...

## 1

*1963, 1969 гады*

*Мікалай Заяц бачыў такі твар ужо другі раз у жыцці: нібыта яго пакруцілі ў пральнай машыне, а затым, перасушаны, папрасавалі. Ніводнага мімічнага руху! Нават вочы – як пацягнутыя пакостам, як масліны ў воцатным расоле...*

І размова пачыналася аднымі й тымі ж словамі. Напачатку гэта было ў загадчыка кафедры, праз некалькі дзён пасля абароны кандыдацкай.

– Даручэнне, Мікалай Сымонавіч, маецца... па тэме Вашай навуковай працы. – І зрэнкі-масліны ўздрыгануліся. – Лекцыйную нагрузку перакінем на зіму, а тут трэба пастарацца, бо – самі разумееце – запыт зверху. Інструкцыі – на месцы...

І вось ён – упершыню «за сцяной», у самым што ні ёсць «сэрцы Радзімы». Паўз Палац з'ездаў уся іх група – сем чалавек – пад пажаўцелымі прысадамі цопае моўчкі і неяк насцярожана. Праваруч – Успенскі сабор, усыпальня мітрапалітаў і патрыярхаў, злева – званніца Івана Вялікага з дзвюмя зіхоткімі цыбулінамі-купаламі. Самая высокая пабудова Крамля. Кажуць, там звон – у шэсцьдзясят пяць тон...

[1] Даўняя назва Чарнагорыі.

Нарэшце і іхняя мэта: Архангельскі сабор. Сустракае сваёй некалі белай сіметрыяй – як разгорнутая напалам кніга. А паветра саленавата-церпкае... Можа, ад недалёкай рэчкі за сцяной? І ў галаве – усё, што можна было нашкрэбці ў гістарычных крыніцах...

Яшчэ пры браце Аляксандра Неўскага Міхаіле Яраслававічы тут збудавалі драўляную царкву ў гонар архангела Міхаіла. Пры Іване Каліце вырас каменны храм, як сведчаць летапісы – у знак удзячнасці за ратаванне Масковіі ад голаду. Каліту першым і пахавалі пад зводамі яшчэ незавершанай святыні, якая стала ўсыпальняй маскоўскіх князёў. А ў пачатку XVI стагоддзя храм зноў перабудавалі. Пачаліся рэстаўрацыі, апошняя з якіх планавалася на іхніх вачах...

Будаўнічыя рыштаванні абхоплівалі сабор, і калі ён нагадаў Зайцу разгорнутую кнігу, дык усё разам цяпер выглядала як закратаваны манускрыпт. І расчытаць яго – няпростая работа, даручаная міністэрствамі культуры і адукацыі іхняму «зводнаму археалагічнаму калектыву» пад кіраўніцтвам прафесара Фёдарава.

...Вузкія шчыліны вокнаў, цяжкі, выцягнуты з усходу на захад прастакутнік сценаў... Нейкі незвычайны ўрачыста-жалобны настрой (лічылася, што апякун сабора архангел Міхаіл быў правадніком душаў у царства вечнасці). Ну а храм, падумалася Зайцу, – «кантрольна-прапускны пункт» на той свет, праз што і даставалася яго сценам за ўсю гісторыю. Як адзначана ў летапісах, у 1450 годзе падчас навальніцы ў храм патрапіла маланка, а роўна праз чвэрць стагоддзя «внутри града» адбыўся пажар. У 1505-м князь Іван Васільевіч загадаў наогул разабраць старую царкву і закласці новую. Ды памёр. І сцены сабора, якія дастаялі да гэтых дзён, узводзілі ўжо пры ягоным сыне Васіліі Трэцім. «Курыраваў» будоўлю міланскі архітэктар Алевіз Фразін, які сачыў за ўзвядзеннем усяго каменнага Крамля. У вайну з Напалеонам французы выкарыстоўвалі храм як кухню ды казарму. Пакралі залатыя аклады, а з іканастасаў рабілі лаўкі ды лыжкі... Таму зноў даводзілася аднаўляць унутранае ўбранства. У 1917-м сабор пашкодзілі пры абстрэле Крамля і праз год зачынілі. Цяпер жа, пасля адкрыцця тут музея, распачалася чарговая рэстаўрацыя – ужо знешняга выгляду помніка. Іхнім жа «надзелам» быў ніжні ярус з пахавальнымі крыптамі...

З кожнай хвіляй незвычайны трунак узнёсласці й жалобы запаўняў Зайцава цела, трунак, які апошні раз даводзілася піць ці не ў дзяцінстве, калі ў цэркаўку яго вадзіла бабця... Як усё даўно – і адносна блізка... Толькі змрочна, пуста ды хрыплае рэха пад нагамі і за парэпанымі калонамі... Толькі аніводнага ўсполыха васковай свечкі і пахне застарэлай цвіллю, як у закінутым склепе... І вось ён, ужо кандыдат гістарычных навук Заяц, зноў адрываўся ад рэальнасці і пераставаў бачыць сваіх калегаў...

Галоўная святыня сабора – ікона Міхаіла Архангела. Злева ад Царскіх Варотаў – ікона Божай Маці «Дабрадатнае неба», ва ўвесь рост у яркіх вогненных промнях, як ілюстрацыя да Янавага Адкрыцця: «И явилось на небе великое знамение: жена, облеченная в солнце; под ногами Её луна... И родила она младенца мужеского пола, которому надлежит пасти все народы жезлом железным...».

Жэзлам жалезным – паўтарылася ў ім, калі цугам – адзін за адным – дайшлі да ранніх фрэсак з сюжэтамі прыпавесці пра багатага і Лазара на сценах у дзяканніку ніжняга яруса, яруса, дзе ўладкаваная ўсыпаль-

ня Івана IV Васільевіча, празванага Грозным[1]... Усыпальня першага маскоўскага цара, які пашырыў дзяржаўную тэрыторыю. Яго пахавалі тут, пад сцёртымі плітамі падлогі, і парэшткі яго – сярод сарака шасці белакаменных плітаў у бронзавых футаралах з раслінным арнаментам і надпісамі вяззю.

Эксгумацыя труны Івана Жахлівага – і ёсць мэта іх незвычайнай «экспедыцыі».

– Значыць так. Паўтараю яшчэ раз: асаблівая ўвага – на дадатковыя прадметы. Адзначаем усё, што падобнае на кнігу ці не з'яўляецца часткамі трупа... – нагадвае «навуковец у штацкім», намеснік начальніка N-га ўпраўлення КДБ...

Бронзавае наверша ўскрылі лёгка, а вось пліта паддавацца не хацела. Зламаўся адзін з дамкратаў, і на падлогу пачала выцякаць жаўтавата-іржавая жыжка. Давялося падымаць пачаргова з бакоў – і падстаўляць драўляныя кліны. Большыя, яшчэ большыя...

Шэрхлы скрып, нібыта хтось ідзе па падсохлым імху ці пяску. Адчуванне не з лепшых у гэтай напампаванай электрычным святлом мёртва-каменнай прасторы. Як чыесьці крокі... Распавядалі, што да крыпты Івана Жахлівага прыходзіў Сталін: пастаіць з незапаленай люлькай, моўчкі паківае галавой – і марудна назад. Адна рука за спіной, другая, з люлькай, спераду...

Нарэшце і сама труна – як царкоўная рáка, пакрытая срэбнымі пласцінамі.

– Асцярожна. Не выпусціце джына... – жартоўна шэпча «навуковец у штацкім», калі спрактыкаваныя археолагі мякка ўздымаюць вечка.

Шаравата-шэрхлыя косці аддзеленыя ад хрыбта... Узнімаюцца-мацуюцца толькі шэсць верхніх рабрын, якія амаль пяць стагоддзяў таму прыкрывалі ўладарныя грудзі... Правая рука, правільней, тое, што ад яе засталося, нібыта надломленая і падсунутая пад «спіну». На ёй, а таксама па вертыкалі шкілета – фрагменты пашарэлай тканіны. Косткі ступняў павернутыя ў адзін бок і ўпіраюцца ў сценку труны.

Прафесар Фёдараў манатонна дыктуе пратакол-стэнаграму эксгумацыйнага агляду. На акулярах мітусяцца электрычныя ўсполахі.

«Навуковец у штацкім» далікатна пастуквае пазногцем па чэрапе (асістэнт-археолаг тупа глядзіць на свой пэндзаль) і рэзюмуе:

– А яшчэ моцны...

Затым яго лоб моршчыцца:

– Што гэта?! – паказвае пальцам на іржавы ланцуг з вялікім крыжам.

– Перад смерцю ў сакавіку 1584 года цар Іван Жахлівы прыняў схіманашскі пострыг з імем Іона... – нібы чытаючы, выгаварыў на запытанне Заяц і нечакана адчуў, як ногі пачалі мякчэць. Спіне стала холадна, па ёй прабег вогкі сівер... Закрыў вочы – а перад ім зноў лямпачкі. Адна, дзве, тры... – налічыў пятнаццаць. Праз хвілю яны памутнелі і перасталі рэзаць зрэнкі. Пад тонкім шклом колбаў – чамусьці не спіральткі, а... косткі. Столь захісталася, і лямпачкі пачалі падаць-біцца. Толькі чамусьці не ў шкляныя аскепкі, а ў белы пыл... Як мука. Мука ад змолатых костак...

– Ясна! – выводзіць яго з памараку «навуковец у штацкім». – Акрамя

[1] Івана IV празвалі насамрэч не Грозным, а Жахлівым. Англамоўныя летапісы малююць яго пад мянушкай Terrible: Жахлівы, па-расійску – Ужасный. У Грознага ж Івана IV «перахрысцілі» ў часы імперскага станаўлення Расіі – каб змякчыць вобраз «собирателя земель русских».

ланцуга, іншых прадметаў у труне няма. Працуйце далей! – і ўпэўнена падаўся да выхаду.

Падчас тых раскопак у Архангельскім саборы пад салеяй і заходняй часткай былі выяўленыя фрагменты муроўкі яшчэ XIII стагоддзя. Новыя ж сцены храма ўзводзіліся з белакаменных блокаў, падлога высцілалася з цэглы і керамічных плітаў з жоўтай і зялёнай палівай.

У эксгумаваных царскіх касцях хімічным аналізам было выяўлена анамальнае перавышэнне іртуці – у 24 разы.

– У тыя часы яна была лекамі. Іртуццю ад сіфіліса лячыліся... – пагаварылі ў лабараторыі і зрабілі адпаведнае заключэнне, якое, як і ўсе матэрыялы працы эксгумацыйнай камісіі, засталося засакрэчаным...

Тое было ў 1963-м. І вось праз шэсць гадоў перад ім, ужо доктарам навук, зноў той жа выраз твара: як перакручаны ў пральнай машыне, перасушаны і папрасаваны. Без аніводнага мімічнага руху... Толькі твар ужо не загадчыка кафедры, а прарэктара па навуцы. І зрэнкі-масліны ўжо як выцвілі...

– Маем, Мікалай Сымонавіч, запрашэнне на міжнародную навуковую канферэнцыю. Тэма – блізкая Вашым штудыям. Вырашылі вось камандзіраваць за мяжу. Толькі ёсць адна акалічнасць... – прарэктар павярнуў галаву да мужчыны, які дагэтуль моўчкі сядзеў скрай стала і якога напачатку Заяц нават не заўважыў. – Пазнаёмцеся. Субачаў Віктар Аляксандравіч. Зрэшты, Вы з ім ужо знаёмыя... Ён дапаможа з некаторымі ўстаноўкамі. Ну а я, прабачце, мушу ісці. Залікі... прымаю. Жадаю поспехаў.

У тую ж хвілю Заяц пазнаў чалавека за сталом – «навукоўца ў штацкім»...

– Мікалай Сымонавіч, Вы даўно былі на моры? – інтрыгуюча пачаў Субачаў.

– Даўно. Яшчэ студэнтам у будатрадзе. На Чорным...

– А вось цяпер Адрыятыку пабачыце! – абрадавана працягнуў нечаканы суразмоўца. Паляціце ў Сацыялістычную Федэратыўную Рэспубліку Югаславія. У горад Падгорыца. Ёсць такі ў Чарнагорыі... – Субачаў паклаў рукі на стол і агледзеў пальцы. – Акрамя даклада і знаёмства з сусветнай гуманітарнай навукай просім Вас... Як бы гэта прасцей сказаць? – ён адхіліўся да спінкі крэсла і ўважліва паглядзеў на Зайца. – Словам, справа такая. Па інфармацыі нашых архівістаў, некалі ў Маскву з Канстанцінопаля ад візантыйскага імператара была прывезена і падорана частка старадаўняй бібліятэкі. Сярод іншага – інкунабула... рукапісная кніга Евангелля ад Яна. Унікальная гістарычная каштоўнасць. Маю на ўвазе не духоўная там... царкоўная... Сімвалічная каштоўнасць. Казалі, яна нейкую цудадзейную сілу мела... Дайшла інфармацыя, што яе Івану Жахліваму ў труну паклалі. Аднак – самі бачылі... Аказваецца, тую кнігу яшчэ пры жывым цары выкралі і хацелі пераправіць з Масквы на востраў Патмас, дзе нібыта апостал Ян і пісаў тое евангелле. Але не давезлі. Караван захапілі туркі, а кніга... – Субачаў мякка пастукаў пазногцямі па лакіраванай сталешніцы. – Кнігу тую выратавалі манахі і схавалі ў адным з чарнагорскіх манастыроў. Адшукаць яе след – Вашая асноўная задача.

Мабыць, у гэты час твар Зайца выявіў найрэдкае і неапісальнае здзіўленне, бо высокапастаўлены прадстаўнік КДБ ніякавата крактануў і ўсміхнуўся:

– Разумею, што нечакана... Але прычына ўсяго нашага мерапрыемства на паверхні: Візантыя канула ў Лету, а Масква стала другім Канстанцінопалем. – У ягоным голасе пачалі з'яўляцца металёвыя ноткі: – Гэта на іншым узроўні высвечвае нашую місію ў справе яднання некалі хрысціянскіх народаў. Дае, так сказаць, паўнамоцтвы на першынства ў славянскім свеце. Ідэалагічны, так сказаць, імператыў. А старадаўняя кніга, калі хочаце – своеасаблівая грамата на тое.

У кабінеце пафасна забомкаў гадзіннік. Субачаў наструніўся і падагульніў:

– Вось, у асноўным, і ўсё. – Падняў з падлогі на стол чамаданікдыпламат, з узнятым настроем шчоўкнуў замочкамі і выклаў тонкую каленкоравую папку. – Тут тое-сёе з сабранай інфармацыі. Аднак, – ён далікатна ўсміхнуўся, – перакананы, што Вы і так аб многім ведаеце. Як аб тым схіманашскім пострыгу Жахлівага... – і пасля невялікай паўзы закончыў ужо наспех і казённа: – Праявіце, калі ласка, усю адказнасць. Пра тое, што аб гэтым аніводная іншая душа не павінна ведаць, нагадваць, думаю, не варта. І яшчэ... Калі спатрэбяцца нейкія кансультацыі з боку багаслоўскага, тэалагічнага – вось тэлефон памочніка патрыярха. Дапамогуць у любы час...

...Тэатральныя рухі сцюардэсы... З тыгрыным рыкам турбіны пажыраюць «газу». Нярвовыя стыкі пліт на бетоннай «узлётцы». Зацяжны надрыўны разбег. Добра, што не пашкадаваў у аэрапорце каньяка...

Незразумелая далёкая сіла адрывае ад зямлі – як некалі зробленыя дзедам арэлі, і ўсе роздумныя трывогі: што там? як там? – застаюцца ззаду, не паспяваюць за самалётам. І вось – традыцыйная смактулька «Узлётная», нечаканая марознасць у салоне, узбітыя плантацыі бавоўны ў ілюмінатары... І непланаваны сон. Ажно да самай пасадкі, калі пад табой – мутная аправа іржава-бірузовых гор, як праз малы акуляр бінокля ўбачаныя змейка-дарога, чырвонагаловікі дамкоў, рознакаляровыя ла́ткі палеткаў, укроп дрэў... Усё раптам мітуслівa пачало большаць, разбягацца і ўцякаць... Надзьмутая гума гохкае на разагрэты бетон – і можна адшчоўкнуць папружку...

Аэрапорт «Београд». Пашпартны кантроль, дарога да чыгуначнага вакзала... Усё ж добра, што ў Маскве яго ўладкавалі на самалёт, а не кінулі прарываць дзяржаўныя межы ў вагон цягніка – з перасадкай у Празе.

Аднак на вузкім пероніку ў Падгорыцы яго ніхто не сустракаў. Хоць і было дамоўлена... Сноўдаюць людзі – хто з валізамі, хто з кветкамі... Вярнуўся назад да вагона, перашкаджаючы дабірацца да выхаду іншым пасажырам, трывожна стаў збоку і зноў пачаў разглядваць мінакоў. «Господар Зец – СССР», – прачытаў на белым аркушы... Стоп, Зец... Па-сербску «Заяц»...

– Добар дан! Канферэнцыя ў Падгорыцы?

– Так, добро дошлі! Прафесар Богдан Янкавіч, – знаёміцца даўжэзны маладзён у джынсавых шортах ды памаранчавай майцы і пераходзіць на расійскую, зрэдку блытаючы націскі. – Рады вас бачыць. Калі ласка, пойдзем да машыны...

Белая айчынная «Застава», у багажнік якой ледзь змясцілася сумка, ганарліва фыркае сінім воблакам, але бяжыць бадзёра. Праз апушчаныя вокны ўрываецца салёна-падсушаны вецер і мякка гладзіць твар.

– А я ўжо думаў сам дабірацца, бо не адразу даўмеўся, што Зец – гэта я, Заяц...

– Ох... – ледзь не прытармазіў чарнявы даўгун Янкавіч, рукам якога і нагам яўна не зашкодзілі б лішнія дэцыметры салона. – Прашу прабачыць... Так, прозвішчы не перакладаюцца! Гэтую паперку мне далі ў сакратарыяце дэканата. Не крыўдуйце...

– Ну што вы?! Наадварот – пачуваюся сваім!.. – Заяц усміхнуўся і раптам загледзеўся на казачны краявід справа: гара (ці скала?), прывязаная-прыфастрыгаваная да зямлі (ці да неба?) дрэвамі, зрывалася да фіялетава-бірузовага возера, гарэзна кружляла разам з дарогай... А ў вадзе юрліва купалася сонца (ці вада – у сонцы?)...

– Прыгожа... – прашаптаў госць, на што шафёр радасна хітнуў маладжавай галавой (на выгляд яму каля сарака) – і паддаў «газу»...

Ягоны даклад быў на пленарным пасяджэнні. Заяц і падрыхтаваўся, і стараўся – як ніколі: і нечаканка ў звароце, каб захапіць увагу залы, «антытэза – тэза» і гэтак далей. Ён гаварыў пра ролю кнігі ў развіцці чалавецтва, пра славянскіх друкароў Скарыну і Фёдарава.

– Вось першыя асноўныя цуды свету... – Заяц упэўнена падняў да аўдыторыі далонь і пачаў загінаць пальцы, – манатэізм, кола, палёт чалавека ў космас і... кніга! – Калі ён задумваўся, на адкрытым ілбе з раннімі залысінамі выяўлялася глыбокая вертыкальная баразна-маршчына, а доўгія бровы ўзнімаліся рымскай пяцёркай – як у савы. Заяц усклаў рукі на канты трыбуны і пасля невялікай паўзы закончыў: – А кніга можа стаць і міжнародным сімвалам. Сімвалам яднання, братэрства, грамадскай візітоўкай. Такой, як скіпетр, сцяг... Вось, напрыклад, інкунабулы Візантыйскай бібліятэкі. Некаторыя з іх пасля падзення Канстанцінопаля былі перададзеныя Палеалогамі ў Маскву. Прыкладам – Евангелле ад Яна. Як сведчылі прадстаўнікі княжскай дынастыі Негашаў, яна затым перахоўвалася ў чарнагорскіх манастырах. Дык вось уявіце сабе... – Заяц адышоў ад трыбуны і наблізіўся да першых шэрагаў залы. – Калі б гісторыкі, архівісты адшукалі яе – яна б стала сімвалам-сцягам усяго славянства ад гэтых югаслаўскіх гор да гор Урала!..

Пытанне яму было зададзена толькі адно: «Чаму сярод цудаў духоўна-інтэлектуальнага развіцця чалавецтва Вы не назвалі адкрыццё сонечнай сістэмы?».

– Гелеацэнтрызм, на маю думку, не зрабіў каардынальнага ўплыву на культуру. Ну круціцца зямля вакол сонца ці не... Чалавек бачыў, як штовечар яно, сонца, хаваецца-«памірае», а пасля начы зноў нараджаецца. Гэта і адкладвала ў ягонай псіхалогіі адбітак... Адлюстравалася ў міфалогіі і фальклоры...

У перапынку многія падыходзілі да яго, хвалілі за даклад, але – аніводнага, нават ускоснага намёку пра кнігу Евангелля! Ну хай там замежнікі, немцы ці французы, якія й чуць аб ёй не чулі... Але ж тутэйшыя, сербы, чарнагорцы?..

Вечарам было застолле. Мора традыцыйнай ракіі, каньяка, лікёра «Горкі ліст»... Любіў Заяц гэтую справу, але стрымліваўся: хто яго ведае, як там абернецца? Усё ж – замежжа...

Назаўтра працавалі асобныя секцыі, і ён пайшоў на «Культуру і гісторыю Балканаў». Паслухаў даклад прафесара Янкавіча аб ролі на-

цыянальнай паэзіі ў станаўленні сербскай дзяржаўнасці, яшчэ з дзясятак карацейшых выступаў – і пасля кава-паўзы пайшоў у гатэль адпачыць. Зранку былі запланаваныя экскурсіі: цеплаходам у Бока-Каторскі заліў, на Скадарскае возера і ў Цэціньскі манастыр. На выбар. Зразумела, ён выбраў апошняе: там захоўвалася старадаўняя бібліятэка.

І вось – напаўпусты (большасць удзельнікаў канферэнцыі падалася да мора) «Ікарус» хутка адлічыў паўсотню кіламетраў ад Падгорыцы і завіляў па вузкіх вуліцах Цэціні.

Гарадок быў заліты сонцам і пахам пераспелай смоквы. Старанна злепленыя з камянёў дрымотныя сцены манастыра. Да глянцу нацёртыя падэшвамі прыступкі. Прахалода і мядовы бляск абразовых акладаў дзеючай царквы...

– Не хочаце, гаспадар прафесар, пабыць каля машчэй святога Пятра? – вывеў з задуменнасці ціхі голас Янкавіча.

– Так, дзякуй.

У невялікім пакоі пад белымі зводамі сценаў перад авальным акном стаяла ра́ка. Над ёй – тры сціплыя абразы. Манах у чорнай рызе і дзве бабулькі ў чорных хустах укленчылі перад мармуровым узвышэннем. Янкавіч перахрысціўся, за ім аўтаматычна і Заяц.

«Ну вось, – падумаў, – савецкі навуковец, камуніст... Бачыў бы хто з нашых...»

Затым яны сядзелі на каменнай лаве пад ценем невядомага дрэва з тоўстымі і прадаўгаватымі – як рыбы – лістамі і чакалі астатніх.

– А багатая бібліятэка ў манастыры? – як скрозь дрымоту спытаў Заяц.

– Так. – Калега загадкава апёк яго зіхоткімі зрэнкамі. – Але візантыйскага Евангелля ад Яна там няма...

У апошні дзень канферэнцыі Янкавіч запрасіў Зайца да сябе на вячэру – у прыгожы белы дом пад чырвона-рудаватым дахам. Разам з ім тут жыў і стары бацька – прафесар гісторыі. Невялікага росту, сухі, сівыя бровы і вейкі, але пад імі – жвавыя каштанавыя вочы. Абрадаваўся госцю, пахваліў, што пакланіліся Пятру Цэціньскаму. Гаварыў па-расійску амаль без акцэнта, толькі зрэдку ўстаўляючы сербскія словы:

– З ім, святым Пятром, і вашай краінай – цэлая гісторыя. Калі падмацуецеся і захочаце паслухаць старога, магу распавесці... – і з чвэрць гадзіны ў ціністай прахалодзе гучаў ягоны лаўровы голас: – Святы Пётар Цэціньскі, наш цудатворац і дзяржаватворац, вучыўся ў Пецербурзе, а потым ужо як архімандрыд адправіўся быў да царыцы Екацярыны прасіць дапамогі свайму праваслаўнаму народу. А царыца яго не прыняла... Затым яго рукапалажылі ў Карлаўцах у сан архіярэя Чарнагорскага, на што быў атрыманы дазвол аўстрыйскага імператара. І зноў падаўся Пётар да сваіх мацнейшых братоў, братоў па духу і веры – з просьбай аб падтрымцы, але князь Пацёмкін загадаў яго выгнаць з Пецербурга. Гарэтніка ўкінулі ў паліцэйскую павозку і гналі дзень і ноч без спачынку да самай мяжы – як ліхвяра, а не архіярэя. Маўляў, які архіярэй без дазволу русійскага Сінода? Вось як! Нібыта не ўсё агульнае пад Божым небам і не аднолькавую сілу мае... – стары зморшчыў лоб і часта зазміргаў вачыма, кашлянуў, глынуў астылай гарбаты і працягнуў: – А калі вяртаўся Пётар, на Чарнагору напалі

туркі, скадарскі візір Махмут-паша Буш[1]. Шмат людзей панішчылі. Разрабавалі Цэціньскі манастыр. І былі голад і холад, і елі кару дрэў ды малолі на муку карэнне і траву жучэніцу... І не было падтрымкі ад русійскага праваслаўнага брата.

– Прабачце, а ў якім гэта было годзе? – перапыніў Заяц.

– У 1785-м. Напрыканцы, словам, XVIII стагоддзя. – Стары зірнуў на наструненага сына і памякчыў свой тон: – Ну Вы ж, я думаю, не будзеце крыўдаваць на маю крытыку палітыкі русійскага царызму? Яна ж цяпер ва ўсёй савецкай гісторыі выкрываецца... – зірнуў уважліва, хоць і далікатна, зноў глынуў гарбаты. – Дык вось, туркі яшчэ двойчы напрацягу некалькіх гадоў нападалі. І абраны мітрапалітам святы Пётар у Бога заступніцтва прасіў. І перамаглі Буша і ягонае войска. – Старэйшы Янкавіч памаўчаў і дадаў як штосьць выбаленае: – Не разумею я і еўрапейскую, і русійскую палітыку... Што ёсць нашыя Балканы? Гэта апошні рубеж-бастыён праваслаўя, славянства, калі заўгодна. Зямля, прыціснутая з поўдня нястомным ісламам, а з поўначы – зморaным каталіцызмам. Аслабеем мы – заўтра ваяўнічы іслам увойдзе ў надувену... пыхлівую Еўропу! Скорымся мы – і хто са славянскіх народаў падзякуе і паверыць багатай і моцнай Русіі?

– Прабачце, наколькі ведаю, Расія і раней не забывала пра югаслаўскія народы... Цар Павел Першы падараваў згаданаму мітрапаліту Пятру ордэн Святога Аляксандра Неўскага, і ў часы вайны з французамі дапамога была... – нібыта апраўдваючыся, згадаў Заяц.

– Так, хто ж аспрэчвае. «І раней не забывала...». Не буду пра недалёкае – пра спрэчкі Сталіна і Ціта. А тады, пры святым Пятры, русійскую імперыю напалеонаўскі петао... певень дзюбнуў! Вось і закруціліся. А ў той час святы Сінод Русійскай царквы прызнаў мітрапаліта Пятра гультаём, які ўчыніў «цяжкія грахі»: пры ім, маўляў, манастыры апусцелі і паства паменела. Нібыта не вайна тое зрабіла... А яшчэ – прысланыя з Русіі кнігі ён, маўляў, не чытаў і, ратуючы свой народ ад голаду, заклаў нейкія манастырскія багацці купцу з Бокі...

– Добар дан! Я бачу – у нас госці? – перад сталом з’явілася – прыйшла з працы – стройная загарэлая маладзіца. – Богдан! Тата!.. Ну што гэта за пачастунак? Пачакайце, я зараз прыгатую...

Пакуль штосьць апетытна смажылася і сквірчэла, малодшы гаспадар змяніў тэму гаворкі:

– Прафесар Заяц цікавіцца штампаваннем кніг... то бок друкам. Наогул, гісторыяй інкунабул. У прыватнасці, візантыйскім Евангеллем ад Яна.

– А, Еван’елле по Йовану?! – абудзіўся стары Янкавіч і, звёўшы выцвілыя бровы, спытаў: – А вы штосьць чулі пра брацтва янітаў?

– Не давялося...

– Яго стварылі пад патранажам візантыйскага патрыярха афонскія манахі. Іх мэтай было захаванне і распаўсюд Божага кніжнага слова. У наш час падобную місію выконваюць Гедэонавыя браты. Якраз яніты доўгі час і перахоўвалі згаданае Евангелле...

– А потым з пляменніцай Палеалога прывезлі ў Маскву, адкуль яно патрапіла на тэрыторыю Югаславіі? – не стрымаўся Заяц.

[1] Гэтае, як і большасць прыведзеных у тэксце прозвішчаў мінулых часоў, рэальнае і засведчанае архіўнымі матэрыяламі. Супадзенні іх з прозвішчамі персанажаў сучаснага перыяду – на сумленні самой гісторыі.

Вочы старэйшага Янкавіча звузіліся. Ён задуменна змуліў, нават прыкусіў тонкія вусны:

– Так, калі быць больш дакладным – сюды, у Чарнагору. – І стары, нібыта штось успомніўшы, перакінуўся на іншае: – Дык вось, архіярэі расійскага Сінода і абвінавачвалі мітрапаліта Пятра, што ён тое цудадзейнае Евангелле прадаў купцу з Бокі Каторскай. А калі атрыманыя сродкі пайшлі на ежу галодным дзецям?! Што можа быць важней здароўя душы хрысціянскай? Урэшце, мітрапаліт жа не прадаў сваю веру ці слова Божае...

– Ну так... – падтрымаў яго Заяц і нечакана перапытаў: – Дык усё ж ён прадаў тое Евангелле?

– Ды хто ж яго цяпер ведае? – праз насцярожную паўзу паціснуў плячыма старэйшы Янкавіч і працягнуў: – Не разумею я мітусні вакол той кнігі. Евангелле і Евангелле. Вунь іх цяпер колькі сучасным друкам размножана! І ўсе яны аднолькавую сілу маюць, бо праз аднаго Хрыста дадзеныя.

– Так, – зноў пагадзіўся Заяц і, узрушана варухнуўшы галавой, спытаў: – А чаму менавіта евангеліста Яна абралі сваім патронам афонскія кніжнікі?

– Бо якраз ён, – старэйшы Янкавіч нібыта чакаў гэтага пытання, і твар яго радасна змяніўся, – якраз ён, хоць і быў непісьменным, першым атрымаў дар духа Святога: абвясціў тое, чаму іншыя тры евангелісты спачатку не навучылі. Ён гаварыў пра ўцялесненне Слова: «І Слова стала плоцццю».

– А чаму Яна называюць любімым вучнем Ісуса? – распытваў далей Заяц.

Старэйшы Янкавіч усміхнуўся:

– Цудныя дзеі твае, Госпадзе... Толькі не крыўдуйце, калі ласка... Я і прысніць не мог, што савецкі прафесар, хутчэй за ўсё камуніст, выявіць такую глыбокую цікавасць «опіумам народа», як называў рэлігію Маркс... У Госпада, дарагі дружа, усе дзеці з паствы ягонай любімыя. Сярод іх – і святы евангеліст Ян. Ён, калі хочаце ведаць, родзіч Хрысту... Яго пляменнік. Так! Іосіф меў ад першай жонкі сямёра дзяцей: чатырох хлопчыкаў і трох дзяўчынак: Марфу, Эсфір і Саламію. Саламія нарадзіла Яна. А затым Іосіф заручыўся з Марыяй, ад якой з Божай таямніцай і нарадзіўся Хрыстос. Да ўсяго, святы Ян, пра якога Вы спыталі, згадваецца ва ўсіх Евангеллях як адзін з самых набліжаных да Госпада апосталаў. На тайнай вячэры ён першы, прыхінуўшыся да грудзей Хрыста, спытаў: «Госпадзі, хто выдасць цябе?». А затым, пасля ўкрыжавання Ісуса, ён быў высланы царом Траянам за абвяшчэнне слова Гасподняга на выспу Патмас, дзе і прадыктаваў святое Дабравесце-Евангелле...

– Ну вось... – перад імі з'явілася чарнявая гаспадыня, а з ёй – пахкая цім'янам, лаўрам, біберам і ўсемагчымымі ўсходнімі зачынамі смажаніна. – Ой, забыла... – Прыгажуня мітнулася і выставіла на стол літровую бутлю каньяка мясцовай маркі «Рубін» – з выявай на ружова-фіялетавай этыкетцы ледзь не старадаўняй «Пагоні» – вершніка-віцязя на кані перад развалінамі ну рыхтык Наваградскага замка, толькі ў руцэ вершніка замест мяча – напоўнены кубак, ці чаша па-сербску...

– Прашу ў гонар нашага госця іспіты здравіцу! – закахана ўсміхнуўшыся жонцы, прапанаваў малодшы Янкавіч.

– Прабачце, гэта замнога... – паспрабаваў аднеквацца Заяц і адставіць напоўнены келіх, на што пачуў ад гаспадыні шчыра-гарэзнае:

– Ды што Вы, пасля гэтага нават за руль садзіцца можна!..

– Так-так! – далучыўся і старэйшы Янкавіч. – Садзіцца можна, толькі...

не ехаць. Гэта я як кіроўца з вялікім стажам – і дарожным, і каньячным – сведчу.

Выпілі, смачна закусілі.

– Так-так... – старэйшы гаспадар зноў пасур'ёзнеў. – Вы не крыўдуйце, прафесар, калі што-кольвек з маіх расповедаў не да душы прыйшлося...

– Ды не... Чаго ж?

– Рознае, самі знаеце, і цяпер, і раней рабілася... – і праз напружаную паўзу: – Я Вам на развітанне адну прытчу-прыпавесць хачу нагадаць – пра вялікі стол, састаўлены з меншых. Удзельнікі застолля праз некалькі чарак перасталі чуць, а потым – і слухаць адзінага зазывалу. Дык вось: у кожнага стала павінен быць свой тамада. Чаго, відаць, урэшце прычакаюць і наша, і ваша дзяржавы... – Янкавіч колка-ўважліва зірнуў на госця – і зноў узняў келіх: – За тое і прапаную тост-здравіцу!..

## II

*1493 – 1547 гады*

З падзеннем Канстанцінопаля нібыта зямля перавярнулася пад нагамі афонскіх манахаў. Яны нястомна малілі Госпада ўразуміць іх і выявіць святыя знакі. Але – ці не бачылі, ці не заўважалі, ці іх – не было.

І манахі – хто не звязаў свой лёс з янітамі – падаваліся ў скіты. Афонскія манастыры амаль пуставалі. Балела ад таго ў Максіма Грэка душа, і ён дзякаваў Богу за тое, што мае магчымасць аддаваць свае сілы на пашырэнне Ягонага слова. Манах за некалькі гадоў працы ў Кіеўскай лаўры перапісаў сем кніг і з многімі дапамог у перакладзе. Ён ужо звыкся са сваім новым месцам, зжыўся з ім, як некалі – з Падуяй і Фларэнцыяй, дзе вучыўся, і толькі ў мяккіх снах, забываючыся над кніжнымі радкамі і старонкамі, зрэдку вяртаўся на радзіму – вось як у гэтым, з высокай сакавітай травой, вінаграднікам за спіной, дарогай... доўгай дарогай... якая выбегла з вады ў лес... стары пагудасты лес з вялікімі невядомымі яму дрэвамі... белымі, халоднымі... і дарога белая, ажно забалелі вочы...

– Эвлагітэ! – нечакана пачулася над спіной, і ён абудзіўся.

Яшчэ неўразумела – між сном і явай – усхапіўся над залітым воскам прыстолкам, перахрысціўся і адказаў:

– О Кірыёс... Гасподзь дабраславіць...

І збянтэжыўся, убачыўшы перад сабой брата-яніта, земляка па Афоне, свайго аднаіменца – Максіма Спартанца, у чорным хітоне, з накінутай на плечы авечай скурай.

– Вось я і адшукаў цябе. Збірайся...

Інак, які прывёў госця ў келлю, пакланіўся і выйшаў.

А яны доўга не маглі нагаварыцца. Пачутае аніяк не супакойвала кніжніка-Максіма – свет і сапраўды пераварочваўся: у Рыме пануе нямецкае войска, Свяшчэнная Імперыя спрачаецца з Францыяй за свецкую ўладу... І аскепкі дынастыі Палеалогаў, пасля таго, як Венецыянскі сенат нагадаў маскоўскаму ўладару аб ягоных правах на спадкаемства візантыйскага тытулу, вырашылі падацца на ўсход. Між тым князь маскоўскі Іван III нібыта прымаў імператарскага пасла і пагадзіўся на саюз з Максіміліянам супраць ісламу, але развязаў вайну з ляшскімі хрысціянамі... А цяпер рыхтуецца да жаніцьбы з пляменніцай Канстанціна Зояй Палеалог і пагадзіўся

прыняць герб Візантыйскай імперыі – двухгаловага арла. І вось ён – брат Максім – з'явіўся сюды ў суправаджэнні брата нябожчыка-базілеўса Фамы Палеалога і будучай імператрыцы Зоі, а ў пасажным абозе – з паўсотні старадаўніх манускрыптаў.

– ...А яшчэ маскавіты жадаюць пашырэння царкоўных кніг візантыйскай традыцыі, і таму – збірайся і ты, цёзка брат-Максім, у новую вандроўку. Вось табе і ліст нашага магістравага заступніка аб тым... – закончыў госць.

Вось табе і дарога...

Белая, аж вочы коле. Снегу насыпала столькі, што здавалася, ён не растане і за ўсю вясну. А яшчэ – мароз і сіберны вецер, ад якіх слаба ратавалі авечыя скуры ды збітыя на санях буданы-балаголы. Калі коні стамляліся, абоз спыняўся ў больш-менш сцішным месцы. Сані расстаўлялі кругам, у цэнтры распальвалі вогнішча, грэлі ў катле штось паесці, затым – калі былі не ў стэпе – прыцягвалі некалькі сухастоінаў, звычайна елак, і падпальвалі. З людзьмі радаваліся цяплу і коні, дромна іржалі, нібыта ўрываючыся ў манатонныя размовы манахаў.

– ...Дык ці скора яна, тая Масковія? І ці праўда, што тамтэйшы базілеўс, ці князь па-іхняму, не дачакаўся патрыяршай булы і загадаў называць сябе імператарам, царом? – пытаў, энергічна паціраючы далоні, Максім Спартанец. – Ці не было тое заявай на візантыйскую спадчыну?

– Пабачым, – спакойна ўздыхнуў Максім Грэк і схаваў у накладную кішэню ружанец – келейны, не на сто «зярнят»-напамінаў пра малітву Ісусаву, а на тысячу, з большым кожным дзясятым «прыпынкам». Кукаль манах апусціў на спіну і прыгладзіў свае наравіста-кучаравыя, з русым адценнем валасы. – У Кіеве ад манаштва я многа чаго чуў... Ён, маскоўскі князь Іван, прысвоіў сабе тытул гаспадара ўсяе Русі, гэтым самым заявіўшы сваё права на Кіеў і Полацак. Невядома, што будзе з вольнымі гарадамі Псковам і Ноўгарадам. Але чалавеку – чалавечае, а Богу – Богава. – Манах узняў сваю прадаўгаватую галаву, адкрыўшы востры коўцік, і назіраў, як ад вогнішча адрываюцца і кружляюць у паднеб'е ігрыстаружовыя матылькі-іскрыны.

– Эх, раней мы і не чулі пра тую Масковію, а цяпер вось даводзіцца снягі да яе церці, – уздыхнуў, калупаючыся дручком у вуголлі, малады і дужы прыслужнік Зоі Палеалог Сілуан, сын канстанцінопальскага ліцейшчыка. І без таго аграмадны, у накідках-скурах ён выглядаў волатам. Толькі дробны, крыху ўзняты нос сведчыў пра яго добры і мяккі характар. Зноў уздыхнуўшы, Сілуан нечакана згадаў: – Я калі ў кузні бацьку дапамагаў, у самы санцапёк, марыў, бывала, каб у лёдзе паляжаць, а тут вось...

– Кароткі век чалавечы, як і ўсялякай дзяржавы, акрамя Нябеснай, – не адрываючы вачэй ад агня, загаварыў Максім Грэк. Гарачыя языкі ўсполыхаў адлюстроўваліся ў ягоных валошкавых зрэнках і, здавалася, вось-вось расплавяць іх. – Я прачытаў некалькі летапісаў і хронік аб тым краі. Розных. Масква нараджалася як калонія, заснаваная русамі ў чужой фінскай зямлі. Яшчэ два-тры стагоддзі таму Масковія гарэла ў братазабойчай вайне паміж нашчадкамі Уладзіміра Манамаха. Юрый Даўгарукі ачоліў войска-калонію і падаўся на паўночны ўсход шукаць новыя землі. Ішоў той дарогай, па якой і мы: праз лясы, між ложаў Дняпра і Волгі... Падпарадкоўваў сабе іншыя плямёны. І збудаваў паходны лагер перася-

ленцаў, які і стаўся Масквой... Затым, як Божае пакаранне за пралітую кроў – доўгае нашэсце арды.

...Дагарэла вогнішча. Зыркае яшчэ вуголле насыпалі ў катлы і глыбокія жалезныя місы, паставілі ў вазы: яшчэ з гадзіну-дзве будуць леціць-грэць. Запрэглі коней – і санны караван выбраўся з прылеску ды зноў пасунуўся заснежанай поймай ракі.

Сонца – як аграмадны мандарын з афонскага саду – завісла злева ад іх і, здавалася, не спяшыла заходзіць за ледзяны небакрай, баючыся абмарозіцца. А як прыгожа некалі, думалася Максіму Грэку, яно садзілася ў фіялетава-малочныя хвалі – нібыта няўцерп было, перагрэтаму, нырцануць у марскую прахалоду... «Чаму сонца асвятляе ўсю зямлю? Бо вандруе па свеце, – згадаліся словы прападобнага брата Філафея. – Так і святая кніга павінна асвятляць землі Гасподнія...».

Раптам успалашыліся коні. «Ваўкі! Ваўкі-ы-ы!!!» – закрычалі ззаду. Максім Грэк адхінуў скураную апону і адразу ж убачыў іх: доўгая зграя гонкіх шэра-чорных звяроў злятала са снежнага ўзгрыўку наперарэз ягоным саням. Два ўпрэжаныя конікі нярвова захраплі, заматлялі прыўзнятымі галовамі – і рванулі ўбок, далей ад іклістай зграі. Дзесьці пад імі і снегам рака нечакана падала ўніз. Водны парог быў нябачны пад снегам, хоць і не замерзлы.

– Стой! Сто-ой!!! – роў на коней align="left"возьнік, а на возніка – праваднікі з абозу. Гохнулі некалькі пішчольных стрэлаў, і ў той момант палазіна саней натыркнулася на штось цвёрдае (камень?), сані рэзка віхнуліся набок, штосьці пад імі хруснула – і Максіма абдало марозным агнём. Ён хапіў паветра – і ледзь не захлынуўся вадой. Узняў руку, зачапіўся за апону і паспрабаваў прыўзняцца – ды зноў уваліўся ў марозны кіпень. Затым чыясь моцная рука сціснула ягоную – і выцягнула на свет Божы...

Спалоханыя коні, паламаўшы аглоблі, крышылі грудзьмі лёд, сані патаналі ў снезе і бурлівай вадзе, а над Максімам паўставала парнае воблака. Каля яго завіхаўся палеалогскі прыслужнік Сілуан, які выцягнуў манаха з халоднага віру і цяпер накрываў доўгай скурай.

Стрэлы напалохалі зграю, і ваўкі раптоўна, як і з'явіліся, зніклі. Як цені д'яблавыя...

Памаліўшыся і прывязаўшы мокрых коней ззаду абозу (утопленыя сані ўжо не адрамантаваць), рушылі далей. Максіма Грэка запрасіў да сябе Сілуан, сані якога былі большымі – на іх везлі некалькі скрыняў кніг.

– Хвала Госпаду за тое, што не яны пад лёд упалі, – прашаптаў Максім і, цяжка дыхаючы, лёг. Аднак і накрыты ён не мог сагрэцца.

А вечарам ягонае цела пачало гарэць. Манах штось неўразумелае трызніў, але глыбокі хрып вырываўся з грудзей, і ён намагаўся ўзняць галаву; скура напіналася на вострым коўціку, пад ім устрывожана пульсавала трапяткая вена... ды сілаў не было. Сілуан азірнуўся ў цёмным будане, каб штось знайсці – падкласці нябогу пад галаву. Намацаў за спіной скрыню, дастаў важкую, аплеценую мяккай скурай кнігу і асцярожна падсунуў пад кучаравыя, яшчэ вільготныя валасы манаха. Той нечакана заціх, пачаў дыхаць спакайней. Здалося, заснуў.

А праз некалькі гадзінаў абудзіўся здаровым. Нібыта нехта ўдыхнуў у яго незвычайную моцу, спакой, упэўненасць. Ужо была ноч – але светлая; поўня люстравалася ў зляжалым снезе. І ён папрасіў спыніцца, пазваў пагрэцца ў будан возніка, а сам пад неўразумела-здзіўленыя позіркі

Сілуана палез па лейцы – і да наступнага прыстанку, да глыбокай раніцы і агульнай малітвы адмаўляўся ад падмены. А затым – чырвонашчокі, з пасівелымі ад марознай шэрані барадой, вусамі і брывамі дапамагаў валіць і цягаць аграмадныя сухастоіны, ды і ад ежы адмовіўся. «Хвала Богу, сыты», – сказаў, адышоў да саней, дастаў з кішэні ружанец – і пачаў новую малітву.

А калі зноў рушылі і манах убачыў у санях, дзе зусім нядаўна ляжаў у хворым бяспамяцтве, вялікую кнігу ў скураных вокладках, спытаў здзіўлена-сполашна:

– Што гэта?

– Я пад галаву падклаў быў, каб вышэй, каб дыхаць лягчэй табе было... – адказаў ніякавата Сілуан.

Максім правёў даланёй па далікатна вырабленай скуры, адшпіліў тры медныя спражкі і беражліва разгарнуў манускрыпт.

– Паводле Яна Святое Дабравесце... – прашапталі вусны. Вазок хістала, і ён акуратна закрыў кнігу – і заплакаў.

Сілуан – сядзеў насупраць – сціснуў вусны (нос на яго аграмадным твары зусім змізарнеў), насцеражыўся:

– Нешта не так?

– Усё так. Усё так... – у адказ усміхнуўся скрозь слёзы Максім Грэк.

І калі праз шэсць новых дзён шляху Сілуан прыбег ад вазка Палеалогаў з кепскай навіной: у пляменніцы імператара Зоі, не прывыклай да вандроўнага жыцця, моцна забалеў страўнік, манах зноў дастаў са скрыні скураны манускрыпт – і, праўляючы малітву, кнігай перахрысціў дзяўчыну. І боль ураз адступіў...

Усе дзівіліся таямнічай моцы манускрыпта, а ён – манах брацтва янітаў – спакойна хітаў галавой і паўтараў:

– Так-так. Усё так. І анічога дзіўнага. Мы схіляемся да абразоў, рукатворных Божых выяваў – і яны лякуюць нас. А што незвычайнага ў тым, калі нас ратуе слова Божае?!

Кніга засталася ў вазку Палеалогаў – як найкаштоўнейшая святыня іх колішняй візантыйскай спадчыны...

Пачалі трапляцца невялікія паселішчы, дзе пагрэцца можна было ўжо і ў нізкіх драўляных хатках. А затым, пасля нягеглай дарожнай цвержывартоўні, пайшла ўкатаная дарога, затуманіўся дымамі краявід – і пачалася Масква. Драўляныя заснежаныя слабодкі змянялі адна адну: шэрыя сцены дамоў і лавак, скурчаныя сады, прысады, абледзянелыя зрубы калодзежаў... Манастырскія купалкі цэркваў... Затым вышэйшыя дамы, каменны гасцінны двор. І зноў слабоды, лаўкі, дамы, прысады – аж да небакраю, наколькі хапала позірку.

– І гэтага – трэці Рым?! – неўразумела зіркаючы з-за апоны па баках, здзіўлена паўтараў Сілуан і чухаў малы пачырванелы нос. – Ці гэта я, напіўшыся перад ад'ездам, упаў і моцна стукнуўся галавой аб сходні салоніцкага палаца?..

Яны даехалі да зубчатай сцяны Крамля з каменнымі вежамі, за якімі месціліся княжскія палацы, дамы набліжаных баяраў ды некалькі цэркваў з манастыром, і выправілі паслоў з тлумачамі. Палеалогаў – Фаму і яго дачку Зою – у іхніх вазках, з імператарскім пасагам, а таксама пасольскую світу і прыслужнікаў правяла за сцяну ўзброеная варта – рослыя дзецюкі

ў доўгіх рудых кажухах, падбітых і аблямаваных футрам, з шырокімі каўнярамі ніжэй лапатак, у высокіх шапках-мурмолках. Астатнія ж – ахова, павадыры, манахі – падаліся на пастой у бліжэйшую слабаду...

...Першым прапісаў ідэю асвячэння Масквы як трэцяга Рыма тутэйшы мітрапаліт Зосіма. Ён выклаў яе ў прадмове да новай рукапіснай «Пасхаліі» – календары царкоўных падзей на наступнае тысячагоддзе. Ці было яму адкрыццё, ці ён сам прыдумаў тое, што Нябёсы дабраславілі новага Канстанціна – Івана III – і новы Царгорад – Маскву, – засталося невядомым. Праз трынаццаць летаў пасля з’яўлення «Пасхаліі» Бог паклікаў Івана III да сябе на суд, а княжскія землі падзялілі паміж сабой яго пяцёра сыноў. Старэйшаму Васілію дасталіся дзве траціны княства: 66 гарадоў з Масквой-сталіцай. Невядома, ці дабраславілі Нябёсы новага «Канстанціна» на чарговае стварэнне Царгорада, але дзяцей яму ад венчанай жонкі – баярскай дачкі Саламаніды – не далі.

– Бясплодную смакоўніцу выкідваюць з саду! – загаварыла баярская дума, і жанчыну, не зважаючы на перасцярогі княжскіх духоўнікаў і новага кіраўніка пісчага загаду Максіма Грэка, зняволілі ў манастыры.

Васілій, нават для адчэпу не правёўшы традыцыйнага параду-глядзелак нявестаў, на заходні манер згаліў бараду і павёў да алтара сірату Алену Васільеўну Глінскую, якая і нарадзіла яму нашчадка. І рана аўдавела. І, таксама не здолеўшы ўзвесці велічныя сцены новага Царгорада, рана пакінула гэты турботны свет, а ў ім – свайго васьмігадовага першынца Івана...

***

Ужо не першую гадзіну яго білі нярвовыя дрыжыкі. Ноч паглынула княжскія палацы. Аціхлі п’яныя крыкі баярскай гулянкі, а Іван не знаходзіў адхлання: захутваўся ў коўдры, накрываўся падушкамі – і ніяк не мог супакоіцца, сагрэцца. Балела збітая аб каменную сцяну рука, унутры пякло і калаціла, у заплюшчаных вачах успыхвалі вогненныя шары – і бесперапынна ліхаманіла.

А тут яшчэ стук у дзверы.

– Княжыч, адчыні!

Ён маўчаў.

– Адчыні, а ні то выб’ю дзверы!!!

Грукат пабольшаў, хадуном захадзіў вушак, і ён вылез з ложка, адкінуў засоў.

Дзверы расчыніліся і гухнулі аб сцяну. У спачывальню ўвапхнуўся апякун Шуйскі, а за ім нясмела вызірвала напаўраспранутая дзеўчына.

– Што, ваўчанё, прыціх? – дыхнуў на Івана перагарам няпрошаны за́йшла і падпіхнуў ніжэй спіны сяброўку: – Баярыня Марфа зажадала праверыць, ці не зацвярдзела царскае ложа...

Марфа апусціла галаву, хаваючы вочы – і няяркае святло свечкі выхапіла ў змроку яе пульхныя вусны і расчырванелы твар.

Івану не хапала паветра. Задыхаючыся і калоцячыся, ён пачаў павольна адступаць да супрацьлеглай сцяны, а Шуйскі хмыкнуў – ажно перасмыкнуўся сухі кадык – і сеў на ложак.

– Што маўчыш? Ці не рады гасцям? Ці думаеш, што я, нашчадак па старэйшым калене Аляксандра Неўскага, не раўня табе, сапліўцу? – крыва

ўсміхнуўся, спадылба зіркнуў на Івана, кашлянуў – і гулліва вымавіў да дзеўчыны: – Марфу-у-ута! А ты што заледзянела? Ходзь сюды! – і пастукаў даланёй па коўдры.

Марфа дробнымі крокамі наблізілася да ложка, і Шуйскі схапіў яе за локаць, паваліў на пярыну:

– Лябёда мая... Царыца... – зашаптаў юрліва. – А якая гарачая, а якая спраўная...

Ён ірвануў на яе ўздымных грудзях кашулю, грубавата падмяў дзеўчыну пад сябе і соладка засоп. Рудая падрэзаная барада паплыла па бялявай лагчынцы да жывата, вострыя бровы казытнулі набухлыя смочкі – і раптам галава адарвалася ад дзявочага лона.

– А што ты тут зіркаеш? – крыкнуў Шуйскі на збянтэжанага Івана. – У адрозненне ад вашай косткі я – не сквапны. Хочаш – дапамагай, а не – вон адсюль!

Івана, здалося, аблілі варам. Балюча застукала ў скронях, яшчэ мацней закалаціліся рукі. Ён, сцяўшы кулакі, кінуўся было на Шуйскага, але, схапіўшыся за більца ложка, стогна крыкнуў і выбег са спачывальні.

Босы, у начной сарочцы, як самнамбул-здань, ён пáмарачна спусціўся ў тронную залу, мінуў трапезную, выйшаў праз драўляны каланадны калідор да высокіх сходняў палацавага ганка.

Здзіўленыя вартавыя расчынілі перад княжычам дзверы, а ён не заўважыў іх – няўцямна ступаў па замерзлай зямлі двара, не адчуваючы холаду, і яго заплаканыя вочы станавіліся лёдам.

Праз няпэўны час – ноч яшчэ не мінула, хоць надарваны масляністы блін месяца ўжо зачапіўся за купалы Успенскага сабора, – ён няўпэўнена пастукаў у акаваныя дзверы мітрапалітавай рэзідэнцыі. Адчыніў заспаны паслушнік, правёў у цёмную вітальню, акрыў кажухом.

– Пачакайце, Вашая светласць, – прагаварыў дрыготкім голасам, – я зараз разбуджу Уладыку. – І бегма кінуўся па скрыпучых прыступках наверх.

Мітрапаліт Макарый у чорным падрызніку спусціўся да нечаканага госця, прыставіў да стала посах і перахрысціўся:

– Гасподзь усеміласэрны! Што, княжыч, здарылася? Што з тваімі рукамі?!.

А Іван яшчэ доўга не мог прамовіць і слова: прадаўгаватая яйкападобная галава з завостранай макаўкай дрыжэла, нямытыя русыя пасмы закрывалі вочы з кароткімі рэдкімі вейкамі, кажух спадаў з худых плячэй, – і мітрапаліт, выправіўшы паслушніка, папрасіў:

– А ты ў рукавы, у рукавы рукі... Адагрэйся...

Іван глядзеў у адну кропку: ці на край сталешніцы, ці на мітрапаліцкі посах, – маўчаў і адкідваў за лоб валасы; кроў з параненай рукі расціралася па ссінелым твары, і выгляд ягоны быў жахлівы.

Княжыча напаілі малінавым адварам і хацелі прапанаваць паспаць, але ён матнуў галавой і нарэшце зашаптаў:

– Яны поядам жаруць мяне і рабуюць сабранае бацькамі маімі!.. Яны спяць на ложку маім з гуляшчымі сукамі і не знімаюць ботаў!.. Яны – гэтыя шуйскія, бельскія ды іншыя сабакі бесавыя – атруціўшы маці маю, рыхтуюць і мой зыход...

– Божа, што мовяць вусны гэтыя маладыя?! Іван, ты – царскі наступнік, Госпадаў памазанік. І баярскія козні – твая закалка. Малі няўтомна

Бога, каб даў табе трываласці і веры вытрымаць гэтыя выпрабаванні. І я аб тым няспынна ва Усявышняга вымольваць буду.

Іван нечакана аціх, перастаў калаціцца, павольна ўзняў галаву – выцягнуўшы доўгую шыю – і наскрозь пранізаў Макарыя халоднымі шэразялёнымі вачыма:

– Кажаш, я царскі наступнік?

– Так. Ад людзей і Бога. І недалёкі ўжо дзень вянчання твайго на сталец царскі, бо якраз табе наканавана стаць сапраўдным валадаром зямнога царства праваслаўнага. – Мітрапаліт прыхінуў расчуленага княжыча да сябе і абняў. – Рыхтуйся да гэтага...

Іван праспаў у мітрапалітавых пакоях астатак начы, увесь новы дзень і ўсю наступную ноч. Раніцай наспех падсілкаваўся і апрануўся ва ўсё новае: на прычасаных валасах – таф'я з чырвонай парчы з жэмчугам, паверх яе – вялікая пярсідская ціяра, падшытая чарнабурым лісам; доўгая вышытая кашуля без каўняра; доўгі каптан з вішнёвага аксаміту, сціснуты жоўтым пасам; востраносыя, пакрытыя пурпуровым атласам боты; лёгкае сабалінае футра на плячах...

Ён апрануўся і, не развітаўшыся з мітрапалітам, рашуча пашыбаваў да каланадаў княжскага палаца, прайшоў у тронную залу, сеў, не скідаючы футра, на сталец, выклікаў галоўнага каравульніка і спытаў:

– Як цябе завуць?

– Мацей, княжыч...

І раптам Іван ускочыў, падбег і схапіў каравульніка за каўнер каптана, злосна прашыпеў:

– Я, халопская морда, будучы гаспадар усяе Масковіі і твой цар! Запомні!..

– Я... я й не забываў гэтага, Вашая вялікасць, – неўразумела, з ноткамі сполаху ці зніякавеласці прагаварыў каравульнік.

І тое спадабалася, нават акрыліла Івана, але выгляду ён не падаў:

– Хачу ведаць, дзе Шуйскі.

– Ды адпачывае яшчэ...

– Дзе?!

– У... – каравульнік пацепнуў шырокімі дужымі плячыма. – У Вашых царскіх пакоях...

Івана перакрывіла. Хацеў штосьці выкрыкнуць, але голас сарваўся.

Ён вярнуўся да стальца, моцна сціснуў параненай рукой высокую спінку і загадаў:

– Аспіда Шуйскага выгнаць з палаца, вырваць яму жала лютае і кінуць у маю псарню! Сабаку – сабачая смерць! Ложа, ім апаганенае, спаліць!

Агаломшаны каравульнік задам пасунуўся да дзвярэй, і ўзбуджаны Іван ужо наўздагон кінуў яму:

– А пасля таго, як справішся з усім, быць табе, Мацей, маім галоўным пасцельным і ахоўнікам!

Праз некалькі хвілінаў соннага і неўразумелага Шуйскага стральцы сцягнулі за валасы на гаспадарчы двор. Ён спрабаваў адбівацца і крычаць, і Мацей схапіў яго за горла і не адпускаў, пакуль не адчынілі дзверы псарні.

– Ну вось, – піхнулі цела Шуйскага некалькі ног, – цяпер гаўкай.

Але задушаны Шуйскі ўжо не мог гаварыць...

Купалы Успенскага сабора зіхцелі на студзеньскім марозе мядовым

золатам. Хрумсцеў свежым снегам Крамлёўскі дзядзінец – пад ботамі і валёнкамі. Увесь служывы люд Масквы і нават аддаленых слабодаў з’ехаўся-прыйшоў падзівіцца на гэтае відовішча: «асвячэнне на цара» маладога гаспадара Івана Васільевіча.

Яны, стомленыя жыццёвай няпэўнасцю, азлобленыя на ліхвярствы баяраў, даведзеныя да бядоты і голаду высокімі падаткамі-цяглам, чакалі зменаў. Чакалі яшчэ з 1543 года, калі пасля малебну ў прысутнасці мітрапаліта Макарыя княжыч абвесціў вярхоўным баярам пра свой намер вянчацца на царства. Вянчацца не як вялікі князь, а як цар.

Прасталюд асабліва не разбіраўся ў тым. Ён проста хацеў парадку і пэўнасці. Хацеў гаспадара – каб той навёў урэшце ў краі парадак. Хацеў, каб меней было пакражаў. Каб стала ўсё зразумелым і вызначаным, як і раней.

На званіцах Івана Вялікага і Сабора Дабравесця – дамавой царквы маскоўскіх уладароў, якая насупраць, праз тысячу локцяў – рвалі глоткі царскія гласары, але просталюд слаба разумеў іхнія словы.

– ...Маскоўская дзяржава і ёсць тое шостае царства, якое згадваецца ў апакаліпсісе... Яшчэ ў старагрэчаскіх летапісах напісана: над родам Ізмаіла запануе род русых... Дзякуючы Богу міласэрнаму і клопату цара нашага Івана Васільевіча Масква нараджаецца як новы Канстанцінопаль, новы Царгорад...

Народ неўразумела ператоптваўся на месцы. Хтосьці спрабаваў перапытваць у суседзяў, што азначае пачутае, але і іншыя толькі пацепвалі плячыма, а некаторыя і падавалі нецярплівы голас:

– Цара давай! Нашага цара-бацюхну хочам бачыць!..

І ўдарылі над дзядзінцам царкоўныя званы, і захісталася ў іх узнёслым перазвоне наваколле. І паскідалі пачырванелыя на холадзе мужыкі шапкі свае. І пачалі спешна хрысціцца.

Расчыніліся дзверы Успенскага сабора, і па пляцы хваляй прайшоў ні то шэпт, ні то стогн. На белым з пазалотай троне, які неслі чатыры рослыя стральцы, у святочным убранні сядзеў каранаваны цар. З абодвух бакоў цягнулася світа япіскапаў, святароў, манахаў. Усе ўзносілі да неба агульную малітву з просьбай умацаваць новага ўладара духам справядлівасці ды ісціны. Ззаду, схаваныя ў доўгія футры ды высокія рознакаляровыя шапкі-камілаўкі, ступалі баяры і асыпалі трон дажджом залатых і срэбных манетаў – трон новага нашчадка грэчаскіх і рымскіх імператараў.

Аб тым, праўда, не ведалі ні ў Афінах, ні ў Рыме, ні нават у бліжэйшым Кіеве. І на тое не давалі дабраславення ні патрыярх Канстанцінопальскі, ні Рымскі[1]...

## 2

*1992 год*

*Калі белая «Волга» па-заліхвацку крутнула ў расчыненую брамку і стоена піскнула-прытармазіла, Заяц ужо спускаўся да яе. З машыны выйшлі трое маладых мужчын. Першым з гаспадаром абняўся плячысты высун Іван*

[1] Каранаваць хрысціянскага валадара на царства ў той час мелі права толькі два патрыярхі: Рымскі і Канстанцінопальскі. У Маскве свой патрыярх з’явіцца толькі ў 1598-м, праз 14 гадоў пасля смерці Івана IV Жахлівага.

*Мароз, колішні студэнт Мікалая Сымонавіча, а цяпер – народны дэпутат і дырэктар эксперыментальнага ўніверсітэцкага інстытута.*

– Ну, паказвайце сваю фазэнду, – шчыра ўсміхнуўся і бліснуў зубамі-часночынамі.

За ім, працягнуўшы аграмадную даланю і з цікавасцю абмацаўшы зрэнкамі-каштанамі, прывітаўся кіроўца Сяргей Сысанкоў, мажны старшыня прыўхвацкага калгаса і па сумяшчэнні – таксама народны дэпутат.

Трэці госць, Віктар Керзан, невысокі, не да часу пасівелы чалавек з вайсковай выпраўкай, паспеў выкласці з багажніка тры вялікія пакункі з прадуктамі ды выпіўкай і вітаўся стрымана.

– Калі ласка – у хату, – запрасіў Мікалай Сымонавіч, але прыезджая тройка захацела «аддыхацца» на вуліцы.

– Мы лепш у ваш хвалёны сад, да травы, – прапанаваў Мароз, і ўсе падаліся на задворак, дзе роўнымі шыхтамі патаналі ў квецені яблыні.

– І дзе тут ваш надзел? – па-гаспадарску пацікавіўся Сысанкоў.

– Плота яшчэ не паставіў... – ніякавата пацснуў плячыма Мікалай Сымонавіч. – Але заместа яго – кусты смародзіны і агрэсту. Добра ўзняліся, а?..

– Ды тут і рэчка пад бокам! – абудзіўся Сысанкоў. – Хто са мной пот сталічны змыць? – і бадзёра пастукаў па сваім ладным жываце.

– Не-не, што вы... – збянтэжыўся Мікалай Сымонавіч. – Вада яшчэ халодная, зімная.

– Якая зімная, калі вясна заканчваецца?! Мы худымі падшыванцамі дома на Вялікдзень купаліся! – не пагадзіўся Сысанкоў, але да рэчкі, якая сваім вірлівым бокам клапатліва атуляла агарод лецішча, не пайшоў.

– Так, лепш давайце мангал распалім, а то скора бутэлькі закіпяць, – спакойна азваўся Керзан. – Можа, іх паставім у лядоўню?

Агонь успыхнуў адразу, і яны пайшлі ў дом – двухпавярховы катэджык з чырвонай цэглы, узведзены на колішнім радзінным котлішчы Зайцоў. У вітальні-гасцёўні быў адмысловы музей: старыя патэфоны, гармонікі, прасы, фотакарткі. На другім паверсе – бібліятэка і кабінет, з якога звісаў у сад – з выглядам на рэчку – жалезны балконік.

– Па сутнасці, дзесяць гадоў майго прафесарска-акадэмічнага жыцця адабрала будаўніцтва, – распавядаў гаспадар. – З ацяпленнем і газам яшчэ не разабраўся. Часу няма – жыццё дэканцкае даймае...

– І так каралеўскі палац! Раскулачваць можна! – упэўнена падрахаваў Мароз і першым выйшаў на балкон, прыгладзіў над залысінамі чарнявыя валасы і выдыхнуў на поўныя грудзі:

– Кра-са-та!..

Вечаровае сонца мякка ружавела ў яблыневых пялёстках, усміхалася ў салодка-дымных вуголлях мангала і хавалася за разлапістай прырэчнай вярбой. Стол стаяў пры зацемненай сцяне пад балконам, абвітым садовымі павоямі. Шашлык атрымаўся, і каньяк быў яго далікатнай аправаю.

Прагучалі тосты за гасцей і гаспадара, і апошні, узняўшы келіх, пацішыў голас:

– Згадалася мне прыпавесць, некалі расказаная за сяброўскім келіхам чарнагорскім прафесарам... Вялікі стол, жыццё-выпіўка... А праз некалькі чарак-гадоў застольнага тамаду перасталі чуць, яшчэ праз некалькі – і слухаць...

– Не турбуйцеся, Мікалай Сымонавіч! Мы вас – толькі скажыце – заўсёды пачуем! – хацеў перавесці размову ў жарт павесялелы Сысанкоў, але Заяц хітнуў галавой:

– Не, хлопцы... Вялікая, думаю, справа чакае вас наперадзе. Імперыя, у якой я нарадзіўся й пражыў, рассыпалася. Цяпер кожны за сваім сталом сядзець хоча. Краіна нашая – незалежная і роўная сярод вялікіх. І ёй патрэбен тамада-прэзідэнт.

– Дык у нас жа па канстытуцыі – парламенцкая дзяржава... – пасля одумнай паўзы вымавіў Мароз.

– Да сапраўднага парламентарызму мы яшчэ не дараслі. А былыя ўладары ад кампартыі і спецслужбаў ужо вызначыліся са сваім стаўленікам. І калі ён уссядзе на сталец – краіну чакае адкат у мінулае... – Заяц уважліва агледзеў гасцей: здалося, слухаюць пранікнёна, зацікаўлена. – Дык вось, прапаную тост: вып'ем за новага кіраўніка нашай краіны! І хачу, каб ім стаў не выкармыш партыйных чынушаў, а... адзін з вас, дарагія мае малодшыя сябры. Будзьма!

Выпілі моўчкі. І задумаліся, памякчэлі, падабрэлі. І размовы пачалі здавацца бясконцымі, аж пакуль расчырванелы Сысанкоў не агаломшыў-узгадаў:

– Штой-та мы з-за гэтай палітыкі на раку забыліся. Пайду, пакуль не сцямнела, пысу абмыю. – І, няўпэўнена расстаўляючы ногі, пасунуўся ў канец агарода. За ім, крэкнуўшы, падаўся і Керзан.

А Мароз зноў наліў у кілішкі, падсунуўся да настаўніка і, не міргаючы, спытаў:

– Вы аб тым прэзідэнцтве – сур'ёзна?

– Як ніколі раней! – Заяц, узняўшы свае савіныя бровы, якія напалову прыкрылі шкельцы акуляраў, таксама глыбока ўгледзеўся ў свайго колішняга студэнта. – Ты, Іване, маеш усе шанцы перамагчы. Рыхтуй каманду і – думай. Павер мне: цяпер ці ніколі! І хай адсохнуць мае ногі, калі ты не станеш прэзідэнтам!

Яны амаль па-гусарску ўсталі і выпілі. А затым абняліся і задумаліся.

– Пайду экскурсантаў праведаю, – першым узварухнуўся Мароз. – А то яшчэ патопяцца, памочнікі...

А тыя, распрануўшыся да трусоў, цялёпкалі на сябе карычняватую, настоеную на старых карэннях ваду і пыхцелі ад задавальнення.

– Эх, качуры, ці так ахалоджвацца трэба? – падцвяліў іх Мароз і, пакуль падышоў Мікалай Сымонавіч, распрануўся да гала і нырцануў у ваду.

Усе анямелі, а затым радасна ўскрыкнулі, калі яго галава вытыркнулася з рачной роўнядзі. Два «экскурсанты» пачалі апранацца, а гаспадар «фазэнды» аніяк не супакойваўся:

– Годзе, плыві назад! – і раптам спакмеціў (як-ніяк, вырас на гэтай вадзе), што Мароз пачаў нерухомець і нярвова ўскідваць рукі. Дыханне яго збілася. Плывец глытнуў вады, кашлянуў і, сполашна крутнуўшы галавой, выхрыпнуў: – Сутарга... ногі звяло!..

Керзан кінуўся да яго, але за некалькі крокаў да берага запаволіўся. Сысанкоў неўразумела глядзеў на свае штаны, потым плюхнуўся ў ваду, выпаўз і пачаў знімаць чаравікі.

– Трымайся, Ваня! – як мага спакайней выкрыкнуў Заяц. – Дыхай роўна, зараз мы што-небудзь кінем. – Маланкава забегалі пад акулярным шклом блізарукія вочы: па прытаптаным беразе, па старой вярбе... Намогся

адламаць галіну – але раздумаў і ў тую ж хвілю ўбачыў лейчыну (яшчэ летась суседскія падшыванцы збіраліся прымастачыць гушканку).

Ён па пояс ускочыў у ваду і, крыкнуўшы «Хапайся за ляйчыну!», кінуў яе да Мароза. Кінуў удала – небарака цапнуў яе яшчэ ў лёце...

– А цяпер – грэцца, грэцца і слухаць старэйшых! – задыхана прасіпеў Мікалай Сымонавіч і неакадэмічна мацюкнуўся.

І яны зноў пілі – ужо без тастоў. Толькі Мароз, адкашляўшыся і расцёршы гарэлкай непаслухмяныя ногі, зірнуў на сваіх захмялелых таварышаў, устаў і – чаканячы кожнае слова – вымавіў на адным дыху:

– За майго хроснага, які асвяціў мяне ў гэтай вадзе!

***

– ...Падвялі Вы мяне, Мікалай Сымонавіч, пад манастыр! – Іван Мароз выглядаў змораным і сумным.

Зранку ён прыехаў на гарадскую кватэру да Зайца і, не распрануўшыся, не аббіўшы з шапкі і ботаў снег, выцягнуў з унутранай кішэні складзеную гармонікам газету: – Вось, з сямі ранку па кіёсках ляжыць...

Прайшлі на кухню. Пакуль заварвалася кава, Заяц паспеў прачытаць перадавіцу саўмінаўскай газеты з кідкай назвай «Бервяно ў дэпутацкім воку». Аб тым, які зубаскал і дэмагог народны абранец Мароз, аб страшэнным стане эксперыментальнага інстытута, якім ён кіруе, як здзекуецца са сваіх падначаленых. І нейкія эканамічныя раскладкі, і словы сведкаў...

Мароз сядзеў на невялікай прафесарскай кухні і нярвова пастукваў вузлаватымі пальцамі па стале, а калі газета была адкладзена, стрэліў пачырванелымі ад бяссоння вачыма:

– Ну што скажаце? Здорава размазалі?! І як пасля гэтага?..

Мікалай Сымонавіч зняў акуляры, нечакана ўсміхнуўся і – вочы ў вочы – прамовіў цвёрда:

– Размазваюць, мой дарагі, масла па булцы або сэплі па шчоках. А за гэта ты яшчэ рэдакцыі і заказчыкам праставіць павінен!

Мароз насупіўся і неўразумела ўтаропіўся на Мікалая Сымонавіча. Той падставіў табурэт бліжэй да госця:

– А ты, чую, сам з раніцы ўжо прастаўлены! Апошні раз кажу: пераставай піць. Ці кідай усё – і пі.

Хвіліну памаўчалі, і загаварыў Мароз:

– Ды разумееце... Яны кабінет мой апячаталі, справы нейкія завялі... Я як воўк абкладзены... – і замоўк, паглядаў на прафесара і соп.

Заяц уздыхнуў, дастаў з халадзільніка пляшку каньяка, наліў:

– Значыць так. Гэта – замест валяр’янкі. Затым ляжаш выспішся. А заўтра збярэм прэс-канферэнцыю. І калі ты воўк – час паказаць зубы! Запомні і супакойся: цяпер усё, што ідзе зверху супраць цябе – працуе на тваю карысць. Прынамсі, у вачах электарату.

– Дык у іх жа структуры...

– Ствараць, пакуль ёсць час, і ты свае.

– Як ствараць, калі – ні кабінета, ні тэлефона?!

– Садзіся ў мой, дэканцкі. Ці стой... Пустуе ў нас на факультэце колішні «Ленінскі» пакой, дзе засядаў парткам. Там і ўваход ёсць асобны. Чым не часовая штаб-кватэра?

– Дык жа й вас пагоняць за тое – і з кабінета, і з працы...

– Адганялі мяне ўжо, Ваня! – Мікола Сымонавіч зноў пранікнёна зірнуў у вочы свайму вучню і ўздыхнуў: – Ногі ўжо не тыя, каб бегаць. Ды і колькі ж мне зайцам быць?!

Мароз задумаўся, затым хітнуў галавой і выпіў.

– Паўтараю, як на лекцыі: яны мусяць абараняцца, а ініцыятыва – у тваіх руках. І – не дрэйфі! Усё будзе добра! – Мікалай Сымонавіч усміхнуўся ласкава-блізарукімі вачыма і моцна абняў госця.

...Ён быў шчыры, крыху нехлямяжы, надзвычай актыўны не толькі ў новай дзейнасці, але і ў пошуку сяброў. Мог падвезці на сваёй машыне заклятага ворага, з імпэтам браў удзел у калектыўных наведваннях лазні, ахвотна запрашаў у свой кабінет або на кватэру цікавых для яго людзей – выпіць і пагаварыць.

Праўда, гасцей ён падзяляў па ступені важнасці, значнасці і сваёй да іх прыхільнасці: каго частаваў самагонкай ды салам – і каго крамнай гарэлкай з кілбасой.

«Дыпламатыя» давала плён. Рыхтавалася, напрыклад, на тэлебачанні ў «жывым» эфіры перадача па праблемах навакольнага асяроддзя – разам з навукоўцамі з Акадэміі навук запрашаўся і дэпутат Мароз. І гаварыў не толькі пра экалогію...

На пачатку кожнай справы можа быць выпадковасць. Калі на выпадковасць пачынае працаваць заканамернасць – прыходзіць перамога. Заканамернай было грамадскае спачуванне і павага да выкрывальніка народных ворагаў. Заканамернай стала і падтрымка яго групай маладых дэпутатаў, якіх гісторыя назаве «ваўчанятамі». Яны – таксама заканамерна – убачылі ў актыўным дэпутаце сілу, здольную разварушыць старую цытадэль кіраўнікоў і бюракратаў.

Тое ж – па прафесіі сваёй – не маглі не ўбачыць і адпаведныя дзяржслужбы бяспекі: падтрымалі, падказалі, дзе трэба – і дапамаглі...

І «ваўчаняты», вучачыся і сталеючы, кінуліся ў бой. Аб'ездзілі амаль усе раёны краіны, ладзілі сустрэчы дзе толькі маглі: у клубах, на вакзалах, на рынках, у крамах. Гаварылі (найперш ён, Іван Мароз) проста і адказвалі зразумела – тое, што хацеў пачуць стомлены інфляцыяй ды безвыходнасцю народ. Яны паказвалі прычыну абясцэньвання грошай і жабрацтва-галечы. Прычыну – традыцыйную: злодзеі. Нават не адзін-два, а цэлая каста, названая яшчэ нядаўна невядомым простаму вуху замежным словам мафія. І яно, слова мафія, стала ў народзе найбольш ужывальным (балазе яшчэ не забыўся паказаны тэлесерыял пра італьянскіх мафіёзі і барацьбіта з імі камісара Катані). Мафіяй пачалі называць усіх і ўсё, што так ці інакш асацыявалася з поспехам, багаццем, з карупцыяй, – хоць многія нават не маглі правільна вымавіць тое слова. Ну а на кіношны вобраз змагара з «махвіяй» арганічна накладаўся свой – бясстрашнага дэпутата Мароза...

Народ патанаў у разгубленасці. Зробленыя за месяц грошы за некалькі дзён з'ядала інфляцыя. Цэны раслі. Раслі ў сталіцы ды па-за ёй і княжскія палацы. Першымі – чыноўнікаў ад партыі, саўміна і нафты. Следам – і тых, хто меў магчымасці-«сувязі»: браў у банках крэдыт, пераводзіў «паперкі» ў валюту – і праз паўгода аддаваў пазыку, а за астатак будаваў сабе шматпавярховыя харомы, уцякаючы з бетонных гарадскіх катухоў. А тыя, хто заставаўся ў хрушчоўках, люцелі ад зайздрасці і злосці.

Словам, як і прадказваў акадэмік Заяц, які стаў кіраўніком перадвыбар-

нага штаба апальнага кандыдата ў прэзідэнты, падзеі разгортваліся вельмі спрыяльна. Насенне падала на дабрадатную глебу, з-пад якой прабіваўся заканамерны адказ: каб разабрацца з усімі злодзеямі, «праўдарубу» Марозу не хапае ўлады...

Пасля Велікодных святаў апячаталі і гістфакаўскі «Ленінскі» пакой – аднак яго апантаны гаспадар прарваўся ў часовы штабны прытулак, спешна сабраў журналістаў і ва ўніверсітэцкім калідоры, запоўненым здзіўленымі студэнтамі і выкладчыкамі, даў прэс-канферэнцыю.

– Было перавернута ўсё нават у халадзільніку, – абураўся ён. – І гэта ва ўніверсітэце, храме навукі. Які прыклад моладзі?!.. Шукалі на сябе кампрамат, каб знішчыць... Але праўду не схаваеш і не ўкрадзеш! І вось нядаўна мне паведамілі, што Дума плануе зняць з мяне дэпутацкі імунітэт. Аднак няхай яны запомняць: народнага кандыдата ў прэзідэнты Мароза не запалохаць!..

А тут – то машына з «праўдарубам» з моста зваліцца, то ў самалёт не пусцяць... І новыя чуткі папаўзлі па гарадах і весях: з ім ваююць, значыць – баяцца.

Разам з пасведчаннем кандыдата ў прэзідэнты Мароз і яго каманда атрымалі магчымасць афіцыйных сустрэчаў з выбаршчыкамі: на стадыёнах, у залах, на заводах і фабрыках. І калі даверлівы і шчыры ў сваёй любові і павазе электарат пачаў сотнямі і тысячамі ўкленчваць перад ім, Мароз канчаткова паверыў у сваю зорку, у сваё месіянства.

І ён не шкадаваў ні сілаў, ні часу, ні пагрозаў, ні ўсмешак, ні абяцанняў.

...І ён – перамог.

І ў сваёй новай ролі выглядаў упэўнена і спакойна.

– Вынікі выбараў я расцэньваю як вотум народнага недаверу ўраду і мясцовай бюракратычнай уладзе, якая тлусцее на народным горы, – адказаў ён на першае журналісцкае тэлефанаванне-віншаванне ў ноч падліку галасоў. – Цяпер краіна зажыве па-іншаму. Мы адбяром усё нарабаванае! Выкінем злодзеяў з заводаў! Народ уздыхне вальней. Цэнзура ў прэсе будзе адменена, як і манаполія дзяржавы на сродкі масавай інфармацыі. Годзе, нацярпеліся хлусні!..

Вярхоўная Дума на сваім чарговым пасяджэнні ўрачыста абвесціла Івана Уладзіміравіча Мароза першым прэзідэнтам краіны. Прэзідэнт прамовіў прысягу, а вечарам усе – нават колішнія ворагі – былі запрошаныя ў рэзідэнцыю на ўрачысты прыём.

У радасцях і эйфарыі, падалося, Мароз і яго каманда не заўважылі, што на інаўгурацыю прыехала зусім мала замежных дэлегацый. Ды і ўзровень іхняга прадстаўніцтва быў не вышэйшым: два спікеры парламентаў краін-суседак, тры віцэ-прэм'еры, а ў астатнім – паслы ды «нафтазацікаўленыя» грамадскія дзеячы...

## III

*1547, 1549, 1551 гады*

Мядовы месяц (праз два тыдні пасля вянчання на царства Іван IV ажаніўся з баярскай дачкой Анастасіяй Захар'інай-Кошкінай) прайшоў для Крамля спакойна, як і два наступныя месяцы. Грашавітыя месцічы

прызвычайваліся да новых правілаў-законаў і амаль не адчувалі зменаў.

Не адчувалі іх і служывыя, даведзеныя за гэты час да галечы і злосці. У Крэмль з розных краёў пайшлі хадакі-чалабітцы. Калі хто з іх здалеў данесці сваю злыбяду да царскіх вушэй – ляцелі галовы, кроў пырскала на лобнае месца, і ўсё зноў аціхала.

І так – два гады. Цар пасылаў у гарады сваіх намеснікаў, а атрымлімваў ад іх лісты са скаргамі на непаслушэнства баяраў. Бездажджлівая вясна прарочыла спякотнае лета і – голад, а казна не паўнела.

Калі разам з клопатамі надакучалі жаночае цела і начныя гульбішчы, ён выпраўляўся на паляванне. Звычайна, як і гэтым разам, у недалёкі ад Масквы Астравок. І дарога добрая, і лагчыны для загону зручныя, і дубы-алешыны высокія – твар не абдзярэш.

Царская выправа яшчэ ехала полем, калі Мацей, прызначаны ўжо галоўным пасцельнікам, узняў каня на дыбкі і гізануў наперад. За ім – з дзясятак ахоўнікаў. І толькі тады Іван заўважыў доўгі, падводаў у сорак, абоз: коні пасвіліся ўздоўж дарогі, калёсы – састаўленыя паўкругам, над імі сівеў дымок кастра.

Мацей вярнуўся праз некалькі хвіль узбуджаным:

– Вашая царская вялікасць... Гэта ад Пскова пасольства. Падпільнавалі, сабакі, на дарозе. Хочуць з вамі гаварыць. На гарадскога намесніка ў іх скарга.

– Зноў?! – выкрыкнуў цар і злосна павялічыў «голыя» – амаль без веяк – вочы. – Я ўрэшце адвучу іх брахаць!

– Вашая царская... Нельга туды! У іх пішчалі і шаблі... – Мацей не паспеў дагаварыць, бо цар прышпорыў каня і рвануў наперад. Дагнаўшы, галоўны пасцельнік паўтараў свае насцярогі, але ў адказ чуў адно:

– Адвучу!!

Пскавічы – разнамасная сябрына баяраў і купцоў – убачыўшы цара, рашуча выйшлі насустрач, укленчылі, некаторыя – хто бяднейшы родам і казной – паздымалі шапкі.

А цар не спыніў каня. Стогн, крык, лямант! Кроў на пажоўклай траве...

– Я адвучу вас плакацца, адроддзе псінае! – цар біў пужкай налева і направа, конь наравіста гізаваў і сполашна таптаў аксамітныя кашулі, ваўняныя каптаны, шоўкавыя аднарадкі, саф'янавыя боты. І – белыя косткі.

– Выслухай, бацюхна!.. – нечая рука ўхапіла за шытую золатам папону, другая – за сядло. – Няма жыцця нашаму люду ад намесніка твайго...

Конь скочыў убок, і просьбіт – маладжавы чорнабароды мужчына – упаў вобзем. На ягонай спіне загулялі бізуны царскіх ахоўнікаў.

Іван ад'ехаў і спыніўся. Часта дыхаў, доўгая галава дрыжэла, раскосыя вочы – як у дымнай павалоцы. Высокія скулы завастрыліся, і пад імі няспынна варушыліся нацягнутыя жаўлакі. Цар шаптаў, нібыта жаваў:

– Адвучу... адроддзе... намеснік мной пастаўлены, і гэта мая воля... Супраць яе пайшлі, з пішчалямі... адвучу...

– Вашая вялікасць, што загадаеце? – гэта быў голас Мацея: пад'ехаў да цара і аддана схіліў галаву.

– Усіх галаваць! Усіх!.. Без суду і правежу! – Лютыя зрэнкі бліснулі скрозь мутную павалоку і апяклі пасцельніка.

Цар уздыхнуў і рукавом сцёр з ілба халодны пот...

Пакуль сцягвалі трупы, ён гарцаваў па пажухлым полі, толькі пыл

курэў з-пад капытоў мокрага каня – як дым. Затым вярнуўся, прыгладзіў узбітыя валасы (шапку згубіў) і загадаў:

– Годзе, адпалявалі. Гайда дамоў!

Рушылі да Масквы. У першай слабадзе з прыдарожным шынком спыніліся спатоліць смагу.

– Нібыта, нарэшце, хмара... – Мацей выцягнуў нізкалобую галаву і глядзеў наперад. – Можа, і дождж будзе?

Шэра-попельнае воблака расцякалася па небакраі, варушылася, гусцела, і нехта з лоўчых, хто яшчэ не паспеў злезці з каня, сполашна прашаптаў:

– Божухна, гэта ж пажар...

Масква згарэла.

Згарэлі царскія і баярскія палаты Крамля, Успенскі сабор, казна, арсенал, два манастыры з цэрквамі, дзевяць бліжэйшых слабодаў.

Згарэлі амаль дзве тысячы гараджанаў. Мёртвы попел пакрыў дарогі і смярдзеў паленай чалавечынай.

Цар схаваўся ў паляўнічым дамку на Вараб'ёвых гарах і нікога да сябе не пускаў. Ні еў, ні піў. Праз драўляную сценку быў чуцён ягоны няспынны шэпт: малітвы, трызненні. А потым загадаў паклікаць да сябе мітрапаліта Макарыя.

– Гасудар, ён увесь нямоглы, – баючыся патрапіць пад гнеў, мякка мовіў Мацей. – Ледзь не згарэў у саборы. Цяпер яго ў Дольнім манастыры выходжваюць.

– Едзем туды!

Мітрапаліт яшчэ не хадзіў. Убачыўшы цара, прыўзняўся на лежаку і прыхінуўся да сценкі. У вачах – спакой і дабрыня.

– Прабач, што не магу стоячы вітаць – ногі пабітыя...

Але цар нібыта і не чуў і не заўважаў анічога наўкол.

– Уладыка! За што пекла такое?! Што мне, акаяннаму, рабіць? – і ён асунуўся на падлогу каля мітрапалітавага лежака. У келлі больш нікога не было.

– Ад нараджэння жыццё чалавечае – пекла, калі Богам не мацуецца. За грахі, за страсці нашыя пакаранне...

– Тысячы жывымі згарэлі – усе грэшнікі?!

– Аб тым толькі Бог ведае.

– А ты... Ты, хто надзеў на мяне цярновы вянок царавання, што-небудзь ведаеш?! – у голасе цара абудзілася злосць.

– На царства вянчаў я цябе ў Божым доме з Божымі запаведзямі. Толькі яны ўратуюць і цябе, і царства тваё... – голас мітрапаліта асіп, з грудзей вырваўся кашаль. Убачыўшы, што госць прыўзняўся і наструніўся, супакоіў: – Нічога, гэта ад агня... Пройдзе.

Але цар, думаючы пра сваё, як не пачуў:

– Дык што ж рабіць мне?

– Не прынось на алтар улады сваёй смерці бязвінныя! – словы мітрапаліта прагучалі ўпэўнена і выразна. – Выпусці з цямніцаў бязвінна асуджаных. За што зланцужаны старац Максім Грэк? А дзед твой Міхайла Глінскі? А сотні іншых?!

Цар нібыта сам хапануў полымя. Глядзеў на Макарыя, на яго густыя абпаленыя бровы, што зрасталіся-сыходзіліся над пераноссем, і ўтрапёна міргаў. А затым быццам абудзіўся і кінуўся да дзвярэй:

– Маліся за мяне, уладыка!

– Пастой... Пастой хвіліну. – Макарый паклікаў паслушніка і папрасіў прынесці цару кнігу. Іван прысеў на лаву і правёў даланёй па драўлянай шкатуле, раскрыў. У скураной вокладцы з трыма зіхоткімі спражкамі быў візантыйскі рукапіс Святога Евангелля ад Яна. – Гэта табе падарунак. Яшчэ Максім Грэк мне пра яго цудадзейнасць казаў. А надоечы сам у тым спадобіўся пераканацца: калі сабор гарэў, яно на аналоі стаяла, разгорнутае... Аналой у агні, абваліўся – а на ім ні знаку. Дык хай мацуе дух і справы твае...

Яшчэ там, у Макарыя, у цёмнай келлі Іван прачытаў першыя радкі Евангелля: *На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам...* Так, прачытаў! Сам!!! Чорныя літары рукапіснага «паўустава» з павеўным нахілам нарэшце скаліся ў ягоных вачах у словы... Словы – у сказ! На цэлы радок!!! Наколькі хапіла руху вачэй і дыхання прашаптаць прачытанае...

Ён з малалецтва баяўся напісанага, кніжнага. Не мог чытаць. За яго тое рабілі нянька, пасцельнік, затым – пісар, дзяк, духаўнік. Яму чыталі ўслых – Біблію, Пчалу, Ступенную кнігу. І ён, сціскаючы вусны ды мружачы павекі, злёту вымагаўся запамінаць пачутае. Сам жа... Сам жа не мог скласці-злучыць літары ў слова. Ведаў іх, мог пісаць і перапісваць. А чытаць, знітаваць – не!

Ён баяўся аб тым прызнацца, саромеўся аб тым гаварыць. І страшэнна пакутаваў. Як нешта адрэзана было ў вачах і галаве. Як перагарэла. Тыкаў пальцам на слова – і запінаўся. Спрабаваў па літарах. Агучваў першую, а як даходзіў да другой – некуды сплывала з вачэй і памяці першая. На іх, блытаючыся, наступала трэцяя, наплывалі, узбіваючы паніку і ўнутраную дрыготку, астатнія... Ён нерваваўся. Калацілася галава. Рукамі сціскаў яе – і тэкст, нават самы невялікі, расплываўся перад ім. Кніга, а таксама стол і табурэт пачыналі хістацца. Станавілася блага, і ён закрываў вочы ды крычаў...

Думалі, у княжыча аслабнуў зрок. Клікалі лекараў, правяралі – усё добра. Пісалі на паперы тыя ж самыя літары – называў-пазнаваў. Пісалі слова – і анічога! Падносілі кнігу – ліхаманкава дрыжэў і ці хаваўся, ці ўцякаў[1].

А тут – як вочы ў ім наноў выраслі. І ў вечаровым прыцемку, і ў сполыхах свечак ён чытаў і не мог спатоліцца: *І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго. Быў чалавек, пасланы ад Бога; імя яму Ян; Ён прыйшоў дзеля сведчання. Каб сведчыць пра Святло, каб усе ўверавалі праз яго...* – перагарнуў некалькі старонак і працягнуў: *Пілат сказаў Яму: значыцца, Ты Цар? Ісус адказаў: ты кажаш, што Я Цар; я на тое нарадзіўся і на тое прыйшоў у свет, каб засведчыць ісціну; кожны, хто ад ісціны, слухае голасу Майго...*

Ён заснуў, паклаўшы галаву на кнігу – як дзіця: соладка і бесклапотна. Дагарала тоўстая свечка, і яе празрыстыя слёзы сцякалі на царскую далонь з залатым пярсцёнкам-пячаткай.

У высокае акно келлі прадзёўбнуўся ранак, а затым жнівеньскае сонца

[1] Падобная хвароба, калі чалавек мае праблемы ва ўспрыманні і разуменні напісанага або друкаванага тэксту, называецца дыслексіяй.

разагнала па кутах прапахлыя драўлянай смалою цені – а ён ціхмяна і супакоена соп, усміхаючыся скрозь сон, ды зрэдку нешта шаптаў. І аніхто – ні Макарый, ні пасцельнік – не насмельваліся будзіць яго. А як толькі расплюшчыў павекі – загадаў нястомнаму Мацею:

– Расшукаць і вызваліць грэка Максіма ды Міхаіла Глінскага! Хачу бачыць іх гасцямі ў доме маім.

Старэйшына янітаў Максім Грэк, разбіты хваробамі, адмовіўся ехаць да цара: «Ад’ездзіўся я за сваё жыццё... Быць мне да скону манастырскім затворцам – там, куды Бог упадобіў патрапіць». А князь Міхал Юр’евіч Глінскі, як выявілася, жыў ужо вольна з сям’ёй у Ржэве. Падумаў, пакуль ганец дапіваў квас – і пачаў збірацца ў дарогу.

Ён, здавалася, сам быў дарогай. Ці дарога – ягоным сэнсам, духам, пульсам. І яе – свабоднай, наталяльнай – ой як не хапала яму ў вязніцы. Вязніцы, куды кінула родная пляменніца, якую гадаваў-няньчыў, якую да шлюбу царскага вёў, якую на сталец маскоўскі падсадзіў – і ў адказ быў абдораны іржавымі кайданамі.

Ды Глінскі не меў крыўды за тое – ні на лёс, ні на пляменніцу. Ён быў іншым чалавекам, злепленым з узнёслай горнай гліны ды закалены духам рыцарства. Яму б са сваімі звычкамі і поглядамі нарадзіцца гадоў на дзвесце-трыста раней – але і на час ён ніколі не наракаў. Гэта цяпер ён сівы і спарахнелы, а некалі... Некалі з дзецьмі Радзівілаў быў выпраўлены з Вялікага Княства на вучобу ў Італію, спасцігаў філасофію і архітэктуру, багаслоўе і астраномію. Ваенную справу неаднакроць даводзілася вучыць на практыцы: браў удзел у некалькіх “дварцовых” заварухах і ўмудрыўся патрапіць у паплечнікі імператара Максіміліяна і Альберта Саксонскага. Да бяспамяцтва закахаўся ў Джулію Кастальдзі, дзед якой, Памфіліё з Фельдры, спрычыняў яго да таямніцаў новай навукі кнігадрукавання.

Не меч, а слова ўрэшце запануе ў свеце! У гэтым быў непахісна перакананы ліцвін Міхал Глінскі. Запануе і пераможа! Легенда ўсё тое са сном прарочым Канстанціна Вялікага: Бог, нібыта, *паказаў* яму перад бітвай з тагачасным уладаром Італіі Максентыем вогненны меч-крыж з надпісам па-старагрэцку «Эв тоута віка!» – «Сімъ победиши!» – «Гэтым пераможаш![1]». Імператар, безумоўна, варты заслугаў за тое, што хрысціянскую веру зрабіў дзяржаўнай і бараніў яе. І сталіцу ў Візантый перанёс з Рыму. І ўзвысіў Канстанцінопаль. Але... Але ці мог усялюбны Бог *натхняць* на забойствы? Тое ж усяму Святому пісьму пярэчыць! Адно любоў і слова Божае і ўратаваць, і перамагчы могуць. Толькі слова трэба ахрысціць агнём, трэба выкаваць яго, як і меч...

Гэтым пераможаш!

Міхал Глінскі нават быў расплакаўся, калі ўбачыў, як выплаўляліся металічныя літаркі, чароўныя ў сваіх люстэркава-няправільных абрысах... Затым іх складвалі ў касы-радкі, касы – у соты-старонкі. Правёўшы афарбаваным валікам, паўвыпуклай цягай адціскалі на паперы...

[1] Першая пісьмовая згадка гэтай фразы дайшла да нас у тэксце Яўсевія Кесарыйскага «Пра жыццё Канстанціна», напісаным на грэчаскай мове: «ἐν τούτῳ νίκα» («Гэтым пераможаш / Гэтым перамагай»). Яе лацінскі варыянт — «In hoc signovinces» («Пад гэтым знакам пераможаш») — стаў крылатым выразам і дэвізам, які часта выкарыстоўваўся ў заходняй культуры. З часам стала шырокавядомай хрыстаграма «IHS», якая адначасова была скаротам лацінізавана-грэцкай формы імя Ісус — IHSOVS (Ιησούς) і абрэвіятурай першых трох слоў лацінскага перакладу фразы «IN HOC SIGNO».

Вынаходства друкарскага варштата прыпісваюць немцу Іагану Гутэнбергу. Першадрукары Іаан Ментэль са Стразбурга, які меў друкарню ўжо ў 1458 годзе, і Пфістэр з Бамберга, і Францыск Скарына з Полацка будуць прызнавацца вучнямі Гутэнберга. Сваё першынства адстойвалі галандцы – і называлі земляка-друкара Костэра. Не адставалі ад іх, натуральна, і італьянцы, аднародзіч якіх Памфіліё Кастальдзі, дзед пані сэрца заблукалага ў часе рыцара-ліцвіна Міхала Глінскага Джуліі, вынайшаў перасоўныя рухомыя літары. Як распавядалі ягоныя дзеці, Кастальдзі не ўбачыў у тым надзвычайнага і «саступіў» вынаходства Фусту, які з сябрамі заснаваў друкарню ў Майнцы. Зяць і прадаўжальнік справы Фуста Петэр Шэфер у «Інстытуцыі Юстыніяна» 1468 года і назваў першадрукарамі Гутэнберга і Фуста. Быў ці не быў ім Фуст, паўплывалі на вызначэнне сваяцкія пачуцці ці не, пабачыў ці не першым друкаваную кнігу-інкунабулу на варштаце пад Майнцам Іаган Бонемантан-Гутэнберг – хто ведае?

У тое Міхал Глінскі асабліва не ўдаваўся. Якая розніца для гісторыі, хто першы пакінуў след-адцінак босай нагі на мокрым беразе, хто прыклаў пячатку на бяросту, пергамен ці паперу, хто аддрукаваў першую кнігу? – калі ўсё тое: і нагу, і бераг, і пячатку з пергаменам, як і саму кнігу – стварыў Пан Бог? Важная, верыў рыцар-ліцвін, толькі перамога – перамога «жалезнага» слова над жалезам мяча...

На некаторы час маладыя інкунабулы адарвалі Глінскага ад таксама нестарой Джуліі, і аднойчы яе прыслужніца перадала кароткую запіску: «Бывай і прабач! Плыву з капітанам Душанам па сваё шчасце...».

Яны не былі вянчаныя, але праваслаўны Міхал, рыхтуючыся да таго, прыняў каталіцызм. А здрады – не прыняў. Ён надумаў сабе, што яго пані сэрца выкраў той капітан з зецкай шхуны і звёз у свае сербскія горы. Міхал кінуўся ў пагоню і праз восем дзён пялёскання на адрыятычных хвалях дабраўся да чарнагорскай Будвы. Адтуль конна – да Бара, схаванага ад мора пагудастымі гарамі і аліўкавымі садамі, прапахлага марскім ветрам і мядовым святаяннікам. У Бары, як распавядалі яму рыбакі, і жыў той крыўдліўца Душан.

Але... з зачараванага мясцовымі прыгажосцямі Міхалавага сэрца нечакана выпала Джулія... Ён закахаўся ў Зету-Чарнагорыю[1], якая хоць і была афіцыйна ў той час пад Асманскай імперыяй, але не пускала ворага ў свае горы, да сваіх старадаўніх манастыроў. У нядаўна заснаваным Іванам Чарноевічам паміж балканскіх хрыбтоў Цэціне – сталіцы краю – ужо трэцяе дзесяцігоддзе працаваў друкарскі дом, якім кіраваў Іванаў сын Джурджэ Чарноевіч. Тут Міхал Глінскі ўпершыню ўбачыў інкунабулы на кірыліцы, пагартаў кнігу палачаніна Францыска Скарыны, якога расшукваў у Падуі ды так пакуль і не пабачыў...

Тут, у праваслаўным Цэціні, ён упершыню вычытаў, што Канстанцін Вялікі, візантыйскі імператар і патрон Канстанцінопаля, нарадзіўся ў Сербіі – на гэтай зямлі! Тут пачуў Глінскі і пра манаха Максіма Серба, які прыйшоў з Афона, натхніў манахаў на кніжную справу і заклаў мясцовы звяз брацтва янітаў.

І ліцвін-летуценнік Міхал Глінскі не мог не зліцца з імі! Апантаны рыцарскім служэннем, ён выправіўся на радзіму, наведаў Навагрудак,

---

[1] У другой палове XV – пачатку XVI стагоддзяў падчас праўлення дынастыі жупанаў Чарноевічаў старажытная назва дзяржавы Зета пачала мяняцца на Чорную Гару – Чарнагорыю.

Полацак, Вільню. Нарэшце пазнаёміўся і зсябраваўся са Скарынам, і калі першадрукаром былі дацiснутыя і пераплеценыя новыя кнігі Біблii, а на маскоўскі сталец узышла пляменніца Міхала Глінскага Алена – прапанаваў накіраваць частку друкаваных кніг у Масковію.

Хто ж мог ведаць, што з таго станецца? Што тыя кнігі, упершыню даступныя і мовай, і колькасцю – будуць названыя ерэтычнымі ды спаленыя на крамлёўскім пляцы? А яніт Максім Грэк, афонскі інак, які таксама прайшоў вучобу ў Падуі і Фларэнцыі, будзе асуджаны на тамтэйшым царкоўным саборы за нібыта няправільныя пераклады кніг Божых ды высланы ў Іосіфа-Валакаламскі манастыр.

Зрэшты, аніхто не мог спарочыць тады і незайздросную долю самога Міхала Глінскага...

І вось цяпер ён, стары і нямоглы – перад налітым маладосцю, але таксама змораным ліхімі месяцамі стрыечным унукам і гасударом, царом і вялікім князем Іванам IV.

Ён шматкроць уяўляў сабе гэтую сустрэчу – ці не з самага Іванавага нараджэння. Вымалёўваў яе ў сваіх вязніцкіх мроях, першыя фразы размовы прыдумляў, на памяць завучваў – нават калі і веру ў тое спатканне на гэтым свеце страціў. І вось – здзейснілася...

Глінскі, высахлы ў порхаўку, сівы, як лунь, торапка агледзеў часовае царскае прыстанішча – невялікі пакой паляўнічага дамка, рашуча ступіў некалькі крокаў наперад (Іван сядзеў за сталом тварам да яго), перахрысціўся, гледзячы на іканастас у простым бярвенным куце, і пакланіўся яму. Ступіў бліжэй і пачаў з даўно прыгатаванага:

– Троице пресущественная и пребожественная и преблагая праве верующим в тя истинным хрестьяном, дателю премудрости, преневедомый и пресветлый крайний верх! Направи нас на истину Твою и настави нас на повеления Твоя, да возглаголем о людех Твоих по воле Твоей...

Іван здзівіўся і павялічыў вочы:

– Міхаіл Юр'евіч, гэта ты?

Госць усміхнуўся, пераступіў з нагі на нагу:

– Я, каму ж быць та... Б'ю чалом майму дабрадаўцу, – і злёгку нахіліў галаву.

– Сядай, перакусі з дарогі.

– Ды дзякуй, вялікі князь, не есца мне ўжо ў мае гады. Ды й адвык, прызнацца. Аказваецца, і хлеба з вадой чалавеку ўдосталь можа быць.

Іван нахмурыў высокі лоб, нагнаў на твар ранніх маршчынаў і прапёк Глінскага вуголлем-зрэнкамі:

– Крыўдуеш, значыць? Як на ваўка на цара глядзіш?!

Госць усміхнуўся, марудна адставіў услон і сеў насупраць Івана; з-пад старэча-дрыготкіх брывін спакойна глянулі блакітныя вочы:

– За што крыўдаваць? Я і на маці тваю, царства ёй нябеснае, аніколі кепскага не падумаў. Нават калі ў вязніцы пацукі мае пяткі грызлі. А цяпер вось радасць сэрца маё перапаўняе, радасць – шчыра кажу, – што Бог і воля твая дазволілі на схіле дзён маіх сына яе першароднага пабачыць...

– Крыўду маеш, нутром чую, – перабіў яго Іван.

– Не. Не і не! Пабажыцца нават магу.

– Не паверу!

– Твая воля, – Глінскі ўздыхнуў, зноў усміхнуўся і зірнуў у высокае авальнае акно над Іванам, памаўчаў і дадаў ужо нібыта й не сваім голасам:

– Са свайго доўгага вопыту вынес я галоўную ісціну, якая, спадзяюся, і працягвае доўжыць дні мае: жыццё ёсць таямніца, а смерць – рэч звычайная. І крыўда – яе памагатая. Крыўда – агонь злосці.

Іван здзіўлена адхінуўся да спінкі. Глядзеў уважліва і маўчаў.

– Так, крыўда і злосць – памагатыя смерці, бо душу нашую, як вусені кветку, грызуць... І пераконваюць нас, што не ўсё ад Бога. А ад Усявышняга ўсё, акрамя крыўды й злосці. Таму няма іх у мяне і не было. Усё ад Бога. І валасінкі з нас не ўпадзе без Ягонай волі! Хто ведае: можа, калі б не мая вязніца – не гаварыць бы мне з табой, вялікі княжа?

Іван у адказ неўразумела выцягнуў шыю.

– Так! Можа, быць мне растаптанаму азлобленым натоўпам на прыступках Успенскага сабора, як і пляменніку майму Юрыю? Хто ведае, можа і на мяне б сведчыць пачалі, што пажар вадой варажэйскай з ім на Маскву навёў?

Іван задаволена хмыкнуў і загаварыў:

– Бачу праўду ў вачах і словах тваіх. Веру табе, як крыві і целу роднаму. А таму і паклікаў цябе, Міхаіл Юр'евіч, каб парады спытаць, каб у часіну цяжкую да пляча блізкага прыхінуцца.

– Слабое, на жаль, цяпер плячо тое...

– Затое розум моцны! – Іван рэзка ўскочыў і пацiснуў суразмоўцу рукі. Зірнуў вузкімі вачыма прасветлена, нават задрыжэлі веі: – Будзь госцем маім! Калі ад пачосткі адмовішся – загадваю пір у твой гонар! А перад тым, пакуль зрыхтуюць усё, запрашаю ў лазню: змыць і пыл дарожны, і думы вязніцкія...

Гасцёўню – сцены якой былі абабітыя скурамі, а пасярод стаяў доўгі стол – напаўнялі пахі часнака і зялёнай цыбулі, у іх дамешваліся дымныя водары печанай рыбы й смажанай дзічыны.

Іван і Міхал увайшлі бадзёрымі, расчырванелымі, у аднолькавых даўгаполых вішнёвых каптанах – толькі целы розніліся на паўвеку...

У місах і сподах былі прыгытаваныя печаны дзік, абсыпаны зелянінай, смажаныя перапёлкі ў пярцовай падліве, галовы шчупакоў з натаркаванай рэпай, юшка з шафранам, заечыя ныркі ў смятане з імбірам... Дубовыя кубкі поўніліся налiўкамі. У вялікім срэбным збане над кубкамі і карцамі чакала чырвонае рэйнскае віно. З яго і пачаў Іван пачостку:

– Прашу паспытаць: «Петэрсімона», найлепшыя лекі ад стомы і ліха! Галандскі купец адмыслова ў Маскву прывозіць.

Яны стоячы прыгубілі – і прыселі. Глінскі адламаў ад хлебнай лусты краец і доўга моўчкі жаваў. Іван уважліва назіраў за ім і піў.

– Ты мовіў, княжа, што хацеў у мяне, грэшнага, парады спытаць. Разумею, што пачуць хочаш, як далей жыць-кіраваць. Дык калі не перадумаў, магу нешта падказаць...

– Давай! – цар адставіў кубак і сплёў на грудзях свае доўгія рукі.

– Што ж, слухай. Толькі не крыўдуй, калі што не да душы прыйдзецца...

– Гавары!

– Стольны град твой – пад попелам. Народ – у голадзе. А што ў цябе перад вачыма? – твар Глінскага раптоўна стаў грозным. Цар глядзеў на яго спакойна і маўчаў. – Што?! Падобнай раскошы я не бачыў і ў Максіміліяна ў яго лепшыя часы! Зрабі першы крок: аддай усё гэта прасталюду маскоўскаму, які цяпер лебяду есць з гарэлай чалавечынай!

– Аддам, – раптам спакойна сказаў Іван. – І што далей?

– А далей заві ўсіх – і галыцьбу, і баяраў, і дзякаў – на адбудову горада. І сам тую працу ачоль, каб народ бачыў.

– Ачолю... – цар падсунуўся бліжэй да стала. – А затым?

– Затым сход збірай, сабор рыхтуй, раду склікай, як тое некалі слаўныя продкі рабілі – і ў вочы люду глядзі!..

...Праз два гады на Чырвонай плошчы перад адбудаваным наноў Крамлём не было дзе ўпасці шапцы. На вялікі Сабор з’ехаліся служнікі, пашныя, соцкія і дзясятнікі, дзякі і дыяканы, намеснікі і старожнікі з усіх гарадоў і ўдзелаў.

Цар стаяў на ўзвышэнні пасярод Саборнага пляца і прамаўляў гучна, узбуджана. Гаварыў пра пачатак новага жыцця для дзяржавы, пра злачынствы баяраў і ліхвярствы купцоў, абяцаў пакласці таму канец – у імя справядлівасці і любові. А напрыканцы, агледзеўшы ўзрушаны натоўп, звярнуўся да мітрапаліта:

– Малю цябе, святы ўладыка, будзь маім памочнікам у гэтай справе! Ты ведаеш, што я застаўся без бацькі ў чатыры гады. Родзічы не клапаціліся пра мяне... Яшчэ хлапчуком я сеў на царскі трон. Баяры ж адно кроў пілі – маю і вашую... – Іван уздыхнуў і правёў рукой над плошчай. – Ліхаімцы і суддзі, які дасце цяпер адказ за тыя слёзы і кроў?! – Ён узняў галаву да неба, затым марудна пакланіўся на ўсе чатыры бакі і пранікнёна закончыў: – Малю й цябе, народзе Хрыстовы, аб дараванні маіх грахоў, бо толькі адзін я найперш вінен перад Богам і вамі за ўсё здзейсненае на гэтай зямлі. Даруй і забудзь зло і несправядлівасці, бач ува мне свайго суддзю і заступніка!

Натоўп застагнаў, загуў, заварушыўся і пачаў хвалямі падаць на калені – ад царскага ўзвышэння да апошніх шэрагаў, якія, магчыма, мала што і чулі з прамоўленага...

## 3

*Пасля выступлення ва ўніверсітэце ён загадаў ехаць у загародную рэзідэнцыю Вараніха. Пачуваўся незадаволеным і стомленым. Да ўсяго напала нейкая гідкая трывога, няўтульнасць...*

Сустрэча аказалася непадрыхтаванай, не хочацца думаць – правакацыйнай. Ну некалі ж і ён быў студэнтам, і таксама – не мядовым. Але каб так... І адкуль у іх столькі бравады, палітыканства, ліхасці нават? Дзяржава ім стыпендыі, інтэрнаты, а ў адказ?

Адказваць, зрэшты, сёння мусіў ён, а студэнты пыталі. Напачатку пра будзённае, асабістае, тое, напэўна, што куратары падрыхтавалі. А потым і паехала: чаму прэзідэнт не выканаў сваіх абяцанняў у тым і тым, дзе справы па казнакрадах ды карупцыянерах? Чаму год таму на стыпендыю яны маглі дваццаць разоў паабедаць у сталоўцы, а цяпер і на пяць не хапае? І гэтак далей! Усё роўна як не ў дзяржаўным універсітэце пабыў, а на сходцы апазіцыйнай партыі! «Дарэмна паслухаў Зайца, – падумаў прэзідэнт, – хай бы б сам і круціўся на той сустрэчы! Ды і рэктар – той яшчэ фрукт! І не выганіш жа адразу»...

Ён незадаволена ўздыхнуў і зірнуў у зацемненае шкло. Будынак банка, прыпынак, гадзіннік перад уваходам у метро...

– А што гэта столькі людзей на вуліцы? – неўразумела прагаварыў нібыта сам сабе, а памочнік Жакей ужо дастаў свой сотавік і пачаў выведваць. (Калі б памочнік не меў такога прозвішча, яго б трэба было прыдумаць. Яно служыла і пашпартнай пазнакай, і мянушкай. Прычым – з падвойным сэнсам. Жакей – ён і нястомны «вершнік», паразітам з вуснаў якога не сходзіла «галопампаяўропам», ён – да ўсяго – і ненасытны каваман. Аніхто не мог даўмецца: як у яго ўлазіць столькі кавы? Думалі, што той напой ужо і ў ягоных венах. А любімым гатункам была, натуральна, кава «Жакей»...) – «Маладзец, на ляту ловіць...», – прамільгнула задаволенае, і ўадначас згадка, якую прэзідэнт аніяк не мог дасюль выспеліць, патлумачыла нядаўнюю трывогу. Так, гэтая дзеўчынёха, што цыдулкі з пытаннямі перадавала! Чарнявая, даўганогая, з пульхнымі вуснамі ды ямінкамі на шчоках... Рыхтык як яго колішняя студэнцкая стрэмка Томка! Трэба ж...

Паспрабаваў падумаць пра штосьці іншае, зноў зірнуў за шкло, – машына праімчала па запоўненым гараджанамі праспекце, звярнула да кальцавой, – а ўспаміны неадступнай залевай хлынулі на яго.

Томка-Томка... Дзе ты, што ты?

Яны раззнаёміліся восенню «на бульбе» і пасля трох курсаў вучобы думалі распісацца. Томка хварэла ім, была нібыта зачараванай, штодня выштукоўвала нейкія прысмакі-вячэры. Хм, маладосць... Ён жа, кідкі чарнявы высачун, за спіной якога была служба ў войску, які не раз і біўся за яе на інтэрнатаўскіх танцах, урэшце выбраў напрыканцы вучобы не адданую стромкую Томку з далёкай лясной вёскі, а паўнаватую дачку міністра архітэктуры і будаўніцтва... І прапіску атрымаў, і з працай склалася, і кватэру, калі дачка нарадзілася, займеў... А вяселле якое тады цесць адбарабаніў: у рэстарацыі на беразе рэчкі, з аркестрам і ці не сотняй запрошаных! Праўда, запрошаных з боку нявесты, бо з яго, жаніха, боку былі толькі сведка – аднакурснік Уладзя Ролікаў (стаў кандыдатам гістарычных навук, а цяпер ссучыўся і ўзначальвае апазіцыйную Народную лігу) ды сват – кіраўнік дыпломнай прафесар Мікалай Заяц... Бацька на той час ужо дзесяць гадоў быў у зямлі, а маці-вяскоўка непрасыпна піла. Ну як такую за пашанотны стол?..

Так вось і пайшло. З аспірантурай, як ні стараўся Заяц (у якога сваіх дзяцей не было і які ці не сына ў ім бачыў), не склалася, ехаць па размеркаванні «за далёкія горы» не дазволіў цесць – і прыстроіў парторгам ва ўніверсітэцкі Інстытут прамысловасці і сельскай гаспадаркі. А калі партыя развалілася, ён ужо сам пра сябе паруліўся: з інстытуцкага парторга стаў дырэктарам – і на ўсё наваколле праславіўся гаспадарнікам. Ды і як было не праславіцца? Інстытут эксперыментальны, сотні лабараторый і прадпрыемстваў на яго працавалі. І з дзяржбюджэту падтрымліваўся. Заставалася толькі за дысцыплінай сачыць ды вышэйшае старое начальства не падводзіць. Лазня добрая з'явілася, у якой патрэбныя людзі адпачывалі... Ну і свінінкі, памідораў-агурочкаў нікому не шкадаваў, калі на магазінных прылаўках апусцела. І пайшоў далей, абраўся ад сваёй акругі народным дэпутатам...

А Томка... Аніразу пра яе не пацікавіўся – як адрэзаў ад свайго лёсу. І вось ледзь не яе дакладную копію сустрэў. І – зноў ва ўніверы!

Ён абудзіўся, нярвова пастукаў далонямі па скураным падлакотніку і хацеў было звярнуцца да памочніка, але той адвёў ад вуха слухаўку і залепятаў:

– Іван Уладзіміравіч, гэта забастоўка. Метрапалітэн стаў, а машыністы патрабуюць павышэння заробкаў. Вось народу на наземных прыпынках і сабралася...

Прэзідэнт неўразумела ўтаропіўся ў памочніка, а той чакаў новага пытання і, лыпаючы вачыма, дадаў:

– Я з мэрам звязаўся, а затым пазваніў Керзан і пацвердзіў. У яго сабралася нарада з міністраў-сілавікоў. Хоча Вам асабіста далажыць і ўдакладніць магчымыя дзеянні...

Картэж з трох аграмадзінаў-джыпаў, дзвюх машынаў спецупраўлення ДАІ «Маланка» ды броніраванага «Мэрсэдэса» пад нумарам 1 ужо нёсся па прыгарадзе, за акном – рэдкія «хрушчоўкі»-трохпавярховікі ды чэрвеньская зеляніна, ад якой было цяжка адарвацца, як, зрэшты, і ад нечаканых успамінаў, а тут: далажыць, удакладніць!

Сваю незадаволенасць прэзідэнт і выказаў у слухаўку старшыні Службы дзяржаўнай бяспекі:

– Віктар, якая на хрэн забастоўка?! Які метрапалітэн?!!

– Іван Уладзіміравіч, сітуацыя неадназначная... Машыністы раніцай адмовіліся выходзіць на лінію. Народ мусіць цісноцца па аўтобусах і тралейбусах. Мы вывелі максімальную колькасць парка, але ён не спраўляецца. На прыпынках чэргі і азлобленасць. Даём інфармацыю, што ў метро збой на электралініі. Адначасова адпрацоўваем службы метрапалітэна, – нарэшце ў дакладзе з'явілася кароткая паўза; Керзан глыбока ўздыхнуў і завяршыў: – Машыністаў падтрымаў прафсаюз чыгуначнікаў. Натоўп незадаволеных колькасцю да тысячы мітынгуе на плошчы і, па апошніх данясеннях, збіраецца ісці да Дома ўрада...

– Работнічкі, вашую макаўку! – невядома на каго – ці на забастоўшчыкаў, ці на спецслужбы, ці на ўсіх разам – крыкнуў прэзідэнт і, загадаўшы павярнуць картэж назад, забасіў у слухаўку: – Усіх спакойна выціснуць з плошчы! Завадатараў-актывістаў арыштаваць! Працу метро аднавіць!

– Ёсць! – пачулася ў слухаўцы. – Усё зробім, толькі... з метро праблема. Няма машыністаў і дыспетчараў, ды і сука начальнік метрапалітэна на плошчы...

– Хоць сам са сваімі ахламонамі, калі такое прафукалі, у цягнікі садзіцеся ды катайцеся! Ці ты мне прапануеш?

– Н-у-у...

– Ну-гну! Рабацяг з прыгарадных электрычак знявіце, з іншых рэгіёнаў перакіньце... Хоць з Поўначы! Словам, каб праз паўгадзіны саставы пайшлі. А не – усе пойдзеце. І гэта... Тога начальнічка метро ды іншых актывістаў, паўтараю, упакуй!..

З набліжэннем да цэнтра сталіцы нават зрокава адчувалася напруга: народ тоўпіўся на прыпынках-мурашніках, тратуары ператварыліся ў людскія рэкі, на прылеглых да перакрытага праспекта вуліцах цягнуліся доўгія заторы.

Картэж спыніўся каля станцыі «Цэнтральная». Уадначас з ахоўнікамі жвава выскачыў з машыны прэзідэнт ды, колка зірнуўшы наўкруг, па-мядзведжы пасунуўся да аўтобуснага прыпынка: заграбаючы рукамі, разводзячы пяты і стульваючы насы чаравікаў – нібыта футболячы штосьці нябачнае. Вялікая прадаўгаватая галава ў такт крокаў гушкалася на шырокіх плячах пад дарагім даўгаполым пінжаком, які крыху хаваў непрапарцыянальнае тулава: здавалася, грудная клетка была наўпрост падагнаная па аб'ёме і

ўстаўленая ў таз (а можа, усё выглядала так праз падоўжаны і прыхаваны адзежай бронежылет?). Гарадчукі не паспелі параскрываць ад здзіўлення раты, а прэзідэнт ужо гаварыў:

– Дарагія мае, я вымушаны прасіць у вас прабачэння за часовыя нязручнасці. Як вы ўжо, напэўна, ведаеце, адбылася правакацыя ў метро. Некаторым апазіцыйным актывістам, гэтым ролікавым-шмолікавым, падбухтораным замежнымі фондамі і разведкамі, надакучыла спакойна працаваць! Зарплатай, як мне далажылі, яны незадаволеныя! Зарплатай амаль міністэрскай! Многія з вас аб ёй яшчэ толькі мараць! – з кожным словам голас набіраў моцу і напаўняўся сталёвымі нотамі. – Зажраліся і пайшлі мітынгаваць на плошчу! Я ім, бачыце, перастаў падабацца! Ну хай яно і так, я ж не дзеўка, каб усім падабацца, але пры чым тут вы?! Якое яны маюць права спыняць працу метро – стратэгічнага для нашай сталіцы аб'екта?! Чаму вы павінны з-за іх пакутаваць на спёцы ды плішчыцца ў аўтобусы?! Ды і хто аплоціць прадпрыемствам ды заводам страты ад вашых спазненняў? – Прамоўца кашлянуў і закончыў мякчэй: – Паверце, мы паставілі на лінію ўвесь наземны транспарт, але яго не хапае... Яшчэ колькі хвілін – і метро пойдзе. Мы навядзём парадак і разбяромся з віноўнымі.

Прэзідэнт загадаў пасадзіць у машыны свайго картэжа, нават у «даішныя», старых, дзяцей ды жанчын і развозіць іх па горадзе, а сам у суправаджэнні нябачных ахоўнікаў пешшу пашыбаваў да будынка Адміністрацыі – у здзіўленых, захопленых, любоўных і адданых позірках электарату.

А калі праз паўгадзіны ў кабінет увайшоў памочнік Жакей і далажыў аб тым, што тэлефануе і просіць сустрэчы намеснік кіраўніка Адміністрацыі па гуманітарных пытаннях Заяц, прэзідэнт пакусаў ніжнюю губу і сказаў раздражнёна:

– Перадай, хай лепш заўтра... Перакажы пра маю сустрэчу на прыпынку... Хай там тэлебачанне падключыцца, адэкватна пра забастоўку раскажа. – Памочнік матнуў галавой і намерыўся ўжо было ісці, але прэзідэнт ткнуў у яго пальцам і прыпыніў: – Ты гэта... Я яшчэ ў машыне хацеў сказаць... Там, ва ўніверсітэце, дзеўчынёха мне цыдулкі з пытаннямі перадавала. Даўганогая такая, брунэтка... – Яго вочы ўраз пабольшалі, а ў зрэнках з'явіліся агеньчыкі. – Разведай, словам, хто і адкуль. Ну і сам разумееш, што...

## IV

*Лета – восень 1552 года*

Нябачаны дагэтуль чалавечы паводак зліваўся да берагоў Масквы. Меншыя ручаіны акрайных ваяводстваў цяклі да Волгі і расцягваліся ў размаітую плыню на дзясяткі вёрстаў: вершнікі з шаблямі і лукамі, стральцы з мушкетамі і сякерамі, кананіры з абозамі гарматаў і зелля-пораху, зачыншчыкі і гранатчыкі, драўляныя гуляй-гарады, атрады пішчальшчыкаў у высокіх шлемах-шышаках, пяхота з пікамі, мячамі ды шчытамі, нарэшце – раць-пасошнікі, закліканыя ў набор з усіх гарадоў і весяў, абознікі і святары. Хто берагамі ці дарогамі, калі яны былі, хто вадой на лодках і плытах, – усё варушылася, гохкала, тупала, скрыпела, друзгала, плёхала ды мкнула да высокіх сценаў Казані – каб у адзіным наплыве змыць мусульманскае іншаверства і атушыць на маскоўскай зямлі татарскія пажары.

Гэта быў ужо трэці за чатыры гады паход. Два папярэднія не дасягнулі

выніку: выступалі восенню, зіма ахалоджвала ваярскі пыл, гарматы і людзі патаналі ў вадзе і снезе. Кусаючы ў цёплых палацях ад бяссілля вусны, цар даваў загад на адступленне. Адзіная заваёва – збудаванне гарадка-цвержы Свіяжск на сутоку Волгі і Свіягі недалёка ад Казані. Але ён стаў бяльмом на татарскіх вачах і мог быць у любы час знішчаным.

Вясной у Маскве сабралі вялікую баярскую раду, і яна прапанавала адмовіцца ад вайны, здзейсніць урачысты перанос святых машчэй з Дабравешчанскага сабора ва Успенскі ды паслаць у Свіяжск асвечанай над імі вады. Цар жа прыслухаўся да слоў сваіх найбліжэйшых людзей – Андрэя Адашава і князя Івана Курбскага. Вырашаецца будучыня ўсёй Маскоўскай дзяржавы, пераконвалі яны. Ці мы пераможам цяпер, ці ніколі. А Эдзігер-Магамет, калі яго не спыніць, аб'яднаецца з крымчакамі і можа пагражаць новым ігам. А таму – трэба спяшыць, цар, і самому табе ўзначаліць паход...

16 чэрвеня 1552 года Іван IV перадаў уладу ў Маскве ў рукі цяжарнай царыцы Анастасіі і выступіў на Казань. Шэсць палкоў – Перадавы пад ачолам Адашава, Вялікі Курбскага, Правай і Левай рукі, Старажавы і Царскі – павінны былі напрыканцы жніўня сустрэцца перад Свіяжскам.

Дарога была цяжкай і спякотнай. Яна зацягнулася да восені, і толькі 11 верасня маскоўскія палкі пачалі абступаць Казанскія сцены, якія з трох бакоў надзейна атулялі рэчкі Булак і Казанка, а з Арскага поля – глыбозны роў. І падвойныя дубовыя сцены ў сем сажняў таўшчыні, засыпаныя знутры пяском і каменнем.

Перадавы маскоўскі атрад быў ушчэнт разбіты яшчэ на подступах да горада, а затым узлютавала бура, раскідаўшы шатры царскага лагера, разбіўшы і патапіўшы на Волзе шмат лодак з правізіяй. Дождж ліў беспрастанку некалькі дзён, і кананіры пачалі баяцца за порах. А цар нястомна маліўся, а потым загадаў абнесці ўсе палкі цудатворным крыжам, які перад паходам падарыў яму мітрапаліт Макарый.

І дождж сціх. Зноў вызірнула сонца, і гэта надало маскоўцам рашучасці. Заварушыўся чалавечы мурашнік, загохкалі сякеры, на полі ўзняліся гуляй-гарады – драўляныя туры з высокімі платамі. На ірвы і рэкі леглі масты, а ў рэкі ды ірвы – працятыя стрэламі целы...

Казанцы адказалі на грамату аб здачы горада ярай вылазкай. Іх удар прыняў на сябе Вялікі полк Курбскага. Шалёная лавіна з дзікім крыкам і шаблевым лязгам прайшла да сярэдзіны стану і захлынулася ў сваёй і чужой крыві. Парэшткі яе адступілі, з паўсотні – большасцю параненыя – сталі палоннымі. Іх выставілі перад доўгай сцяной збоку Арскага поля і паслалі другую грамату: біце чалом гаспадару цару і вялікаму князю маскоўскаму – і будзеце жыць, а не – жывот свой бясслаўна закончыце. У адказ «няверным свінаедам» была накіраваная брудная лаянка, і палонных на вачах абаронцаў забілі.

1 кастрычніка – у Пакроў Святой Багародзіцы – цар загадаў служыць прасвітарам і пяўцам ранішнюю ў гонар Ісуса Хрыста, а з абложаных сценаў у адказ загучалі малебны да прарока Магамета з просьбамі ратавання ад нячыстых паганцаў. Адны кляліся аддаць жыцці за веру і цара, другія – за Алаха і свой юрт.

А на другі туманны ранак грозна затрубілі сурны і забарабанілі накры. У самую доўгую сцяну з боку Вялікага палка пачалі біць дзясяткі гарматаў. Зямля задрыжэла пад нагамі, і калі вецер раздзьмуваў па наваколлі серна-сівы дым, былі відны на Казанцы некалькі водных тураў – везлі

да сценаў бочкі пораху і атрад зашчыншчыкаў, каб па загадзе ваяводы Курбскага зрабіць падкоп і ўзарваць паўночную сцяну. Кананіры рыхтавалі валкамёткі; пешыя пішчальшчыкі, хаваючыся за драўляныя завесы, падступілі да цвержы і лілі на абаронцаў свінцовы град.

Ноччу ўсё аціхла, а на світанні Іван, накінуўшы паверх калантыру – на залачоныя латы – доўгі шэры плашч, прыйшоў разам з неадлучным Мацеем у шацёр-цэркаўку, узведзеную пасярод Старажавога і Царскага палкоў. Гучала літургія.

– ...Воеже покорити под нози его всякого врага и супостата! – узнёсла спяваў рослы жаўтавалосы дыякан з драўляным крыжам на грудзях – і ў той момант сцены і свечкі ўздрыгануліся, і здалося, што неба абвалілася на зямлю.

Усе прысутныя ўпалі на калені і пачалі жагнацца.

– Гэта ў падкопе зелле ўзарвалі... – прашаптаў на царскае вуха Мацей.

– ...Пашлі анёла свайго пераможнага, – узвысіўшы голас, працягваў дыякан, – як некалі да Ісуса Навіны дапамагчы разбурыць сцены Ерыхонскія. Ерыхон паў ад гукаў трубаў і крыкаў войска. О Прасвятая Багародзіца! Дапамагай і нам, грэшным рабам тваім, і малі Уладыку Хрыста, Бога нашага, хай пашле нам перамогу на праціўныя...

І зямля другі раз узварухнулася ад выбуху – яшчэ больш магутнага і страшнага. І загулі над ёй чалавечыя крыкі і клічы. Палкі пайшлі ў галоўны наступ, а ў цэркаўцы працягваўся малебен.

Іван скамянела глядзеў на дыякана і штосьці нячутна шаптаў. Мацей некалькі разоў далікатна спрабаваў звярнуць ягоную ўвагу на ўзбуджанага ганца:

– Гасудар, Вашая Вялікасць!.. Падкоп атрымаўся. Сцяна ўпала... Перадавы полк і полк Правай рукі ўварваліся ў горад!

У царскіх вачах успыхнула радасць.

– «И бе едино стадо и един пастырь», – прашаптаў ён і зноў аддаўся малітве.

– Гасудар, час ехаць... Твае людзі і твой полк чакаюць цябе.

– Няма сілы мацней, чым слова нябеснае, – адказаў Іван, марудна наблізіўся да алтара і прачытаў малітву Гасподнюю. Усе, акрамя Мацея і некалькіх святароў, выйшлі з цэркаўкі.

Праз паўгадзіны з'явіўся другі ганец:

– Наступ слабее. Татары не здаюцца... Ваяводы і войска клічуць цара!

Іван глыбока ўздыхнуў. У ягоных вачах зазіхцелі гарачыя слёзы:

– Хрыстос Усемагутны, яві нам заступніцтва сваё!

Але словы згубіліся ў гарматных выбухах і стрэлах пішчаляў...

Сонца ўжо вісела над Арскім лесам, але – нібыта ашаломленае пякельным дзействам пад сабой – вышэй узнімацца не спяшала. Марудзіў і цар. Ён прыклаўся да цудатворнага вобраза Сергія, выпіў святой вады, з'еў прасфіры, папрасіў у свайго паходнага духоўніка дабраславення, а ў святароў – даравання грахоў. Зноў памаліўся, і тады загадаў Мацею падаць каня.

Калі Царскі полк перайшоў мост праз Булак і падступіў да сцяны, над дзвюма вежамі ўжо ўзнімаліся маскоўскія сцягі. Бой ішоў у горадзе, у вузкіх вулках, цесных ад наваленых трупаў. Пасля апоўдня бітва пачала затухаць. Некалькі сотняў крымчакоў, пасланых на падтрымку казанцаў,

змаглі на конях вырвацца да валу, перайшлі праз брод Казанку, знішчылі тылы палка Правай рукі – і зніклі ў лясной гушчэчы.

А Казань перайшла да царскіх дружынаў. Апошняй захапілі мячэць – і забілі ўсіх іярэяў. Не пакаралі толькі жанчын і дзяцей – збіралі ў палон.

Расчырванелы Андруша Адашаў, скінуўшы шлем і завязаўшы змакрэлыя рудыя пасмы стужкай, прынёс Івану высокі крыж – і цар усталяваў яго на тым месцы, дзе яшчэ нядаўна лунаў сцяг казанскага хана.

– Быць тут царкве Хрыстовай! – бадзёра ўзносячы свой погляд у вечаровае неба, сказаў Іван і запрасіў усіх да малітвы за жывых і загінулых, пасля якой дапамагалі параненым, выстаўлялі варту і рыхтаваліся да агульнай царскай трапезы.

Прызначыўшы ў горадзе свайго намесніка, ужо назаўтра Іван вырашыў вяртацца ў Маскву. За ім выпраўлялася і войска – акрамя Старажавога палка, які заставаўся на зімоўку.

– А хто той дыякан, пад словы якога ўзрываліся сцены? Высокі такі, русы, з драўляным крыжам? – пацікавіўся нечакана перад сном Іван. Мацей шморгнуў носам і прабасіў:

– Дазволь выведаць, гасудар?

– Выведай-выведай... І запрасі яго назаўтра ў мой абоз – хачу дарогай з ім пагаварыць.

...Дыякана Іаана расшукалі толькі падчас дарогі, перад Уладзімірам, конна даставілі да чарговай стаянкі і прывялі ў царскі шацёр. Яго блакітныя шчырыя вочы пад чорнымі, як смоль, брывамі і доўгімі – як крыльцамі матылька – веямі хавалі неспакой. Абнечаканены і збянтэжаны, ён перахрысціўся:

– Гасудар пажадаў бачыць мяне, грэшнага...

Цар прыціснуў даланёй танклявую бародку, схіліў набок галаву і праццяў госця цяжкім поглядам. Затым усміхнуўся і запрасіў дыякана прысесці.

– Хто ты і адкуль, і колькі гадоў маеш?

– Іаа́н Фе́дaравіч, дыякан крамлёўскай Мікольска-Гостунскай царквы.

– У якой старадаўні абраз святога Міколы?

– Так.

– Жанаты?

– Жанаты, гасудар. Двое сыноў-пагодкаў растуць... А сам уроджаны трыццаць тры гады таму ў Літве. Вучыўся ў Італіі багаслоўю і друкарскай справе...

– А як у Маскву патрапіў?

– Князь Глінскі Міхаіл Юр’евіч, царства яму нябеснае, – жоўтавалосы дыякан зноў перахрысціўся, – з ліста ад свайго падуанскага сябра Касцільдзі дачуўся пра мяне, земляка, і ў Маскву запрасіў.

– Хм... – цар задумаўся. – Добрым чалавекам Глінскі быў. Бачыўся я з ім, пра Сабор агульны гаварылі, а два дні да яго не дажыў... – І перакінуўся на іншае: – Дык, кажаш, друкарству вучыўся. А навошта?

Суразмоўца пракаўтнуў даўкі камяк, і голас ягоны загучаў мацней:

– Веру, гасудар, што ў друкарскай кнізе вялікая сіла тоіцца. Сіла, якая зменіць да лепшага наш грэшны свет...

– Да лепшага?

– Так, бо зможа да многага люду паспалітага дайсці. І Хрыстовую навуку, і запаветы светлыя пашырыць.

– Думаеш, як і Глінскі з Максімам Грэкам, што тых кніг на землях маіх недастаткова?

– Слова Божага, гасудар, ніколі многа не бывае, – мякка, каб не разгневаць, адказаў дыякан Іаан.

– Мацей! – паклікаў цар свайго пасцельніка і ахоўніка. – Клікні да мяне Віскаватага! – а затым яшчэ раз уважліва зірнуў на дыякана і зноў спытаў:

– А там, перад наступам і падзеннем Казанскай сцяны – ты чаму якраз адпаведныя словы спяваў? Пра разбурэнне сценаў Ерыхонскіх?

– Ды само неяк узгадалася... Я, папраўдзе, і не памятаю ўжо, пра што спяваў... Нейкае гарачае ўзрушэнне было, а пра што...

У шацёр спешна ўвайшоў і нізка пакланіўся дзяк Іван Віскаваты, невысокі таўстун з нездаровай адышкай, пульхнымі вуснамі і глыбокімі вачыма. Ён узначальваў пасольскі загад, кіраваў царскім архівам і вёў летапіс.

– Раскажы нам, архіўнік, якімі кнігамі маё царства багатае?

Віскаваты здзіўлена скасіўся на дыякана і затараторыў:

– Рознымі, гасудар... Каля паўтысячы рукапісаў, з іх – сто адна кніга Бібліі, каля паўсотні багаслужбовых перашытых кніг, зборнікі настаўленняў айцоў царквы... Хронікі Малалы і Амартолы. Скрыпт Косма Індыкоплеста, вельмі старадаўні... Скрыпты Пчала і Ступенныя кнігі, гэта што Макарый з перапісцамі складае.

– І ўсё? – нібыта нешта не зразумеў цар.

– Так, гасудар... Большасць іх з ліберыі Троіца-Сергіевай лаўры. Крамлёўскія зборы, акрамя цудадзейнай кнігі Евангелля Святога Яна, знішчаныя пажарам... – Віскаваты ўважліва зіркнуў на цара, убачыў ягонае нездавальненне і паспяшыў апраўдацца: – Як гасудар ведае, мінулы Маскоўскі Сабор прызнаў неабходным заснаванне большай колькасці перапісчых школаў пры манастырах ды прапанаваў распачаць выпраўленне дапушчаных памылак і недакладнасцяў у старых кнігах...

– А што гэта там за ерэтыкі-даччане каля твайго пасольскага загаду масляцца? – цар заклаў рукі за спіну і ўсутыч наблізіўся да Віскаватага. Ад нечаканасці той пачаў кусаць вусны, пакуль, заікаючыся, не выціснуў:

– Злыя языкі, баюся... нядобрае гасудару плявузгаюць... – і адвёў вока на незнаёмага дыякана.

– Ну-ну! – цар заўважыў тое. – Не касіся! Ён наш цёзка і чалавек, па ўсім бачу, свой. Гавары пра даччанаў!

Бачачы такую гарэзную весялосць цара, Віскаваты ўздыхнуў з палёгкай:

– Кароль Хрысціян Трэці прыслаў гэта ў Маскву місіянера Ганса Богбіндэра... З граматай да Вашай вялікасці... Ну і з адпаведнымі грашовымі скарбамі... Перадаў некалькі кніг... Я прасіў разгледзець іх мітрапаліта і япіскапаў. Богбіндэр браўся надрукаваць і даставіць тысячу падобных кніг па-маскоўску, але... – Віскаваты пераступіў з нагі на нагу: – Але большасць япіскапаў не захацелі тых лютэранскіх кніг...

– Дык што... дацкі кароль Хрысціян – не сапраўдны хрысціянін?! – цар прайшоў да лёгкага паходнага стальца, сеў і моцна абшчаперыў падлакотнік. Адказаць на тое яму ніхто не намогся, і цар узняў сваю тонкую руку ды загадаў:

– Даручаю закласці ў Маскве ўласны друкарскі дом, каб свае кнігі мець, а не чужымі сыціцца! І сабраць належных друкароў, папернікаў ды літарных ліцейшчыкаў. А галавой дому быць дыякану Іаа́ну Фе́дaравічу, які той справе навучаны. – Цар адхінуўся на спінку стальца і прымружыў

на агаломшанага госця вочы – ажно вострыя бровы сышліся над пераноссем. – Згодзен, дыякан?

Іаа́н Фе́даравіч стаў перад царом на адно калена, схіліў галаву і звонка вымавіў:

– Зраблю ўсё, вялікі гасудар, наколькі сілаў і розуму Гасподзь дасць!

– Што ж, пабачым! А цяпер адпачывайце...

Не паспеў па вяртанні ад цара Іван Віскаваты ўпісаць сваім разборлівым почыркам на летапісную старонку: «Сего убо Бога нашего, в Троице славимого, милостию и хотениемъ удръжахомъ скипетръ царствия, мы, великий государь, царь и великий князь Иван Васильевич, всея Руси самодержецъ, владимирский, московский, новгородский, иныхъ многихъ земель государь, а також царь казанский повелелъ устроити домъ отъ своея казны, идеже печатному делу строитися...», – як на стаянку прыскакаў маскоўскі ганец з радаснай навіной: царыца Анастасія разрадзілася сынам-спадкаемцам!

Царскі абоз затрымаўся ва Уладзіміры толькі на ноч – і спешна рушыў у Маскву. У горад уязджалі праз Фролаўскія вароты, каля якіх Івана Васільевіча сустракалі мітрапаліт Макарый, архіяпіскапы, япіскапы, архімандрыты, ігумены і старэйшае баярства.

Цар – хоць зусім яшчэ малады – выглядаў велічна і ўрачыста. Пад скупым перадзімнім сонцам зіхцелі пазалочаныя і срэбныя адзежы, дарагое каменне царскай парфіры, буйныя жамчужыны на залатым вянцы. І вочы – палкія вочы пераможцы...

Сорак дзён гудзелі па Маскве піры, якія дарэшты спустошылі царскую казну, надарваную трыма вайсковымі паходамі. А затым па слабодах, гарадах і весях загаласілі жанкі і дзеці: даведаліся, што ўжо ніколі не дачакаюцца сваіх мужоў і бацькоў. Амаль палова дваццацітысячнай дружыны склала свае косткі ў невядомай Казані. «Гэта-а ж не вораг-супаста-ат прыйшоў рэзаць радзіну нашую-ю... І што мой саколік забыў у чужой зямельцы-ы-ы?!» – поўніліся плачам галодныя галасы, і ўжо да крамлёўскіх сценаў пакаціліся хвалі народнага абурэння, і нярэдка загадным служылым даводзілася чуць аповеды пра цара-крывасмока.

Час і зімнія маразы атушылі непакору, але для гісторыі Іван Віскаваты ўсё ж мусіў пакінуць у летапісе наступны квяцісты запіс, які загадана было да Раства чытаць гласарам на ўсіх сходах і ў цэрквах: «Мнози худоумные человецы или, прямо рещи, безумныя и тщедушныя, негодоваху и роптаху на самодержца своего, яко самому ему землю свою губящу и паче злее ратныхъ, и не щадящу, и не брегущу людей своихъ. Онъ же, предобрый в самодержцехъ, не похвалы тленные себе взыскуя, да славенъ будетъ в родехъ мужествомъ, якоже и Македонский Александръ, до край земли дошедъ и смерти не убежа, или прежде его бывый Ликиний царь, до четырехъ градовъ дошедъ и столпове тамо постави и свое имя в писанияхъ. Сей же не о такой славе подвизашеся, но о своемъ царствии тружашеся, думающаго ради составления мирскаго, о благостоянии святыхъ церквей и устроении земскомъ, и о тишине всего православного християнства, да не паки бы поработитися поганыя казанцы...».

## 4

*Тры дывізіі паветрана-дэсантных войскаў напрыканцы лета былі спешна перадыслацыраваныя да мяжы Горна-Касоўскай аўтаномнай вобласці. На*

*ўзмацненне ім перакідваліся адна танкавая і дзве мотапяхотныя брыгады. Час "Ч" быў прызначаны на 4 гадзіны раніцы 1 верасня, а агульнае кіраўніцтва зводнай групоўкай узяў на сябе прэзідэнт, па Канстытуцыі – галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі краіны. Словам – правіцель, а нейкія недавяркі не хочуць прыняць гэтага... Нічога, ён прымусіць іх слухаць, і – не толькі за сталом!..*

Гэта была ўжо трэцяя вайсковая аперацыя. Папярэднія не дасягнулі належнага выніку: сепаратысты і бандфарміраванні абміналі блок-пасты і, па-партызанску нападаючы на вайсковыя часткі і злучэнні, раствараліся ў горнай «зялёнцы» па вядомых толькі ім сцежках – і аніякія «Грады» не маглі іх адтуль выбіць. Вось і давялося правіцелю адкінуць усе іншыя дзяржаўныя клопаты, абкласці на нарадзе гора-генералаў мацюкамі – і брацца самому тушыць горны пажар.

Хоць, ёлкі-палкі, яшчэ два гады таму і ў жахлівым сне не мог уявіць падобнага: аўтаномная вобласць, 80% жыхароў якой на выбарах прагаласавалі за яго, а кіраўніцтва кожную сустрэчу запэўнівала ў вернасці, узяла ды паўстала супраць цэнтра! Вырашыла адасобіцца, пагуляць у незалежнасць!

Першы трывожны званок прагучаў не ад спецслужбаў. Патэлефанаваў сам кіраўнік Горна-Касоўскай вобласці Гардынаў і, між іншага, пачаў плакацца пра ўнутраныя цяжкасці, сепаратныя і пратэстныя настроі, малакалькаснасць сілавых і праваахоўных структураў ды беднасць іх тэхнічнага забеспячэння.

Што ж, трэба – дык трэба. Вылучылі яму і дадатковыя бюджэтныя сродкі, і навейшай спецапаратуры ды зброі падкінулі, і падатковымі паслабкамі надзялілі... Супакоілася ўсё ці не на год, а затым – як гром з неба: дэпутаты-абласнікі не без падачы Гардынава абвяшчаюць аб суверэнітэце і незалежнасці свайго краю! Ад'еліся, бачыш, і галаву паднялі! І як не падняць, калі ў іх пад носам на сродкі цэнтра былі адкрытыя і распрацаваныя багатыя нафтавыя радовішчы! Далей розуму не патрабавалася: бяры ды прадавай гатовае!

У той жа дзень ён выклікаў Гардынава да сябе на размову. Круціўся той як вуж, але ўсё ж выехаў. Аднак мала таго, што спазніўся на аўдыенцыю на дзве гадзіны, дык яшчэ заявіўся ў шортах ды бейсболцы! Нібыта не толькі нутром сваім, але і знешнім выглядам цвердзіў сваю незалежнасць, а то і грэблівасць да вышэйшай асобы. Ды і да ўсёй дзяржавы, якая яго некалі выцягнула з каменнай глухамані, вывучыла ды апранула ў генеральскую форму... Ён, бачыце, пра нацыянальную ідэнтычнасць ды гонар продкаў успомніў! Яшчэ адзін месія аб'явіўся...

Правіцель, не хаваючы раздражнёнасці, заместа прывітання грэбліва абурыўся:

– Ты б яшчэ да мяне ў трусах прыпёрся! Ці горны вецер з галавы ўсе былыя веды аб субардынацыі выдзьмуў? Я табе прэзідэнт ці як?!!

Гардынаў спакойна агледзеў суразмоўцу – здалося, нават усмешлівыя агеньчыкі прабеглі па чарнявых зрэнках – і загаварыў аднатонна, як па пісанаму:

– З дня прыняцця Народным сходам Горна-Касоўскай аўтаномнай вобласці Дэкларацыі аб незалежнасці вы, Іван Уладзіміравіч, не з'яўляецеся для ягоных грамадзянаў кіраўніком. Страціла для нас правамоцнасць і колішняя канстытуцыя, навязаная цэнтрам...

Ён яшчэ хацеў штосьці дагаварыць, але жахлівы крык перарваў яго:

– Во-он, сукін сын!!! Я з цябе не толькі твае трусы, але і скуру спушчу!..

– Не забывайся, маёр, што – як-ніяк – з генералам гаворыш, – зноў спакойна, але з грознай упэўненасцю адказаў Гардынаў. У любы час гатоў сустрэцца з табой на дуэлі за сукіныя словы. Калі, канечне, знойдзеш мужнасці...

– Во-о-он!!!

– Я так і думаў, што не знойдзеш...

Гардынава арыштавалі яшчэ ў будынку Адміністрацыі, але, пэўна, такі сюжэт быў пралічаны, і ягоныя прыхільнікі, якія кантралявалі ўзброеныя і праваахоўныя сілы аўтаноміі, у той жа дзень захапілі каля сотні жыхароў суседняга раёна і запатрабавалі абмена. Дзеля навядзення парадку былі кінутыя часткі ўнутраных войскаў, але патрапілі пад шквальны агонь ужо падрыхтаванай абароны – і мусілі адысці.

Спешна быў скліканы Савет бяспекі, члены якога разышліся позняй ноччу – з каменнымі тварамі. А раніцай сталіца скаланулася ад страшэннага выбуху. Інфармагенцтвы абуджана транслявалі жахлівую навіну: тэрарыст-смяротнік на аўтамабілі з рэгістрацыйнымі нумарамі Горна-Касоўскай вобласці і выбуховым прыстасаваннем у салоне пратараніў браму міністэрства ўнутраных спраў і падарваў першы пад'езд будынка. Сярод службоўцаў ёсць ахвяры... Дзяржаўнаму ўладкаванню кінулі выклік карумпаваныя тэрарыстычныя кланы, якія рвуцца да ўлады...

Неўзабаве на паўстанцкую сталіцу быў арганізаваны новы наступ, але і ён стаў безвыніковым: танкавая армада як масла разрэзала лініі абароны бандфарміраванняў, але на гарадскіх вуліцах аказалася непаваротлівай і таксама мусіла адступіць. Шакіравалі страты «цэнтралаў» – страты ад сучаснай зброі, яшчэ нядаўна вагонамі перавезенай у аўтаномію з таго ж цэнтра – дзеля «стабілізацыі абстаноўкі ў рэгіёне».

– Дастабілізаваліся, што й казаць... – правіцеля разрывала злосць. Ён штодня рабіў разганяі вайсковаму камандаванню, аднак Гардынава мусіў адпусціць-абмяняць на закладнікаў – і сам ачоліў трэці паход па аднаўленні канстытуцыйнага ладу ў Горна-Касоўскай вобласці.

– Бог любіць тройцу, – нібыта сам сабе сказаў ён і загадаў пачынаць перадыслакацыю...

Як толькі сонца першага восеньскага дня вызірнула за шапкамі гор, два гвардзейскія палкі мотапяхоты перайшлі мяжу аўтаноміі. Не сустрэўшы супраціву, па галоўнай магістралі яны рушылі да абласной сталіцы, але прызначаны начальнікам аператыўнага штаба часовай групоўкі Керзан безапеляцыйна ўпрасіў галоўнакамандуючага іх спыніць.

– Не падабаецца мне гэты спакой... Як у пастку зацягваюць! – Ён выглядаў наструнены і засяроджаным. Здавалася, блізасць пораха маладзіла ды бадзёрыла яго. – Як бы не наскочыць на засады. Падобнае ў Афгане перажыў – дасюль не забуду...

Галоўнакамандуючы гмыкнуў і падтрымаў Керзана. А тут і сонца нібыта перадумала ўзнімацца: з поўначы насунуліся хмары ды паліў дождж.

У авангард выправілася дэсантная разведрота і за паўдня пераадолела сорак пяць кіламетраў да Кічаранскай цясніны, дзе мусіла ўступіць у няроўны бой з праціўнікам і была знішчана.

Дождж і нізкая хмарнасць не спрыялі спадарожнікавай разведцы, і

наступальныя дзеянні спыніліся. «Цэнтралы» па ўсіх магчымых каналах распаўсюдзілі зварот правіцеля да мірных грамадзянаў Горна-Касоўскай вобласці з прапановай неадкладна да дзесяці гадзінаў раніцы пакінуць рэгіён баявых дзеянняў, дзеля чаго на мяжы з аўтаноміяй адкрытыя чатыры прапускныя пункты. Мясцовым выканаўчым уладам загадвалася спрыяць у тым дзецям, інвалідам, жанчынам і хворым. У адваротным выпадку Цэнтр не можа гарантаваць бяспеку насельніцтву і складае з сябе адказнасць за магчымыя страты падчас навядзення ў вобласці канстытуцыйнага парадку.

Суткі прайшлі ў трывожным чаканні. Зноў на горы выкацілася сонца – і ўжо не хавалася за хмары. Не зважаючы на невялікую колькасць бежанцаў і нешматлюднасць на прапускных пунктах, быў дадзены загад на новае наступленне. Неба ўспаролі дзясяткі баявых самалётаў – і за паўгадзіны сталіца аўтаноміі ператварылася ў руіны. Кропкавае бамбаванне перанеслася на ўзгор'е, цясніну, дзе па данясеннях спадарожнікавай разведкі знаходзіліся паўстанцкія базы. У той жа час прамым ракетным ударам быў знішчаны Гардынаў – разам з БТРам, у якім знаходзіўся. Зрабіць тое было няцяжка: яшчэ падчас арышту апальнаму кіраўніку ў ежу падкінулі маячковы чып – штучка з макавую драбінку, а затрымліваецца ў арганізме на пяць-сем дзён ды «сігналізуе» аб месцазнаходжанні ўладальніка на адлегласці да трохсот кіламетраў!

Паўстанцы засталіся без свайго камандзіра-натхняльніка і пасля працяглых атак дэсантных падраздзяленняў мусілі ці гінуць, ці адступаць.

Шосты ранак «цэнтралы» сустрэлі ў адваёванай сталіцы аўтаноміі. На пляцы рыхтавалася агульнае пастраенне. Разбіты Дом урада крок за крокам абшукалі сапёры, пасля чаго на ягоным балконе ў форме колеру хакі з неіснуючымі ў вайсковых статутах пагонамі з'явіўся сам правіцель і перад дзясяткам тэлекамераў абвесціў аб канчатковым усталяванні міру і парадку. У той момант за яго спіной узнікла маўклівая мажная постаць прэм'ер-міністра Сысанкова з акуратна складзеным дзяржаўным сцягам.

– Уладзіміравіч, – цяжка дыхаючы, прашаптаў ён ледзь чутна. – Як апошні штрых... Можа, ганарова ўзнімеш над домам?

Правіцель паспрабаваў усміхнуцца; перасмыкнуўшы моцнымі жаўлакамі, правёў пальцам па вуснах, нібы вызваліўшы іх ад жорсткіх вусоў (так рабіў, калі хваляваўся), – і задаволена матнуў галавой. Прэм'ер бадзёра паказаў яму на прыступкі да флагштока.

Неўзабаве на ўзвышэнні залунала блакітнае палотнішча з чырвонай зоркай пасярод – з год таму прынятая дзяржаўная сімволіка. Ранейшая – блакітная з сонечным кругам – пасля ўсенароднага рэферэндума была абвешчана нацыяналістычнай і забаронена.

«Вось яна, зорка нашай перамогі... – пафасам напаўнялася душа правіцеля. – Як і ў мінулых войнах, яна – зверху. І хай цяпер валодзькі ролікавы ды ягоныя падпявалы далдоняць пра нейкую там сімвалічную абсурднасць... Маўляў, на небным блакіце мусіць быць сонца, а зоркі відны толькі на фоне начной цемрадзі... Перамагалі і будзем перамагаць!..» – ён зінуў на панараму разбуранага горада і адчуў нейкую здрадлівую тугу. Трывожныя мурашы прабеглі па целе, даўкая хваля падкацiла да грудзей, і ён, з прачуласцю зірнуўшы на Сысанкова, дрыготка прамовіў:

– Тут збудуем музей! Музей нацыянальнай жалобы і прымірэння. І абеліск – у памяць аб загінулых...

Праз тры гадзіны верталёт даставіў правіцеля ў Вараніху, дзе ён, адыходзячы ад мінулай напругі, доўга – да знямогі – плаваў у басейне, а потым падчас лёгкай вячэры ўключыў тэлевізар. Галоўны замежны інфармацыйны канал BNC надрыўна асвятляў падзеі ў Горна-Касоўскай вобласці ягонай краіны. Мільгалі кадры з параненымі, панарама руінаў... Бранятэхніка, самалёты, узрывы... І голас дыктара па-ангельску з сінхронным перакладам у ціграх:

– ...Дыктатарскі рэжым Мароза, для якога чужымі застаюцца прынцыпы свабоднага грамадскага ўладкавання, найяскрава выявіў свой дэспатычны твар. Прыкрываючыся дэмагагічнымі лозунгамі аб аднаўленні канстытуцыйнага парадку ў краі, ён распачаў новую вайну і дзеля захавання ды ўзмацнення сваёй жалезнай улады пайшоў на забойства тысяч людзей, сярод якіх большасць мірных суграмадзянаў... – і ў экране зноў замільгацелі кадры з акрываўленымі старымі і дзецьмі...

Правіцель скрыгатнуў зубамі і кінуў пульт на стол – кнопкамі ўніз. Раптам уключыўся сталічны тэлеканал, у экране загаварыў маладжавы жоўтавалосы журналіст з крывым – як перабітым – носам:

– ...«Век жыві – век вучыся», сцвярджае народная прымаўка. Вучыся жыць і ваяваць. Раней тое давалася прасцей: пакрыўдзіў хтосьці кагосьці – кулакі ці мячы пастукалі, і разышліся. Цяпер жа страшней. За вайной звычайнай распачынаецца вайна інфармацыйная. Яна ператвараецца ў сусветную і дыктуе грамадству, дакладней – навязвае, і свае прынцыпы, і сваіх пераможцаў...

Правіцель зморшчыў лоб, прыкусіў – разам з вусамі – губу і прыхінуўся да фатэльнай спінкі, каб паслухаць айчыннага тэлекаментатара, які бліжэй нагнуўся да студыйнай тэлекамеры і, артыстычна гуляючы паўзамі і лагічнымі націскамі, упэўнена жэстыкуляваў тонкай далонёй з заціснутай у ёй ручкай, узвышаў голас і вяшчаў далей:

– Усе вы, паважаныя гледачы, учора-сёння самі сталі нявольнымі ўдзельнікамі той чарговай сусветнай інфармацыйнай вайны, якая вядзецца без правілаў і чалавечай логікі. Нараспеў галосяць купленыя газеткі, радыёстанцыі і тэлеканалы (як, скажам, той жа BNC) пра спецаперацыю нашых войскаў у Горна-Касоўскай вобласці. І вайной супраць сваіх грамадзянаў, і генацыдам, і крывавай разнёй, і шаленствам дэспатычнага кіраўніцтва ўсё тое называюць. Паслухаеш – і застаецца толькі зацягнуць пятлю і павесіцца! І такія ўсе правільныя, гуманныя, усе такія цукровыя чалавекалюбцы! А да сутнасці, да праўды – анікому і клопату няма. Галоўнае – не сцяг справядлівасці ўсталяваць, а белае пасыпаць брудам ды чорнае назваць белым... – З дзясятак секундаў прамільгала нарэзка з замежных інфармпаведамленняў, пасля чаго зноў працягнуўся каментар: – Вось яны, сапраўдныя бомбавыя ўдары па нашай псіхіцы і нервах! І тыя, хто даваў каманду на тое бамбаванне, не бачаць бярвёнаў у вачах сваіх начальнікаў і працадаўцаў, не заўважаюць сапраўдных захопніцкіх войнаў, якія распалілі і распальваюць у свеце за сферы ўплыву іхнія ўрады! Так, нядаўна войскі еўраальянсу разбамбілі Югаславію. Знішчылі тысячы мірных жыхароў, тысячы дамоў... – Пайшлі кадры з хронікі: разбураныя гарады і вёскі, пакалечаныя дзеці, задаволеныя таўстамордыя замежныя вайскоўцы... – Так і карціць запытацца: што б учынілі кіраўнікі замежных «праўдарубаў» на месцы нашага ўрада?.. Гадамі датацыйная вобласць маналітнай краіны, якая толькі і рабіла, што смактала нашыя бюджэтныя

сродкі – узяла і абвесціла сябе самастойнай! А яе князькі саманазваліся царамі! У якім замежным «свабодным» штаце такое магчыма?! Ды ім жа адразу б галовы паскручвалі! Спытайма, што б рабілі нашыя горанастаўнікі?.. Запытацца можна, але вось ці пачуюць яны праўдзівы голас? Ці дазволяць ім адкрыць вочы ды вушы свае праўдзе? Праўдзе святой і пакутнай? Адказ, зразумела, адмоўны. Але галоўнае, каб тое пачулі ўсе мы – і аб'ядналіся пад справядлівымі штандарамі! Думайце і аналізуйце! Міра вам і дабрабыту!

Правіцель задаволена хмыкнуў.

– Хто такі? – кіўнуўшы на экран, спытаў ён у Жакея.

– Іван Федарэнкін, сын міністра спорта.

– А нос крывы чаго? У бокс гуляў?

– Не ведаю... – Залыпаў памочнік. – Ён нядаўна на ТБ. Здаецца, някепска атрымліваецца... – памочнік наструніўся і не адводзіў ад правіцеля вачэй.

– Што значыць някепска?! – вялікія далоні гохнулі па скураных падлакотніках пульхнага фатэля. – Выдатна! – Правіцель устаў, выпіў келіх чырвонага віна, памаўчаў і выпаліў: – Пагаварыць і падтрымаць гэтага Федарэнкіна. Падтрымаць ад майго імя! Ну і грошай яму, сцэнарыстаў там лепшых, апаратараў... Хай тэрмінова зробіць некалькі спецфільмаў. Ну сам ведаеш, пра што.

– Зразумеў! – усё цела памочніка ўраз налілося бадзёрасцю і рашучасцю. – Вы, як заўсёды, правільна адчулі: у тэлевізары заключана аграмадная сіла, мацнейшая за бомбы і танкі! І калі ўсё граматна абставіць...

– Ідзі працуй, стратэг... – перарваў яго ўладны голас. – Усе вы задннім месцам разумныя... Ды і да ўрачыстасцяў з прычыны перамогі над сепаратыстамі і тэрарыстамі рыхтуйцеся! А то зноў пазасынаеце на лаўрах...

У той час у кабінеце Мікалая Зайца, у якім таксама міргалі тэлекадры, зазваніў гарадскі тэлефон (сакратарка даўно пайшла дамоў).

– Алё... Алё! – трывожна пачулася ў слухаўцы. – Гаспадар Заяц?

– Так... Слухаю вас.

– Янкавіч, Богдан Янкавіч. Памятаеце, некалі на канферэнцыі ў Падгорыцы сустракаліся?

– Так-так... – машынальна вымавіў Заяц, хаваючы здзіўленне і ўзнімаючы над акулярамі савіныя бровы.

– Ужо трэція суткі спрабую да вас дазваніцца... Дачуўся, што займаеце высокую пасаду...

У адказ – неўразумелае маўчанне.

– Дык вось, як ведаеце, месяц маю краіну бамбавалі новыя туркі еўраальянсу. І зноў, як і ў часы святога Пятра Цэціньскага, вашыя цары забылі на сваіх адзінаверных братоў. А замест падтрымкі – самі ўлезлі ў вайну з суграмадзянамі... Але я – не пра тое. Нас нішчаць сучасныя візіры, але мы з Божым словам і верай вытрымаем! Я... – штось у слухаўцы зашчоўкала, і некалькі фразаў было не разабраць. – ...цікавіліся Евангеллем ад Яна. Яго збярог народу свайму святы Пётар... Не прадаў купцу з Бокі, як нагаворвалі... – Зноў шчаўчкі-памехі. – ...вырашылі кнігу вам перадаць. Такое рашэнне прынялі браты-яніты... Бацька мой, царства яму нябеснае, быў іх сябрам. І прозвішча нашае – Янкавічы – ад іх... Верым, што тая кніга падтрымае вашую краіну і адвядзе ад бездані... Словам, а не бомбамі,

пераможам!.. – Штось хруснула, і пачуліся кароткія мільгатлівыя гудкі – як агучаны медыцынскім апаратам трывожны пульс гаспадара кабінета...

## V

30 жніўня 1553 года ён святкаваў імяніны – у невялікай, яшчэ бацькам збудаванай рэзідэнцыі ў Каломенскім.

Не любіў цар Маскву, не любіў ні сценаў белакаменных, ні баяраў цвёрдалобых. А тут было ўсё спакойна, нават па-дзіцячы пацешна. Так, тут ён супакойваўся целам, пачуваўся бесклапотна і ўзнёсла.

Запрошаных на абед адвялі напачатку ў царскі гардэроб і замянілі іх рознаколерныя каптаны на белыя мантыі з гарнастаевай апухай. Затым усе сабраліся ў прахалоднай трапезнай, перашэптваліся і ўсміхаліся.

Цар увайшоў марудна, касалапа заграбаючы нагамі квяцісты дыван, перахрысціўся, узяў кавалак мяса – і перадаў яго круглатвараму Адашаву, другі – цыбатаму Курбскаму, пераступіў ад задаволенасці з нагі на нагу і раздаў пахкія кавалкі яшчэ некаторым гасцям. Затым матнуў рукой краўчаму, каб той частаваў далей – і змірана назіраў, як памагатыя прамаўляюць:

– Цар табе даруе гэта.

У адказ госці ўставалі і кланяліся.

Затым у срэбныя кубкі налівалася раманея, алікантэ, мальвазія – найлюбімыя царскія віны, у драўляных каўшах ставілася свежая медавуха – і пачынаўся пір. Да мяса прыносілі шафран, кіслае малако, агуркі ў воцаце. Зноў і зноў уздымалі кубкі, а на стол выплывалі смажаныя лебедзі, журавы са спецыямі. Пілі – і з'яўляліся цацерукі, глушцы й рабчыкі ў смятане, зайцы з рысам, ласіныя мазгі, пірагі з мясам, падсалоджаныя арэхі.

І стукалі кубак аб кубак, і не змаўкалі прамовы – пакуль хмель не вязаў рукі ды не сушыў языкі...

А ў Маскве на Івана навалілася хвароба. Вечарам пасля багаслужэння ў Дабравешчанскім саборы – які стаяў бліжэй да палаца – цар ледзь узняўся па прыступках да спачывальні і ўпаў каля ложка. З паўгадзіны яго трэсла падучка, вочы набрынялі крывёю і выкаціліся над вострым носам. Спалоханы Мацей кінуўся па лекара, але першай на крыкі азвалася Анастасія. Яна паклала неспакойную Іванаву галаву на калені і, штось пранікнёна шэпчучы, пяшчотна гладзіла яго змакрэлыя ад поту валасы. І цар суцішыўся, абмяк, але на пярыне зноў устрывожыўся, задыхаў часта і хрыпла; памкнуўся ўстаць, але рукі сталі ватнымі. Гарачка-агнявіца ахінула яго забыццём-марывам – немарасцевым і доўгім.

Прытомнеючы, ён неўразумела ўтарапліваў слязлівыя вочы ў бліжні вугал з лампадамі, у каменную сцяну з каляровай выявай-ілюстрацыяй Саламонавага суда, а з глыбіні яе, як з-пад хмараў, выскоквалі здані крывава-чырвоных коней і гізавалі па траўнай зяленіве фарбаў да ягонага ложка, па ягоным целе... Цар уздрыгваў, хапаўся рукамі за галаву, зноў глядзеў на карціну – і шалёная віхура хавалася за вуглом аркі...

На некалькі хвіляў ён супакойваўся, не дрыжэў, і яму давалі папіць, а затым галаву зноў раздзірала трывога, чырвоны шалёны конь зноў выбліскваў з-пад дрогкіх лампадаў і нёсся на ложак. Іван віхнуўся ўбок, убачыў іскры пад аграмаднымі капытамі, іржавую спражку падсядзёлка,

мускулісты круп, вогненны хвост – і неўсвядомлена схапіўся за яго, каб хоць так выбавіцца са свайго халоднага ложка-дамавіны. І пачуў крык над сабой. І ачуўся...

Крыкнула жонка, за касу якой у гарачцы схапіўся Іван. Зноў пачала гладзіць і шаптаць штосьці ласкавае, і пачула спакойнае, выразнае:

– Што там, знізу?

Яна зразумела, але не адказала.

Знізу пад спачывальняй была тронная зала, у якой ужо трэці дзень збіралі баяраў, каб тыя цалавалі крыж царэвічу Дзімітрыю. Адчуваючы смяротную знямогу, Іван прызначыў свайго пераемніка – сына-немаўля. І пазваў падданых да прысягі яму. Але нечакана абвесціў свае права на маскоўскі сталец стрыечны брат Івана Уладзімір Андрэевіч, падтрыманы большасцю баяраў.

Маўчанне царыцы не надало спакою.

– Пакліч Віскаватага, – папрасіў Іван.

Кіраўнік пасольскага загаду і царскі летапісец адказваў блытана і ўстрывожана:

– Здрада, гасудар! Многія не цалуюць крыжа, многія паз'язджалі... Сільвестр і ўсе Адашавы адмовіліся, хітруюць-вычэкваюць... Брата твайго па маскоўскіх харомах возяць, шэпчуцца...

– А Курбскі?

– Ды не відно яго неяк...

У Івана гневам успыхнулі вочы. Ён, гартанна стогнучы, устаў з ложка і паказаў пальцам на скіпетр. Апіраючыся на яго, павольна падаўся са спачывальні. На сходах пасцельнік Мацей накінуў на ягоныя плечы каптан і хацеў падтрымаць за локаць, але цар адпіхнуў служку. Віскаваты сачыў за абодвума ў прачыненыя дзверы, але пайсці следам не рашыўся.

З дзясятак баяраў у троннай зале аціхлі. А Іван, бадзёрачыся, усміхнуўся, марудна агледзеў усіх і пачаў з пытання:

– Што замоўклі? Бачу, і сталец царскі яшчэ пусты... – упэўнена падышоў да яго, пагладзіў выяву залачонага візантыйскага арла над узгалоўем спінкі, пастукаў па шырокіх касцяных падлакотніках: – Аглохлі, ці што? Пытаю, чаго трон пустуе?! Дзе Уладзімір, брат мой? – і царскі голас насыціўся злосцю: – Што, рукі свае прагныя пагрэць вырашылі? Сын мой кроўны вам не даспадобы?! Як псы звыродныя рваць цела маё сабраліся?!! – ён задаволена-хітравата ўсміхнуўся ды, хоць і стомлены, з выглядам пераможцы сеў на сталец і працягваў ужо спакайней: – Самі запомніце і зграі сваёй перадайце: вялікі цар Іван Васільевіч паміраць перадумаў ды ўсіх вас яшчэ перажыве. І ў гонар свайго выздараўлення загадвае ў наступную нядзелю сабраць царскі абоз у багамольную службу да Белага возера, у Кірылаў манастыр. А цяпер... – Іван устаў і яшчэ раз строга агледзеў прысутных. – Вон з вачэй маіх! А ты, Мацей, – сказаў, ужо вяртаючыся ў апачывальню, – расшукай сябручкоў маіх Адашава з Курбскім і аб выправе паведай. І варту ў Крамлі ўзмоцні, з самых надзейных.

– Узмоцнена, гасудар, ужо трэці дзень як і без загаду пабольшана...

З розных прычынаў цар выпраўляўся з Масквы. Так, у сваіх літанных малітвах ён абяцаў у выпадку выздараўлення ахвяраваць манастырам землі і золата ды выправіцца ў багамолле. Але было і іншае, што не давала

спакою ні падазроным дням, ні бяссонным начам: трывога, распаленая нявернымі баярамі, здрада бліжэйшых сяброў (а таму і ўзяў з сабой Адашава з Курбскім, да якіх ужо не было даверу і якіх хацеў трымаць перад вачыма). І змеямі джалілі невясёлыя весткі ганцоў: узбунтавалася Казань, загублена тысяча старажавога палка, а непакорныя нават пачалі ўзводзіць у соднях пераходу ад Казані новы горад... Заварушыўся Крым, Лівонія парушае межы...

У дарозе, зняможаны горкімі думамі, ён правальваўся ў нябыт, а за ім, хрыпучы ды пыхкаючы гарачай пенай, несліся наўскач чырвоныя коні. І ён ужо ва ўсю гарцаў на іх, і спрасонь шаптаў малітвы, але словы іх былі цяжкімі і не маглі – як мовіў пры сустрэчы сівы як лунь Максім Грэк – узняцца да Бога.

– Бачу, – казаў стары манах, – што злосць і гнеў цела тваё сушаць. Будзь марудным на слова і марудным на гнеў, бо чалавечы гнеў не творыць праўды Божай...

Аднак магутны чырвоны конь нёс яго наперад – туды, дзе неспакойны небакрай патанаў у дымах і неразгаданасці. А багамолле закончылася трагедыяй: загінуў-утапіўся малы Дзімітрый... І цар панурыўся ў новую прадчуласць – прадчуласць праклёну на ягоны род. За бацькавыя, магчыма, грахі, які кінуў сваю венчаную жонку, «бясплодную смакоўніцу» Саламаніду, у манастыр ды з новай нарадзіў яго, Івана.

І цар гнаў хмары тых здагадак, і яра сеяў семя сваё ў лоне Анастасііным – аднак узыходы былі рэдкімі і слабымі: рос нягеглы сын Іван, трэці – Фёдар – меў памутнёны розум, а тры дачкі памерлі немаўлятамі.

І на ратным полі спела бяда: казна спусцела, і нават лівонцы не спяшылі папаўняць яе сваім срэбрам. Новае пасольства ад дэрптскага япіскапа прыехала ў марозную Маскву прасіць аб адтэрміноўцы выплаты, але Іван не прыняў яго. Ён загадаў выгнаць пратэстанцкіх сабак з горада і даручыў Адашаву рыхтаваць паход.

Зноў палілася кроў. Гэтым разам лівонскіх хрысціянаў нішчылі татары пад ачолам казанскага ех-хана Шах-Алі, нанятыя ў царскае войска. І зноў застагналі нябёсы; і задымелі весі; і выразалі дзяцей з улонняў матчыных, і гвалцілі да смерці жанчын, а тых, хто яшчэ высільваўся ўцякаць, цкавалі сабакамі...

І здалася Нарва, і скарыўся Дэрпт, і было перамір'е, і ў вачах новага Аляксандра Неўскага заплёскалі Балтыйскія хвалі, да якіх вось-вось выйшла б ягонае царства – але абудзіліся суседнія Вялікае Княства і Польшча. Не мінуў і год, як рыжы ліс гросмайстар Кетлер змовіўся з каралём Жыгімонтам ды быў па-брацку прыняты ў Вільні. І ў жніўні 1560 года віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны з войскам увайшоў у Рыгу. Адашаўскія высочнікі-шпігі даносілі Івану, што Кетлер рыхтуецца з'яднаць Лівонію з Літвой і перадаць Радзівілу крыж і ордэнскую мантыю, аднак маскоўскім палацям было не да іх...

У спякотны жнівень таго ж 1560 года ад нараджэння Хрыстовага памірала ў цяжкіх муках маладая царская жонка. Яго адзіная чалавечая радасць і ратаванне. І на ягоных патухлых вачах адышла да Госпада.

– Вы ўсе адкажаце за гэта! За ўсё адкажаце... – здзічэла шаптаў цар над мёртвай Анастасіяй і гладзіў яшчэ цёплую чарнявую пасму ейных валасоў. Стагнаў і шаптаў: – Усе-ўсе...

## 5

*Яго чарговае дзяржаўніцкае лета выдалася спякотным і дымным. Гарэлі лясы, дамы, хлеб. Пякельная непрадыхная павута зацягвала гарады, і ён роспачна насіўся на верталёце па краіне, наладжваў аператыўкі і нарады, даваў прачуханца ўсім – ад ляснічых да губернатараў і прэм'ера, сам працаваў з пажарнымі, а калі ўзнімаўся на верталёце – у вачах плылі чырвоныя кругі.*

– Па звестках спецслужбаў, чырвоных пеўняў нам падкідваюць... – сказаў стомлены-пастарэлы Керзан і пачаў выціраць са штаноў сажу. – Калі не будзе іншых установак, аформім паказальныя суды...

– Каго падкідваюць? – не зразумеў правіцель.

– Падпалы, кажу, па данясеннях – спланаваныя.

– А... Пеўні чырвоныя... Ды гэта ўжо коні, а не пеўні! Тысячы дамоў ляснула! А лесу колькі! Хто кампенсуе, адкуль грошы браць? Што людзям... – Ён не змог дагаварыць. Трап нечакана вільнуў убок, перад вачыма праплыў чырвоны жывот верталёта – і стала цяжка дыхаць. Правіцель упаў на рукі спалоханага старшыні Службы дзяржбяспекі і ўжо не памятаў, як яго абступілі дактары і як «Борт №1» тэрмінова накіраваўся да сталіцы...

І вось – ён перад выбарам, да якога ішоў няпроста і не адзін месяц. Ці жарты: пакінуць краіну на дзевяць месяцаў без свайго нагляду! І да медыкаў асаблівага даверу не меў: а што калі задушаць той пупавінай? Аднак... Сеанс, як ахрысцілі працэдуру-аперацыю, мусіў надаць сілаў і незвычайна абмаладзіць арганізм...

Пачыналася ж усё казённа. Калі дактары паставілі правіцеля на ногі, раніцай у ягоны кабінет, сваімі памерамі падобны да хакейнага поля (толькі замест лёду ляжаў канадскі паркет), ветліва пастукаў памочнік Жакей, мякка прачыніў дзверы і далікатна вымавіў:

– Вітаю Вас, пане правіцель... Дазволіце зайсці?..

– Што ў цябе? – Мароз неахвотна адарваўся ад чытаніны. – Ты што паперу не эканоміш? Заваліў мяне гэтымі запіскамі... Вочы мае хоць бы пашкадаваў!

– Прабачце, я б не турбаваў, але тут без папярэджання Керзан просіцца...

– А яму што?

– Не магу знаць. Сказаў, што па нумары нуль...

Так – нумар нуль – кадыфікавалі найсакрэтныя перамовы, якія без пасярэднікаў вялі службоўцы з кіраўніком. Зразумела, тыя, якія мелі доступ...

– Запускай.

Пакамечаны жыццём, службай і прыроднымі катаклізмамі, але ў зіхоткай аправе з некалькіх радоў ардэноў і ў навюткім генеральскім мундзіры, Керзан кінуў на Жакея прыхавана-раўнівы позірк і, сам зачыніўшы масіўную дзверыну, працокаў да стала і там выпаліў:

– Здравія-жадаю-таварыш-Галоўна-каман-дуючы!

– Ды цішэй ты!.. Сядай.

Керзан наструнена глядзеў на правіцеля і не варушыўся, пакуль той не адклаў раздрукаваны вялікім шрыфтам аркуш і не ўздыхнуў:

– Вочы скора вылезуць... Давай, што ў цябе?

Старшыня Службы дзяржаўнай бяспекі ўскочыў і залепятаў:

– Таварыш галоўнакамандуючы! Я маю радасць далажыць Вам, што ў выніку праведзенай намі працы і адпаведных мерапрыемстваў... маем у выніку... хочам прапанаваць Вам... паколькі праверка праведзена шматпланава, ну а да ўсяго праходзіла аперацыя ў найсакрэтным рэжыме... – ён нечакана для сябе збіўся і акамянеў.

– Не трындзі ты, – зноў уздыхнуў правіцель. – Толкам можаш сказаць?

– Так точна... – Керзан выцер аб лампасы спатнелыя далоні. – У нашым сакрэтным цэнтры дамагліся нечувалага! Маю на ўвазе аперацыю «Плацэнта»... Праведзены доследы і аперацыя, пасля якой пацыент памаладзеў на тры дзесяцігоддзі!

Ён набраў паветра і замоўк.

– Ну-у... – правіцель неўразумела склаў на жываце доўгія рукі. – І што: дзяржаўную прэмію табе за гэта даць?

– Я не аб тым, не так зразумелі... Я з прапановай... Толькі правільна мяне зразумейце... Аперацыя найсакрэтная. Акрамя праверанага медперсаналу аб тым знаю толькі я і мой намеснік. Я асабіста курыраваў... А таму маю гонар прапанаваць... Толькі правільна зразумейце...

– Ды не цягні ты жуйку – што хочаш?!

– Хачу, толькі правільна... бо ад усяе адданасці... Лішнія ж Вашыя гады анікому не перашкодзяць... Хачу прапанаваць... абмаладзіцца...

Правіцеля як ашпарылі:

– Што?! Ты гэта... Думаеш, што я ўжо не магу са сваімі старымі косткамі тут сядзець?! Так?!!

– Аніяк не... Я зусім не аб тым... Я проста як лепш... Грошай жа на тое пайшло... Таму каб лепш хацеў... – і Керзан нечакана абмяк ды заціх.

– Як лепш, кажаш? А што там за аперацыя? Не падцяжкі ж ты мне прапануеш зрабіць, а?

– Што-о Вы... – ажывіўся Керзан. – Медыкі сеансам завуць... Там гэта... пупавіну нарошчваюць, а пацыента, так сказаць, у бараплацэнту...

– У бара што?

– Плацэнту... Аб тым лепш самі медыкі хай... Мы ж найперш за бяспекай і сакрэтнасцю... Ну а вынікі, я скажу-у-у! Дзеда аднаго... і напаўсляпы быў, і хваробаў букет... ледзь соваўся, а праз дзевяць месяцаў, прашу прабачэння, маладзіцу папрасіў! І вось ужо паўгода джыгітуе, як падшыванец...

– Маладзіцу, кажаш?.. – правіцель упершыню з дня нечаканай хваробы ўсміхнуўся. – Што ж, будзем думаць. Працягвайце працу...

Керзан выйшаў з выглядам пераможцы, чым насцярожыў памочніка Жакея.

– Ты гэта, галопампаяўропам, мне нічога не хочаш сказаць?

– Не маю права, таварыш Жакей, нумар нуль, сам разумееш...

А праз некалькі хвілінаў памочніка паклікаў да сябе правіцель.

– Значыць так.... Надакучыў ён мне. Хай адпачне. Зрабі так, каб Керзана я не бачыў. І тэрмінова да мяне ягонага намесніка. Як там яго?

– Бадакін.

– Ды хоць Сракін...

Ноччу ён зноў не змог заснуць. Завярэдзілі ўспаміны, а да ўсяго – адолелі болі: і ў галаве, і ў суставах... Задышка падкаціла... Ад пігулак і парашкоў ужо на ваніты цягне...

Раніцай выклікаў памочніка. Той, як і гаспадар, таксама не спаў – кубкамі глытаў каву і выглядаў бадзёрым.

– Рыхтуй сустрэчу. Паехалі, хачу паглядзець, што там...

Пра візіт правіцеля ў сакрэтную лабараторыю Службы дзяржаўнай бяспекі акрамя яго самога і ахоўнікаў ведалі толькі два чалавекі: Бадакін і Жакей. Напачатку высокім наведвальнікам паказалі два відэёзапісы: кульгавы стары да «сеанса» і ажывелы мужчына гадоў пад сорак.

– І што, гэта адзін і той жа хрэн?! – не паверыў бачанаму правіцель.

– Так. Працэс сеанса кантраляваў асабіста я. Папраўдзе, і сам дагэтуль дзіўлюся, – ускочыў па стойцы «смірна» Бадакін.

– То раскажы, як такая байда атрымалася?

– Да сеанса рыхтаваліся дзевяць гадоў. За медзабеспячэнне адказвае прафесар Скоркін. Мае трох асістэнтаў, медычак. Усе, як разумееце, правераныя ды ізаляваныя. Пацыент быў адабраны ў Вялікалукскім раёне. 75 гадоў. Па легендзе знік без вестак. Дастаўлены ў лабараторыю 2 жніўня 20... года. Сеанс пачаўся 13 жніўня, закончыўся 30 красавіка 20..-га. З таго часу – пад нашым наглядам. Адчуванне выдатнае, медпаказчыкі выдатныя, толькі... – Бадакін заціх.

– Ну?

– Толькі жанчын патрабуе. Новых. А тут жа – сакрэтны аб'ект. Прафесар скардзіўся, што ягоных медычак заюзгаў...

– То не хвароба! – усміхнуўся правіцель, разгладзіў у абодва бакі вусы і спытаў сур'ёзна: – А ёсць якія ўскладненні?

– Не, таварыш правіцель, не выяўлена.

– Дык што ж, урэшце, вы яму тут зрабілі? Не на клізмах жа памаладзеў?!

– Не... Тут цэлая праграма. Яму, гэта... пупавіну аднавілі... і ў плацэнту, як у матчын жывот...

– Іван Уладзіміравіч, – мякка прамовіў Жакей (любіў у прысутнасці высокіх асобаў так назваць правіцеля, падкрэсліваючы сваю блізкасць да кіраўніка і казыраючы тым). – Я моцна перапрашаю, што перабіваю, але, можа, варта паклікаць самога прафесара? Ён бы распавёў пра ўсё больш дэталёва...

– Так, правільна, давай!..

Састарэлы прафесар напачатку ледзь не самлеў ад нечаканкі, але потым ачомаўся і выглядаў упэўнена:

– ...Даследы базуюцца на аснове медыкафізічных, неўрапсіхалагічных і біяметральных фактараў...

– Стоп-стоп, – замахаў правіцель. – Не гані сваю пургу! Ты можаш проста і па-чалавечы растлумачыць, як дзеда абмаладзіў?

– Так-так, прабачце, зараз... – прафесар дастаў насоўку, выцер спатнелы лоб і працягнуў: – Чалавек пачынае старэць з таго часу, як нараджаецца. Свет – гэта дадзеная Усявышнім і сапсаваная чалавецтвам плацэнта... Вось мы і паспрабавалі вярнуцца да першаснасці, да матчынага, так сказаць, улоння. Стварылі штучную бараплацэнту ды змясцілі ў яе старога пацыента. Усе тэрмальныя ды іншыя жыццёва неабходныя працэсы кантралявалі аўтаматычна. Пацыент спаў, а за перыяд сеанса цела ачышчалася і акумулявала назапашаную энергію. Абмаладжалася...

– А як ён дыхаў?

– Так, як і ў жываце маці, толькі, зразумела, штучна...

– А што еў у тым вашым пузыры?

– Неабходныя вітаміны і адэкватнае харчаванне падавалася ў плацэнту, ці, па-Вашаму, пузыр, праз...

– Ды ведаю я тую плацэнту не менш вашага, – перабіў правіцель прафесара. – Мы іх з ветэрынарамі яшчэ паследамі называлі...

Усе ўталопіліся на прафесара, але той быў збіты спанталыку параўнаннем і зноў выцер лоб. Памаўчаў, сабраўся з духам – і працягнуў:

– Чалавечы пуп ёсць таямніца, своеасаблівае злучво з сусветам. Праз яго, пасля адмысловых аперацый, мы і падводзім неабходныя шляхі харчавання і вываду адходаў. Паўтаруся, метад вельмі просты і натуральны. Па сутнасці, ён паўтарае тое ж, што робіцца ў матчыным улонні з дзіцем. І тэрмін, як разумееце, мы запраграмавалі той жа...

– Ну а потым, праз дзевяць месяцаў, што? – правіцель зноў ажывіўся.

– Усё... – не зразумеў прафесар. – Спыняем сеанс...

– І пупавіну рэжаце?

– Ну... можна і гэтак сказаць. Адпаведныя шляхі хірургічна адразаюцца...

Пытанняў больш не было. Пацмокаўшы, правіцель нечакана прапанаваў:

– А давай, прафесар, мы і цябе абмаладзім. Галава, бачу, разумная, а то яшчэ кеўкнешся, і медыцына нашая збяднее!

Прафесар ніякавата ўсміхнуўся, а Бадакін ускочыў і залепятаў:

– Таварыш правіцель, Вашая воля для нас закон, але прашу прабачыць і зразумець... Сеанс надзвычай затратны ў плане фінансавання... Я б сказаў – найзатратны...

– Паняў, – уздыхнуў правіцель, зноў цмокнуў і загадаў: – То пакажыце мне ўжо свайго дзеда!

«Пацыента» прывёў сам Бадакін. Дзедам назваць яго магло хіба што немаўля: выглядаў падцягнута, бадзёра. Убачыўшы правіцеля, абрадаваўся і ледзь не кінуўся абдымацца:

– Іва-ан Уладзі-іміравіч, здароўця, ці ты гэта?

– Ну-ну, астынь! – буркнуў на яго Бадакін, але правіцель толькі ўсміхнуўся:

– Нічога-нічога... Дык як, мужык, ты сябе адчуваеш?

– Скардзіцца няма на што...

– А мне казалі, што да маладзіцаў не пускаюць.

– Ну... ента можна й паправіць.

Правіцель наблізіўся да «пацыента», зазірнуў у вочы, пахлопаў па плячы і падрахаваў:

– Харош, маць тваю! – і праз паўзу: – Мне даклалі, што ты мой зямеля. І праўду з-пад Вялікіх Лукаў?

– Ну а адкуль жа?..

– А чым займаешся?

– Цяперака ж нічым. Вось, у гэнтай санаторыі адпачываю. Дзякуй вам і дахтарам: і накормлены, і апрануты, і клопату не маю!

– А да «санаторыі»?

– Дык гэта... конюхам. Пасу, кармлю, а яшчэ летам за бабу на весавой сяджу...

– А не цяжка ў такіх гадах за коньмі бегаць?

– Што вы, Уладзіміравіч! Да санаторыі, не схлушу, не мог ужо, думаў кідаць. А цяпер вылюднеў так, што й галопам дам рады!..

– Чуў, Жакей? – правіцель павярнуўся да памочніка. – Яшчэ адзін наезднік у нашым эскадроне! – задаволена ўсміхнуўся і ляснуў далонямі, што азначала: канчай базар, гайда дамоў...

І зноў ён ноч не спаў. А можа і спаў, ды замест сноў у галаве тыя лабараторныя ролікі кruціліся: плацэнта з мутнай вадкасцю, чалавек у ёй... Ну рыхтык малое ў вантробе парадзіхі... Толькі вонкі нейкія шлункі спавіваюцца, а за імі – дзясяткі апаратаў, мані113раў, лямпаў...

Толькі на трэці дзень, натомлены роздумамі і нездаровасцю, правіцель рашыўся:

– Ну што, конюхі мае верныя, рыхтуйце свае плацэнты... Была не была: буду абмаладжацца! – ён як рэнтгенам прапёк Жакея і Бадакіна, даўжэй узіраўся ў апошняга і, дадаючы ў голас грознасці, спытаў:

– А ты што гэта да мяне без лампасаў прыпёрся?!

Бадакін, як загіпнатызаваны, расцягнуў пляскаты твар і ціха выціснуў:

– Таварыш правіцель, палкоўніку лампасы... не паложаны...

– А чаму гэта палкоўніку? Жакей, галопамцябепаяўропам! Рыхтуй мой указ аб прысваенні яму генерала! І прызначаю Бадакіна старшынёй Службы дзяржаўнай бяспекі. Глядзіце толькі, каб за дзевяць месяцаў тут херні якой не ўпаролі, а то скуру спушчу!.. – Памаўчаў, зноў прыдзірліва агледзеў падначаленых і закончыў ужо больш ласкава: – Пакумекайце, каб за гэты час я з тэлевізара не вылазіў... Мантаж там які зрабіце, ну... як я прымаю аднаго, другога, дакументы падпісваю, вас, гультаёў, ганяю. Падключыце Федарэнкіна, ён знае, што і як. Ясна?

– Так! – у адзін голас гэўкнулі памочнік і службіст.

– Ну вось і лады. Не пабіцеся толькі, хто маёй павіталкай будзе, плацэнта-шмацэнта...

Народ затушыў пажары, адбудоўваў спаленыя хаціны, глядзеў тэлевізар і піў гарэлку.

А Адміністрацыю пачаў даставаць прэм'ер Сысанкоў, рваўся да правіцеля з нейкімі неадкладнымі клопатамі – пакуль яго сяміпавярхова не абклаў і не выгнаў Жакей. Прэм'ер надламаўся, засеў на лецішчы і таксама запіў.

І вось – тэлефанаванне старшыні Службы дзяржбяспекі:

– Таварыш Жакей, тэрмін сеанса закончаны. Будзем спыняць?

– А якія іншыя прапановы?

– Не зразумеў...

– Разумееш ты ўсё не менш майго, – абрэзаў яго Жакей. Безумоўна, соладка было яму, – па сутнасці, кіраўніку дзяржавы, – гэты час; і розныя ўжо кашчунныя думкі ў галаву лезлі, але баяўся ён іх, адганяў як струплю: хто ведае, чым тое адгукнецца... Ды і, ведаючы нораў гаспадара, не мог не думаць аб тым, што без чыёйсьці падстрахоўкі палез той у плацэнту... – Канечне заканчвай!

Жакей скасавурыўся на партрэт правіцеля, замовіў сабе кавы, выпіў без задавальнення – і заспяшаўся ў сакрэтную лабараторыю.

Перад уваходам ужо стаяў лімузін пад нумарам 1, і Жакей спалохаўся,

што спазніўся першым прывітаць гаспадара. Каля ліфта яго чакаў скамянелы Бадакін, – нярвова схапіў за рукаў і пацягнуў углыб вестыбюля.

– Слухай... выйшла неспадзяванка. Не ведаю, як патлумачыць...

– Правіцель жывы? – абарваў яго Жакей.

– Так, так... Што ты! Усё атрымалася, толькі...

– Што «толькі»?! Не цягні!

– Памаладзелы, здаровы, толькі... у сваім часе.

– Як у сваім?

– Ды хадзем, сам убачыш!

...У ярка асветленай палаце сядзеў выгалены і вымыты правіцель. Памаладзелы ці не на палову. Калі б не памяць ягоных растыражаваных фота «думскага перыяду», яго б цяжка было пазнаць: ні мяшкоў пад вачыма, ні маршчынаў, ні вострых пашчэнак з абвіслай скурай...

– Пане правіцель, дазвольце прывітаць Вас! – пачаў Жакей, увабраўшы галаву ў плечы, але гаспадар злосна сплюнуў і закрычаў:

– Яшчэ во аднаго прыдурка прывялі! Сам ты пан зачуханы, выхранціўся тут мне. Што, яшчэ ад бадуна не прасох?! – памаўчаў і нечакана кіўнуў на акно: – Чаго машыны прастойваюць? Дзе брыгадзіры і звенявыя?! Не пасееце ў час – будзеце эксперыментальнае поле сваімі слязьмі паліваць!

– Зараз, зараз, усё зробім... – сам не ведаючы, што абяцае, Жакей, цягнучы за лампас Бадакіна, падаўся да выхаду. Прычыніўшы дзверы, ён паслабіў гальштук і прамармытаў: – Гэта, галопампаеўропам, што такое?!!

– Правіцель...

– Ды сам бачу! Пра якое поле крычыць?..

– Прафесар сцвярджае, што гэта сіндром вяртання...

– А з конюхам што?.. Што з тым тваім сіндромам?! Дзед жа – нармальны... – Жакей уздрыгануўся і паправіўся: – У сэнсе нармальна з тога сіндрома вярнуўся.

– Ну так...

– Так тваю цераз так!!! Што рабіць будзем? – Жакей пакруціў жылістай шыяй, яшчэ больш паслабіў гальштук, і верхні гузік на кашулі не вытрымаў – адарваўся і паскакаў па гранітнай падлозе...

І раптам нешта нібыта абудзілася ў вачах памочніка:

– Ну-ка дай мне асабовую справу тога дзеда!

– Паверхам ніжэй, у архіўнай...

...Памочнік глядзеў на біяграфію першага пацыента сакрэтнай лабараторыі, хітаў галавой і не мог вымавіць ні слова. У горле страшэнна перасохла.

– Можа, кавы замовіць?

– Што?

– Можа, кавы? – паўтарыў старшыня Службы дзяржбяспекі.

– Кавы? Не, давай гарэлку, і пабольш... Як вы маглі так з дзедам лапухнуцца?

– Ніякага лапухнуцца... Выхад, як і прафесар зацвердзіў, з сеанса быў беспраблемным, без часавай дэфармацыі.

– Ды што ты вярзеш, генерал! Ты мазгі маеш?

– Я па-а-прашу! – надзьмуўся той, ураз пачырванеў, але супакоіўся і зноў затараторыў: – Ты ж сам чуў, як той расказваў пра сваё апошняе месца працы, пра коней нешта там і весавую...

І памочнік не вытрымаў:

– Я і кажу, што ты дурань! Ды конюх гэты і дваццаць, і трыццаць гадоў таму, як і перад сеансам вашым ляцкім, коней пасвіў! – ён падняў асабовую справу «дзеда» і з размаху ляснуў ёй аб стол. – Заві свайго прафесара!..

На поўную адаптацыю правіцеля спатрэбілася некалькі тыдняў. І ўсё павінна было пайсці звычнымі кругамі, аднак... Аднак абмаладзелага кіраўніка адмовіўся прызнаць народ, які датэрмінова выбіраў яго, верыў і любіў. І старэў. Разам з народам старэлі і вера з любоўю. А што ж цяпер?

На прыпынках і ў курылках пачаліся насцярожаныя перашэпты, якія вылiліся ў стыхійныя мітынгі. І з кожным публічным выхадам правіцеля «на людзі» народнае неўразуменне расло і пагражала стаць абурэннем.

– Нашага забілі, а заместа яго падсоўваюць двайніка!

– Так! Паглядзіце ж, ён нашаму ў сыны гадзіцца...

Анічога не магла зрабіць ні тэлепрапаганда, ні Служба дзяржаўнай бяспекі. А тут, як на ліха, узняў галаву прэм'ер:

– Правільна, народзе, нас усіх дураць! Па-а-а-дман!!!

І правіцель быў вымушаны сам ратаваць сітуацыю. Ён выступіў па ўсіх тэлеканалах з надзвычайным зваротам да народа, падрабязна распавёў пра спланаваныя ворагамі падпалы і сваю хваробу, падчас якой некаторыя высокапастаўленыя службоўцы захацелі захапіць уладу.

– ...Іх ужо вывелі на чыстую ваду! – спавядальна вяшчаў правіцель. – Гэтых ролікавых, сысанковых ды керзанаў... Яны марылі дарвацца да ўлады яшчэ з таго часу, калі я хлапчуком узначаліў краіну. Абяцаю вам: усе атрымаюць па заслугах! А да наступнага года мы справімся з эканамічнымі стратамі ды зможам павысіць заробкі і пенсіі. Як і раней, дзяржава не пакіне без дапамогі анікога... – правіцель яшчэ доўга гаварыў пра ліхіх злодзеяў і прадажную апазіцыю, золатавалютныя запасы і міжнароднае становішча, – і народ зноў пазнаваў у тых расповедах колішнюю прастату і сардэчнасць, шчырасць і адданасць. Пазнаваў свайго кіраўніка – да кожнай, хоць і памаладзелай, маршчынкі пад прасветленымі вачыма, да кожнага, хоць і пажвавелага, руху і жэсту, да кожнага слова і гуку...

Вечарам правіцель прыехаў на ўрадавае лецішча, дзе атайбаваўся заапазіцыянелы Сысанкоў.

– Ты?.. – неўразумела ўзняўся з-за доўгага стала прэм'ер і, п'яна ківаючыся, пайшоў насустрач.

Правіцель кашлянуў-хмыкнуў, схапіў пустую бутэльку – і гэкнуў па азызлай галаве прэм'ера. Той хапануў паветра, лізнуў пульхныя губы – і ўраз абмяк...

А калі назаўтра пасля тэлезвароту гаспадара Жакей прынёс складзеныя спецслужбамі аптымістычныя рэйтынгі і вынікі грамадскіх апытанняў, правіцель спакойна адсунуў тыя паперы на край стала і абнечаканіў памочніка:

– Памятаеш, калі метро забаставала... Я тады ва ўніверсітэце выступаў. Там дзяўчына адна, чарнявая такая, мне паперкі падносіла. Я загадваў даведацца пра яе...

– Так, Кацярына Аляксандраўна Бялоўская, студэнтка філфаку. Я дакладваў...

– Ты запрацаваўся ці прыкідваешся?! – зазлаваў правіцель. – Што мне з тых дакладаў? Давай яе сюды! Ясна?..

## VI

– Што ж, про-озвішча тваё-ё адпавяда-ае нутру-у, – як чужым голасам ледзь не праспяваў цар свайму пасланцу акольнічаму Фёдару Сукіну. Вочы не маглі спыніцца на адной кропцы, зрэнкі мітусіліся ў вачніцах – як спалоханыя жукі. Ён перакінуў з адной рукі ў другую скіпетр і кіўнуў вернаму Мацею: – Адпраў яго рабіць труну.

Калі стральцы ўжо дацягнулі невысокае цела збянтэжанага пасланца да дзвярэй, цар удакладніў:

– Добрую вялікую труну! Каб здалёк відна была. – Паглядзеў на пярсцёнак-пячатку, перакруціў яго туды-сюды – і дадаў: – А гэтаму сукінаму сыну й звычайнай ямы хопіць...

Напрыканцы 1560 года, калі Радзівіл Чорны замацоўваўся ў Лівонскіх землях і калі вобраз нябожчыцы царыцы Анастасіі праглынулі супакаяльныя оргіі, Іван Жахлівы накіраваў да Жыгімонта Аўгуста аграмаднае саннае пасольства, якое і загадана было ўзначаліць Фёдару Сукіну. Цар не паскупіўся на падарункі, бо наўзамен спадзяваўся атрымаць не толькі сяброўства караля-суседа, але – і адну з ягоных сясцёр у жонкі.

Жыгімонт жа ўспрыняў прапанову стрымана, а кракаўскі сойм наогул ледзь не адзінагалосна вырашыў выслаць назад маскоўскае пасольства. Аднак Фёдар Сукін не мог здацца. Ён падкупіў каралеўскую пакаёўку, якая ў касцёле падчас нядзельнай службы тайна і паказала дзвюх каралеўнаў. Малодшая, Кацярына, на хвілю паправіла над аксамітным чапком карункавы вэлюм – і царскаму пасланцу запалі ў вочы ўзлётныя чорныя броўкі, далікатны носік, спакушальныя, налітыя вішнёвай свежасцю вусны. А затым ён незаўважна паназіраў за яе лябёдкава-грацыёзнай паходкай – і смачна распісаў аб усім тым свайму гаспадару. І не забыў дадаць, што Жыгімонт-Аўгуст не мае нашчадка, а таму з дапамогай ягонай сястрыпрыгажуні Масковія можа зноў спалучыцца са сваёй «вотчынай» – землямі Полаччыны і Смаленшчыны.

Распісаў – і на некаторы час супакоіўся.

А ў памаракавыя сны Івана ўпершыню прыйшла з жанчын не Анастасія, а таямнічая полька Кацярына. Ён крочыў за ёй, спрабаваў схапіць за далікатна-бялявую руку... і ўжо зрываў з яе ружовы італійскі хітон, і бліснулі ў свечкавым гранні атласныя споднія надрагі, як тая раптам перакінулася ў белую лябёдку і выпырхнула ў расчыненае акно...

– Парві мяне, мой гасудар, як гэтую сарочку... – нечакана прастагнала пад ім гарачая дачка нейкага баярына, і ён сполашна ўсхапіўся.

– Ідзі вон, лярва лядашчая! – цар скінуў жанчыну з ложка і пазваў Віскаватага.

– Пашлі ў Кракаў Сукіну яшчэ ад мяне падарункаў. Хай прыспешвае!

Але пакуль выконвалася новае царскае даручэнне, каралеўну Кацярыну сасваталі з братам шведскага караля Эрыка XIV – герцагам Фінляндскім Юханам...

Іван па-ранейшаму піў і патанаў у блудзе з маладой дачкой хана Кабарды чарнявокай княжной Кучаней, якую – каб хоць гэтым супакоіць царскі шал, узяўся ахрысціць сам мітрапаліт Макарый і – ужо як Марыю – абвянчаць з Іванам. І прытухнуць уладныя гульбішчы – пакуль да Масквы не

дойдзе навіна аб віленскім вяселлі Кацярыны і Юхана. Тады Іван і пашле Курбскага паліць памежныя заходнія землі ды пакліча свайго пасланца Фёдара Сукіна. І загадае таму сваімі рукамі збіць аграмадную труну...

– У яе пакладу Кацьчынага брата Жыгімонта – ці сам лягу! – мовіць ён на пачатку студзеня 1562 года – і на чале 60-тысячнага войска рушыць на старадаўнюю цвержу Вялікага Княства Полацк.

Мітрапаліт Макарый паспрабуе атушыць ваярскі жар цара, але не зможа. І прапануе ўзяць з сабой старадаўнюю святыню, якая, як спадзявацьмецца, адвядзе няшчасці ды непатрэбныя смерці.

– Некалі яшчэ бацька твой са Смаленска трафеем прывёз яго – Крыж полацкай ігуменні Еўфрасінні. Вайна яго вывезла – а ты назад вярні. І хай абароніць ён усё войска Хрыстовае.

– У паходы са сваімі крыжамі хадзіць належыць! – неўразумела кінуў Іван старому мітрапаліту. А той глыбока ўздыхнуў, трывожна паглядзеў у прымружаныя царскія вочы – і спакойна ўдакладніў:

– Крыжы, Іване, не бываюць свае ці чужыя. Усе яны – Божыя, усе Хрыстовыя. Бо ён – Ісус – адзіны за нас, грэшных, пакуту прыняў і да гэтага часу прымае.

Іван падазрона зіркнуў на Макарыя:

– Ты што, мітрапаліт, мой паход праведны не дабраслаўляеш?

Макарый напружана памаўчаў і адказаў пытаннем:

– А ты як думаеш, гасудар: хіба багаслаўляе Стваральнік наш забойствы?

– Ясна... – цмыкнуў Іван і накіраваўся да дзвярэй.

– Крыж полацкі ў тваёй казне. Вярні святыню ў родны град, – ужо ў царскую згорбленую спіну мовіў Макарый. Ён панажагнаў раскрытыя дзверы і нечакана згадаў, як Івану ўпершыню ў жыцці ўдалося прачытаць радкі візантыйскага Евангелля ад Яна. І трывожна ўспомніў расповеды Максіма Грэка аб багатай Полацкай бібліятэцы...

Палкі загадана было фармаваць пад Вялікімі Лукамі. Затым штодня, «дабы воинским людем истомы и затору не быть», яны па чарзе разам з фуражнымі абозамі выпраўляліся ў паход.

Як не пільнаваліся, літоўская выведка дазналася пра маскоўскую выправу і далажыла гетману Мікалаю Радзівілу. Той спешна сабраў войска і з Менска рушыў на падмогу Полацку.

Аднак першым да горада дайшоў маскоўскі цар. Ён доўга з поймы Дзвіны азіраў старадаўнія пабудовы, штось нячутна шаптаў сам сабе, а затым схаваўся ў шатры, пазваў да сябе Івана Віскаватага і загадаў таму пісаць ліст Макарыю, у якім запэўніваў мітрапаліта, што вайну пачынае «токмо ради бдения о святыхъ храмехъ да иконахъ священныхъ, иже безбожная Литва поклонение святымъ иконамъ отвергше, пощипаше ихъ да многая ругания учинише, а церкви православные разориша, веру христьянскую оставльше и лютеранство восприаша»...

Царскія вайскаводцы меркавалі пачаць наступ з Задзвіння – па лёдзе, з тога боку, дзе Вакольны горад не меў абарончых сценаў. Там размясціліся Перадавы, Царскі і полк Правай рукі. Аднак лёд на Дзвіне пачаў раставаць і трашчаць, і палкі перайшлі ў міжрэчча да абязлюднелага манастыра святога Георгія. Ад берагоў Палаты маскоўцы мусілі наступаць ужо на полацкія ўмацаванні.

І хрысціянскі горад са старадаўняй Сафіяй над Дзвіной – канстанцінопальскай сястрой – захлынецца ў агні і дыме. Дзённыя аблогі нападаўцаў будуць змяняцца начнымі вылазамі абаронцаў. Па заснежаных берагах на лёд сцякацьме неўтаймоўная кроў, а па высокім замку амаль бесперастанку будуць гохкаць сценабітныя гарматы.

І выгарыць Астрог з пасадамі, і на крылах сажнага дыму з прысмакам чалавечыны ўварвуцца ў места стральцы, і ўкоцяць гарматы бліжэй да замкавых сценаў – і абваляць іх.

Пасля сёмага прыступу полацкі ваявода з япіскапам выйдуць да царскага войска прасіць літасці.

– Здавайцеся, і дарую вам волю і маёмасць, – абяцаў абяссіленым абаронцам Іван – а калі ўвайшоў у замак, загадаў забіць усіх ваяроў, а гарадчукоў і сялянаў ад Дзісны да Дрысы паланіў і бясконцымі людскімі клінамі загадаў гнаць у Масковію – праз снег і мароз. Туды ж саннымі абозамі павезлі і гарадскі скарб, і маёмасць купцоў ды заможнай шляхты. А іх колішніх уладальнікаў яшчэ некалькі дзён секлі шаблі царскіх татараў, тапілі пад лёдам Дзвіны і Валовага возера.

І не было паратунку ні іудзею, ні каталіку, ні манаху-бернардынцу, і нікому, хто не скараўся ды не прымаў веру і волю маскоўскую.

У першую пераможную раніцу Іван са сваёй світай прысутнічаў на богаслужэнні ў Спасаўскім манастыры. Затым доўга хадзіў па счарнелым ад сажы і дыму снезе, касалапа крывячы ногі, ад чаго насы ботаў – хоць і закручаных уверх – былі сцёртымі і бруднымі. Яго непрапарцыянальнае цела (доўгае, як расцягнутае, тулава – і кароткія ногі) адкрыта калывалася на вогкім ветры і яшчэ, магчыма, у варожых позірках, і таму Мацей гнаў наўкол дзясяткі ахоўнікаў – каб аніводная чужая душа не патрывожыла цара.

Супакоіўшыся праходкай, Іван прызваў да сябе полацкага япіскапа і – як між іншым – спытаў:

– А дзе вашая бібліятэка?

Святар выявіў сподзіў і пачаў няпэўна:

– У гэтым попеле і людзей не расшукаць, не тое, што кнігі...

Але цар перарваў:

– Не хітругань, уладыка. Мне даклалі, што падчас асады ігумен з манахамі іх праз падземны ход да Дзвіны перанеслі, а затым у лодках сплавілі, – уцягнуўшы шыю, ён крыва паглядзеў на схуднела-зморанага япіскапа і палагоднеў: – А я табе падарунак падрыхтаваў... – імпэтна ўзняў руку і кіўнуў пальцам.

Мацей вобцасам кінуўся да цара, схіліў галаву і, разгортваючы з белага аксаміту, працягнуў у сваіх дужых руках крыж.

– Вось, вяртаю на кругі свая старадаўнюю рэліквію, яшчэ бацькам маім Васіліем выратаваную...

– Гасподзь усемагутны! – не ўтрымаўся палачанін і ўпаў на калені. – Святая Еўфрасіння!!! Выратуй і заступіся!

– Ну вось, а вы ад мяне бібліятэку хаваеце, – самазадаволена ўздыхнуў цар і пайшоў да падрыхтаванага яму каня. І ўжо ўскочыў у сядло, але ўбачыў, што япіскап з двума манахамі-служнікамі памкнуліся за ім, – і застыў:

– Што яшчэ?

Япіскап асцярожна перадаў крыж бліжэйшаму манаху, падаўся да цара і ўкленчыў каля пакрытых шэранем конскіх капытоў.

– Уставай, уладыка, не трэба дзякі. Я сёння добры, – мякка прагаварыў зверху Іван, а святар узняў да яго салёныя вочы і вымавіў:

– Вялікі князь, надоечы вої твае нашых пісцоў паланілі. Злітуйся і адпусці іх!

Цар выструніўся, скрыгатнуў зубамі і зірнуў на Мацея. Той аддана пацепнуў плячыма і застыў.

– Значыць, так... Забяры-ка ты і гэтага страснацерпца да тых пісцоў! – цар ткнуў бізуном у япіскапа і балюча стукнуў абцасамі каня...

На тым закончылася кнігапісная школа полацкіх братоў-янітаў, закладзеная з паўстагоддзя таму афонскім ігуменам Нілам і ягонымі паплечнікамі. Толькі аднаму з іх было наканавана дайсці палоннікам да Масквы і ў новай валакаламскай манастырскай келлі некалькі разоў перапісаць «Псалтыр», на кожным асобніку пакідаючы наступнае сведчанне: «Написана сїя книга рукою многогрешнаго и недостойнаго раба Богова Івана, полоняника полоцкаго, в заключенїи і во двоихъ путахъ звязанаго. Слава Богу, совершившему сїю книгу. Аминь»...

Даведаўшыся пра захоп Полацка, гетман Радзівіл павярнуў сваё войска на Вільню – рыхтаваць новую абарону. А ў маскоўскі лагер прыбыло пасольства ад Жыгімонта.

– Замёрз я тут і прытаміўся, – кінуў на тое Іван. – Хай кароль шле прызначаных людзей у маю сталіцу, там гаварыць буду! Так і паведамце свайму гаспадару. – Памаўчаў, нерухома гледзячы пад ногі, і дадаў: – А каб вам не з пустымі рукамі вяртацца, ад мяне Жыгімонту падарунак дастаўце: труну, намі адмыслова для яго падрыхтаваную!..

Ён хацеў яшчэ згадаць пра каралеўскую сястрыцу Кацярыну Ягелонку, якая нядаўна ў Вільні абвянчалася з фінляндскім герцагам Юханам Трэцім, але адчуў сябе блага – і выгнаў усіх прэч.

Пакінуўшы ў зруйнаваным Полацку тры палкі, Іван неўзабаве вярнуўся ў Масковію.

...Вясновае сонца ўжо надаўжэй выкочвалася над горадам, але снегу было яшчэ поўна. Брудныя раўчукі сцякалі ў лагчыны, дарогі размяклі і ператварыліся пад конскімі капытамі ў густую жыжу.

Іаа́н Фё́дараві́ч хацеў ехаць адзін, але Грынь, яго малады памочнік па друкарні, не адыходзіў ад саней (наклаў саломы, паверх ускінуў дзяругу, а ўзвышэнне пакрыў старым футрам). І адмовіўся аддаць лейцы, скочыў на запрэжанага каня і сказаў як пра даўно вырашанае:

– Не гожа, васпане, вам як простаму смерду самому раз’язджаць. Што людзі скажуць?

– «Майце веру ў славу Госпада нашага без аглядкі на асобы», – вучыў нас у сваім саборным лісце святы Якуб. Колькі разоў табе паўтараць словы тыя: «Ці не выбраў Бог бедных гэтага свету як багатых вераю і як спадкаемцаў Валадарства абяцанага?.. Калі ж аглядаецеся на асобы, то ўчыняеце грэх і будзеце асуджаныя».

– Яно то так, але ж не прынята тут самому за лейцы... – ніякавата апусціў галаву Грынь, і друкар Іаан уздыхнуў, матнуў рукой ды пакорліва сеў у зладаваныя для яго сані.

– Калі б не такая гразеча, я б лепш пехам пайшоў, – буркнуў ён і ласкава паглядзеў на абрадаванага Грыня: расчырванелы, стрункі, русыя валасы выбрыталіся з-пад шапкі і казычуцца на ветры...

Іаан доўга не мог звыкнуцца з тутэйшымі парадкамі: ездзіць на санях і летам, а вазніца мусіў сядзець верхам. «Добра што хоць ад гэтых дзікунскіх пер'яў ды лісіных хвастоў, якімі, як скамарохі-аблуды, абчэпліваюцца лейчыя, яго адгаварыў», – падумаў ён пра Грыня і ўголас нагадаў:

– Не забудзь, што да Сілуана-каваля едзем...

Сілуан, былы прыслужнік Зоі Палеалог, перажыў у Маскові ўсе ўладныя змены і сам пераўтвараўся з імі. Жыў ён цяпер у Рамеснай слабадзе вёрстаў з пятнаццаць ад Крамля і меў пасаду царскага гарматнага майстра. Каля абітых жалезам варотаў ягонага новаўзведзенага дома і «трыкнуў» Грынь на каня. Хацеў уехаць на падворак, але Іаан спыніў:

– Дайду, тут пачакай.

На ганку старанна абстукаў боты, зайшоў у святліцу, перахрысціўся на іконы, пакланіўся, крануўшыся правай рукой падлогі, і загаварыў да гаспадара па тутэйшай завядзёнцы:

– Б'ю чалом майму дабрадаўцу! Даруй слабы розум мой... Ці жыўзрароў, Сілуане?

– Дзякуй, Гасподзь ратуе, – адказаў гаспадар і запрасіў госця прысесці да печы: – Трэці раз за содню палю вось... Стары, напэўна, стаў, мерзну ўсё... – і на яго маршчыністым твары загарэзілі агнявыя водбліскі. – Пачастуешся, чым Бог паслаў?

– Дзякуй, сыты. Я адведаць цябе прыехаў, бо мой хлопец казаў, што ўжо колькі разоў цябе ў кузні не бачыў. А тут формы новыя патрэбныя...

Кіпела праца ў маскоўскай друкарні. Яшчэ не паспелі ўзвесці сцены будыніны, а друкар Іаан думаў пра варштат ды навучаных работнікаў. Праз літоўскага пасла Міхала Галабурду, які хадзіў на службы ў Гостуньскую царкву, дзе дыяканіў Іаан, запрасілі да працы майстра Пятра з Мсціслаўля. Затым прыехаў ліцейшчык літар Васіль Нікіфараў з Ноўгарада. І – праца павесялела. Мясцовыя дрэвары зрабілі з дуба варштатную аснову – скрып. Высоўная дошка была з мармура. На яе кладзіся жалезныя формы, у якіх радкамі і выкладвалі шрыфты. Асобныя соты з літарамі па алфавіце займалі левую ад варштата сцяну... Скураной мацой форму належала змазаць фарбай – ашчадна, каб не перастарацца і не зачарніць адбітак, – і заставалася браць паперу ды ціскальшчыку (яго звалі мядзведзем) круціць вінт. Затым да справы прыступаў малодшы служнік: выхопліваў гатовую старонку, клаў на форму чыстую – а «адціснутую» нёс на паліцы правай сцяны. Калі ўсе яны будуць запоўненыя, надыдзе чарга пераплётчыкаў.

Але напачатку штось не заладзілася. Як не ставілі формы, адбітак атрымліваўся няроўны: зверху глыбокі і нават зачарнелы, а ніз – недаціснуты, «сляпы». Пераварочвалі форму – і ўжо, наадварот, слабачытэльным быў верх старонкі.

Дзень маракаваў перад варштатам Пётра Мсціславец: і мармур на роўнасць вывервў, і глыбіню шрыфтоў, а затым зразумеў і, супакоена абцёршы ад фарбы свае шырокія далоні, вырак:

– Формы няроўныя выліліі. Розніца – на пазногаць, а вынік – самі бачыце.

Найлепшым ліцейшчыкам у ваколіцы быў Сілуан. Да яго і скіраваўся

Іаан, балазе былі з ім даўно знаёмыя – праз Максіма Грэка. Праўда, Сілуан выліваў гарматы, але, – разважыў дыякан-друкар, – у гарматнай справе патрэбная яшчэ большая дакладнасць, а таму выліць роўныя формы пад шрыфты для гарматніка будзе простым заняткам...

– Штось, Іаане, надарвалася ўва мне пасля апошняга пахода на Полацак... – з пакутай зірнуў на госця Сілуан, – састарэлы, з разоркамі-маршчынамі на пераноссі, якія яшчэ больш хавалі яго малы нос, з нечаканай лысінай, нейкі ўадначассе высахлы (куды падзелася колішняя магутнасць у плячах?). – Рукі перад працаю апускаюцца, а ў душы, – ён паказаў пальцам на агонь, – вунь як у тым прыпеку... – памаўчаў і працягнуў: – Не буду я больш гарматы цару ліць! Гэта ж з іх сцены полацкага замка разбілі. І столькі крыві аднавернай пралілося – не давядзі Гасподзь каму йшчэ пабачыць. А колькіх жыватоў палонных панішчана... Іх сюды, павязаных, па марозе цугам гналі. Тысячы навечна на дарозе засталіся. Уяўляеш: вязём мы на санях гарматы назад, а мёрзлыя нябожчыкі пад палоззем – шырх, ш-шырх! Дасюль тое ў вушах стаіць...

Абодва паражагналіся, і Сілуан абудзіўся:

– Хацеў у багамолле да Максіма Грэка падацца, у ягоны манастыр, ды даведаўся, што забраў Гасподзь душу ягоную праведную да сябе. Ты ж ведаеш, што некалі мы з ім у гэтую зямлю з малодшай князёўнай Зояй Палеалог прыехалі... Царства ім усім нябеснае.

Яны зноў паражагналіся, і Іаан устаў развітвацца. Паўторна, як і перад уваходам, пакланіўся іконам, падзякаваў гаспадару за клопат і пажадаў здароўя. Сілуан выбраўся праводзіць госця. Наспех накінуў каптан, пакруціў у руках белую мантыю з гарнастаевай апухай – але на плечы не ўздзеў, а грэбліва кінуў каля прыпека. І ўжо за дзвярыма, таямніча нахмурыўшы лоб, прашаптаў Іаану:

– Хрыстацярплівец Максім, адыходзячы, прасіў перадаць мне, каб апеку ўсклаў я на кнігу Евангелля ад Святога Яна. Некалі ў дарозе сюды яна ўратавала самога Грэка. А затым і ў агні не гарэла, і людзей лекавала, і цару падараваная была, і вочы яму адкрыла. У лісце, перададзеным праз надзейнага манаха, старац прасіў тую кнігу на выспу Патмас даставіць, куды святы апостал Ян быў высланы Траянам за абвяшчэнне слова Гасподняга і дзе прадыктаваў сваё Евангелле. «Ацямнілі кнігу цудадзейную грахі царскія, – пісаў манах Максім. – Хай высвеціцца яна наноў на месцы пакутаў і подзвігу складальніка свайго».

Падышлі да саней, абняліся-расцалаваліся. Сілуан уважліва паглядзеў на Грыня і дадаў:

– Дык як мне да той кнігі наблізіцца? Можа, у цябе як атрымаецца? – І ўжо мацней: – А формы я табе выллю. Будуць роўныя, не пераймайся...

І мінуў падрыхтоўчы час, і надышла пара маскоўскага друку слова Божага. Як і было замоўлена, рыхтавалі «Дзеі святых Апосталаў». Зранку адслужыўшы малебен, працавалі без перастанку да апоўдня, адціснуўшы і расклаўшы сушыцца на паліцы дванаццаць першых старонак. А потым на «дзейства» прыехаў паглядзець цар, якому Іван Віскаваты пасля полацкага паходу дакладваў пра справы друкарні ледзь не штодня.

Дзверы сполашна расчыніліся, у і без таго запоўнены працаўнікамі друкарскі пакой забегла некалькі служнікаў і ўзброеных шаблямі ды сякерамі стральцоў; марудзячы, увайшоў царскі ахоўнік Мацей, а за ім

– і сам Іван. У доўгай акаймаванай мяккім футрам накідцы, якая хавала лёгкія скураныя боцікі і няўклюдную касалапасць, ён, здавалася, праплыў да варштата, узяў з яго некалькі свежаадціснутых старонак, схіліў набок галаву і ласкава агледзеў скамянелых друкароў; пазнаў Іаана і, ужо набліжаючыся да падрыхтаванага стальца, пальцам пазваў да сябе. Узяў яшчэ старонку з палічкі – і працягнуў Мацею:

– Чытай.

– Прашу даравáць, вашая царская вялікасць... – укленчыў агаломшаны ахоўнік. – Не навучаны гэтаму...

– Хм, – прымружыў вочы цар. – Думаеш, адно грошы, мячы ды гарматы царскую моцу множаць? – і, адарваўшыся ад Мацея, павярнуўся да Іаана: – І цяпер, дыякан, верыш у тое, што кніга вялікую сілу мае?

– Так, гасудар! – Іаан упэўнена схіліў перад царом галаву, на хвілю знерухомеў.

– Большую, чым грошы і зброя? – перапытаў цар.

– Ісцінна так, – паўтарыў друкар і, не адрываючы свайго пагляда ад царскіх вачэй, зіхоткіх, пачырванелых, дагаварыў: – І прыйдзе час, калі кніга заўладарыць па ўсім свеце Божым, бо праз слова Ягонае паклікана перамагчы і грошы, і мячы, і гарматы.

Цар задаволена хітнуў галавой і, забраўшы з рукі Мацея кніжную старонку, пакратаў яе пальцамі, агледзеў з абодвух бакоў, нават панюхаў – і працягнуў Іаану:

– Тады ты чытай!

– «Первое убо слово, – пачаў запеўна дыякан-друкар, – сътворихъ о всехъ, Феофиле. О нихъ же нача Іисус творити же и учити, до него же дне заповедавъ апостоломъ духомъ святымъ. Ихже избра, възнесеся предъ ними и постави себе жива пострадании своемъ въ многихъ истинныхъ знаменіихъ»...

– А хто гэты Феофіл, да якога напачатку зварот ідзе? – перапыніў Іаана цар і, схіліўшы галаву ў пакрытай залачоным каменнем манаршай шапцы, утрапёна ўгледзеўся ў друкара.

– Як сведчаць вучоныя айцы царквы, – друкар перавёў погляд на іканастас і перажагнаўся, – Феофіл быў сінклітыкам і князем. Яго называлі ўладарным сярод правіцеляў. Сам апостал Павел звяртаўся да яго праз евангеліста Луку з Антыяхіі: «Прыйшло на думку і мне... паслядоўна апісаць табе, высокашаноўны Феофіле, каб ты спазнаў цвёрдую аснову таго вучэння, у якім быў настаўлены»... – Іаан заўважыў, што цар слухаў яго нібыта зачараваны шкаляр – і працягнуў: – І кожны богалюбівы чалавек, якому непадуладныя страсці грахоўныя, ёсць высокашаноўны Феофіл, па-нашаму значыць Богалюбец, дастойны слухаць Святое Евангелле.

Цар устрапянуўся, хітнуў галавой, маўляў – добра, усхапіўся і рэзка падаўся да дзвярэй, там затрымаўся і зноў спытаў:

– А чаму ў цябе, дыякан, крыж на грудзях драўляны, а не жалезны ці срэбны, як у іншых царкоўнікаў?

– Дык крыж Хрыстоў аднолькавую моцу мае – ці залаты, ці драўляны. Урэшце, Госпада нашага на драўляным і распялі... – Іаан штось хацеў яшчэ дагаварыць, але цар перапыніў яго:

– Прыпомніў я падобны, драўляны... У Полацк яго па просьбе мітрапаліта Макарыя вярнуў. Дарэчы, іду цяпер прымаць полацкіх пасланцоў. Паглядзім, што там надумалі...

Як знячэўку цар са світай завіталі ў друкарскі пакой, так мільгам і зніклі. А друкары працягнулі сваю працу – ажно да глыбокага вечара, у святле слепаватых свечак ды светачаў Божага слова.

...У той жа позні вечар з маскоўскага Крамля выгналі пасольства Вялікага Княства. На перамовах баяры агучылі царскую ўмову: Рыга, Вільня і Кіеў павінны прызнаць ягоную волю. Ліцвіны ж запатрабавалі даць спакой не толькі Лівоніі-Інфляндыі, але і – вярнуць Смаленск, Бранск і Пскоў, якія ў часы вялікага Вітаўта былі залежнымі ад Княства.

– Гнаць шчанюкоў Жыгімонтаўскіх сабакамі маёй псарні дзесяць міляў ад Масквы! – Іван не мог стрымаць сваёй лютасці. Ён да хрусту сціскаў у кулакі доўгія пальцы і адзічэла крычаў: – Гнаць! Гнаць!!

Служкі доўга баяліся набліжацца да цара, а калі адпаілі-супакоілі яго хмельным узварам, пачулі ціхі шэпт:

– Загадваю быць паходу...

Ён пачаўся ў студзені новага 1564 года ад Раства Хрыстовага. У мінулую восень адышоў у вечнасць мітрапаліт Макарый, і штось трывожна-няпэўнае затаілася ў царскім сэрцы. Усімі фібрамі цялеснымі ён прадчуваў новую бяду – больш балючую і за смерць свайго апекуна ды заступніка Макарыя, і за нядаўнюю паразу Курбскага ў Лівоніі. Дваровыя чарнакніжнікі і варажэі раілі да наступнай восені не пачынаць аніводнай значнай справы, але цара не адгаварылі. Ён быў люта абражаны Літвой і, адчуваючы сваю ўшматкроць большую вайсковую сілу, загарэўся помстай.

Аднак у сэрцы знібела штось няпэўна-трывожнае, і цар вырашыў застацца ў сталіцы, а ваенную кампанію даручыў узначаліць полацкаму намесніку Шуйскаму і вопытнаму князю Пятру Сярэбранаму. Першы мусіў выступіць з заваяванага Полацка з палкамі ў дваццаць тысячаў, другі – са Смаленска, дзе збяруцца каля пяцідзесяці тысячаў ратнікаў. Войска павінна злучыцца пад Воршай і далей ісці на Менск, Навагрудак і Вільню.

Абраза за мінулую паразу паліла сэрца і гетману Мікалаю Радзівілу. Ягоныя воі, загартаваныя не ў адной крывавай баталіі, ішлі за ім ці па смерць, ці па перамогу. У многіх з іх маскоўцы забралі-забілі ці родзічаў, ці знаёмцаў, ці, як мінімум, аднаверцаў.

Аднак сілы былі несувымерныя, і Мікалай Радзівіл, маючы ад выведкі дакладныя звесткі аб колькасці і перасоўванні захопнікаў, вырашыў не даць зліцца іхнім дзвюм рэкам. З невялікім загонам у некалькі сотняў лепшых вершнікаў ён атакаваў авангард Шуйскага і пасля напружанай сечы адступіў. Апантаныя поспехам і жадаючы паланіць літоўскага гетмана, якога паспелі прызваць Рудым, маскоўцы кінуліся ў пагоню, агаліўшы тым асноўную калону. На рацэ Вула каля Чашнікаў на яе і абрынулася лавіна Радзівілавага войска.

Напачатку на стральцоў, якія не паспелі вышыхціцца ў баявыя парадкі, наляцелі крылатыя гусары. Як нябесныя карныя анёлы яны зрываліся з супрацьлеглага берага і разразалі доўгую калону. Затым з засады загохкалі гарматы і ў бой уступілі пішчальшчыкі ды іншыя пехацінцы. Маскоўцы страцілі вайскаводца і адступалі ў вялікай паніцы, і выратаваліся толькі тыя, хто здаўся ў палон.

Але з-пад Смаленска выйшла яшчэ большае войска, і Мікалай Радзівіл не поўніўся пераможнай радасцю.

– Не гожа ліць кроў хрысціянскую! – сказаў ён сваім гетманам і тысячнікам. І тыя выштукавалі новую хітрасць: паслалі праз смаленскі шлях сваіх ганцоў – нібыта ў Вільню і Менск – з лістамі аб імгненнай перамозе над Шуйскім і рашэнні войска Радзівіла-Рудога неадкладна ісці на палкі князя Сярэбранага. Ганцоў паланялі маскоўцы і адбіралі ў іх гетманавыя эпісталы. «Асноўныя палкі Жыгімонтавыя хай таксама сустракаюць непрыяцеля пад Воршай, бо з войскам полацкага намесніка Шуйскага назаўсёдна пакончана», – загадвалася ў лістах, хоць пад ачолам Радзівіла больш не было ні асноўных палкоў, ні нават запасных. Аднак эпісталы зрабілі больш, чым гарматы і мячы: яны астудзілі баявы імпэт ворага. Князь Сярэбраны ўжо не меў з кім з'ядноўвацца пад Воршай і, каб захаваць свае сілы ды не агаляць заходнія межы, надумаў да новай выправы вяртацца назад. А тут – начная атака, гарматы, коннікі з агнявымі пікамі ды крыламі-вятрыгамі за спіной... Наспех мацуючы абарону, палкі маскоўцаў, кінуўшы ў паніцы абозы, адступілі ў Смаленск.

Вільня вітала пераможцаў ды іхняга вайскаводцу Мікалая Радзівіла, які праз тры дні ўехаў у Вострую Браму на белым кані князя Шуйскага, зняў аброць – і кінуў пад ногі гараджанаў.

Масква ж сустрэла горкую вестку аб паразе сваіх палкоў. Цар у той вячэрні час баляваў з набліжанымі баярамі ў трапезнай. Ганца выслухаў спакойна, нават і брывом не павёў – толькі твар збялеў. Выпіў «Петэрсімоны», абышоў укруга стол і наліў з вялікага гляка кожнаму, паламаў хлеб і расклаў на срэбную місу, доўга глядзеў на яе, а потым, дзіўнавата ўсміхнуўшыся, аднатонна загаварыў:

– Аддаюць юды цела маё на закланне. Здрада скрозь сцены точыцца. А таму, друзі мае нямногія пакліканыя, піце кроў маю, ешце цела маё, – ён паказаў рукой на віно і хлеб. – І хай збудзецца, што наканавана...

Прысутныя маўчалі, а ў грудзях Івана пачынала разгарацца ярасць. Ён памкнуўся прытушыць яе, захадзіў, хітаючы галавой, уздоўж сцяны, але вока выхапіла бляск дзіды ў руках аднаго з вартавых-стражнікаў – і цар з хвілю заваражана гладзіў прахалоднае вастрыё, а потым вырваў дзіду, узняў над сталом і прашаптаў:

– А пакуль нашая кроў на галгофу пацячэ, паглядзім, якога колеру яна ў нашых супастатаў! Усе на паляванне!!!

Вячэрняя сходня ўскочыла і прыспешыла за царом – праз тронную залу, каланадны калідор да ўваходу ў лёхі, у сутарэннях якіх ужо год гнілі дзясяткі літоўскіх вязняў.

– Рэж адступнікаў! – закрычаў цар і ўвагнаў дзіду ў нечае амаль нерухомае цела. Зіркнуў на памагатых, скрывіўся: – Чуеце, які ванючы злыдух з іх выходзіць?!

Пакуль баяры дабівалі палонных, цар праз іржавыя кра́ты глядзеў у напоўненыя лютым жахам вочы чарговай ахвяры. Пакруціў дзіду, пагладзіў і гэхнуў у вязня. Але нечакана той – колішні полацкі разбяр – хітнуўся ўбок і перахапіў дзіду. Нябога настолькі схуднеў, што некалі цесныя вяроўчыны лёгка спаўзлі з ягоных рук – касцей, абцягнутых скурай. Апошняй сілы яшчэ хапіла, каб накіраваць вастрыё ў цара, але неадступны Мацей выскачыў наперад – і дзіда прабіла яму даланю і ўвайшла ў сэрца.

Разбяра пасеклі на кавалкі і крыху супакоіліся.

– А цяпер – наверх! Віп'ем за будучыя перамогі ды аплачам друга

нашага! – дрыготка мовіў цар і, пацалаваўшы яшчэ цёплы лоб Мацея, паценяваў да сходаў.

## 6

*Спелым вясновым ранкам яна – як і звычайна – са студэнцкага інтэрната накіравалася да метро. З не па правілах прыпаркаванага каля падземнага перахода чорнага «Ландкрузэра» насустрач ёй выйшаў усмешлівы Жакей:*

– Кацярына Аляксандраўна?

– Я... – здзівілася дзяўчына.

– Добрай раніцы. Маю гонар і радасць паведаміць, што Вы абраныя тварам нашай сталіцы і запрошаныя на працу... у Цэнтр прыгажосці пры міністэрстве культуры, – Жакей зноў далікатна ўсміхнуўся і, мякка ўзяўшы Кацярыну пад лакаток, паспрабаваў адвесці да машыны, але ў дзяўчыне ўспыхнула змаганне здзіўлення і збянтэжанасці.

– Пачакайце... – Яна адвяла незнаёмую руку. – Але ж я нікуды не падавала заяў...

Твар Жакея стаў сур'ёзным і адказным:

– На тое яна і дзяржава, каб клапаціцца аб самым дарагім, што ў ёй ёсць...

Але тыя пафасныя словы яшчэ больш устрывожылі Кацярыну.

– І што я мушу рабіць у тым Цэнтры прыгажосці? – з непрыхаваным недаверам, часцей заміргаўшы доўгімі веямі, спытала яна.

– Ну... Чыста прадстаўнічыя функцыі... Мадэльнае агенцтва, тэлебачанне, цырыманіяльныя ўрачыстасці. Скажам, першым асобам краіны падаць каву. Сустрэць каго з хлебам-соллю... – Жакей напусціў на твар гуллівасць. – Ды што мы аб усім на вуліцы гаворым? Запрашаю ў Цэнтр! – Ён кіўнуў на машыну. – Пад'едзем, і самі пабачыце...

Кацярына ўважліва зірнула ў шчырыя вочы Жакея і гарэзна адказала:

– Ведаеце, Цэнтр Прыгажосцевіч... Прабачце, бо так і не прадставіліся... Не хачу паказацца банальнай, але з незнаёмымі мужчынамі на чужых машынах я не езджу.

– Прабачце, загаварыўся на радасцях... Я Віктар Віктаравіч. Вось мая візітоўка. Там тэлефон і адрас. Чакаем вас у любы зручны час... Толькі неадкладна сёння ці заўтра. Дамовіліся?

Кацярына пацiснула плячыма.

– Не забудзьце, калі ласка! Ча-ка-ем. – Жакей даліканта схіліў галаву і, яшчэ раз усміхнуўшыся, пашыбаваў да машыны. Прасачыўшы, як Кацярына схавалася ў падземным пераходзе, моцна прыкусіў тонкую губу і завёў рухавік...

Праз два дні ён першым патэлефанаваў дзяўчыне на сотавік:

– Кацярына Аляксандраўна, вітаю вас! Гэта Віктар Віктаравіч... Што здарылася? Чаму не прыехалі? У вас усё добра?

– Дзякуй, добра...

– І...

– Ну як прасцей сказаць? Не зацікавіла мяне вашая прапанова.

Жакей адставіў слухаўку і пракаўтнуў даўкі камяк, трывожна ўздыхнуў і загаварыў як мага мякчэй:

– Я вас разумею. Падобнае прапаноўваюць не кожны год і не кожнаму... Але падумайце добра! Вось-вось закончыце ўніверсітэт, і што – ехаць на раён па размеркаванні? А тут адразу – сталічная прапіска, жыллё, някепскі заробак. Урэшце – папулярнасць, уплыў, слава... – У голас з кожным вымаўленым словам неашчадна дадавалася мядовага алею. – Паўтараю, праца каля першай асобы краіны. Тысячы тысячаў на вашым месцы не задумваліся б...

– Віктар Віктаравіч, задумалася не толькі я, але і мой жаніх. У чэрвені ў мяне вяселле...

Жакея як ашпарылі. Ён сядзеў у прахалодным кабінеце і адчуваў, як па спіне пабеглі пасмачкі пота.

– Алё, вы мяне чуеце?

– Так-так, – з сілай выціснуў памочнік.

– Скажыце, а пад першай асобай вы... маеце на ўвазе кіраўніка дзяржавы? – было заўважна, што Кацярына таксама расхваляваная.

– Вы правільна зразумелі.

А яшчэ праз некалькі доўгіх секундаў маўчання ў слухаўцы пачуўся дрыготкі дзявочы голас:

– Дык вось... Прабачце, канечне, але гэты чалавек мне вельмі... несімпатычны. І мне цяжка з ім нават у адной краіне знаходзіцца, не тое, каб побач... Бывайце!

...Да вечара ў яго было поўнае дасье на Кацярыну Бялоўскую. Спецслужбы пастараліся, і Жакей не без цікавасці даведваўся, што яе выхоўвала адна маці – школьная настаўніца мовы і літаратуры. Маленства, характарыстыкі, універсітэт... Атэстаты, адзнакі, кола зацікаўленасці... Паэзія, класічная музыка... Затым вочы памочніка пашыраліся, тонкія вусны зліплі, а твар бялеў і ператвараўся ў каменны: паўмесяца таму падала ў загс заяву з... Юхансанам, першым сакратаром амбасады Фінляндыі, вядомым сваімі сімпатыямі да апазіцыйных структур... Па аператыўных звестках, праз ягоныя рукі вядзецца фінансаванне многіх антыдзяржаўных праектаў. Зразумела, усё прыхавана клопатам аб правах чалавека і свабодным грамадстве...

Жакей глытнуў даўно астылай кавы і набраў нумар Бадакіна:

– На месцы?

– Так, а што? – пазяхнуў той.

– Будзь гатоў падскочыць да гаспадара. Тут папада́лава на нашыя галовы...

Церпяліва, як скрозь дрымоту, правіцель выслухаў даклад памочніка і гнеўна гохнуў кулаком па стале – так што нават цяжкая начная лямпа дрыганула і патухла.

– Я іх навучу! Я ім пакажу і загсы, і правы, і свабоды! – скрыгатнуў моцнымі зубамі і загадаў: – Раніцай са старшынёй дзяржбяспекі – да мяне! З планам аператыўных мерапрыемстваў! Па поўнай праграме!!!

Памочнік зразумела кіўнуў і, прадчуваючы нядобрае, марудна падаўся з кабінета. Правіцель нярвова пашчоўкаў уключальнікам, а затым хапіў лямпу і, выдраўшы з разеткі, шпурнуў у аталапелага Жакея: – Дагуляліся ў ліберальнасць! Цяпер ногі аб нас выціраюць!..

Да наступнага вечара былі затрыманыя ўсе актывісты апазіцыйнай Народнай лігі, у яе цэнтральным і рэгіянальных офісах прайшлі ператрусы.

На дзясяткі партыйцаў, уключна са старшынём Ролікавым, узбудзілі крымінальныя справы. Сталічны ізалятар запоўнілі «палітычнымі». Загадам урада былі пазбаўленыя ліцэнзій усе прыватныя друкарні, канфіскаваныя наклады незалежных газет – іх і так было толькі дзве. Юхансана ж абвінавацілі ў шпіёнскай дзейнасці і спробе наладзіць антыканстытуцыйны пераварот у краіне. Дыпламату ўручылі адпаведную ноту і абавязалі яго цягам 24 гадзінаў пакінуць краіну.

Тэрмінова адклікалі з замежнага адпачынку Івана Федарэнкіна, і асабіста старшыня Службы дзяржбяспекі Бадакін пачаў інструктаваць яго аб неабходнасці стварэння серыі тэлефільмаў аб варожай дзейнасці заходніх разведак і спрыянні ім мясцовых калабарантаў-апазіцыянераў.

– Павінен пастарацца напоўніцу! У тваім распараджэнні ўся компра, запісы і сродкі. Ясна?

Твар Федарэнкіна скрывіўся. Тэлевізійнік нахмурыўся і задуменна пацёр даланёй кант стала, заваленага папкамі, дыскамі і відэаястужкамі.

– Што?.. – насцярожыўся Бадакін.

– Усё зразумела, – голас Федарэнкіна траціў былую звонкасць і ўпэўненасць. – Толькі гэтага недастаткова...

– Што?!

– Неабходная паездка на захад, каб на месцы адзняць матэрыял. Ды і адпаведныя сюжэты з нашымі тамтэйшымі прыхільнікамі запісаць...

– А... – паспакайнеў Бадакін. – То што валэндаеш? Наперад! Часу, сам разумееш, з камарыны язык!

Ці ёсць той орган у камара, ці няма – ён не ведаў, але калі б знаў у тую хвіліну, што набліжаны і абласканы гаспадаром тэлежурналіст спешна паляціць за мяжу і там папросіць палітычнага прытулку, плюнуўшы на ўсіх іх... калі б знаў, лепш бы перад той сустрэчай свой язык праглынуў!

## VII

У дзяка Віскаватага былі для цара дзве навіны. Адна кепская, а другая – таксама невядома чым пагражала выліцца. І тое трэба было ўвесці ў гаспадаравыя вушы. Аднак як – калі цар ужо тыдзень нікога не падпускаў да сябе, а праз свайго новага пасцельнага дзясяткамі раздаваў загады аб высылках ці галаваннях?

– Кідаюць юды цела маё на закланне... Здрада скрозь сцены точыцца, – нястомна паўтараў цар і наказваў схапіць новага ваяводу. – Не пайшоў я ў паход на Літву, дык яны мяне Жыгімонту за трыццаць срэбранікаў заклалі...

Прычакаўшы цара ў трапезнай, Віскаваты, змагаючыся з адышкай, прагаварыў доўгую тыраду ў гонар гаспадара, а калі той паказаў на стол, з цяжкасцю ўзняў з каленяў сваё таўсмата-нездаровае цела і расказаў аб прыбыцці ў лівонскі Дэрпт паслоў ад шведскага караля Эрыка.

Цар адкінуў смажанае гусінае крыло і, перастаўшы жаваць, уважліва ўталопіўся ў глыбокія – як у старога дзіка – вочы кіраўніка свайго пасольскага загаду.

– Так, гасудар, прыехалі шукаць з маскоўскім царом згоды і міру, – прыспешыў Віскаваты. – Стала вядома, што Данія і Польшча прыклалі пячаткі свае да мірнай дамовы, вось шведы і ўспалашыліся...

– I што хоча Эрык? – цар прагавіта запіў мяса вінам і сціснуў худыя пашчэнкі.

Віскаваты адхінуўся да спінкі, і стулец жалліва праскрыпеў пад ягоным цяжарам.

– Ён пагаджаецца з ранейшымі ўмовамі маскоўскага ўладара, адмаўляецца ад Лівоніі, за выключэннем Рэвеля.

– I што ўзамен?

– Наколькі я абазнаны, анічога. Апроч, зразумела, сяброўства з табой, вялікі гасудар.

Іван хмыкнуў, зноў падцягнуў да сябе збан з віном – і раптам як праяснеў.

– Ты гэта... Неадкладна адкажы, што маскоўскі цар жадае прыняць шведскае пасольства, але перад тым нагадвае каралю Эрыку... – у малых зрэнках бліснулі гарэзныя агеньчыкі, і голас цара памякчэў, – нагадвае аб неабходнасці выдачы непакорнай польскай каралеўны Кацярыны.

– Будзе зроблена, – Віскаваты ўстаў і, схіліўшы галаву, задам паклыпаў да выхаду, але цар перапыніў:

– I глядзі зноў справу з Кацярынай якому Сукіну не даручы! А то другім разам я вас абодвух у адну труну пакладу...

Віскаваты застыў з адкрытым ротам, а Іван схіліўся над сталом, падпёр лоб рукой і дакончыў:

– Там у Дэрпце Ванька Курбскі ад гнева майго кісне. Перадай яму, што высахла крыўда мая – і даручы яму Кацярынай займацца.

Віскаваты ледзь не самлеў, у вачах праплылі чырвоныя кругі... Вось яна – навіна другая, якую меўся ён паведаміць, але так і не насмеліўся!

– Гасудар... – выціснуў ён і адчуў, як на спіне выступіў халодны пот. – Далажылі мне сённячы, што Курбскі знік...

– Што?!!

– Няма яго ў замку... I яшчэ дванаццаць баяраў з ім...

Івана як ашпарылі кіпнем. Неўразумела міргаючы, ён загаварыў нібы сам сабе:

– Можа, на паляванне падаўся? Як гэта няма?..

– Кажуць, што пераапранутым праз сцяну цытадэлі пералез. Золата і грошы забраў... – Віскаваты з цяжкасцю выціскаў словы. – Жонка з сынам засталіся...

Іван памарачна ўстаў з-за стала. Прадаўгаватая галава калацілася, і яго тлусныя кудзяры раптам здаліся Віскаватаму змейкамі...

– Трэба было яго разам са шчанюком Адашавым на кол пасадзіць! Яшчэ калі сыну майму крыж цалаваць адмовіліся... – Іван хіснуўся, схапіў збан з віном і шпурнуў у Віскаватага. Патрапіў у жывот; чырвоная вадкасць плюхнула на твар і бараду, узарвалася на каменнай падлозе гліняным друзам і сцякала па чорным каптане. – Вон, юды!!! I я з Масквы з'язджаю! Задушыцеся маёй каронай! – сарваў з сябе шапку і зноў кінуў у анямелага Віскаватага...

Напрыканцы 1564 года Масква нечакана засталася без гаспадара. Іван IV, склаўшы свой скарб і царскую казну, адабраў з сотню баяраў ды з тысячу стральцоў і падаўся ў Каломенскае, дзе лютая завея і п'яныя оргіі затрымалі яго на два тыдні. Затым былі прыпынкі ў падмаскоўных Тайнінскім і Троіцы, і ўрэшце абоз дабраўся да невялікага Аляксандраўска

– з паўночнага боку Уладзіміра. Там, загадаўшы разбудоўваць Аляксандраўскую слабаду, цар вырашыў зімаваць і паслаў у Маскву да новага мітрапаліта Афанасія ганца з лістом. Віскаваты ледзь паспяваў запісваць халоднай рукой:

– ...Ацяжэла душа мая ад мноства зладзействаў, здзейсненых ваяводамі ды людам служывым. Апаліўся я на ўсім і ўсіх у дзяржаве сваёй – ад першага да апошняга чалавека. І абвяшчаючы апалу сваю, паведамляю табе, уладыка, што вырашыў я скласці карону ды пакінуць дзяржаву сваю, і пасяліцца там, дзе Бог пакажа...

Назаўтра ў Маскву павезлі і другое пасланне: да купцоў і ўсяго праваслаўнага люду – аб тым, што цар на іх не гневаецца і аніякай крыўды не мае.

Масква нечакана патанула ў неразуменні і няпэўнасці. Усхваляваўся народ, запалашылася баярства. Купцы папрасілі перадаць цару, што гатовыя ахвяраваць сваім набыткам дзеля спакою агульнага...

І пачалі шукаць вінаватых, а над некаторымі – і вяршыць свае самасуды. Ужо не першы месяц настройваў маскоўскіх святароў супраць царскіх друкароў Іван Віскаваты, які з першага знаёмства з дыяканам Іаанам адчуў ад таго пагрозу: чым жа тады ён, кіраўнік царскай летапіснай справы, будзе са сваімі пісцамі займацца? Віскаваты распускаў па Маскве і вакольных манастырах чуткі пра мноства памылак у нядаўнавыдадзеным «Апостале» (нібыта іх было менш у кнігах рукапісных), а саміх друкароў называў чарнарукімі ерэтыкамі.

Час помсты быў выбраны, і адвячоркам да друкарні прыйшлі святары з некалькімі дзясяткамі просталюдзінаў. Пятро Мсціславец з Грынем толькі паспелі разабраць формы і ўдвох мылі іх на задворку. Па раўчуку збягала на снег, пакрываючыся лёгкім парам, чорная ад фарбы вада.

– Глядзі, народ праваслаўны: у іхніх кнігах чорт рукі памыў! – тыцнуў на ваду нехта з сухарлявых людзей у святарскай рызе. – Нечысціўцы і справы нячыстыя робяць! Гані вон езуітаў!

Частка натоўпу ўварвалася ў друкарню – і ў кроў збіла агаломшанага Іаана. Той жа сухарлявік схапіў кіпсей і, крыкнуўшы «Вось гэтая чорная д'яблава кроў, якой яны мажуць святыя словы!», стукнуў ім аб варштат. Пасобнікі ўжо варочалі наборныя соты ды скідвалі на падлогу адціснутыя старонкі. А з дзвярэй пачулася:

– Палі валхвоў-нячысцікаў!

– Смерць лютым ерэтыкам!

І ўвомірг, як загадзя падрыхтаваны, успыхнуў агонь. Натоўп наспех выбіў некалькі вокнаў і высыпаў вонкі. З паперы полымя скочыла на смольныя сцены, засцілаючы панадворак дымам. Пакуль Мсціславец з Грынем выцягвалі беспачуццёвае цела таварыша, агонь дабраўся да столі і пачынаў лізаць дах...

Праз некалькі дзён да Іаана – друкар толькі-толькі стаў на ногі – завітаў Сілуан. З яго зморанага вялікага твару не сходзіла трывога, хоць вочы зіхцелі апантанасцю і таямнічасцю.

– Спачуваю табе, браце, і хвалю Бога людалюбнага, што жыццё табе захаваў, – ён прысеў да ложка і папрасіў гаспадыню – Іаанаву жонку – прынесці яму вады. Калі дзверы прычыніліся, прашаптаў: – Усё, што ты мог тут зрабіць, зроблена. Збірай, што засталося, і з'язджай адсюль. Едзь

на Літву – там такія, як ты, патрэбныя. Балазе снег, дарога санная ёсць[1], – Сілуан панізіў голас і загаварыў узнёсла. – А з сабой, папрашу ласкава, вывезі вось гэтую кнігу... – ён вынуў з-пад крыса доўгага кажуха пераплецены рудой скурай манускрыпт і, правёўшы даланёй па зіхоткіх камянях інкрустацыі – нібыта развітваючыся, падсунуў яго Іаану пад падушку. – Думаю, да Кіева напачатку давезці трэба... – увайшла гаспадыня з карцом; Сілуан без ахвоты глынуў вады, падзякаваў і дадаў: – Там пры Святой Сафіі яшчэ ад Максіма Грэка павінны застацца вучні-манахі. Можа, яны яшчэ не перасталі называцца янітамі – дык ім і перадаць кнігу належыць. І волю Максімаву пераказаць, каб на Патмас яе даставілі...

– Гэта візантыйскае Евангелле? – здзівіўся Іаан. Здалося, нават успыхнулі вочы пад доўгімі веямі-матылямі, а сінякі на твары праясніліся. – Як раздабыў?!

– Цар, як ведаеш, з’ехаў. Збіраліся спехам. А ягоным халопам грошы не лішнімі прыйшліся...

– Ну малайчына! – Іаану не хапала слоў. – Толькі... А чаму б табе самому з намі не падацца?

– А знойдзецца месца?

– Як табе не сорамна гаварыць такое?!

– Ну то дзякуй, ну й добра, – усміхнуўся супакоены Сілуан, і яго куртаты нос нібыта расцягнуўся. – А то я, ведаеш, усё роўна тут не маю больш дзе жыць. – Падміргнуў і патлумачыў: – Шмат копаў грошай запрасілі за кнігу, дык давялося свой дом прадаць...

У безуладнай Маскве памнажаліся крадзяжы і падпалы, і багацейшыя з баяраў упрасілі мітрапаліта паехаць у Аляксандраўскую слабаду – каб умаліў цара змяніць гнеў на літасць ды вярнуў яго на сваю дзяржаву. А калі спатрэбіцца, – наказвалі, – хай судзіць тых, на каго апаліўся.

Гэта была новая перамога Івана – не над ворагам-чужынцам, а – над сваім народам. Самаўладна ён увёў апрычніну, падзяліўшы краіну на дзве часткі. Там, дзе захоўваўся стары парадак, дзе кіравалі ваяводы, намеснікі, суддзі, кормленшчыкі з вотчыннікамі, над усім Іван паставіў сваіх баяраў. Другой часткай ён надзяліў сябе. У былых гаспадароў-спадчыннікаў адбіраліся землі і людзі, а іх – калі заставаліся вернымі цару – перасялялі на іншыя вотчыны.

Мяняліся лёсы народа і краіны.

Мяняліся і лёсы слоў. Апрычніна паходзіла ад старамаскоўскага «опричь» (акрамя). У мінулыя часы так называлася маёмасць, якая адыходзіла пасля смерці мужоў удовам. На пірах так звалі прысмакі, якімі гаспадар меркаваў пачаставаць выбраных гасцей. Апрычнікамі менаваліся і сяляне, якія пасяліліся на манастырскіх землях.

Пры Іване Жахлівым гэтае і аднакарэнныя словы напоўніліся зусім іншым сэнсам...

Першыя дні пасля вяртання ў сталіцу Іван выглядаў спакойным. Ці не новыя сны былі таму прычынай – спакусныя сны пра таямнічую каралеўну Кацярыну? Цудам мяняючы абліччы, яна ўсміхалася і нібыта ўзлятала над

[1] У той час дарогі паміж Масковіяй і гарадамі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага не існавала. Вёскі патрапляліся рэдка, і з Масквы да Вільні шлях вымагаў вялікіх цяжкасцяў. Адзіны шлях на заходніх межах Масковіі праходзіў паміж Псковам і Рыгай.

абшарам. А ён зноў і зноў спрабаваў схапіць за далікатна-бялявую руку... і ўжо адчуваў даланёй ейны пярсцёнак і дрыготкія пальцы, як Кацярына раптам ператваралася ў белую лябёдку...

Назаўтра Іван забараніў падаваць на сталы смажаных лебядзей і загадаў Віскаватаму асабіста адправіцца да шведскага караля Эрыка XIV з пытаннем аб непадступнай каралеўне.

Яна, Кацярына Ягелонка, пасля вянчання з братам Эрыка Юханам была ўжо герцагіняй фінскай, але аніштo – ні сваё жаніства, ні святасць чужых абвенчаных сямейных вузаў, урэшце, ні жаданне самой жанчыны – не маглі астудзіць распалены новымі снамі і мроямі пажадны царскі юр. І ён не шкадаваў Эрыку ні шчодрых падарункаў, ні багатага абяцання: абмяняць Лівонію на Кацярыну...

Некалі кароль Эрык і сам супрацівіўся сувязі свайго брата Юхана з Жыгімонтавай сястрой, бачачы ў тым небяспеку ў выглядзе самастойнай Фінляндыі. Але як цяпер шведскаму манарху выдаць сваю швагеркунявестку?!

– Асцерагайцеся! Юхан з Польшчай плятуць змову! – нашэптваў шведскім дворным Іванаў пасланец Віскаваты. Тыя пераказвалі ўсё ля стальца, і нервы караля Эрыка не вытрымалі: з невялікім войскам ён паланіў Юхана і накіраваў яго ў замак Грыпсгольм.

Перадаць цару гэтую навіну прыехаў сам Віскаваты, а з ім – і шведскі пасол. У лютым 1567 года ў Аляксандраўскай слабадзе была падпісаная саюзная дамова паміж Стакгольмам і Масквой.

– Вы будзеце мець ад мяне і дапамогу ў прымірэнні з Даніяй, а калі спатрэбіцца, і вайсковую падтрымку, – абяцаў павесялелы цар. – Толькі вышліце мне герцагіню Кацярыну. І помніце, – перасцярог ён пасла, – калі з ёй у вас ці па дарозе што-небудзь здарыцца – я парву дамову...

...Але ганарыстая Ягелонка ўсхацела раздзяліць лёс свайго вязня-мужа!

– Я не буду больш анічыёй жонкай, нават калі вы зробіце мяне ўдавой! – цвёрда адказвала яна.

Юхан за «здраду інтарэсам манархіі» быў асуджаны на смерць і з лета 1563 года разам з жонкай знаходзіўся за кратамі. Аднак шведскі кароль Эрык аніяк не насмельваўся даць апошні загад: забіць свайго брата. Герцагіню ж Кацярыну аніяк не скаралі ні пякельныя пагрозы, ні мядовыя абяцанкі. А тут яшчэ імператар Максіміліян у сваім маніфесце асудзіў шведаў як парушальнікаў міру і саюзнікаў варварскай маскоўскай дзяржавы. І апошнія папярэджанні выказаў Жыгімонт, збіраючыся абвесціць вайну за сваю пакрыўджаную родзічку ды яе дзяцей: у вязніцы Кацярына нарадзіла двух дачок і сына, якога назвалі ў гонар караля-дзядзькі Жыгімонтам[1]...

Іван быў сп’янелы пакараннямі і крывёй, але думкі аб Кацярыне цверазілі яго. Ён пераступаў праз трупы і ахвяры – а ейны вобраз уяўляўся светлым анёлам-выратоўнікам. І ў імя яго ён не пашкадаваў бы і свайго жыцця!

– Гэты каранаваны купечы сын можа спудлаваць, – сказаў пра Эрыка Іван. – Націсніце на яго, і без Кацярыны не вяртайцеся! – і выправіў у Упсалу новых пасланцоў. І яны ўжо нават рыхтаваліся выкрасці-выкупіць чароўную паланянку, як здарылася непрадбачнае: «каранаваны купечы

---

[1] Ён, Жыгімонт Трэці, праз тры гады пасля смерці Івана Жахлівага стане літоўскім князем і каралём Рэчы Паспалітай, а пазней – каралём Швецыі.

сын» паўстаў перад імі ў памутнёным розуме! Больш за тое: ён загадаў вызваліць Юхана!

Некалькі дзён мяняліся каля каралеўскага ложка лекары, і ўсе яны канстатавалі: кароль звар'яцеў.

Двор ахапіла здранцвенне, а Эрык соўгаўся па калідорах палаца ды – усведамляючы сябе вязнем – маліў брата аб дараванні.

У верасні 1568 года новым шведскім каралём быў абвешчаны Юхан, а яго верная жонка Кацярына Ягелонка надзела на сябе карону паўночнай імперыі...

І сотнямі паляцелі на Маскоўшчыне халопскія, баярскія і князевыя галовы. Цар вярнуўся з Аляксандраўскай слабады – і распачаў на Чырвонай плошчы прылюдныя катаванні. Палілі і грызлі чалавечую плоць жароўні ды клешчы, чакалі ахвяраў катлы з кіпенем ды віселькі. Народ маскоўскі за некалькі дзён насыціўся страшнымі відовішчамі ды хаваўся па сваіх закутках, і царскія гласары мусілі склікаць іх: «Не бойся, люд праваслаўны! Справядлівы цар толькі здраднікаў сваіх карае!».

І памалу зноў сцягваліся на пляц гледачы, і цар загадваў пачаць пакаранне новых змоўнікаў: пасланца-дзяка Віскаватага, казначэя Фунікава і колішняга любімца Басманава. Першага павесілі за ногі і, як кабана, пасеклі доўгімі нажамі. Другога аблівалі то кіпнем, то ледзяной вадой, пакуль мяса само не пачало адставаць ад костак. Басманава ж цар загадаў уласнаручна забіць свайму сыну – царэвічу Фёдару, спадчынніку маскоўскага стальца.

Іван адпрэчыў ад сябе ўсё старое акружэнне ўключна з радавітымі баярамі, а наблізіў бязроднага мужыка, за якім назіраў яшчэ ў час ад'езду з Масквы – Ваську Гразнага.

– Баяры прывыклі здраджваць свайму гаспадару, – сказаў яму цар, калі паклікаў да стала. – І не толькі баяры... Вось быў пры двары маім круглагаловы сабака Адашаў... Не вядома, якім чынам узняўся да служакі... Мы ж узялі яго з гноя і зраўнялі з вяльможамі... – цар уздыхнуў і завяршыў: – Глядзі ж! На вас, мужыкоў простых праваслаўных, у мяне апошняя надзея засталася – на вернасць вашую і адданасць.

– Ты, цар, як Бог для нас, бо з малога чалавека вялікага можаш стварыць! – узрушана выгукнуў Васька Гразны і кінуўся цалаваць цару ногі.

Склаў свой белы клабук мітрапаліт Афанасій, спусціў дух у руках набліжанага Іванам служніка Малюты Скуратава непакорны мітрапаліт Філіп – а гнеў царскі аніяк не супакойваўся. Яго наноў запальвалі словы даносчыкаў – і тады нішчыліся ўжо цэлыя гарады. Выгналі з Ноўгарада злодзея і бадзягу Валынца, а ён, перахоплены раз'ездам апрычнікаў, распавёў аб страшнай змове сваіх крыўдзіцеляў – ноўгарадскіх жыхароў – з Жыгімонтам. Нібыта, бажыўся, і дамову тую з подпісам ноўгарадскага мітрапаліта Пімена бачыў, і ведае, што яе за абразом Божай Маці ў храме Сафіі хаваюць.

Так было ці не, але Іван сам узначаліў апрычнае войска – і дарогу ад Кліна да Ноўгарада ператварыў у пустэльню. Перадавыя сотні ўварваліся ў Ноўгарад і да прыезду цара выстраілі ўсіх святароў і дыяканаў на правеж.

У горад у суправаджэнні паўтысячы стральцоў прыехаў цар з сынам.

Ён пажадаў смерці здраднікам і загадаў мітрапаліту Пімену служыць абедню ў Святой Сафіі. Затым весела паабедаў ва ўладыкі – і мітрапаліта з чэляддзю, сарваўшы адзежы, кінулі ў склеп. На другі дзень хваля катаванняў накрыла і гараджанаў. Іх сотнямі правяралі агнём і жалезам на рынкавай плошчы, а затым гналі да Волхавай быстрыні, якая зімой не замярзала, – і тапілі. Дзяцей прывязвалі да мацярок, мужчынам, каб не супрацівіліся, скручвалі за спіны рукі. Да вечара па рэчцы ў лодках соўгаліся – як страшныя хароны – апрычнікі і дзідамі дабівалі жывых...

Рабаваліся манастыры, і асатанелыя царскія вершнікі ў чорных манашскіх рызах аддана прысягалі свайму дабрадаўцу:

– Мы збудуем у тваёй, цар, Слабадзе манастыр праведны! Ты – наш ігумен! Скуратаў – панамар пры табе!

Прывязаўшы да падсядзёлкаў сабачыя галовы ды мётлы, яны яшчэ з дзень пагойсалі па апусцелых абшарах ды разам з царом скіраваліся да Пскова. На заснежанай дарозе сустрэлі босага юродзівага, закутанага ў смярдзючае рыззё.

– Хочаш? – ён дастаў з-за пазухі кавалак мяса і працягнуў Івану.

– Пост! – крыкнуў яму цар.

– Пост?! – вытарачыў вочы юродзівы. – А мяса чалавечае табе хто дазволіў жэрці?

Увішны Скуратаў ужо ўзняў над нябогам шаблю, але цар крутнуў галавой:

– Хай ідзе Божы чалавек сваёй дарогай.

І загадаў вяртацца ў Маскву.

## 7

*Надарвалася ў ім штосьці – і сам разумеў тое, але звязваць ні сілаў, ні ахвоты не было. Колькі ж можна: ні дня без клопатаў, звадак, даносаў, разборак? І чым далей – тым больш. А тут яшчэ як пацукі з карабля – пабеглі тыя, каму найбольш даверыў, каго настаўнікамі ці вучнямі лічыў.*

«Заяц... Ці бачыце, не ўнаравіў яму, не паслухаў! То сімволіка яму не тая, то сказаў не тое, то газету нейкую прычыніў. Ну сядзі б, здавалася, на старасці як у бога за пазухай, адпачывай, лячыся ды радуйся сваім апошнім райскім гадáм! Не! Карціць вучыць, усё роўна як за жыццё не навучыў... Не студэнт жа я яму вечны! Пагражаць мне яшчэ будзе... Вось і поркайся цяпер, памідоры на лоджыі вырошчвай!

Ці яшчэ гэты змейчык-тэлежурналісцік... І тое яму, і гэта! З рук жа маіх карміўся... Хрукай ты спакойна, здавалася б, ля карыта...»

Але не гэта – галоўнае. Перадалі вынікі апошніх засакрэчаных апытанняў: рэйтынг ягоны да плінтуса апусціўся! Гэтаму электарату – хоць у паркет разбіся – пачалі імпанаваць песні ролікавых ды іхніх падпявалаў! А надвор'е такое, што хапае і адной іскры! Рабочыя з каскамі на мастах паселі... Пенсіянеры-мухаморы помнікі старым правадырам абляпілі... А гэтыя сонныя свінні з Думы ўжо імпічмент гатовяць! Узяць бы – і швайкай пад бок...

Спецслужбы харахорацца: то адзін варыянт, то другі прапануюць, – а ў яго нечакана на ўсё рукі апусціліся. Колькі ж можна? Які гэта пуп вытрымае? Нават пасля той далбанай аперацыі з плацэнтай...

Канчаткова сарваўся ён пасля гісторыі з той чарнявай студэнткай Кацярынай... Раней выпіваў толькі сімвалічна, а тут пайшло-пацякло: каньяк – віскі, віскі – тэкіла. Усю восень у Варанісе – гульбы-пацехі. І даўгалыжкі-манекеншчыцы, і грудастыя спявачкі, і прасунутыя інстытуткі... Жакей штодня соўгаўся з неадкладнымі праблемамі, а калі патрапіў на больш-менш працверазелага правіцеля, пачуў безапеляцыйнае:

– Ды пайшло ўсё нá хер! Стаміўся я – і сыходжу. Дзяржаўнае ўтрыманне мне да смерці гарантавана Канстытуцыяй, а вы ўсе, калі я не падабаюся, шукайце лепшага! Пагляджу, што атрымаецца...

І пакуль што – не атрымлівалася анічога. За правіцелем, адчуўшы штосьці падазронае, падаліся – у ягонай свіце – два найбольш вушлыя нафтагазавікі, а затым – і ўвесь урад. Натуральна, не пакінулі свае дзялянкі спецыялісты ў штацкім, якія былымі, як вядома, існаваць не могуць.

Улада перайшла да Думы, але ж заканадаўцы – не выканаўцы! Закульгала ўся дзяржаўная сістэма. Пачаліся перабоі ў здабычы і пастаўках нафты і газа – і, як вынік, аграмадны недабор падаткаў у бюджэт. Акцыі ўпалі. На рынках – абвал. Скокнула інфляцыя. Зноў – затрымкі ў выплатах заробкаў і пенсій, неразбярыха і пустыя паліцы.

Ну трыбунілі эканамісты з Народнай лігі, што ва ўсім вінаваты рэжым, які дабіў краіну, штосьць блёўталі пра банкруцтва Цэнтрабанка, пра папярэднія непамерныя крэдыты ды адсутнасць золатавалютных запасаў. Але ад тых прызнанняў у людскіх ратах саладзей не рабілася! Яны ўсё часцей і часцей пачалі згадваць Мароза, і пад Новы год... ён вярнуўся!

На белым кані-алені і з дэкрэтам аб узнаўленні сваіх кіраўнічых функцый – у імя выратавання нацыі і вываду краіны з эканамічнага калапсу.

У той жа дзень правіцеля падтрымалі і спецслужбы, і паліцыя, і войска, якіх без яго пачалі ўжо скарачаць.

У мэтах навядзення належнага парадку была распушчаная Дума, а некалькі дзясяткаў незгаворлівых дэпутатаў павучылі каванымі ботамі і выкінулі з будынка.

– Аніхто з іх не павінен абрацца ў склад новага парламента... – як ужо аб вырашаным мовіў правіцель падчас начной нарады з сілавікамі. – Акрамя тых, хто пакінулі Думу адразу пасля майго сыходу... Па сталіцы і рэгіёнах – татальны кантроль! Асабліва – недабранадзейных! Задзейнічаць усе сілы і сродкі! І яшчэ... Раніцай разблакуйце мой сакрэтны стабфонд. Трэба тэрмінова выплаціць народу пенсіі і заробкі. Асабіста праверу! Усё.

Каменная ноч паглынала горад. Высокія сцены, якімі кіраўнікі стагоддзямі аддзяляліся ад свайго народа і якія новыя ўлады штораз размалёўвалі ў свой колер (як, зрэшты, і рэзідэнцыю), – тыя сцены нястомна кідалі на пустыя заснежаныя вуліцы доўгія цені. Памаранчавая поўня зачапілася за званіцу Архангельскага сабора і дрыжэла на марозе.

Нібыта рапартуючы ёй, нясмела міргалі жоўтымі зрэнкамі светлафоры. Завые там-сям сірэна, пратарахорыць, узнімаючы снежны пыл, БТР ці пранясецца зацемнены аўтобус з вайскоўцамі – і зноў ціша, зноў адно мёрзлыя доўгія цені.

Пасля нарады правіцель прайшоў праз пакой адпачынку да асабістага ліфта.

– Іван Уладзіміравіч, можа, што яшчэ загадаеце? – пачуўся за ягонай спіной мяккі голас усюдыіснага Жакея.

Правіцель марудна павярнуўся, бліснуў змораным, але – чаго не было даўно – задаволеным тварам, вусны ўзняліся ў нечаканай усмешцы. Ад былой памаладзеласці – ані знаку: зноў мяшкі пад вачыма, маршчыны на залысінах. Скура пажаўцела, а вочы пад кароткімі веямі – як жоўцю налітыя. Кіўнуў-падазваў пальцам – і, выцягнуўшы шыю, марудна прашаптаў памочніку ў вуха:

– Асабіста, кажу, праверу... Усё...

Затым спакойна ступіў у ліфт і націснуў кнопку «Х», якой у іншых ліфтавых кабінах Адміністрацыі не было. Толькі гэтая шахта магла ўзняць свайго пасажыра наўпрост да верталётнай пляцоўкі ды браніраванай сакрэтнай залы...

Святло ў простакутным люстэркавым пакоі з выхадам да двух калідораў уключылася аўтаматычна – як толькі спыніўся ліфт.

Лічбавы код, прыстаўленая да экраніка зрэнка – і тоўстыя дзверы ссоўваюцца. Ад ног да ўзвышэння па ўсёй вялікай зале па чарзе ўспыхваюць электрычныя паходні. Пакуль правіцель крочыць наперад – у цэнтры на стале загараецца пяцікутная жырандоля – і высвечвае старадаўні белы трон.

Новы гаспадар зачаравана пагладзіў яго выразаныя са слановай косці падлакотнікі, спінку, выяву залачонага візантыйскага арла – але не сеў, а падаўся далей, дзе – нібыта ў заалтар'і – на чорным мармуровым пастаменце ляжала чорная ра́ка-труна з парэшткамі цара Івана Жахлівага... Ляжала ўжо шэсць месяцаў – акурат з таго часу, калі гаспадар кабінетаў знізу вырашыў быў пакінуць іх.

Пакінуць – каб вярнуцца. Вярнуцца – як ранішняе сонца, як птушка Фенікс, як і гэтая мумія колішняга цара, некалі эксгумаваная перад рэстаўрацыяй Архангельскага сабора па яшчэ нецаркоўным савецкім загадзе.

Аб той эксгумацыі-рэстаўрацыі яму – яшчэ зялёнаму студэнту – распавядаў у каларытных і чуллівых дэталях прафесар Заяц. І на лекцыях, і на семінарах. Тады ён, камсамолец, успрымаў тое пацешнымі байкамі. Ды і пазней не да спірытычных штучак было, аж пакуль нешта не загарэлася, не перапстрыкнулася ў ягонай галаве...

Правіцель пракасалапіў да пастамента і, адчуваючы ва ўсім целе п'янкую дрыготку, прыліп памутнёнымі зрэнкамі да пустых вачніцаў шэра-попельнага чэрапа...

## VIII

Няма горшага пакарання, як бачыць гібель зробленага табой. Бачыць, як за некалькі гадоў прахам ідуць жыццёвыя патугі, як знікае тое, на што спаліліся ўсе сілы і нервы.

Яшчэ аб тым не здагадваліся нават хцівыя баяры, не гаворачы аб войску ды служывых, яшчэ дзяржаўнымі клопатамі штодня напаўнялася тронная зала палаца ў Аляксандраўскай слабадзе, па-ранейшаму грозна на каменныя калоны абапіраліся цяжкія столевыя зводы, яшчэ раскоша паўзла па аграмадных дыванах ад нізкіх уваходных дзвярэй (і кожны за́йшла, якога б роду-племені ні быў, мусіў у іх кланяцца), яшчэ ўладарна ўтрымлівалі

белы трон фантасмагарычныя фігуры антычных звяроў, і з левага боку – як у прымальні рымскага Папы, rex'а sokrarum'а, годна ўзвышаўся вобраз Багародзіцы, а злева – вобраз Збаўцы, і яшчэ не астыла храмнае ўражанне, якое надавалі вымаляваныя на сценах біблейскія сюжэты, яшчэ перапаўняліся адданасцю маладыя целаахоўнікі ў белых аксамітных накідках з вернымі сякерамі на плячах, і па-ранейшаму падчас ягонага з'яўлення ў доўгім далмацiку з ціярай на галаве і дзяржаўным посахам прысутных (ні то ваяроў, ні то манахаў у высокіх белых шапках з залатымі ланцугамі на грудзях) апаноўвала рабскае маўчанне, – а ён, валадар у самай сіле і вопыце, ён ужо прадчуваў, што ўсяму гэтаму надыходзіць канец.

І першымі аб тым абвесцілі – як страшныя вершнікі Апакаліпсіса – татарскія гізалы, якія ў адзін дзень захапілі і спалілі Маскву, пакінуўшы некранутым адзін Крэмль. Іван мусіў хавацца ў сваёй слабадзе, пакуль праваслаўная кроў лілася на вуліцах ахопленай агнём сталіцы, а мітрапаліт з духавенствам чакалі смерці, зачыніўшыся ва Успенскім саборы.

Сцены Аляксандраўскай слабады былі замалымі, і цар са сваімі апрычнікамі-баярамі перабраліся ў Ноўгарад, нядаўна люта разрабаваны імі. Там летам 1571 года скамянеламу Івану зачыталі ханскае пасланне: «Я разрабаваў зямлю тваю і спаліў сталіцу. Ты ж не прыйшоў абараняць людзей сваіх. А яшчэ хвалішся, што цар маскоўскі! Знай: я не хачу багаццяў і земляў тваіх. Я, каторы бачыў дарогі дзяржавы тваёй, забяру назад Казань і Астрахань...».

Не пасаладзіла царскай роспачы нават вестка пра смерць ненавіснага Жыгімонта, – толькі наноў распаліла ягоныя думы аб каралеўскай сястрыцы. І загадае Іван прывезці да яго ў Ноўгарад шведскіх паслоў ды зноў загаворыць з імі аб Кацярыне.

Агаломшаныя нашчадкі вікінгаў нагадаюць, што Кацярына цяпер – іхняя каралева, а шведскае войска пад ачолам караля Юхана ціснe маскоўскае ў Фінляндыі, аднак Іван будзе рабіць шчыры выгляд, што не чуў аб тым і што, наогул, усё тое вар'яцкія нагаворы. А назаўтра загадае перадаць каралю Юхану наступную эпісталу: «Скажы нам, хто быў твой бацька і як звалі дзеда твайго?! Ці былі яны каралямі? Нам жа брат – рымскі імператар! Твой бацька Густаў чый быў сын? Хіба не бывала ў ягонае кіраванне, што нашыя купцы прыйдуць у ягоную краіну з салам і воскам, а ён надзене рукавіцы і пойдзе да самага Выбарга мацаць тавары ды таргавацца?.. А Кацярыну ў цябе адбіраць я не збіраўся, і быў упэўнены, што муж яе мёртвы, і хацеў вызваліць яе ды перадаць брату Жыгімонту, каб абмяняць на Лівонію...».

Пасля ад'езду шведскіх паслоў цар загадаў прывезці сялянскіх дзевак, якіх распрануў дагала і прымусіў лавіць курэй, гарэзна палохаючы:

– А тую, якая не здолее, будзе лавіць ужо наш мядзведзь!

Затым цар служыў усяночную і, стомлены ды супакоены, адправіўся ў апачывальню, дзе тры сляпыя старцы па чарзе ўсыплялі яго доўгімі казкамі.

Але сон не браў ягоны ўзбуджаны і распалены мозг, і зноў з зацемненага лампаднага вугла на поўным галопе на яго выляталі чырвоныя коні, таўклі капытамі падлогу і халодны ложак, трушчылі ягонае цела і знікалі ў супрацьлеглай сцяне – каб праз хвілю пякельнага круга з'явіцца наноў. На самым вогненным і ліхім скакуне сядзела голая Кацярына і па-заліхвацку наравіла кінуць на Івана ні то аброць, ні то пятлю. Ён і сам

мерыўся скочыць да яе на цёплы конскі азадак, але ногі абломваліся, а за ложкам адкрывалася чорная яма...

Лекар прыносіў Івану супакойны адвар, і коні больш не вярталіся, а падлога ў апачывальні выроўнівалася.

– Я цар-ігумен, і мне не належыць жонку мець... – гучна ўгаворваў сябе ў снах Іван. – Я з усёй дзяржавай заручоны...

Кацярына рабілася ягоным сімвалам недасяжнасці і пакуты. Ва ўсіх сваіх жанчынах, пачынаючы ад другой жонкі Марыі, ён бачыў яе – непадатлівую Ягелонку, і шукаў тую ў сваіх каханках, і помсціў за яе, не знайшоўшы, любіў – і ўадначас караў за свае крыўды. Марфу Сабакіну знайшлі мёртвай праз некалькі дзён пасля разгульнага вяселля. Ганну Калтоўскую загадаў адвезці ў манастыр. Марыю Даўгарукую выгнаў з апачывальні пасля першай шлюбнай начы – яе ў санях укінулі ў рэчку. І зажыў з дзвюма – Ганнай Васільчыкавай ды Васілісай Мяленцевай, якіх прывёз аднекуль Малюта Скуратаў і якія люта ўзненавідзелі адна адну, чым, напачатку павесяліўшы гаспадара, прыспешылі свае канчыны...

«Пасля іх я падару табе, валадар, і цнатліўку Літву, і ганарліўку Польшчу», – згадаліся словы Скуратава, якім так і не наканавана было збыцца: верны пёс Малюта склаў сваю галаву ў Лівоніі. У адказ Іван загадаў спаліць жывымі ўсіх палонных – лівонцаў, немцаў, шведаў, і зноў задумаўся над абяцаннем слугі-нябожчыка.

Пасля Люблінскай уніі Літва з Польшчай склалі адну дзяржаву – Рэч Паспалітую, і ейны трон-ложак пасля Жыгімонтавай смерці быў вольным.

– Ліс не пакінуў на́шчадзі і не дамогся маёй смерці, – разважаў Іван. – А таму ці не зрабіць мне жонку яго, дзяржаву яго, сваёй наложніцай?

Усё часцей заходнія вікы ды пасланцы даносілі яму: Польшча з Літвой разглядаюць магчымасць запрасіць да сябе каралём маскоўскага цара. Найперш шапталіся аб тым простыя рамеснікі ды дробная шляхта, даводзячы:

– Прыеліся нам змены ды неразбярыхі. Хай прыйдзе цар-бацюхна ды разбярэцца. Парадак навядзе сваёй строгай рукой...

І новая мара апанавала Івана: адыходзяць Лівонія і Казань – а я збяру землі славянскія, і ад моцы такой дзяржавы аслепнуць ворагі!

У Маскву прыехаў упаўнаважаны польска-літоўскай дзяржавы Варапай і, паведаміўшы пра смерць свайго караля, сказаў аб прапанове сенатараў шукаць ягонага наступніка ў суседніх землях.

– Многія жадалі б бачыць на тым месцы маскоўскага царэвіча, – загадкава падагульніў ён.

А Іван нібыта ўжо быў да таго падрыхтаваны – спакойна прыгладзіў сухенькую бараду, узняў свой востры нос і, пад руку правёўшы даўганогага Варапая ў трапезную, дзе наладжвалася найбагацейшая пачостка, загаварыў задаволена, ласкавым шэптам:

– А што... Некалі яшчэ бацька мой выступаў прэтэндэнтам на польскі сталец. Ведаю, што ў Польшчы і Літве пра мяне распускаюць чуткі як аб чалавеку злым і жорсткім. Але на каго я злы? Супраць здрадаў баярскіх, якіх у тваёй дзяржаве няма, злы, а таму я буду абыходзіцца з вашымі людзьмі інакш. І не толькі захаваю там старыя прывілеі, але і новыя дам. Для добрых людзей – і я добры! Ім гатоў апошнюю адзежу аддаць, – і цар нечакана пачаў расшпільваць расшытую золатам далмаціку, каб накінуць яе на госця.

Варапай, спалохаўшыся, далікатна затрымаў ягоную руку і ніякавата ўдакладніў:

– Наш сенат разаслаў такіх людзей, як я, у некалькі краінаў. І кандыдатаў будуць выбіраць прынародна – сенатары і дэлегаты... Мне ж даручана было разведаць пра магчымасці маскоўскіх царэвічаў – Фёдара ці Івана.

Аднак цар нібыта не зразумеў:

– Так, я маю двух сыноў, і яны для мяне – як вочы. Навошта ж вы хочаце зрабіць мяне сляпым? Ды і ўявіце, якая хрысціянская дзяржава створыцца – як Рым з Канстанцінопалем, як новы Іерусалім! – і ягоныя вочы апантана загарэліся пад парадзелымі брывамі. – А калі мяне абяруць польскім гасударом, я гатоў падарыць Полацак.

Варапай мусіў тэрмінова адкланяцца і ад'ехаць, каб перадаць пачутае ў Кракаў. А праз месяц у Маскву вярнуўся пасол Вялікага Княства Міхаіл Галабурда – і перадаў цару новыя ўмовы: зварот не толькі Полацка, але і Смаленска, а таксама прыняцце царом каталіцкай веры. Калі гэта абгаворваецца, цару неадкладна належыць выслаць у Варшаву сваіх даверaных асобаў у складзе новага маскоўскага пасольства, каб мець сустрэчы з сенатарамі і выбарцамі ды папулярызаваць свайго патрона.

– Што?! Я цябе правільна зразумеў? – грозна зіркнуў на пасла Іван. – Я павінен яшчэ некаму нешта даказваць? Калі Рэч Паспалітая хоча сабе каралём маскоўскага цара – а я перакананы, што большасць народу хоча таго, – хай ідзе і чалом б'е! Я ж – не бедны жаніх на выданні! – ён хацеў яшчэ сказаць штосьці узнёслае і ўрачыстае, але нечакана ў галаве бліснула Кацярына, і загарэлася крыўда на яе з нябожчыкам-братам Жыгімонтам, і гнеў на ўсіх езуітаў-каталікоў. – У свеце няма гасудароў, якія б маглі пахваліцца сваім манаршым родам у два стагоддзі. А я – нашчадак рымскіх кесараў! А таму выпрошваць лаўры ў свой вянок не збіраюся, як некаторыя немцы ці французы, і вазьму, што належыць, сам. І каранаваць мяне будзе наш мітрапаліт, – цар з недаверам агледзеў Галабурду і, хоць вопытны ў дыпламатыі прыгожы твар тога не люстраваў аніводнага пачуцця, накінуўся з прыдзіркамі: – А што ты ўсміхаешся? Што такі задаволены? Разумней усіх?! Думаеш, не ведаю, як ты, у Маскве жывучы, лісты ад Жыгімонта ворагам маім перадаваў ды да здрады іх падштурхоўваў? І атрутай юдаў-курбскіх цешыўся? Можа, і друкароў маіх нагаварыў уцячы? Чуў, яны там цяпер Хадкевічам ды Радзівілам прыгрэтыя. У людвісарнях[1] варожых гарматы пачалі ліць... – і цар замоўк.

Галабурдзе гаварыць не было чаго. Пасольства пачало развітвацца, а Іван, ужо лагодна хітаючы галавой, давяршаў свой маналог:

– Анікому нельга верыць: ні другу, ні жанчыне, ні дзяржаве.

...Няма горшага пакарання на гэтым свеце, як бачыць гібель зробленага табой і нязбытнасць задуманага. Бачыць, як прахам ідуць жыццёвыя патугі, як знікае тое, на што спаліліся ўсе сілы ды нервы. І спадзяванні...

У снежні 1575 года каралём Рэчы Паспалітай быў абраны невядомы ў Масковіі Батура, і наноў абражаны і разгневаны Іван вырашыў напачатку адпомсціць шведам ды іхняму Юхану. Цар сам ачоліў паход на занятыя шведамі эстонскія землі, асадзіў важны стратэгічны горад Пернау, які некалі заняў Жыгімонт, і захапіў Леаль, Лодэ, Фікель, Гапсаль, спустошыў Эзэль. І крыху супакоіўся.

---

[1] Людвісарня – гарматная майстэрня. У XVI стагоддзі ў Вялікім Княстве найбольш вядомымі былі гарматні ў Вільні, Нясвіжы і Наваградку.

Аднак пасля шасцімесячнай асады Рэвеля перад шведамі адступіла войска Шарамецьева, а сам князь загінуў. Спешна сабраўшы пад Ноўгарадам новае войска, Іван зноў павёў яго ў паход – але ўжо не на Рэвель, а на польскія ды літоўскія землі Лівоніі. Помсцячы за свае абразы, ён загадваў ярасна караць палонных: выколваць вочы, секчы і паліць.

Пад нечаканай навалай не ўстаялі некалькі гарадоў-цвержаў – і пачалі даходзіць звесткі аб тым, што супраць маскоўцаў збіраецца вялікае войска Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства пад ачолам самога караля Батуры, – але Іван яшчэ не мог супакоіцца. Пакінуўшы полк стральцоў рабаваць Амерадэн, ён з тысячай сваіх апрычнікаў падаўся ў Вендэн і заняў горад. Гарнізон цвержы не захацеў здацца і ўзарваў сябе. І тады Іван загадаў пасадзіць на кол аднаго з самых тытулаваных палонных немца Віка. Усміхнуўся, пачуўшы ягоныя стогны, – і падаўся ў Дэрпт, дзе сустрэўся з палком стральцоў, прысутнічаў пры пакаранні жонкі і дзяцей уцекача Курбскага, пасля чаго з'ехаў у Маскву.

Але і дома не мог суняцца. Пасля доўгага застолля сярод начы прывёў ён конны атрад апрычнікаў у Нямецкую слабаду, і сыны Іван з Фёдарам былі з ім. З дамоў пачалі выцягваць і гвалціць сонных дзевак, а тых, хто крычаў ды непакорыўся – забівалі на месцы. Багатыя іншаземцы прапаноўвалі выкуп – грошы ў іх бралі, але ўсё роўна білі. Калі ж небаракі пачыналі маліцца – ім адразалі «ерэтычныя» языкі. Трупы складвалі ў крушні і палілі. Малодшы царэвіч, не вытрымаўшы крывавага відовішча, уцёк – і толькі тады бацька загадаў вяртацца ў Крэмль.

І ўжо адтуль глядзеў, як прахам ідуць жыццёвыя патугі, як знікае тое, што куплялася цаной дзясяткаў тысячаў жыццяў, як развальваецца сабранае ягонай царскай рукой...

Глядзеў на асаджаны каралём Батурам Полацак, як дагэтуль – на вайсковыя зборы заходняй суседкі, – і не мог вызваліцца ад халаджава-атрутнага прадчування ліхой наканаванасці. І ратунку ад яе – не знаходзіў.

А Батура, колішні трансільванскі князь, трывожна думалася Івану, гэты мадзярскі самазванец і выскачка, гэты каранасты недаростак, гэты недароблены рыцар з нізкім ілбом і вялікімі скуламі глыбока ўсоўвае свой доўгі нос у ягоную адваяваную вотчыну. І адкуль на тое столькі сілаў ды казны знайшоў? Яго войска, як паведамлялі віжы, налічвала больш 20 тысячаў – і ўсе добра ўзброеныя шаблямі, сякерамі, дзідамі і мушкетамі. І не толькі палякі ды літоўцы, але й тысячы немцаў ды ягоных аднакроўнікаў вугорцаў ішлі пад сцягамі «Арла» ды «Пагоні». І сотні гарматаў паспеў выліць, і аграмадны перасоўны мост на чоўнах умудрыўся скласці, па якім летам праз Дзвіну як па тоўстым лёдзе перайшоў...

Моцна балела галава, не хапала паветра, а чорныя думкі не адступалі ад Івана. «Не толькі ворагі ўнутраныя дзяржавы маёй, якіх апрычнінай выпальваў, гібелі мне жадаюць. Паўсталі і зверы знешнія – як зграі д'яблавыя па ўсёй зямлі – ад татарскага ханства да каралёў нямецкіх, французскіх ды імператара Максіміліяна. Ці не яны Батуру на мяне і выправілі? І ці не яны грошай на тое не пашкадавалі?[1] Як бяльмо ім усім

[1] Насамрэч антымаскоўскі паход караля Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Батуры быў падрыхтаваны ўласнымі сіламі і сродкамі. Сойм аб'яднанай дзяржавы зацвердзіў перад тым двухгадовы «вайсковы» падатак, які ішоў на ўзбраенне. Войска ж актыўна папаўнялася сялянамі, якіх за добраахвотны запіс вызвалялі ад усіх павіннасцяў.

царства нашае, як пакута – поспехі нашыя. Аскаліліся, як некалі на царства Канстанцінава Візантыю. Няславяць мяне па ўсім свеце...» – Іван яшчэ раз паглядзеў на дасланыя яму адціснутыя ў Батуравай паходнай друкарні на польскай, рускай, маскоўскай, нямецкай і вугорскай мовах кніжыцы, у якіх, як даклалі яму, апраўдваўся паход на Масковію ды распавядалася пра лютага цара-крыважэра...

– Ці не наш беглы дыякан-друкар Іаан Батуру гэтыя старонкі ціснуць пасабляе? – цар нахмурыў лоб і агледзеў прысутных баяраў.

– Кажуць, што так... А яшчэ ён ліцвінам прыдумаў новыя гарматы-марціры. Шматствольныя, што пад Полацкам білі!.. Трэба было самога дабіць, сабаку! – у розныя галасы прагучала ў адказ.

Напрыканцы жніўня 1579 года Полацак перастаў быць маскоўскім. Войска пад ачолам Батуры заняло Сокал і бліжэйшыя да яго цвержы, князь Канстанцін Астрожскі дайшоў з вернымі яму палкамі па Северскай зямлі да Старадуба, аршанскі староста Кміта зваяваў Смаленшчыну – а Іван са сваім неслухмяным бедным войскам, пазбаўленым у апальныя гады таленавітых ваяводаў, не меў сілаў на супраціў.

Цар – збег. Спачатку ў Ноўгарад, затым у Пскоў. І паслаў літоўскаму канцлеру Валовічу і ваяводу Радзівілу лісты аб тым, што адмовіўся ад абароны Полацка, каб не ліць марна братнюю кроў. «Веру, што ў свой чарод і вы зробіце ўсё, каб на нашых хрысціянскіх землях аднавіўся мір», – далікатна намякаў Іван. І люцеў да эпілептычнага прыпадку, дачуўшыся, што за ўзяцце Полацка рымскі Папа выслаў Батуру асвечаныя на Каляднай месе меч і дзіду, і той бязродны кароль зноў сеў на каня і выступіў на Вялікія Лукі...

Іван мусіў паслаць Батуру ў Вільню мірную эпісталу, у якой назваў караля братам. За мір прапаноўвалася ўся Лівонія, і, калі трэба, Іван пагаджаўся нават адмовіцца ад свайго тытулу, паколькі, як завяршаўся ліст, ён – гасудар не з учарашняга дня, а Богам памазаны цар – вышэй дзяржавы.

Але Батура расчытаў Іванава яхідства – і запатрабаваў у Масковіі разам з Лівоніяй Ноўгарад з Псковам і Смаленскам. І, атрымаўшы ад Івана адказ з абразамі, накіраваўся ў Полацак – рыхтаваць новую кампанію. А каб не прайграць вайны слоўнай, каралеўская канцылярыя падрыхтавала Івану адказ на сарака друкаваных старонках, які стаў вядомым у многіх еўрапейскіх дварах. «...Нагадваем табе, хто паўсюдна хваліцца сваім Божым абранствам ды радствам з рымскімі імператарамі, што маці твая была дачкой простага літоўскага здрадніка, а продкі твае злізвалі малако з хвастоў татарскіх кабылаў. Кроў жа сваю ты назаўсёдна спаскудзіў у паганых оргіях... І кура ратуе куранят сваіх, а ты, арол двухгаловы, баязліва хаваешся!».

А што яму, загнанаму ў пастку паміж захадам і поўднем, было рабіць, – з пустой казной і без адзінага саюзніка? Выправіў усе палкі на абарону Пскова, а сам з некалькімі сотнямі верных апрычнікаў схаваўся ў п’янках ды разгулах. І вымольваў хоць часовае перамір’е. І скрыгатаў зубамі, калі віцебскі ваявода захапіў ягоную цвержу паміж Смаленскам і Лукамі – ды загадваў лепш аддаць усю вобласць, а не пярэчыць ворагу.

І ўсімі сваімі жыламі ды венамі адчуваў, што няма чалавеку на зямлі горшай кары, як перажыць узлёт свой паднебны ды зведаць гібель зро-

бленага і задуманага! Сусед-кароль, аб існаванні якога ён, цар і ўладар вялікай зямной прасторы, яшчэ некалькі гадоў назад і не здагадваўся, здольны адабраць у яго не толькі здабытае, але і задуманае: Батура хоча даказаць, што шлях з Канстанцінопаля ў Маскву ішоў праз Кіеў і Полацак і што трэцім Рымам, як і новым Канстанцінопалем, з'яўляецца ягоная, а не Маскоўская, дзяржава!

Івана нішчылі і звонку, і знутры, і страшныя прадчуванні ўжо не пакідалі царскую галаву. Ён разаслаў па ўсіх манастырах граматы з просьбай памаліцца за свае грахі – і сам зажадаў манашскага пастрыгу.

Цар скрывіўся – і стаў меншы ростам. Некалі шырокія грудзі яго ссохлі і выяўлялі цяжкае дыханне пакутніка. Нос завастрыўся і выгнуўся, а вочы заглыбіліся пад высахлыя скулы.

Ён ужо не брыў галаву, і на вушы ападалі тонкія сівавата-рудыя пасмы – ды зліваліся з камечанай барадой.

Цела ягонае распухла і пакрылася незагойнымі раскелінамі. Ногі не трымалі, і цара вымушаны былі насіць.

Падобная слабасць здаралася яшчэ некалькі гадоў таму, але траўнік Бамелій знімаў яе нейкім белым прысакам. Цяпер ён сам – прысак, бо быў абвінавачаны ў крамольных сувязях з Батурам і спалены. Новыя ж лекары анічым дапамагчы не маглі. Ды і не давяраў ім цар, еў і піў толькі з рук новага прыбліжэнца Бельскага, апрабаванага яшчэ апрычнінай. Гэты кучаравы недачасна памажнелы дзяцюк з нярвовай чырванню на шчоках і пульхна-вільготнымі вуснамі ў апошнія месяцы быў з царом неадлучна...

Перад сном Іван захацеў наведаць скарбніцу, доўга разглядаў каштоўныя камяні й падарункі, распавядаў, хто і калі іх перадаў ці прыслаў.

– Гэты алмаз – найбольшы ў свеце. Ён суцішае гнеў і дапамагае чалавеку саўладаць з сабой. Але я не дакранаўся да яго... Цяпер толькі... – цар пакруціў камень перад агнём свяцільні і паклаў назад у шкатулу. – А вось гэты скіпетр са слановага біўня, які завецца Адзінарог, адшкадаваў мне некалі імператар Максіміліян. Паслы казалі, што ён лякуе ад цяжкіх хваробаў, нават мор адганяе.

– Дык, можа, гасудар загадае яго ў апачывальню перанесці? – далікатна прапанаваў Бельскі, і ў ягоных вытарачаных – як у рака – вачах бліснула надзея.

– Позна... – цар аблізнуў губы і цяжка ўздыхнуў. – Завуць бацькі да сябе. Ды і Бацька нябесны пытанні рыхтуе... Памятаеш? – ён узняў доўгую галаву і прашаптаў: – «Разышлася тады вестка між братамі, што вучань той не памрэ. Але Ісус не сказаў: "Не памрэ", а толькі: "Калі Я хачу, каб ён застаўся, пакуль прыйду, што табе да таго?"... Ёсць яшчэ шмат іншага, што ўчыніў Ісус, але каб усё запісаць падрабязна, дык, думаю, не змясціў бы ўвесь свет кніг, якія б меліся быць напісаны»[1], – і раптам цар ажыў, наструніўся і, зрываючы да хрыпаты голас, закрычаў: – Дзе кніга?! Кніга дзе?!! Па якой я перад Макарыем чытаў, якая ў Адашаву смуту ў мяне пад галавой ляжала?

Бельскі неўразумела лыпаў чырвонымі вачыма, а цар ажно задыхаўся:

– Дзе, пытаю, кніга?.. Евангелле ад Іаана... рукапіснае... з Візантыі мне прывезенае... дзе?!.

[1] Гэта апошнія радкі Евангелля ад Яна.

Яму стала млосна, ліхаманкава задрыжэлі рукі і галава, у вачах пацямнела.

– Худа мне... Худа... Нясіце адсюль... Другім разам дагледзім...

Назаўтра, 18 сакавіка 1584 года, цар адчуў сябе лепш. Уся дворня, архіўнікі і пісчы загад сполашна шукалі візантыйскі манускрыпт, а Іван першы раз за тыдзень паеў і загадаў нагрэць лазню. Пазваў сына Фёдара і доўга наказваў, як належыць кіраваць дзяржавай і народам: дабрачынна, з любоўю і мілатой, пазбягаць вайны з хрысціянамі, памяншаць падаткі-цягла, вызваляць з турмаў палонных ды вязняў. Хворы на галаву Фёдар уважліва слухаў і, задаволена ківаючыся, усміхаўся...

Пасля лазні цар узлёг каля невысокага шахматнага століка і пачаў расстаўляць фігуры: караля, каралеўну, пешкі... Паслабелая рука ўзняла каня – і знерухомела.

«І вось конь сіні, і на ім вершнік, імя якому смерць», – ці прашаптаў, ці падумаў Іван – і праваліўся ў чорны квадрат шахматнай дошкі...

## 8

*– ...Не знаю, як і сказаць... – па закрытай лініі гучаў нацята-спалоханы голас старшыні Службы дзяржбяспекі Бадакіна. – Заяц... захапіў цягнік у метро. Састаў – амаль пад Адміністрацыяй, а ў яго – бомба...*

*– Ты што – укалоўся?! – правіцель неўразумела правёў пальцам па вуснах.*

*– Ніякае на хер не ўкалоўся! Што рабіць?!.*

*Раней падобным тонам гаварыць з гаспадаром старшыня Савета бяспекі нават і ў думках не высмельваўся, што – як нашатыр – ацверазіла Мароза.*

*– Дык ён жа ногі лячыў... І як... захапіў цягнік?.. Навошта?! – у роце стала суха і горка.*

*– Захапіў, кажу. Ён не адзін. Па электронцы ліст прыйшоў... І ў дыспетчарскую па рацыі паведамілі. У Зайца бомба ў кейсе! Праверылі – не бляфуе. У яго на хаце знайшлі ўсе прычындалы! Траціл і ўсё такое... І яшчэ некалькі «эргэдэшак»... Мае прабілі па «серыйцы» – начынне з Горна-Касоўскай аўтаноміі. Верагодна, і памочнікі ў яго адтуль...*

*– А што ён хоча? – Мароз пераставаў разумець рэчаіснасць.*

*– З вамі пагаварыць... Абмяняю ўсіх заложнікаў, трындзіць, на правіцеля...*

*– Ён што, б....., е.....ся?!*

*– А х... яго знае...*

*Расцягнулася доўга-трывожная паўза.*

*– Звяжыце мяне з ім, – нарэшце ачомаўся правіцель, перачакаў горкія нацяжныя гудкі ў слухаўцы і пачуў Зайцава:*

*– Слухаю.*

*– Мікола Сымонавіч, добры дзень! Гэта, я разумею, жарт? – ён нават праз сілу паспрабаваў усміхнуцца.*

*– А... Іван... Здароў будзь, – ціха прашаптала слухаўка. – Ведаеш, я шкадую, што не навучыў цябе некалі: жыццё – не жарты. Яно – рэч сур'ёзная. Ну і рады я, канечне, што нарэшце з табой пагаварыць магу. Вялікім ты стаў, занятым... Што табе са мной час марнаваць?.. Дара-*

*гавата, праўда, за такую сувязь плаціць: усе запасы аддаў, кватэру і дом над рэчкай заклаў, каб бомбачку прыкупіць...*

*– І...*

*– Да гэтага «і» былі ў нас з табой, Ваня, яшчэ і «а», і «бэ», і «вэ»... Памятаеш, як я неаднакроць распавядаў пра цёзку твайго – цара Івана Жахлівага, пра Евангелле ад Яна і царства слова?*

*– Ну... – неспадзеў залыпаў правіцель. – Як там?.. Напачатку было слова... Так?*

*– Не! Не так. Не было слова, а – ёсць. Напачатку было, ёсць і будзе слова! І будзе – нават калі і нас забудуць. Вось чаго ты так і не зразумеў...*

*Мароз незадаволена цмокнуў і скрывіўся:*

*– Ну і што ты хочаш?*

*– Хм... Табе ж, пэўна, даклалі ўжо. Давай!.. – Заяц прыхінуў да сотавіка далонь і, ледзь не скінуўшы пальцам акуляры, зашаптаў яшчэ цішэй, каб у вагоне не было чуваць: – Дав-а-ай... Гэта ж прасцей, чым у той тваёй плацэнце: раз – і чакаць не трэба! Бах – і ты адразу ў вечнасці, як выратавальнік людзей, – голас стаў распеўным, з заўважным хваляваннем: – Ра-зу-ме-еш, гэта як у «Тарасе Бульбе»: я цябе парадзіў – я і... А мне ж усё роўна губляць няма чаго: два-тры месяцы дактары адмералі... Некалі ж ляпнуў, памятаеш: «І хай адсохнуць мае ногі, калі ты не станеш прэзідэнтам...». Вось і спраўдзілася сказанае... Ногі – дыябет з'еў, а ты – так і не стаў сапраўдным прэзідэнтам...*

*Мароз узарваўся:*

*– Дык ты што – усю гэтую байду ўсчаў, каб мне лекцыю прачытаць?!*

*– Не, Ваня, не... – голас Зайца паспакайнеў. – Каб сказаць тое, што сказаў. І засведчыць перад народам, што ты, ягоны правіцель, пабаішся спусціцца, каб суграмадзянаў ад старога маньяка вызваліць...*

*Настала даўкае маўчанне, якое ўрэшце абарвалася продумным:*

*– Ну ўсё... Не магу больш гаварыць. Пачынаюць людзі азірацца...*

*– Што б гэта было, каб кіраўнік краіны слухаў кожнага маразматыка? Узрывай! Давай!!! Тарас Бульба мне знайшоўся...*

*– І я цябе, Ваня, люблю. Бывай! – у слухаўцы застралялі кароткія гудкі.*

*А затым Заяц паправіў акуляры, прыгладзіў савіную брывіну, нібыта незнарок прыхінуўся вазком да сценкі – і знізу пастукаў па дзвярах. У кабіне тое пачуў «Вусач» і пацягнуўся да мікрафона.*

*– Таварышы пасажыры! – захрыпелі ягоным голасам вагонныя дынамікі. – Збой у электразабеспячэнні лініі наладжаны. Асноўнае асвятленне ўключыцца на бліжэйшай станцыі... Мы зараз прадоўжым рух. Асцярожна, наступная станцыя «Лістападная».*

*– Ну вось, нарэшце! А то я ледзь на сустрэчу не спазнілася... – нечакана прагаварыла брунетка ў кароткай чорнай сукенцы са стразамі. Тая, з ямінкамі на шчоках...*

*– Напэўна, на спатканне? – усміхнуўся ёй у адказ Заяц. – Паспееце, абавязкова! А падобныя затрымкі, – ён сказаў гэта знарок голасна, – і ў Лонданскім метро здараюцца...*

*– ...Давай зялёную, мы едзем! – хрыпла паведаміў у дыспетчарскую «Вусач» (звольнены пасля прызабытай ужо забастоўкі метрапалітэнаўцаў чыгуначнік-чырвонадыпломнік, а цяпер – начны грузчык), адарваў прыклееныя вусы, зняў зацемненыя акуляры, семафорны цёмна-сіні пінжак – і*

*выкінуў усё ў фортку. Шчоўкнуў рубільнікам – і ў саставе стала цёмна. Падсунуў соннаму машыністу нашатыр і незаўважна выбраўся з кабіны ў вагон, дзе схаваў у кішэні пальчаткі...*

*– Гэта дыспетчарская! Якую зялёную? Хто гаворыць?!! – закрычала ў кабіне рацыя.*

*Машыніст абудзіўся, неўразумела залыпаў наўкруг, схапіў мікрафон:*

*– Алё! – у роце сушыла, і ён пракаўтнуў даўкі камяк. – Алё! Дыспетчарская, што здарылася? Гэта Марчанка з «Васьмёркі». Я тут, здаецца, адключыўся. Нехта з праверкай прыйшоў... І далей нічога не памятаю...*

*Жыццё – не мёд, і людзі – не пчолы. Аднак шматпавярховыя ўнівермагі ды ніжэйшыя крамкі і кавярні каля зачыненых станцый метро нагадвалі растрывожаныя вуллі. Растрывожаныя і сабранымі над горадам дажджавымі хмарамі, і дызельным дымам перапоўненых аўтобусаў, і – сполашнай невядомасцю.*

*– Чаго гэта метро не працуе? Зноў забастоўка? – цікавіліся гараджане.*

*– Не... Кажуць, там тэрарыст з бомбай. Бачыце, колькі міліцыі ды салдатаў нагналі...*

*А ў той час да пустога перона метро павольна пад'ехаў прыпознены цягнік. Расчыніліся дзверы, пачалі выходзіць здзіўленыя пасажыры: каля турнікетаў кожнага чамусьці пачыналі абшукваць узброеныя людзі ў бронежылетах і чорных масках...*

*– ...У Зайца кейс пустым аказаўся! – надрыўна паведамляў па рацыі правіцелю старшыня Службы дзяржбяспекі. – А мае ж у яго на кухні траціл знайшлі... і тры «эргэдэшкі», з колішняга Касоўскага гарнізона... А тут – толькі ноўтбук і кніга ў кейсе! Прафесар...*

*– Якая кніга?! – правіцель сам не пазнаў свайго голаса.*

*– Ды старая нейкая, тоўстая... Зараз... Біблія, бля! Пастар хрэнаў...*

*Пад языком у правіцеля моцна запяршыла. Штось хацеў сказаць – але расцяжна ўздыхнуў і прамаўчаў.*

*Як у нейкім памараку паехаў у Вараніху. У адзіноце да вечара прасядзеў у лазні. Па калівах, як кропельніцу, выліў у сябе з літр каньяка – і не змог забыцца да раніцы.*

*«Начорта яму здалася тая Біблія?.. Чаго яны ў нас ужо паўтысячы гадоў з ёй носяцца?..» – ліхаманіла запалены мозг.*

*А калі ўрэшце правіцель адключыўся – убачыў аграмадную аўдыторыю.*

*Перад ім – шэрагі аднолькава апранутых манекенаў. Слухаюць, а ён не можа знайсці слоў... Злосна-няўцямна кусае вусны, пераступае з нагі на нагу... Маўчыць...*

*І бачыць сярод пластмасавага натоўпу Кацярыну...*

*Яе стоена-пагардлівы твар.*

*І яе недасяжную прыгажосць...*

*2009-2010*

*Менск – Бар (Чарнагорыя) – Стамбул (Канстанцінопаль) – Менск*



Уладзімір Някляеў



...Турма — не сцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы...

# Турма

***Паэма***

***1***

Цяпер, калі ты не са мной,
Не на плячы маім, не побач,
З турмой я засынаю ў поўнач
І прачынаюся з турмой.

З турмы ў турму пішу лісты:
«Каханая мая! Святая!..»
І што не прачытала ты —
Турма ўначы са мной чытае.

Збірае ўсе да аднаго
Мае маленні, таямніцы,
І тое сніць са мной, чаго
Табе ніколі не прысніцца.

Я цалаваўся з ёю ў сне,
Яна ў маіх абдымках спала!

«Ты закахаешся ў мяне!» —
Турма мне горача шаптала.

І не было такога сна,
Каб у якой нары ваўчынай
Табой не снілася яна
І не была маёй жанчынай.

У пошуках уцех начных
Яна мяне ва ўсіх эпохах
Цягала тайна па сваіх
Скляпеннях,
сутарэннях,
лёхах.

І ўсё, што бачылі яны,
І ўсё, што чулі сярод ночы,
Турма ў мае ўплятала сны,
Якімі засціла мне вочы.

І голасам тваім турма,
Душу мне змучыўшы да болю,
Шаптала, што пішу дарма
Лісты
з няволі
у няволю.

***2***

Каханая! Цябе адну
Кахаю!.. А турма змяёю
Шыпіць, вяртаючы са сну,
Дзе зноў табе я здрадзіў з ёю.

Ва ўсім падманка і падменка,
Яна спяшала ў сон: «Хутчэй!..»

І падала
твая сукенка
З яе аголеных плячэй.

Каб мне
табой
да ранку сніцца,
Яна пярсцёнак залаты
І залатыя завушніцы
Здымала, як здымаеш ты.

І кожны жэст — як твой, адзіны,
І кожны рух яе такі,
Як плаўны, лёгкі, лебядзіны,
Лятучы ўзмах тваёй рукі.

**3**

У скуры шоўкавай тваёй
Яна была! Былі на ёй
Твае пагорачкі і лункі,
І я падманваўся змяёй,
Адказваў ёй на пацалункі!

Яна, як выціскала дух,
Пятлёю абвівала цела,
І не адна — з табою ўдзвюх
Маёй каханкай быць хацела.

І блытаў я, не разбіраў
Яе, твае клубы і губы,
І чуючы твой голас любы,
Ад асалоды паміраў.

Я ў гэтай прорве асалоды
Нідзе не даставаў да дна,
І прагнучы яшчэ свабоды,
Стаў забываць:
нашто яна?

**4**

Мне ад Турмы ў турме нідзе
Няма ні сховы, ні збавення,
Паўсюль знаходзіць — і вядзе
У склепы,
лёхі,
сутарэнні.

У сутарэннях — цэлы свет:
Героі... здраднікі... сексоты...
Яны мяне пыталі: «Хто ты?»
Турма адказвала: «Паэт».

«Сексот ён,
здраднік,
ці герой? —
Пыталі здані. — Наш ён? Твой?..
А што паэт, дык нам не дзіва!»
Турма казала: «Ён са мной», —
І здані ўкленчвалі пачціва.

«Ты маніш!» — я крычаў. «Маню? —
Турма пытала. — Не мяне ты
Хіба кахаеш?.. Ах, паэты!..» —
Яна ўздыхала, і шкілеты
Ківалі, доўжылі гульню.

Іх тысячы, мільёны іх
У павуцінні, пыле, цвілі,
І ў іх патыліцах — ва ўсіх! —
Чарнелі дзіры.
Іх забілі.

«За што, Турма?..»
«Ты не ў мяне
Пытайся, а ў суддзі ці ў ката...»
І здані ўсе крычалі: «Не!
Турма ні ў чым не вінавата!»

Яны сцялілі нам кілім,
На ім, не знаючы спатолі,
Кахаўся я з Турмой і Воляй,
І ўжо не помніў:
дзе я?.. з кім?

І ўсё было мне шалу мала,
І ў шале тым у міг любві
Турма ці Воля прашаптала:
«Адна з нас лішняя. Забі!»

### *5*

Ах, Воля, Воля! Вольга, Вольга!
Як мала я цябе люляў,
Як я кахаў цябе нядоўга —
Адно жыццё ўсяго кахаў!

Як мала мела ты дарункаў
І нават абяцанкаў іх,
Як мала ласкаў, пацалункаў,
Абдымкаў дзённых і начных!

І слоў,
якіх магла ты болей
Пачуць!.. Чаму ж не рассыпаў
Я іх пярлінамі прад Воляй,
Як на пярыне з ёю спаў?

Чаму яны цяпер, на нарах
Згадаліся, калі няма
Каму сказаць іх!..
І ў кашмарах
Начных
іх слухае
турма.

### 6

Як позна!..
Божа, як шкадую!
Які на волі вецер дзьме!..
Цяпер, што хочаш, падарую
З таго,
што маю
у турме.

Лісток паперы... Скрыдлік мыла...
І нітачку... Каб ты на ёй
Той крыжык на грудзях насіла,
Які зацалаваны мной.

Каб стаўшы перад абразамі,
Ці Бога ўбачыўшы ў акне,
Ты ўспаміналa ўсё, што з намі
Было і не, было і не...

### 7

А што было?
Чаго не стала?
Калі ўсяго было ў нас мала,
Дык што мы страцілі з табой?..

Нічога. Толькі ранак той
У тую тайную нядзелю,
Калі, прачнуўшыся, глядзелі
Я на цябе — ты на мяне...

Ну, што яшчэ?.. У тым акне,
У тых нябёсах зоркі тыя,
Дзве залатыя вартавыя
Той тайнай ночы, у якой
Ты ўпершыню на дотык мой
Заплюшчыла салодка вочы...

Каб нават Бог, апроч той ночы,
Нябёс, дзе зоркі запаліў,
Не даў нам болей анічога,
Дык анічога больш у Бога
Я б не прасіў і не маліў...

А ў нас яшчэ той ранак быў.

### 8

Ах, Воля, Воля! Яска, Яска!
У снах маіх струменіць ласка
Твая — між пальцамі ручай...

Прачнуся:
Ноч.
Турма.
Адчай.

І чую: «Ты не прыручай
Турму — яна цябе прыручыць!
Спачатку прадаваць навучыць,
А потым забіваць!..»
Не ты
Казала гэта, з пустаты
Быў голас, з дальніх сутарэнняў,
Дзе я блукаў між зданяў, ценяў,
Ужо прыручаны Турмой,
Якая зданям: «Ён са мной», —
Кідала, і яны кілім
Сцялілі мне, Турме і Волі...

«З Турмой ты можаш быць нікім,
Ты з ёй... ты ў ёй... таго даволі, —
Той голас доўжыў. — Век ад веку
Турма найперш у чалавеку
Ламае не хрыбет, а дух».

Я адчуваў: цяпер мы ўдвух...

«Так, — ён казаў, — я ў той праклятай
Каменнай камеры дзявятай
На верхніх нарах, як і ты,
Гібеў... Я рваўся з нематы
З той моваю, што даў нам Бог,
Што не жыве ў нас, а начуе,
І я не вырваўся, не змог!
Ты зможаш, калі Бог пачуе,
Як знойдзеш,
што сказаць Яму...»

***9***

Тайком, на вуха, аднаму
Я ўсё сказаў Яму... Ці мала,
Раз голас той, бы ў сэрцы джала,
Не вырваць — што з ім ні рабі?
Раз Воля ці Турма сказала:
«Адна з нас лішняя. Забі!»

Каго?..
Ні мне, ні ветру ў полі
Няведама —
не знаем мы:

Навошта нам турма без волі?
Навошта воля без турмы?

Бо ёсць адно — як ёсць другое,
Як дым з агнём,
агонь з вадою,
Які шалее без вады,
Як толькі тое дарагое,
Што страчанае назаўжды.

Як тая ноч... той ранак... дотык...
Як Бога шэпт на вуха ўпотай...

Як голас, у якога: «Хто ты?» —
Пытаюся, а мне ў адказ
Ручай між пальцамі — і праз
Глухія сцены чую глуха
Не шэпты Бога мне на вуха,
А стогны з дальніх, цёмных лёхаў,
З усіх вякоў, з усіх эпохаў,
І плач, і енк,
і крык нямы
З абдымкаў волі і турмы!

### *10*

Турма ў турме — і воля ў ёй.
Усе за кратамі ў краіне,
Дзе дух крывіцкі нема гіне,
Разняты з моваю сваёй.

Ён тут. Загнаны ў самы дальні
І цесны лёх, у змрочны кут,
Ён тут са мной у катавальні,
Са мной на допытах ён тут.

І калі кат мяне катуе,
І боль дратуе нажавы,
Крывіцкі дух мяне ратуе,
Хоць сам ад болю ледзь жывы.

Як ён Турме не даспадобы!
Яна каля яго заўжды
У чорным, нібы ў дзень жалобы,
Бурносе, нібы ў халады.

Змушае жыць каля парашы
На крапіве і лебядзе,
Не дакладзе паўмісы кашы,
На лусту хлеба абкрадзе.

Найлютаму аддасць канвою,
Каб той зламаў,
скруціў у рог!..

Ён дух... ён вольны... ён з Турмою,
Са мною б развітацца мог.

Але ў падменным і падманным,
Кайданным і закратаваным
Турэмным свеце, у лайне
Мой дух з хрыбтом пераламаным
Не пакідае ўсё ж мяне!

Ён сам абраў такую долю:
Цягнуць мяне з ярма, з дзярма, —
І ненавідзіць больш, чым Волю,
Яго
раўнівая Турма.

***11***

Ах, Воля, Воля! Доля, Доля!
Ты ёсць — і гэтага даволі.
Няхай турма,
няхай адчай,
Усё — між пальцамі ручай...

«Не прыручай, не прыручай,
Як кошку, волю, — чую голас. —
Няхай спазнае холад, голад,
Як рысь,
што выгнана з нары,
У высь
узвые на гары,
Напоўніцца той сілай дзікай,
Што смерчы круціць і віры —
Тады яе ў кулак збяры
І бі, як дзідаю, як пікай,
У чалавечым гушчары,
Крыві не баючыся! Тая
Кроў вольная, яна — святая,
Як на Галгофе, на крыжы...

Вось дзіда.
Бі.
І не дрыжы.
Адна з іх лішняя...»

Якая?..

***12***

І ўдарыў я! І кроў густая
Лінула з дзіды, з вастрыя!
Чыя?..
Тут здані! Тут пустая
Турма ў турме!.. «Яшчэ тут я...» —
На вастрыі змяя шыпела,
Круцілася, нібы кіпела,
Спаўзала з дзіды на кілім,
І чуў я на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,

Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым,
Дзе так бязмежна, так трывожна,
Дзе свет драпежны, свет варожы,
А тут ты ў цёплай агарожы,
У чэраве маім... »

Чыім?..

***13***

«Чыім? Чыім? Чыім?» —
Пытае верабейка ранкам
За кратамі.

— Ты быў каханкам
Турмы і волі, — кажа зноў
Той голас. — Ты прайшоў праз кроў.
Забіў. Ты выбраў паміж раем
І пеклам...
— Што?
— Мы выбіраем
Не волю ці турму. Любоў,
Або нянавісць — вось наш выбар.
— Тады чыё я сэрца вырваў?
З кім біўся я?.. Каго забіў?!
— Ты ўсіх забіў, каго любіў,
Бо меў да іх любоў сляпую,
Якую ты, як дзіду тую
Кідаў — а раптам пападзе!
І дзе твае каханкі? Дзе
Твае сябры? І дзе краіна
Якую слепа ты любіў?
І дзе народ, які ў ёй быў,
Які, як зваць яго, забыўся?..

Збылося ўсё, а ён не збыўся!
І ўжо не збудзецца...
— Чаму?
— Бо любіць волю, як турму!

## 14

О, Божа! Толькі аднаму
Табе
магу сказаць такое!
Народу — нельга! Ён — святое!
Яго нічым не зачапі!..

— Як хочаш піць — бяры і пі,
Іначай смагу не спатоліш, —
Той голас доўжыў. — Так і з воляй!
Як хочаш волі, дык бяры
Яе абеҏуч! І памры,
Але трымай яе абеҏуч!
Хай рыкае драпежным зверам,
Рве жылы, пырскае крывёй —
Пі кроў яе! Яна тваёй
Крывёю стане! І ніколі
Ты ўжо не зможаш
жыць без волі!..

## 15

І піў, не знаючы спатолі,
Я кроў тваю! Кіпела ў ёй
Каханне, пырскала крывёй,
Сцякала па грудзях, якія
Я цалаваў, і па клубах,
Якія абдымаў, і ў пах
Струменіла з клубоў, і тыя,
Акругла-пругкія, літыя,
Як рыбы, то нырца давалі
Да дна жыцця, то, як дзве хвалі,
У вышыню ўздымалі, дзе
Няспраўджанае ў чарадзе
Чакае спраўджання, дзе вечны
Шлях семені, што ў небе Млечны,
А ў нетрах вулканічны шлях:
Шлях лавы, магмы, плазмы...
«Ах!..» —
Ва ўлонне!.. і глыбей!.. і болей!..
Каб Воля нарадзіла Волю!..
З крыві і болю!.. тут!.. пры мне!..

### 16

«Турма народзіцца ў турме!» —
Пачуў я голас, у абдымку
З Турмой прачнуўшыся...

— Дзяўчынку
Ты ад мяне хацеў бы мець, —
Турма натолена спытала, —
Каб Воляй я дачку назвала,
Спялюшкала яе — і ў клець?..

### 17

Ах, воля, воля! Што хацець,
Апроч цябе?.. Дальбог, нічога!
Калі ты не са мной — дарога
Ёсць да цябе, якой іду.

Я не люблю цябе:
ваду
не любяць —
проста п'юць, бо смага.

«Хіба табе са мною блага? —
Пытала голасам тваім
Турма. — Глядзі, які кілім
У нас для ўцехі... Я ж казала:
Ты закахаешся ў мяне...»
«Не!..»
«Ціха... Ціха... Праміне
Усё... На свеце ўсё мінае,
Апроч кахання, а кахае
Цябе адна Турма, яна
Адна заўжды цябе чакае
І верная табе адна
Яна... Ідзі ў яе... Ідзі...»

І да ўсявышняга суддзі
Ўзмаліў я: «Не судзі!» — і з лёхаў
Рвануўся крык з усіх эпохаў
Насустрач воклічу майму:
«Мы любім волю, як турму!
І ненавідзім так, як любім!..»

### 18

— Вунь здані... Гэта ўчора — людзі,
Што сёння ценямі снуюць, —
Казаў мне голас. — Кружаць роем
Сексоты,

здраднікі,
героі...
Якія ў іх блукаюць мроі,
Якія жарсці ў іх жывуць?
У тым?.. У гэтым?..
Гэй, шкілет,
Ты хто?..
— Паэт.
— За што ж забілі
Цябе?..
— За тое, што паэт.
За тое, што мяне любілі.
— Любілі?
— Так.
— А хто любіў?
— Усе. І тыя, хто забіў.
Яны ў турме мне волю далі.
Турма і Воля абдымалі
Мяне — і клалі на кілім,
Шапталі на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым...»

— Я гэта чуў!.. Даволі! Досыць!
— Маўчу, маўчу... Калі так просяць,
Дык калі ласка... Але дзіва:
Я здань,
я прывід столькі год,
А сёння мне чамусьці дзідай
Прабілі сэрца навылёт!
І кроў лінула... з пылу... з цвілі...
Жывая... Хоць мяне забілі
Даўно...

— А хто цябе забіў?
— Мой брат, які мяне любіў.
Турэмны кат.
— Ты быў каханкам
Турмы і Волі?
— Так... І ранкам
Яны прыйшлі і павялі...
— Куды?
— Да ката...

***19***

— На зямлі,
На волі і ў турме дарога

Адна, — той голас доўжыў строга. —
У іх абдымках ты самога
Сябе не знойдзеш, будзеш тым,
Хто выбраў нары ці кілім...

Калі ты чуеш шэпты Бога,
Будзь з Ім — і болей ані з кім!

### *20*

«Ты будзь маім, маім, маім,
Са мной, адзінаю, адзіным...» —
Шыпела голасам змяіным
Турма...
Дык не яна на дзідзе
Круцілася?!.
«Хай Воля прыйдзе!» —
Я крыкнуў...
І ўсю ноч Турма
Шаптала мне: «Яе няма...
Яе ніколі ўжо не будзе,
Бо ты прабіў ёй дзідай грудзі
І вырваў сэрца, выпіў кроў...
Цяпер ты вольны... Рык звяроў,
Крык птушак гэткі самы вольны,
Як ты, як дух твой неспатольны,
Што прагне волі зноў і зноў...»

### *21*

«Праз волю я згубіў любоў?
Праз волю загубіў паэта?..»

«І не шкадуй, згубіўшы гэта
І ўсё, што згубіш, — доўжыў дух. —
Ніякіх страт, ніякіх скрух
Не бойся! Бо нічога болей,
Чым кроў, пралітая за волю,
Няма чысцей,
няма свяцей.
І кроў старых, і кроў дзяцей,
І кроў каханых волі варта!..»

### *22*

Нябесны Ойча! Як я ўпарта
Рабіў усё, што мог зрабіць,
Каб страціць волю! Не здабыць,
А страціць!.. Як так выйшла, Ойча?..
Са мной?.. З усімі?.. Ты аднойчы

Даў волю ўсім нам! Без крыві!
Праз ласку Боскую!.. «Жыві, —
Сказаў Ты ёй, — у гэтым людзе,
Бо без цябе яго не будзе,
Бо без цябе ён прападзе!..»
Мы прападаем, Ойча!.. Дзе
Воля?!.
Як?.. Чаму згубілі
Яе мы, Ойча?..

***23***

— Не любілі,
Таму згубілі, — мовіў дух. —
Затое кожны свой катух
Займеў... Хай цесны, але з кашай
Прасянай... З нарамі, парашай:
Паеў, паспаў... Вунь і кілім
Пасцелены... Турма на ім
Гуляе ў волю, непрыкрыта
То з гэтым цешыцца, то з тым...
Народ прасеяўся праз сіта:
Пустое ўсё ва ўсім пустым.
Няўтульна з воляй вам. Не сыта.
А дзе вам сыта? Ля карыта.
А дзе карыта? Там, дзе хлеў.

***24***

І з дальніх лёхаў даляцеў
Задушны стогн, жалобны спеў
Усіх
загнаных у скляпенні,
Тых,
хто пракляты ў пакаленнях
Праклёнам даўніны сівой:
«Бадай бы вам цягаць каменні
На дом чужы, а не на свой!»

***25***

Нябесны Ойча! Той праклён
На ўсе вякі? Такі наш кон:
Згубіць сваё і жыць з чужога?..
Такі наш лёс
па волі Бога?

Дом,
што не воляю сваёй
Пастаўлены,
стае турмой!

Турма — не сцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы.

Мы — краты і ключы астрога.

Без волі Бога быць нічога
Не можа! Волас не ўпадзе
Без волі Бога!..

На Судзе
Ахвяры злічаць, згубы, страты,
Спытаюць: «Хто ў тым вінаваты?..»
Ніхто, ніхто! Турма і каты
Не вінаваты!
Доля... Крыж...

Турмой і Воляю
паміж
Ударыў я! Паміж вякамі,
Што выціскалі волю з нас,
З якіх крывёю ліўся час
І глінай застываў, пяскамі,
Ставаў балотамі, а намі —
Ніяк,
ніяк,
        ніяк,
                ніяк!..

І з прорвы часу быў мне знак:
Вякі рассунуліся, як
У парадзіхі дол — і ў доле
Я ўбачыў немаўлятка:
Волю!

***26***

«Мой Ойча! Што рабіць мне з ёй?..»

«Прыняць! Яна з тваёй крывёй!
Гадуй яе! Перахварэй
На ўсе хваробы... З ёй дурэй,
З ёй весяліся, плач... Няхай
Яна палюбіць гэты край,
Ці ўзненавідзіць, як спазнае,
Што тут салодкі вінаград,
Дзе ні садзі — не выспявае,
Тут застаецца братам
брат,
Які ў патыліцу страляе!

Няхай ці добраю, ці злой
Яна ўзрасце, але сваёй
Узгадаваная зямлёй,
Не дзічкай на пустэльнай выспе,
Не рыссю, кінутай у клець,
Якую ты ў вязніцы выснiў!..

І воля ў часе мусіць выспець —
І вы для волі ў час саспець.

Прымі яе. Гадуй. Спялі.
Няхай расце. Няхай мужае.
Зямля і воля на зямлі —
Або свая, або чужая».

### 27

Сцяна між намі межавая —
Турэмная сцяна. Ах, Яска!
Даруй, даруй мне, калі ласка,
Сцяну! Вы, камяні ў сцяне,
Даруйце мне, даруйце мне!

Вы ў садзе камянёў маглі
Ляжаць — ды воля на зямлі
Альбо свая, альбо чужая!..
Яна ў вязніцы выжывае
У гэтым краі страт і скрух,
Але расце, але мужае,
І разам з ёй мужае дух,
Якому толькі воля трэба —
Нічога болей!..

Гэты дым,
Які чапляецца за неба
І растае высока ў ім...

*25-31. 12. 2010,*
*унутраная турма КДБ.*

Ева Вежнавец



...тут я ў раі,

тут я дома...

# Любоў зла

***Два аповеды***

## Заўжды адна

*Я не гляджу на гэта перад сном.*

Мар'янка прачнулася ад шорхання дворніцкага дзеркача на двары. За вокнамі дрыжэў слабы помарак.

Трэба вынесці сметніцу, пакуль не прыехаў смеццявоз. Мар'янка не магла выкідваць смецце, не загарнуўшы яго ў газеткі і пакецікі. Асабліва гідкія віды смецця Мар'янка падпісвала: "Скарыстаныя пракладкі", "Сапсаваны фарш", "Валасы" і іншае, чаго мы тут згадваць не будзем. Яна ўяўляла небарак у смярдзючых польтах, якія будуць разбіраць яе смецце, і хацела ашчадзіць ім перажыванні. Хаця, можа, яны прывычныя і да горшага – задушаных немаўлят, дохлых катоў і чаго там яшчэ. Але, прынамсі, Мар'янка, неяк спросціць ім жыццё.

Яна з шоргатам кінула мех у высокі кодаўб і завярнула за кут. Дворніца Валя з нервовым імпэтам шуравала сцежку і, як заўсёды, нешта бубніла сама сабе.

Мар’янка паздароўкалася і шмыгнула ў пад’езд белага хрушчоўскага блоку, дзе здымала кватэру.

Была нядзеля, дзень, пра які Мар’янка не хацела памятаць. Яна не ўключала кампутар, тэлевізар, не купляла газет. Нічога не ведала пра навакольны свет. Пакружляла па пакоі.

Адкаркавала пляшку чырвонага, выпіла келіх. Перасадзіла кветку. Вымыла ракавіну. Адарвала твар вядзьмарцы Кэт з афішы, каб тая не цікавала зласлівымі, насмешлівымі вачыма. Уздрыгнула: раптам завібравала вялікае навяснoе люстэрка, пачало біцца аб сцяну. “Хтосьці ўключыў пралку на высокія абароты” – падумала Мар’янка, але страх не праходзіў. Яна выпіла яшчэ келіх.

Адчувала сябе так, быццам яе душу павольна цягнуць праз саломінку, як нейкі цягучы кактэйль.

Заўчора яна пасварылася са сваім хлопцам, які за два дні да любой кампаніі прызвычаіўся хавацца, каб не загрэблі. І вось ужо два дні ад яго не было ніякіх звестак – тэлефон выключаны, у сетках не з’яўляўся. Прычым, гэта паўтаралася штогод – падчас любых выбараў, шаснаццатага чысла кожнага месяца. Плюс ягоныя суды і адседкі.

У Мар’янкі гэта выклікала спачатку стому, а потым лютасць. У іх была “не тая” розніца ва ўзросце – 29 мар’янчыных насупраць 25 ягоных. І калі ён праходзіў прыўкрасны экватар паміж дваццаццю і трыццаццю, то Мар’янка на ўсіх ветразях ляцела на трыццатнік, калі жанчыну бяздзетную, бессямейную і бясхатнюю тут лічаць пустазеллем.

“Хоць бы ты краў”, – з лютасцю думала Мар’янка. Ёй былі добра вядомыя некаторыя таварышы, адданыя байцы, якія пакуплялі сабе кватэры ў Мінску, паставілі залатыя ўнітазы, і маглі спакойна гніць на нарах, пакуль іхнія жонкі і дзеці сядзелі ў сваёй хатцы, дзе, як вядома, можна хоць усрацца. Мар’янка ж заставалася на здымнай кватэры з шышом у кішэні, бо прафесійны рэвалюцыянер часта жыў за яе кошт.

Ён быў няздольны красці, але нічога не меў супраць доўгіх перыядаў безграшоўя, мінімальнай ежы, простай вопраткі ў дзве змены, здымных хат з мэбляю ад памерлых бабулек.

Вось гэтую хату шустры ўнук здаў праз месяц пасля смерці старой. На падлозе ляжалі вязаныя дарожкі. Стары, галаваты, нібы хворы на вадзянку, тэлевізар паказваў нейкае цмянае чорна-шэрае шаленства. Цяпер усе купляюць плоскія тэлевізары, якія вісяць на сцяне, быццам вакно ў свет.

“Можаце выкідваць, што хочаце”, – сказаў маладзён. Аднак навучаная горкім досведам Мар’янка сабрала бабчынае барахло, і, вышараваўшы антрэсолі, спакавала скарб туды, пазашываўшы яго ў старыя наўлечкі і напхаўшы антымолю. Мо нехта некалі знойдзе гэта як антыкварыят, у Мінску пара накопліваць антыкварыят, нават такі ўбогі, па савецчыне. Няма чаго чакаць, што беларусы навучацца любіць сапраўдныя рэчы. Пасляваенная трохкапеечная ўтульнасць – вось іх лёс. Беларусь – танны эрзац Еўропы, павапленая, бы труна, копія Расеі.

Зрэшты, жывучы пад бокам у Расеі і смокчучы яе вымя, на нешта сваё разлічваць цяжка. Пакаленні нічога тут не накопліваюць, бо пустадомкі. А Мар’янка з іх першая.

Мар’янка з анучаю дабралася да шафкі пад вакном, якая служыла бабцы за кладоўку. “А вось закаткі то я павыкідаю” – падумала яна,

выцягваючы слоікі й слоічкі з паскуднымі на від рэзанымі патысонамі, чорным сочывам, гуркамі кшталту “галодны жаўнер” і нейкімі раслiннымі ірванымі хлапякамі, якія распазнаць не ўдалося.

Выстраіўшы ў шэраг слоікі і слаяняткі, Мар’янка палезла шараваць углыб. У далёкім куце наткнулася на нейкую сашэтку. Выцягнуўшы яе, Мар’янка развязала паўрозікі і ўбачыла пажаўцелы прадаўгаваты прадмет – ліхтарык, але без лямпачкі, ці што? Націснуўшы на кнопку, Мар’янка аж падскочыла. Прадмет загуў і завібраваў у руцэ, і Мар’янка з бясконцым здзівам даперла, што гэта – стары вібратар. Каля крышачкі патрэсканы, але відаць, што ўтрымліваўся ў добрым доглядзе...

Мар’янка падскочыла і пабегла мыць рукі. Потым узяла прадаўгаваты прадмецік праз сурвэтку, загарнула, падпісала: “сапсаваны ліхтарык”, паклала ў сметніцу, прыкрыла слоікамі з закаткамі.

Выпіла трэці келіх і памкнулася да кампутара. Серфавала, старанна абмінаючы навінныя сайты, каб не бачыць, каго дзе затрымалі, прыціснулі, аблаялі, пэратрэслі, пасадзілі, пакрыўдзілі і выкінулі з працы, што сказаў вярхоўны боўбель, якога Мар’янка не зносіла, маючы ад аднаго голасу пякотку і высыпку.

“Хопіць! Хопіць”, – злосна шаптала Мар’янка, шукаючы віртуальныя сэкс-шопы, якія б дастаўлялі тавар у той жа дзень.

“Вось табе, сволач!” – прашаптала яна, замовіўшы 33-сантыметровы чэлес (грошы тыя ж самыя, што і за 20-сантыметровы, але, прынамсі, возьмеш у рукі, то маеш рэч), універсальную помпу для чэлеса і грудзей (напампую сабе цыцкі да 3-4 памеру і знайду нармальнага мужчыну) і вагінальныя кулькі (самыя дарагія). Выграбшы ўсе грошы, што хавала на гаспадарку, узбуджаная Мар’янка выпіла яшчэ, а потым пабегла мыцца і надрайвацца перад прыходам кур’ера.

Раз нават слоікавая бабка давала сабе рады, то чаму Мар’янка павінна плакаць, нібы тая Яраслаўна пры вакне?

“Калі кур’ер будзе ладны, то сыдзе і кур’ер”, – думала Мар’янка. Яе трэсла і ліхаманіла ад злосці і ўзбуджэння. Яна надзела халацік і панчохі, потым садрала іх, не жадаючы наследаваць танных порнаролікаў. Выцягнула летнюю сукенку і гольфы вышэй за калена. Вось так лепей. Дзяўчына ў летняй сукенцы, гольфіках, з мокрымі валасамі.

У дзверы пазванілі. Мар’янка сцялася, вырашыўшы не адчыняць, але сумленне ўзяло сваё, і яна рашуча падалася да дзвярэй. У вочку было бачна, што на ходнічку топчацца малады мужчына.

“З гэбухі прыйшлі, ці мой кур’ер?” – падумала Мар’янка і дрыготкім галаском праказала: “Хто там?”

“Девушка, из магазина я”, – адказаў мужчынскі голас. І Мар’янка пачала адкрываць бабчыныя дзверы, грунтоўныя, быццам старая хавала тут брыльянты, а не стары чэлес і слоікі.

Хлопец не зводзіў з яе прагных, блізка пасаджаных, драздова-чорных вачэй, з цікаўнасцю акідваючы твар і фігуру. “Думае нябось, навошта гэтай праглотцы 33-сантыметровы член”, – думала Мар’янка. Кур’ер некалькі разоў гучна каўтануў, быццам яму перасела ў горле. На сімпатычным даўгім носе выступіў пот.

“Ну разяў ты рот і скажы: дзевушка, навошта вам гэтая гума, вось я жывы і магу застацца”, – падумала Мар’янка. Але драздок так і не прапхнуў нічога праз горла, і Мар’янка ўзяла тон кліенткі.

– Батарэйкі прыкладаюцца? – строга спытала яна, гледзячы кур'еру ў пераноссе.

– Э-э-э, нет, но их можно купить в любом магазине. Стандартные, – здушана прамовіў той.

– Дзякуй, разбяруся, – суха сказала Мар'янка, сунула маладзёну грошы, закрыла за ім дзверы і абсунулася на падлогу з-за шалёнага тахкання сэрца.

Потым падалася з пакупкамі на кухню – разглядаць. Прамыўшы і запхнуўшы ў сябе металёвыя к*у*лькі, Мар'янка трохі пагойдала клубамі, чуючы як кулькі – ток-ток – пастукваюць адна аб адну. На вуліцу з імі не сходзіш, будзеш баяцца, што людзі пачуюць гэты ціхі металёвы гук. Асаблівага задавальнення к*у*лькі Мар'янцы не давалі, але й надта не замінаЛі.

Мар'янка разадрала прадаўгаватую каробку і ледзь не затхнулася ад паху латэксу. Аказалася, што 33 см – гэта занадта. Нельга было і думаць запхаць у сябе такую штуку. Мар'янка раскруціла крышку – ну, дакладна, як ліхтарык, толькі сляпы. Наліўшы ў крышачку ад чэлеса віна, яна чокнулася са сваім новым мужам: “Ну, на добры лад!”

Апаласкаўшы яго гарэлкай і працёршы, Мар'янка палезла шукаць батарэйкі. Але ўсе яны былі замалыя для яе гіганцкага сябра.

“Вось бляха. Пайду па віно і батарэйкі”. Стукаючы сталёвымі ўнутранасцямі і палахліва азіраючыся на мінакоў, Мар'янка падалася ў краму з жалязяччам, стараючыся выглядаць цвяроза і годна. Яе мучыў страх, што кулькі як-небудзь вываляцца і гупнуць пад ногі пакупнікам гаспадарчых тавараў. Таму Мар'янка сціскала ногі і з-за таго гойдалася клубамі, нібы падбітая лодка. Дапяўшы да магазіна, Мар'янка разгублена ўгледзелася ў зашклёны прылавак, дзе ляжала безліч батарэек – вялікія, вялізныя і сярэднія, пальчыкі і міні-пальчыкі, квадратныя з правадкамі і круглыя. Ясна, што патрэбныя круглыя, але каторыя?

Мар'янка дастала кардонны ўкладыш ад чэлеса, дзе было кітайскай расейскай мовою выведзена “АА” і пару нейкіх значкоў. Працягваючы дрыготкаю рукою цэтлік, Мар'янка сказала:

– Вось, шукаю такія батарэйкі, як тут напісана.

(Халера, колькі іх лезе ў той калодзеж? Дзве, тры, чатыры, і якіх яны павінны быць памераў?)

Прадавачка няўцямна ўгледзелася ў кардонку, а потым у пакупніцу.

– Ничего я тут не понимаю. Какая-то китайская грамота! А для чего эти батарейки?

“Для х...я!” – падумала Мар'янка і, заліваючыся гарачынёю, панесла лухту пра тое, што яна настаўніца, а муж яе бізнесмэн (навошта, навошта такая падрабязная хлусня???) з'ехаў, пакінуўшы машыну і гараж, а ў гаража рассоўныя дзверы, і яны не адкрываюцца, бо туды трэба вялікія круглыя батарэйкі (Божа, што я нясу?! Усе ведаюць, што гаражы адкрываюцца пультамі, а ў пультах малюсенькія батарэйкі!)

Аднак прадавачка разбіралася ў багацейскіх гаражах не лепш за Мар'янку і прамармытала, што трэба паклікаць менеджара, ён мужчына і разбярэцца.

“Ох, акурат”, – з жахам падумала Мар'янка і прашаптала, што менеджар ёй не патрэбны, а хай вось мілая паненка прадасць ёй па чатыры тоўстыя круглыя батарэйкі кожнага віду.

Абрадаваўшыся такой буйной замове, дзяўчына жвава выклала на прылавак цэлую батарэю батарэек.

– А вось гэтых жоўценькіх толькі дзве. Даваць?

– Давайце.

Заплаціўшы нейкую шалёную суму, Мар'янка папхала здабычу ў торбу і пабегла дахаты. Калькі стукалі троху гучней, але іх відавочна заглушаў грукат батарэек.

"Вось да чаго ты давёў мяне, сука! Я, як старая лафірында, купляю хрэны і хаджу з імі ганьбіцца перад сцыкухамі з гаспадарчага", – думала Мар'янка. – "Усе твае, бляха, адседкі, сховы, зборы, выезды, пастаянныя збіцці, уся твая палітыка. Мала табе нос ламалі? Мала табе язвы тваёй? Б'ешся аб гэтую Беларусь, як аб сцяну качаном, аж пырскі лятуць. Я ж казала табе сто разоў, стрыж ты дурны, што гэтая краіна прапала, як бы яе ніколі й не было, як здань, і марыва, і праклён, які нам паломіць усё жыццё.

Казала ж, не ідзі туды сёлета, у боўдзілы ў галаве дрожджы забрадзілі, ён сёлета ўсіх раздушыць на мязгу, аб асфальт размажа, а абывацелі праз вас пераступяць і далей пойдуць у кіно з шарыкамі.

Мы павінны зрабіць хату, мне пара мець дзіця. У нас з табой бацькі неяк пражылі пад гэтым і беларусамі засталіся, і нас выхавалі, дык нашто нам з табой чарапок класці? Папомні маё слова, удзяўбуць так, што не пазбіраеш гізундаў.

– Ты мяне тармозіш, вымотваеш. Бывай, мяне доўга не будзе, – толькі і сказаў ён тады, надзеў свой скаўлычаны турэмны швэдар, доўгую куртку, у якой цёпла спаць на памосце – і знік.

Дома Мар'янка спахапілася, што не купіла віна, але выходзіць не хацелася, таму яна зрабіла збан адвёрткі і пачала ўстаўляць у чэлес батарэйкі. Адны не лезлі, другія боўталіся, як таўкач у ступе.

Урэшце дзве жоўценькія падышлі, але іх патрэбна было тры...

Мар'янка заплакала ад злосці, упакавала чэлес у сашэтку ад флейты і схавала ў шафу за бялізнай. Помпу і любрыкат засунула туды ж. Не ўсё адразу.

Тым часам сцямнела. Яе трывога ўсё расла, мацнела, і Мар'янка прыкладвалася да збанка з адвёрткаю. Урэшце ўключыла кампутар і, зноў старанна абмінаючы навінныя сайты, сэрфавала, не бачачы і не разумеючы, што чытае.

Урэшце выйшла ў скайп. Адтуль выскачыў надпіс ад сяброўкі: "Мар'янка! Урод набраў 80 працэнтаў! Нашы бяруць Дом ураду, мне Зміцер знутры ўжо даслаў смс-ку! Ліда Гармошкіна там трасецца як сабачы хвост! АААААААААААААААААААААААААААААА".

У скайпе скакалі надпісы ад сяброў і знаёмых, супрацоўнікаў і сямейнікаў. Усе аднолькавыя: "АААААААААААААААААААААА".

На 43 секунды ў той дзень да Мар'янкі вярнулася надзея. За гэта давялося потым дорага заплаціць.

Потым пачала паступаць іншая інфармацыя. Разгром, целы і кроў на снезе, тысячы згубленых шапак, ботаў і пальчатак. Потым Мар'янка не вылазіла з навінных сайтаў, плакала і піла. Потым званіла.

Яго не было на волі, яго не было ні ў воднай турме.

Назаўтра ў дзьверы пазванілі, потым пагрукалі нечым цяжкім.

– Хто там? – спытала Мар'янка, цудоўна ведаючы, хто.

– Откройте, милиция. Здесь проживает гражданин Желнерович? У нас ордер на обыск.

Мар’янка зірнула ў вочка. «Міліцыя» тапталася ўчатырох, убраная ў нейкія свае чорныя плюшаўкі-ватоўкі.

– Ведаю я такую міліцыю! Галаварэзы і бандыты! Вы хочаце мяне абрабаваць, сыходзьце, пакуль я сапраўдную міліцыю не выклікала!

– Девушка, кончайте спектакль, открывайте дверь! Иначе мы её вам выломаем. Кто хозяин квартиры?

– Я тут адна, я вас баюся. Калі вы міліцыя, пакіньце позву. А так не адкрыю.

– Ну что, Толя, будем ломать?

– Ты посмотри, какая дверь. Тут без ножовки не обойдёшься.

– Подожди.

Мент разагнаўся і садануў нагою ў дзверы. Мар’янка ледзь паспела адкочыць. Дзверы глуха вохнулі, але на гэтым і ўсё. Дзякуй, бабулечка, хай табе за такія дзверы прыбудзе ў раі тысячу маладых малайцоў.

Мар’янка падскочыла, пабегла ў ванну і сунула галаву пад халодную ваду, каб працверазець.

Так, колькі ў іх зойме ламанне дзвярэй?

Мінімум хвілінаў пяць, максімум паўгадзіны.

Пара замятаць сляды.

Мар’янка паіла ўнітаз. Бывай, бывай, белагалоўка мая, гарэлачка, бывай, наліўка, бывайце, парэшткі каньяка. Ніхто не скажа, што Жаўняровіч піў як рэзаны.

Яна скубянула пятрушкі і энергічна жавала, носячыся па хаце. Пустыя пляшкі, прыладкі для траўкі яна хуценька запхнула ў мяшок і выбегла на гаўбец. Шусь – мяшок паляцеў у крапіву. Калі псы стаяць і там, тым лепей, хаць аднаму галаву праб’е. Пляшкі дзынкнулі, з форткі паверхам ніжэй панесліся крыкі Валі: “Ах жа ж распра...б вашу маць ізноў нажраліся, пробл...дзі, курвы!”

Над Мар’янкаю жылі маці і дачка Лук’янавы, прытонатрымальніцы раённага значэння. Нападпітку яны сварыліся і выкідалі на вуліцу мэблю, падушкі, пасцялёвае, хусце і ўсё, што яшчэ захавалася ў хаце.

Сёння, пачуўшы грукат і Валін крык, яны аб’ядналіся супраць агульнага ворага. Выскачыўшы на гаўбец, Лук’яніхі пачалі паліваць Валю, якая камандавала мясцовым камітэтам жыльцоў і любіла саваць нос у чужыя справы.

Зверху і знізу стаяў імпэтны брэх. Мар’янка адскочыла ў глыб пакоя і зноў ліхаманкава забегала па хаце.

Вось уломяцца скаты ў дзверы. Што яны знойдуць? Што ён пакінуў у шафе? Што ў той ягонай торбе? Няважна, ён не пакінуў бы нічога вартага. А вось я нештачка маю. Чэлес у 33 сантыметры, помпу, любрыкат.

Мар’янка раптам рэзка адчула пах латэксу, які ішоў ад шафы. Яны адразу пойдуць на гэты пах, знойдуць, можа, сфатаграфуюць ці сфільмуюць, і будзе Жаўняровіч з гэтым прычындаллем ад Бэаты Ухзэ паказаны на БТ, апусціўшы рукі, як той гаротны латвійскі аташэ. Купля гумовых прылад за заходнія гранты? У кватэры Жаўняровіча быў склад гуллівых рэчаў для людзей нетрадыцыйнай арыентацыі?

У дзверы са страшным грукатам валілі прыхадні, а над і пад Мар’янчыным балконам разгаралася страшная сварка.

– Ах, ...б тваю маць, ты ж мяне, бл...дзюга, чуць не забіла гэтай табурэткай! Галаву рассекла. Ратуйце, міліцыя! Усё, выселю на дваццаць першы кіламетр! Курва, табурэткамі кідацца! Лярва аблавухая!

Мар'янка кінулася да сметніцы, выграбла бабчын "ліхтарык", кінула ў мех, потым дастала з шафы свой "ліхтарык", помпу, рыўцом выцягнула з похвы шарыкі (з гэб'ём можна чакаць і асабістага дагляду!)

Прысеўшы з мехам за перакрыццём балкона, Мар'янка цікавала за Валяй, якая скакала і бегала ўжо пад вокнамі. Улучыўшы зручны момант, кінула мех уніз. Дабро павылятала ў палёце, дрын, відаць, трэснуў Валю па галаве. Цёмначы не разбярэш.

– Аааа! Што та, што та?! Бляяяяяць.... – заверашчала Валя знізу, – дак ты яшчэ куплёнымі х...мі кідацца???!!!

– Якімі х...мі! Усюды табе х...і мярэшчацца! Відаць, што ты іх гадоў трыццаць не бачыла, – крычыць маладзейшая Лук'яніха, а яе маці хрыпла рагоча.

Мар'янка цікуе далей. Зверху ў сад ляціць вада, відавочна шухнутая з вядра, абедзьве Лук'яніхі рагочуць пад самае неба, потым пралятае нейкая коўдра, і, здаецца, чырвоная ў бобачку каструля, якую Лук'яніхі звычайна адразу беглі падымаць, бо гэта нечы падарунак на 8 сакавіка.

Мар'янка вярнулася ў кватэру, уключыла чайнік, і склаўшы рукі, стала чакаць, калі госці зломяць дзверы.

Але за дзвярыма якраз стаяла ціша. Стаяла яна доўга. Мар'янка два дні баялася высунуцца, толькі мучыла тэлефон.

Ён знайшоўся на Акрэсціна, падобна, са зламанай рукой.

Мар'янка сабрала перадачу і села ў таксоўку. У грудзіне быў груз, які пераліваўся ў жывот, ад чаго здавалася, што ў яе змяніўся цэнтр цяжару, і яна вось-вось ляснецца. У галаве было поўна гарачай чорнай смалы, пяклі вочы. Яна сказала адрас.

Кіроўца, пачуўшы пра Акрэсціна, натапырыўся.

– Ну што, апазіцыя, прасралі выбары? – злосна сказаў ён.

Слёзы паляцелі Мар'янцы па шчоках і па носе, закапалі з падбароддзя. Яна задрала твар угару і пачала мацаць торбу ў пошуку сурвэтак, быццам з носу лінула кроў.

Кіроўца маўчаў, угнуўшыся ў стырно, да самое турмы і грошай не ўзяў.

– Мне ўсё так знялюбела, я ні на грош ламаны ні ў што не веру. Адно што не буду браць расейскіх тавараў ні пры якіх абставінах. Здохну, а не вазьму.

Праз 15 сутак Мар'янка стаяла пад Акрэсціна сярод натоўпу іншых сустракальнікаў. Але яго не выпусцілі... Яго дагэтуль не выпусцілі, і не выпусцяць. Усё дадаюць і дадаюць: то ён пабіў, маўляў, кагосьці, то мянтам супраціўляўся. А на самой справе гэта яго білі. І па цёмных кутох, і ў лес вывозілі, і ў аўтазаках мяцелілі, і нос у яго зламаны чацвёрачы.

А што яны яго не выпускаюць, то поўная іхняя рацыя. Бо нічога не баіцца і іншым рабакам не роўня. Выйдзе і ўсім пакажа, дзе ракі зімуюць. Толькі выйдзе ён не хутка, бо сафіты не на ім. І цэняць яго па заслугах толькі ворагі ды купка такіх маладзёнаў, як ён.

Казала табе: не высоўвайся, Жаўняровіч. А ты высунуўся.

*P. S.* Мянты чакалі ля пад'езда. Ад чакання малады паляпваў рукою па сцягне, старэйшы мутузіў свае вусы.

Мар'янка спачатку паддала кроку. Дзіцё захвалявалася, забілася, быццам акварыумная рыбка, што ўгледзела за шклом кацiную морду.

– Спакойна, дзіця, спакойна, чаго ты? Зімнакроўней, табе давядзецца часта бачыць мянтоў.

Мар'янка дастала з торбы банан і пачала есці, сцішваючы хаду.

"Ці будуць яны шваркаць цяжарную? Адну жанчыну ўдарылі ў яе ўласным пад'ездзе, хаця малое дзіцё пры ёй было. Адкуль яны? Шкада, што я не цікавілася пагонамі, знакамі, уніформаю і іншай трасцаю, якая хоць паказвае, што за свіны тата перад табой. Можа, афіцэры троху лепшыя? Ці горшыя? Клянуся, я не буду больш наракаць, да старасці буду жыць на 2 капейкі і тры скарынкі і не мяўкну. Стану бабкай, буду расціць бульбу на дачы, даглядаць катоў, вераб'ёў і сабак. Толькі дай дажыць! Толькі дай дзіцяці нарадзіцца!"

– Дзевушка, вы ў какой кварцірэ жывёце?

– У семдзесят другой.

– А не знаеце, гдзе вашы саседзі із сямідзясятай?

– Наташа на працы, малы ў школе, дома адна чарапаха.

– Апяць у ніх сігналізацыя ў воздух сработала. Што-та там не каціт. Можат, чарапаха ўключает? – сказаў маладзейшы. – Ну ізьвініце, дзевушка. А вы наверна, учыцельніца беларускага языка.

– Ага (яшчэ якая ўчыцельніца).

– Ну харашо, дзевушка, будзьце здаровы, патомства вам харошава!

І вам, хлопцы, хай жыццё пад ногі сцелецца.

Міліцыянты зарагаталі і пайшлі. Мар'янка вярнулася дадому, зняла чаравікі і легла на канапу.

Уперылася ў столь і задумалася.

Прынамсі, яна мела справу з мужчынам, а не з абмылкам, абсеўкам, атопкам, канцлагерным псом і бесхрамасомным зомбі.

*Чэрвень 2010.*

## Любоў зла

*Увесну 2009 года яна заняла хату свае бабы ў вёсцы, дзе некалі нарадзілася. Вырашыла ажыццявіць сваю даўнюю мару – жыць там, дзе жыць немагчыма, але вельмі хочацца. Яна б не даравала сабе, калі б не паспрабавала. І хаця эксперымент гэты не працягнуўся доўга, яна ведае, што паўторыць яго, і будзе паўтараць датуль, пакуль там не атайбуецца на жыццё і смерць.*

*Гэты аповяд – запіс доўгага дня, нататкі аб паўніні жыцця.*

### Смерць жукоў

– Дурная-дурная, а патом хітрая, у падполе, кажуць уга-га золата нахавана. За што яна калодзеж сабе вукапала? Два мільёны грошай? Чаго, ву думаеце, яна сюды прыехала? Вучаная, кручаная, чаго ёй у Мінску не сядзеласо?

– З работы праперлі.

– Патом жа яна і нішчасная. Прывукла жыць, а цяпер ні работы ні кварціры з удобствамі. Ходзіць у вядро, муецца ў тазіку!

– Я гляджу, ты ўжо шчаслівая! Твой Сяміпалко ніводнае не прапусціць, а ты маўчыш, як рыба. Сяміпалко, го Сяміпалко! Як цябе баба твая церпіць?

– Бо ведае, хто я...е і корміць!

– Ах жа ж ты, я...ака! На чым і штаны трымаюцца!

Усё, пераключыліся. Паздароўкацца і ісці далей. Трэба купіць атруты для "каралацкіх жукоў".

Бабы брэшуць, але не кусаюцца. Больш трэба асцерагацца маўклівых п'янтосаў, яны кожную праводзяць намасленым і варожым позіркам апошняга сабакі ў хеўры.

Калі верыць сельсавету, у ваколіцы 52 кавалеры векам ад 35 і да пенсіі – усе зарабляюць горкія капейкі і як адзін залліваюць за каўнер. Злыя бы шэршні. Трэба трымацца здаля, за работу на месцы не наліваць, а даваць з сабой. І так прывыкнуць: яна тут не чужая.

Яна набывае ў краме пакунак з атрутаю для жукоў. Вяртаецца вуліцай, чытаючы надпісы на пачку, дробная чорная сучка – Муха – бяжыць пры самых пятах.

Яна ледзь не натыкаецца на бацьку, што выцягвае з "Масквіча" балон для труцізны жукоў. Ён сам гэтую штуку сабраў з ламачча. Балон, шланг і пырскалка.

Бацька падымае на яе сінія вочы. Яна не хацела б іншага бацькі. Хай будзе гэты, нядобры, бурклівы і насуплены.

– Маці мяне прыслала, каб праверыў, ці твае жукі падохлі. Калі ж ты ўжо ў горад вернешся? Ці дадому пераязджай. Надакучыла ты са сваімі жукамі. У аўторак труціў – а сядзяць хоць бы што.

– Па мне дык хай сядзяць.

– То есцімеш жукоў заміж картоплі.

Пры галадусе можна будзе і лічынкі. Шызыя, мяккія, сыраватыя. Іх можна пячы або сушыць, нанізваючы на нітку. Можа, прыдадуцца зімой.

Яна просіць, каб бацька даў ёй балон, самой патруціць, адпачыў бы з газеткаю. Але бацька заўжды ўсю работу бярэ сабе.

Ён ўзгрувашчвае балон на плечы і са шлангам у руках ідзе на гарод. Правярае, ці падохлі жукі. Тыя сядзяць намёртва, здаецца, яшчэ больш укормленыя. У руцэ дарослыя жукі прыкідваюцца здохлымі, а юныя, недасведчаныя, дрыгаюць нагамі.

Бацька засыпае атруту ў ваду, прычым, прэ ў два разы болей, чым раяць на пакунку. Але і жукі атрутаўстойлівыя. Усе аповеды пра экалагічныя прадукты з уласнага селішча – выдумкі. Сяляне сыплюць атруту па прынцыпе "хай усё падохне, абы бульба ўрадзіла".

Ён абпырсквае немалы палетак, а яна замятае двор. Сабака залазіць на будку і зверху брэша на курэй, што грабуць пад яблыняю ямы, круглыя, дымныя, як пасля бамбёжкі.

Бацька выходзіць з гародчыка, зачыняе варотцы на зашчапку і мые рукі пад рукамыйнікам-тарканосікам. Гэтак жа моўчкі яны ідуць на вуліцу, ён лаштуе балон у багажнік.

## Смерць прайшла па пыльнай сцежцы

Яна прыкідвае, што сказаць на развітанне, каб было дарэчна.

Па пыльнай дарозе здалёку сунецца пара: малое дзіця і цыбаты падлетак.

Зграбнае дзіця: тонкае, даўганогае; галоўка на гонкай шыі прапарцыйная целу, як у дарослага. Гадоў чатырох-пяці. Дзіцё ў чорным, чорная хустка завязаная “на ладачку”. А спёка ж прытым, з-пад ног пыл рвецца.

Бліжэй апынулася, што дзіцё – гэта старая карліца, ладна складзеная, ростам метр дзесяць. З тварыкам, пабітым на зморшчыны, з гнеўнымі, чорнымі, цудоўнымі, бліскучымі, як жук-гнаявік, вачыма.

Як ёй не горача ў чорным?

– Праклінаю, – бубніць карліца, мінаючы іх, – і цябе, і машыну тваю, і хату тваю да апошняга гвазда, і грошы твае, каб праз твае скабы козы траву скублі.

Яе суправаджальніца – дзяўчына ў малінавых трэніках, з бліскучай завесай валасоў на апушчанай галаве, моўчкі ідзе побач.

Бацька, прыкрыўшы адно вока, другім правёў карліцу аж да канца вуліцы.

– Чыя ж гэта? – спыталася яна, зачараваная.

– З перасяленцаў, бацька, маці і трое дзяцей. А гэта карліца цётка іхняя, злая як сабака. Ходзіць і кляне ўсіх, каго не сустрэне. Якія людзі крывотлівыя* парабіліся. Так і глядзяць, каб каго праклесці.

## Смерць і чараўніца

Яна так і не надумалася, як развітацца з бацькам. А той сеў у машыну і паклікаў:

– Маці мне сказала, каб я ўзяў цябе на рыбу.

– Я табе буду замінаць. Я ж не люблю рыбалкі.

– Маці сказала, значыць, паехалі.

Яна закрыла хату, падліла сабаку вады і села ў “Масквіч”. Правесці дзень з бацькам было мулка, але трэба – цяпер яны абодва людзі сярэдняга веку, і ўсё трэба будаваць наноў. Ён павінен даравацць, што вывучыў яе намарна.

Яны ехалі, маўчалі і глядзелі ў шыбы. Абапал дарогі цвілі травы чырвонымі, зялёнымі, жаўтлявымі метлюжкамі. Квітненне незаўважнай, будзённай травы кранае больш за ўсё. Кожная былка цягнулася і быццам пяяла. Хто хоць раз перажыў чэрвень, той ужо нездарма нарадзіўся.

– Як усё цвіце, Божа. Больш такога не будзе, – сказала яна.

– Так. Усё паблякне, – адказаў бацька.

– Я не магу жыць без гэтага ўсяго, – сказала яна.

– Нам няма калі на прыроду глядзець, – адрэзаў бацька.

Ён сеў лавіць рыбу, а яна падалася далей. Ёй захацелася назбіраць букет бабе. Калі сарваць па адной былінцы кожнага віду, атрымаецца купальскі снапок.

Прайшоўшы троху па гравейцы, яна ўбачыла дым. У прыдарожным

---

* “Крывотлівасць – зацятасць і зайздрасць, якая даводзіць да сурокаў, праклёнаў, падпалаў і забойстваў. Хіба чалавека, які хавае агрэсію, прыкідваецца рахманым, і таму сваю крывую помсту кіруе на сябе і на сваіх”.

бярэзніку гарэў торф. Агонь не відзён, але гэта ён пад’ядаўся да каранёў бяроз, падкопваўся пад гравейку. Адныя бярозы ўжо ўсохлі, іншыя стаялі яшчэ зялёныя, хаця іх карані ўжо паджэр агонь.

Аднойчы лось уцякаў па такім тарфянішчы, бухнуў уніз, у тлеючы торф. Толькі раўнуў – і выйшла з яго смажаніна для чарцей.

Яна мерылася сысці з гравейкі да канавы, як углыбіні зямлі, пад нагамі, нешта цяжка бухнула, уздыхнула, і дарога правалілася проста перад ёй. Уся кроў кінулася да сэрца, яна асела на дарогу і закрычала.

Бацька бег па гравейцы.

– Спужалася?! От жа ж, сукі, дарога прагарэла, ніхто не хацеў бярэзнік тушыць. Лясніцтва кажа: ваш бярэзнік, а калхоз: нееее, ваш! І ўсе глядзяць, колькі хто грошай зарабляе, і каб яму больш было, чым каму. Сукі крывотлівыя! Ой, спаскудзіўся свет, ой, спаскудзіўся.

Не спаскудзіўся. Ён такі і быў.

– Паехалі к бабе, – сказала яна, – я букет набрала. У мяне віно ў сумцы.

З’ездзілі, выпілі з гранёнай шклянкі. Набраную травічку паставілі ў слоік у нагах. Што цяпер бабе тая травічка.

Баба за 90 год ведала толькі сваю вёску на сорак двароў. Баялася паміраць. У летнія дні плакала: “Кожная троўка цвіце, кожная краска, усе жывуць, а мне ў зямлю”. Яны напойвалі яе віном, бо іншага ратунку не ведалі.

– Бацька, я ў бабінай хаце застануся. Я не паеду нікуды.

– Тады хоць да нас вярніся. Каму такі дом застанецца?

– Сястры. Мы ж з табой не ўжывемся, мы сварыцца будзем за пусты мех, за зямлю. Ты маю елку і ядловец выдраў!

– Яліна і ядловец ля хаты – на смерць. Сварыцца ж весялей, чым не сварыцца.

– Ну, тата, мне прастор патрэбен, воля. Ты едзь дадому, а я сама зайду.

Яна пайшла ўзбоч жытняга поля, у чырвонай метлюжковай траве па шыю. Трава гэта, вядомая як “курачка і пеўнік”, казытала і ахплівала бы чырвоная хмара. Шапацела і гладзіла рукі, твар. Навокал не было ні душы, толькі зумкала ў распаленым паветры жамяра і шумела ў канаве вада. Яна выйшла да канавы і здзівілася: на чорным смаляным шлюзе спінаю да яе сядзела тонкая дзяўчына ў чорным. Вецер слаба павяваў яе чорнымі лахманамі. Яна была як сухая русалка, што круціць віхры на дарогах.

Аднак гэта была не дзяўчына і не русалка. Над кабетаю тырчэла вудзільна. Гэта была Сарафінка, шаптуха. Яна ніколі не бачыла Сарафінкі, толькі чула, што тая ловіць рыбу і загаворвае на соль.

Сарафінка павярнулася. Яе твар быў пабіты зморшчынамі, з чорнымі, прыўкраснымі, бліскучымі вачыма.

– Рыбы не тапчы!

Сапраўды, аб дарогу біліся акуні й карасі. Боль іх і страх былі бязмежнымі, пік агоніі. Таму яна не любіла лавіць рыбу. Раз у дзяцінстве выпусціла вялізнага бацькавага ляшча і атрымала сеткаю па нагах.

– Баба Сарафінка, ці не маглі б вы мне нагаварыць на соль ці канфеты? Ад спалоху.

– Вазьмі вунь там садок, укінь рыбу і спусці ў ваду, – адказала тая.

Цяжка думаць, як рыбы ўзрадуюцца, патрапіўшы ў ваду, як будуць

біцца аб драцяную сетку, як вернуцца да агоніі і будуць вымушаныя прайсці яе да канца.

Яна падняла абсыпаныя пяском, трапёткія цельцы і хвілю раздумвала – кінуць іх у канаву ці ў садок. Кінула ў садок і з'ехала да вады. Прывязала садок за трыснёг.

"А ў казцы іх бы адпусцілі, і яны дасталі б пярсцёнак са дна".

– Прыходзь заўтра на смажану рыбу, я табе ўсё папраўлю. Будзеш жыць як трэба. Толькі потым не расказвай, што я рабіла, бо згінеш, як сляпы сабака.

Сарафінка вудзіла, яе спадніца і шаль веялі, а яна ішла ўздоўж канавы дадому. Раптам пачула роспачнае мяўканне. З канавы на дарогу выпаўзала мокрае кацяня. Тапілі – не датапілі.

Яна ўзяла трывушчае кацяня ў прыпол, пералезла праз насып, каб скараціць шлях, і ўбачыла за насыпам яр, на ягоным дне – мёртвыя, скасцянелыя і пагрызеныя парэшткі быдла, дзе-нідзе яшчэ пакрытыя чорна-белай плямістай шкурай. Псейкі, рагулі, рабіны, падласкі. Свойскія кароўкі. Былі карміліцы, а потым пайшлі на мяса ці сюды.

Адхон скатамагільніка быў папратыканы, бы голкаю, норкамі ластавак-бераговак. Самі берагоўкі з прарэзлівым енкам лёталі за мошкамі.

Тапленне кацянят. Гарэнне бяроз. Скатамагільнік і берагоўкі. Усё тут падшытае смерцю. І жыццё кароткае, жудаснае і цудоўнае, як тры купальскія дні, калі ўсякая трава славіць неба.

## Смерць крадзецца ўночы

Яна вынесла крэсла і сядзела ля хаты з кацянём у прыполе. Сядзець на прызбе з непрывычкі цяжка. Хутка стамляецца задніца. У бабы не было мэблі для адпачынку. Ложак з шышкамі? Каб спаць. Крэслы, зэдалі і ўслоны? Каб сядзець за сталом, або рабіць сядзячую работу. З зэдаля і лаўкі не паглядзіш тэлевізар, на "краваці" не пачытаеш кніжку. Беларускае радыё са сцяны бубніць, сее смерць і смутак. Ні крэслаў-гойдалак, ні седакоў-шэзлонгаў, ні канапы, ні тахты з капою падушак. Тут не засядзішся і не заляжышся, мэбля муляе. Тут трэба завіхацца ад нараджэння да смерці.

Між тым цямнела, і над ганкам запаліўся "накапляльны" ліхтар. Мясцовыя думалі, што гэта камера, якую яна ўсталявала, каб пільнаваць сваё міфічнае дабро.

Святло ад ліхтара клалася на бялюткую сцежку ад варотцаў да ганка, а ўзбоч ляжала цемра. Чыясьці котка ганялася ў пляме святла за мятлушкамі. У травах і бульбе чуліся шолахі. Можа, гэта ўрэшце дохлі і ападалі "каралацкія жукі". І раптам шолах зрабіўся разумным, людскім і нядобрым.

Праз гарод краліся трое "парцізанаў", адзін за адным, невысокія, прыгорбленыя, з падагнутымі каленямі і выпнутымі кадыкамі, адрынутыя, непатрэбныя, злыя як шэршні. Невядома, ішлі па "бутылку", "вупіць", ці па дровы, па брыкет, па сушаную бялізну ці па ўяўнае золата, што свеціцьжарыць з падполу і слепіць іхнія крывотлівыя вочы. Калі па золата – то прыбілі б, як тую бабу, якая з пенсіі назбірала мільёны на пахаванне і пахвалілася ля крамы.

Яна падхапілася і знячэўку закрычала: "Ану, пайшлі вон!", патрасаючы секачом для свінога зелля – добра навостранай S-падобнай штукай,

насаджанай на кій. “Парцізаны” падаліся назад, сутыкнуліся, нехта ёўкнуў і вылаяўся, і ўсё сціхла.

Яна выйшла “пад камеру” са сваім секачом і закрычала:

– А ну ўцякайце да чортавай мацеры, я вас пазнала і на камеру запісала, зараз участковы сюды на матацыкле прыедзе.

Зашалахцела бацвінне, грамадка затупацела і рассыпалася. Напэўна, заўтра яна сустрэне іх ля крамы.

Яна счакала, прыслухалася да цішыні і прысела пад яблыняй. За суседскім плотам нехта тупаў і соп, сквапна жор траву разам з раннімі паданцамі. Можа, карова, а можа, чорт.

Хітрыя вы, хітрыя, а патом і дурныя. Чаго я сюды прыехала, вучаная і кручаная? Нашто я “вукапала” калодзеж? Нашто мне быў у хаце сякач, калі няма ў мяне свіней, і лебяды я не таўку з мукою?

Таму што я люблю самоту, зло, крывотлівасць і смерць. Тут я ў раі, тут я дома.

“Восень, прыгаслы прысак, мокрае пер’е птушак.

Прыходзь, прыходзь, калі ласка.

Пазбыцца ўсяго жаданага? Так”.

*Чэрвень, 2009.*



Тацяна Беланогая



...Мне спяваць не цяжка.

Проста балюча...

# Скульптура слова

## *МЁРТВАЯ ТРАВА*

Што такое сэрца?
Што такое вера?
Што такое сорам,
Калі я мёртвая трава?

Што такое танец?
Што такое сонца?
Што такое песня,
Калі я мёртвая трава?

Вырастае ў горадзе на суседнім доме.
Вырастае ўнутры ў маім пакоі.

Што такое колер?
Што такое вага?
Што такое пахі,
Калі я мёртвая трава?

Што такое ноч?
Што такое вечар?
Што такое вечнасць,
Калі я мёртвая трава?

Што такое позна?
Што такое рана?
Што такое лета,
Калі я мёртвая трава?

Вырастае звонку на суседнім доме.
Вырастае ўнутры ў маім пакоі.

### АНЁЛЫ

Белыя анёлы спявалі песні,
Ірвалі сэрцы, шукалі прыстань.
Белыя анёлы вясну гукалі, зіму прымалі,
Кружылі лісцем
Ў краіне, дзе літара "Я"
Забітая была.
Ў краіне, дзе літара "Я"
Забітая была.

Белыя анёлы пісалі кнігі
Пра свае крылы, пра свае ночы.
Адбівалі такт на парапетах
Высока ў нябёсах, высока на дахах
Ў краіне, дзе літара "Я"
Забітая была.
Ў краіне, дзе літара "Я"
Забітая была.

На белых анёлаў чорныя людзі
Ставілі пасткі, ставілі сеткі.
Сквапныя рукі хацелі крануць
Тумановыя косы.
Але іх бараніла літара "Я".
Напэўна, гэта была
Святая душа.

### КОЛА

У сутонні чорным мая птушка стогне.
Божа, ты ўсё можаш – вярні мне жыццё.
Дзе той Пётр з ключамі ад цудоўнага раю?
Дзе цуд, у які верым?

А мая дарогаператвораная ў кола.
Я хаджу па ім ды спяваю песні.
Жабракам ды сляпым дзецям.
Маладым наркаманам ды галодным сіротам.

А я хацела сказаць, што я не супраць.
Я так хацела сказаць, што мне не блага.
Толькі вашае неба мне стала атрутай,
Толькі вашыя ролі мне сталі смерцю.

Мне спяваць не цяжка.
Мне спяваць не цяжка.
Мая мара толькі застацца сабою.
Мне спяваць не цяжка.
Мне спяваць не цяжка.
Проста балюча.

### ПТАХ

Наш засмучаны птах. Хто пазнае яго пасля войнаў?
Апусцілі наш сцяг, ды палова сказала: “Усё роўна”.
Чорны колер крыві перальецца праз белыя рукі.
Птах забыўся на сон. Ломяць крылле жыццёвыя скрухі.

Стома прыйдзе, як ноч. Цераз межы пяройдзе, дзе сіла.
Птах захоча заснуць, ды жыве даўно сон у яго крылах.
Цемра чорнай рукой адчыняе гасцінец для болю.
Птах баіцца глядзець, гаспадарыць хто там за гарою.

Наш птах ляціць у неба.
Наш сцяг гарыць на сонцы.
Наш твар хаваць не трэба.
Ды гэта толькі ў снах.
Ды гэта толькі ў снах.

Дзе сябры – там хлусня, ды ўсё роўна з адкрытай душою.
Сумна жыць у клетцы дня і палова сяброў за мяжою.
Птах застаўся сядзець на зямлі з пераломленым крыллем.
Вецер, дапамажы, перадай прывітанне шчаслівым.

Вось надзея ляжыць – адразайце ўсе колькі вам трэба.
Можа гэта хлусня – існаванне шчаслівага неба.
Сумным позіркам зор птах акіне чорнае мора.
Сэрца ў цэнтры зямлі, як мішэнь для сусветнага гора.

Наш птах ляціць у неба.
Наш сцяг гарыць на сонцы.

Наш твар хаваць не трэба.
Ды гэта толькі ў снах.

Ды гэта толькі ў снах.
Ды гэта толькі ў снах.

### МАЎКЛІВАЯ

Маўклівая.
Яе вачам трыста год.
Яны бачылі больш за гаманлівы натоўп.

Ты далоняў сваіх да вачэй не тулі –
Паглядзі, яе слёзы ападаюць на твае сляды.

Раніцой кожны дзень надыходзіць вайна.
Ёй патрэбна пасталець яшчэ давідна.

Яна ведае сум. Ёй знаёма журба.
Яна сумленна жыве, бо жыве адна.

Яна ведае тое, пра што лепей маўчаць.
Каго ненавідзець, а каго вітаць.

У канцы змрочных дзён раскіне рукі крыжом.
Пойдзе ўцехі шукаць і скажа: “Няўжо?”...

Маўклівая.

### ТРЫМАЙ МЯНЕ

Мой тата кажа:
“Праўда ў кожнага свая”.
Мая маці кажа: “Любі людзей”.
Мая сястра кажа:
“Я не ведаю, куды пайсці”.
Мая бабуля кажа:
“Галоўнае, каб не было вайны”.

Трымай мяне на коўзкіх прыступках.
Трымай мяне, няісны хлопчык.
Трымай мяне на халодных пралётах.
Трымай мяне, цвёрды голас.

У кожнага свая
Ў галаве вайна.
І кожны сам замінае сабе.

А я ўяўлю,
Што я заўтра памру,
І зраблю тое,
Што хацела зрабіць учора.

### БАЛЬ

Не забівай маё “Я”, вельмі прашу цябе,
Грэшны кат.
На цёмных калідорах зашмат
Галодных пацукоў.
Я нешта хацела сказаць
Пра сонца і святло.
Я нешта хацела.
Успомніліся боты ды
Захарканы крывёю снег.
Баль у час, калі
Забіваюць герояў.
Баль у час, калі
Косткі ныюць ад болю.
Баль у час, калі
Рукі не знаходзяць апоры.
Баль у час, калі
Сляпыя вочы слязяцца.
Сляпыя вочы слязяцца.

О, ружовае дрэва,
Забудзься на сваё жоўтае сонца.
Кітайская лялька,
Ты такая падобная да нашага стагоддзя.
Апошняе слова
Застанецца за паэтам.
Жыццё – гэта кола,
І нехта хоча парушыць
Законы сусвету.

### ЧОРНАЯ НОЧ

Гэтай  чорнаю ноччу
Мне паветрам не дыхаць.
Гэтай чорнаю ноччу
Мне глядзець у вакно.

Мае раны ўжо
Стогадовыя дзеці,
Мае песні ўжо
Састарэлі даўно.

Хто паўзе, хто крычыць –
Адчыняю вам дзверы.
Я, таксама, як вы –
Я, таксама адна.

Толькі той чалавек,
Што адзіны ў свеце,
Не пачуе мяне
Не адчуе цяпла.

## *МЫ - ВЕЦЕР*

Слова ў гэтай цішыні
Можа забіць.
Слова ў гэткай цішыні
Можа забіць.
Але мне не страшна,
Бо чую я твае крокі.
Але мне не страшна,
Бо думкі не паміраюць.
Але мне не страшна
Нават сказаць табе,
Што мы – Вечнасць.

А па лесвіцы ў вечнасць
Ходзіць маўклівы каваль.
А па лесвіцы ў вечнасць
Ходзіць сейбіт.
І яго зерне –
Гэта шлях у бязмежжа.
І мне здаецца,
Што мы знайшлі дарогу.
І мне не страшна нават сказаць табе,
Што мы – Вецер.

Ну а ветру немагчыма
Падрэзаць крылы.
Вецер толькі баіцца
Бетонных сценаў.
Ты суцеш мяне і скажы,
Што там за мурам.
Ты суцеш мяне і разбі
Гадзіннік.
І калі не страшна табе,
Скажы мне, хто мы.
Мы – Вечнасць, Мы – Вецер.

## *МЕТРО*

Я паеду на метро.
Я паеду на метро да цябе.
Я буду глядзець у вакно,
Я буду глядзець,
А бачыць сябе.

Нехта сказаў: “Наверсе дажджы”.
Мне так шкада дзяцей у Руандзе.
Я ведаю, што пасля смерці Зямлі
Будзе новае Неба!..

Я паеду на метро
Да таго, хто чакае мяне.
Сіроты ды дождж,
Сіроты ды дождж
На беразе тым...
І я здзіўляюся жорсткасці дзвярэй,
Якія зачыняюцца.
І я здзіўляюся жорсткасці людзей,
Якія забіваюць...

Я паеду на метро да цябе.
Я паеду на метро да цябе.

## *ДРЭВА*

Уночы
Я шукала свой бераг.
Уночы
Паміралі мае вочы.
Я не магла ўжо спаць.

Назаўтра
Рушыла я на поўнач.
Назаўтра
Паміралі мае вусны –
Я пачала маўчаць.

А потым
Паміралі мае ногі.
Мяне ўжо
Не вабілі дарогі.
Я пачала стаяць.

Я – дрэва ў бясконцым полі.
Я – дрэва  ў жахлівай ночы.
Я – дрэва ў сцюдзёным сне.

І ветры заламаюць маю волю,
Змайструюць пасткі, сеткі
Караням ды галінам маім.

І будзе лес на гэтым полі...
Я знаю, знаю – праўду любіць:
Вінаваты без віны,
Маўклівы без віны,
Забіты без віны.

### *1984*

Год нараджэння 1984 –
Шчуры бягуць з карабля.
Год нараджэння 1984 –
Іх можна зразумець.

Пакаленне загнанае ў кут,
Пакаленне дрыготкай зямлі,
Пакаленне разбураных сцен,
Зняважанага попелу.
Пакаленне праклятае днём,
Пакаленне распранутых душ,
Пакаленне мірнага,
Але не святога неба.
Год нараджэння 1984 –
Шчуры забіваюць сябе.
Год нараджэння 1984 –
Іх можна зразумець.

Пакаленне глядзіць у туман.
Пакаленне забівае цвікі.
Пакаленне плюе, плюе, плюе, плюе...
Пакаленне марыць паспаць,
Пакаленне марыць узляцець,
Пакаленне марыць знайсці сябе, сябе, сябе...

### *ЗЯМЛЯ*

Памалюся за цябе. Хай прысніцца сон,
У якім сонца.
Памалюся за цябе. Хай прысніцца сон,
У якім вецер
Калыша высокія травы, калыша высокія травы.

Маліся за мяне. У вачах маіх
Змаляваныя сцены.

Маліся за мяне. У руках маіх
Жалезныя вены. Маліся за мяне.
Я – каменне на дарозе,
Каменне на дарозе.

Хай малітвы паляцяць
І на небе будуць разам.
Малітвы паляцяць
І на небе будуць разам.
Зямля не для кахання,
Зямля не для кахання.

## КАМЕННЫ ГОРАД

Я так хачу сустрэцца з Вамі
Ў каменным горадзе N.
Я так хачу сказаць, што зоркі
Вышэйшыя за краты гэтых сцен.

Толькі нам гараць ліхтары.
Толькі нам грае ноч.
Толькі нам падае зверху бурштын.
Толькі нас бачыць Бог.

Мы – гіпс, мы – лёгкае віно.
Мы – чыстае сумленне калодзежу і дна.
Усё пачнецца, і ўсё ўжо было.
Цнатлівая трава, апошняя трава.

Толькі нам гараць ліхтары.
Толькі нам грае ноч.
Толькі нам падае зверху бурштын.
Толькі нас бачыць Бог.

## МАЛІТВА

Калі ў вачах нічога, акрамя адбіткаў святла ліхтароў,
Калі на сэрцы трывога, а на пальцах кроў,
Збірайся ў дарогу – дарога твой дом,
Збірайся ў дарогу – дарога твой брат.

“Я хачу быць з табой, я хачу быць з табой”, –
Казала зорка ў небе, ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог, – гэта Любоў.
Іду за ёю па вадзе, іду за ёю па вадзе...

І, можа быць, лепей, што ты не такі, як усе.
І, можа быць, лепей, што ты любіш пабыць адзін.
Дарога не дазволіць старэць, дарога спытае цябе.
Дарога не дазволіць старэць, і дарога адказ табе
дасць.

"Я хачу быць з табой, я хачу быць з табой", –
Казала зорка ў небе, ляцела малітва ўверх.
У мяне ёсць тое, у мяне ёсць тое,
Што падарыў Бог – гэта Любоў.
Ідзі за ёю па вадзе, ідзі за ёю па вадзе...

### ***ГОРЫ***

Я люблю глядзець на горы.
Яны бліжэй да неба.
Ты падымаеш мяне на сваіх руках.

Я люблю глядзець на мора.
Вецер нараджае хвалі.
Ты жывеш прасторай у маіх грудзях.

Занадта блізка, вельмі далёка.
Занадта нізка, вельмі высока.
Занадта лёгка, вельмі цяжка –
Звычайнае каханне.

Я люблю глядзець на срэбра душ –
Размовы людзей, смех дзяцей.
Размаўляй са мной і трымай мяне за руку.

Я сказала: "Люблю".
Адгукнулася: "Кахаю".
І патанае каменне ў глыбокіх морах.

Занадта блізка, вельмі далёка.
Занадта нізка, вельмі высока.
Занадта лёгка, вельмі цяжка –
Звычайнае каханне.

### ***Я ВЕРУ Ў ЛЮБОЎ***

Я тая, што затрымала свой позірк. Адказу няма.
Я тая, што доўга маўчала. Так хацела сама.
Я тая, што вельмі кахала. Адказу няма.
Я тая, што бачыла кола.

Я не веру ў літары, я веру ў любоў.
Я не веру ў знакі, я веру ў любоў.
Я не веру ў гукі, я веру ў любоў.

Я тая, якой пяць мільярдаў. Ты будзеш вечна.
Я тая, што будзе падаць. Усё так дзіўна.
Я тая, якой трэба неба. Ты будзеш вечна.
Я тая, што будзе лётаць.

Я тая, што крочыць. За вакном вясна.
Я тая, што танчыць. Палымянае сэрца.
Я тая, што спявае. За вакном вясна.
Я тая, што шукае.

Я не веру ў літары, я веру ў любоў.
Я не веру ў знакі, я веру ў любоў.
Я не веру ў гукі, я веру ў любоў.

---

Тацяна Беланогая і “Дзеяслоў” падрыхтавалі
для сваіх чытачоў калядны падарунак –
дыск з новымі песнямі сп-ні Тацяны,
якія далучаны да кожнага нумара часопіса.
*Вясёлых Калядаў Вам!*
*Хай усім шчасціць у новым годзе!*

Вінцэсь Мудроў



...заўтра...

якое чароўнае слова!...

# Шпег

***Навела***

***Навела гэтая мае сваю гісторыю. Напісаная яна немаведама калі (яшчэ як мы з Мінкіным жылі на Поўначы). У мяне там, у вагончыку, надарыўся пажар. Шмат якія паперы згарэлі, думаў і гэтая навелка пайшла дымам. Але нядаўна перабіраў свой архіў і знайшоў колькі абгарэлых лісткоў. Першыя дзве старонкі твору, праўда, адсутнічалі. Аднавіў па памяці.***

***Аўтар.***

Мне было дзевятнаццаць гадоў. Я ляжаў на мулкай лаве і зацята глядзеў на міргатлівую зорку – яна толькі што выплыла з-за фіранкі. Зорка то бліскала, то патухала, захінутая на імгненне галінамі старой яблыні, якая расла пад вакном.

Гаспадыня кватэры, у якой кватараваў, таксама не спала. І калі яна з цяжкім уздыхам пераварочвалася з

боку на бок, я таксама ўздыхаў. Гаспадыню звалі Сабінай і яна была на пятнаццаць гадоў старэйшай ад мяне.

На пячной ляжанцы адчайдушна хроп ейны муж – кадыкасты, пабрэжнеўску густабровы бамбіза. Печка была напалена як домна, я ляжаў, накрыты адной прасцінай, а гэты храпун штоначы ўзбіваўся на самую гарачынь ды яшчэ спавіваўся старым кажухом.

– Ну і храпець, – раз-пораз выдыхала Сабіна. – Мне карцела сказаць штосьці ў адказ, але я не адважваўся. А яшчэ мне карцела падысці да жанчыны, сцягнуць з яе коўдру і з пяшчотнай павольнасцю правесці рукой па малочна-белым сцягне. Я разумеў, што ніколі не зраблю гэтага, але палкая фантазія не давала спакою і зганяла сон з павекаў.

Я толькі трэцюю ноч спаў у хаце, на старой лаве, якую гаспадары называлі тапчанам. Дагэтуль мы з Лозкам, старастам групы, месціліся на верандзе. Тры дні таму Лозку – студэнту-пераростку, які паспеў ужо адслужыць у войску, заехалі вязанкай лёну, самым камлём, у вока, і ён паехаў дахаты, бо вока пачырванела ды пакрылася блакітнай плеўкай. Якраз таго дня ўдарыў мароз і гаспадыня прапанавала начаваць у хаце, на драўлянай, паточанай шашалем лаўцы з выразанымі на прыслоне загадкавымі літарамі “НКПС”. Я доўга маракаваў – што б яны маглі азначаць. І толькі калі даведаўся, што лаўку прыцягнулі калісьці з разбомбленай немцамі чыгуначнай станцыі, уцяміў: гэта было майно Народнага камісарыяту шляхоў зносінаў.

Гаспадар меў прозвішча Кірпіч – з націскам на першы сказ. К*і*рпіч быў сугнеем; ён і са мной амаль ніколі не размаўляў. Толькі аднойчы спытаў, насупіўшы кудлатыя бровы: калі мы, студэнты, з’едзем дахаты. Праўда, да Лозкі ён ставіўся больш лагодна: распытваў пра службу ў войску. Аднаго разу яны нават выпілі на пару пляшку гарэлкі.

Таго дня, як стараста пашкодзіў вока – мы з Лозкам закідвалі лён у пуню – да нас пад’ехаў на кані калгасны брыгадзір.

– Ну, як там вам, у Кірпіча? – прозвішча было прамоўлена з націскам на апошнім сказе.

– Нармальна! – крыкнуў Лозка, завіхаючыся з калянымі вязанкамі, і брыгадзір, ссунуўшы з патыліцы на нос кепурку-васьміклінку, жартам папярэдзіў:

– Сабіна ягоная... любіць маладых хлопцаў. Толькі ж вы да яе не чапіцеся. А то Кірпіч раўнівы. Аднойчы ў іх салдат быў на пастоі, дык ён яго збіў на горкі яблык. Два гады потым на Аршанскай зоне адбухаў.

Жарцік запаў у душу і калі адвячоркам, праводзіўшы Лозку на аўтобус, я вярнуўся на веранду, думкі мае апанавала жанчына, прыглушаны голас якой гучаў за сценкай...

А ўчора ўначы гаспадыня папраўляла падушку і незнарок адхінула край шторы, якая аддзяляла ложак ад святліцы. Праз шчыліну, у шэрым прыцемку, я ўгледзе малочна-белае сцягно, такі ж белы, трохі пукаты жывот і кроў гарачай хваляй апякла твар.

Вось і цяпер мне мроілася малочна-белая пляма, мроілася, што Сабіна лашчыць свае сцёгны рукою – я памкнуўся ўцяміць – сон гэта, ці ява, і нечакана прачнуўся ад зацятага сабачага брэху. Гаспадарова Жучка – істота крывалапая і куртатая – брахала з рыкам, стогнам і прагавітай нянавісцю.

– Ну до табе ўжо, до... – азвалася за шторай Сабіна. – Яна хацела тым самым абудзіць мужа, але той адно схрапянуў спрасоння.

Жучка, нібыта пачуўшы гаспадыню й сапраўды змоўкла, але толькі на імгненне. Неўзабаве зноў забрахала, але цяпер ужо з жаласлівым скавытаннем.

– Мішка! – голасна выдыхнула жанчына і на ляжанцы заварушыліся.

– Чаго табе?...

– Ты што, не чуеш як сабака заходзіцца? Можа ваўкі блізка?

Гаспадар мацюкнуўся і глуха, відаць, з галавой захінуўшыся кажухом, адказаў:

– Тут бы на ўсю вёску галас стаяў. А так толькі Жучка брэша... суседскія не дапамагаюць.

– А можа шашок у хлеў убіўся?

– Спі ты, шашок... Курэй жа не чуваць...

Я стаў углядвацца ў вакно, спрабуючы па руху зоркі вызначыць – ці доўга спаў, і нечакана, скрозь сабачы брэх, пачуў дзіўныя зыкі. На двары, каля плоту, штосьці глуха гуло і шаргатліва цёрлася аб штыкеціны. За час кватаравання я добра вывучыў гукі Кірпічовага жытла. Ведаў – у якім месцы рыпаюць масніцы, дзе спявае цвыркун і ў якім баку шоргае вецце аб сцену хаты. Пачуты зык быў невядомы, нават злавесны. Сабіна, відаць, таксама пачула дзіўны шоргат і наструніла слых. Вецер дзьмухнуў з новай сілай, зык паўтарыўся, прычым, цяпер штосьці настойліва шарканула па страсе, і гаспадыня з пярэпалахам у голасе прашаптала:

– Міш...

Гаспадар адразу адгукнуўся, голасам дрогкім і шапятлівым:

– Чую, чую...

– Выйдзі, паглядзі – што там...

Гаспадар ладны час ляжаў без дыху і без руху, і толькі калі па страсе шкрабатнулі як мае быць, бязгучна споўз з ляжанкі.

– І хто там валтузіцца? І Жучка асіпла ад брэху, – з панікай у голасе прашаптаў Кірпіч, прыпаўшы да ваконнай шыбы. – Гаспадар відавочна шукаў маёй падтрымкі, але я прыкінуўся, што сплю, нават засоп дзеля прыліку.

Нічога не ўгледзеўшы, Кірпіч з апаскаю – аніводная масніца не азвалася – падаўся ў сені.

Выхадныя дзверы рыпнулі перарывіста і зычна, засведчыўшы, што іх адчынялі з насцярогай. Я прыўзняў голаў. Знадворку ізноў зашамацела, у сенях гучна бразнула вядро і Кірпіч, заляцеўшы ў хату, пераселым ад хвалявання голасам выгукнуў:

– Шпіён!

Я падхапіўся на ногі, памкнуўся надзець штаны ды заблытаўся ў калашынні й кінуўся на двор у адных трусах.

У твар дыхнуў халодны вецер, сэрца парывіста затахкала, але тут жа і супакоілася, калі я пабачыў над галавой вялізны шар: пачапіўшыся да плоту, ён мерна біўся аб край страхі.

– Радыёзонд прыляцеў, – патлумачыў я гаспадару, галава якога ціхенька вытыркнулася з дзвярной праймы.

Мы ўвайшлі ў хату, сталі апранацца, і я распавёў Кірпічу ўсё, што ведаў пра радыёзонды.

– Дык, кажаш, аж на сорак кіламетраў уздымаюцца? – перапытаў Кірпіч, калі мы выйшлі на ганак. – Гаспадар мерыўся запаліць, ды я тузануў яго за рукаво: паветраныя балоны поўнілі вадародам, і трэба было асцерагацца агню.

Кірпіч перарэзаў сцізорыкам шнур, які лучыў шар з бляшанай скрынкай, тузануў за канец шнура, прыкідваючы, ці прыдасца гэтая надзіманая халера ў гаспадарцы, і нечакана пусціў шар па ветры. Той шорхнуў наастачу па яблыневых галінах і паляцеў пад развітальны Жучкаў брэх уздоўж вясковай вуліцы.

– Хай яшчэ куды заляціць. А то прывяжы да плоту, дык на раніцу ўся вёска збяжыцца.

– ...Божухна, гумовы пузыр са шпіёнам пераблытаў, – сустрэў мяне іранічны голас гаспадыні, калі я, завітаўшы па выпадку за хлеў і палашчыўшы змучаную брэхам Жучку, вярнуўся ў хату і бухнуўся на энкапээсаўскі тапчан.

– Ты нічога не ведаеш, дык маўчы, – незадаволена азваўся гаспадар. – Я адразу па вайне ў Дрысе вучыўся, дык нам вайсковец лекцыю чытаў. Пра імперыялістычныя падкопы. І фотаздымак паказваў, на якім дакладна такі пузыр быў сфатаграфаваны. Казаў, на на такіх пузырах шпіёны праз мяжу і пералятаюць. Ды я ў дзяцінстве... – гаспадар падвысіў голас, звяртаючыся ўжо да мяне, – сам на шпіёна ўзбіўся. Тут жа да вайны, адразу за Дзвіной, Польшча была. І вось мы пасвім аднойчы са старэйшым братам статак, а тут з-за кустоў чалавек выходзіць. Незнаёмы, не па-нашаму адзеты. “Як тут, хлопцы, да чыгуначнай станцыі прайсці? Мне, – кажа, – у Менск трэба, у Цэнтральны камітэт камсамолу”. Так і сказаў: не ў Мінск, а ў Менск. Лёшка, брат мой, неўпрыкмет падміргнуў, павёў таго чалавека ў Свольну, а я на заставу кінуўся. Начальнік заставы потым у школу прыходзіў. Падзяку нам абвясціў за дапамогу ў затрыманні лазутчыка.

Гаспадар змоўк, зычна кархануў, праз нейкі час засоп, а я ляжаў, размежыўшы вочы, і думаў: які подлы гэты Кірпіч. Здаў чалавека, і яшчэ ганарыцца. А гэта ж, відаць, быў заходнебеларускі камсамолец. Мяне апанавала злосць на Кірпіча. Я хацеў быў кульнуцца на бок ды ў гэты момант рыпнулі спружыны і гаспадыня белым прывідам выплыла з-за шторы. Нячутна, у сваіх лямцавых тэпцях, яна выйшла ў сені і там напорліва зумкнула вядро. У мяне заняло дыханне. Я перапоўз на край тапчана, і калі Сабіна ўваходзіла ў святліцу, схапіў жанчыну за руку. Думаў, гаспадыня закрычыць, лясне мяне па твары, а тая паказала вачыма на печ і стоена шапятнула:

– Заўтра.

Заўтра... якое чароўнае слова! Слова – прадвесце шчасця і ўадначас помста кадыкастаму мужлану, які дрыхнуў на печы. Дый не заўтра, а ўжо сёння, калі ў хаце не будзе Кірпіча (націск на апошні сказ), я зноў схаплю Сабіну за руку, прыпаду вуснамі да голага пляча, знямелай далонню правяду па малочна-белых сцёгнах!.. Вушы напоўніліся аднастайным шумам, і наўкол стала на дзіва ціха: нават Кірпіч пакінуў сапці і ходзікі не тахкалі на кухні. Я ляжаў у шчаслівым здранцвенні, і скрывіўся як ад болю, калі на печы схрапянулі, а на другім канцы вёскі – у той бок якраз паляцеў пузыр, – гамузам, з залівістым енкам, забрахалі сабакі.

*1989 г.*

Вольга Чайкоўская



...Я хаваюся ад сябе
Пад пылам сваёй
Няўстойлівасці...

# Ледзяныя карункі

* * *

Я хаджу басанож
Па вогнішчы тратуараў.
Я хацела б, каб ты быў бязмежна харошы,
Быў жывым увасабленнем маіх
X-files-мараў.
Я таньчу фламенка, панк, нейкія абрадавыя танцы
На тонкім лязе тваіх вострых позіркаў.
Па небе сонца марудна паўзе,
І вечар забірае ў яго ўсе шанцы
Застацца ў ролі джокера.
Я прамяняю свой сумнеўны дабрабыт
І ўсе астатнія, шкодныя для душы, выгоды
цывілізацыі,
Каб ты не думаў: “Няхай ўсё зваліцца ў нябыт!”,
А думаў: “Я цябе кахаю”
І заўсёды меў рацыю.

* * *

Выходжу з метро на аўтамаце.
Зіма крочыць за мною след у след.
Мне б узімку толькі спаць і
Гатаваць табе духмяны абед.
Мне бы ў спячку ў тваіх абдымках –
Не працаваць, не думаць, не перажываць.
З ненатуральным выразам твару,
Як на старых паляроідных здымках,
Горкую шакаладку часу жаваць.
Мне б узімку манікюр старанна рабіць,
Каб начыста памыць чужую падлогу.
А потым падлогу памыць забыць.
Ну, і няхай сядзяць у брудзе! Ну, і дзякуй Богу!
Мне б узімку каб натхненне
Ты з нябёсаў прыносіў вёдрамі.
Я магу быць тваім збавеннем –
Саграваць цябе ад зімовага холаду
Сваімі дзявочымі сцёгнамі.

* * *

Бывае, дождж – гэта
Прыгожая паэтычная з'ява.
Бывае, наадварот.
Дождж – гэта яшчэ й ваніты,
Калі ў неба баліць жывот.

* * *

Мой горад, мой голас выслізгвае,
Уцякае бясшумна, як пясок
Скрозь пальцы.
Час пацеркі-дні
На нітку жыцця нанізвае
Худымі дрыготкімі рукамі,
Баючыся, што абпаліцца.
Хуткаплыннасць палохае
Сваёй настойлівасцю.
Становіцца паранойяй,
Хаваецца ад лячэння.
Я хаваюся ад сябе
Пад пылам сваёй
Няўстойлівасці.
І плыву насуперак цячэнню.

* * *

Субтыльныя ліхтары
Павыцягвалі свае шыі.
Тужліва на поўню выюць:
У-у-у! Ы-ы-ы!

* * *

Я надзяваю берэт і зіма прыходзіць.
Фарбуе ўсё ў белы да небакраю.
Худых і знясіленых птушак з сабой прыводзіць,
Якія ў футры з пёркаў крылы хаваюць.
І цяжка далей ісці. Холадна.
Ніякай табе глыбіні і перспектывы.
Адно плоскасць.
Малюеш на завеяным шкле што-заўгодна.
Але пад уздзеяннем святочнай істэрыі
Выходзяць толькі пошлыя навагоднія матывы.
Сядзіш у старым фатэлі, уцягнуўшы шыю,
І мерзнеш мозгам.
Для нейкіх сумнеўных нашчадкаў
кансервуеш думкі.
Па небе плыве дым стагоддзяў
недаўгавечным абозам.
Зіме ўсё роўна.
Зіма нетаропка пляце
Свае ледзяныя карункі.

Алесь Усеня



...грэх здзейснены нават тады,
калі не прынёс нікому шкоды,
але ты пра яго проста падумаў...

# Мой лістапад...

## “І жнец, і на дудзе ігрэц...”

Колькі сябе памятаю, мяне ўвесь час падмывала нешта ствараць.

У трэцім класе, калі рыхтуецца “акцябрацкі” канцэрт, я прыдумляю тры невялікія п’есы пра алкаголікаў. З сябрамі рэпетуем іх у нашай хаце і вось ужо мы на сцэне вясковага клуба. На фоне вершыкаў пра Леніна і песенек кшталту “Пусть всегда будет солнце...” сюжэты пра алкаголікаў выглядаюць недарэчна, дарослыя гледачы пляскаюць у ладкі без асаблівай ахвоты, аднак і гэта цешыць маё самалюбства.

Школьнікі ўвогуле ладзяць для вяскоўцаў канцэрты ледзь не штомесяц, а да савецкіх святаў — дык абавязкова. Я стараюся “ўлезці” ў кожны нумар: і спяваю, і скачу, і чытаю вершы.

*Працяг. Пачатак у №5 (54).*

З вершамі атрымліваецца перабор, асабліва пасля таго, як пачынаю пісаць іх сам. Амаль праз нумар піянерважатая выходзіць на сцэну і аб’яўляе:

— Верш... Чытае аўтар!

У рэшце рэшт нехта не вытрымлівае і крычыць з залы:

— Ды надакучыў ужо гэты аўтар!

Мне трохі няёмка, але імпэт усё ж не згасае.

Да сваіх вершаў пачынаю прыдумляць мелодыі. Гітара, вядома, магла прыбачыцца мне хіба толькі ў сне, аднак жа "акампанемент" патрэбен. Па абодвух баках дошчачкі-гонты забіваю цвікі, выцягваю са старых бацькавых трусоў белыя палоскі-гумкі, а з іх, адпаведна, — пругкія "нітачкі-струны", якія прымацоўваю да цвікоў. Ну чым не гітара? Трынькаю на ёй і спяваю да тае пары, пакуль нехта з братоў не астудзіў імпэт, даўшы ў карак.

Потым з'яўляецца неадольная цяга да малявання. Дакладней, да перамалёўвання. Пазіраючы на які-небудзь партрэт, пераношу штрыхі на паперу. Атрымліваецца досыць падобна.

Аднаго дня вось гэткім чынам перамалёўваю партрэт... Леніна. Паказваю "свой твор" маці. Яна хапаецца за галаву:

— Парві і нікому пра гэта не кажы! Леніна ж абы-каму маляваць забаронена!

Ейныя словы адбіваюць у мяне ахвоту да малявання ўвогуле.

А найбольшае маё захапленне — футбол. Стадыён — побач з нашай хатай, і калі я чую, што "загупаў" мяч, кідаю ўсё, любы занятак, і маланкай сягаю на футбольнае поле — ажно пяткі мільгаюць. Менавіта пяткі, бо гуляем мы босымі і толькі ўжо пазней удаецца прыдбаць "кеты" (пра бутсы ніхто ўвогуле ніколі не чуў).

Улічваючы тое, што гойсаць па футбольным полі я пачаў задоўга да школы, праз нейкі час дасягаю пэўнага майстэрства. Мяне, пяцікласніка, бяруць у дарослую калгасную каманду (і там я забіваю больш за ўсіх галоў), а калі пачынаецца які-небудзь дзіцячы абласны турнір, па мяне з райцэнтра прысылаюць машыну...

Прыгадваючы свае творчыя дзіцячыя памкненні, часам думаю: вось каб не распыляўся на ўсё і ўсякае, засяроджваўся б на чым-небудзь адным, дык, можа, і атрымалася б з мяне штосьці людскае...

## Ціха сам з сабою...

Яшчэ адно маё захапленне — шахматы. Як ходзіць кожная фігура, засвойваю, мусіць, тады, калі толькі-толькі навучыўся хадзіць сам. Сапраўдных шахматаў дома, вядома ж, няма, але браты зляпілі фігуры з пластыліну, а расчарціць на паперы клетачкі дошкі — і зусім проста.

А ў школе дык і ўвогуле на шахматы — як эпідэмія. Мы, чалавек дзесяць, застаёмся пасля ўрокаў і ладзім турніры. Малады настаўнік гісторыі Валянцін Каролька, бывае, дае нам "сеансы адначасовай гульні". Не сказаць, што ён гуляе нашмат лепей, чым мы, аднак кожны цешыцца магчымасцю перамагчы настаўніка, да таго ж, гэта падобна на тое, што паказваюць па тэлевізары...

Газеты праводзяць конкурсы рашэння шахматных задач і эцюдаў, і ў кожным з іх мы ўдзельнічаем. Найчасцей удаецца знайсці правільнае рашэнне мне ды Міху, на тры гады старэйшаму. Паказваем яго астатнім, і ўжо кожны паасобку дасылае адказ у рэдакцыю. Газеты друкуюць прозвішчы і

месца жыхарства тых, хто правільна рашыў задачу, і атрымліваецца, што Пасека — не звычайная вёска, а сапраўдныя “Нью-Васюкі”...

У конкурсе газеты “Мінская праўда” мы з Міхам удзельнічаем толькі ўдваіх — надта складаныя заданні. Прычым мазгуем паасобку, адзін аднаму не падсабляем. І так атрымліваецца, што перад апошнім эцюдам толькі ў нас найбольшая колькасць ачкоў. Ён, гэты эцюд, мне не паддаецца. У школе прызнаюся ў гэтым Міху, проста так, мімаходам, а ён сціпла кажа:

— А я рашыў. Магу паказаць...

І Міха, і я дасылаем правільныя адказы. Але як жа дзіўна, калі ў газеце друкуецца прозвішча толькі аднаго пераможцы конкурсу — маё. Мусіць, ліст Міхі згубіўся недзе на пошце. Мне прыкра, няёмка, сорамна, не пакідае адчуванне, што тую перамогу (а заадно і другі разрад) я проста ўкраў...

Як толькі выпадае вольная хвіліна, саджуся за стол, расстаўляю фігуры, разбіраю партыі гросмайстраў ці рашаю задачы. Аднаго разу гэта заўважае суседка Ганначка і папярэджвае маю маці:

— Глядзі, Надзька, каб не было ў твайго сына чагосьці нядобрага з галавою... Сам з сабою гуляе ў шахматы!

“Сам з сабою” гуляю нават тады, калі мая стрыечная сястра выходзіць замуж, за вокнамі шуміць-грыміць вяселле. Я таксама мог бы там пачаставацца, аднак не іду, бо “Чырвоная змена” ў сваім конкурсе надрукавала надта мудрагелістую задачу-трохходоўку, і яна не паддаецца мне ўжо другія суткі запар. Калі вяселле пераходзіць у пахмелле, я, нарэшце, знаходжу правільныя хады і адчуваю такую асалоду — як маладзён пасля першай шлюбнай начы.

Ахоплены неадольным жаданнем нешта тварыць, сам пачынаю складаць шахматныя задачы, і добрыя два дзясяткі з іх нават друкуюцца ў газетах.

Штогод конкурс рашэння праводзіць і рэспубліканскае тэлебачанне. Мяне асабліва вабіць, што на экране паказвае заданні не хто-небудзь, а сапраўдны гросмайстар Кіра Зварыкіна, якая калісь змагалася за званне чэмпіёнкі свету.

Я паспяхова спраўляюся з усімі задачамі і эцюдамі і атрымліваю запрашэнне паўдзельнічаць у вочным конкурсе. Нас, чалавек дваццаць школьнікаў, садзяць за сталы ў адной са студый тэлецэнтра, даюць чатыры заданні і дзве гадзіны часу на іх рашэнне. Хто-ніхто яшчэ не паспявае расставіць фігуры, як я ўжо зграбаю іх са сваёй дошкі: двухходоўкі для мяне — як семкі. Эцюды таксама шмат часу не адбіраюць. А вось з трохходоўкай даводзіцца папацець...

Ужо праз гадзіну, самы першы, гатовы аддаць Кіры Зварыкінай рашэнні. Побач са мною, абхапіўшы рукамі чарнявую галаву і ўваткнуўшы ў шахматную дошку свой доўгі кручкаваты нос, карпее над той жа трохходоўкай хлапец, прыкладна мой равеснік. Ён заўважае, што я ўжо яе асіліў, і нечакана-нахабна просіць:

— Пакажы рашэнне...

Яно, рашэнне, — у мяне на дошцы, бо згрэбці фігуры я яшчэ не паспеў. Ківаю ў бок дошкі:

— Глядзі...

У рэспубліканскім конкурсе будзе два пераможцы, бо толькі яны рашылі тую трохходоўку...

Што кіравала мною, калі я дазволіў “спісаць” рашэнне таму чарняваму хлопцу? Можа, тое, што даць спісаць суседу па парце лічылася святым абавязкам? А магчыма, у падсвядомасці стрэмкаю сядзеў выпадак пра перамогу, якую я атрымаў, дзякуючы Міху?

Пазней я добра засвою і законы канкурэнцыі, і метады саперніцтва. Буду вымушаны іх прытрымлівацца. Як у шахматах, так і ў жыцці. Хоць і будзе трохі шкада, што мы, людзі, каб дасягнуць сваёй мэты, дабіцца перамогі, не даём адзін аднаму “спісваць”...

## Ад нянавісці — да любові

У першым класе я нахабна займаю апошнюю парту, бо яна чамусьці лічыцца ганаровай. А Таню Шматаву садзяць на першую. У яе гэткае ж прозвішча, як і ў мяне, аднак Усеняў больш чым паўкласа, нават ёсць яшчэ адзін Усеня Саша, таму Таню называюць Шматавай — па мянушцы ейнага бацькі.

Таня, мусіць, у мяне закаханая. Гэта заўважаюць і сябры. Аднак мне яна зусім не падабаецца: нейкага няпэўнага колеру, бліжэй да белабрысага, валасы, заплеценыя ў тугія коскі, вялікія, як у цяляці, вочы, нават трохі навыкаце, бы ў жонкі Леніна.

На ўроках Таня касавурыць свае лупэткі назад, на мяне, зрэдку нават наўмысна паварочваецца. Мне гэта дужа не падабаецца.

На святы я знаходжу ў сваёй парце віншавальныя паштоўкі, праўда, пустыя, без надпісу і подпісу, але ад каго яны, не сумняваюся.

З часам Таніна ўвага мне гэтак надакучвае і абцяжарвае, што я пачынаю яе проста ненавідзець. Нянавісць потым перарасце ў звычайную пагарду, але затое надоўга: да канца школьных дзён.

Пасля школы я сустрэнуся з Таняй толькі аднойчы. Яна раскажа мне пра свой няўдалы лёс, пра тое, што яна некалькі разоў пабывала замужам...

Часцей за ўсё мы шануем і цэнім тых, каго самі любім. І, на жаль, чамусьці з пагардаю ставімся да тых, хто любіць нас. А іх, паверце, намнога меней...

## “Не патрапіў Сашка ў цілівізар...”

З-за таго, што я ўмею чытаць не па складах, настаўніца Соф’я Аляксандраўна (а ў пачатковых класах яна адна), не абцяжарваючы сябе, даручае мне чытаць услых ці казку, ці невялічкае апавяданне, ці цітры ў дыяфільме (тэлевізара ў школе яшчэ няма). Узбадзёраны гэткім даверам, я стараюся чытаць з належнай інтанацыяй, або, як тады казалі, “з выразам”. Паступова так “наблатыкваюся”, што ў розных аглядах-конкурсах мастацкай самадзейнасці, не толькі раённых, але і абласных, заўсёды перамагаю сярод чытальнікаў. Яно, можа, з боку і сапраўды выглядае замілавана: клышаногі карапуз без аніякай разгубленасці дэкламуе ўрывак пра дзеда Міхеда, а для пераканаўчасці яшчэ і рукамі размахвае...

Калі з’яўляюцца ўласныя вершы, чытаю ўжо іх. І ў адзін год нават перамагаю ў рэспубліканскім конкурсе, за што мне даюць надта прыгожы дыплом. Рыхтуецца вялікі канцэрт пераможцаў, які пакажуць па тэлеба-

чанні. Галоўны рэжысёр, нізенькі, пузаты і вельмі ўжо мітуслівы дзяцюк, чамусьці ўсімі незадаволены і нервова на ўсіх пакрыквае. Вось і з тэатралізаванай кампазіцыяй пра Хатынь у яго не ўсё ладзіцца. Рэжысёр хоча, каб яна завяршылася ўзнёслымі паэтычнымі радкамі, і хоць вершаў пра Хатынь зашмат, аднак ніводзін з іх чамусьці не стасуецца з ягонай кампазіцыяй. Таму ён з пенаю на вуснах лаецца на маладзенькую асістэнтку, прымушае штогадзінна бегаць у бібліятэку.

Мне робіцца шкада і асістэнтку, і самога рэжысёра, які, здаецца, вось-вось самлее ад злосці, ды і нас, артыстаў, бо ўсе змушаны тлумна чакаць, пакуль тая кампазіцыя давядзецца да ладу. На дзясятак хвілінаў пакідаю залу і ў ціхім скверыку зарыфмоўваю радкі. Ажно тры слупкі “нараджаю”. (Верш, мусіць, сапраўды атрымліваецца ніштаватым, бо пазней яго надрукуюць і “Бярозка”, і “Работніца і сялянка”). Паказваю свой твор рэжысёру.

— Во, гэта тое, што трэба! — радасна і нечакана для мяне ўсклiквае ён.

Далей рэпетыцыі ідуць гладка. Усіх нас адпускаюць дамоў і прызначаюць дзень, калі трэба зноў прыехаць у сталіцу, для ўдзелу ў генеральнай рэпетыцыі, а ўжо назаўтра — у святочным канцэрце з прамой трансляцыяй па тэлебачанні.

Настаўніца, якая заўсёды суправаджае мяне, школьніка, на падобныя конкурсы, распавядае таму-сяму пра поспех “нашага вучня”. А неўзабаве ўжо ледзь не ўся вёска гамоніць, што “Цяцерчынага Сашку хутка пакажуць у цілівізары”.

У прызначаны дзень аўтобус са Старых Дарог у Пасеку не прыязджае. Такое бывае часцяком, дарога разбітая-размытая, нават не гравейка. Дый тэхніка, што, можа, яшчэ з вайны засталася, псуецца-ламаецца. Але ж трэба было сапсавацца аўтобусу менавіта ў гэты дзень...

Так-сяк дабіраемся да райцэнтра “на перакладных”, а ў Мінск, вядома ж, трапляем са значным спазненнем. Генеральная рэпетыцыя ў самым разгары. Падыходжу да рэжысёра. А ён са мною і размаўляць не хоча, зыркнуўшы, як на блыху, адно толькі і кідае раз’ятрана:

— У мяне ўжо ўся праграма звярстаная! Спазніўся — дык і не трэба ты мне!

Я разумею: нешта тлумачыць ці прасіць у яго, гэткага нярвовага, няма ніякага сэнсу. Можна было б нагадаць пра мой хатынскі верш, задзейнічаны ў канцэрце, запатрабаваць у адплату, каб знялі з праграмы і яго. Дык хіба ж чуў я тады хоць што-небудзь пра “аўтарскія правы”?

Прыгнечаны, нібы абпляваны, вяртаюся ў вёску і ў наступны дзень не вылажу з хаты. Вечарам транслюецца той самы канцэрт. Ніхто яшчэ не ведае, што мяне “ў цілівізары” не будзе, таму ў хаты, дзе ёсць прыёмнікі, набіваецца люд, бо для ўсіх гэта сапраўдная падзея, а некаторыя нават не вераць, што “наш, пасецкі, хлопчык — і ў цілівізары!”

Той, хто не верыць, мае рацыю, і пасля канцэрта, калі ўсе расчаравана разыходзяцца, зларадна ўхмыляецца:

— А што я казаў! Не з нашым рылам — дый у цілівізар!

Я яшчэ доўга-доўга буду пазбягаць людзей, асабліва дарослых, і хадзіць у школу агародамі...

А таму рэжысёру, пэўна ж, як у нас кажуць, не было ні ў ср...цы, ні ў

галаве, што недзе вясковы хлопчык ад сораму не можа заснуць начамі з-за ягонага выбрыку. Дый хіба многія з нас задумваюцца над тым, што сваім неабачлівым словам, кінутым мімаходзь, нязначным, як здаецца, учынкам часам прыносяць смутак і боль іншаму чалавеку?

## **“Доўгая дарога дадому”**

Зрэшты, “у цілівізар” я ўсё ж патрапіў.

Часопіс “Бярозка” адзначае юбілей, і мяне, як найбольш актыўнага юнага аўтара, запрашаюць на здымкі святочнай тэлеперадачы, прысвечанай гэтай падзеі.

У тэлецэнтры, нарэшце, знаёмлюся з Міколам Чарняўскім, супрацоўнікам “Бярозкі”, які ў сваіх лістах заўсёды падрабязна аналізаваў мае вершы, даваў слушныя парады. Ён уяўляўся мне сталым чалавекам, а наяве — зусім маладзён, яшчэ і трыццаці нямашака. У тэлеперадачы Чарняўскі ўдзельнічаць не будзе, аднак, як высвятляецца, спецыяльна прыехаў у студыю, каб пазнаёміцца са мною. Гэтая акалічнасць мяне вельмі здзіўляе і ўзрушвае, і надалей я буду ставіцца да яго не толькі як да прафесійнага дарадцы, але і як да зычлівага, шчырага чалавека.

Мой удзел у тэлеперадачы абмяжоўваецца чытаннем верша “Пасека”, прысвечанага роднай вёсцы. Апошняя ягоная страфа гучыць так:

Якое б ты шчасце ні знала,
Якой бы ні знала бяды,
Гасцей сустракаеш не джалам,
А мёдам пчаліным заўжды.

Вядомая спявачка выконвае песню “Бярозка” пад акампанемент аўтара, кампазітара Ігара Лучанка. Дарэчы, праз некалькі гадоў я даведаюся, што гэтая песня прысвечана касманаўту Уладзіміру Кавалёнку, а не часопісу “Бярозка”. І хоць тады яна прагучыць акурат дарэчы, мне потым будзе прыкра ад гэткай падтасоўкі.

Здымкі запазняюцца, і мне раяць пераначаваць у гасцініцы. Аднак Ігар Лучанок, які прачуў, што я жыву на Старадарожчыне, раптам прапануе:

— А я ж зараз якраз еду ў Старыя Дарогі. Папрасілі выступіць у мясцовай вайсковай часці. Ваякі нават і машыну прыслалі — вунь каля пад’езда чакае. Так што магу падкінуць цябе дадому.

Мне гэта даспадобы, і неўзабаве вайсковы “козлік” жвава падскоквае на шашы. У машыне, апроч кіроўцы, Лучанок, я і афіцэр, якога выправілі, каб суправаджаў кампазітара. Па дарозе Лучанок распавядае яўрэйскія анекдоты, пачутыя ад Іосіфа Кабзона, з якім напярэдадні меў сустрэчу, тлумачыць, што мой верш “Пасека” ўвогуле неблагі і можна было б напісаць на гэтыя словы песню, аднак вельмі ўжо дробная тэма. Я слухаю, разявіўшы рот, бо з такім знакамітым чалавекам ведаюся ўпершыню.

Вайсковы гарадок — на ўскрайку Старых Дарог. А да маёй вёскі — яшчэ сямнаццаць кіламетраў. І ўжо нават не вечар, а амаль што ноч. Высадзіўшыся каля КПП, Лучанок просіць афіцэра:

— Вы ж хоць падкіньце хлопца дадому, я абяцаў...

Афіцэр горача запэўнівае:

— Ды гэта само сабою.

Ён адклікае кіроўцу ўбок і нешта яму кажа.

Там, дзе канчаецца горад і дарога паварочвае да маёй вёскі, “козлік” раптам спыняецца. Кіроўца расчыняе дзверы.

— Пайшоў вон адсюль, засранец!

Я спрабую нагадаць яму пра абяцанне, дадзенае Лучанку, а ў адказ чую зусім раз’ятранае:

— Стану я на цябе, смаркача, бензін паліць! Вылазь, а не дык і ў карак дам!

Вымушаны падпарадкавацца...

А ноч, як на ліха, цёмная — хоць вока выкалі. І ўся дарога пралягае па лесе, толькі ўжо бліжэй да Пасекі на шляху месціцца яшчэ адна вёсачка.

Дзе іду, палахліва ўзіраючыся ў злавесныя постаці дрэў, а дзе прыспешваюся подбегам. Праўда, раблю гэта рэдка, бо тады шамаціць адзенне і здаецца, што нехта мяне даганяе...

Падкошваюцца ногі, калі шыбую міма могілак — абмінуць іх нельга ніяк. Мы, дзеці, заўжды палохаем адзін аднаго зданямі, і зараз здаецца, што адна з іх вось-вось выскачыць з-за плоту...

Калі, нарэшце, акрэсліваюцца першыя хаціны маёй Пасекі, ад радасці я раблю выснову, што “не джалам, а мёдам” яна сустракае не толькі гасцей, але і мяне самога...

Ужо ў дарослым жыцці яшчэ не аднойчы сустрэнуся я з Ігарам Лучанком, выдатным кампазітарам, аднак ніколі не распавяду яму пра “доўгую дарогу дадому”. І хоць Ігар Міхайлавіч быў зусім не вінаваты ў маім начным падарожжы, не мог прадбачыць, што ў “козліку” з намі ехалі казлы, чамусьці нашыя сустрэчы заўсёды і ў першую чаргу будуць асацыявацца ў мяне з тым выпадкам.

## Партрэт на сцяне

На пяцідзесяцігадовы юбілей старэйшая дачка дорыць мне даведку, якую ёй за немалыя грошы падрыхтавалі ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. На трох старонках выкладзены звесткі пра ўсю маю радню ажно да пачатку васямнаццатага стагоддзя. Даведка блытаная, няўцямная, і толькі дзякуючы таму, што шахматы прывучылі да аналітыкі, праз дзве гадзіны мне ўдаецца, нарэшце, скласці сваё генеалагічнае дрэва.

Становіцца зразумела, чаму ўсіх сваякоў па мацярынскай лініі абзываюць “ермаламі”. Быў у мяне такі прашчур, Ярмол, і меў ён жонку Палажку.

Прыгадваецца, што бацька неяк абмовіўся, быццам бы ягонага прадзеда звалі Раўлеем. Дзіўным мне тады здалося гэтае імя. А высвятляецца, што з цягам часу яго проста перайначылі, і быў мой продак Лаўрэем, а калі па-сучаснаму, дык, мусіць, Лаўрэнам.

А яшчэ развейваецца легенда, быццам бы нехта з нашых суродзічаў у царскай арміі даслужыўся ажно да палкоўніка. Стрыечны брат і дасюль носіцца з нейкім старым фотаздымкам, на якім адлюстраваны дзяцюк у вайсковай форме. Сапраўды, пляменнік Ярмола ў 1845 годзе перабраўся жыць у Менск, і там ягоныя сляды губляюцца. Так што “палкоўніцтва” — віламі па вадзе...

А ўвогуле ўся мая радня складаецца з Усеняў ды Караленяў, якія спрадвеку таўкліся ў Пасецы ці прыбіліся з суседніх вёсак.

Колькі сябе памятаю, у нашай хаце побач з партрэтам бабы Арынкі вісіць перазняты фотаздымак амаль маладога, з доўгімі-доўгімі вусамі, гладка зачэсанымі назад валасамі і ясным позіркам, чалавека. Калі трохі падрасту, бацька растлумачыць, што гэта мой дзед Прахор. А я ж да гэтага дзівіўся: чаму ва ўсіх па два дзяды, а ў мяне толькі адзін?

Бацька амаль нічога не раскажа мне пра дзеда Прахора, бо, на жаль, і сам мала што ведае пра ягоны лёс. Саслалі ў Свярдлоўскую вобласць, і адтуль прыйшла толькі даведка, што памёр ён напрыканцы вайны. Я адчуваю нейкую віну перад дзедам Прахорам, бо не магу занесці кветкі на ягоную магілу, не стаўлю свечкі ў царкве і ўвогуле пра яго ніколі не думаю, хіба што калі бачу партрэт. Чаму? Ды таму, што ён не расказваў мне казкі, як баба Арынка, не частаваў садавінай, як баба Каця, не пасвіў са мною статак, як дзед Павел. Вось і атрымліваецца, што дзеда Прахора для мяне як і не было...

У мяне ўжо ў самога ёсць два ўнукі і ўнучка. Яны пакуль што маленькія, і мне хочацца пажыць хоць яшчэ трошкі — толькі дзеля таго, каб застацца ў іхняй свядомасці, пакінуць у памяці хоць які-небудзь след. А інакш некалі абыякава пазірацьмуць на мой партрэт, як я — на фотаздымак дзеда Прахора...

## Першая сцежка і апошні шлях

Мяне вельмі засмучае, што ў нашым першым класе настаўніцаю будзе Соф'я Аляксандраўна. Вунь колькі іх, маладзенькіх, прыгожых, наехала ў школу са сталіцы, і чамусьці вучыць яны будуць усіх, толькі не мяне.

А Соф'я Аляксандраўна — нашая, вясковая, таму яна ніяк не стасуецца з маім уяўленнем пра настаўніцу. Яна трымае карову, як і жанкі, і, калі прыходзіць чарга, пасвіць статак. Яна гадуе свіней і курэй, выкідвае з хлява гной. У яе ёсць соткі, і яна пасля заняткаў у школе поўзае з кашалём па полі, выбіраючы бульбу... Што ж гэта за настаўніца? Звычайная вясковая жанчына.

Са сваім чалавекам, калгасным шафёрам, Соф'я Аляксандраўна жыве, як кот з сабакам, і пра гэта ўсе ведаюць. А яшчэ не сакрэт, што муж яе часта б'е, праўда, яна нікому і ніколі не жаліцца. У іх нават прозвішчы розныя: ён — Сакаў, яна — Шэўчык.

Але мінае час, я трохі разумнею і, наадварот, радуюся, што нашая настаўніца — менавіта Соф'я Аляксандраўна. У яе сумны мілагучны голас, які ніколі не пераходзіць у крык. На ўроку спеваў гэты голас робіцца зусім ціхім, хоць і прыгожым, адчуваецца, што спяваць ёй зусім не хочацца...

Нам даспадобы, што Соф'я Аляксандраўна не дужа карае, калі нехта не выканаў хатняе заданне. Яна ведае, што хтосьці быў змушаны грэбці сена, а камусьці давялося палоць буракі...

...Праз трыццаць гадоў, на саракавы дзень пасля смерці бацькі, я "раблю стол". Нехта з радні кажа, што сёння ноччу памерла Сонька — так называлі ў вёсцы Соф'ю Аляксандраўну. Я разумею, што мне трэба абавязкова развітацца з ёю, наведаць ейную хату, якая зусім непадалёку.

Але я ўжо трохі на падпітку, і лічу, што няёмка паказвацца на людзях у такім выглядзе.

Калі “БМВ” мінуе хату Соф’і Аляксандраўны, я загадваю свайму кіроўцу не спыняцца...

У царкве кажуць: калі шчыра пакаешся ў сваім граху, дык Бог табе яго прабачыць. Я ўжо даўно каюся за тое, што не правёў Соф’ю Аляксандраўну ў апошні шлях, хоць менавіта яна паказала мне першую сцяжынку ў жыцці. Толькі вось ад гэтага раскаяння чамусьці мне не становіцца лягчэй...

## Дуб

На нашых вясковых могілках расце магутны дуб. Дубоў тут увогуле багата — велічных, векавечных. Яны, як старажытныя ваяры, ахоўваюць спакой маіх продкаў.

Але гэты дуб адметны сярод усіх. Ён, відавочна, нашмат старэйшы за самую вёску, якая згадваецца ў летапісах ажно пяць стагоддзяў таму. Дуб, у адрозненне ад сваіх суседзяў, невысокі, каржакаваты, ён расце не ў вышыню, а ўшыркі, і нават чатыры мужчыны, счапіўшы рукі, не здолеюць разам яго абхапіць.

У вёску я цяпер прыязджаю два разы на год — толькі дзеля таго, каб наведаць магілы бацькоў. Затым абавязкова іду да дуба. Наколькі магу, абдымаю яго, гладжу далонню шурпатую, парэпаную, узараную глыбокімі барознамі кару. Мне здаецца, што дуб таксама ставіцца да мяне паблажліва: у вусцішны дзень пачынае лёгка шамацець рэдкаю, забранзавелаю лістотаю.

Такое адчуванне, што ў дубе жывуць душы ўсіх, хто пахаваны на могілках за многія вякі. І прытульваючыся да яго, я, здаецца, зліваюся з гэтымі душамі, набіраюся ад іх сіл. Кажу не дзеля метафары ці “прыгожага слоўца”. Пасля кожнае сустрэчы з дубам мне робіцца спакойна і злагадна — як пасля наведвання храма.

Калі жыццё бярэцца на схіл, я пачынаю задумвацца пра месца для магілы. Прыслухоўваюся да сваёй душы. Яна падказвае, што хоча перасяліцца пад гэты дуб, да роднасных душ продкаў. Але ж на могілках няма ніводнага “жывога” месца. Людзі тут пахаваныя, так бы мовіць, адзін на адным яшчэ з мінуўшчыны. Прыгадваецца: калі капаюць новую магілу, абавязкова натыкаюцца на косці. Звычайна іх вяртаюць у тую ж магілу, а хто-ніхто пакідае на паверхні. І валяюцца яны, беспрытульныя, абапал, пакуль не рассыплюцца ў труху...

Праўда, апошнім часам могілкі пашырылі — у той бок, дзе калісь былі бульбяныя ямы. Аднак, шчыра кажучы, не надта хочацца “ляжаць” наводшыбе, далёка ад дуба.

Пад ім, дубам, аблепленым магіламі, паміж магутнымі каранямі ад самага камля я знаходжу свежую лагчынку — на паўтара метра да плоту. Для магілы гэтага мала, але калі перанесці плот трохі бліжэй да дарогі, дык акурат тое, што трэба. Дошкі сатлелі, і я спадзяюся, што старшыня сельсавета не будзе супраць, калі я выдаткую сродкі на новую агароджу і на новым месцы. На гэтым і супакойваюся...

Аднак, калі ў чарговы раз наведваюся да дуба і з пяшчотаю любуюся на

“сваё” месца, раптам перад вачыма яскрава ўсплывае малюнак з дзяцінства. Хтосьці, як і я, мусіць, таксама наканаваў, каб яго пахавалі пад дубам. Магілу капаюць каля самага ствала — іншага месца няма. Тоўстае камлягатае карэнне даводзіцца пераразаць бензапілой. А яно, нават перарэзанае, усё адно чапляецца атожылкамі за глебу, супраціўляецца... Затым гэтае карэнне яшчэ доўга будзе валяцца побач са свежаю магілаю (ну акурат як тыя самыя косці!), пакуль нехта не складзе яго ў вялізную кучу...

І я ўсведамляю: калі ТУТ давядзецца капаць магілу для мяне, будзе гэткае ж жудаснае відовішча. Дый непашкоджаных каранёў у дуба амаль не засталося — акурат толькі тыя, што цягнуцца ў бок дарогі. І дуб, хутчэй за ўсё, проста засохне. І я канчаткова вырашаю: хай мая магіла будзе хоць на чужыне, але не пад дубам. Бо ў чым жа тады жыцьмуць душы маіх продкаў? І куды прыткнецца мая душа?

## Суніцы

Першыя грыбы-мікольнікі (або каласавікі) ўжо адышлі, ягады (гэтак у нас называюць чарніцы) пакуль што не паспелі, аднак мы, дзеці, усё адно цягаемся ў лес: уздоўж нядаўна пракладзенай электраліній пачалі ўспыхваць пунсовымі агеньчыкамі суніцы. У нашым гамузе я, чатырохгадовы, самы малы, хоць посуд маю не меншы, чым ва ўсіх: літровы слоік.

Спелых суніц пакуль што мала, дый збіраць іх не гэтак порстка, як чарніцы: да кожнай трэба сагнуцца, разгарнуць лісце, акуратна, каб не раздушыць, сарваць “агеньчык”. Таму наш посуд напаўняецца марудна, тым болей што суніцы цераз адну мы кідаем у рот.

І вось, нарэшце, з поўнымі слоікамі шыбуем па дарозе дадому. Ззаду, уздымаючы кураву (гравейка з’явіцца не хутка), нас даганяе рэйсавы аўтобус. Пасажыраў у ім нямашака, бо прыйшла касьба і вяскоўцам не да паездак у райцэнтр.

Побач з намі аўтобус спыняецца, з яго жвава выскоквае малады кіроўца.

— Ну, хто мне прадасць свае суніцы? — гучна пытаецца ён. — Дорага заплачу! Ажно дваццаць капеек.

Мае старэйшыя сябры чмыхаюць і шыбуюць далей. Адзін толькі я спыняюся ў задуменні. Дваццаць капеек — гэта ж такія грошы! Каб іх атрымаць, трэба здаць у магазін ажно тры курыныя яйкі — па сем капеек за штуку.

У паўдзённую спёку я надта сасмяг, і раптам прыгадваецца, што ў магазіне пляшка сітра, якога мне ўдалося паспытаць толькі двойчы, акурат і каштуе дваццаць капеек. І гэтая згадка конча ўплывае на маё рашэнне. Я высыпаю свае суніцы ў папяровы пакет кіроўцы, атрымліваю светлашэрую манету і з пустым слоікам даганяю сяброў.

— Прыдурак! — папракае Семкава Ніна, мая стрыечная сястра. — Ці ж варта было паўдня гарбаціцца за гэтыя капейкі?

“Гешэфт” і сапраўды атрымаўся не надта справядлівы, але я цешу сябе думкаю пра сітро...

Пройдзе час, мы павырастаем, і большасць з тых, хто хадзіў тады ў суніцы, застанецца ў вёсцы, будзе весці натуральную гаспадарку. А я з’еду

ў горад, у рэшце рэшт адкрыю “сваю справу”. І хоць далёка не кожная здзелка станецца для мяне выгаднай, аднак піць я ўжо буду не толькі сітро...

## Крышкі

Жанкі, якія працуюць у калгасе, маюць магчымасць аддаць дзяцей у яслі. Мая маці на працу не ходзіць, бо ў яе шмат клопатаў дома: чацвярых малых дзяцей трэба і дагледзець, і накарміць.

Зрэшты, яслі — надта гучна сказана. Акурат насупраць нашай хаты жыве старая Яўхіміха. Да яе і прыводзяць дашкольнікаў з усяе вёскі. Ніякіх нянечак ці выхавальніц, вядома ж, няма, адна толькі Кролька, якая жыве на Новым Шляху (так называецца вуліца), з раніцы прыходзіць сюды, каб гатаваць ежу.

Пакуль дзеці самі па сабе сноўдаюцца па двары ці на блізкім стадыёне, я — разам з імі, у адным кагале, і не адчуваю сябе непаўнавартым. Самота агортвае маё маленькае сэрца, калі Кролька кліча дзяцей на полудзень. Мне да Яўхіміхі нельга.

Я ўзбіраюся на высокую лаўку каля нашай хаты, быццам бы абыякава матляю нагамі, сам жа прагна ўнюхваюся ў спакуслівы пах згатаванай ежы...

Аднаго разу перад полуднем, калі я звыкла кіруюся да свайго двара, Кролька паблажліва прапануе:

— Ну хадзі ўжо сюды і ты...

Нічога адметнага ў той ежы няма — звычайныя крышкі, бульбяны суп, маці таксама яго гатуе. Чаму ж ён здаецца гэткім смачным?

У сваім жыцці я адведаю многа страў: тутэйшых і заморскіх, простых і далікатэсных. Аднак нішто не прынясе мне такую асалоду, як тыя крышкі.

А тады я перастану адчуваць сябе адарваным ад усіх, прыгнечаным, хоць Кролька болей і не пакліча мяне на полудзень....

## Жучок

Бадзяючыся па загуменнях ды навакольных абшарах, мы, чародка дашкольнікаў, знаходзім на бульбяным палетку цікавага жучка. Ва ўсякім разе такога ніхто з нас дагэтуль не бачыў. Па абрысах ён падобны на хвядарка, хіба што трошкі буйнейшы, і спінка ў яго не чырвоная з чорнымі кропелькамі, а жоўтая з палоскамі, таксама чорнымі. Мне прыгадваецца, што плакат з выявай гэтага жучка вісіць на дзвярах калгаснай канторы. Да таго ж, я, адзін з усіх, ужо ўмею чытаць і пераказваю сябрам, што на тым плакаце напісана. А напісана там, што жучок называецца каларадскім, што ён дужа небяспечны для бульбоўніка, і таму, хто яго знойдзе, будзе выдадзена грашовая прэмія.

Узрадаваныя гэткай знаходкай, мы асцярожна, каб не раздушыць, засоўваем жучка ў каробачку ад запалак і ўрачыста шыбуем да калгаснай канторы. Мы яшчэ не ведаем, колькі грошай нам належыць атрымаць, аднак спадзяёмся, што на сто грамаў “падушачак” хопіць.

Хоць і малыя, аднак мы ўжо ведаем, што грошы выдаюць у бухгалтэрыі, таму адразу кіруемся туды. У бухгалтэрыі (і гэта для калгаса не зусім звыкла) працуюць не жанкі, а два мае суседы: кульгавы, з накінутай на вока белаю стужкаю франтавік дзядзька Хведзя, якога ўсе завуць папростаму Хведзька, і Мікалай Сакаў, які мае мянушку Мурык — мусіць, за тое, што з яго ніколі лішняга слова не выціснеш.

Хведзька і Мурык з цікавасцю разглядваюць жучка: для іх ён таксама ў навіну. Калі ж мы пытаемся, якая ўзнагарода нас чакае ("Вунь жа на плакаце напісана!"), Хведзька спачатку рагоча, а затым дасведчана тлумачыць, што "такія расходы ў калгасным бюджэце не прадугледжаны".

— Так што забірайце сваю кузурку і на ганку раздушыце яе пяткаю, — раіць Хведзька.

"Кузурку" мы, вядома ж, забіраем. Аднак душыць яе не збіраемся. Нас саміх душыць крыўда. Дарослыя дзядзькі — і такія хлусліўцы. Навошта ж вешаць плакат, абяцаць прэмію, калі ў "бюджэце не прадугледжана"?

Ага, на плакаце напісана, што каларадскія жукі шкадлівыя для бульбы. Ну дык і мы таксама шкадлівыя — ад злосці. Нясём жучка на той жа палетак і выкідваем яго ў бульбоўнік...

Пазней, недзе праз пяць год, мы зразумеем, што, робячы гэтую "шкоду", прыдбалі клопату для саміх сябе. Бацькі будуць справоджваць нас на прысядзібныя загоны, каб мы сноўдаліся па разорах і абіралі з бульбоўніка, падобнага на маліннік, слізкіх чырвоных істот, а затым спальвалі іх, заліўшы саляркай...

## Пісьмы

Пасля таго, як пачынаю друкаваць вершы ў "Піянеры Беларусі" і "Бярозцы", паштальёнка штодзень носіць мне лісты з усяе рэспублікі. Спярша па два-тры, а потым і па дзесяць-дваццаць. Пішуць выключна дзяўчынкі. Прапануюць пазнаёміцца і завязаць перапіску.

Лісты я ўважліва чытаю, але адказу не даю нікому. Дый не дзіва: у мяне і так не стае часу на футбол і шахматы. А трэба ж яшчэ хоць пятнаццаць хвілінаў удзяліць вучобе — выканаць хатнія заданні.

Неяк пабачыўшы на стале стос гэтых лістоў, баба Каця недаўменна кажа:

— От дурныя дзеўкі. Каму яны пішуць? Пабачылі б, які тут смаркач...

Што праўда, то праўда. Мне яшчэ няма і чатырнаццаці, а ростам дык і ўвогуле змахваю на пяцікласніка.

Часам дзяўчынкі ўкладваюць у канверты і свае фотаздымкі. Ніякіх перавагаў ім гэта не дае. Але неяк трапляецца здымак вельмі ўжо пекнай асобы. І што мяне асабліва ўзрушвае — у яе на грудзях не "завязь", а самыя паўнавартасныя цыцкі...

Упершыню даю адказ. Зваротны ліст ад дзяўчынкі трымаю ў руках літаральна праз некалькі дзён. У канверце — яшчэ адзін фотаздымак, на якім яна ўжо ў купальніку. Мой інтарэс узрастае яшчэ болей.

Аднак нашае ліставанне доўжыцца не болей як месяц. Я даведваюся, што дзяўчынка ў школе вучыцца добра, што ейныя бацькі трымаюць

дзвюх кароў, трох парсюкоў і чатырнаццаць курэй, што дзевяцікласнік Антон увесь час спрабуе заціснуць яе ў кутку... Болей пісаць няма пра што. Таму і стаўлю я на гэтым тлустую кропку.

І ўсё ж, нарэшце, атрымліваю ліст, які не пакідае мяне абыякавым. Дасылае яго Віця Свідэрскі з Ліды — хлопец, старэйшы за мяне на год. Пісьмо разважлівае, удумлівае, аналітычнае. Адказваю яму з асалодаю. З часам нашае ліставанне перарастае ў сапраўднае сяброўства, хоць і завочнае. Мы пішам адзін аднаму пра ўсё, што хвалюе. Нас цікавяць аднолькавыя тэмы. Мы гуляем па перапісцы ў шахматы і шашкі, ладзім паміж сабой віктарыны. Нашыя лісты ўжо не ў канвертах, а ў бандэролях, бо кожны з іх — на тры вучнёўскія сшыткі. На такі "ліст" я з задавальненнем трачу цэлы дзень, а то і два, потым жа з нецярпеннем чакаю зваротнага.

Нечакана перапіска абрываецца. Ад Віці — ні слыху, ні дыху. Я не магу нічога зразумець. І нават трохі крыўдую.

Праз нейкі час атрымліваю ліст з двума словамі: "Віця памёр".

Ужо ў Мінску, калі стану студэнтам, даведаюся ад Ані Клышка, дачкі знакамітага пісьменніка, што Віця ад нараджэння невылечна хварэў і добра ведаў, што жыццё ягонае вось-вось скончыцца. Мяне гэта вельмі здзівіць: ён жа, нягледзячы на нашую еднасць душ, ніводным словам не абмовіўся ў лістах пра тую хваробу. Мусіць, не жадаў мяне засмучаць, хацеў, каб нашае ліставанне было паўнавартым, не ператварылася ў "плач Яраслаўны"...

Цяпер лісты мала хто піша. Інтэрнэт запаланіў інфармацыйную прастору. Зносіцца можна імгненна і бясконца. У нетрах Інтэрнэта словы і думкі ўзнікаюць і знікаюць... Калі б у мяне не захаваліся лісты Віці Свідэрскага, ці згадваў бы яго я да гэтага часу?..

## Здзекі

Паздзекавацца над настаўнікамі — для школьнікаў чамусьці найвялікшая асалода і доблесць. Прыклад падаюць старэйшыя.

Малады настаўнік матэматыкі сустракаецца з вясковаю дзяўчынаю. Па вечарах гуляюць "пад ручку", употайкі цалуюцца. Старшакласнікі, згаварыўшыся, цёмнай ноччу падпільноўваюць парачку на пустцы, становяцца ў кола вакол закаханых і дружна пачынаюць... вульгарна кажучы, "адліваць". Характэрныя гукі не пачуць немагчыма. Але настаўнік зрабіць нічога не можа. Адно, што цёмна — нікога не пазнаеш, другое, што ўсе воддаль — нікога не дагоніш...

Дзвюх настаўніц, учарашніх выпускніц пединстытута, засяляюць у закінутую хату, папярэдне зрабіўшы ў ёй рамонт. Спакойна заснуць яны не могуць ніводнае начы: нехта ўвесь час стукае ў вакно. Выскачыць каторая з іх у двор — а нікога няма. І так — цэлы вечар.

Дзеці прыдумалі няхітрае прыстасаванне: да ніткі, замацаванай над акном, прычапілі бульбіну. Самі ж заселі ў агародзе, метраў за трыццаць ад хаты, трымаючы другі канец ніткі. Варта яе нацягнуць, як бульбіна ўздымаецца ўверх і яе не відно, асабліва ў цемры. Калі ж рытмічна адпускаць-нацягваць, бульбіна пачынае барабаніць па шкле...

На ўроках, асабліва ў нашым класе, — поўны бардак. Маладзенькіх

настаўніц ніхто не слухае: гуляюць у карты, запускаюць папяровыя самалёцікі. (Пры настаўніках-мужчынах, праўда, такога не вытвараюць, бо ён можа і ў карак даць).

Асабліва здзекуецца з настаўніц Коля-Узбек. Ёсць у яго і “каронны нумар”. Калі настаўніца схіляецца над чыёй-небудзь партай, каб нешта растлумачыць вучню, Узбек, які сядзіць ззаду, асцярожна, не дакранаючыся, запускае сваю руку пад ейную спадніцу. У класе — рогат. А настаўніца нічога не разумее...

Я ў здзеках ніколі не ўдзельнічаю. Больш за тое, мне вельмі шкада гэтых маладзенькіх мінчанак, якія змушаныя тры гады адпрацоўваць у варварскіх умовах, далёкіх ад сталічных, цывілізаваных.

Калі зусім не стае сілы назіраць за здзекамі, я ўсчыняю з Узбекам бойку — проста ў класе. Вучні, апрача, можа, дваіх-траіх, заўсёды на маім баку, хоць у бойку не ўступаюць. Узбека ўсе баяцца, бо ён сапраўды дужы і можа без дай прычыны любому пусціць крывянку. Узбек толькі мяне асцерагаецца чапляць.

Аднаго разу маладую настаўніцу, хоць і міжволі, крыўджу і я.

Адказваючы па нейкай тэме, замест слова “яўрэй” ужываю больш звыклае для мяне — “жыд”. Менавіта гэтае слова я найчасцей чуў ад вяскоўцаў, ад дзеда, і яму не прыдавалася якога-небудзь пагардлівага, ганебнага значэння. Бацька дык і ўвогуле са спагадаю прыгадваў, што да вайны ў вёсцы жылі дзве жыдоўскія сям’і, а Іцка, сусед, быў ягоным сябрам. Шкада, казаў бацька, што пасецкіх жыдоў расстралялі...

Настаўніца спачатку здзіўлена, а затым з абурэннем пазірае на мяне, і ў ейным паглядзе я чытаю: “Няўжо і ты гэткі ж, як і ўсе твае сябрукі? Няўжо і ў цябе такое ж жорсткае сэрца? А яшчэ вершы пішаш...”

Яна ўскліквае:

— Гэтым словам карысталіся фашысты!

Затым садзіцца, здымае акуляры, утыкаецца тварам у свае рукі на стале і пачынае бязгучна... плакаць.

Ейныя слёзы мяне вельмі кранаюць, аднак я ніяк не магу ўцяміць, чаму гэтае слова абурыла менавіта яе. Толькі пазней даведваюся, што маладзенькая настаўніца акурат і была яўрэйкаю.

Сумна, але факт: людзі, і не толькі дзеці, часта робяць адзін аднаму паскудства, а бывае, што і здзекуюцца. І, мусіць, няма вялікай розніцы — свядома ці ненаўмысна: усё адно баліць...

## Скачок

Дзясяты клас, блізка выпускныя экзамены. Хварэе настаўніца біялогіі, у нас вольная гадзіна, мы бавім яе хто як хоча, адно што не выходзім з класа.

Немаведама, па якой прычыне я даводжу Васілю Петрушэню, што магу хоць зараз скочыць з другога паверха на асфальт.

— Паспрачаемся, што не зможаш! — недаверліва кажа Васіль.

— На што?

— На пляшку гарэлкі!

Тая пляшка для мяне не вялікі набытак, хоць смак гарэлкі я ўжо добра

ведаю... Пачынаю разумець, што ўчынак будзе выглядаць бязглузда, але адступаць няма куды: за нашаю спрэчкаю сочыць увесь клас. Дзяўчынкі дык і ўвогуле пазіраюць з нейкім выклікам: ну што, зможаш ці пустазвон?

Тут і думаць няма чаго: калі зараз не саскочу, мой аўтарытэт сыдзе да нуля.

І я лезу на падваконне...

Настаўніца фізікі Ніна Скалабан, якая вядзе ўрок у класе на першым паверсе і, даўшы заданне дзецям, пазірае ў вакно, ледзь не губляе прытомнасць: зверху ляціць чалавечае цела і плюхаецца на асфальт. Затым крочыць да дзвярэй...

Менавіта фізічка ўсчыняе вэрхал — а так бы пра мой скачок ніхто і не ведаў. Дырэктар школы Уладзімір Ліцяеў, які даўно шукае падставу, каб мяне ўесці, на педсавеце прапануе паставіць мне двойку па паводзінах. А гэта значыць, што атэстат атрымаць я не змагу — толькі даведку пра тое, што "праслухаў курс па праграме сярэдняй школы". За мяне заступаюцца іншыя настаўнікі...

З вышыні пражытых дзён некаторыя нашыя ўчынкі здаюцца бяссэнсавымі і нават небяспечнымі. І ў той жа час разумееш: калі б не было гэтых учынкаў, дык не было б і цябе самога, сённяшняга...

## Самагон

Будзе недарэчна, калі я, нарадзіўшыся на Старадарожчыне, не распавяду пра знакаміты мясцовы самагон.

Пра яго ходзяць пагалоскі, так бы мовіць, "ад Буга да Курыл". Яшчэ і цяпер пануе ці то казка, ці то быль, быццам бы пад час нейкага з'езда кіраўнік дзяржавы Мікіта Хрушчоў запытаўся ў беларускіх дэлегатаў:

— А что, стародорожская самогонка не изжита?

— З жыта, з жыта! — горача запэўнілі яго делегаты.

Увесь працэс — ад падрыхтоўкі брагі да струменьчыка першаку — ідзе на маіх вачах.

Найперш трэба неяк раздабыць дрожджы. У вясковай краме іх не купіш — дэфіцыт. Хіба што ў райцэнтры калі-нікалі ўдаецца разжыцца адным-двума пакецікамі-брускамі. Яны ў літаральным сэнсе амаль што на вагу золата.

(Калі я ўжо стану студэнтам і на канікулах наведвацьму бацькоў, яны кожны раз абавязкова будуць прасіць мяне прывезці дрожджы. Я купляцьму іх па дзесяць кіло — тым лікам і для суседзяў).

На падваконнях, засланых старымі газетамі, прарастае зерне. Калі вытыркаюцца зялёныя парасткі, маці перамолвае зерне ў муку. Яна саладкаватая, таму і называецца — солад.

Апошнім часам солад часцей замяняюць цукрам ці цукровымі буракамі. І гарэлка атрымліваецца адпаведная — цукроўка. Яна не лезе ў горла, а назаўтра баліць галава і лезуць на лоб вочы. Хлебны самагон ад цукроўкі адрозніць лёгка — варта толькі расцерці далонямі кроплю-другую. Хлебная і сапраўды пахне хлебам — як свежы, толькі што спечаны, бохан.

У вялізных чыгунах маці варыць у печы бульбу, перасыпае яе ў цэбар. Тут ужо да працэсу далучаемся і мы, дзеці: арудуем сечкай і таўкачамі.

У стопцы стаіць аграмадная дзежка — літраў, можа, на трыста. Цеста, вада, дрожджы і солад месцяцца ў ёй да тае пары, пакуль гэтае месіва не пачынае вуркатаць, булькаць і пахнуць водарам буякоў. Бацька робіць выснову, што “брага ўзышла”, і рыхтуецца да наступнага дзейства...

Пазней я пабываю ў розных мясцінах Беларусі, але нідзе не пабачу гэткую брагу, як у нас. Усюды яна рэдзенькая — амаль што вада. Нездарма некаторыя апойкі жлукцяць яе яшчэ да таго, як атрымаецца самагон. А нашую брагу не вып’еш. Яе можна хіба што з’есці. Брага густая, вязкая, падобная да кашы.

На ўсю вялізную вёску ўсяго два самагонныя апараты. Месцяцца яны далёка ў лесе і маюць сваіх гаспадароў — Бельцавага Валодзю і Калабка. У таго ці ў другога трэба запісацца ў чаргу ледзь не за месяц. Апараты працуюць бесперапынна, і днём, і ноччу — як мартэн. Таму брагу трэба завезці загадзя, бо калі празяваеш чаргу, дык ніхто ўжо табе не саступіць.

Зараней варта завезці і дровы. Хоць гэта і гучыць трохі смешна — “дровы ў лес”, — аднак без гэтага не абысціся, бо ўсе навакольныя сухастоіны ўжо даўно паваленыя.

Цёмначы бацька запрагае каня. Яму гэта лацвей, бо працуе ў лясніцтве, якое акурат трымае трох жарэбчыкаў. Іншыя дамаўляюцца з калгасным конюхам.

Усцягнуць на калёсы дзежку з брагаю дапамагае дзед Павел. Яе абкідваюць вяроўкамі, прывязваюць да драбінаў. Бацька з асцярогаю, агародамі, мінаючы калдобіны, кіруе ў лес...

Апарат абавязкова павінен месціцца каля вады. Вось ужо сапраўды: у гэтай справе без яе “і ні туды, і ні сюды”. Азярцамі і рачулкамі наш край Бог не надзяліў, таму звычайна падганяецца экскаватар, які выкопвае невялічкую копанку.

Калі зірнуць на апарат зверху, дык ён нагадвае літару “л”, а калі ўмоўна выцягнуць яго ў адну простую лінію, дык зойме метраў дваццаць — не меней.

Пачынаецца апарат з катла — металічнай двухсотлітровай бочкі з-пад саляркі, у якую заліваецца вада. Пад катлом бесперапынна гарыць агонь. Вада закіпае, і пара ад яе па доўгай-доўгай трубе таўшчынёй з дзіцячую руку рухаецца ў бражнік.

Бражнік — герметычная бочка. Праз квадратную дзірку зверху сюды заліваецца брага. Апошнім часам яе ўжо возяць да апарата не ў вялізнай дзежцы, а ў саракалітровых малочных бітонах, якія крадуць на калгаснай ферме. У бражнік можна ўліць бітон ці нават паўтара — адзін “затор”, пасля чаго ў дзірку абухом сякеры забіваюць затычку, абматаную анучаю.

Мой дзед Павел ніколі не гнаў самогон, даручаў гэта зяцям ці сынам, бо сам панічна баяўся міліцыі. Аднае начы дзеду ўсё ж давялося пайсці ў лес, паўдзельнічаць у “працэсе”. І трэба ж такому здарыцца менавіта ў гэты раз: залішне напампаваная пара вырвала ў бражніку днішча, і ён узляцеў угару, як ракета на Байкануры (бражнік па абрысах акурат і нагадвае ракету). Гарачая брага абляпіла дзеда з ног да галавы, і затым баба Каця цэлы месяц рабіла яму прысушкі ды прымочкі ад апёкаў. Зрэшты, гэткі канфуз можна спісаць хіба што на недасведчанасць дзеда, бо ўсе аг-

рэгаты ў апараце надзейныя, праверяныя вякамі, і пра падобныя выпадкі я нешта болей не чуў.

У самы верх бражніка ўмантававана яшчэ адна труба — “сабака”. Двойчы выгнутая, яна і сапраўды нагадвае сабаку, які стаіць на задніх лапах. Другі яе канец утыркаецца ў сухапарнік — драўляную бочку каля самае зямлі, копію бражніка, толькі разоў у дзесяць драбнейшую. У сухапарнік цераз “сабаку” пампуецца спіртаносная пара, і ён “зацугляны” металічнымі абручамі, бо ціск унутры яго, мусіць жа, неймаверны. Знізу ў сухапарніку ёсць закаркаваная дзірачка. Калі заліваецца новы затор, корак дастаецца, каб выпусціць адпрацаваную, сівушную пару. Яна вырываецца на волю са свістам, і крый Божа своечасова не адкінуць руку...

Тонкай меднай трубачкай сухапарнік злучаны з дзежачкай, замацаванай над ім і напоўненай вадою (трэба сачыць, каб яна была халоднаю). У дзежцы знаходзіцца, бадай, самы галоўны агрэгат — “талерка”. Менавіта гэтае прыстасаванне розніць старадарожскі апарат ад усіх астатніх, менавіта дзякуючы яму мясцовы самагон, чысты, як сляза дзіцяці, і без аніякага сівушнага паху, стаў знакамітым на ўсю краіну.

Неяк мне давялося пабываць у Дудутках, што пад Мінскам. Там наведвальнікам музея прапаноўваецца пакаштаваць “сапраўдны старадарожскі самагон” — адразу з апарата, які працуе на вачах у экскурсантаў. Усё гэта мана! Апарат хоць і нагадвае старадарожскі ў мініяцюры, але ў ім няма шака галоўнага, самага адметнага — “талеркі”. Знешне яна сапраўды нагадвае запаяныя адна да адной медныя талеркі. Што там у сярэдзіне, шчыра сказаць, я не ведаю. Ды і ўвогуле гэта мала каму вядома, таму і ёсць апараты толькі ў двух гаспадароў. Чуў, што “талерку” не адзін тыдзень вырабляе ў калгаснай майстэрні самы кваліфікаваны зваршчык... “Талерка” ачышчае спіртавую пару ад сівушнага масла.

Міліцыянты добра ведаюць, у якіх месцах працуюць лясныя “мартэны”, і стараюцца іх не чапаць, хіба што раз-пораз наведваюцца сюды, каб затарыцца каністраю першаку. І толькі калі які-небудзь мясцовы зламыснік-аблуда напіша заяву ў райаддзел і на яе трэба неяк рэагаваць, робіцца начны рэйд. Самагоншчыкі, якім не пашанцавала, хаваюцца ў лесе. І калі яны паспяваюць прыхапіць з сабою ёмістасці з гарэлкай, міліцыянты (а гэта тыя ж вясковыя хлопцы) “запрагаюцца” самі, пакуль ад пуза не нагоняць гарэлкі. Дык вось напрыканцы, здаволіўшыся, апарат яны не разбіваюць, не рушаць, хіба што для блізіру трохі падзюбаюць сякерай у “кацёл”. Галоўнае ж — міліцыянты забіраюць з сабой “талерку”, сэрца апарата, аднавіць якое ўдасца не хутка. Зрэшты, праз дзень-другі гаспадар апарата “выкупляе” ў міліцыянтаў гэтае “сэрца” за добрую бутлю самагону.

З “талеркі” пара імкнецца ў “халадзільнік” — невялікі чан на адным узроўні, гэта значыць, звысака. Трубачка ў ім завіта ў спіраль, а сам чан запоўнены халоднаю вадою, якую трэба два разы на затор абнаўляць, бо яна награваецца. Гэтую, гарачую ваду ашчадна заліваюць у кацёл — меней спатрэбіцца дроў.

У “халадзільніку” пара кандэнсуецца і па той жа трубцы ўніз, у яшчэ адну бочачку пад назваю “венджы” цячэ ўжо самагон. У яе ўторкнуты абматаны ватаю жалабок, з якога цурчыць “гатовы прадукт”.

Струменьчык павінен быць гэткім жа, як суворая нітка. Калі ён танчэйшы, варта падкінуць дроў да катла. Калі ж цурчыць, як малако з каровінай цыцкі, трэба тэрмінова гэтыя дровы адграбаць. Бывае, што даводзіцца вырываць затычку з сухапарніка, інакш можа так ірвануць — не раўнуючы як атамная бомба...

Спачатку пад струменьчык падстаўляюцца паўлітровыя пляшкі — каб аддзяліць пяршак, самую чыстую гарэлку моцнасцю за 90 градусаў. Яго скарыстоўваюць на лекі і настойкі. Неяк я прывёз слоік першаку ў студэнцкі інтэрнат. Негр, які жыў са мною ў адным пакоі, прынюхаўшыся, усклікнуў:

— О, народный водка!

І папрасіў наліць яму як паболей — цэлую шклянку-“хрушчовік”. Ну, каўтай, калі гэтак хочацца... Тамтэйшая “народный водка”, мусіць, не мацнейшая, чым піва, таму негр і перакуліў у горла адразу ўвесь “хрушчовік”. Ратаваць яго давялося цэлую ноч...

Акурат калі пачынае ісці пяршак, да апарата наведваецца ягоны гаспадар (як быццам носам чуе!). Першую паўлітэрку ён прапускае (у ёй самагон “дзікі”), а другую забірае сабе. Гэта аплата за эксплуатацыю апарата. Тут увогуле і ўдзень, і ўначы аціраюцца-боўтаюцца вясковыя апойкі, аматары “халявы”. І кожнаму трэба наліць стограмовік-другі, інакш можна не абрацца бяды — “стукне” ў міліцыю.

Калі пяршак сыходзіць, пад струменьчык падстаўляецца трохлітровы слоік. З аднаго затору атрымліваецца да дзесяці літраў элітнага, узорнага самагону моцнасцю не меней як шэсцьдзясят градусаў.

Затым пачынае цурчэць сівуха. Тут ужо можна падкінуць пад кацёл дроў. Усю сівуху маці аддае бацьку — як “заслужаную ўзнагароду”. Таму ён, нягледзячы на звягу, імкнецца як мага зацягнуць “працэс”, не залівае новы затор, каб мець для сябе добры запас. (Тая сівуха, дарэчы, калі яе падпаліць, яшчэ гарыць сінім полымем, і не менш як два тыдні бацька будзе ў запоі — да тае пары, пакуль сівуха не скончыцца).

У бражніку знізу вырываецца яшчэ адна затычка, і адпрацаваная брага выліваецца ў адстойнік — выкапаную побач яму. Адтуль брага вычэрпваецца вёдрамі, заліваецца ў дзежку ці ў парожнія бітоны. Ёю можна цэлы месяц карміць свіней.

Самагонных баек у народзе ходзіць шмат. Адна з іх нарадзілася на маіх вачах. Міліцыянты па наводцы наведаліся да нашага суседа Музыкі — ён якраз учыніў брагу. Пакуль сам Музыка “загаворваў зубы” міліцыянтам, ягоная жонка Ева паспела выліць брагу ў карыты і выпусціла ў двор парасят. Вобшук працягваўся доўга, усё перавярнулі дагары і ў хаце, і ў стопцы, і ў хляве — а нічога нямашака. Збянтэжаныя і расчараваныя міліцыянты накіраваліся ўжо да свайго “козліка”, як раптам адзін з іх скмеціў, што парасяты чамусьці ходзяць па двары зігзагамі ці ўвогуле валяцца з капытоў. Тады і прынюхаліся да “цеста” ў карытах...

Тых лясных апаратаў і таго знакамітага самагону, пра які я распавёў, у вёсцы цяперака няма. Пад час вяселляў, хрэсьбінаў і хаўтураў на сталы выстаўляецца “купленая” (раней гэта лічылася ганьбай, вяскоўцы аддавалі перавагу “свойскай”). Бо каб атрымаць вартасны самагон, трэба прыкласці шмат сілаў. Тыя, хто не ленаваўся гэта рабіць, даўно састарэлі, а большасцю

дык і паўміралі. У вёсцы шмат чужых, прышлых, а моладзь захлынаецца танным “чарнілам”...

Але прыстойны самагон, калі дужа пастарацца, у вёсцы можна знайсці. Хто-ніхто ўсё ж трымае “падпольна” невялікі апарацік для ўласных патрэб. Напрыклад, мой сусед цераз вуліцу, трохі старэйшы за мяне, усё неабходнае абсталяванне здолеў прыладкаваць у сваёй стопцы — па перыметры ўздоўж сцен. Неяк жа ўціснуў...

Мае зямлякі-палешукі спакон веку гналі знакамітую гарэлку, перадавалі ейныя сакрэты з пакалення ў пакаленне. Старадарожскі самагон, без перабольшвання, можна лічыць нацыянальным скарбам, які, на жаль, хутка будзе незваротна страчаны. Дык хай жа застанецца хоць гэтыя ўспаміны жывога сведкі і непасрэднага ўдзельніка таго “працэсу”...

## Клятва крывёю

Набліжаюцца летнія канікулы, і сябры-дзевяцікласнікі падбіваюць мяне пайсці на “гулі” ў суседнюю вёску Рухава. Яе яшчэ называюць “Кітаем”, бо там шмат моладзі, у кожнай сям’і — па пяць-шэсць дзяцей.

У Рухаве я знаёмлюся з дзяўчынкай, на год маладзейшай за мяне. У яе пульхныя панадныя вусны, чамусьці сумныя шэрыя вочы і паўнаватая, моцна збітая фігурка. У першы ж вечар мы шмат цалуемся, я нават асмельваюся дакрануцца да ёйных не зусім спелых грудзей... Дамаўляемся пра сустрэчу праз тыдзень.

Лета мінае, як адно імгненне. Закаханы, як кажуць, па самае вушы, я ледзь не кожны вечар тупаю сем кіламетраў да Рухава, каб да самай раніцы мілавацца з Кацяй Каўгарэняй. Бывае, хто-небудзь з сяброў пазычае веласіпед, і мне ўдаецца зберагчы час і не натрудзіць ногі.

У Рухаве ёсць толькі васьмігодка, таму давучваюцца “кітайцы” ў нашай вёсцы. Так што восенню я магу сустракацца з Кацяй і ўдзень, і ўначы. Ні раней, ні потым я не пісаў столькі шмат вершаў.

Нашае каханне ўзаемнае і настолькі моцнае, што аднойчы мы клянёмся роўна праз чатыры гады, 29 лістапада, абавязкова пажаніцца. Я прапаную замацаваць клятву пісьмова, прычым крывёю. Каця пагаджаецца.

Дома я доўга разважаю, як жа “здабыць” з сябе кроў (не хапае розуму, каб праткнуць палец іголкай), і ўрэшце рэшт паласую нажом па далоні...

І сваю, і ейную клятвы крывёю я прапаную захоўваць Каці.

Каця застаецца давучвацца ў дзясятым класе, а я паступаю ва ўніверсітэт. Там столькі забаў і спакус! Міжволі атрымліваецца, што Каця “вылятае” ў мяне з галавы. І на зімовых канікулах я ўжо да яе не падыходжу, больш за тое, заляцаюся да маладзенькай настаўніцы, учарашняй выпускніцы педінстытута, якая акурат і выкладае для Каці фізіку. Уяўляю, як горка маёй былой каханцы на гэтых уроках...

Размова з Кацяй у нас усё ж адбываецца. Яна мімаходзь абмаўляецца, што згубіла нашыя крывавыя клятвы. Дагэтуль, прызнацца шчыра, мяне грызла сумленне за здраду першаму каханню, а тут я нібы хапаюся за саломінку, знаходжу для сябе апраўданне:

— Вось таму, што ты згубіла клятву, я маю маральнае права яе парушыць, — анігадкі даводжу я Каці, а яна скіроўвае долу пакутлівы пагляд...

Мы яшчэ двойчы сустрэнемся ў Мінску, калі яна, скончыўшы вучылішча, стане працаваць на камвольным камбінаце, і я рабіцьму выгляд, што ні ў чым не вінаваты. Хоць душу і дагэтуль вярэдзіць стрэмка: здрадзіў я не першаму каханню, а самому сабе, уласнай крыві...

## На раздарожжы

Вырашаю яшчэ ў восьмым класе: буду журналістам. Фізіка ці алгебра для мяне ўжо не існуюць, засяроджваюся толькі на літаратуры і гісторыі, бо па іх трэба будзе здаваць іспыты на журфак.

Першы ўступны экзамен ва ўніверсітэце акурат па гісторыі. Я разлічваю на цвёрдую пяцёрку, бо ўвесь падручнік вывучыў ледзь не назубок.

Выкладчык, які прымае экзамен, не падабаецца мне адразу, нават знешне: ненатуральна рыжыя валасы на галаве, якія ніяк не стасуюцца з сівымі вусамі, халодны, шкляны позірк... Мусіць, нашая непрыязнасць узаемная. (Яно і сапраўды бывае: толькі пазнаёмішся з чалавекам, яшчэ словам з ім не перакінуўся, а ўжо чамусьці разумееш, што ён — “не твайго поля ягада” і стасункаў з ім не атрымаецца).

Я як след адказваю на пытанні па білеце, аднак экзаменатару відавочна не хочацца ставіць мне пяцёрку, і ён пачынае задаваць дадатковыя, “ганяць” па дробязях. Паказваю дасведчанасць і тут, пакуль ён не пытаецца, на якім востраве адмірал Фёдар Ушакоў браў крэпасць у нейкім там годзе. Цікава, што і гэта я ведаю, аднак (ад хвалявання з усімі так здараецца), востраў на імгненне вылятае з галавы. Адно толькі і кажу:

— Назва вострава — з пяці літар. Першая “к”, апошняя — “у”...

— Мы што тут, крыжаванкі разгадваем? — раз’юшана падхопліваецца з месца выкладчык. — Гэты востраў называецца Корфу!

І з задавальненнем, нават з асалодаю ставіць мне трояк...

Здаваць іспыты далей амаль няма сэнсу: па конкурсе я ўсё адно не прайду. На апошнім экзамене, па беларускай літаратуры, я па-заліхвацку зарыфмоўваю адказы, і Іван Іванавіч Сачанка, які сядзіць насупраць і трымае маю “залікоўку”, са шкадобаю кажа:

— Было б у мяне права — паставіў бы табе шасцёрку. А інакш шанцаў няма...

Для паступлення на журфак мне акурат і не хапае аднаго бала.

У апошні раз іду на факультэт, каб забраць свае дакументы. У прыёмнай камісіі мне кажуць, што іх забраў дэкан Рыгор Васільевіч Булацкі, і што ён хоча са мною пабачыцца.

Рыгор Васільевіч прапануе мне прысесці, сам жа безупынна тупае па другі бок стала. На ім, на гэтым стале, я заўважаю свой агульны сшытак з пяццю дзясяткамі надрукаваных у газетах і часопісах вершаў, цэлы стос маіх дыпломаў і грамат...

Нашая размова доўжыцца амаль гадзіну. Дэкан мяне заспакойвае, даводзіць, што нічога страшнага не здарылася і ў наступным годзе можна зрабіць яшчэ адну спробу. Расчулены, я хачу забраць свае паперы з ягонага стала, але Рыгор Васільевіч супыняе:

— Пачакайце, хай яны пабудуць у мяне...

Дамоў вяртаюся прыгнечаны і знясілены. Прадчуваю, як будуць

зласлівіць мае нядобразычліўцы і некаторыя настаўнікі з-за таго, што “цяцерчын Сашка ўсё ж не паступіў!” Не магу ўявіць, куды паткнуся восенню.

А акурат 31 жніўня мне прыходзіць выклік на вучобу ва ўніверсітэт.

Толькі праз месяц-другі даведваюся, што дэкан Рыгор Булацкі пасля майго ад’езду на сходзе ўсіх выкладчыкаў факультэта будзе палымяна пераконваць, што Усеню трэба абавязкова залічыць на вучобу, а затым з маімі вершамі і дыпломамі пойдзе да рэктара ўніверсітэта Сікорскага і будзе даводзіць яму тое ж самае...

У якім кірунку пайшло б маё жыццё, калі б тады не прынялі на журфак? Стаў бы інструктарам аддзела фізкультуры і спорту райвыканкама, куды напрыканцы лета мяне ўжо запрашалі? Ад дэпрэсіі і безвыходнасці смактаў бы “чарніла” з мясцовымі апойкамі? Цяжка сказаць. Ва ўсякім разе гэтыя радкі я, мусіць, не пісаў бы...

Вельмі часта нашыя лёсы залежаць ад іншых, зусім староннiх людзей. Вось неўпадабаў мяне гісторык, які прымаў экзамены, і прадвызначыў для мяне адзін шлях. Паруліўся Рыгор Булацкі — і шлях ужо зусім іншы. Апошнім часам задумваюся: а мусіць жа, і сам я ўжо вызначаю нечыя шляхі. І ці заўсёды ў мяне стае мудрасці і спагады да староннага чалавека?..

## Без віны вінаватыя

Выпраўляючы на вучобу, бацькі даюць мне ў дарогу ўсяго дзесяць рублёў. Больш у іх проста няма, а каб у некага пазычыць, не стае часу: вячэрнім аўтобусам трэба ехаць у Мінск.

Ні інтэрната, ні стыпендыі мне, вядома ж, не даюць. Ну і як пражыць на тыя дзесяць рублёў? Разам з гэткім жа бедаком Вячаславам Наздрыным-Платніцкім, з якім сышліся яшчэ пад час іспытаў, шукаем прытулак у гаспадароў амаль што вясковых хацінак за чыгуначным вакзалам. Мажная кабеціна, якая ледзь валюхаецца па двары, за невялікія грошы прапануе месца на гарышчы. Калі ўзбіраемся туды па крутой металічнай лесвіцы, каб пазнаёміцца з будучым жытлом, Слава на поўным сур’ёзе кажа:

— Будзем лезці п’янымі — пераломім рэбры.

Дзякаваць богу, піць нам не выпадае: як і ўсе першакурснікі, па вечарах “грызём” свае канспекты. Дый няма за што купляць тыя напоі.

Праз два тыдні, згаладалы, набіраюся смеласці і заходжу ў кабінет да намесніка дэкана, прашу даць мне хоць што-небудзь: ці інтэрнат, ці стыпендыю. Ён ускоквае з крэсла і злосна крычыць:

— Мы цябе прынялі па-за конкурсам, а ты яшчэ нешта патрабуеш! Прэч адсюль!

Месца ў інтэрнаце я ўсё ж атрымліваю. Старшыня факультэцкага прафкама Лёня Ракавец — мой зямляк, з недалёкай вёскі Палажэвічы. Цішком, без мітусні ён выпісвае для мяне ордэр...

Праз месяц на агульнафакультэцкім сходзе абмяркоўваецца жыццё ў інтэрнаце. Справаздачу робіць старшыня так званага студгарадка старшакурснік Саша Піндрас. Ён трохі адрузлы, увесь нейкі круглы, таму мае мянушку Глобус. Да яго звяртаецца нехта з выкладчыкаў:

— Кажуць, што ў інтэрнаце — суцэльнае п'янства. Назавіце прозвішчы студэнтаў, якія злоўжываюць найболей.

Глобус перамінаецца з нагі на нагу, нешта мармыча сабе пад нос. Яму няёмка кагосьці падстаўляць, тым болей што ўсе адчайныя жлукты — ягоныя аднакурснікі, дый сам ён, так бы мовіць, не прасыхае. Нарэшце Глобус выціскае з сябе тры прозвішчы, і сярод іх... маё. Ад нечаканасці і такога нахабства ў мяне проста адымае мову, я каўтаю ртом паветра і не магу нічога запярэчыць. А я ж не толькі "не бяру і ў рот" — нават да тытуню яшчэ не паспеў прызвычаіцца. Узорны студэнт.

Няўцямныя позіркі выкладчыкаў, тым лікам і Булацкага, факусуюцца на маёй асобе, і я ў іх чытаю: "Ці ж варта было змагацца, каб мець на факультэце яшчэ аднаго апойка?"

У інтэрнаце вылоўліваю Глобуса з рашучым намерам даць яму ў рыла. А ён ужо і так выглядае, як пабіты сабака, сарамліва адводзіць убок погляд, баязліва захінаецца рукою. Мая лютасць чамусьці сыходзіць на нішто.

— Але ж чаму ты назваў менавіта маё прозвішча? — у рэшце рэшт пытаюся ў Глобуса.

— Не сваіх жа сяброў закладваць, — ужо заспакоены тым, што экзекуцыі не будзе, тлумачыць ён. — А іншых першакурснікаў я проста не ведаю...

Што праўда, то праўда: маё прозвішча ўжо на слыху. Вершы ў насценгазетах, удзел у мастацкай самадзейнасці...

Пасля таго сходу ў насценнай газеце факультэта нам, "траім апойкам", выказваецца ганьба. Ды каб жа на гэтым усё і скончылася! Яшчэ два-тры гады, пакуль сам не стану старшакурснікам, маё прозвішча па інерцыі будзе паласкацца на розных сходах у згадках пра самых запойных студэнтаў, хоць я "адстойваю гонар факультэта" амаль ва ўсіх спартыўных спаборніцтвах, што з п'янствам ніяк не стасуецца...

Нялёгка адмыцца ад бруду, тым болей, калі ён уяўны, незаслужаны...

## Праверка

У інтэрнаце мяне падсяляюць да гэткіх жа першакурснікаў Адама Ліпскага і Міколы Курганскага. Яны старэйшыя за мяне, ужо адслужылі ў арміі, скончылі падрыхтоўчае аддзяленне.

Вярнуўшыся з заняткаў трохі раней, заўважаю на падваконні гару капеек. Ніякага значэння гэтаму не прыдаю. А капейкі ляжаць і дзень, і другі, і трэці...

Пазней Адам і Мікола прызнаюцца, што гэткім чынам правяралі мяне на зладзеяватасць і кожную раніцу пералічвалі тыя капейкі. Лепей бы яны гэта не казалі, бо ў мяне надоўга застанецца адчуванне, што плюнулі ў душу...

Кожнага з нас падманвалі і абкрадвалі знаёмыя ці партнёры. І нічога не паробіш: каб загадзя вылічыць усіх зламыснікаў, ніякіх "капеек" не хопіць.

## Грэх

Пад час савецкіх святаў нас, студэнтаў, прымушаюць удзельнічаць у дэманстрацыях. Тым, хто жыве ў горадзе, гэта не ў напругу. А для былых вяскоўцаў — проста трагедыя. Прападае магчымасць лішні раз наведаць родныя мясціны, дапамагчы бацькам пасадзіць соткі ці выбраць бульбу.

Я таксама ўсёю душою прырос да сваёй Пасекі, сумую па ёй, а першыя паўгода вучобы па начах дык нават і плачу...

Ад дэманстрацыі можна “адмазацца”. Напярэдадні яе з відавочным разлікам факультэт неведваюць дактары. Той, хто здасць кроў, на тры дні вызваляецца ад заняткаў і розных мерапрыемстваў. Каб атрымаць адпаведную паперчыну і на свята з’ехаць у вёску, студэнты ідуць да дактароў натоўпам.

Мне здаваць кроў нельга, бо ў дзяцінстве перахварэў жаўтухай. Я з зайздрасцю пазіраю на аднакурснікаў, і ад самоты сэрца сапраўды абліваецца той самаю крывёю, якая нікому не патрэбна.

Туга становіцца невыцерпнай, і я, у рэшце рэшт, прыладкоўваюся ў чаргу наваспечаных донараў...

— На Боткіна хварэлі? — пытаецца пульхнацелая медсястра ў гадах, перш чым прапанаваць мне легчы на канапу.

— Не... — з высілкай выціскаю з сябе.

У вёску я трапляю. Аднак паездка атрымліваецца не дужа радаснай, бо ўвесь час вярэдзіць думка пра мой падман. І нават не падман, а грэх. Маю хворую кроў, пэўна ж, перальюць іншаму чалавеку, і ён таксама захварэе...

Амаль цэлы год дакараю сябе, не даюць спакою згрызоты, пакуль на вочы не трапляецца заметка ў газеце. Дасведчы доктар, адказваючы на пытанне чытача, распавядае, што ўся донарская кроў абавязкова правяраецца на наяўнасць захворванняў. Я з палёгкаю ўздыхаю: значыць, маю кроў забракавалі, і нікому яна не нашкодзіць...

Здавалася б, выкінь, нарэшце, з галавы ўсе згрызоты і пакуты. Але ж чамусьці не пакідаюць яны мяне да гэтага часу. Грэх — гэта не толькі ганебны ўчынак перад чалавекам ці Богам. Ён, грэх, здзейснены нават тады, калі не прынёс нікому шкоды, але ты пра яго проста падумаў...

## Сторублёўка

Выкладчыкі журфака ўхваляюць, калі студэнты друкуюцца ў газетах ці часопісах: практыка — крытэрый ісціны. Той ісціны, што ты не выпадкова трапіў на факультэт, і пасля вучобы станеш не ідэолагам ці “сакратуткай”, а сапраўды пісацьмеш.

Апрача таго, друкуючыся, можна атрымаць ганарар, такі-сякі дадатак да стыпендыі. Для мяне гэта асабліва актуальна, бо ад бацькоў дапамогі чакаць не даводзіцца, хіба што салам ды гароднінай. Таму я шастаю па рэдакцыях — ад “Физкультурника Белоруссии” да “Мінскай праўды”.

Неяк мне выпадае проста шалёнае шчасце. Не памятаю ўжо, з якога выдання, атрымліваю ажно сто рублёў — гэта дзве з паловаю стыпендыі. І што самае адметнае, на пошце мне выдаюць грошы адной купюрай, якой я не толькі ніколі не трымаў у руках, але нават і не бачыў. Зрэшты,

і для большасці маіх сяброў такая банкнота — амаль што багацце Крэза. Таму я нашу сторублёўку ў нагруднай кішэні кашулі і зрэдчас з гонарам дэманструю яе аднакурснікам.

У трамваі ці тралейбусе заўсёды езджу "зайцам" і ніколі не хвалююся. Калі ж кантралёр спрабуе мяне аштрафаваць, соўгаю яму сторублёўку, і ён разгублена лыпае вачыма, бо на здачу не хапае грошай.

Так не хочацца развітвацца з купюрай, што я, не маючы іншых сродкаў, тыдзень хаджу амаль галодным. Раніцай і ў дзень — кавалак хлеба, пасыпаны соллю, вечарам — гарбата. А той, у каго ў кішэні ёсць усяго адзін-два рублі, бесшабашна шыбуе ў студэнцкую сталоўку.

У рэшце рэшт змушаны размяняць купюру, каб не адкінуць капыты...

Пазней, калі ўжо буду "сядзець на кучы грошай", заўсёды прыгадвацьму тую сторублёўку і не мецьму жадобы захаваць гэтую кучу цалюткай. Той, для каго грошы становяцца самамэтай, — самы бедны чалавек.

## Лішні нулік

Неўзабаве Слава Наздрын-Платніцкі перабіраецца ў інтэрнат, і мы жывем з ім у адным пакоі. Ягоныя бацькі таксама вяскоўцы, жывуць у Столінскім раёне і маюць чацвярых дзяцей. Таму на іхнюю помач Славе, як і мне, спадзявацца не выпадае. Да таго ж з газетамі ён супрацоўнічае мала і ганарары атрымлівае гады ў рады.

І калі на стале ў інтэрнацкай вахцёркі з'яўляецца квіток на 14 рублёў менавіта для Славы, першымі яго заўважаюць Андрэй Мазанік і Віця Чарнушэнка, суседзі па пакоі. Слава недзе сноўдаецца ў горадзе, і некаму з нас узбрыдае ў галаву над ім пажартаваць. Мы акуратна ўпісваем у квіток нулік...

Трымаючы квіток, Слава ледзь не захлынаецца ад шчасця: на 140 рублёў можна жыць як у Бога за пазухай. І пры гэтым ён нават не задумваецца, з якое ласкі нейкая газета выпісала яму такі шалёны ганарар.

— З мяне — скрыня піва! — на радасцях абяцае Слава.

— Дык бяжы хутчэй на пошту, бо яна праз паўгадзіны зачыняецца! — хаваючы ў рукавах усмешкі, прыспешваем мы і, калі Слава знікае за дзвярыма, хапаемся за жываты, уяўляючы, якая сцэна разыграецца на пошце.

А сцэна сапраўды цікавая. Атрымаўшы з акенца 14 рублёў, Слава доўга-доўга пазірае на іх і, нарэшце, вымаўляе:

— А астатнія?

— Я аддала вам усё да капейкі, — непарушна адказвае касірка.

— Ды вы ж зірніце, якая лічба напісана на квітку! — рушыць у наступ Слава.

Касірка цярэбіць квіток у руках, звярае са сваім.

— Нехта над вамі пажартаваў...

— Якія жарты! Аддавайце мае грошы!

Яшчэ дзесяць хвілінаў Слава ваюе з паштарамі, спрабуючы давесці ім "сваю праўду", бо ніяк не можа пагадзіцца з тым, што такое блізкае шчасце раптам выслізнула з рук...

Калі Слава вяртаецца ў інтэрнат, мы сустракаем яго дружным ро-

гатам, але, згледзеўшы ягоны счарнелы твар і сцятыя вусны, раптоўна замаўкаем.

Слава не размаўляе з намі два дні (болей між студэнтамі не бывае). А пра “ўдалы жарт” мы ніколі яму не нагадваем.

Жарты павінны быць у радасць абодвум бакам. А калі яны некаму прыносяць боль, гэта ўжо здзекі.

## Апошні рубеж

Дзе б ні быў, першым чынам стараюся патрапіць у мясцовую кнігарню. І калі наш трэці курс пасылаюць “на бульбу” ў Клімавіцкі раён, знаходжу вольную часіну і наведваюся ў райцэнтр.

У кнігарні мяне найперад вабіць паліца з паэтычнымі зборнікамі. Перабіраю іх у руках і раптам заўважаю на апошніх старонках вокладак штамп: “Пераацэнена. Кошт 1 капейка”. Літаральна на ўсіх кнігах! А іх каля сотні: Купала, Багдановіч, Танк, Лужанін...

— Чаму вы гэта зрабілі? — няўцямна пытаюся ў прадаўца.

— А беларускую паэзію ўсё адно ніхто не купляе, — абыякава адказвае жанчына. — Я прапаноўвала ўвогуле здаць гэтыя кнігі ў макулатуру, дык сказалі, што нельга...

Мне чамусьці робіцца вельмі сорамна, я дастаю з кішэні апошні пакамечаны рубель і забіраю з паліцы “ўсю беларускую паэзію”, хоць яны, гэтыя зборнікі, у маёй асабістай бібліятэцы ўжо ёсць.

Для мяне з радасцю загортваюць набытыя кнігі ў вялізны пачак, і пакуль дабіраюся да вёскі, нараджаюцца радкі:

Уцанёныя зборнікі.
Па капейцы — адзін.
Не кідаюцца з бойкамі,
І нікому не ўздзіў.
З беларускімі вершамі
Кнігі выслалі стол.
І ніхто не павернецца,
Не падыдзе ніхто.
Дзе ж ты, попыту водгулле?
Вось апошні рубеж...
За паэзію ўвогуле
Ці наскрэбці рубель?..

Пазней, калі пасталею і трохі набяруся розуму, за тыя радкі мне будзе гэтак жа сорамна, як і за жудаснае відовішча ў клімавіцкай кнігарні. Я ўцямлю, што паэзія тут ні пры чым, бо наш Багдановіч не меней таленавіты за таго ж Ясеніна. Ужо тады, пры камуністах, улада ставілася да беларускай мовы як да непаўнавартай, “мужыцкай”. Адпаведнае даводзілася і народу. А што ўжо казаць пра сучаснае становішча... Мова зусім затаптаная ў гной, таму беларусы, не чытаючы нічога беларускага, шчыра вераць свайму правадыру, які сцвярджае, што Скарына вучыўся ў Пецярбурзе, а Быкаў пісаў “сціхі”...

## Гаспадыня

Вёска ў тым жа Клімавіцкім раёне, куды нас закінулі “на бульбу”, досыць шматлюдная і дагледжаная. Студэнтаў рассяляюць па два-тры чалавекі ў кожную хату, дзе мы, прынамсі, толькі начуем. Увесь вольны час бавім у клубе, а харчуемся ў школьнай сталоўцы.

Мы са Славам трапляем на пастой да адзінокай жанчыны, не зусім яшчэ састарэлай, і досыць жвавай, хоць знешне выглядае яна як старая бабуля. На твар заўсёды ссунута — нават вачэй не разгледзіш — рудая хустка, пацёртая кухвайка вісіць на плячах, нібы лахманы на пудзіле. Гаспадыня нейкая нехлямяжая, замызганая, затое у хаце — узорная чысціня.

Жанчына здаецца нам настолькі нелюдзімай, ваўкаватай і нават злоснай, што мы не робім ніводнае спробы перакінуцца з ёю хоць бы словам, адно што вітаемся раніцай. Дый сама яна, як падаецца, зносінаў з намі не шукае. Сыходзімся на выснове, што з гаспадыняй не пашанцавала...

Праўда, калі Слава вяртаецца толькі пад раніцу (знюхаўся з даўганосай мясцовай бухгалтаркай), дзверы ніколі не зашчэпленыя і гаспадыня ляманту не ўсчыняе, хоць грукату ад майго сябра, як ад бульбакапалкі.

Так і суіснуем мы з гаспадыняй некалькі тыдняў: не ў варажнечы, аднак і не ў злагадзе. Нават не ведаем, як яе завуць.

За дзень да нашага ад’езду надараецца рэлігійнае свята. З раніцы гаспадыня нейкая ўрачыстая, прасветленая, хоць і апранутая ў тую ж кухвайку, а на нагах хлёпаюць боты-гумовікі. Калі мы ўжо ступаем цераз парог, каб прадоўжыць “бітву за ўраджай”, гаспадыня раптам суе мне ў руку трохрублёўку і... буханку хлеба. Без аніякіх слоў. І хуценька сыходзіць у “сваю” палавіну хаты. Тым не менш я ўсё ж упершыню пасняваю дэталёва разгледзець ейны абветраны твар, зазірнуць у блакітныя — і вельмі прыветныя! — вочы...

У нас саміх няма ніводнае капейкі, і гэтыя тры рублі акурат дарэчы, каб наладзіць развітальную вечарыну. Спатрэбілася і буханка.

Назаўтра раніцай мы садзімся ў аўтобусы і едзем у Мінск, не маючы магчымасці ні падзякаваць, ні развітацца з гаспадыняй, бо яна чамусьці некуды сышла. І ўсю дарогу мае думкі — толькі пра яе.

Што я ведаю пра гэтую жанчыну? Чаму яна трымалася з намі гэтак зацята? Што яе спадобіла зрабіць такі шчодры падарунак? Можа, у ейным жыцці адбылася нейкая трагедыя, якая змусіла замкнуцца ў сабе? Магчыма, мы нагадалі ёй уласных дзетак, з якімі нешта здарылася? Адказаў на гэтыя пытанні я ўжо, на жаль, не атрымаю.

А яшчэ буду думаць і шкадаваць пра тое, што ў нас не хапіла розуму, каб пакалоць дровы ў ейным двары і паправіць пахілены плот...

## Ганьба

“На бульбу” нас пасылаюць штогод, і неяк я таксама заводжу “раман” з мясцовай дзяўчынай. Для яе, асуджанай да скону кантавацца ў канторы і мець зносіны з калгаснымі механізатарамі, большасцю апойкамі, маладзенькі студэнцік — як глыток свежага паветра. Ён і не мацюкаецца, і вершык пачытаць можа...

Ну а для мяне — чарговая прыгода, якая дапамагае разнастаіць панурыя будні, бавіцца нуднымі вечарамі.

Не дзіва, што “каханка” вылятае з маёй галавы ўжо на наступны дзень пасля вяртання ў сталіцу.

Праз два тыдні ад тае дзяўчыны я атрымліваю ліст. Яна нагадвае мне пра “незабыўныя спатканні”, піша пра “разбітае сэрца”, паведамляе, што гатовая кінуць працу і перабрацца ў Мінск. Мяне такая перспектыва зусім не радуе, таму ніякага адказу не пішу.

Больш за тое, даю пачытаць ейны ліст некаторым інтэрнацкім сябрам-аднакурснікам, у якіх гэтая дзяўчына яшчэ на памяці. Усе рагочуць з яе наіўнасці і праставатасці, а Барыс Пракопчык дык увогуле бярэ чырвоны аловак і выпраўляе ў лісце арфаграфічныя памылкі...

Тады гэта было смешна і мне. А цяпер — сорамна. Мала таго, што выставіў на пасмешча шчырае пачуццё, дык яшчэ і дазволіў паздзекавацца, зганьбіць. І гэтым самым зганьбіў самога сябе.

## “Паэт”

Мой найлепшы вясковы сябар Віця Касько вучыцца ў Мар’інагорскім сельгастэхнікуме і ў нядзелю часцяком наведваецца ў сталіцу, балазе да яе ўсяго “адна гадзіна на электрычцы”, і мы разам жлукцім піва ці ходзім да дзевак на камвольны камбінат.

На гэты раз Віця завітвае ў будні дзень, ён нейкі ўзмылены і ўзрушаны.

— Напішы для мяне вершык! — яшчэ з парога інтэрнацкага пакоя просіць ён, дастае пляшку гарэлкі і ў двух словах тлумачыць, чаму ўзнікла такая патрэба.

Тэхнікум адзначае юбілей. Рыхтуецца святочная канцэртная праграма. Той, хто пачытае са сцэны ўласны верш пра хлеб, на цэлы тыдзень вызваляецца ад заняткаў. Чаму пра хлеб? Ды Віця акурат вучыцца на агранома.

Мяне трошкі цешыць, што адгул яму можна атрымаць такою “малою крывёю” (самому ж давялося здаць сапраўдную кроў), і я без асаблівых высілкаў зарыфмоўваю дваццаць радкоў.

У наступную нядзелю Віця паведамляе, што наш “нумар” і нумар у канцэрце прайшоў “на ўра”, таму ён на цэлы тыдзень паедзе да маці (бацька заўчасна памёр), каб дапамагчы ёй “капаць картоплі”.

Але гэта — толькі пачатак...

Неўзабаве Віця зноў просіць, каб я напісаў для яго верш — да навагодняга свята. Выкладчыца зрабіла лагічную выснову: “Калі ў цябе так зграбна атрымалася пра хлеб, дык зможаш і на іншую тэму...” Пярэчыць ці адмаўляцца Віцю не выпадае, бо гэта можа адбіцца на вучобе. А верш патрэбен для насценнай газеты. Трэба дык трэба. Крэмзаю “верш” пра Новы год.

І тут ужо на Віцю насядаюць як мае быць. Святаў у календары багата, насценгазета выходзіць штомесяц, і ад яго патрабуюцца новыя “шэдэўры”. А хіба ж для мяне гэта ў напругу? Адной левай...

Калі аднойчы наведваюся ў тэхнікум, дык вечарам на танцах са здзіўлен-

нем чую, што інакш як паэтам Віцю ніхто не называе. А дзеўкі, як пчолкі каля вулля, вакол яго так і кружляюць...

Амаль два гады "падсілкоўваю" Віцю новымі вершамі, за што ён атрымлівае ад выкладчыкаў немалыя прэферэнцыі. Напрыканцы ягонай вучобы вырашаю, што наспеў час майму апекуну "выйсці ў свет", напоўніцу заявіць пра сябе як пра паэта. Употайкі ад Віці дасылаю ў пухавіцкую раённую газету ўласныя вершы пад ягоным подпісам. Прычым досыць прыстойныя, прафесійныя. Прыкладам, верш "Паляўнічы":

— Колькі ваўкоў увогуле?
Так сабе і пішы:
Я іх сляпымі ў логаве
За сотню перадушыў.
Ды супыняцца нечага,
Буду душыць яшчэ...
Воўчае ці чалавечае —
Агеньчыкамі з вачэй?..

Не дзіва, што неўзабаве нізка "Віцевых" вершаў з'яўляецца на літаратурнай старонцы, пра што ён сам даведваецца ад выкладчыцы, якая прыносіць у аўдыторыю і з захапленнем паказвае студэнтам газету, а затым вывешвае яе на дошцы для аб'яў.

Гэткая слава Віцю не дужа падабаецца, ён ляціць да мяне ў Мінск і рашуча патрабуе спыніць "вакханалію", бо калі падман выкрыецца, дык дыплома яму не ўбачыць, як сваіх вушэй.

Тым часам раённая газета запрашае Віцю на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання, прычым робіць гэта праз кіраўніцтва тэхнікума, так што адбрыкнуцца немагчыма ніяк, бо "ты ж наш гонар, нашая знакамітасць".

На пасяджэнні літаб'яднання, як потым распавёў мне Віця, усе выказваюць захапленне ягонымі вершамі і ў рэшце рэшт просяць прачытаць новыя творы. (Я, дарэчы, прадчуваючы нешта падобнае, прапанаваў яму прыхапіць на пасяджэнне два-тры мае новыя вершы, аднак ён, дурань, адмовіўся). Віцю ўгаворваюць доўга, аднак ён настойліва спасылаецца на "творчы крызіс" (і адкуль толькі выкалупіў ён, зусім далёкі ад творчасці, гэтае словазлучэнне?) і абяцае "нешта прачытаць" у наступны раз.

Наступнага разу не будзе, бо Віця атрымае дыплом і назаўтра з'едзе з Мар'інай Горкі, пакінуўшы пасля сябе водгалас пра тое, што "і ў нашым тэхнікуме вучыўся сапраўдны паэт"...

Мой сябар Віця Касько памрэ начакана і вельмі рана — у 36 гадоў. І да самае ягонае смерці на розных пасядзелках мы з рогатам згадвацьмем "паэтычную эпапею" і пагаджацца з тым, што сваім падманам шкоды нікому не зрабілі. А гэта — самае галоўнае.

## "За сябе і за таго хлопца"

Затым я раблю яшчэ адзін падман — і не такі бяскрыўдны. Нават крымінальны, калі ацэньваць яго па мерках заканадаўства. Мой брат Федзя, адвучыўшыся на механіка ў Гарадоцкім сельгастэхнікуме, вырашае атрымаць дыплом Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі

і робіць спробу паступіць на завочнае аддзяленне. Усе экзамены здае паспяхова. Застаецца сачыненне па беларускай ці рускай літаратуры. Гэты бар'ер брату не пераадолець ніяк: чытае ён мала, а над радкамі школьных сачыненняў, як ластаўкі на правадах, заўсёды стракаціліся настаўніцкія папраўкі. Так што на экзамен можна нават не ісці — усё адно будзе двойка, а то і кол.

Губляць Федзю няма чаго, і нечакана ён просіць мяне схадзіць на гэты экзамен. Я пярэчу, бо падабенства ў нас мала і падман-падмен абавязкова выкрыецца. Федзя даводзіць:

— У аўдыторыю абітурыентаў запускаюць па залікоўках, аднак на фотаздымкі ніхто ўвагі не звяртае. Там жа такая таўкатня! Дый на будучых завочнікаў глядзяць скрозь пальцы — усе яны недзе ўжо працуюць...

Нарэшце я пагаджаюся...

Усё адбываецца менавіта так, як абмалёўваў Федзя. Без аніякіх перашкодаў трапляю ў аўдыторыю, атрымліваю экзаменацыйны ліст і ўладкоўваюся на самую галёрку.

Па беларускай літаратуры прапаноўваюцца дзве тэмы: адна, вольная, пра "нешта патрыятычнае", а другая, хрэстаматыйная, тычыцца баек Кандрата Крапівы. Большасць з іх я ведаю назубок, дый рознай крытыкі начытаўся ўдосталь.

Праз паўгадзіны, адразу на чыставік, "раскрываю тэму", шчодра аздабляючы сачыненне цытатамі з баек. Аднак здаваць яго не спяшаюся, бо на экзамен даецца дзве гадзіны. І калі я "засвячуся" перад выкладчыкам неймаверна рана, дык ён абавязкова пацікавіцца, што гэта за "вундэркінд" аб'явіўся сярод механізатараў, і, крый божа, зірне на фотаздымак...

Побач карпее (ажно ўспацела лысіна) над тэкстам пузаты дзяцюк. Па ўсім бачна, што літаратурныя спробы асаблівага плёну яму не прыносяць. Згледзеўшы, што я ўжо "адстраляўся", дзяцюк з маленнем просіць:

— Напішы за мяне, га? Прывязу каністру самагонкі...

Ну, каністра не каністра, аднак пагаджаюся, бо ўсё адно няма чым забавіць час. Накідваю тэкст "пра нешта патрыятычнае", а дзяцюк уласным почыркам перапісвае яго ў чыставік.

Назаўтра вывешваюцца спісы з адзнакамі. Мой сусед атрымлівае пяцёрку і для пачатку спрабуе спакусіць мяне пляшкай "куплёнай", а насупраць прозвішча Усеня стаіць толькі чацвёрка. Не думаю, што ў сачыненні былі знойдзены нейкія памылкі ці "тэма раскрыта недастаткова поўна". Той, хто правяраў, мусіць, не сумняваўся, што абітурыент скарыстаў "шпору", бо ці ж можна паверыць, што "чалавек ад сахі" гэтак плённа цытуе байкі Крапівы. Але ж ён перапісаў "шпору" без памылак — і гэта добра, і гэтага дастаткова, каб "круціць гайкі". Так што я трохі перастараўся...

Але і чацвёрка дазваляе майму брату стаць студэнтам і праз шэсць гадоў атрымаць дыплом.

Аднак жа як ні круці, гэты падман быў не зусім бясшкодным, бо некаму ў інстытуце месца не знайшлося. Адно толькі хоць крыху мяне заспакойвае: Федзя сапраўды стаў неблагім інжынерам...

## Вывіх

На першых занятках па фізкультуры першакурснікі здаюць нарматывы: бег, скачкі, кідкі-штуршкі... Для мяне ўсё гэта “семечкі”: яшчэ у школе у якіх толькі відах спорту я не паспрабаваў свае сілы.

Хіба, можа, не скакаў з парашутам ды не адзначыўся ў бабслеі (зрэшты, з гары на санках усё ж катаўся).

Калі даходзіць чарга да кап’я, якога дагэтуль ніколі не трамаў у руках, шпурляю яго ажно на пяцьдзясят метраў. Выкладчык фізкультуры, майстар спорту акурат па кіданні кап’я, прапануе мне запісацца ў ягоную секцыю. Алімпійскі медаль не абяцае, бо для гэтага варта было б распачынаць трэніроўкі нашмат раней, але да майстра спорту можна дацягнуцца. Ягоную прапанову я адхіляю, бо мяне дужа вабіць секцыя самба. Уяўляю, як прыеду ў вёску і паказвацьму сваім сябрам “прыёмчыкі”...

Заняткі секцыі самба праходзяць у тым жа будынку, дзе месціцца журфак, толькі на другім паверсе. На дыване цесна, таму што бораемся мы ў адным кагале: разраднікі і навічкі, “мухачы” і цяжкавагавікі.

Мне трапляецца не вельмі спрытны спарынг-партнёр, я кідаю яго цераз плячо, наваліўшыся, левай рукой абхопліваю ягоную шыю, а правую выстаўляю ўбок — так выконваецца страхоўка. Раптам цела цяжкавагавіка, якому зрабілі падсечку, абрушваецца на гэтую выцягнутую руку. Ад болю я, здаецца, нават губляю прытомнасць, а мой партнёр, адчуўшы слабіну, перахоплівае тую ж руку і выконвае на ёй болевы прыём...

“Хуткая дапамога” вязе мяне ў бальніцу, дзе два мужчыны ў белых халатах спрабуюць уставіць вывіхнутую лапатку на месца, аднак ім гэта ніяк не ўдаецца, бо мне вельмі баліць і я міжволі супраціўляюся як магу. А сілы ў мяне — будзь-будзь.

Нарэшце дактары здаюцца і прыходзяць да высновы, што без глыбокага наркозу тут не абысціся. На мой твар накладваецца кіслародная падушка...

Калі ачуньваю, мне робяць павязку “дзізо” (бач ты, дагэтуль памятаю, як яна называецца) і папярэджваюць, што насіць яе трэба ажно тры тыдні. Як толькі гэты тэрмін сыходзіць, я іду на стадыён, заціснуты паміж універсітэцкімі інтэрнатамі, каб пагуляць у футбол. І трэба ж быць такім бязмозглым — займаю месца ў варотах. Пасля моцнага ўдару мяч трапляе ў маю выцягнутую і не зусім далечаную руку, і яна амаль перакідваецца за спіну... Зноў “хуткая”, зноў наркоз.

З гэтага часу вывіх становіцца хранічным, і дапамагчы мне можа толькі аперацыя. Але ж, як кажуць, не з маім шчасцем дый атрымаць такі шанец...

Плячо “выскоквае” пры любым няўдалым руху, нават тады, калі, гуляючы ў футбол, залішне рэзка махну рукою. Гэтак адбываецца і на вайсковых зборах. Якія ў арміі лекары — даводзіць не трэба. Да таго ж рука робіць чарговы “выбрык” надвячоркам. У медпункце дзяржурыць толькі п’яны прапаршчык. Ён кліча на падмогу гэткага ж асалавелага паплечніка, і яны ўдваіх без аніякага наркозу круцяць маю руку туды-сюды. У лапатцы нешта храбусціць і шчоўкае, а я крычу, як недарэзаны парсюк. Прапаршчыкі тройчы вывіхваюць маю руку і столькі ж разоў ставяць яе на месца...

Пасля гэтага я раблю канчатковую выснову, што са спортам трэба “завязваць”: без правае рукі можна гуляць хіба што ў шахматы.

Здавалася б, толькі тае бяды — звычайны вывіх. Аднак пасля яго вывіх зрабіла ўсё маё жыццё: адрокшыся ад спорту, я пачаў курыць і адруз.

## Стук-грук, цяп-ляп

Журфакаўскі студэнцкі будаўнічы атрад едзе ў Карэлію. Мы нават толкам не ведаем, што там давядзецца рабіць.

Напачатку працуем на чыгунцы: мяняем сапсаваныя шпалы на новыя, падсыпаем на палатно шчэбень. Асаблівых навыкаў тут не трэба.

Неўзабаве перад намі ставіцца новая задача: узвесці чыгуначнае дэпо. Уяўляеце, што гэта за аб’ект? Вышыня — больш за дзесяць метраў, таўшчыня сцен — “у адну цэглу”. Такая ювелірная работа па сіле не кожнаму муляру-прафесіяналу. А сярод нас, студэнтаў, толькі адзін Слава Шаўчук некалі трымаў у руках кельму.

Аднак жа будаўніцтва закіпае! Стук-грук, цяп-ляп...

Тры чалавекі, тым лікам і я, брыгадзір, прыстаўлены да бетонамяшалкі. Ніхто з нас дагэтуль да падобнае справы не спрычыняўся, таму мясцовы прараб дае параду: “вядро цэменту, вядро гравію, тры вядры пяску, а вады — на вока”. Аднак і гэтага “рэцэпту” мы не дужа прытрымліваемся, аб’ект глытае раствор, як цмок.

У рэшце рэшт мы здаём дэпо “пад ключ”, атрымліваем грошы і вяртаемся ў Мінск.

Праз год з карэльскага пасёлка Лоўхі на журфак прыходзіць паведамленне: дэпо, якое будавалі вашыя студэнты, развалілася. Я, згадваючы “майстэрства муляраў”, і мой “высакаякасны раствор”, не дужа гэтаму дзіўлюся.

Мяне, прызнацца, трывожыла зусім іншае. У тых жа Лоўхах, не маючы ніякага досведу, мы зрабілі драўляны насціл-пераход цераз чыгунку. Я таксама быў тады брыгадзірам, бо астатнія ўвогуле ніколі не трымалі ў руках сякеру. І пасля паведамлення пра зруйнаванае дэпо я яшчэ доўга з трывогаю чакаў навіну, што пасажырскі цягнік “спатыкнуўся” на нашым насціле-пераходзе і сышоў з рэек...

## Чалавек — “жывёла статкавая”

Пасля будатрада выпадае некалькі тыдняў на канікулы, і я выпраўляюся ў вёску. Ладна скроеную будатрадаўскую форму не здымаю, каб “пахварсіць” ёю перад мясцовымі дзеўкамі.

Зрэшты, дзевак найболей у суседнім Рухаве, і надвячоркам, падбухторыўшы для кампаніі чародку прышчастых пераросткаў, звычайна кіруюся туды.

Гэтым вечарам у маім кагале пяцёра “добраахвотнікаў”. Танцы ў клубе скончыліся, мае пераросткі распаўзліся па завуголлях, а я з дзяўчынаю цалуюся на мосце цераз канал, які пераразае Рухава на дзве няроўныя палавіны. Раптам да вушэй даносяцца крыкі, і ў суцэльным лямантце ўдаецца адрозніць істэрычныя галасы маіх спадарожнікаў. Лямант набліжаецца да

маста. Можна зразумець, што па вуліцы ўздоўж канала нехта за некім гоніцца. Разумею, што ўцякаюць менавіта “мае”. Без разваг адрываюся ад пацалунка і кідаюся на дапамогу. Насустрач нясецца цэлая людская зграя. Наперадзе — пяцёрка маіх пасечукоў. За імі, насядаючы на пяткі, — яшчэ чалавек пятнаццаць. У іхніх руках калы, ланцугі і дошкі. Яшчэ хвіліна — і гэты звар’яцелы натоўп мяне праглыне і затопча. Уцякаць ці збочыць ужо ніяк не выпадае, і я ці то з адчаю, ці то з пярэпалаху на увесь голас камандую:

— Усім стаяць!!!

І адбываецца дзіва. Спыняюцца сябрукі, падбадзёраныя нечаканаю падмогаю, спыняюцца і праследнікі, хутчэй не ад спалоху, а ад нечаканасці. З маіх грудзей вырываецца яшчэ адзін крык:

— Кінуць калы і дошкі на зямлю!

І яны, аслупянелыя, сапраўды выпускаюць з рук сваю зброю. Кідае кол і бэйбус-атаман, на галаву за мяне вышэйшы. Скарыстаўшы момант, да яго падскоквае Узбекаў Жора і пулюе кулаком у скіўіцу. Гэта — як сігнал. Уся варожая зграя і ейны атаман раптам паварочваецца і дае драла ў супрацьлеглы бок. Пасечукі (праўда, без мяне) гоняць яе да самага канца вёскі...

Назаўтра па Рухаве разносіцца пагалоска: Паэт “размяцеліў” і разагнаў усіх плюсенцаў (тая гоп-кампанія, як высветлілася, была з яшчэ адной суседняй вёскі — Плюсны).

Згадваючы пасля пра тое здарэнне, я з жахам усведамляў, што быў тады на мяжы калецтва ці, можа, нават і жыцця. А яшчэ доўга не мог даўмець, што ж прымусіла тую зграю падпарадкавацца маім загадам, хоць яна была і ўзброеная, і шматлікая. Увяла ў зман мая будатрадаўская форма (чалавек у любой службовай вопратцы выклікае ці павагу, ці боязь)? Аднак жа ў цемры яе наўрад ці хто разгледзеў.

Мусіць, маю “перамогу” можна растлумачыць тым, што чалавек — “жывёла статкавая”. І калі пачуе загад, аддадзены сурова і пагрозна, адразу паралізуецца ягоная воля. Зрэшты, хіба гэта тычыцца толькі натоўпу? Бывае, што “паралізуецца” цэлы народ, уся краіна...

## На лыжні

Аднакурсніца Тамара Шульга, жвавая і спартыўная дзяўчына, неяк зімою падбівае нас зрабіць вылазку на прыроду, пакатацца на лыжах. Ахвотнікаў набіраецца чалавек дзесяць. З нас нават здымаецца клопат, дзе ўзяць лыжы, балазе, Тамара займаецца ў секцыі спартыўнага арыентавання і дамовілася з кіраўніцтвам, што ў гэты выходны дзень наша кагорта можа пакарыстацца належнай амуніцыяй.

На электрычцы кіруемся ў бок Маладзечна, сыходзім на нейкай станцыі, якую Тамара аблюбавала ўжо даўно. Яна тлумачыць, што за два кіламетры ад станцыі ёсць цудоўныя горкі. Па добра ўтаптанай лыжні (і не адной) адшоргваем шлях да чаканай забавы. На горках ужо процьма люду. Вясёласць, смех, чырвоныя шчокі... Дружна і злагадна ўліваемся ў гурму.

На ўзлеску “экстрэмалы” зляпілі са снегу досыць ладны трамплін і па-заліхвацку аддаюцца невялікаму “птушынаму палёту”. Мне таксама

карціць сігануць з гары на гэты трамплін, тым болей што ў дзяцінстве нешта падобнае выrабляў у закінутым кар'еры. Ужо надвячоркам, калі горкі пачынаюць паступова пусцець дый наша кампанія "вострыць лыжы" дахаты, я ўсё ж асмельваюся з'ехаць з гары акурат па той лыжні, якая лейцамі цягнецца да трампліна...

Радасць птушынага палёту я адчуваю. Вось толькі прызямляюся, бухаю ў снег ці то спіною, ці то "пятаю кропкаю".

Да мяне падбягаюць сябры: ці жывы, ці здаровы? Усё нармалёва. Вось толькі зламаная лыжына нагадвае трэску.

Час прыспешвае, трэба выпраўляцца да станцыі. Прапаную сябрам на мяне не зважаць, паціху рухацца паперадзе, а я ўжо як-небудзь даганяцьму іх на адной лыжыне. Маўляў, ва ўсякім разе сустрэнемся на пероне. На тым і пагаджаемся.

Мне цяжка паспяваць за лыжнікамі, і паступова іхнія постаці знікаюць за густалессем. Аднак жа зусім не хочацца чыкільгаць да самае цемры, таму я адштурхоўваюся палкамі што ёсць сілы, хоць "абязлыжаная" нага правальваецца ў снег па калена.

Колькі ні ўвіхаюся, здагнаць сяброў чамусьці не ўдаецца, хоць яны даводзілі, што будуць рухацца нетаропка. Да станцыі прыкульгваю акурат тады, калі з-за далягляду выпаўзае вужака электрычкі. Людзі садзяцца ў вагоны, я не паспяваю выгледзець у натоўпе сваіх сяброў і вырашаю, што яны, без сумнення, мяне апярэдзілі і, мусіць, ужо сталі пасажырамі. Таму без аніякіх разваг ускокваю ў тамбур апошняга вагона.

Трывога ў душу закрадваецца на чыгуначным вакзале, дзе я шукаю і ніяк не магу знайсці знаёмыя твары. Суцешваю сябе надзеяй, што сябры паспелі сесці на ранейшую электрычку і зараз ужо саграваюцца ў інтэрнаце гарачай гарбатай.

Аднак у інтэрнаце тых, каго я спадзяюся ўбачыць, няма...

Цяпер канчаткова цямлю пра тое, пра што пазней раскажуць мае спадарожнікі. А чакаць іх давядзецца доўга, ажно да глыбокае начы, і ўвесь гэты час мая душа захлынацьмецца ў згрызотах.

Не згледзеўшы мяне ззаду, сябры вырашылі спыніцца, а калі не дачакаліся праз пэўны час, вярнуліся назад і распачалі пошукі. Мала што можа здарыцца з чалавекам: знясілеў ці, крый божа, зламаў нагу. А лыжня да станцыі, як я ўжо казаў, — не адна. Вось мы і размінуліся.

Яны, сябры, павялі сябе па-чалавечы, як і належыць. А я?

Яны, знясіленыя ад пошукаў, з палёгкай убачаць мяне на ложку, хоць выказваць радасць не будуць. А я ляжацьму тварам да сцяны, згараючы ад сораму, не асмельваючыся зірнуць у іхнія вочы.

Ні тады, ні пазней ніхто з удзельнікаў тае вылазкі на прыроду не выкажа мне папрок. І мяне гэта яшчэ болей прыгнятацьме. Лепей бы абурыліся, я папрасіў бы ў іх прабачэння за свой нялюдскі ўчынак і, магчыма, усё гэта неўзабаве сцерлася б з маёй памяці. А так вось дакараю сябе да гэтага часу...

*Працяг будзе.*

Марына Варабей



...Жыццё дзень у дзень карацей...
Мы маўчым... Тут сябе мы згубілі...

# Пад святлом адвечнай лямпы

* * *

Калі цябе не будзе,
І я магу не быць.
Звівае сцежкі студзень
І завірухай студзіць,
І цьмяным ранкам будзіць –
Змушае думкі збыць.

Жыццё на існаванне
Змяніць. У стужках слоў
І сноў. Маўчыць чаканне.
Маё недараванне.
Нямое прывітанне,
Апалае далоў.

Не побач і не разам.
Нічога не кажы.
І так, умовы сказаў,
Істэрыка, абразы,
Як разбурэнне звязу,
Падзеляць па мяжы.

* * *

Людзі беглі. Ці ад паморка,
Ці каб паспець на чарговую рэвалюцыю.
Усе мелі зброю.
(Ці ім так здавалася!)
Калі вяроўку і мыла лічыць зброяй.
Паграждаць сваёй
Асабістай непрысутнасцю
У свеце. Пад святлом
Адвечнай лямпы.

* * *

Тым, хто плакаў, хто спаў, хто маліўся,
Хто нямоглы чакаў у журбе.
Хто хоць раз у жыцці памыліўся –
Не прабачыў памылкі сабе.
І адчаю свайго не прадбачыў,
І істэрык нервовых і спраў.
Хто жыцця свайго не перайначыў,
Таго, пэўна, і лёс пакараў.
Не тапіў у гарэлцы свой розум,
Цыгарэт аб ілбы не тушыў,
Не ўставаў па камандзе ў позу,
Перад быдлам зубоў не сушыў.
Але прагна пацягваў гарбату,
З тытунёвым паветрам глыток,
Кайданоў не баяўся і кратаў,
Накідаўшы апошні радок.

* * *

Цень абпаленых крылаў ляжыць на зямлі,
І жалобныя песні чуваць паміж шэрых
Тых дамоў, дзе раней мы схавацца маглі,
Дзе прайшоў дзён бяссонечных шэраг.
Тая птушка даўно не прыносіць дзяцей...
Яна плача ў гняздзе па сваіх, што забілі

Злыя людзі. Жыццё дзень у дзень карацей...
Мы маўчым... Тут сябе мы згубілі.

* * *

Воля волата вонкавая.
Давер дасць дарогу.
Шаленства шукае шляху,
Крычыць крумкачом.
Асцём асоба асаджае...
Індывід і індывідуальнасць інакшыя!..
За задушанага забойцу заступяцца.
Воля волата вонкавая.

* * *

Яма і яма
Я твой Яма, я ваш Яма.
Я загіну першы тут.
Роўна стану, поўна яма,
Што мне лекі, што мне бруд.

Я набуду, страху-спуду,
Празапас, каб даць бяды.
Год на трыста, без прысуду.
Да наступнай серады.

Хай малыя вераць зману,
Хай збіраюцца ў гурты.
Хай гарматным мясам стануць –
Разяватыя ірты....

Хай ідуць. Бездапаможны,
Генерал пад голас труб.
І маўклівы... Усе і кожны...
Кожнага чакае слуп.

Мікіта Прыходзька



...Адзінота...

Сумнае слова...

# Святы час

* * *

Час імкліва бяжыць скрозь аблокі,
Не спыняючы хваляў жыцця.
Усміхаецца лёс шэравокі:
Памятай таямніцы быцця.

Не забудзь, браце, матчынай мовы,
Край ад ворагаў свой барані.
Без цябе – і ён без аховы,
Яго пакліч у сэрцы тваім.

Не забудзь аб каханні адданым,
Не зважай на агіды і страх.
Сцеражыся кайданаў ды здрады,
Захавай бляск жыцця ў вачах.

Час няспынна ідзе скрозь аблокі,
Праплываюць стагоддзі, гады.
Не згубі, калі ласка, дарогі,
Бо жыццё, сапраўды, час святы.

* * *

Адзінота...
Сумнае слова...
Быццам сэрца тваё памірае,
Нібы дробныя кроплі дажджу
На вачах тваіх астываюць...

Лягу ў ложак, але не магу спаць...
Адзінота мяне дакарае.
Цяжка бачыць яе...

Выйду ў поле я зорнай парою,
Каб пабачыць хістанне ялін.
Буду з месяцам там размаўляць
І раптоўна адновяцца крылы...

Прылячу я дамоў, але тут
Адзінота мяне сустракае...
Будзем з ёю сядзець да ранку,
Можа разам сустрэнем світанне.

Толькі раніцай знікне яна,
Мабыць, сонца тады я спаткаю...
Ці... дрымотны, счарнелы ліхтар,
Які ціхай надзеяй заззяе...

* * *

Хмары ў небе моўчкі разышліся,
Сонейка лагодна зіхаціць.
Ды пяшчоціць думкі, што спляліся,
Закаханым, ўсё як мае быць.

І прыемна, нат, у адзіноце,
Сэрцы нашы б'юцца ва ўнісон,
Без цябе сумую, скажаш: "Годзе!
Любы мой, сустрэнемся праз сон."

І спатканне гэтае, як подых,
Нібы песціць маці немаўля.
І няхай, хвілінак пяць... няпоўных,
Ў свеце будзем толькі ты ды я.



Дана Антановіч



...Упоцемках навобмацак крочу.

Наіўная.

Нечаканая...

# Чакаю. Прыходзь. Кажы.

### *КРОКІ*

Ён
Сеў побач з гаспадаром
Распачаў размову і цыгарэту:
"Яна
Была адзіным маім ліхтаром,
Рабіла ўсё, каб не ламаць адносін.
Яна — выключэнне з усіх правілаў,
Чуеш?
Яна прыстасоўвалася да ўсіх абставінаў.
Можа, таму, што змірыцца не магла сама з сабой.
Не пытала ніколі: "Ты са мною будзеш?"
Я разумеў і без словаў,
Пакуль
Не пачалося страшэннае:

Вытрымаць яе позіркаў-куль,
Не змог і я, ды цяпер для мяне яна — памерлая.
Што здарылася?..
Знікла. Толькі.
Незразумелая і нечаканая,
Зрабіла два крокі
Да новага закаханага”.

* * *

Чакаю. Прыходзь. Кажы.
То ж сэрца маё ірвецца.
Да сэрца мой сцяг прывяжы,
Дажджом паспрабуй сагрэцца.
І нават калі сну няма,
Мяне не крані і сэрца.
Я ведаю ўсё сама:
То ж сэрца тваё. Ірвецца.

* * *

Адшуканае
Слова маё — не адметнае.
Не шуканае.
Ад цябе галава баліць нясцерпна —
Табе гэта не цікава.
Зноўку маўклівая, прынцыповая.
Бо слоў не знаходжу,
Хаця сітуацыя і тыповая...
Упоцемках навобмацак крочу.
Наіўная.
Нечаканая.
Зрэшты ўжо сарамлівая.
Табой ашуканая.
Слова маё — не адметнае.
Не шуканае.
Ад цябе галава баліць нясцерпна —
Табе гэта не цікава.

## ЁЙ

У палоне шчырай душы
Сваё не згубі святло.
І вершы свае пішы
І лепей трымай вясло.
І зоркі няхай зіхацяць.

І золатам-валасы.
А тыя няхай маўчаць,
Што пляткарылі ўсе часы.
А час сцірае ноч,
Ноч, што была не твая:
Самотнаю зоркай кроч,
Свяці святлом ліхтара.
Ты пакліч мяне, калі цяжка.
І спрадвечны скончыцца дождж.
Не згубі цеплыню, калі ласка!
Тады час не загубіць ноч.

* * *

Тут павінны быць
Радкі пра каханне,
Але я рашыла
Прызначыць спатканне.
Субота. Вечар.
А сёмай гадзіне.
У вясновым скверы
Шукай рабацінне.
У святочнай хустцы
І ад ночы мружыцца.
Ліхтары шапочуць:
“Я хацеў бы спаткацца з Вамі
на вуліцы...”
Адзінота твая не трэба.
І каханне таксама...
Але ірвуцца нервы
Праз такое спатканне.
Я шукаю словы,
Бо ў вачах дакор:
Да д’ябла неба,
“Калі ўсе мы разам
ляцім да зор?”...



# у «Дзеяслове»

## Чорная зямля пад белымі крыламі

***Беларускія пераклады з афрыканскіх літаратураў***

### У афрыканскай глушы

Казаць пра тое, што за савецкім часам перакладаў на беларускую мову з афрыканскіх літаратураў было няшмат, наўрад ці трэба. А ў постсавецкі час перакладчыкі ўвогуле пачалі абыходзіць літаратурную Афрыку ўвагай – хапала і іншых справаў. Тое, што асобныя тэксты ў нас усё ж такі з'яўляліся – пры тым, што дагэтуль не перакладзеныя многія агульнапрызнаныя шэдэўры сусветнай літаратуры, – з аднаго боку, дзівіць (хтосьці ж і туды дабраўся!), з другога – не: перакласці невялічкае апавяданне з гэтага кантыненту было нашмат прасцей, чым верш Фэрнанду Пэсоа, альбо Готфрыда Бэна, альбо апавяданне Оскара Уайлда ці Эдгара По – прасцей як з літаратурнага, так і ідэалагічнага гледзішча. А таму ў друк траплялі творы пра апартэід і яго ахвяраў, пра змаганне афрыканцаў з белымі каланізатарамі і пра цяжкае жыццё чарнаскурых аўтахтонаў. І таму ў друку не з'яўляліся, напрыклад, класікі літаратуры Паўднёвай Афрыкі, якія прысвяцілі апартэіду крыху менш увагі, чым належала, альбо ўвогуле ўмудрыліся памерці яшчэ да таго, як праблема паўстала надзвычай востра, ні пісьменнікі, якія цікавіліся не столькі сацыяльнымі праблемамі сучаснасці, колькі гісторыяй і культурай свайго народа. Зусім з іншых прычынаў не з'яўляліся ў друку і аўтары, што пісалі на крыху менш вядомых, чым ангельская ці французская, мовах.

Менавіта таму большасць беларускамоўных перакладаў з літаратураў Афрыкі цяпер даўно забытыя і ляжаць там, дзе ім і належыць ляжаць, – у сховішчах бібліятэк: журботных аповедаў дзён мінулых нам і свае аўтары пакінулі больш чым дастаткова. Якасць многіх тэкстаў пагаршаецца яшчэ і тым, што перакладаліся яны з рускай мовы. Магчыма, невялікая цікавасць многіх наяўных тэкстаў тлумачыць і той факт, што большасць афрыканскіх перакладаў часта друкаваліся ў газетах і амаль не выходзілі ў кнігах і зборніках (за выключэннем трох выданняў, пра якія гаворка пойдзе ніжэй). Складаецца ўражанне, што ідэалагічна правільная Афрыка з'яўлялася ў друку выключна з нагоды савецкай "дружбы народаў" у мінімальных колькасцях – акурат такіх, каб чытачы не паспявалі пра яе забыць.

Большая частка афрыканскіх перакладаў зробленая з паўднёваафрыканскай літаратуры – з тых твораў, што пісаліся па-ангельску. Гэта і не дзіўна – Паўднёвая Афрыка мае вельмі багатую літаратурную традыцыю. Астатнія літаратуры прадстаўленыя мінімальна – у найлепшым выпадку адзін-два пераклады.

## Паўднёвая Афрыка ў рэалістычных апавяданнях

Два самыя буйныя перакладзеныя на сённяшні момант творы з літаратуры Афрыкі – раманы "Вянок Удома" Пітэра Абрахамса ў перакладзе С. Дорскага і "Трансваальскі эпізод" Гары Блума. Абодва пісьменнікі нарадзіліся, жылі і працавалі ў Паўднёвай Афрыцы, і іх творчасць яднае тэма змагання за свабоду.

Гары Блум (1913-1981) выдаў свой раман "Трансваальскі эпізод" (першапачатковая назва твора – проста "Эпізод") у 1956 годзе, і ў тым жа годзе атрымаў за яго прэмію Брытанскага клуба пісьменнікаў за дэбютны раман. Безумоўна, на сённяшні дзень самым цікавым момантам біяграфіі пісьменніка будзе тое, што ён стаў бацькам добра вядомага актора Арланда Блума. Але пакінем убаку гэтую падзею – яна адбудзецца нашмат пазней, пасля таго, як пісьменнік, некалькі разоў адседзеўшы на радзіме ў турме за свае погляды, у 1963 годзе эмігруе ў Вялікабрытанію – і вернемся да "Трасваальскага эпізоду". На беларускую мову раман быў выдадзены досыць аператыўна – ён выйшаў асобнай кнігай у перакладзе О. Няхай і А. Пракоф'евай (пад рэдакцыяй Я. Семяжона) ужо ў 1961 годзе, то бок усяго праз пяць гадоў пасля з'яўлення ў друку.

Дзеянне рамана адбываецца ў выдуманым горадзе Нелструме, які ёсць тыповым трансваальскім горадам са сваёй рэзервацыяй, дзе жывуць негры, а дакладней – усё не белае насельніцтва Нелструма. У рамане падрабязна апісваецца існаванне людзей ва ўмовах сегрэгацыі, і асноўная тэма твора – барацьба як чорных, так і белых афрыканцаў супраць апартэіду. Апісанне жорсткай расправы з супраціўнікамі апартэіду было па-свойму прароцкім – ужо праз некалькі гадоў пасля выхаду рамана штосьці падобнае пачало сапраўды адбывацца ў гарадах Паўднёвай Афрыкі.

Дзеянне другога рамана, "Вянок для Удома" (які выйшаў у тым жа 1956 годзе) таксама адбываецца ў выдуманым месцы – у краінах Панафрыка і Плюралія. Абодва раманы маюць шмат падобных рысаў, зрэшты, як і лёсы двух пісьменнікаў. Калі Блум быў незаконным сынам афрыканера і негрыцянкі, то сям'я Пітэра Абрахамса (нар. 1919) была яшчэ больш змяшанай – яго бацька паходзіў з Эфіопіі, маці – з "каляровых" Капскай правінцыі, у чыіх жылах цякла кроў многіх народаў. Ужо першы раман Абрахамса "Сцежкай грому" (1948) быў перакладзены на рускую мову і выйшаў у Савецкім Саюзе – гэтаму нямала паспрыялі левыя погляды пісьменніка і антырасісцкая скіраванасць яго творчасці. Такім чынам, "сцежка грому" была пратораная, і ўсяго праз год, у 1957-м, у газеце "Літаратура і мастацтва" ад 4 верасня з'яўляецца беларускі пераклад раздзела з рамана "Вянок для Удома" пад назвай "Два лагеры" ў перакладзе С. Дорскага.

Праз некалькі месяцаў у часопісе “Маладосць” (№ 1-3, 1958) выйшаў пераклад ужо ўсяго рамана, праўда, пад назвай “Афрыка ў агні”, а яшчэ праз год, у 1959-м, беларускі пераклад быў надрукаваны асобным выданнем пад першапачатковай назвай – “Вянок для Удома” (пераклад з ангельскай С. Дорскага).

Асноўны акцэнт у рамане робіцца на тэме змагання жыхароў-аўтахтонаў супраць каланізатараў. І калі кіраўнік вызваленчага руху ў Панафрыцы Майкл Удома становіцца на чале мясцовага ўраду, сфармаванага каланізатарамі, і робіцца прэм’ер-міністрам, такім чынам спрабуючы ажыццявіць змены мірным шляхам, то кіраўнік руху ў Плюраліі Дэвід Мхендзі ставіцца да ворагаў нашмат больш непрымірыма. У прадмове да рамана ў “Маладосці” не абышлося без тлумачэння цвёрдай пазіцыі часопіса ў дачыненні да асобы Удома – сам аўтар, здаецца, ставіцца да свайго героя нашмат больш прыхільна, нягледзячы на тое, што яго “праўленне” прыводзіць да трагедыі – Удома пад ціскам абставінаў выдае Мхендзі, і той гіне.

Пасля выхаду двух досыць аб’ёмных раманаў цікавасць беларускіх перакладчыкаў і выдаўцоў да паўднёваафрыканскай літаратуры зменшылася, хаця не знікла. Так, напрыклад, апавяданне Рычарда Райва (1931-1989) “Лаўка” (“Звязда”, 1963, 26 траўня, “Беларусь”, 1974, №9), перакладзенае С. Дорскім, пачынаецца сцэнай мітынгу, удзельнікі якога гавораць пра тое, што ўсе людзі роўныя і што за роўнасць гэтую трэба змагацца. Галоўны герой апавядання, гатэнтот Чарлі, наслухаўшыся прамоўцаў, пачынае такое змаганне, сеўшы на вакзале на лаўку “толькі для белых” і не ўстаючы з яе нават пад ціскам паліцыі.

Яшчэ адзін паўднёваафрыканскі пісьменнік, перакладаны на беларускую мову – Алекс Ла Гума (1925-1985), лідар Паўднёваафрыканскай арганізацыі каляровых, камуніст і змагар з апартэідам, аўтар шэрагу вострасацыяльных твораў і адзін з самых вядомых у свеце пісьменнікаў Паўднёвай Афрыкі. Пераклад апавядання Ла Гумы “У саване – вяселле”, падрыхтаваны Я. Семяжонам, выйшаў у часопісе “Полымя” (№4(468), 1968). Сюжэт апавядання вельмі просты – у творы расказваецца пра падрыхтоўку да вяселля ў досыць беднай афрыканскай сям’і. Уся падрыхтоўка – мітуслівая і няўклюдная – стварае фон для апісання каларытных персанажаў: матулі Польс, што мітусіцца і бегае больш за ўсіх, старэйшага брата нявесты Чарлі і дзядзькі Бэна, што, рыхтуючы вясельную прамову, неаднаразова прыкладваюцца да бражкі. Цалкам магчыма, што тэкст быў выбраны дзякуючы яго ідэалагічнай “правільнасці” – бедныя сяляне Паўночнай Афрыкі няшмат чым адрозніваюцца ад такіх самых бедных сялянаў беларускай літаратуры. Стварэнню такога падабенства спрыяе і падыход Я. Семяжона да тэксту – перакладаючы размовы герояў, ён арыентуецца на прастамоўе, якое можна знайсці і ў беларускіх творах, і такім чынам істотна змазвае каларытнасць апавядання, якое ў іншым выпадку магло б больш яскрава паказаць невядомы свет Афрыкі. Зрэшты, нават у наяўным перакладзе каларыт нівелюецца не дашчэнту, і крышачку афрыканскай экзотыкі чытачам усё ж перападае.

Нашмат менш каларыту і нашмат больш сацыяльнай праблематыкі апынаецца ў наступным перакладзеным на беларускую мову апавяданні паўднёваафрыканскага пісьменніка – Джэймса Мэцьюза (нар. 1929), паэта, празаіка і публіцыста, які пацярпеў ад палітыкі апартэіду. У 1970 годзе ў часопісе “Бярозка” (№10) выйшла ягонае апавяданне “Парк”, перакладзенае С. Дорскім. Герой апавядання – хлопчык-негр, які з захапленнем назірае праз агароджу за дзецьмі, што катаюцца ў парку на арэлях. Але ўвайсці ў парк ён не можа – стары вартаўнік старанна сочыць за тым, каб ніхто не парушаў забароны, што пазначана ля брамы: уваход толькі для белых. Замест таго каб бавіцца ў парку, хлопчык вымушаны адносіць бялізну, якую прала яго маці, белай гаспадыні. Аднак ноччу ён здзяйсняе сваю мару і прабіраецца ў парк – нягледзячы на тое, што чорны вартаўнік сочыць за атракцыёнамі нават уначы.

## Silva rerum афрыканскіх перакладаў

Алжырская проза ў беларускіх перакладах прадстаўленая адным апавяданнем Мухамеда Дзіба (1920-2003), аўтара больш чым 30 раманаў, а таксама шматлікіх апавяданняў, вершаў і твораў для дзяцей на французскай мове. Дзіб – адзін з самых вядомых алжырскіх пісьменнікаў, і адмысловае месца ў яго творчасці займае тэма барацьбы алжырцаў за незалежнасць. Апавяданне "Спадарожнік", перакладзенае С. Дорскім і надрукаванае ў часопісе "Полымя" (№11, 1958), акурат ускосна закранае тэму барацьбы за незалежнасць, паказваючы яе перадумовы. Аповед вядзецца ад імя бедняка Джэхі, што, сустрэўшыся са сваім старым знаёмым Зубірам, з кафейні трапляе ў турму; "прыгода" гэтая каштуе Зубіру жыцця. У канцы твора ці то яго герой, ці то сам аўтар прамаўляе маналог на тэму неабходнасці змагання з існым ладам, ілюстрацыяй якога робіцца не толькі "турэмны" эпізод, але і ўстаўная гісторыя бацькі Зубіра, што ўсё жыццё працаваў, перамолваючы каву, і памёр ад перанапружання. Мова перакладу характарызуецца пэўнай колькасцю русізмаў (зрэшты, як і мова многіх іншых перакладаў), што абумоўленае хутчэй не ўласна перакладчыцкім падыходам, а тагачаснай моўнай палітыкай.

Эфіопская літаратура прадстаўленая толькі адным аўтарам – Берхану Зэрыхун (1933/34-1987), пісьменнікам – прыхільнікам простага стылю пісьма, які істотна адрозніваўся ад тагачаснай літаратурнай "моды". Апавяданне "Каляровая трагедыя" ў перакладзе А. Каваля было надрукаванае ў газеце "Літаратура і мастацтва" (1961, 21 лістапада), аднак цяжка зразумець, з якой мовы яно перакладалася, магчыма, з рускай. Галоўны герой апавядання, зулус Кумуй, расказвае пра гісторыю свайго народа, захопленага каланізатарамі. Сам герой трапляе ў турму пасля арышту бацькі, апынуўшыся на плошчы "толькі для белых".

З рускай мовы перакладзенае апавяданне егіпецкага празаіка і драматурга Юсуфа Ідрыса (1927-1991) "Знаёмства", надрукаванае ў газеце "Чырвоная змена" (1965, 12 верасня, перакладчык не пазначаны), а таксама зборнік "Афрыканскія казкі" (1963).

Безумоўна, гэта не ўсе наяўныя на сённяшні дзень афрыканскія пераклады. Адмыслова вартыя згадкі пераклады з малагасійскай літаратуры, зробленыя Уладзімірам Палупанавым з французскай і малагасійскай моваў. Арыгіналы асобных твораў знайсці досыць складана, а без іх цяжка меркаваць пра працу тых ці іншых перакладчыкаў. У любым выпадку, найлепшыя творы з афрыканскіх літаратураў усё яшчэ чакаюць перакладу, і ёсць надзея, што лакуны паціху будуць запаўняцца.

**Ганна ЯНКУТА.**

## Генры Чарлз Босман. *(Паўднёва-афрыканская рэспубліка)*

## Зоркі над вельдам

Была халодная ноч, сказаў дзядзька Схалк Лоўрэнс, зоркі свяцілі такім марозным святлом, якое часам можна ўбачыць зранку на вільготнай траве, калі пераблытаеш паравіны году і прачнешся рана, забыўшыся, што на дварэ – зіма. Вецер нагадваў дзяўчыну, якая са слязьмі расказвала зоркам сваю гісторыю кахання і здрады.

Мы з Янам Акерсэ паехалі на запрэжанай асламі павозцы ў Дэрдэпорт. Вярталіся мы ўвечары. Ян Акерсэ сказаў мне пра дарогу вакол падножжа гары – найкарацейшы зваротны шлях у Драгефлей. У выніку мы сядзелі перад вогнішчам

у вельдзе[1], чакаючы раніцы. Лепш бы мы папрасілі кафра[2] паказаць нам кароткі зваротны шлях да падножжа гары.

– Але ж я ведаю, што гэта была правільная дарога, – настойваў Ян Акерсэ, кідаючы ў агонь чарговае бярэмя галля.

– Значыць, гэта быў не той пагорак, – адказаў я, – або не тая павозка. Калі толькі ты не хочаш, каб я паверыў, нібыта сяджу дома, у сваёй вітальні.

Святло полымя ціха танчыла на спіцах павозкі, і мне было прыемна думаць, што Яну Акерсэ не менш халодна, чым мне.

– Забаўная ноч, – сказаў Ян Акерсэ, – але я вельмі няшчасны і галодны.

Гэтаму я таксама быў рады. Я ўжо быў пачаў баяцца, што яго ўсё задавальняе.

– Ты ведаеш, як высока ад нас зоркі? – спытаў мяне Ян.

– Не, як высока адсюль – не ведаю, – сказаў я. – Але аднойчы я вылічваў, у мяне тады быў з сабой аловак. І я быў у Хайвельдзе. А адсюль, дзе мы цяпер, у Лоўвельдзе, зоркі нашмат далей. Бачыш, яны нават выглядаюць меншымі.

– Так, відаць, што так, – адказаў Ян Акерсэ, – але школьны настаўнік расказваў мне розныя рэчы ў *ба*ры ў Зэйрусце. Ён сказаў, што астраномы вылічваюць адлегласць да зоркі па колькасці гадоў, якая патрэбная, каб знайсці іх у тэлескопе. Гэты школьны настаўнік абмакнуў палец у брэндзі і намаляваў шмат усялякіх малюнкаў на барнай стойцы, каб паказаць мне, як гэта робіцца. Але адна частка малюнка пастаянна высыхала, пакуль ён маляваў другую. Ён сказаў, што гэта найгоршае сухое брэндзі. Да таго ж ён так і не паспеў усё растлумачыць, бо прыйшла бармэнка з анучкай і ўсё выцерла. Тады настаўнік прапанаваў мне пайсці з ім, каб паказаць мне ўсё на дошцы ў класе. Але бармэнка не дазволіла нам узяць шклянкі ў прыватны бар, і настаўнік зноў пацярпеў няўдачу.

– Гэта, відаць, нейкі новы від настаўнікаў, – сказаў я, – такі від, які вучыць дзяцей, што зямля круціцца вакол сонца. Дзіўна, што яго не выгналі з працы.

– Яго выгналі, – адказаў Ян Акерсэ.

Гэта я таксама быў рады пачуць.

Здавалася, нібы побач з месцам, дзе мы спыніліся, быў вадапой. Змрочна завыла пара шакалаў. Ян Акерсэ падскочыў і закінуў больш дроваў у агонь.

– Не люблю я крыкі гэтых жывёлін, – сказаў ён.

– Гэта ж усяго толькі шакалы, Ян, – адгукнуўся я.

– Я ведаю, – адказаў ён, – але я думаю пра нашых аслоў. Не хачу, каб яны спужаліся.

Раптам з цёмнага кустоўя да нас даляцела глыбокае скавытанне. І яно гучала не надта тужліва. Ян Акерсэ пахапкам закінуў дроваў у агонь.

– Відаць, лепей нам запаліць два вогнішчы і легчы спаць паміж імі, – сказаў Ян Акерсэ. – Нашыя аслы будуць менш баяцца, калі ўбачаць, што мы з табой у бяспецы. Ты ж ведаеш, як працуе мозг у асла.

У святле агню цьмяна выступалі шкілеты высокіх дрэваў, аб'едзеныя тэрмітамі, і хутка ў нас ужо было два вогнішчы. Да таго часу, як глыбокі рык з хмызоў данёсся да нас другім разам, я ўжо зрабіў нават большае вогнішча, чым у Яна Акерсэ, – выключна дзеля спакою нашых аслоў.

Затым зноў усё сціхла. Было толькі чуваць, як вецер блытаецца ў калючым галлі і ціха шапоча нешта, што можна пачуць толькі ўначы ў бушвельдзе[3].

Ян Акерсэ ляжаў на спіне, паклаўшы рукі пад галаву, і глядзеў на зоркі.

---

[1] Вельд (veld) — паўднёваафрыканскі стэп (афр.)

[2] Кафры — назва, якая давалася цемнаскурым жыхарам Паўднёвай Афрыкі, паганцам.

[3] Бушвельд — рэгіён на спякотным і сухім паўночным усходзе Паўднёвай Афрыкі і суседніх краін.

– Я чуў, што гэтыя зоркі – таксама сусветы, як і наш, – сказаў ён, – і што на іх нават жывуць людзі.

– Але я не думаю, што яны могуць вырошчваць кукурузу, – адказаў я, — занадта высока. Як ланцуг Снэўберге на Капскім паўвостраве. Але я думаю, у іх няблага выходзіць гадаваць коней і скаціну. Тут, у нізінах, у Марыка і Ватэрбергу, гэта складана: занадта шмат конскіх хваробаў і мух цэцэ.

– І матылькоў, – сонна прамармытаў Ян Акерсэ, – з залатымі крыламі.

Неўзабаве я таксама заснуў. А калі прачнуўся, вогнішчы ўжо дагаралі. Я ўстаў і падкінуў дроваў. Пабудзіць Яна Акерсэ я здолеў не адразу, бо мае вельдскуны[1] былі не дужа добрыя, з мяккім мыском. Урэшце ён сеў, пацёр вочы і сказаў, што не заплюшчыў іх ні на хвілю. Ён быў упэўнены, што не спаў усю ноч, бо – сказаў ён – увесь час уяўляў, як ганяўся за мухамі між зораў.

– І я б злавіў іх, – дадаў ён, – толькі са мной здарылася нешта дзіўнае, калі я пераскокваў з адной зоркі на іншую. Нібыта нехта мяне піхнуў.

Ян Акерсэ падазрона зірнуў на мяне.

Тады я сказаў: нескладана заўважыць, што гэта ён спаў.

Калі вогнішчы разгарэліся, Ян Акерсэ зноў сказаў, што гэта пацешная ноч, і зноў пачаў размаўляць пра зоркі.

– Як думаеш, Схалк, – спытаў ён, – што маракі робяць на моры, калі не ведаюць дарогі і навокал няма ніводнага карабля, каб спытаць?

– У іх усё запісана на кавалку паперы з чырвонымі і сінімі стрэлкамі, – сказаў я, – і ёсць чорныя лініі, якія паказваюць шлях з Кейптаўна да выспы Св. Алены. І графікі, дзе пазначана, на колькі міляў уніз апусціцца карабель, калі патоне. Я быў на выспе Святой Алены падчас англа-бурскай вайны[2]. На караблі можна жыць, як у фургоне, запрэжаным valamі. Толькі, канечне, там не так камфортна. І адлегласць паміж партамі большая, чым паміж дзвюма стаянкамі.

– Я недзе чуў, што маракі арыентуюцца па зорках, – сказаў Ян Акерсэ, – цікава, з чаго б гэта людзі расказваюць мне такія рэчы...

Нейкі час ён ляжаў моўчкі, глядзеў на зоркі і думаў.

– Памятаю, як аднойчы я спыніўся пераначаваць на верандзе ў Эні Стэйн і размаўляў з ёй пра зоркі, – сказаў Ян Акерсэ праз нейкі час. – Я збіраўся на фургоне з валамі да Лімпапо, бо была засуха. Я нагадаў Эні, што мяне не будзе да пачатку дажджоў, і сказаў, каб штоночы, калі я паеду, яна глядзела на пэўную зорку і думала пра мяне. Я паказаў ёй, на якую зорку глядзець. Вось гэтыя тры зоркі, побач, па простай лініі. Яна мусіць згадваць пра мяне, гледзячы на тую, што пасярэдзіне, сказаў я. Але Эні сказала, што Вілем Мостэрт, які паехаў на Лімпапо тыдзень таму, ужо выбраў гэтую, сярэднюю, зорку, каб згадваць пра яго. Добра, сказаў я, тады верхняя зорка. Але Эні сказала, што верхнюю заняў Стофел Брынк. Урэшце я пагадзіўся на ніжнюю, і Эні сказала, што будзе глядзець штоночы менавіта на ніжнюю з усіх трох зорак і думаць пра мяне; тут яе бацька, які, відаць, чуў усю размову, зайшоў на веранду і спытаў, а што рабіць воблачнымі начамі, і гэта, на яго думку, было вельмі дасціпна.

– І што было? – спытаў я Яна Акерсэ.

– Эні вельмі раззлавалася, – адказаў ён, – і сказала бацьку, што ён вечна ўсё псуе. Сказала, што ёй зусім не смешна, тым больш што я – ужо трэці хлопец, якому ён кажа адно і тое ж. Сказала, якая розніца, дурны хлопец ці не, – яе бацька не мае права кпіць з яго. Было прыемна чуць, што Эні стаіць за мяне. Так

[1] Вельдскуны (veldskoens) — моцныя скураныя ці замшавыя абутак (афр.).

[2] Востраў Святой Алены ангельцы выкарыстоўвалі як вязню (самы знакаміты зняволены — Напалеон). Пасля другой Англа-бурскай вайны туды былі высланыя каля 5 тысяч бураў.

ці інакш, тое, што было пасля, – гэта доўгая гісторыя. На Лімпапо я сустрэўся з Вілемам Мостэртам і Стофелам Брынкам. Мы былі разам некалькі месяцаў. І гэта, напэўна, было дзіўным відовішчам для чужаніцы: бачыць траіх хлапцоў, якія штоночы сядзяць вакол вогнішча і глядзяць на зоркі. Мы трымаліся па-сяброўску, і калі прыйшлі дажджы, утрох выправіліся назад у Марыка. І тады я зразумеў, што бацька Эні меў рацыю. Я маю на ўвазе воблачныя ночы. Як я зразумеў, была акурат такая ноч, калі Эні збегла ў Ёханэсбург з суседам, які ехаў на пошукі працы ў рудніках.

Ян Акерсэ ўздыхнуў і вярнуўся да сваіх думак.

Але за нашымі размовамі і сном ноч ужо заканчвалася. Мы пакінулі толькі адно вогнішча і па чарзе дадавалі ў яго галінкі. Перад самым світанкам зрабілася халодна, і мы абодва дрыжалі.

– У кожным разе, – сказаў Ян Акерсэ праз нейкі час, – цяпер ты ведаеш, чаму мяне так цікавяць зоркі. Я быў зусім хлапцом, калі гэта здарылася. І я мала каму расказваў пра тое. Усяго чалавекам сямнаццаці. Астатнія не сталі б слухаць. Але заўсёды ў ясныя ночы, калі я бачу шэраг з гэтых трох яркіх зорак, я доўга ўглядаюся ў ніжнюю, і мне здаецца, што яна неяк па-сяброўску свеціць мне. Відаць, гэта мая зорка, і яе святло адрозніваецца ад святла іншых зорак... І ведаеш, Схалк, у Эні Стэйн такія чырвоныя вусны. І такія доўгія, мяккія валасы, Схалк. І гэтая яе ўсмешка...

Потым зоркі пасвятлелі, і мы пачалі зганяць аслоў і рыхтавацца ў дарогу. І я хацеў ведаць, што б падумала Эні Стэйн, калі б ведала, што ўсе гэтыя гады быў чалавек, які глядзеў у ясныя ночы на зорнае неба і марыў пра яе вусны, яе валасы і яе ўсмешку. Але калі я падумаў пра гэта, то зразумеў адказ. Канечне, Эні Стэйн не падумала б нічога пра Яна Акерсэ. Увогуле нічога.

І, без сумневу, Эні Стэйн мела б рацыю.

Але было дзіўна думаць, што мы цэлую ноч размаўлялі пра зоркі. І да гэтага моманту я не ведаў, што ўсё гэта было праз гісторыю кахання, якая здарылася шмат гадоў таму.

Мы залезлі ў павозку і скіраваліся дадому.

– Я ведаю, што школьны настаўнік з бара ў Зэйрусце памыліўся, – сказаў урэшце Ян Акерсэ, – калі спрабаваў патлумачыць, як далёка ад нас зоры. Ніжняя з гэтых трох зорак – о, яна толькі што ўпала, – вельмі блізка ад мяне. Сапраўды, вельмі блізка.

*Пераклала з ангельскай мовы Алена ПЯТРОВІЧ.*

## Тоцыюс. *(Паўднёвая Афрыка)*

### *НОЧ НА МОРЫ*

*Ля Адэна*

Тут мора і цямрэча, як тады,
калі зямля была яшчэ пустой
і толькі ноч лунала над вадой.

Ні зор, ні далягляду не відаць,
ні пробліску не выхапіць здаля,
рыпіць ад хваль абшыўка карабля.

І ўсё ж няўхільна ён плыве наўслеп
пясчынкай, што ў цямрэчу замяло,
адно на компас падае святло.

### *АДЭН*

Вада зямная тут увыш ідзе,
нябачна для вачэй змяняе нораў –
з паўвысахлых і паўнаводных мораў
на Адэн ані кроплі не ўпадзе.

Сцягнулі хаты пасам наваколле,
над імі – стром зубчастыя муры,
абпаленыя, як Садом стары.
Вось Адэн – месца вусцішы і болю.

Тут лёс зямлі прадбачу праз гады,
тут боль зямлі спазнаю даастатку.
Канец тут неаддзельны ад пачатку:
адвечна смягнуць горы ля вады...

### *СФІНКС У МЭМФІСЕ*

Вось тулава ільва, што з года ў год
чакае з жорсткай прышласцю сустрэчы,
а чалавечы твар глядзіць на рэчы
задумліва, ціхмяна, без турбот.

Калісь рука дала гранітным плітам
само жыццё, і свой магутны дух,
і гэтых дзіўных вуснаў лёгкі рух –
і я зачараваны маналітам.

Я з тых часоў хачу зрабіцца ім,
каб углядацца ў гэтыя абшары
з ціхмянай задуменнасцю на твары —
і ўсмешкай незямной перадусім.

*Пераклала з афрыкаанс Ганна ЯНКУТА.*

## Э. Ч. Асонду. *(Нігерыя)*

## У чаканні

Мяне завуць Арланда Закі. Арланда – ад “Арланда, штат Фларыда”. Так напісана на маёй майцы, якую мне даў Чырвоны Крыж. Закі – назва горада, дзе мяне знайшлі і адкуль прывезлі ў гэты лагер уцекачоў. Маіх сяброў у лагеры ведаюць па надпісах на іх футболках. Акапулька носіць майку з надпісам “Акапулька”. На

майцы Сэксі напісана “Скажы, што я сэксі”. А ў Парыжа на майцы – “Пабачыць Парыж і памерці”. Як толькі ён набліжаецца да мяне, я заплюшчваю вочы, бо не хачу паміраць. Калі нехта атрымлівае новую майку, старое імя ўсё роўна застаецца пры ім. Парыж надоечы атрымаў адну з надпісам “Спытай мяне пра Ісуса”, але мы дагэтуль завем яго Парыжам і ні пра кога ў яго не пытаемся. Неяк у нашым лагеры было дзяўчо з надпісам “Малако тут!”. Яна выкінула яе, бо некаторыя лагерныя хлопцы ўвесь час хапалі яе за цыцкі, правяраючы, ці ёсць там малако. Ніколі не ведаеш, што за надпіс будзе на тваёй майцы. Мы за іх змагаемся ды б’емся, і ты, лічы, шчаслівчык, калі трапіцца хоць нешта. Ну, возьмем Адстоя: на яго майцы – “Мой тата паехаў у Елаўстоўн і прывёз мне гэтую адстойную майку”. Біцца ён не ўмее, таму новай футболкі яму не атрымаць, і ён носіць усё тую ж ад самага свайго з’яўлення ў лагеры. І хоць надпіс на ёй даўно ўжо сцёрся, імя засталося. А некаторым шанцуе: у Лондана на майцы было напісана “Лондан”, і цяпер ён у Лондане. Яго ўсынавіла тамтэйшая сям’я. Можа, я знайду сям’ю ў Арланда, штат Фларыда, якая ўсынавіць мяне.

Пачаць пісаць гэтую кнігу мне прапанавала сястра Нора: яна кажа, найлепшы спосаб забыць – гэта запомніць, а найлепшы спосаб запомніць – гэта забыць. Вось так сястра Нора закручана і гаворыць. Мне падаецца, гэта таму, што яна вялебная сястра і любіць гаварыць прытчамі, як Ісус. Гэта яна дае мне чытаць кніжкі. Яна кажа, у мяне дар расказваць гісторыі. Таму яна і лічыць, што некалі я стану пісьменнікам.

Першая кніга, якую яна дала мне пачытаць, была “У чаканні Гадо”. Яна кажа, што людзі ў кнізе чакаюць Бога, які прыйдзе і выратуе іх. У лагеры мы чакаем, чакаем і чакаем ізноў. Гэта ўсё, што мы робім. Мы чакаем, калі прыедуць грузавікі з ежай, затым шыхтуемся ў раўнюткую чаргу, пасля чакаем некалькі хвілін, пакуль чарга рассыплецца, пасля чакаем, калі ўсчыніцца бойка, пасля сварымся і б’емся, кусаемся і праклінаем, рвем, хапаем і бяжым прэч. А затым пачынаем углядацца ў дарогу, чакаючы, калі з’явіцца грузавікі з вадою, і ўглядаемся, пакуль не падымецца пыл, і тады ідзем кожны па сваю пасудзіну і пачынаем чакаць, а потым грузавікі прыязджаюць, і першыя пасудзіны напаўняюцца, і зноў пачынаецца сварка, бойка, кусанні й драпанні, бо нехта шапнуў, што ў цыстэрне мала вады. Так бывае, калі нам напраўду пашанцуе, і грузавік з вадой прыедзе; але часцей мы проста выносім на двор свае пасудзіны і пачынаем чакаць ды маліцца, каб пайшоў дождж.

Сёння мы чакаем фатографа, які мусіць нас сфатаграфаваць. Гэтыя фотаздымкі Чырвоны Крыж дасылае сваім людзям за мяжой, а тыя паказваюць іх розным іншым людзям у далёкіх краінах, і пасля таго сем’і замежнікаў абіраюць тых, хто ім спадабаецца і будзе з імі жыць. Мы чакаем фатографа ўжо трэці тыдзень, але ён мусіць прабрацца праз зону ваенных дзеянняў, а таму сёння можа і не паспець. Пасля здымкаў нам давядзецца чакаць, пакуль ён надрукуе фота і прывязе назад. Затым мы аддамо іх Чырвонаму Крыжу і пачнем чакаць адказу з-за мяжы.

Я хачу пайсці да свайго сябра пад адзіным дрэвам, што яшчэ ёсць у лагеры. Акапулька падымае ўверх жменю чырвонага пяску і расціскае руку, чакаючы ветру, але яго няма, і чырвоная зямля роўным струменем сыплецца ўніз.

– Арланда, думаеш, фатограф сёння прыйдзе? – пытаецца ён.

– Можа й прыйдзе.

– Думаеш, амерыканская сям’я мяне ўсынавіць?

– Калі пашэнціць.

– І яны вылечаць тое, што я сікаюся ў ложак?

– У Амерыцы ёсць таблеткі ад усіх хваробаў.

– Я не хворы, я проста сікаюся ў сне, бо мне заўжды сніцца, што я выходжу на двор пасікаць, а калі прачынаюся, порткі мокрыя, бо гэта быў толькі сон, а сікуны сапраўдныя.

– Адзін і той жа сон кожную ноч?

– Ага.

– Як ты думаеш, калі я паеду ў Амерыку, ці пачуюць мае бацькі пра мяне, ці напішуць мне, а я напішу ў адказ і папрашу сваю новую сям'ю, каб іх забралі і пасялілі са мной?

– Калі вайна скончыцца, твае бацькі цябе знойдуць.

– А калі яна скончыцца?

– Не ведаю, але ж хутка скончыцца.

– А калі вайна скончыцца хутка, чаму Чырвоны Крыж высылае нас у Амерыку?

– Таму што не хочуць, каб мы ўступалі ў Маладую Брыгаду і стралялі, забівалі, гвалтавалі, рабавалі, палілі, кралі, разбуралі, біліся да канца, паміралі і не хадзілі ў школу.

Вось чаму Акапулька ўвесь час самотна сядзіць пад дрэвам: таму што заўжды задае шмат пытанняў. Сястра Нора кажа, што задаваць пытанні – гэта добра, бо калі ты спытаешся, то ніколі не згубішся. Акапулька зноў пачынае сыпаць пясок, чакаючы ветру. Гной цячэ з яго вушэй, і таму ён смярдзіць, нібы падтухлае яйка. Вось яшчэ адна прычына, чаму ўсе трымаюцца ад яго падалей. Муха гудзе ў яго над вухам, пэўны час ён не звяртае на яе ўвагі, але як толькі яна збіраецца сесці, ён злосна гоніць яе прэч.

– Хачу сабаку, – кажа Акапулька.

– А нашто табе сабака?

– Я сфатаграфуюся з ім, і гэты здымак пашлюць у Амерыку, бо белыя людзі любяць сабакаў.

– Але ж яны і людзей любяць.

– Так, але яны любяць людзей, якія любяць сабакаў.

– Лондан не фатаграфаваўся з сабакам.

– Ага, Лондан цяпер у Лондане.

– Можа, ты хутка будзеш у Акапулька, – смяюся я.

– А дзе гэта – Акапулька?

– У іх там вялікі акіян, прыгожы і сіні.

– Акіян мне не падабаецца, я не ўмею плаваць. Я хачу паехаць у Амерыку.

– Усе ў Амерыцы ўмеюць плаваць, ва ўсіх дома ёсць басейн.

– Я б паплаваў у басейне, а не ў акіяне. Я чуў, што вада ў басейне лагодная, чыстая, блакітная і карысная для скуры.

Пэўны час маўчым. Чуем гук алюмініевых плітаў, з якіх складаецца дом – злосны гук, нібы нехта страляе дробнымі кулямі. Дамы з брызенту і пластыкавых панэляў трапечуць ад ветру, быццам тысячы паветраных змеяў. Акапулька ўздымае жменю пяску. Вецер нясе пясок прэч. Трохі пяску трапляе нам у твар, і Акапулька ўсміхаецца.

– Бог не спіць, – кажа ён. Я маўчу.

– Раней у лагеры былі сабакі. – Акапулька тут жыў яшчэ да мяне, ён амаль даўжэй за ўсіх жыве ў лагеры.

Тут была процьма чорных сабакаў. Яны былі нашымі сябрамі, нашымі абаронцамі. І хоць ежы было няшмат, сабакі ніколі не галадалі. Жанчыны клікалі іх, калі дзіця прысаджвалася пакакаць, і сабакі былі тут як тут. Яны чакалі, пакуль дзіця скончыць сваю справу, начыста вылізвалі яго азадак, а пасля з'ядалі яго какешкі. Людзі кідалі ім аб'едкі. Сабакі былі карысныя і ў іншым. У тыя часы ворагі ўсё яшчэ часцяком нападалі на лагер. Мы хаваліся ў ямах, а сабакі цягалі лісце і рознае смецце, каб накрыць зверху яміну, дзе мы хаваліся. Ворагі праходзілі ля самай яміны і не ведалі, што мы там.

Але аднойчы здарылася так, што Чырвоны Крыж не прывозіў ежу цягам двух

тыдняў, бо ворагі не давалі іх самалёту прызямліцца. Мы былі галодныя настолькі, што забілі некалькі сабакаў і зварылі з іх поліўку з перцам. Праз некалькі дзён супрацоўнікаў Чырвонага Крыжа прапусцілі, і ежа прыехала. Сабакі крыху насцярожыліся, але выглядала на тое, што яны разумелі – мы не вінаватыя.

Другі раз ежы не было вельмі доўга. Тады нам удалося злавіць толькі некалькі сабакаў. Некаторыя з іх уцяклі, як толькі мы наблізіліся, але некалькіх мы схапілі, прыгатавалі і з'елі. Пасля гэтага сабакаў не бачылі. Тыя, што ўцяклі, трымаліся падалей. Аднойчы дзіця прысела на кукішкі і вырашыла пакакаць. Калі ж маці адвярнулася, з паўтузіна сабакаў, што некалі збеглі, выскачылі аднекуль і накінуліся на дзіцятка. Пакуль маці крычала, яны разарвалі яго на шматкі і ўцяклі, трымаючы ў зубах кавалкі дзіцячага мяса. Некаторыя мужчыны ладзілі на сабакаў засады і некалькіх забілі. Яны кажуць, што сабакі зрабіліся лютымі, як ільвы. І больш іх не відаць. Кажуць, гэта ўсё праз вайну.

Я падумаў, што хачу запытацца пра гэта ў сястры Норы. Акапулька, быццам прачытаў мае думкі, папрасіў мяне нікому пра гэта не гаварыць. Ён сказаў, што ў лагеры ніхто не любіць згадваць пра сабакаў.

– Я не ўпэўнены, што фатограф сёння прыйдзе, – прамовіў я.

– Часам мне падаецца, што ў маёй галаве засела куля, – сказаў Акапулька.

– Калі б у тваёй галаве была куля, ты б адразу памёр.

– Яна прайшла праз хворае вуха. Я чую выбухі ў галаве, стрэлы, галасы, што крычаць: банза, вырадак, выходзь, мы сёння пап'ем тваёй крыві, а пасля чую пах карбіду, пораху і паленай саломы. Я не люблю паху дыму, калі жанчыны гатуюць на агні, бо з маёй галавы пачынаюць вылятаць кулі.

– У Амерыцы ў цябе ўсё наладзіцца. Яны не гатуюць на агні, у іх электрычнасць.

– Ты ўсё ведаеш, Закі. Адкуль ты ўсё гэта ведаеш, ты ж ніколі там не быў...

– Я чытаю многа кніжак, у кніжках шмат чаго напісана, а часам яны таксама расказваюць гісторыі, – адказаў я.

– А я не люблю кнігі, дзе няма малюнкаў. Я люблю кнігі з вялікімі каляровымі малюнкамі.

– Не ва ўсіх кніжках ёсць малюнкі. Толькі ў кніжках для дзяцей.

– Я стаміўся фатаграфавацца і дасылаць здымкі за мяжу ў сем'і, якія мяне не хочуць. Амаль усе, з кім я трапіў у лагер, знайшлі сабе сем'і і цяпер жывуць за мяжою. Адзін мой сябар даслаў мне фотаздымак з аднаго месца, завецца Дакота. Чаму ніводная сям'я не ўсынавіла мяне? Думаеш, ім не падабаецца мой твар?

– Гэта толькі ўдача, табе пакуль проста не пашчасціла.

– Часам мне хочацца ўступіць у Маладую Брыгаду, але баюся: кажуць, яны прымушаюць паліць "траўку", і піць кроў, і клясціся, што не пашкадуеш ніводнай жывой душы, нават сваіх бацькоў.

– Сястра Нора раззлуецца на цябе за такія словы. Ты ж ведаеш, яна так для нас стараецца і Чырвоны Крыж таксама. Яны спрабуюць знайсці для цябе сям'ю.

– Там, у Дакоце, мабыць, вельмі шмат камянёў.

– Чаму ты так кажаш?

– Проста гэтае слова так гучыць – нібы мноства вялікіх камянёў раптам коцяцца адзін за адным.

– А я хачу туды, дзе анёлы.

– Ты пра Лос-Анджэлес?

– Яны перабілі амаль увесь мой народ, усіх, хто не мог правільна вымавіць імя галоўнага паўстанца, яны казалі, што мы не зможам вымавіць Цофа, мы ўсе казалі Тофа, і яны працягвалі нас забіваць. Мой сябар тут, у лагеры, навучыў мяне казаць Цофа, ён тлумачыў, што я мушу вымаўляць гэтае імя так, нібыта ў роце пясок. Нібы жвір на языку. Цяпер я ўмею яго казаць і так, і так.

– Добра. Калі ты паедзеш у Амерыку, навучышся размаўляць, як яны. Будзеш спрабаваць праглынуць язык, вымаўляючы словы па-іхняму, быццам камяк у роце захрас.

– Трэба ісці. Хутка ўжо абед.

– У мяне няма сілы біцца. Штораз як прыходзіць абед, я пачынаю баяцца. Калі б толькі са мной была маці, я б не быў перамешчаным. Яна б гатавала для мяне, і мне б не трэба было штораз біцца за ежу.

Мы абодва глянулі на дым, што віўся ўверх з буданоў, дзе некаторыя жанчыны гатавалі даву[1]. Тых, у каго ёсць маці, лёгка адрозніць, бо з іх буданоў у абед заўжды падымаецца дым. Я раздумваў, ці знойдзем мы з Акапулькам нарэшце сям'ю, бо мы, перамешчаныя асобы, сем'яў не мелі. А ў большасці з тых, хто выехаў за мяжу, сям'я была. Я пра гэта не кажу Акапульку, я не хачу, каб ён пачаў успамінаць сваіх бацькоў, якія не маглі вымавіць "Цофа". Я неяк чуў, як нехта ў лагеры казаў, што калі б Бог хацеў, каб мы маглі сказаць "Цофа", ён быў даў нам языкі, здольныя на такое.

– Пайшлі са мной, я дапамагу табе біцца за ежу, – кажу я Акапульку.

– Табе не трэба біцца, Арланда. Усе дзеці цябе паважаюць, кажуць, што ты нікога і нічога не баішся, што сястра Нора любіць цябе, і яшчэ яны кажуць, што ў цябе ёсць кніга, куды ты запісваеш усё кепскае, што робяць людзі, а пасля даеш яе пачытаць сястры Норы, і вы абодва чытаеце і трасяце галовамі, і смеяцеся, як amariya and ango[2], як муж і жонка.

Мы падняліся і накіраваліся да накрытага хвалістымі плітамі будана, дзе мы звычайна абедалі. Я чуў пах давы, гэта заўжды была адна і тая ж дава, тыя самыя зялёныя мухі і тыя самыя пагнутыя, напаўскамечаныя алюмініевыя талеркі, але мы ўсё роўна біліся за ўсё гэта.

Кімано спачатку пабачыў мяне і пачаў гукаць, хутка да яго далучыліся Аруба, Ерусалім, Адстой, Гамбургер, Маёрка і іншыя. Галоўная кухарка стаяла перад талеркамі з давай і зялёным супам. На яе твары быў асаблівы выраз – быццам у мужчыны, які хутка пабачыць дзвюх прыгожых жанчын, што зняславяцца бойкамі і раздзяваннем у яго прысутнасці. Яна пагразіла нам пальцам і сказала:

– Сёння ніякіх боек, хлопцы.

Гэтага сігналу мы і чакалі, каб рынуцца з месца. Дава і суп расплюхаліся на падлозе. Некаторыя спрабавалі зачарпнуць крыху ў рот, б'ючыся за талерку, на выпадак, калі ім нічога не дастанецца пасля бойкі. Я схапіў кавалак давы і кінуў яго Акапульку, і ўжо быў учапіўся пальцамі ў талерку супу, як Адстой выбіў яе, і суп выліўся на падлогу. Ён засмяяўся сваім шалёным смехам гіены і прасычэў: пракажоны можа не ўмець даіць карову, але заўжды ведае, як выліць малако ў вядро. Кухарка працягвала крычаць: гэй, хопіць біцца, па адным, станьце ў чаргу, давы хопіць на ўсіх. Мне ўдалося выхапіць міску з рэшткамі супу, і, зрабіўшы знак Акапульку, я пачаў прабірацца праз натоўп. Мы прыселі на кукішкі за кухняй-буданом і пачалі засоўваць пальцы ў ежу, вольнай рукою адганяючы вялізных мух. У нас было два цвёрдыя кавалкі давы і вельмі мала супу. Я з'еў некалькі прыгаршчаў і выцер рукі аб шорты, пакінуўшы астатняе Акапульку. Яму было нялёгка – даводзілася адганяць мух і ад хворага вуха, і ад талеркі з ежай, і таму ён падзякаваў мне вачыма.

Я памятаю, як сястра Нора дала мне пачытаць кнігу пра беднага хлопчыка, які жыў у Англіі ў даўнія часы. Той прасіў дабаўкі ў кухара. На малюнку хлопчык не падаваўся мне такім ужо бедным. Усе хлопчыкі ў кнізе насілі паліто і капелюшы, іх нават абслугоўвалі. Нам жа трэба біцца, і калі б мы папрасілі ў кухаркі дабаўкі,

---

[1] Дава — традыцыйная нігерыйская страва.

[2] Amariya and ango — жаніх і нявеста (з мовы хаўса).

яна б паказала на раскіданыя кавалкі давы і на разліты на падлозе суп і сказала, што мы любім займацца марнатраўствам. Аднойчы я загаварыў з сястрой Норай пра абеды і бойкі, але яна сказала, што не хоча ў гэта ўмешвацца. Упершыню я стаў сведкам таго, як яна адмовілася знайсці рашэнне нейкай праблемы. Яна патлумачыла, што не працуе на Чырвоны Крыж і гасцюе тут гэтаксама, як мы.

Я пачаў думаць, як адкараскацца ад Акапулька, мне трэба было крыху пабыць аднаму, але не хацелася зрабіць яму балюча. Я папрасіў яго занесці талеркі назад у кухню-будан. Іх не трэба было мыць, бо мы ўжо чысцютка вылізалі ўсё языкамі.

Калі Акапулька скіраваўся з талеркамі ў будан, я ціхенька збег.

*Пераклала з ангельскай мовы Юля ЦІМАФЕЕВА.*

## Эжэн Марэ. *(Паўднёвая Афрыка)*

### *ЗІМОВАЯ НОЧ*

О, вецер няўмольны,
калі
у шэрым сутонні
палі.
Як Божая ласка, прасторы,
а над вельдам – і цені, і зоры.
А ў высокіх далінах
на абвугленых клінах –
нецярплівыя хвалі
далоняў раслінных.

О, боль несупынны
прарочаць вятры,
нібы песня дзяўчыны
у любоўным віры.
І блішчыць у раслін
кожны ліст, кожны згін
расой, што замерзне
праз колькі хвілін.

*Пераклала з афрыкаанс Ганна ЯНКУТА.*

## Сулейман Дыяманка. *(Сенегал)*

### *ПАПЯРОВЫ МАТЫЛЁК*

Няхай ён выйшаў з маіх нататак і табе даспадобы надта нават калі так –
то гэта не мой верш а папяровы матылёк
Ён ляціць каля ці па-над барханам поўным кахання сярод пустыні
Манеры пісьмовых манеўраў ёсць тым чым яны ёсць
Па меры таго як атрамант сцякае з паперы ў прорву водар словаў
сцірае тое чым яны ёсць

Нібы далікатная кветка што няўмела махаючы пялёсткамі ўзляцела
Папяровы матылёк пракладае дарогу ад гарызонту
да свайго роднага нябеснага цела
Ён носіць на скуры ўласных крылаў маўклівую татушку
Такую ж хацелі б і птушкі лёгкіх паводзінаў сваякі таму што
Калодзеж адзінокіх грудзей не чакае дождж у адзін і той жа дзень
Калі клёкат вады – клёк адновіць усё
Ачысціць акіянскі пясок трысцё і салёную сумесь сліны й слёз
Каб зрабіць крок у несмяротнасць папяровы матылёк заплаціў аброк
уласным жыццём
Няхай ён выйшаў з маіх нататак і табе даспадобы надта нават калі так –
то гэта не мой верш
Ён стаў нечым такім неадчэпным што навідавоку але не заўжды дарэчы
Адбіткам унутры янтару вобраз якога аўтару падарыў майстра стары
Каб утапічныя фразы адразу праціналі мёртвыя вуглы звужаючы іх паціху каб
Кожная вайна аднойчы знікла на дне пацыфіка
Няхай ён выйшаў з маіх нататак і табе даспадобы надта нават калі так –
то гэта не мой верш а папяровы матылёк

*Пераклаў з французскай Уладзь ЛЯНКЕВІЧ.*

## ЗАКАХАНАЯ МУЗА

Муза пазуе ў метафары дзеля метамарфозы, каб паэта зрабіць мастаком,

У духмянай купальні шлюзы адкрыўшы, пазычыўшы сны, што пазней у вясны
зноў пазычыць...

Ты, што ўначы пазіраеш мне ў вочы, будзеш зоркай у танцы і музаю крозы,

Будзеш пякучаю зоркай, танцоркай жарснае позы,

І каб нам не паддацца падману начных даляглядаў,

Я дарую табе кветкі вершаў маіх – сведкі пяшчоты й панадаў.

Я на цябе накладаю словаў грунтоўку, бы рэдкі ядваб, які здымаю пасля з
асалодай...

Я маю цэлую ноч, каб тваю даследаваць скуру, спазнаць твае прыгажосці
фактуру і характва прыроду...

Я ў тваю апускаюся ванну і чую пошум дажджу... Выходжу з межаў танцу
ў верасе, вочы змежыўшы ў эрасе танцу вер....

Кажуць, кахацца – значыць не бачыць больш розніцы паміж аддаць і аддацца.

Я старонку пяшчотаю спісваю, каб цела тваё летуцела і вершам маім ляцела...

Я кахаў цябе, усхваляваную музу, у схове нямога музея ў наступную ноч
пасля бунту.
Як толькі імя тваё пратрымцела ў цемры начных калідораў, на вачах адной,

а можа, дзвюх душаў па ўзмаху пяра закаханага фульбе-паэта акіяны ўзняліся да сонца... Хто будзе кахаць цябе лепей... Навісла пытанняў пагроза, і сэрца ратуе нас дозай спагадлівай прозы – ды хіба, не спустошыўшы тысяч чарніліц, мы ў стане пісаць каханне, якое паўстане так, як ніколі раней? Хіба я скажу пра сваю асалоду без крыку? Люстэрка маіх пачуццяў твой захавала адбітак, каб не забыць тваіх блікаў, гэта нібыта вясельнае шэсце на сёмым ад шчасця небе прадвесця. Вуснай традыцыяй ад самых вытокаў натхнёны, я твайго шукаю маўчання, тваіх эрагенных зонаў...

Для цябе балансую на звязках галасавых – дыване аксамітным дыхання, перакладаю імя тваё ўслых на мову маю: ты завешся Каханне...

*Пераклаў з французскай мовы Андрэй СТЭФАНОВІЧ.*

## Генры Алан Фаган. *(Паўднёвая Афрыка)*

### *МОЙ ДОМ СТАІЦЬ ЛЯ МОРА...*

Мой дом стаіць ля мора. Уначы
чуваць, як б'юцца пенныя валы
і ля скалы, дзе мой дамок малы,
прыбой шалее злы і хваль бічы.
Чуваць, як бура стогне, равучы,
бы душы тых, каго пракляў нябыт,
што не спачылі між магільных пліт,
чыім пакутам не дапамагчы.

Гарыць агмень, камін дае цяпло.
Чуваць, як шторм бушуе за акном,
чуваць, як вецер ломіцца ў мой дом,
але ўнутры – утульнае жытло.
Хай ноч, хай навальніца, хай валы –
стаіць скала, а з ёй – дамок малы.

*Пераклала з афрыкаанс Ганна ЯНКУТА.*

## Джозэф Конрад. *(Вялікабрытанія)*

# Аванпост прагрэсу

### I

Гандлёвай станцыяй загадвалі двое белых. Каер, начальнік, быў маленькі і круглы. Карлье, ягоны памочнік, – высокі, з вялікай галавой і вельмі шырокім торсам, пасаджаным на доўгіх тонкіх нагах. Трэцім на станцыі быў чарнамазы з Сьера-Леонэ, які сцвярджаў, што яго завуць Генры Прайс. Аднак з невядомай прычыны тубыльцы ніжэй па рацэ празвалі яго Макола, і гэтае імя прыстала да яго назаўсёды, колькі ён ні вандраваў па гэтым краі. Ён размаўляў па-ангельску і па-французску з птушыным акцэнтам, меў прыгожы почырк, знаўся на бухгалтарскім уліку і ў глыбіні душы працягваў шанаваць злых духаў. Яго жонкай

была мурынка з Луанды, вялізная і вельмі шумная жанчына. Перад уваходам у яго прыземістую, падобную да хлява хату круціліся на сонцы трое дзяцей. Маўклівы і скрытны, Макола пагарджаў гэтымі белымі. Ён адказваў за невялікі гліняны склад пад саламянай страхой і рабіў выгляд, быццам з поспехам вядзе ўлік пацерак, бавоўы, чырвоных хустак, меднага дроту і іншых тавараў, якія ў ім захоўваліся. Акрамя склада і Маколавай хаты на расчышчанай пад станцыю тэрыторыі была ўсяго адна вялікая пабудова. Яна была ахайна складзеная з трыснёгу і з усіх чатырох бакоў абнесеная верандай. Усярэдзіне былі тры пакоі. Цэнтральны – гасцёўня з двума грубымі сталамі і некалькімі табурэткамі. Два іншыя – спачывальні для белых. З мэблі ў кожным было па раме ад ложка і маскітнай сетцы. На дашчанай падлозе валяліся рэчы белых: паўпустыя адчыненыя скрыні, рваная вопратка, старыя чаравікі – брудны і паламаны хлам, які неспасціжным чынам збіраецца паўсюль, дзе жывуць неахайныя мужчыны. На некаторай адлегласці ад будынкаў было яшчэ адно населенае месца. У ім, пад высокім і моцна пахіленым крыжам, спачываў чалавек, які быў сведкам таго, як усё пачыналася. Ён планаваў і назіраў за будоўляй гэтага аванпоста прагрэсу. Дома ён быў няўдалым мастаком, які стаміўся на пусты страўнік ганяцца за славай і з'ехаў прэч з дапамогай высокіх заступнікаў. Ён стаў першым начальнікам станцыі. Макола назіраў, як гэты бадзёры мастак памёр ад ліхаманкі ў ледзьве дабудаваным доме, са сваёй звычайнай абыякавасцю, быццам гаворачы: "А я ж казаў". Тады нейкі час тут жыў толькі ён са сваёй сям'ёй, рахунковымі кнігамі і Злым Духам, які кіруе землямі ніжэй за экватар. Са сваім богам ён ладзіў выдатна. Можа, задобрыў яго тым, што паабяцаў хутка даць пагуляцца з новымі белымі людзьмі. Але дырэктар Вялікай Гандлёвай Кампаніі, які прыбыў параходам, падобным да вялізнай бляшанкі з сардзінамі з кабінай пад плоскім дахам, убачыў, што станцыя ў добрым стане і на ёй па-ранейшаму ціха завіхаецца Макола. Дырэктар загадаў узвесці над магілай першага агента крыж і прызначыў на яго пасаду Каера, а ў падпарадкаванне яму – Карлье. Дырэктар быў жорсткім і працавітым чалавекам і часам дазваляў сабе хоць і няўзнак, але змрочна пажартаваць. Ён звярнуўся да Каера і Карлье з прамовай, якая малявала шматабяцальныя перспектывы станцыі. Да найбліжэйшага гандлёвага пасялення было міляў трыста. Для іх гэта азначала выключную магчымасць паказаць сябе і зарабіць на гандлі. Для пачаткоўцаў такое прызначэнне было проста падарункам. Дабрыня дырэктара расхвалявала Каера ледзь не да слёз. Ён паабяцаў зрабіць усё магчымае, каб апраўдаць дабрыню і давер, і г. д., і да т. п. Каер меў досвед працы ў тэлеграфным упраўленні і быў навучаны фармуляваць свае думкі. Карлье ж быў унтэр-афіцэрам кавалерыі ў арміі, якая знаходзілася пад абаронай некалькіх еўрапейскіх дзяржаваў, і ён быў уражаны менш. Калі гэта магло прынесці нейкія дывідэнды, то тым лепш. І абводзячы змрочным позіркам рэчку, лясы, непранікальнае кустоўе, якое быццам адразала станцыю ад рэшты свету, ён мармытаў скрозь зубы: "Пабачым, вельмі хутка пабачым".

Назаўтра, калі на бераг выкінулі некалькі цюкоў бавоўны і скрыні з харчамі, параход-бляшанка адчаліў і не вяртаўся наступныя паўгода. Дырэктар, крануўшы фуражку, развітаўся з палубы з агентамі, што махалі капелюшамі на беразе, і звярнуўся да старога супрацоўніка Кампаніі, які ішоў у штаб:

– Вы паглядзіце на гэтых ідыётаў. Яны там дома, мусіць, з глузду з'ехалі, калі прыслалі мне такіх тыпусаў. Я сказаў ім разбіць агарод, пабудаваць новыя склады, загарадзі і зрабіць прыстань. Іду ў заклад, нічога не зробяць! Не сцямяць, як і падступіцца. Заўсёды думаў, што станцыя ў такім месцы абсалютна дарэмная, і яны быццам створаныя для яе!

– Станцыя іх пераробіць, – з далікатнай усмешкай адказаў той.

– Як бы там ні было, на паўгода я ад іх пазбавіўся, – вымавіў дырэктар.

А тыя двое прасачылі, як параход павярнуў, трымаючыся за рукі ўскараскаліся на бераг і вярнуліся на станцыю. Яны правялі ў гэтым дзікім неабсяжным краі зусім мала часу і пакуль што заўсёды былі пад наглядам і кантролем старэйшых. Слабое ўздзеянне асяроддзя не адбілася на іх, і цяпер яны адчувалі сябе вельмі самотна – іх пакінулі сам-насам з пустэльняй, з той пустэльняй, якая была яшчэ менш зразумелай і яшчэ чужэйшай праз невытлумачальныя праблiскі бурнага жыцця ў ёй. Людзі яны былі абсалютна нязначныя і нікчэмныя, і іх існаванне заставалася магчымым толькі дзякуючы высокай арганізацыі цывілізаваных масаў. Нямногія ўсведамляюць, што іх жыццё, самая сутнасць іх характару, усё тое, што яны могуць і на што насмельваюцца, вынікае з асабістай веры чалавека ў бяспеку навакольнага свету. Смеласць, спакой, упэўненасць, эмоцыі і прынцыпы, усе сур'ёзныя і малаважныя думкі належаць не самой асобе, а масам, тым масам, якія слепа вераць у непераможную моц уласных законаў і нораваў, у моц паліцыі і грамадскай думкі. Але сутыкненне з чыстым, непрыхаваным дзікунствам, з першабытнай прыродай ці першабытным чалавекам, пасяляе ў душы неспадзяваную і глыбокую трывогу. Да адчування адарванасці ад свайго наваколля, да яснага ўсведамлення адзіноты ўласных думак і ўласных перажыванняў, да адсутнасці звыклых рэчаў, якія былі бяспечнымі, дадаецца сведчанне незвычайнага, а значыць, і небяспечнага, сведчанне чагось няпэўнага, бескантрольнага і агіднага. Такое ўварванне трывожыць, абуджае фантазію і робіцца выпрабаваннем для цывілізаванай псіхікі як дурняў, так і мудрацоў.

Каер і Карлье ішлі, узяўшыся за рукі, прыціскаючыся адзін да аднаго, як дзеці ў цемры. Яны перажывалі ўсё тое ж, у нейкай ступені прыемнае, адчуванне пагрозы, што часткова падаецца ўяўнай. Яны няспынна балбаталі ў сваёй звыклай манеры.

– А ў прыгожым месцы стаіць нашая станцыя, – казаў адзін. Другі ахвотна з гэтым пагаджаўся і пачынаў шматслоўна разважаць, якое прыгожае тут наваколле. Потым яны прайшлі міма магілы.

– Вось жа небарака! – сказаў Каер.

– Ён жа ад ліхаманкі памёр, так? – прамармытаў Карлье і ненадоўга спыніўся.

– Ды не! – абурана запярэчыў Каер. – Я чуў, ён занадта доўга заставаўся на сонцы. Каго ні спытай – клімат тут нічым не горшы, чым дома, трэба проста сцерагчыся сонца. Чуеш, Карлье? Начальнік тут я, і я загадваю табе пазбягаць сонца!

Старшынства ён прыўлашчыў жартам, але астатняе было абсалютна сур'ёзна. Ад адной думкі, што яму, можа, давядзецца пахаваць Карлье і застацца тут аднаму, яго бралі дрыжыкі. Раптам ён адчуў, што гэты Карлье стаў для яго тут, у цэнтры Афрыкі, даражэйшым, чым мог бы быць брат у любым іншым месцы. Карлье вырашыў падыграць – ён па-вайсковаму адсалютаваў і выгукнуў:

– Вашыя загады будуць выкананыя, шэф!

Потым засмяяўся, паляпаў Каера па спіне і крыкнуў:

– Як на мазаных колах пойдзе! Сядзі сабе ды збірай слановую костку, якую прыносяць абарыгены. Урэшце, і тут ёсць свае перавагі!

Яны разам зарагаталі, а Карлье падумалася:

“Бедны Каер, такі тлусты, дый выглядае хваравіта. Калі мне давядзецца яго пахаваць, кашмар будзе. Я яго паважаю...”

Не паспелі яны дайсці да веранды дома, як ужо звярталіся адзін да аднаго “мой любы сябра”.

Першы дзень яны правялі вельмі дзейна – завіхаліся з малаткамі, цвікамі ды чырвоным паркалем, каб павесіць фіранкі і зрабіць дом утульным і прыгожым. Яны вырашылі выгодна ўладкавацца на новым месцы. Што выявілася невыканальнай

для іх задачай. Паспяховае вырашэнне нават выключна матэрыяльных праблем патрабуе ад людзей больш разважлівасці і адвагі, чым яны могуць сабе ўявіць. І немагчыма было знайсці двух менш прыдатных для такой місіі людзей. Грамадства зусім не з ласкі, а з нейкіх уласных незразумелых патрэбаў клапацілася пра іх і забараняла ім любыя самастойныя думкі, любую ініцыятыву, любое адхіленне ад руціны. І забараняла гэта ўсё пад страхам смерці. Яны маглі існаваць, толькі застаючыся машынамі. Цяпер жа, без апекі і клопату людзей з асадкамі за вухам ці з залатымі карункамі на рукавах, яны былі як пажыццёвыя вязні, якіх праз шмат гадоў вызвалілі, а яны і не ведаюць, што рабіць з гэтай свабодай. Яны не ведалі, як выкарыстаць свае здольнасці, бо, нягледзячы на прагу дзеянняў, былі няздатныя думаць самастойна.

Па сканчэнні двух месяцаў Каер раз за разам пачаў паўтараць: "Каб не Мэлі, вы б мяне тут не ўтрымалі". Мэлі была яго дачкой. Ён кінуў сваю пасаду ў тэлеграфным упраўленні, каб зарабіць на пасаг дачцэ, хоць абсалютна шчасліва адпрацаваў там усе сямнаццаць гадоў. Жонка памерла, і малую гадавалі сёстры. Ён сумаваў па вуліцах, па бруку, па кавярнях, па даўніх сябрах, па ўсім, што ён раней бачыў дзень за днём, па ўсіх думках дзяржаўнага клерка, якія выклікалі добра знаёмыя рэчы, – па думках нязмушаных, манатонных, якія прыносілі спакой. Ён сумаваў па плётках, па дробнай варажнечы, па мяккай з'едлівасці і жартачках, якімі поўніліся дзяржаўныя канторы. "Меў бы я прыстойнага шваґра, – заўважаў Карлье, – у якога не камень замест сэрца, мяне б тут не было". Ён звольніўся з войска і сваім лайдацтвам ды бесцырымоннасцю абрыд сваёй сям'і так, што раззлаваны швагер прыклаў нечалавечыя намаганні, абы выбіць яму ў Кампаніі месца агента другога разраду. Не маючы ні шэлега за душой, ён пагадзіўся на такія заробкі адразу, як толькі канчаткова зразумеў, што больш нічога з сваякоў не выцягне. Як і Каер, ён таксама сумаваў па ранейшым жыцці. Ён сумаваў па бразгаце шабляў і шпор у пагодны дзень, па казарменным гумары, па дзяўчатах з гарнізонных гарадоў. Але ў дадатак да ўсяго ён адчуваў і горыч. Было відавочна, што з ім часта абыходзіліся несправядліва. І гэта яго часам маркоціла. Але ўдвух яны добра ладзілі ў сваёй бязглуздай лайдацкай кампаніі. Ніхто з іх не займаўся нічым, абсалютна нічым, і яны цешыліся з той бяздзейнасці, за якую атрымлівалі заробак. І з часам у іх з'явілася нешта накшталт узаемнай прыхільнасці.

Яны жылі, як двое сляпых у вялікім пакоі, якія ведаюць толькі пра тое, што трапляецца ім у рукі (дый тое не ў поўнай меры), і не маюць магчымасці агледзець усю карціну. Рэчка, лес і агромністыя прасторы, што пульсуюць жыццём, былі як вялізная пустэльня. Нават пры яркім сонцы яны нічога не маглі разабраць. Перад іх вачыма ўсё з'яўлялася і знікала без сувязі і мэты. Рэчка, здавалася, не мае ні пачатку, ні канца. Яна цякла ў пустэчы. З гэтай пустэчы часам з'яўляліся каноэ, і раптам на падворку станцыі ўжо грувасціліся людзі з дзідамі. Яны былі голыя, бліскуча-чорнага колеру, упрыгожаныя беласнежнымі ракавінамі і прамяністым медным дротам, і іх рукі і ногі былі бездакорныя. Яны бесцырымонна балбаталі, велічна рухаліся і дзіка зыркалі сваімі спалоханымі, пазбаўленымі спакою вачыма. Воіны доўгімі шэрагамі па чатыры і больш чалавек сядзелі на кукішках перад верандай, а правадыры тым часам гадзінамі таргаваліся з Маколам за слановыя біўні. Каер сядзеў у крэсле ды назіраў за тым, што адбываецца, нічога не разумеючы. Ён узіраўся ў іх сваімі круглымі блакітнымі вачыма, а потым гукаў Карлье:

– Во, паглядзі! Паглядзі на таго і яшчэ вунь на таго, злева. Ці бачыў ты калі такое аблічча? Вось жа смешны, скаціна!

Карлье, які курыў кароткую драўляную піпку з мясцовым тытунём, падыходзіў з важным выглядам, падкручваў вусы, з напышлівай пагардай разглядаў воінаў і казаў:

– Добрая скацінка. Ці прынеслі косткі? Так? Яны не дужа спяшаліся. Глядзі,

якія цяглiцы вунь у таго, трэцяга з краю. Не хацеў бы я дастаць ад яго ў нос. Выдатная рукі, але ногі ніжэй за калена так сабе. Кавалерыі з іх бы не выйшла, – потым ён задаволена пазіраў на ўласныя галёнкі і завяршаў заўсёды наступным чынам. – Фу! Ну і смурод ад іх! Гэй, Макола! Завядзі гэты статак да ідала (на ўсіх станцыях склад называлі ідалам, магчыма, праз атмасферу цывілізацыі, якая там панавала) і аддай ім што-небудзь з хламу, які ты там трымаеш. Лепш бы яго запоўніць косткай, а не рыззём.

Каер яго падтрымліваў.

– Так-так! Ідзіце балбатаць туды, містэр Макола. Як скончыце, я падыду і ўзважу бівень. Трэба быць пільнымі, – а потым звяртаўся да калегі. – Гэта тое племя, што жыве ніжэй па рацэ. Які ж ад іх пах! Памятаю, як яны раней прыходзілі. Чуеш, як сварацца? Якім жа трэба быць чалавекам, каб мірыцца з такім паскудным краем! Галава трашчыць.

Такія прадуктыўныя візіты здараліся рэдка. Цэлымі днямі гэтыя два першапраходцы ад гандлю і прагрэсу глядзелі на пусты двор, заліты дрыготкім бляскам сонца ў зеніце. Пад высокім берагам маўкліва цякла спакойная бліскучая рэчка. На пясчанай выспе пасярод плыні гіпапатамы грэліся побач з алігатарамі. І ва ўсе бакі ад невялічкага пятачка, расчышчанага пад гандлёвае пасяленне, у красамоўна бязгучнай велічы цягнуліся неабсяжныя лясы, што хавалі жахлівыя складанасці неверагоднага жыцця. Гэтыя двое нічога не разумелі і не цікавіліся нічым, апрача таго, колькі дзён засталося да вяртання парахода. Іх папярэднік пакінуў некалькі падраных кніг. Яны ўзяліся за гэтыя парэшткі раманаў, і паколькі ніколі раней нічога падобнага не чыталі, то кнігі іх здзівілі і пацешылі. Доўгія наступныя дні яны без канца прысвячалі бязглуздым абмеркаванням сюжэтаў і персанажаў. У цэнтры Афрыкі яны пазнаёміліся з Рышэлье і д'Артаньянам, з Ястрабіным Вокам, бацькам Гарыё і многімі іншымі. Усе гэтыя выдуманыя персанажы сталі для іх аб'ектам плётак, быццам былі сапраўднымі знаёмымі. Яны ганілі іх цноты, падазрона ставіліся да матываў, крытыкавалі поспехі, абураліся іх двудушнасцю або сумняваліся ў іх адвазе. Апісанні злачынстваў перапаўнялі іх гневам, а пяшчотныя ці пафасныя ўрыўкі глыбока кранаЛі. Карлье адкашліваўся і казаў з салдацкай інтанацыяй: "Вось дык бздуры!" Круглыя вочы Каера напаўняліся слязьмі, тоўстыя шчокі дрыжалі, ён паціраў лысіну і заяўляў: "Цудоўная кніга! Нават не падазраваў, што ў свеце ёсць такія разумныя людзі". Яшчэ яны знайшлі некалькі старых газет з радзімы. Там узнёсла абмяркоўвалася тое, што аўтары задаволена называлі "нашай каланіяльнай экспансіяй". Шмат казалася пра правы і абавязкі цывілізацыі, пра святасць цывілізацыйнай работы, узносіліся заслугі тых, хто прыносіць святло, веру і эканоміку ў цёмныя куткі зямлі. Карлье і Каер чыталі, дзівіліся і пасля ўжо былі пра сябе лепшай думкі. Адным вечарам Карлье сказаў, абводзячы рукой наваколле: "Праз сто гадоў тут, напэўна, будзе горад. Прычалы, таварныя склады, казармы і... і... більярдныя. Цывілізаванасць, даражэнькі, і добрапрыстойнасць... і ўсё такое. І потым моладзь будзе чытаць пра двух добрых дзецюкоў, Каера ды Карлье, першых цывілізаваных людзей, якія жылі ў гэтым самым месцы!" Каер кіўнуў: "Але ж, такія думкі даюць суцяшэнне". Яны, здавалася, забыліся пра свайго нябожчыка папярэдніка, але адной раніцай Карлье пайшоў і ўкапаў крыж раўней. "Колькі міма ні хадзіў, усё касавурыўся на яго, – патлумачыў ён Каеру за ранішняй кавай. – І ўсё праз тое, што ён так нахіліўся. Дык я ўзяў і ўкапаў яго раўней. Цяпер гэта надзейна, даю гарантыю! Я абедзвюма рукамі навалiўся на папярочку. Ні з месца. Але ж і добра я пастараўся".

Часам да іх заходзіў Гобіла. Гобіла быў старастам суседніх вёсак. Гэта быў сівы абарыген, чорны і худы, з белай анучай, завязанай на сцёгнах, і з бруднай шкурай пантэры на плячах. Ён завітваў на станцыю, робячы вялікія крокі сваімі кастлявымі нагамі і махаючы посахам з сябе ростам, заходзіў у агульны пакой і

прыладжваўся на кукішках злева ад дзвярэй. Так і сядзеў, назіраў за Каерам і раз-пораз нешта прамаўляў, але той яго не разумеў. Каер часам па-сяброўску пытаў, не адрываючыся ад занятку: "Як твае справы, здань ты старая?" – і яны адзін аднаму ўсміхаліся. Белыя адчувалі сімпатыю да старога незразумелага стварэння і называлі яго айцом Гобілам. Гобіла ставіўся да іх па-бацькоўску. Здавалася, ён шчыра любіць усіх белых. Яму яны ўсе здаваліся вельмі маладымі, ён іх не адрозніваў (акрамя як па росце) і ведаў, што ўсе белыя між сабой браты, а яшчэ яны несмяротныя. Смерць мастака, першага белага, з якім ён блізка пазнаёміўся, гэтай веры не пахіснула, таму што ён быў абсалютна перакананы, што чужынец толькі зрабіў выгляд, быццам памёр, і згадзіўся на пахаванне дзеля нейкай уласнай невядомай мэты, пытаць пра якую няма сэнсу. Можа, ён так вярнуўся дадому? Ва ўсякім разе, гэтыя людзі былі яго браты, і ён перанёс на іх сваю недарэчную прыхільнасць. Яны ў пэўным сэнсе адказвалі ўзаемнасцю. Карлье ляпаў яго па спіне і бесклапотна запальваў сярнічкі на радасць старому. Каер заўсёды з задавальненнем даваў яму панюхаць нашатырны спірт. Карацей кажучы, паводзінамі яны зусім не адрозніваліся ад той белай істоты, што схавалася пад зямлю. Гобіла ўважліва іх вывучаў. Магчыма, яны ўсе – ці нехта адзін з іх – былі тым самым першым белым. Ён не мог разабрацца, разгадаць гэтую таямніцу, але заўсёды заставаўся вельмі прыязным. Як вынік гэтай дружбы, жанчыны з Гобілавай вёскі штораніцы ішлі праз трыснёг ланцужком да станцыі і прыносілі дзічыну, салодкую бульбу і пальмавае віно, а часам прыводзілі казу. Кампанія ніколі не забяспечвае станцыі харчамі ў дастатковай меры, таму агентам тыя прадукты былі неабходныя, каб выжыць. Дзякуючы Гобілавай дабрыні, яны іх мелі і жылі някепска. Час ад часу ў аднаго з іх здараліся прыступы ліхаманкі, і тады другі з пяшчотнай адданасцю даглядаў хворага. Яны не надавалі гэтаму значэння. Але самі слабелі ад ліхаманкі, і іх выгляд рабіўся ўсё горшым. У Карлье запалі вочы і ён стаў зласлівым. Каер знясілеў, яго скура абвісла, і ў спалучэнні з акруглым жыватом гэта прыдавала яму дзіўны выгляд. Але паколькі яны ўвесь час праводзілі разам, то і не заўважалі тых паступовых зменаў у іх выглядзе і характары.

Так прайшло пяць месяцаў.

І вось адной раніцы, калі Каер і Карлье лайдачылі ў крэслах на верандзе і гутарылі пра тое, што хутка прыйдзе параход, купка ўзброеных людзей выйшла з лесу і рушыла да станцыі. Яны былі нетутэйшымі. Высокія, шчуплыя, ад шыі да пят убраныя ў традыцыйную блакітную тканіну з махрамі, на аголеным правым плячы кожны нёс па пістаноўцы. Было відаць, што Макола расхваляваўся, ён выбег з склада (дзе праводзіў кожны дзень) сустракаць гасцей. Яны выйшлі на падворак і пачалі спакойна і пагардліва аглядацца. Іх правадыр, дужы, рашучы з выгляду мурын з налітымі крывёй вачыма, стаў перад верандай і распачаў доўгую прамову. Гаворачы, ён шмат жэстыкуляваў, а потым вельмі нечакана змоўк.

Нешта ў яго інтанацыі, у тым, як гучалі яго доўгія сказы, напалохала белых. Яго гаворка хоць і не нагадала нічога пэўнага, але ў той жа час мела рысы цывілізаванай прамовы. Яна гучала як адна з тых непраўдападобных моваў, што часам чуюцца нам у снах.

– Што гэта за мова? – спытаў здзіўлены Карлье. – Спачатку мне здалося, што ён гаворыць па-французску. Так ці іначай, такой тарабаршчыны мы яшчэ не чулі.

– Сапраўды, – адказаў Каер. – Гэй, Макола, што ён кажа? Адкуль яны? Хто яны такія?

Але Макола, які стаяў як на вуглях, паспешліва адказаў:

– Не ведаю. Яны вельмі здалёк. Можа, місіс Прайс іх зразумее. Баюся, гэта нядобрыя людзі.

Правадыр трохі пачакаў і нешта рэзка сказаў Маколу. Той захітаў галавой.

Тады чалавек агледзеўся, заўважыў Маколаву хату і накіраваўся туды. Праз хвіліну пачулася, як лапоча місіс Макола. Астатнія чужынцы – іх было шасцёра – разняволена прагульваліся сабе, зазіралі праз дзверы ў склад, спыняліся каля магілы, з разуменнем паказваючы на крыж, і ўвогуле пачуваліся як дома.

– Не падабаюцца мне яны... а слухай, Каер, напэўна, яны з узбярэжжа, у іх агнястрэльная зброя, – заўважыў разважлівы Карлье.

Каеру гэтыя людзі таксама не падабаліся. Яны абое ўпершыню зразумелі, што жывуць ва ўмовах, пры якіх незнаёмае можа быць небяспечным, і ніводная зямная сіла, акрамя іх саміх, не здолее іх ад незнаёмага адгарадзіць. Ім зрабілася няўтульна, яны зайшлі ў будынак і набілі рэвальверы. Каер сказаў: “Трэба загадаць Маколу, хай скажа ім сысці дацямна”.

Незнаёмцы сышлі яшчэ ўдзень, паабедаўшы тым, што згатавала ім місіс Макола. Гэтая вялізная жанчына хвалявалася і шмат гаварыла з чужынцамі. Яна пранізліва верашчала і без канца паказвала на лес і на рэчку. Макола сядзеў непадалёк і назіраў. Часам ён уставаў і нешта шаптаў жонцы на вуха. Ён правёў незнаёмцаў праз яр з задняга боку станцыі і няспешна вярнуўся, заглыблены ў думкі. Калі белыя пачалі яго распытваць, ён паводзіў сябе вельмі дзіўна: здавалася, ён нічога не разумее, быццам забыўся на французскую – ці забыўся, як размаўляць наогул. Каер і Карлье пагадзіліся, што чарнамазы, відаць, перапіў пальмавага віна.

Яны трохі паразважалі былі, ці не пастаяць па чарзе на варце, але ўвечары ўсё здавалася такім ціхамірным, што спаць пайшлі як звычайна. Усю ноч ім не даваў заснуць барабанны грукат у вёсках. За глыбокім шпаркім рокатам недзе побач чулася іншае – удалечыні, а потым усё сціхала. Неўзабаве то тут, то там пачуліся кароткія выгукі, потым усё змяшалася, узмацнілася, стала дужым, трывалым і разнеслася па ўсім лесе, няспынна і несціхана пакацілася па начы, паблізу і на адлегласці, быццам усё наваколле стала адным магутным барабанам, які безупынку гудзе, гукаючы да нябёсаў. І праз глыбокі і магутны шум бязладнымі гукавымі струмянямі раз-пораз прабіваліся высокія рэзкія выкрыкі, якія нагадвалі ўрыўкі песняў з вар’ятні, быццам імкнуліся вырвацца далей ад зямлі і знішчыць увесь спакой, які толькі ёсць пад зорным небам.

Спалі Карлье і Каер кепска. Ім абодвум уначы чуліся стрэлы – але нельга было вызначыць, адкуль яны. Раніцай Макола некуды знік. Ён вярнуўся каля поўдня з адным з учорашніх чужынцаў і ігнараваў усе спробы Каера пагаварыць – няйначай аглух. Каер не разумеў. Карлье, які лавіў рыбу з берага, вярнуўся і заўважыў, паказваючы ўлоў: “Здаецца, чарнамазыя страшэнна ўсхваляваліся. Цікава, што здарылася. Пакуль рыбаліў, паспеў заўважыць, як праз раку пераправіліся каля пятнаццаці каноэ”. Устрывожаны Каер адказаў: “Гэты Макола, ён нейкі дзіўны сёння, праўда?” Карлье параіў: “Не адпускай нашых людзей нікуды, раптам што здарыцца”.

## II

На станцыі былі дзесяць чалавек, якіх пакінуў дырэктар. Яны наняліся ў Кампанію на шэсць месяцаў (хоць і не разумелі дакладна, што такое месяц, дый увогуле мелі слабое паняцце пра час), але праслужылі на карысць прагрэсу ўжо два гады. Іх племя жыло ў вельмі далёкай частцы гэтага змрочнага і скрушнага краю, і яны не збягалі, бо па звычцы лічылі, што іх як вандроўных чужынцаў заб’юць мясцовыя. І тут яны мелі рацыю. Яны жылі ў саламяных хацінах на схіле яру, парослага трыснягом, адразу за станцыйнымі пабудовамі. Іх існаванне было бязрадасным. Яны сумавалі па ўзнёслай магіі, вядзьмарстве і чалавечых ахвярах на радзіме, дзе ў іх яшчэ засталіся бацькі, браты, сёстры, улюбёныя правадыры, паважаныя шаманы, дарагія сябры, а таксама іншыя галоўным чынам чалавечыя

сувязі. Акрамя таго, ад рысавага пайка, які выдавала Кампанія, ім было блага, бо ў іх краі такой ежы не ведалі, і яны ніяк не маглі да яе прызвычаіцца. У выніку яны не мелі ні здароўя, ні шчасця. Каб яны паходзілі з любога іншага племені, то пайшлі б на смерць – бо для асобных абарыгенаў няма нічога лягчэйшага за самагубства – і пазбавіліся б гэтых невытлумачальных цяжкасцяў быцця. Але паколькі яны належалі да ваяўнічага племені, у якім існавала традыцыя падпілоўваць зубы, то былі і цярплівейшымі, таму працягвалі сваё бязглуздае існаванне ў хваробах і няшчасцях. Яны амаль не працавалі і страцілі свае выдатныя фізічныя дадзеныя. Карлье і Каер старанна лячылі іх, але не маглі вярнуць у ранейшы стан. Іх штораніцы збіралі і адпраўлялі на розныя заданні: стрыгчы траву, будаваць агароджу, секчы лес і г.д. і да т.п. – і нічым у свеце нельга было прымусіць іх працаваць добра. Насамрэч белыя мелі над імі вельмі малую ўладу.

Удзень Макола падышоў да вялікага дома і ўбачыў, што Каер назірае за трыма густымі слупамі дыму, якія ўздымаюцца над лесам.

– Што гэта такое? – спытаў Каер.

– Нейкія вёскі гараць, – адказаў Макола, да якога, здаецца, вярнуўся розум. Потым раптам дадаў. – У нас вельмі мала слановай косткі, менш чым на паўгода. Можа, купім яшчэ?

– Так, – ахвотна сказаў Каер. Ён падумаў пра свой працэнт, які быў вельмі нізкі.

– Людзі, якія прыходзілі ўчора, – гэта гандляры з Луанды, і ім усёй сваёй косткі дадому не данесці. Ці купіць? Я ведаю іх лагер.

– Вядома, – сказаў Каер. – Што гэта за гандляры?

– Дрэнныя людзі, – абыякава сказаў Макола. – Нападаюць на людзей, крадуць жанчын і дзяцей. Дрэнныя і маюць зброю. У краі вельмі неспакойна. Дык купім слановую костку?

– Так, – сказаў Каер.

Макола нейкі час маўчаў. Тады:

– Ад гэтых нашых працоўных зусім ніякай карысці, – прамармытаў ён, азіраючыся. – Станцыя ў вельмі кепскім стане, сэр. Дырэктар будзе злаваць. Лепш купіць добрую партыю слановай косткі, тады ён нічога не скажа.

– Не магу нічога з гэтым зрабіць, людзі не хочуць працаваць, – сказаў Каер. – Калі ты купіш слановую костку?

– Вельмі хутка, – сказаў Макола. – Можа, увечары. Пакіньце гэта на мяне і не выходзьце ў двор, сэр. Дайце, можа, людзям пальмавага віна, хай патанцуюць увечары. Адпачнуць. Заўтра лепш працаваць будуць. Віна шмат – падкісла ўжо.

Каер пагадзіўся, і Макола сам пацягнуў вялізныя гарбузовыя бутлі да сваёй хаты. Яны стаялі там да вечара, і місіс Макола зазірнула ў кожную. На заходзе сонца іх аддалі людзям. Калі Каер і Карлье пайшлі адпачываць, каля хат палала вялікае вогнішча. Былі чуваць крыкі людзей і барабанны грукат. Сёй-той з Гобілавай вёскі далучыўся да людзей са станцыі, і ўсе радаваліся святу.

Пасярод ночы Карлье раптам прачнуўся і пачуў гучны выкрык, а за ім стрэл. Усяго адзін. Карлье выбег і сутыкнуўся на верандзе з Каерам. Яны абое былі напалоханыя. Ідучы праз двор клікаць Маколу, яны ўбачылі, як у цемры рухаюцца цені. Адзін з іх закрычаў: “Не страляйце! Гэта я, Прайс!”. Тут побач з імі з’явіўся Макола. “Назад, назад, калі ласка, – пачаў ён прасіць. – Вы ўсё псуеце”. – “Там нейкія дзіўныя людзі”, – сказаў Карлье. – “Няважна, я ведаю”, – сказаў Макола. І зашаптаў: “Добра. Нясіце костку. Маўчыце! Я ведаю, што рабіць”. Белыя неахвотна вярнуліся ў дом, але спаць не пайшлі. Яны чулі крокі, шэпт, некалькі стогнаў. Здавалася, шмат чалавек заходзяць, кідаюць нешта цяжкае на зямлю, доўга спрачаюцца і ўрэшце сыходзяць. Яны ляжалі на сваіх жорсткіх ложках і думалі: “Цаны гэтаму Маколу няма”. Раніцай Карлье выйшаў вельмі сонны на

двор і паторгаў за вяроўку вялікага звона. Працоўныя штораніцы скліукаліся звонам. Сёння ж не прыйшоў ніхто. Каер выйшаў, таксама пазяхаючы. Праз двор яны ўбачылі, як Макола выйшаў з хаты з бляшанай місай мыльнай вады ў руцэ. Макола, выхаваны чарнамазы, сам па сабе быў вельмі ахайны. Ён трапна пырснуў пенай на свайго гаротнага жоўтага дварнячка, павярнуўся да дома агентаў і гукнуў здалёк:

– Учора ўсе людзі сышлі!

Яны добра яго пачулі, але ад здзіўлення закрычалі разам:

– Што?! – і ўтаропіліся адзін у аднаго.

– Вось цяпер у нас сапраўдная праблема, – прабурчаў Карлье.

– Неверагодна, – прамармытаў Каер.

– Пайду пагляджу хаты, – сказаў Карлье, адыходзячы. Калі Макола падышоў, Каер стаяў адзін.

– Паверыць у гэта не магу, – голасам, поўным слёз, сказаў Каер. – Мы клапаціліся пра іх, як пра дзяцей...

– Яны пайшлі з людзьмі з узбярэжжа, – сказаў Макола, хвілінку павагаўшыся.

– Якая мне справа да таго, з кім яны пайшлі – быдла няўдзячнае! – усклікнуў Каер. Потым з раптоўным падазрэннем прыгледзеўся да Маколы і дадаў. – А ты што пра гэта ведаеш?

Макола апусціў вочы долу і павёў плячыма.

– Што я ведаю? Я проста думаю. Хадзем, хочаце паглядзець на сланоўую костку, якую я набыў? Выдатная партыя. Вы такой не бачылі.

Ён рушыў да склада. Каер механічна пайшоў за ім у роздумах пра неверагоднае дэзерцірства працоўных. На зямлі перад дзвярыма ідала ляжалі шэсць выдатных біўняў.

– Што ты за іх аддаў? – спытаў Каер, калі з задавальненнем агледзеў партыю.

– Незвычайная ўгода, – сказаў Макола. – Яны прынеслі сланоўую костку і аддалі яе мне. Я сказаў, бярыце на станцыі, што вам падабаецца. Гэта цудоўная партыя. Нідзе не будзе такіх біўняў. Тым гандлярам былі страшна патрэбныя насільшчыкі, а ад нашых людзей тут усё адно не было карысці. Няма ўгоды – няма і запісу ў кнігах, усё ў парадку.

Каер ледзь не выбухнуў ад абурэння.

– Як! – закрычаў ён. – Ты хочаш сказаць, што прадаў нашых людзей за гэтыя біўні?! – Макола безуважна стаяў і маўчаў. – Я... я... табе... я... – заікаўся Каер. – Ды ты д’ябал! – закрычаў ён.

– Я зрабіў лепш для вас і для Кампаніі, – спакойна сказаў Макола. – Чаму вы так крычыце? Глядзіце, які бівень.

– Я цябе звальняю! Я пра цябе паведамлю, і не збіраюся я глядзець на гэты бівень. І табе забараняю кранаць іх. Загадваю, выкінь іх у раку. Ты... ты!..

– Вы такі чырвоны, містэр Каер. Калі будзеце так раздражняцца на сонцы, падхопіце ліхаманку і памрэце – як першы начальнік! – настойліва прамовіў Макола.

Яны нерухома стаялі, напружана ўзіраючыся адзін у аднаго, быццам старанна выглядалі нешта на вялізнай адлегласці. Каера калаціла. Макола казаў без задняй думкі, але яго словы здаваліся Каеру поўнымі злавеснай пагрозлівасці! Ён рэзка павярнуўся і пайшоў у дом. Макола вярнуўся да сямейнага ачага, а біўні засталіся ляжаць перад складам, вялізныя і дарагія на выгляд у сонечным святле.

Карлье вярнуўся на веранду.

– Усе сышлі, так? – прыглушаным голасам спытаў Каер з іншага канца агульнага пакоя. – Нікога не знайшоў?

– О, знайшоў, – сказаў Карлье. – Цела аднаго з Гобілавых людзей ляжыць перад хатамі – прастрэленае наскрозь. Вось што за стрэл мы чулі ўначы.

Каер хутка выйшаў. Ён убачыў, што яго кампаньён змрочна пазірае праз двор на біўні, якія ляжаць каля склада. Нейкі час абое сядзелі моўчкі. Потым Каер пераказаў сваю размову з Маколам. Карлье нічога не сказаў. На абед яны з'елі вельмі мала. Яны амаль не гаварылі ў той дзень. Над станцыяй быццам навісла цяжкая цішыня, якая заціскала ім вусны. Макола не адчыняў склад. Ён увесь дзень гуляўся з дзецьмі. Ён выцягнуўся на цыноўцы на дварэ, а малыя сядзелі ў яго на грудзях і лазілі па ім уздоўж і ўпоперак. Кранальная была карціна. Місіс Макола, як звычайна, цэлы дзень гатавала. Белыя ў той дзень зрабілі сабе трошкі лепшую вячэру. Потым Карлье закурыў піпку і прайшоўся да склада. Ён доўга стаяў каля біўняў, дакрануўся да пары нагой, паспрабаваў нават прыўзняць найбольшы, узяўшыся за тонкі канец. Тады вярнуўся да свайго начальніка, які з месца не зрушыўся на верандзе, плюхнуўся ў крэсла і сказаў:

– Я ўсё зразумеў! На іх напалі ў сне, бо яны напіліся пальмавага віна, якое ты дазволіў Маколу ім даць. Як зроблена! Бачыш? Горш за ўсё, што там былі Гобілавы людзі, і іх, несумненна, таксама забралі. Той, хто напіўся менш за іншых, прачнуўся, і яго застрэлілі за цвярозасць. Дзіўны край. І што цяпер рабіць?

– Мы, зразумела, нічога кранаць не можам, – сказаў Каер.

– Канечне, не, – пагадзіўся Карлье.

– Рабства – гэта жахліва, – запінаючыся, прамармытаў Каер.

– Жахліва... такія пакуты, – з асуджэннем крэкнуў Карлье.

І яны шчыра верылі ў тое, што казалі. Да пэўных словаў, якія кажа сам чалавек ці людзі навокал, глыбокую пашану дэманструюць усе. Але ў пачуццях людзі не разумеюць нічога. Мы абураемся або заўзята нешта абмяркоўваем. Кажам пра прыгнёт, жорсткасць, злачынствы, самаадданасць, ахвярнасць, чысціню, але не бачым за гэтымі словамі нічога рэальнага. Ніхто не ведае, што такое пакуты ці ахвяраприынашэнні – акрамя хіба што тых, хто на сабе зазнаў таямнічае прызначэнне гэтых аблудаў.

Наступнае раніцы яны ўбачылі, што Макола заняўся ўсталяваннем на двары вялікіх вагаў для слановай косткі. Карлье адразу сказаў: “Што гэты брудны нягоднік надумаў?” – і паволі пайшоў на двор. Каер рушыў за ім. Яны стаялі і назіралі. Макола не звяртаў на іх увагі. Калі баланс усталяваўся, ён паспрабаваў падняць бівень на вагі. Той аказаўся зацяжкі. Ні слова не кажучы, ён бездапаможна ўзняў вочы, і нейкую хвіліну яны стаялі вакол вагаў, маўклівыя і нерухомыя, як тры статуі. Раптам Карлье сказаў: “Бярыся за другі канец, Макола, скаціна ты такая!” – і яны разам падхапілі бівень. Каер закалаціўся ўсім целам. Ён мармытаў: “Паслухайце! Ох! Паслухайце!” – ён засунуў руку ў кішэню і знайшоў там брудную паперку і агрызак алоўка. Ён адвярнуўся спінай, быццам збіраўся выкінуць нейкі фокус, і пачаў крадком запісваць паказанні вагаў, якія Карлье празмерна гучна яму выкрыкваў. Калі ўсё было скончана, Макола прашаптаў сам сабе: “Тут занадта яркае сонца для біўняў”. Карлье абыякавым тонам сказаў Каеру: “Паслухай, шэф, я мог бы дапамагчы яму занесці гэтую партыю на склад”.

Калі яны вярталіся дадому, Каер уздыхнуў і заўважыў:

– Гэта трэба было зрабіць.

А Карлье сказаў:

– Прыкра, але раз людзі належалі Кампаніі, то і слановая костка належыць Кампаніі. Трэба пра яе паклапаціцца.

– Я, зразумела, паведамлю дырэктару, – сказаў Каер.

– Канечне. Хай ён вырашае, – згадзіўся Карлье.

Удзень яны зрабілі сабе багаты абед. Каер час ад часу ўздыхаў. Кожны раз, калі згадвалася імя Маколы, яны дадавалі да яго абразлівы эпітэт. Ад гэтага на сэрцы

рабілася лягчэй. Макола зрабіў сабе на паўдня выходны і павёў дзяцей купацца ў рэчцы. Ніхто з Гобілавай вёскі ў той дзень да станцыі не прыходзіў. Ніхто не прыйшоў і назаўтра, і на наступны дзень, і так увесь тыдзень. Зніклі ўсе знакі іх існавання, быццам Гобілавы людзі памерлі, і іх ужо пахавалі. Але яны проста трымалі жалобу па тых, каго страцілі ў выніку чараў, якімі белыя прывабілі ў іх край ліхіх людзей. Ліхія людзі сышлі, але страх застаўся. Страх заўсёды застаецца. Чалавек можа знішчыць у сабе ўсё: любоў і нянавісць, веру і нават сумневы. Але пакуль ён трымаецца за жыццё, ён не можа знішчыць страх – страх патаемны, невынішчальны і жахлівы, які прасякае ўсё яго быццё, уплывае на думкі, тоіцца ў сэрцы, назірае за вуснамі, калі чалавек намагаецца зрабіць апошні ўздых. У страху стары добры Гобіла прынёс яшчэ больш чалавечых ахвяраў злым духам, якія авалодалі яго белымі сябрамі. На яго сэрцы было цяжка. Некаторыя воіны пачалі заклікаць да падпалаў і забойстваў, але стары абачлівы абарыген іх адгаварыў. Хто мог прадбачыць, колькі гора прынясуць гэтыя таямнічыя стварэнні, калі іх раззлаваць? Іх трэба пакінуць у спакоі. Можа, з часам яны сыдуць пад зямлю, як сышоў самы першы з іх. Яго народ мусіць трымацца ад іх далей і спадзявацца на лепшае.

Каер і Карлье не сышлі пад зямлю, яны засталіся на паверхні, і ім здалося, што там стала яшчэ прасторней і вельмі пуста. Але бязмежная і нямая адзінота пасялення ўразіла іх не так моцна, як невымоўнае пачуццё, быццам унутры іх нешта знікла, нешта такое, што гарантавала ім бяспеку і не пускала пустэльню ў сэрца. Родныя вобразы, успаміны пра сабе падобных, пра людзей, якія думалі і адчувалі гэтак жа, як раней думалі і адчувалі яны, аддаліліся, зрабіліся неразборлівымі ў ззянні сонца сярод бясхмарнага неба. І з бязмежнай цішыні навакольнай пустэльні сама яе безнадзейнасць і дзікасць быццам бы набліжалася да іх, асцярожна прыцягвала, каб разгледзець, каб агарнуць іх клопатам, неадольным, знаёмым і невыносным.

Дні складаліся ў тыдні, потым у месяцы. Гобілавы людзі сустракалі кожны маладзік барабанамі і крыкамі, як і раней, але не падыходзілі да станцыі. Аднойчы Макола і Карлье селі ў каноэ, каб паспрабаваць наладзіць сувязь, але іх сустрэлі такім градам стрэл, што давялося ратавацца ўцёкамі. Тая іх спроба прывяла ўвесь край вышэй і ніжэй па рацэ ў такі неспакой, які добра адчуваўся яшчэ не адзін дзень. Параход затрымліваўся. Спачатку яны гаварылі пра затрымку весела, тады трывожна, а потым змрочна. Справа рабілася сур'ёзнай. Запасаў было ўсё менш. Карлье закідваў вуды з берага, але рэчка была плыткай, і рыба трымалася ў плыні далёка ад берага. Яны не насмельваліся адыходзіцца далёка ад станцыі на паляванне. Акрамя таго, у непраходным лесе не было дзічыны. Аднойчы Карлье застрэліў у рэчцы гіпапатама. Але ў іх не было лодкі, каб выцягнуць яго, і ён патануў. Калі ён усплыў, то яго панесла цячэннем, і тушу выцягнулі людзі Гобілы. У іх гэта стала нагодай для народнага гуляння, а ў Карлье пачаўся прыступ шаленства, ён казаў, што ўсіх чарнамазых трэба вынішчаць да той пары, пакуль край не стане прыдатным для жыцця. Каер моўчкі бадзяўся і гадзінамі ўзіраўся ў партрэт сваёй Мэлі. На партрэце была дзяўчынка з доўгімі светлымі кудзерамі і даволі кіслым выразам твару. Яго ногі моцна апухлі, і ён ледзь хадзіў. Карлье, чыё здароўе падарвала ліхаманка, важна крочыць ужо не мог, але працягваў клыгаць з бесклапотным выглядам, як чалавек, які жыве ўспамінамі пра свой знакаміты полк. Размаўляць ён пачаў хрыпла, з'едліва і ўсё часцей ужываў абразы. Ён называў гэта "гаварыць па шчырасці". Яны ўжо даўно падлічылі свой працэнт ад гандлю і далучылі да яго і тую апошнюю ўгоду "гэтага паскуднага Маколы". Акрамя таго, яны вырашылі нічога пра яе не расказваць. Спачатку Каер вагаўся – баяўся дырэктара.

– Ён бачыў, як і горшае рабілі цішком, – пераконваў яго Карлье з хрыплым смехам. – Даверся яму! Прагаворышся – ён табе дзякуй не скажа. Ён не лепшы за

цябе ці мяне. Хто яму скажа, калі мы закілзаем языкі? Больш тут нікога няма.

У гэтым і была самая вялікая праблема! Там больш нікога не было, і пакінутыя сам-насам са сваёй слабасцю, яны штодня ўсё больш нагадвалі двух саўдзельнікаў, а не адданых сяброў. Яны восем месяцаў не мелі звестак з дому. Штовечар казалі: “Заўтра ўбачым параход”. Але адзін з параходаў Кампаніі разбіўся, а на другім дырэктар дапамагаў далёкім і важным станцыям на галоўнай рацэ. Яму здавалася, што дарэмная станцыя з яе дарэмнымі людзьмі можа і пачакаць. Між тым Каер і Карлье жылі на прэсным рысе і клялі Кампанію, усю Афрыку і дзень, калі яны нарадзіліся на свет. Трэба пажыць нейкі час на такой дыеце, каб зразумець, якой жудаснай праблемай можа стаць неабходнасць праглынаць ежу. На станцыі не засталося літаральна нічога, акрамя рысу і кавы. Дый каву яны пілі без цукру. Апошнія пятнаццаць пакетаў Каер урачыста замкнуў ва ўласнай скрыні разам з паловай бутэлькі каньяку. “На выпадак хваробы”, – растлумачыў ён. Карлье пагадзіўся. “Калі хварэеш, – сказаў ён, – то любая дабаўка можа падбадзёрыць”.

Яны чакалі. Двор пачаў зарастаць нястрыжанай травой. У звон больш не білі. Дні праходзілі ціха, марудна і невыносна. Калі яны гаварылі, то агрызаліся. І іх маўчанне таксама было прыкрым, быццам прасякнутым горыччу думак.

Аднойчы пасля варанага рысу на абед Карлье апусціў кубак, не пакаштаваўшы, і сказаў:

– Каб на яго згуба! Давай хоць раз вып’ем прыстойнай кавы. Даставай цукар, Каер!

– Для хворых, – прамармытаў Каер, не падымаючы вачэй.

– Для хворых, – перадражніў Карлье. – Лухта!.. – Ну! Я хворы.

– Ты хворы не больш за мяне, а я неяк абыходжуся, – мірна сказаў Каер.

– Давай! Выцягвай цукар, ты, сквапны гандляр рабамі!

Каер хутка ўзняў вочы. Карлье ўсміхаўся з падкрэсленай дзёрзкасцю. І раптам Каеру здалося, што ён ніколі раней не бачыў гэтага чалавека. Хто ён такі? Ён пра яго нічога не ведае. На што ён здольны? Унутры яго ўспыхнула нечаканая раз’юшанасць, быццам у прысутнасці нечага неймавернага, небяспечнага і беспаваротнага. Але ён здолеў стрымана вымавіць:

– Вельмі безгустоўны жарт. Больш так не рабі.

– Жарт! – сказаў Карлье, падсоўваючыся наперад на сваім месцы. – Я галодны... я хворы... я не жартую! Ненавіджу крывадушнікаў. Ты – крывадушнік. Ты гандляваў рабамі. Я гандляваў рабамі. У гэтай клятай краіне ўсе гандлююць рабамі. Так ці іначай, сёння я збіраюся выпіць кавы з цукрам!

– Я забараняю табе так размаўляць са мной, – сказаў Карлье з падкрэсленай рашучасцю.

– Ты!.. Што? – закрычаў Карлье і падскочыў.

Каер таксама ўстаў.

– Я твой начальнік, – пачаў ён, намагаючыся супыніць дрыготку ў голасе.

– Што? – закрычаў другі. – Хто начальнік? Тут няма начальніка. Тут нічога няма, нічога, акрамя цябе і мяне. Нясі цукар, ср...ка тоўстая.

– Сачы за сваім языком. Прэч з пакоя, – закрычаў Каер. – Я цябе звальняю, падла!

Карлье схапіўся за зэдлік. Раптам ён пачаў выглядаць не на жарт небяспечна.

– Ты пухлы, ні на што не варты цывільны, вось ты хто! – выў ён.

Каер шмыгнуў пад стол, і зэдлік ўдарыўся аб дзярновую ўнутраную сценку пакоя. Пакуль Карлье намагаўся перавярнуць стол, Каер, прыгнуўшыся, зрабіў адчайны сляпы рывок, як загнаная ў кут свіння, збіў сябра з ног і кінуўся праз веранду ў пакой. Ён замкнуў дзверы, схапіў рэвальвер і спыніўся, цяжка дыхаючы. Менш чым праз хвіліну Карлье люта біўся ў дзверы і выў: “Калі не прынясеш

цукар, я цябе застрэлю не раздумваючы, як сабаку. Таму раз... два... тры. Не прынясеш? Я табе пакажу, хто тут гаспадар".

Каер баяўся, што дзверы не вытрымаюць, і пачаў працiскацца ў квадратную дзiрку, якая служыла ў пакоi акном. Цяпер iх раздзяляў увесь дом. Але Карлье вiдавочна быў не настолькi моцны, каб выламаць дзверы, i Каер пачуў, што той аббягае дом. Тады ён таксама цяжка пабег на сваiх распухлых нагах. Ён бег з рэвальверам у руцэ на ўсю нагу i не мог зразумець, што адбываецца. Ён па чарзе бачыў Маколаў дом, склад, рэчку, яр, невысокiя кусты, а потым яшчэ раз тое ж самае, калi аббягаў дом другi раз. Потым яны прамiльгнулi мiма яго зноў. А яшчэ ранiцай ён i прайсцi па двары не мог без стогну.

А цяпер ён бегаў. Ён бег дастаткова хутка, каб Карлье яго не ўбачыў.

Потым, слабы i адчайны, ён падумаў: "Я памру, не дабегшы наступнага круга", – i пачуў, як Карлье цяжка ступае i спыняецца. Ён таксама спынiўся. Ён быў спераду, а Карлье ззаду дома, як i раней. Ён пачуў, як той з праклёнамi плюхнуўся ў крэсла, i раптам яго ногi таксама падкасiлiся, i ён саслiзнуў i сеў спiнай да сцяны. У роце было суха, як ад попелу, а твар быў мокры ад поту – i ад слёз. Што здарылася? Усё здавалася жахлiвай мрояй. Ён быццам спаў. Ён быццам страцiў розум! Праз нейкi час ён сабраўся з думкамi. Праз што яны пасварылiся? Праз цукар! Якая бязглуздзiца! Ён бы аддаў яго, сам ён яго i не хацеў. I ён пачаў цяжка падымацца на ногi, раптам адчуўшы сябе ўпэўнена. Але перш чым ён змог роўна стаць, здаровы розум вярнуўся да яго – i вярнуў яго да роспачы. Ён падумаў: "Калi я зараз саступлю гэтаму салдафону, такi ж кашмар паўторыцца i заўтра... i паслязаўтра... кожны дзень... з новымi прэтэнзiямi, з брудам мяне змяшае, замучыць, зробiць мяне сваiм слугой – i ад мяне нiчога не застанецца! Нiчога! Параход можа не прыйсцi ў найблiжэйшыя днi – можа ўвогуле не прыйсцi". Ён задрыжэў так, што давялося зноў сесцi. Ён у адчаi дрыжэў. Яму здавалася, што ён больш не зможа варухнуцца, нiколi не варухнецца. Яго цалкам захапiла раптоўнае адчуванне, што выйсця няма – смерць i жыццё ў адно iмгненне сталi аднолькава цяжкiмi i жахлiвымi.

Раптам ён пачуў, як Карлье адштурхнуў крэсла, i з незвычайным спрытам ускочыў на ногi. Ён прыслухаўся i разгубiўся. Зноў трэба бегчы. Направа цi налева? Ён пачуў крокi. Ён кiнуўся ўлева з рэвальверам у руцэ, i, здаецца, у той самы момант яны сутыкнулiся. Абодва ад нечаканасцi закрычалi. Мiж iмi прагучаў моцны выбух. Шуганула чырвонае полымя з густым дымам. Аглушаны i асляплены, Каер адскочыў з думкай: "У мяне патрапiлi – гэта канец". Ён чакаў, што Карлье выбежыць, каб пацешыцца яго пакутамi. Ён ухапiўся за вертыкальную сцяну... "Канец!" Потым пачуў грукат падзення з другога боку дома, быццам нехта перакулiўся праз крэсла – потым запанавала цiшыня. Больш нiчога не адбывалася. Ён не памёр. Толькi плячо балела, быццам вывiхнутае, i згубiўся рэвальвер. Ён быў бездапаможны i без зброi! Заставалася чакаць сваёй долi. Карлье не выдаваў нi гуку. Гэта хiтрасць. У гэты самы момант ён падкрадаецца! З якога боку? Магчыма, у гэтую самую хвiлiну ён цэлiцца!

Праз колькi хвiлiн страшных i недарэчных пакутаў ён вырашыў пайсцi насустрач наканаванню. Ён быў гатовы на любыя саступкi. Ён павярнуў за рог, трымаючыся адной рукой за сцяну, зрабiў колькi крокаў i ледзь не страцiў прытомнасць. Ён убачыў, як з-за другога рога вытыркаецца пара сагнутых ног. Пара голых белых ног у чырвоных пантофлях. Яму стала вельмi млосна i нейкi час ён стаяў у глыбокай цемры. Тады перад iм з'явiўся Макола i цiха сказаў:

– Хадземце, мiстэр Каер. Ён памёр.

У яго хлынулi слёзы ўдзячнасцi, пачаўся прыступ гучнага плачу з усхлiпваннем. Праз некаторы час ён ужо сядзеў у крэсле i глядзеў, як Карлье ляжыць, выпрастаўшыся на спiне. Макола апусцiўся перад целам на каленi.

– Гэта ваш рэвальвер? – спытаў Макола, устаючы.

– Так, – сказаў Каер і вельмі хутка дадаў, – ён гнаўся за мной, каб застрэліць, ты ж бачыў!

– Так, бачыў, – сказаў Макола. – Тут толькі адзін рэвальвер. А дзе ягоны?

– Не ведаю, – прашаптаў Каер голасам, які стаў раптам вельмі слабым.

– Пайду пашукаю, – асцярожна сказаў Макола. Ён абышоў вакол веранды, а Каер нерухома сядзеў і глядзеў на труп. Макола вярнуўся з пустымі рукамі, пастаяў, глыбока задумаўшыся, тады ціха зайшоў у пакой нябожчыка, адразу ж выйшаў з рэвальверам і працягнуў яго Каеру. Каер заплюшчыў вочы. У галаве ўсё паплыло. Жыццё выявілася жахлівейшым і цяжэйшым за смерць. Ён застрэліў бяззбройнага.

Пасля нядоўгіх роздумаў Макола ціха сказаў, паказваючы на нябожчыка, правае вока якога лопнула:

– Ён памёр ад ліхаманкі, – Каер паглядзеў на яго скамянелым позіркам. – Так, – паўтарыў Макола, задуменна пераступіўшы цераз труп. – Думаецца мне, ён памёр ад ліхаманкі. Заўтра пахаваем.

І ён паволі пайшоў да сваёй цяжарнай жонкі, пакінуўшы двух белых на верандзе самім сабе.

Наступіла ноч, а Каер нерухома сядзеў у крэсле. Ён сядзеў так ціха, быццам быў пад уздзеяннем опіуму. Шквал эмоцый, які ён прапусціў праз сябе, прывёў яго да адчування знясіленай супакоенасці. За адзін кароткі дзень ён зведаў самыя глыбіні жаху і роспачы, а цяпер знайшоў супакой у перакананні, што для яго ў жыцці больш не засталося таямніц – таксама як і ў смерці! Ён сядзеў ля трупа і думаў. Думаў вельмі напружана, думаў зусім новымі думкамі. Ён быццам канчаткова вызваліўся ад самога сябе. Яго старыя думкі, перакананні, сімпатыі і антыпатыі, тое, што ён паважаў, і тое, што ненавідзеў, урэшце раскрылася ў сапраўдным святле! Выявілася нявартым і дзіцячым, фальшывым і абсурдным. Ён захапляўся сваёй новай мудрасцю, седзячы каля забітага ім чалавека. Ён спрачаўся з самім сабой пра ўсё, што існуе пад небам, з той зацятай упартасцю, якая часам сустракаецца ў вар'ятаў. Між іншым, ён зразумеў, што нябожчык усё адно быў агіднай скацінай. А яшчэ людзі штодня паміраюць тысячамі, можа, нават сотнямі тысяч – хто ведае? – у такім мностве адна смерць нічога не мяняе, не мае ніякага значэння, прынамсі, для людзей, здольных мысліць. Ён, Каер, мысліць здольны. Ён усё сваё жыццё, да гэтай хвіліны, верыў у такую ж безліч бязглуздзіц, што і большасць людзей, а яны дурні. І вось цяпер ён мысліў! Ён ведаў! Яго ахапіў спакой. Ён пазнаёміўся з найвышэйшай мудрасцю! Потым ён паспрабаваў уявіць, што мёртвы ён, а Карлье сядзіць у крэсле і назірае за ім. І нечакана гэтая спроба выявілася настолькі ўдалай, што праз колькі хвілін ён ужо зусім не меў пэўнасці, хто мёртвы, а хто жывы. Аднак такое незвычайнае дасягненне фантазіі яго спалохала, і разумным і своечасовым намаганнем розуму ён паспеў уратаваць сябе ад ператварэння ў Карлье. Яго сэрца калацілася, і ад адной думкі пра такую небяспеку ўсё цела ахоплівала ліхаманка. Карлье! Якая мярзота! Каб сабраць свае ўстрывожаныя – і не дзіва! – нервы, ён паспрабаваў трохі пасвістаць. Потым ён раптам заснуў, або яму здалося, што ён спаў да гэтага. Але так ці іначай навокал стаяў туман, і ў тумане нехта свістаў.

Ён падняўся. Настаў дзень, і на зямлю спусціўся густы туман – туман пранізлівы, паўсюдны і нямы, туман ранішніх тропікаў, туман, які прыстае і забівае, туман белы і смяротны, чысты і атрутны. Ён устаў, убачыў цела і ўскінуў рукі над галавой з крыкам чалавека, які выйшаў з трансу і зразумеў, што ён навечна замураваны ў магіле. "Памажыце!.. Божа мой!"

Крык – нечалавечы, дрыготкі і нечаканы, як вострае джала, працяў белы саван гэтай бязрадаснай зямлі. Потым былі тры кароткія, неспакойныя віскі, а тады

нейкі час клубы туману спакойна кaціліся ў пагрозлівай цішы. Потым паветра раздзерла яшчэ шмат крыкаў, хуткіх і пранізлівых, як крыкі якогасьці раззлаванага бязлітаснага стварэння. З боку рэчкі Каера клікаў прагрэс. Прагрэс, цывілізацыя і добрапрыстойнасць. Грамадства заклікала сваё дарослае дзіця прыйсці, каб пра яго паклапаціліся, каб яго навучылі, каб судзілі і прызналі вінаватым. Яно заклікала яго вярнуцца да той сціжмы бяссэнсіцаў, якую ён пакінуў, – і тады здзейсніцца правасуддзе.

Каер чуў і разумеў. Ён выйшаў з веранды і ў першы раз з таго моманту, як іх туды зацягнулі, пакінуў Карлье ў адзіноце. Ён ішоў праз туман усляпую, у сваёй цемнаце просячы нябачныя нябёсы вярнуць тое, што адбылося. У тумане міма пранёсся Макола, крычучы на бягу:

– Параход! Параход! Яны нічога не бачаць. Яны сігналяць станцыі. Я – біць у звон. Ідзіце да месца высадкі, сэр. Я – званіць.

І знік. Каер спыніўся. Ён паглядзеў угару. Проста над яго галавой клубіўся туман. Ён пачаў азірацца, быццам згубіўшыся, і ўбачыў цёмную пляму, крыжападобны след на рухавай чысціні туману. Калі ён пакульгаў да яго, станцыйны звон гучна адказваў на нецярплівыя вымогі парахода.

Выканаўчы дырэктар Вялікай Цывілізацыйнай Кампаніі (бо мы ведаем, што за гандлем прыходзіць цывілізацыя) высадзіўся першы, і параход у той жа момант знік з яго зроку. Каля ракі туман быў надзвычай густы. Вышэй, каля станцыі, няспынна і голасна гучаў звон.

Дырэктар гучна закрычаў да парахода:

– Нас тут ніхто не сустракае. Напэўна, нешта здарылася, хоць звон я чую. Выходзьце лепш са мной!

І ён пачаў караскацца на стромкі бераг. Капітан і машыніст судна – за ім. Чым вышэй яны ўзбіраліся, тым радзейшы рабіўся туман, і яны ўбачылі, што дырэктар здорава адарваўся. Раптам яны заўважылі, што ён памкнуўся наперад, крыкнуўшы ім праз плячо: “Бяжым! Бяжым да дома! Я знайшоў аднаго з іх. Бяжым, шукайма іншых!”

Ён аднаго з іх знайшоў! І нават яго, чалавека з багатым і няпростым досведам, знойдзенае ў пэўнай меры ўсхвалявала. Ён спыніўся і пачаў абмацваць кішэні (ён шукаў нож), гледзячы на Каера, які павесіўся на крыжы на скураным рамяні. Ён відавочна ўзлез на магілу, даволі высокую і вузкую, прывязаў адзін канец рэменя да папярэчыны і саскочыў. Яго ногі не даставалі да зямлі нейкую пару цаляў. Рукі напружана спускаліся долу. Ён быццам выцягнуўся на зважай, але галава адной пасінелай шчакой гулліва апусцілася на плячо. І ён непачціва паказваў выканаўчаму дырэктару свой распухлы язык.

*Пераклаў з ангельскай мовы Павел ДОНАЎ.*

## Мухамед Эбну. *(Заходняя Сахара)*

### *САХАРА*

Што там, за  
гэтымі сценамі,  
распісанымі тваім іменем,  
расквечанымі колерамі тваёй крыві?

Пара вачэй чорных, гожых і... стоеных.

## ДЗЕЦІ СОНЦА І ВЕТРУ

Мы ўсё яшчэ жывем у кутах
нябыту
між поўначчу і поўднем пораў года.

І ў сне гэтаксама
тулімся ў падушку глебы,
як нашыя бацькі.

Мы гонім усё тыя ж аблокі
і спачываем у цені калючых акацый.

Мы п'ем гарбату, прысёрбваем агонь,
ходзім басанож, каб не спудзіць цішу.

Здалёк
на схілах міражоў
усё ўглядаемся, як кожны вечар
хаваецца ў мора сонца.

І тая самая жанчына спыняецца
ля вартавых вежаў начы
і вітае нас у сэрцы гэтай мапы.

Вітае нас і растае
ў вачах дзіцяці, якое
смяецца ў падоле вечнасці.

І мы чакаем наступнае заранкі,
каб усё пачаць наноў.

## СПЯВАЙ, МАРЫЯМ!

Спявай, Марыям,
спявай,
што сэрца маё не б'ецца
і голас я маю слабы.
Спявай, Марыям,
спявай,
што Срэйзэр Дабу вярнуўся
і коннікі больш
не плачуць па ім.

Спявай, Марыям,
спявай,
што хвалі ізноў
цалуюць твой смех
і хлопчык на вуліцах Эль-Аюна
цябе называе сястрой.

Спявай, Марыям,
спявай,
што чакае мая любоў
у землях без ценю,
у журбе маіх вершаў,
пакуль спяваюць жанчыны,
што нарадзіўся твой голас
з флейты пастушка.
Спявай, Марыям,
спявай.

## *НАВІНЫ*

Седзячы ў кавярні,
шукаю між газетных артыкулаў
навіны дня.

Урэшце знаходжу!

Усё як учора
ці летась:
смерці, злачынствы,
войны і голад...

“Будучыня адкладаецца
да новых паведамленняў”.
“Шэсць сахарскіх выкладчыкаў
затрыманыя ў Маракешы,
бо шэсць іншых прыгаварылі
да турэмнага зняволення”.

Я скарджуся на якасць
эфіопскай кавярні.
А што яшчэ я магу зрабіць?
Можа, шмат...
Можа, нічога...
Але прыкра, што аддаляюся
і пачуваюся чужым
да ўласнай гісторыі.

Рахунак, калі ласка!

## *СЛЁЗЫ ПЯСКУ*

Час пылу і смецця,
што сыплецца
на дзіцячае гора.

Хлеб камянее
ў печы ілюзій

і малако прападае
ў сухіх грудзях міражу.

Вада імкнецца на поўнач,
дзіця пытае пра мора.

Пясчаныя слёзы
малююць твар ветру.

І маці пачынае
зняверана плакаць,
і бацька нямоглы
пагляд звяртае на Мекку
ды пачынае малітву.

## *ПРЫЙДЗІ*

Прыйдзі адчуць спакой далечыні,
злічыць гадзіны маўклівага выгнання.

Прыйдзі падумаць над граматыкай
пабляклай веснавой травы.

Прыйдзі адчуць пяшчоту сірока
на сваёй змярцвелай скуры.

Прыйдзі пацалаваць абуджаны
пыл дарог ветру.

Прыйдзі паслухаць водгулле часу
у срэбных вачах памяці.

Прыйдзі аддацца ўспамінам
з водарам апошняга дажджу.

Прыйдзі ўхапіць нутро
цяжкога звона галубоў.

Прыйдзі дагнаць міраж
і наталіць прагу раскаяння.

Прыйдзі паглынуць новыя кветкі,
народжаныя няўдзячнасцю пор года.

Прыйдзі згрызці косці
з багатага стала вайны.

Прыйдзі выпіць апошні кубак
першай гарбаты дзяцінства.

Прыйдзі ўзняцца на вяршыні
страчанай тугі.

У той самы дзень, як і я, толькі на год пазней, прыйшоў у гэты свет скульптар Аляксандар Бацвінёнак, які стварыў праект помніка заснавальніку Жодзіна князю Багуславу Радзівілу, гэтаксама народжанаму 3 траўня!

*03.05.2007.*

## Другі тур

Другі датэрміновы тур агульнанацыянальнай дыктоўкі падхапілі ў інфармацыйным агенцтве БелаПАН. Своеасаблівую эстафету ахвотна пераянялі Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы Балгарыі Петка Ганчаў, Ізраіля Зееў Бен-Ар'е і Польшчы Генрык Літвін, якія селі пісаць па-беларуску пад сваімі дзяржаўнымі сцягамі. Да іх далучыліся кіраўнік беларускай службы “Радыё Свабода” Валянцін Жданко і рэдактарка БелаПАНа Ірына Леўшына.

Правёў я гэтую дыктоўку пасля ўступнага слова Уладзіміра Падгола разам з Лявонам Баршчэўскім.

А потым наладзілі імправізаваную літаратурную вечарыну. Зееў Бен-Ар'е пачытаў прозу(!) Васіля Быкава ў арыгінале і ў сваіх перакладах на іўрыт. Генрык Літвін, прозвішча якога лашчыць беларускі слых, дэкламаваў вершы па-польску, а паліглот Лявон Баршчэўскі – па-балгарску, па-польску і на ідыш!

Прыгадваліся і некаторыя цікавыя гістарычныя факты.

Да прыкладу, “Дудку беларускую”, надрукаваную ў 1891 годзе ў Кракаве лацініцаю, бо мова беларуская была забароненай у Расійскай імперыі, прывозіў на Беларусь кніганоша, тагачасны беларускі патрыёт і... будучы начальнік Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі.

А мова ідыш была дзяржаўнаю толькі адным часам – на Беларусі ў 20-я гады мінулага стагоддзя. Гэта выключны выпадак у гісторыі!

*19 сакавіка 2008 года.*

## Апошні ветэран

Па мне ён – адзін з апошніх сапраўдных ветэранаў (ад лац. veteranus = стары, дасведчаны) Вялікай Айчыннай, бо сышоў у партызаны трынаццацігадовым хлапчуком!

Абрыдла ўжо пафасная хлуслівая рыторыка дый палітычныя спекуляцыі на ветэранскай тэме. Даходзіць да поўнага абсурду – дзяржаўны дзеяч 1954 года нараджэння выступае напярэдадні свята перад шырокай аўдыторыяй, прыкладае руку да сэрца і скрушна, пранікнёна прамаўляе: “Дарагія ветэраны! Як я вас разумею – у мяне ў самога бацька загінуў на гэтай вайне!” У адказ яму пляскаюць у ладкі, замест таго, каб супаставіць даты і ўцяміць, што ім бессаромна хлусяць – жанчына выношвае дзіця дзевяць месяцаў, а ніяк не дзевяць гадоў!

І школьнікаў, і ветэранаў актыўна запрашаюць на так званую “Лінію Сталіна” пад недалёкім ад нашае Лысае Гары Заслаўем, дзе нібыта ішлі жорсткія баі з гітлераўцамі. Але пра якія баі можна весьці гаворку, калі на пяты дзень вайны фашысты ўжо ўварваліся ў Мінск!

Пакрысе ў дзяржаве статус ветэранаў набываюць удзельнікі авантуры ў Афганістане, а таксама іншых войнаў і канфліктаў, у якіх удзельнічала “імперыя зла”.

Было пра што пагаварыць з мужным і праўдзівым чалавекам. Падалося, што вельмі быў усцешаны і сам Валянцін Яфімавіч Тарас, калі на Дзень Перамогі наведаў яго на Лысай гары, падараваў важкі двухтомнік “Беларуская літаратура і свет”. Ачуняў ён пасля сваіх зацяжных хваробаў, а кампанію нам, праўда, ненадоўга, склаў ягоны сын Віталь, публіцыст і журналіст, нядаўні імяніннік-Цялец, якога віншавалі тры дні таму.




*Уладзімір Сіўчыкаў, Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін і Ірына Жарнасек.*

Гаспадыня, спадарыня Рэня сцвярджала, што большасць беларусаў, як сялянская нацыя – зямныя знакі, Цяльцы дый Казярогі.

Аказалася, што ўзняць кілішкі трэба было і з сумнае нагоды – мінулася дзевяць дзён, як адышла ў лепшы свет Дыяна Дракахруст. За тры тыдні да таго прыняла яна ў шпіталі хрост пры ўсіх яе найскладанейшых адносінах з інстытутам праваслаўнае царквы. Бацька ў яе быў святаром, але ў свой час мусіў адмовіцца ад сана, каб выратаваць сям'ю.

Вось так і мяжуюцца, перакрыжоўваюцца ў жыцці ўрачыстыя, радасныя і журботныя даты.

І пра гэта гаварылася, разважалася пры каміне, які, падавалася, аптымістычна пастрэльваў, салютаваў жарынкамі і вугольчыкамі ад сасновых дроў.

*У Дзень перамогі 2008 года.*

## Сумная тэндэнцыя

У нашым садовым таварыстве, здаецца, яшчэ зусім нядаўна прадалі лецішчы Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, сын Міколы Корзуна Віктар, а сёлета выставілі на продаж свае сядзібы Сяргей Законнікаў, удовы Алеся Ставера, Карласа Шэрмана, Анатоля Грачанікава і, падобна, спадчыннікі Клаўдзіі Каліны.

Скрушна, бо на пісьменніцкіх лецішчах саміх літаратараў становіцца ўсё меней.

Затое сярод нанова абраных сяброў праўлення таварыства – новыя гаспадары сядзібаў, пракурор і падпалкоўнік міліцыі.

Відавочная сумная тэндэнцыя (ад с.-лац. tendentia = накіраванасць), якая сведчыць, хто сёння ў краіне робіцца заможны, а хто нішчымнее.

Дзеячы мастацтва і культуры, якія не паслугоўваюць уладным структурам, відавочна саступаюць сілавікам і чыноўнікам, выцясняюцца імі з жыццёвае прасторы.

Мімаволі прыгадваецца чэхаўскі "Вішнёвы сад".

*23 ліпеня 2008 года.*

## Містыка

Проста містыка (ад грэч. mystika = таямнічасць) нейкая!

Пляменніка і хрэсніка Максіма, з якім намерваўся пайсьці па чабор на Лысую Гару перад Купаллем, бацькі занялі на бетонных работах памочнікам, каб паднавіць, падліць адмостку пры падмурку іхняй сядзібы на другім схіле гары.

А калі апоўдні выправіўся да іх сам, дык дождж, які нібыта і збіраўся паўдня, пайшоў якраз тады, як выйшаў я за браму садовага таварыства. Паглыбляўся ў лес – гусцеў і дождж, пагражаў ператварыцца ў залеву. Сарваў я пры сцяжыне некалькі гарлянак і мусіў вярнуцца.

Зайшоў у дом, і літаральна праз мінуту дождж суцішыўся!

Вось так і не дала Лысая Гара чабору, якім намерваўся палячыць свой даўні кашаль! Лічыцца, што многія зёлкі маюць на Купалле найбольшую моц, але, аказваецца, не заўсёды даюцца.

Выпраўляцца яшчэ раз, зноў выпрабоўваць удачу не стаў, каб захаваць ілюзію выпадковасці, супадзення, тым болей, што неўзабаве зноў зацерусіла з-пад нізкіх хмар.

*На Купалле 2009 г.*

## Герб

Хлопчык-гарэза сядзеў на лаве аўтобуснага прыпынка “Малая Валоўшчына” поруч з бабуляй. Гартаў дзіцячую энцыклапедыю і раз-пораз даймаў яе сваімі пытаннямі.

Аднаго з іх бабуля аніяк не магла ўцяміць, а праз тое і адказаць.

– Ну, што, бабуля, значыць, гэты знак з тваіх часоў, з тваёй маладосці?

– Які такі знак?

– Ну вось гэты. Бачыш, намаляваны малаток з бананам!

Тут увесь прыпынак грымнуў рогатам.

Аказалася, што пытаўся малы пра савецкі герб (ад ням. Erbe = спадчына) – серп і молат.

Дзіва што! Малаток – рэч зразумелая, а дзе было малому гараджаніну пабачыць серп?! А вось банан – рэалія штодзённая, асабліва калі ўзяць пад увагу сёлетняе субтрапічнае, са спякотаю і ледзь не штодзённымі залевамі, беларускае лета. Банан можна ўбачыць у продажы і на вуліцы, і на базары, і ў супермаркеце, і практычна ў кожнае прадуктовае краме.

*29 ліпеня 2009 г.*

## Штандар

Кожнага разу, як прыязджаю на лецішча, уздымаю на імправізаваным флагштоку бел-чырвона-белы штандар (ад ням. Standarte, ад ст.-фр. estandart = сцяг). Флагшток калісь быў вудзільнам, але калі ў дом чарговы раз забраліся рабаўнікі-вандалы і зламілі ягонае апошняе, пятае калена, дык стацыянарна замацаваў тое вудзільна пасярод участкаў, а штандар наш бел-чырвона-белы лунае як сімвал свабоды і беларушчыны на маіх васьмі сотках.

Па-рознаму ставяцца да яго суседзі. Адны – з адабрэннем і ўхвалаю. Другія паблажліва пасміхаюцца, маўляў, дзівак. Трэція робяць выгляд, што звыкліся і не зважаюць на сцяг. Касавурацца камунякі дый сэксоты, якія, мабыць, даўно панапісвалі даносы. Прынамсі, адзін, за подпісам Генадзя П., паказваў мне пазалетась былы намеснік міністра інфармацыі.

Анатоль К., ідучы звыклым маршрутам да вартаўнічкі з тэлефонам, аднаго разу не стрымаўся і сцішаным голасам, ледзь не шэптам спытаўся:

– А вы не баіцеся? Гэта ж незарэгістраваная сімволіка!

– Незарэгістраваная часова і кім?! Цалкам падзяляю пачутае нядаўна: “У жыцці заўсёды трэба кіравацца прынцыпам – я люблю і заўсёды буду любіць сваю Радзіму, якой бы яна ні была, але ненавіджу сваю дзяржаву.” Нацыянальная сімволіка, у адрозненні ад штучнай, прасавецкай – выразная, арганічная, спрадвечная. Яна была, ёсць і будзе!

А аднаго вечара зусім невядомы мне дзядзька наразаў кругі вакол майго ўчастка, а потым усё ж папрасіў дазволу зайсці, каб паціснуць мне руку і выказаць сваё захапленне – які ў нас прыгожы сцяг! Аказалася, што сам ён украінец і прыехаў пагасцяваць да свайго зяця.

Засмуціла аднойчы, што блізкі мне чалавек папрасіў зняць штандар, бо чакаў гасцей і... саромеўся яго, маўляў, даўно ўжо пара перарасці гэты ўзровень!

Адмаўляюся разумець, як можна перарасці сапраўдную нацыянальную сімволіку?! Сваімі сцягамі, гімнамі, гербамі ганарацца амерыканцы, брытанцы, габрэі, канадцы, літоўцы, славакі, шведы. Ганарацца ўсе цывілізаваныя народы.

А мы што – перараслі?! Ці не дараслі да сусветнага ўзроўню?!

*19 жніўня 2009 г.*

## De gustibus non disputandum est*

На ўрачыстым прыёме ў гатэлі “Crowne Plaza”, які чэшскае пасольства давала з нагоды Дня чэшскае дзяржаўнасці, амбасадар Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ганарліва хадзіў пад ручку з пераможцаю міжнароднага конкурсу прыгажосці “Міс Інтэркантыненталь-2009”, сваёю суайчынніцаю Анэлі Кінтэра, і з задавальненнем прадстаўляў яе гасцям.

Дваццацітрохгадовая прыгажуня, мадэлька і тэлевядоўца, ахвотна дарыла ўсмешкі прысутным – прымалі яе ў Мінску шыкоўна. Напярэдадні пабывала яна ў Дудутках, пасмакавала страў беларускае кухні, а на футбольным манежы ў яе гонар было наладжана вечаровае шоу з феерверкам.

Калі пакінулі яе ў кампаніі жонак дыпламатаў, амбасадар Літвы Эдмінас Багдонас заявіў свайму суразмоўцу:

– Як украініст паводле адукацыі, скажу вам, калега, што асабіста мне дык вунь тая ўкраінка-брунетка, якая стаіць поруч з венесуэлкай, куды больш падабаецца!

– Я ведаю, што ў нашага венгерскага і ў нашага палесцінскага калег жонкі ўкраінкі. Але чаму вы так упэўнена сцвярджаеце, што і тая смуглянка – украінка? – спытаўся заінтрыгаваны амбасадар Украіны Дзмітры Ліхавы. – І чаму яна падабаецца вам больш, чым сённяшняя “Міс Інтэркантыненталь”?

– Ды хаця б таму, што яна – мая жонка!!! Хадземце, я вас зараз пазнаёмлю!

Сітуацыя нагадвала знакамітую сцэну, калі самы папулярны літаратурны герой Артура Конан Дойла, дэтэктыў Шэрлак Холмс дабрадушна пацьвельваў са свайго сябра і біёграфа доктара Уотсана. Глядзеў ён нібыта на незнаёмага праходжага праз акно кватэры місіс Хадсан і расказваў пра таго неверагодныя падрабязнасці. А потым прызнаўся небараку, што апісваў... свайго роднага брата Майкрафта!

*29 верасня 2009 г.*

---

* Пра густы не спрачаюцца *(лац.)*.

## Катынь праз семдзясят гадоў

З раніцы дазнаўся праз Internet пра трагедыю пад Смаленскам. Катынь – проста праклятае месца, якое і праз семдзесят гадоў зноў запатрабавала ахвяраў!

Жудасная авіякатастрофа – не ацалеў аніхто са ста трыццаці двух чалавек, якія ляцелі на жалобныя мерапрыемствы – ні прэзідэнт Лех Качыньскі, ні ягоная жонка Марыя, ні ўрадоўцы, ні экіпаж самалёта.

Праходзіў поруч з амбасадаю Польшчы – прыспушчаныя сцягі, лампадкі і чырвоная-чорныя ружы пры ўваходнае браме.

А на працоўным стале ў мяне – атрыманая пяць дзён таму з Інстытута Польскага і падпісаная ягоным дырэктарам Пятром Казакевічам віншавальная паштоўка з тэкстам: “Wesołych świąt Wielkanocnych!”

Вось табе і маеш весялосць паміж Вялікаднем і Радаўніцаю!

* * *

Няраз даводзілася гаварыць і з польскімі гісторыкамі, што пяць-шэсць стагоддзяў гістарычныя лёсы беларусаў і палякаў цесна знітаваныя. Нават сімвалы нацыянальных трагедый – Хатынь і Катынь – гучаць амаль неадрозна...

І многія лічаць, што гэта невыпадкова, што Хатынь як мемарыял была выбрана савецкімі прапагандыстамі знарок, каб заблытаць, змяшаць з Катынню.

Вельмі істотна і тое, што гісторыя Катыні – гэта гісторыя хлусні! Надзвычай важна не толькі тое, што там закатаваныя тысячы людзей, але і тое, што ўся моц тагачаснай прапаганды была сканцэнтраваная, каб не дапусціць праўдзівага слова пра трагедыю, што там адбылася, каб прымусіць саміх палякаў забыць абоілжыва сведчыць пра Катынь.

Дый не толькі палякаў! У верасні 1939 году на тэрыторыі Польшчы Чырвонай арміяй былі захопленыя каля двухсот сарака тысяч палонных, а ў красавіку-маі 1940 году каля дваццаці двух тысяч польскіх грамадзян – палякаў, беларусаў, габрэяў, украінцаў... Іх утрымлівалі ў розных турмах і лагерах, знішчалі пад Катынню, як знішчалі пад Курапатамі і ў іншых месцах катаванняў. Па-беларуску словы “Катынь” і “катаванні” гучаць як аднакарэнныя, а таму асабліва злавесна. А між тым расійская вайсковая пракуратура і сёння адмаўляецца прадаставіць Хамоўніцкаму суду ў Маскве матэрыялы справы па Катыні, сцвярджае, што большасць са 183 (!) тамоў мае грыф “Абсалютна сакрэтна”!

Але гістарычная памяць асэнсоўваецца і на мастацкім узроўні. Пра Катынь у аднайменным кінафільме Анджэя Вайды гаворыцца вельмі выразна і балюча.

*10 красавіка 2010 г.*

## Акадэмічны Віня-Пых

У калідоры аднаго з хмарачосаў пры Батанічным садзе, якія абазнаныя мінчукі завуць “аслінымі вушамі”, сустрэў лексікограф, акадэмік Аляксандар Б. свайго калегу, член-карэспандэнта Міхася К. дый пытаецца:

– Здаецца мне ці й напраўду ты крыху распаўнеў?

– Ну так, апошнім часам кепска харчаваўся, – гаротна ўздыхнуў той.

– Што ж так, братка?

– Дык жонка на месяц з’ехала ў адпачынак.

– Няўжо з голаду ўжо пухнеш?!

– Ды не! Купіў вядзерца мёду, і як зусім нясцерпна есці захочацца, дык падыду, зачэрпну лыжку і пракаўтну, пераб’ю апетыт...

– Ну дык і што?

– Мёд ужо скончыўся... – сцішыў голас член-карэспандэнт.

– Няўжо за дзень усё вядро агораў?! – схамянуўся акадэмік.

– Ну, можа, не за дзень, а за два ці за тры, – зноў уздыхнуў Віня-Пых беларускі, а потым рэзнуў сабе далоняй па Адамавым яблыку. – Але больш ужо не хачу дый не магу!

*27 чэрвеня 2010 г.*

## “Sto lat, sto lat!..”, або Сіняскурая пашпарціна

Атрымаў я ад Шведскага інстытута запрашэнне паўдзельнічаць у Міжнародным форуме выдаўцоў дзіцячай літаратуры. Мусіў ён прайсці ў верасні ў Стакгольме, а праз гэта патрэбна была новая шэнгенская віза, бо мая цяперашняя сапраўдная толькі да канца жніўня.

Куратар Форума, надзвычай сімпатычны чалавек, перакладчык і выдавец Нільс Хокансан, які ачольвае шведскую фірму “Ruin”, узяўся паспрыяць. Запытаўся ён і папрасіў даслаць па электроннай пошце мае асноўныя пашпартныя дадзеныя, каб праз Шведскі інстытут арганізаваць запрашэнне на візу.

Праз пару дзён дасылае ён чарговы ліст, а ў ім і асцярожнае пытанне, ці праўда, што мой пашпарт (ад фр. passport, passe = праход + port = гавань) дзейсны да 2058 года?

Давялося тлумачыць, што паводле беларускага заканадаўства пашпарт выдаецца грамадзяніну ў шаснаццаць гадоў. Мяняецца ён з новай уклеенай фатаграфіяй у дваццаць пяць гадоў, бо за дзевяць гадоў падлетак ці дзяўчына ператвараюцца ў дарослую асобу, фізіянамічна могуць змяніцца вельмі істотна, часам да непазнавальнасці. І нарэшце, калі асноўны дакумент не страчаны або не пашкоджаны, калі не скончыліся вольныя старонкі на штампы памежнікаў і іншыя службовыя пазнакі, дык у сорак пяць гадоў чалавек атрымлівае апошні, “пажыццёвы” пашпарт, а тэрмін дзеяння прастаўляецца ў ім у сто гадоў ад даты нараджэння!

Дарэчы, у нашых пашпартах прынята скандынаўская сістэма пабудовы ідэнтыфікацыйнага нумару. Першыя лічбы – гэта палавая прыналежнасць і стагоддзе нараджэння. Другая група лічбаў – дата нараджэння. Наступная – парадкавы нумар пашпарта, які выдадзены падраздзяленнем па грамадстве і міграцыі. А апошняя кантрольная лічба разлічваецца па спецыяльнай формуле, каб кантраляваць, ці правільна згенераваны гэты самы ідэнтыфікацыйны нумар.

Нільс потым дзякаваў мне за гэтую “краязнаўчую” даведку і як перакладчык, але падобныя пытанні чуў я і раней. Польскія памежнікі, бывала, цікавіліся: “Пан Уладзімір, вы папраўдзе намерваецеся жыць сто гадоў?!” Даводзілася аджартоўвацца, маўляў, у нас на Беларусі гэта зусім не рэдкасць, асабліва сярод вясковых кабет.

А можа лічаць беларускія чыноўнікі, што кожны беларус мусіць дажыць да стогадовага юбілею?! Аднак не стасуецца гэта з шырокавядомым сцверджаннем “правадыра”: “Беларускі народ будзе жыць кепска, але нядоўга!”

Некаторыя нашыя суайчыннікі так і не прынялі пашпарты новага ўзору – паранейшаму карыстаюцца савецкімі, а ў дадатак да іх даведкамі з райвыканкамаў. Найперш гэта зацятыя вернікі артадаксальнай, праваслаўнай царквы. Асцерагаюцца яны, што ў ідэнтыфікацыйным нумары можа быць зашыфраваная інфармацыя аб індывідуўме, якая дазваляе сачыць за ім, каб ведаць усё пра чалавека. Яшчэ болей баяцца, што неўзабаве могуць быць уведзены біяметрычныя пашпарты з мікрачыпамі.

Вось толькі цікава, пастыры, якія блаславаўляюць вернікаў на барацьбу за адмену ідэнтыфікацыйнага нумара, мабыць, маюць цяперашнія дзяржпашпарты, каб ездзіць і на свае канфесійныя кангрэсы?

*На Купалле 2010 года.*

## Зорка на матчыных на градах

Узгадалася, як гадоў з дванаццаць таму ляцелі аднаго летняга надвячорку пры маіх лысагорскіх сотках задыханыя суседскія дзяўчаткі Таня П. і Каця Г.

– Што здарылася, даражэнькія?

– Дзядзька Валодзя, дзядзька Валодзя, уяўляеце – на суседнім участку Лявон Вольскі ў адных толькі трусах грады палівае!!!

– Ну дык і што тут дзіўнага?! – Перапытаўся я ў іх. – Ягоная мама, паэтка Святлана Яўсеева – нашая суседка па ўчастку. Дык чаму сын не можа прыехаць да яе ў госці і дапамагчы ў садзе ці ў агародзе?!

– Не, дзядзька Валодзя, вы не разумееце – САМ Лявон Вольскі ў адных толькі майтках са шланга грады палівае!

– Ну, добра, а калі б вы пабачылі яго ў адных толькі майтках ці ў плаўках на пляжы або каля басейна, таксама здзівіліся б?! Вось каб ён у такім выглядзе да рампы выйшаў!

Напэўна, логіка слоў пра імаверныя сітуацыі з іхнім музычным кумірам падзейнічала, але ж недавер у вачах у дзяўчатак застаўся.

*1 чэрвеня 2011 года.*

## "Амерыканец"

У наш ПЭН-цэнтр на сустрэчу беларускіх і шведскіх пісьменнікаў прыйшоў і Аляксандр Фядута. Былы палітвязень расказаў, што адным з пакаранняў у турме КДБ аказалася спрэс нізкаякасная літаратура ў тамтэйшай бібліятэцы.

Чытаць крытык і літаратуразнаўца там не змог, а таму ўвесь свой вольны час прысвяціў прыгожаму пісьменству. За тэрмін зняволення выйшлі з-пад ягонага пяра некалькі сшыткаў успамінаў і паўсшытка, як спадар Аляксандр сам іх пайменаваў, "амерыканскіх" вершаў. "Амерыканскіх", бо напісаныя яны былі ў турме, знанаю пад назвай "амерыканка": збудаваная яна была на ўзор турмы ў Чыкага.

Падзяліўся спадар Аляксандр і ідэяй папоўніць бібліятэку вязніцы, перадаць туды добрыя кніжкі. Разам з Міхасём Скоблам сабраў ён з сотню тамоў, да якіх дадаў я яшчэ трыццаць паасобнікаў са сваіх збораў і з выдавецкага фонду.

Ініцыятыву гэтую падхапіў "Малады фронт" – таксама стаў збіраць кнігі, каб перадаць іх палітзняволеным у вязніцы і ў калоніі.

*6 чэрвеня 2011 г.*

## Фата-маргана

Аднаго ранку Уладзімір С. праходзіў нашым лысагорскім завулкам, схамянуўся, як пабачыў мяне, няўпэўнена працягнуў руку павітацца, а потым няраз яшчэ азірнуўся, нібыта згледзеў фата-маргана (ад італ. fata Morgana = фея Маргана, якая падманвала маракоў прывіднымі зданямі).

Напачатку здзівіўся і я такой рэакцыі, а потым здагадаўся, у чым прычына.

Апошнім разам бачыліся мы на Мінскай кніжнай выставе-кірмашы. Я працаваў тады на стэндзе Славацкай Рэспублікі, рэпрэзентаваў публіцы найперш "Кароткую граматыку славацкай мовы" і "Беларуска-славацкі размоўнік-даведнік". Пажартаваў тады, сказаў у адказ на ягонае запытанне, што набыў у Славакіі выдавецтва і назаўсёды з'язджаю з усёй сям'ёю ў Браціславу.

Успомнілася яшчэ, што гадоў пяць таму гэтаксама няўцямна, нібыта на прывід пазіраў на мяне перастваральнік дантэўскай "Боскай камедыі" пры водакалонцы на Нехаёўцы:

– Што ты робіш тут, на дачы?! Ты ж сядзіш у следчым ізалятары?! Літаральна

ўчора на радзе Саюза пісьменнікаў мы прынялі адозву з патрабаваннем вызваліць цябе!

Тады разгадаць рэбус удалося яшчэ хутчэй – як было гэта ўжо няраз, паблыталі мяне па прозвішчы з палітыкам Вячаславам Сіўчыкам.

*22 чэрвеня 2011 года.*

## Пікіроўкі

На маскоўскай кніжнай выставе-кірмашы, якая вось ужо больш за дваццаць гадоў традыцыйна адкрываецца ў першую сераду верасня, згадваліся некаторыя дыялогі і пікіроўкі (ад фр. se piquer = гаварыць з'едліва) з расійскімі калегамі па творча-вытворчым цэху.

* * *

Смалянін Віктар Т. адклаў убок сваю ўлюбёную газету "Известия" і заявіў мне:

– Ну, канечне, рана ці позна вы, няўдзячныя беларусы, здасцё нашу дружбу і зваліце ад нас у Еўропу! Але мы доўга, наколькі зможам, будзем трымаць вас у сваіх братніх абдымках!

– А нам асабліва і звальваць нікуды не трэба! – Запярэчыў я яму. – Мы заўсёды былі еўрапейцамі геаграфічна, гістарычна і, калі хочаш, ментальна. Мовазнаўцы даводзяць, што беларускія гаворкі распаўсюджаныя ажно да Вязьмы, не кажучы ўжо пра Смаленшчыну! Вы, расіяне, пыхліва заяўляеце пра сваю веліч, нібыта нават вымушаныя былі размясціцца на двух кантынентах, у Еўропе і ў Азіі, а праз тое часам называеце сябе еўразійцамі. А можа дакладней было б вам звацца азіёпцамі?!

А што тычыць моцных братніх абдымкаў, дык перакажу табе адну даўнюю прыпавесць... Д'ябал сказаў чалавеку: "Я так цябе люблю, што анікуды, ні на крок не адпушчу ад сябе!" А Бог сказаў чалавеку: "Я так цябе люблю, што аніяк не магу няволіць. Ты свабодны і можаш ісці на ўсе чатыры бакі!"

* * *

Пецярбуржац Сяргей Р. аднаго разу паблажліва паляпаў мяне па плячы і паспачуваў:

– Усе ведаюць, што вы, беларусы, бедныя! Няма ў вас ані нафты, ані газу...

– Затое вы, расійцы, і асабліва маскалі, абагачаліся і абагачаецеся за кошт суседніх народаў, спрадвеку рабавалі іхнія землі, воды і нетры! Нават калоніі мелі не за морамі, як іншыя, класічныя імперыі, а на сваіх ускраінах. Ваша сталіца і сёння высмоктвае з рэгіёнаў усе сокі – ад сібірскіх нафты з газам да якуцкіх алмазаў. А ганарыцца тым, што прадаяце за мяжу карысныя выкапні і энерганосьбіты – гэта доля краін трэцяга свету!

А калі ўжо казаць пра нашыя непасрэдныя, выдавецкія узаемастасункі, дык мы прадаем вам ідэі і арыгінал-макеты. Гэта інтэлектуальны прадукт, а інтэлект найбольш цэніцца ў цывілізаваным свеце. Біл Гейц – адзін з найбагацейшых людзей у свеце, і абагаціўся ён найперш праз продаж інтэлектуальнага прадукту – кампутарных праграм!

Больш Сяргей аніколі не загаворваў пра беларускую беднасць.

* * *

Масквіч Аляксей К., галоўны рэдактар "высакалобага" выдавецтва, дапытліва прыглядаўся да майго подпіса на дамове і не стрымаўся, папрасіў патлумачыць сігнатуру, а потым доўга дзівіўся, што гэта мае ініцыялы і прозвішча, накрэсленыя па-беларуску... лацініцай.

Мабыць, куды меней здзівіў бы яго подпіс майго колішняга калегі на англійскі ці нават на амерыканскі капыл – Kirilloff. Імаверна, гаварыў у ім на той момант не этнічны, але абруселы армянін, а масквіч у найгоршай – маскальскай, імперскай праяве.

Стрыечны брат, крымінальны аўтарытэт у Ерэване – гэта яму зразумела і прымальна, а вось свядомы беларус, інтэлігент – дзіва дзіўнае! Нялёгка было Аляксею ўцяміць такую праяву – "малодшы" брат з пэўнай самаідэнтыфікацыяй ды яшчэ ў "схізматычнай", лацінскай, а не звыклай яму, візантыйскай афарбоўцы.

* * *

З іншым жыхаром расійскае сталіцы Паўлам Б. перастрэўся быў на найбуйнейшай у свеце, Франкфурцкай кніжнай выставе-кірмашы. Цягнуў ён важкі стос фаліянтаў, набытых пад будучыя пераклады, але прыпыніўся перакінуцца некалькімі ветлівымі фразамі – як ідуць справы, хто дзе і як уладкаваў побыт падчас выставы.

– Жывем, – кажа, – трэція суткі ў Майнцы і ўсё стараемся згадаць, што за знаёмая назва?!

– Можа, праз тое, што гэта радзіма Ёгана Гутэнберга, вынаходцы еўрапейскага кнігадрукавання?

– Во, блін, а мы ніяк не маглі дапяць!

– Добра, што хоць гэта вы ўспрымаеце! Бо палачаніна Францыска Скарыну, усходнеславянскага першадрукара, не знайсці ў многіх расійскіх энцыклапедыях. Ёсць навуковая версія, што спрабаваў ён наладзіць кнігадрукаванне і ў Маскве, але тагачасныя папы-цемрашалы выгналі яго, а ягоныя кнігі і рыштунак папалілі. А між тым Скарына надрукаваў тамы Бібліі на паўстагоддзі раней за нашага ж Івана Хведаровіча, якога вы ўважаеце за расійскага першадрукара і імянуеце Іванам Фёдаравым.

– Ну дык паняцце нацыянальнасці на той час было спрэчным, размытым!

– Але, дзякаваць Богу, беларускасць ягонага паплечніка Пятра Мсціслаўца аспрэчыць немагчыма! І, мабыць, нездарма ўцяклі яны разам доўжыць справу з вашае Масквы ажно ў Львоў!

* * *

У свой час досыць нярвова рэагаваў і масквіч Глеб У. на беларускамоўную і англамоўную прапановы з майго тэлефоннага аўтаадказчыка пакінуць, надыктаваць сваё паведамленне:

– Няправільна гэта, Валодзя, што зусім не гучыць рускамоўны тэкст! Трэба было б, каб аўтаадказчык найперш адгукаўся па-руску!

– Але паводле Канстытуцыі ў нашай краіне замацаванае двухмоўе, – мякка пярэчыў я яму. – А згодна з алфавітам беларуская мова мусіць стаяць паперадзе!

* * *

Цверыцянін, як апошнім часам упадабалі іменавацца жыхары горада Цвер, Алег П., з якім знаёмы я больш за пятнаццаць гадоў, неяк улетку спытаў:

– Уладзімір Мікалаевіч, а як вам бачыцца будучыня Беларусіі?

– Я хацеў бы бачыць сваю краіну, якая, дарэчы, завецца не Беларусія, а Беларусь, заможнай, незалежнай, еўрапейскай дзяржаваю. Такой як Польшча, Славакія альбо Чэхія. Я ўвогуле быў бы не супраць, каб Беларусь увайшла ў Вышаградскую групу, або аднаўляла б найлепшыя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага поруч з Літвою ды Украінай!

І што я пачуў у адказ?

Непрыхаванае абурэнне!

– Уладзімір Мікалаевіч, адкуль у вас антырасійскія настроі?!

– Злітуйцеся, хіба я хоць паўсловам згадаў Расію?! Мама мая нарадзілася на беларуска-рускім памежжы, паміж Неўлем і Вялікімі Лукамі, і ў пашпарце запісаная рускаю. На рускай мове гавару я не горш за вас. У маім дыпломе з Белдзяржуніверсітэта напісана "Спецыяліст па беларускай і рускай мове і літаратуры". Дагэтуль гасцюю часам у сваякоў на Волзе і ахвотна прымаю іх у сябе. Урэшце, эўрыстычна і эканамічна спрыяю вашаму бізнэсу, а вам усё трызняцца антырасійскія настроі?! Можа, вы лепш патлумачыце мне сэнс вашага нядаўняга свята – Дня незалежнасці Расійскай Федэрацыі? Вельмі цікава, ад каго гэта вы, расіяне, раптам сталі незалежнымі 12 чэрвеня, хто гэта вас прыгнятаў і рабаваў напрыканцы мінулага стагоддзя?

– Пра гэта я не думаў. Але, мабыць, добра было б вам аб'яднацца з Расіяй. Як жа Саюзная дзяржава Расійскай Федэрацыі і Беларусіі?

– Вы назву нашай дзяржавы зноў прамаўляеце на стары лад! А так званая Саюзная дзяржава – гэта з аднаго боку суцэльная дэмагогія, каб атрымліваць танныя энерганосьбіты, а з другога – амаль непрыхаванае памкненне інкарпарыраваць Беларусь, уключыць яе ў Расійскую Федэрацыю на правах губерні.

– Але беларусам выгодна было б прыняць расійскі рубель?

– Давайце ўсё ж жыць, як добразычлівыя суседзі, але па сваіх кватэрах. А што тычыцць валюты, дык нават такія сябры Еўразвязу , як Чэхія або Швецыя, не спяшаюцца адмаўляцца ад сваіх крон. Мы ж не прапаноўваем вам, расіянам, перайсці на беларускі рубель або на кітайскі юань, у якога файныя перспектывы стацца сусветнай валютаю! А калі і адмаўляцца нам ад нацыянальных грошай, дык ці не лепш адразу на карысць еўра?!

*7 верасня 2011 года.*

## БАТЭ – Барселона. 0:5 – на... нашу карысць!

Познім вечарам згадвалася папулярная калісь песня са словамі "Какая боль, какая боль! Аргентина – Ямайка – 5:0!"

Так, найлепшы беларускі футбольны клуб апошніх гадоў, барысаўскі "БАТЭ" безнадзейна прайграў нібыта дома, а насамрэч на мінскім стадыёне "Дынама", каталонскай "Барселоне" з лікам 0:5.

Прадчуваю, як паляцяць заўтра крытычныя стрэлы, – маўляў, не змаглі разняволіцца перад аўтарытэтам грандаў, саступалі ва ўсіх кампанентах гульні, не правялі аніводнае галявое атакі, прывезлі самі сабе тры, калі не чатыры галы...

Але рызыкну выступіць у ролі адваката.

Прайгралі барысаўцы найлепшай камандзе свету, камандзе, гульцы якой фактычна складаюць "Фурыя роха" – зборную Гішпаніі, дзейнага чэмпіёна Еўропы і чэмпіёна свету.

Дзякаваць трэба, што прывезлі яны ў Менск легендарную "Барсу", жыўцом паказалі беларускім заўзятарам найлепшага футбаліста свету Месі, а таксама такіх майстроў, як Пуёль ці Давід Вілья. Барысаўцы сабралі нават пад бесперапынным дажджом паўнюткі стадыён "Дынама", а ў тым ліку і шматлікіх замежных турыстаў! Калі такое было апошнім разам? Нацыянальнай зборнай гэта чамусьці не ўдаецца, а дзякуючы батэшнікам у беларускую сталіцу прыязджаюць выступаць такія суперклубы, як іспанскі "Рэал" ці італьянскі "Мілан".

Многія еўрапейцы, калі і чулі пра Беларусь, дык найперш у сувязі з Чарнобылем дый апошнім дыктатарам Еўропы. А барысаўцы ў апошнія гады настолькі стабільна і ўпэўнена выступаюць на еўрапейскіх арэнах, што іх, беларускі, клуб сёння лёгка пазнаюць і нават запрашаюць футбалістаў з "БАТЭ" гуляць за англійскія, італьянскія, нямецкія каманды!

Калектыў барысаўскага клуба ў некалькі дзясяткаў чалавек – настолькі

паспяховае прадпрыемства, што зарабляе за год дзясяткі мільёнаў еўра! Больш за тое, грошы гэтыя працуюць пераважна на айчынную эканоміку, ахвяруюцца і на дабрачынныя мэты. Без дапамогі дзяржавы клуб намерваецца пабудаваць у Барысаве стадыён і гатэль, якія будуць адпавядаць самым высокім міжнародным стандартам! Як тут не згадаць, што колісь фінансавыя абароты і прыбыткі шведскага музычнага калектыву "ABBA" былі супастаўляльныя з абаротамі і прыбыткамі аўтамабільнага гіганта "СААБ-Сканія"!

Таму трэба было б сёння не гараваць, а зняць капялюш перад найвыдатнейшым менеджарам Анатолем Капскім, перад найперспектыўнейшым трэнерам Віктарам Ганчарэнкам, перад вопытнымі, а таксама зусім яшчэ маладымі футбалістамі, пажадаць ім поспехаў і надалей.

*28 верасня 2011 года.*

## Кастрычніцкае свята

Цэлы вечар па канале "Euronews" паказвалі сюжэты з Лівіі пра скон Муамара Кадафі і канчатковую перамогу вызвольнага паўстання.

Паводле аднае версіі французскія пілоты нанеслі ракетны ўдар па аўтакалоне кадафістаў, што выбіралася з Сірта – роднага горада палкоўніка. Паўстанцы схапілі ўжо параненага экс-дыктатара, але той сканаў, покуль яго везлі ў шпіталь.

Паводле другой версіі падстрэліў яго дваццацігадовы хлопец у бейсболцы, калі"кароль каралёў Афрыкі", як ён сам сябе іменаваў, хаваўся ў бетоннай трубе каналізацыйнага калектара. Натоўп цягнуў паўаголенага палкоўніка ўздоўж дарогі, а адзін з дзікуноў-паўстанцаў малаціў яго чаравікам па галаве, што ёсць найвялікшай абразаю мусульманіну. Калі той адыйшоў у іншы свет, дык зсінелае кволае цела шасцідзевяцігадовага старога паклалі ці то ў моргу, ці то ў мячэці ў горадзе Місурата, каб лівійцы маглі пераканацца, што путчыст, а потым і бяззменны кіраўнік Лівійскай Джамахірыі сапраўды нежывы.

Спачатку дэманстраваліся адно толькі кадры з ваяўнічымі натоўпамі бедуінаў, у якіх панавала страляніна ў паветра і пераможна-радасныя воклічы "Алах акбар!". Потым як баявы трафей і як доказ палкоўнікавай смерці паўстанцы паказвалі ягоны залаты пісталет, а неўзабаве пайшлі і, відавочна знятыя на мабільнік, кадры з параненым у галаву Кадафі.

У пазнейшых выпусках быў і брыфінг амерыканскага прэзідэнта Барака Абамы ў ролі наймагутнейшага dues ex machine. Былі і выступы еўрапейскіх лідараў, якія ўсяляк адхрышчваліся ад паўночна-афрыканскага дыктатара, хаця зусім яшчэ нядаўна ездзілі да яго з візітамі дый прымалі ў сябе з ягоным шатром, абслугай дый аховаю.

Ганебная смерць дыктатара, які ўзурпаваў уладу на сорак два гады, – гэта, безумоўна, пазітыўная, вельмі добрая вестка. Тым болей, што ёсць сведкі, якія пераконваюць, быццам бы забіты або цяжка паранены і сын Кадафі, ягоны імаверны пераемнік.

Смерць чалавека нібыта не павінна прыносіць радасці, але не заслугоўваюць цывілізаванага суду мусаліні, садамы хусэйны, чаўшэскі дый іхнія паслядоўнікі.

Напэўна ж, знойдуцца адвакаты д'ябла, якія будуць цвердзіць пра гуманізм, пра справядлівы суд, але дзе яны былі больш за сорак гадоў, калі Кадафі рабаваў сваіх суайчыннікаў, знішчаў палітычных апанентаў або фінансаваў тэрарыстаў?!

А яшчэ наспяваюць пытанні – хто скарыстаецца з вынікаў так званай рэвалюцыі, каму дастануцца ласыя кавалкі нафтавага пірага, як доўга давядзецца лівійцам адбудоўваць зруйнаваныя гарады і паселішчы?

*20 кастрычніка 2011 г.*
*Фота з архіва Уладзіміра Сіўчыкава*

Эдуард Дубянецкі



...трэба быць натуральным,
не баяцца ні фантомаў,
ні надта простых рэчаў...

# Шызафрэнізацыя культуры ў эпоху глабалізацыі

***Гістарычнае развіццё як сусветнай, так і кожнай нацыянальнай культуры яскрава пацвярджае наяўнасць перыядаў культурнага росквіту і заняпаду, што неаднойчы прыходзілі на змену адно аднаму. Ніводная культура ў свеце не можа пастаянна развівацца дынамічна, паспяхова, не зведваючы пры гэтым момантаў запаволенага, замаруджанага развіцця і нават больш-менш працяглага рэгрэсу. Безумоўна, і айчынная беларуская культура не магла абыйсці гэтую ўсеагульную тэндэнцыю-заканамернасць.***

***І калі пачынаць гаворку пра сучасны стан культуры і грамадства, то адразу ўзнікае мноства пытанняў, якія аб'ектыўна патрабуюць знайсці на іх хоць якія-небудзь адказы. Прычым сярод найбольш істотных пытанняў можна назваць наступныя. Ці сапраўды сёння ў сферы культуры назіраецца відавочны, татальны крызіс? І, калі апошні мае месца, то, уласна кажучы, чым ён абумоўлены? Чаму ў сённяшнім свеце застаецца мала запа-***

***трабаванай высокая, элітарная культура? Колькі яшчэ будзе працягвацца культурны крызіс і ці існуюць рэальныя шляхі, метады і сродкі выйсця з яго? І ці меў, скажам, рацыю выдатны нямецкі філосаф і псіхолаг Карл Ясперс, калі ў сваёй кнізе “Духоўная сітуацыя часу” яшчэ восемдзясят гадоў таму з вялікай трывогай папярэджваў, што “духоўнасць гіне”, а “мастацтва становіцца гульнёй і задавальненнем (замест таго, каб быць шыфрам трансцэндэнцыі”? [1, с.359, 365]. А цяпер паспрабуем даць у нашым эсэ свае асабістыя, чыста суб’ектыўныя адказы на гэтыя і, магчыма, на некаторыя іншыя складаныя пытанні.***

## Узнікненне феноменаў глабальнай шызафрэнізацыі і шызафрэнічнай глабалізацыі

Як вядома, глабалізацыя аб’ектыўна накіравана на паступовую ўніфікацыю, нівеляванне эканомікі, палітыкі, культуры большасці краінаў на ўсіх кантынентах. Таму не выпадкова польска-брытанскі сацыёлаг Зігмунт Бауман адзначаў, што глабалізацыя для ўсіх людзей – гэта “непазбежная фатальнасць нашага свету, незваротны працэс; акрамя таго, працэс, які ў роўнай ступені і роўным чынам закранае кожнага чалавека” [2, с.9].

У той жа час уведзены мной тэрмін “шызафрэнізацыя культуры” таксама азначае ў пэўным сэнсе ўніфікацыю, паколькі тут маецца на ўвазе, што асобныя рысы характару і паводзінаў шызафрэнікаў (напрыклад, прымітыўнасць, цьмянасць і алагічнасць мыслення, абсурднасць і экстравагантнасць паводзінаў, эмацыянальнае збядненне і інш.) нібы пранізваюць усё вялікае “цела культуры”, пранікаюць углыб яго, насычаюць культурную прастору аднатыпнымі элементамі, хваравітымі з’явамі. Увогуле, псіхапаталагічным ядром шызафрэніі з’яўляецца т. зв. “дыскарданнасць” (расшчапленне) псіхічных функцый – г. зн. разузгодненасць мыслення, эмоцый і маторыкі чалавека. Акрамя таго, для хворых на шызафрэнію характэрныя відавочны “аўтызм” (г. зн. замкнёнасць у саміх сабе, у свеце сваіх фантазій і трызнення, адчужанасць ад іншых людзей), а таксама зніжэнне здольнасці перажывання станоўчых і, наадварот, абвостранае перажыванне негатыўных эмоцый і пачуццяў.

Дык ці ж мала мы бачым гэтых псіхапаталагічных праяваў у нашым сённяшнім такім мітуслівым і напаўвар’яцкім свеце? Мне здаецца, што падобных праяваў бадай што ва ўсіх сферах жыццядзейнасці індывіда і соцыума зараз стала не проста многа, а, можна сказаць, крытычна многа, паколькі за гэтай мяжой пачынаецца няўхільная дэградацыя многіх людзей – як саміх дзеячаў мастацтва, так і спажывальнікаў розных артэфактаў культуры, і, урэшце, зусім абыякавых да мастацтва людзей. У сваю чаргу, гэта негатыўна адбіваецца на агульным развіцці ўсёй сферы культуры, абумоўлівае яе відавочны крызісны стан у сучасным свеце.

У цэлым можна сказаць, што глабалізацыя і шызафрэнізацыя маюць пэўныя пункты падабенства, ці, іначай кажучы, своеасаблівыя пункты супадзення, перасячэння. І менавіта гэта спрычынілася да таго, што сёння ўзніклі раней нечуваныя феномены т. зв. “глабальнай шызафрэнізацыі” і адносна блізкай да яе па сваёй сутнасці “шызафрэнічнай глабалізацыі”. Дык якія ж найбольш адметныя, вызначальныя рысы маюць названыя феномены?

Коратка кажучы, “глабальная шызафрэнізацыя” азначае працэс няўхільнага, татальнага насычэння вышэйназванымі шызафрэнічнымі рысамі практычна ўсіх сфераў жыццядзейнасці людзей (палітычнай, эканамічнай і асабліва культурнай) на ўсіх кантынентах і практычна ва ўсіх цывілізаваных краінах свету. Падобнага кшталту шызафрэнізацыя набыла цяпер сапраўды глабальны, планетарны харак-

тар і па сутнасці “пранізвае” ўсе чалавечыя супольнасці – этнічныя, сацыяльныя, канфесійныя, прафесіянальныя і інш. З другога боку, паняцце “шызафрэнічная глабалізацыя” выяўляе менавіта нездаровы, хваравіты характар апошняй, а таксама сведчыць пра тое, што паступовае паскарэнне глабалізацыйных працэсаў аб’ектыўна спрыяе ўзнікненню і далейшаму ўзмацненню не столькі ўласна шызафрэніі ў медыцынскім сэнсе слова, колькі адмысловай “соцыякультурнай шызафрэніі”, якая і праяўляецца якраз у этнакультурнай сферы.

У адрозненне ад біялагічна-медыцынскай шызафрэніі (на яе пакутуюць як мінімум 1-2 адсоткі ўсіх жыхароў практычна кожнай краіны свету), “соцыякультурная шызафрэнія” ахоплівае значна большую колькасць людзей і праяўляецца ў сферы іх паўсядзённага жыцця і працоўнай, творчай актыўнасці. Колькасць хворых на гэтую спецыфічную “хваробу”, мяркую, прыблізна на парадак вышэйшая за лік звычайных шызафрэнікаў. Гэта звязана з тым, што “соцыякультурная шызафрэнія” (у адрозненне ад біялагічнай) даволі лёгка і хутка перадаецца ад чалавека да чалавека, ад адной супольнасці людзей да другой, а праз другую – да трэцяй і г. д. Так атрымліваецца няўхільнае (ледзь не ў геаметрычнай прагрэсіі!) павелічэнне агульнай колькасці “сацыяльна-культурных шызафрэнікаў”.

І вось тут варта падкрэсліць, што чым болей праходзіць часу, тым больш інтэнсіўна гэтыя два спецыфічныя феномены – глабальнай шызафрэнізацыі і адпаведна шызафрэнічнай глабалізацыі – пачынаюць збліжацца, узаемапранікаць, непасрэдна ці апасродкавана ўплываць адзін на аднаго. Яны, вобразна кажучы, нібыта “спараджаюць” адзін аднаго, што праяўляецца, напрыклад, у тым, што глабалізацыя з-за сваёй “навязанасці” ўсім людзям і адсутнасці магчымасці ад яе пазбавіцца, дзе-небудзь “схавацца і адседзецца” звычайна прыводзіць да павелічэння ўнутранай напружанасці ў сферы духоўнай дзейнасці чалавека. А гэта ў сваю чаргу няўхільна вядзе да ўзмацнення некаторых распаўсюджаных псіхічных хваробаў – у тым ліку і шызафрэніі. Аднак у той жа час паглыбленне соцыякультурнай шызафрэніі пэўным чынам “падштурхоўвае” і саму культурную глабалізацыю, паколькі творцы з пэўнымі псіхічнымі адхіленнямі, зыходзячы са свайго надзвычайнага эгацэнтрызму і жадання любымі сродкамі і шляхамі праславіцца, больш-менш актыўна спрабуюць “прасоўваць” свае мастацкія творы за межы сваёй краіны – найперш на знешнія арт-рынкі.

Акрамя таго, неабходна падкрэсліць, што глабалізацыя гэтаксама як і шызафрэнізацыя, у сучасны перыяд маюць тэндэнцыю (па-сучаснаму кажучы – трэнд) да паступовага ўзмацнення, разгортвання. І яны ж непасрэдна або апасродкавана “спрычыняюцца” да пэўнага “расшчаплення” (падваення) свядомасці многіх людзей. Прычым пры звычайнай шызафрэніі падваенне асобы мае найчасцей прамы сэнс, калі чалавек пачынае сябе адносіць адначасова да некалькіх абсалютна непадобных людзей. У той жа час глабалізацыя вымушае цэлыя народы адначасова спрабаваць займацца двума супрацьлеглымі праблемамі, што ўжо само па сабе надзвычай складана і даволі небяспечна – г. зн. з аднаго боку, адаптавацца да новых сацыякультурных абставінаў, звязаных з пашырэннем глабалізацыі, а з другога боку, прыкладаць немалыя намаганні па захаванні ўласных этнакультурных традыцый, феноменаў. Такая няпростая сітуацыя можа прыводзіць да нарастання ўнутранага інтэлектуальнага і духоўнага дыскамфорту, а праз гэта і да ўзмацнення агульнай хваравітасці ўсяго грамадства, да своеасаблівай “расшчэпленасці” грамадскай свядомасці, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі (напрыклад, калі чалавек адначасова называе сябе беларусам і еўрапейцам, рускім і касмапалітам і г. д.).

У цэлым шызафрэнізацыя, як правіла, у сучасны перыяд не ўзвышае, а наадварот, часцей прыніжае культуру, а часам і спрычыняецца да яе няўхільнага “спрашчэння” – хаця дзеля справядлівасці адзначым, што ў гісторыі сусветнага мастацтва былі і сапраўды вельмі яркія, самабытныя творцы (Блэйк, Гёльдэрлін,

Ніцшэ, Хлебнікаў і інш.), якія пакутавалі ад розных псіхічных хваробаў, і ў выніку некаторыя з іх часам траплялі ў вар'ятню. Але ж гэта было ў мінулыя стагоддзі, а сёння, у пачатку 21 ст., калі ў свеце практычна цалкам "перавяліся" сапраўдныя геніі (у тым ліку і геніі-вар'яты), тытаны духу, уласна шызафрэнічная творчасць хаця зрэдку і можа быць больш-менш таленавітай, самабытнай, але ж найчасцей выглядае другаснай, аднастайнай, нецікавай і неглыбокай.

Тады як натуральны шлях высокага мастацтва палягае ў адваротным накірунку – да яго "паглыблення", пашырэння тэматычнага дыяпазону, пошукаў новых сродкаў мастацкай выразнасці. Дзеля пацвярджэння гэтай думкі можна прывесці хаця б той факт, што ў пачатку 20 ст. узнікла і набыло шырокую вядомасць столькі новых і незвычайных мастацкіх кірункаў, школаў і суполак (сімвалізм, футурызм, сюрэалізм, экспрэсіянізм, кубізм, дадаізм, акмеізм і да т. п.), не кажучы ўжо пра безліч разнастайных мастацкіх аб'яднанняў і суполак. А цяпер паспрабуем параўнаць тую бліскучую культурную эпоху (з вялікай колькасцю геніяльных творцаў) з сённяшнім часам, які ў плане культурных здабыткаў вызначаецца відавочна меншай разнастайнасцю, большай аднатыпнасцю і другаснасцю, а ў плане творцаў – адсутнасцю харызматычных універсальных геніяў і адначасова з гэтым – безліччу графаманаў, эпігонаў і малаадораных творцаў. Сумна, канечне, а часам і скрушна, але што ж тут зробіш. Як казалі старажытныя: "O tempora! O mores!"...

## Смутная нячуласць стваральнікаў і спажывальнікаў культуры

Як было сказана раней, сённяшні стан нашай культуры можна вызначыць як даволі незайздросны, крызісны. І, на мой погляд, адной з найважнейшых прычынаў такой сітуацыі з'яўляецца паступовае, але няўхільнае нарастанне "дэпачуццёвасці" грамадства – г. зн. відавочнага змяншэння праяў разнастайных эмоцый і пачуццяў як у паўсядзённым жыцці, так і ў сферы культурнай дзейнасці. Хіба што толькі адмоўныя, негатыўныя эмоцыі і пачуцці выяўляюцца параўнальна больш часта, і прычына гэтаму заключаецца не толькі ў тым, што іх у некалькі разоў больш, чым станоўчых пачуццяў, але найперш ва ўзмацненні ціску разнастайных неспрыяльных фактараў на псіхіку сучасных людзей. Таму невыпадкова, што характарызуючы агульны маральна-духоўны стан чалавецтва, сучасны нямецкі псіхолаг Гаральд Браэм адзначае наступнае: "Традыцыйныя каштоўнасці не адыгрываюць ужо былой ролі. У межах грамадства не існуе агульнапрынятых нормаў, правілы жыцця арыентаваны на асобныя мэтавыя групы. Паўсюдна ўладарыць эстэтычная недарэчнасць, і можна з упэўненасцю сказаць, што чуласць большасці людзей у апошні час моцна прытупілася" [3, с.156].

Сёння ў сферы культурнай дзейнасці відавочна пашыраецца т. зв. "дэперсаналізацыя" ці псіхічная анэстэзія (літаратурная назва гэтай хваробы – "смутная нячуласць", або па-руску – "скорбное бесчувствие"), якая выяўляецца ў пэўным разладзе свядомасці і нярэдка выступае як суправаджальны сіндром пры іншых псіхічных захворваннях – шызафрэніі, афектыўным псіхозе і інш. Асноўным праяўленнем псіхічнай анэстэзіі з'яўляецца поўная ці частковая страта эмацыянальнага рэагавання на падзеі асабістага, сямейнага і грамадскага жыцця, што нярэдка мае месца на фоне пакутлівага перажывання чалавекам сваёй духоўнай спустошанасці. Паколькі з гісторыі мастацтва вядома, што на гэтую хваробу (гэтаксама, як і на іншыя псіхічныя захворванні) пакутавалі многія дзеячы культуры, то ёсць падставы казаць пра існаванне дэперсаналізаваных жывапісу, музыкі, літаратуры і нават навукі.

Аднымі з найважнейшых прычынаў дэперсаналізацыі можна лічыць пастаянныя цяжкія стрэсы (дакладней, дыстрэсы), шматгадовыя інтэлектуальныя і духоўныя перагрузкі, выкліканыя ў першую чаргу масіраванай, агрэсіўнай і бясконцай візу-

альнай і аўдыяльнай атакай на псіхіку чалавека праз розныя СМІ (тэлебачанне, радыё, Інтэрнэт). У выніку ў пэўны момант многія людзі проста не вытрымліваюць такога празмернага ціску і пачынаюць няўхільны дрэйф у бок інтэлектуальнай і духоўнай дэградацыі, а ў скрайніх выпадках – нават і поўнага вар'яцтва. І ў такой сітуацыі сапраўды ў многіх людзей (прычым як у стваральнікаў культурных каштоўнасцяў, так і ў спажыўцоў) пачынае ў большай ці меншай ступені праяўляцца "смутная нячуласць" як своеасаблівая ахоўная рэакцыя на магутныя стрэсы, працяглыя шокавыя сітуацыі. [Дарэчы, гэты адмысловы псіхічны стан вельмі добра і па-мастацку яскрава паказаны ў аднайменным фільме выдатнага расійскага рэжысёра Аляксандра Сакурава, які ў арыгінале мае назву "Скорбное бесчувствие" (1986)]. У выніку сёння мы маем вялізную колькасць "нячулых" людзей, якія ўжо страцілі ці пастутова страчваюць магчымасць перажываць пэўныя пачуцці і эмоцыі, хаця апошніх існуе мноства – магчыма, нават каля сотні.

Таму невыпадкова, што і ў сферы мастацтва сёння таксама заўважаецца няўхільнае "выхалошчванне" эмоцый і пачуццяў – у тым сэнсе, што з большасці артэфактаў культуры (найперш паэтычных і празічных твораў, жывапісных работ, кінафільмаў, спектакляў, песень і інш.) нібыта "знікаюць" многія эмоцыі, пачуцці, і ў выніку такія творы становяцца, так бы мовіць, бяздушнымі, пазбаўленымі эмацыянальнасці, пачуццёвасці. А гэта, у сваю чаргу, нярэдка прыводзіць і да пэўнай "выхалашчанасці" зместу, бо многія арыгінальныя ідэі, думкі якраз і ўзнікаюць, "прарастаюць" на глебе глыбокіх перажыванняў і эмацыйных рэакцый.

Каб не быць галаслоўным, ніжэй прывядзём найбольш тыповыя прыклады такога дэперсаналізаванага, дэпачуццёва-шызафрэнічнага мастацтва. Прычым будзем разглядаць тут толькі паэтычнае мастацтва, арыентуючыся ў такім выбары віду мастацтва на меркаванне вядомага нямецкага мысляра Марціна Хайдэгера, які сцвярджаў, што "сутнасць мастацтва ёсць паэзія, а сутнасць паэзіі ёсць усталяванне ісціны". Спачатку (у першым блоку) будуць разгледжаны паэтычныя творы традыцыйна-рэалістычнай скіраванасці, а ў другім блоку будуць пададзены ўзоры авангардысцка-мадэрнісцкага паэтычнага пісьма. Адразу хачу адзначыць, што апошнія ў параўнанні з ніжэйпрыведзенымі традыцыяналісцкімі вершамі выглядаюць больш арыгінальнымі і свежымі, пазбаўленымі таннай пафаснасці, агульнавядомых клішэ і стэрэатыпаў. Прычым гэта абумоўлена як тым, што рэалістычная прафесійная паэтычная творчасць даволі паспяхова і плённа развіваецца на нашай зямлі ўжо больш за стагоддзе, а мадэрнісцкая – значна больш кароткі час (часовы яе ўздым меў месца ў пачатку 20 ст. і больш заўважны ў канцы мінулага стагоддзя), і менш плённа, так і тым, што асобныя творцы-мадэрністы па сваім таленце і творчаму патэнцыялу пераўзыходзяць большасць творцаў-традыцыяналістаў. Натуральна, тут не ідзе гаворка пра айчынных "жывых класікаў" (Барадуліна, Бураўкіна, Някляева, Гілевіча, Законнікава...), творчасць якіх заўсёды была і з'яўляецца сёння ўзорнай і ў плане выдатнага валодання ўсімі сакрэтамі паэтычнага майстэрства, і ў сэнсе глыбіні асэнсавання складаных грамадскіх праблемаў, і ў плане самабытнага выяўлення ўласных эмоцый і пачуццяў.

Нарэшце, пачнем цытаваць фрагменты тых паэтычных твораў, якія, з майго суб'ектыўнага пункту гледжання, у той ці іншай ступені нагадваюць узоры дэперсаналізавана-шызафрэнічнай творчасці. Аўтары гэтых вершаваных радкоў вызначаюцца розным узростам, прафесійнай прыналежнасцю, месцам пражывання і, натуральна, рознай ступенню паэтычных здольнасцяў (альбо, іх амаль поўнай адсутнасцю). Прыведзеныя фрагменты з вершаў беларускамоўных і рускамоўных паэтаў Беларусі знойдзены пераважна на старонках часопісаў "Полымя" і "Нёман", а таксама на сайце www.lim.by.

Анатоль Аўруцін: *"Не согрел кипяток / Да и водкой уже не согреться / Тепловозик угрюмый / В тупик мой вагон отволок... / Что-то ноет в груди / Но*

*не сердце, а около сердца / Сердцу вроде не сроки... / Хоть, впрочем, а где этот срок?..”; “Всё, как всегда... Скрипят ступени / Аккорды строятся не в лад / И гипсовый Сергей Есенин / С челом, уткнувшимся в салат...”.*

Міхась Башлакоў: *“Засумую па родных мясцінах / Белым лебедзем закрычу / На радзіму сваю, на радзіму / На радзіму сваю палячу...”.*

Навум Гальпяровіч: *«Ноч асенняя дыктавала / Незнаёмыя вершы мне... / Еўфрасіння і Янка Купала / Адлюстроўваліся ў акне...».*

Казімір Камейша: *“Няма на цяпло аніякіх прыкмет / І дровы не хочуць гарэць, бо сырыя / Ну чым ён пацешыць, стары гэты свет?/ Стары ён, і песні яго ўсе старыя; “Не фанабэрысты, не горды / На ўвесь Валожынскі раён / Такія мілыя акорды / Той выдаваў акардэон...”.*

Ізяслаў Катляроў: *“Да здравствует дыхание строки / Где совесть только совести подсудна!../ Осталось время только на стихи / На остальное — нет его как будто...»; «Все зависит от первой строки / Ею стала (случайно ли?) эта... / Коль поэт выявляет стихи / То стихи выявляют поэта..».*

Тамара Краснова-Гусачэнка: *“Мои стихи не могут не меняться / Пока дышу я, радуюсь, живу / Они растут, мужают и искрятся / Резвятся, как кораблик на плаву / Им всё позволено — жива хозяйка! / Без страха, вольно пусть себе поют / Мороз ударит? Их туда, где жарко / Отправлю — в Ялту, там и отдохнут...”; “Лес шумел, утопая в сугробах:/ Если сердце молчит, не пиши / Столько брат ваш бумаги угробил... / Песни — раны кричащей души...”*

Уладзімір Мазго: *“У промнях вячыстага сонца / Бліжэй і бліжэй да людзей / Адкрыецца бераг надзей / У роднай акутнай старонцы...”; “Бярэзнікі і хвойнікі / Світаюць пакрысе / Вітаюць свята Хойнікі / У выспелай красе..”.*

Міхась Пазнякоў: *“Радзіма, малая радзіма / А вёсачка ўсцяж нелюдзіма / Асінай, хмызом зарастае / Калыска мая залатая...” / “Узіраюся ў сонечны дзень / Працавітай маёй Беларусі / Штораз, як нічым і нідзе / Светлым імем яе ганаруся...”.*

Валянціна Паліканіна: *“Еще немного лихорадит / Еще не выстужен соблазн / Еще невинности тетради / Так далеко до грешных глаз..”; “Живем не так, встречаемся не с теми / Не то творим, душою не горим / Не те умом затрагиваем темы / Не те слова друг другу говорим”.*

Павел Саковіч: *“Божественно сияет солнце / Нет даже пятнышка на нем! / Не прячась, в каждое оконце / Оно заглянет этим днем...”*

Святлана Яўсеева: *“Если голосу хочется петь / Песню надо уже начинать / Я прошла азиатскую степь / Чтобы корни свои отыскать” ; “Мне открыли свои имена / Пашня, ягодник, поле, родник... / Здесь века, создавая меня / Подарили мне русский язык...”*

Як бачна з большасці вышэйпрыведзеных цытат, тут у наяўнасці практычна ўсе самыя распаўсюджаныя хібы і недахопы паэтычных твораў, галоўнымі сярод якіх з’яўляюцца, на маю думку, банальнасць, прадказальнасць, адсутнасць арыгінальнасці, нечаканых, цікавых вобразаў і глыбокага сэнсу, пэўная безгустоўнасць, часам нават вульгарнасць, трывіяльныя і проста неахайныя рыфмы, прымітыўныя вершаваная строфіка і рытміка і да т.п. Пры гэтым хочацца адзначыць, што сутнасць паэтычнай банальнасці хараша і з непрыхаваным сарказмам апісаў у свой час знакаміты расійскі паэт Ігар Севяранін. Прывядзём тут толькі першыя дзве страфы з яго верша “Банальнасць” (1918):

Когда твердят, что солнце – красно,
Что море – сине, что весна
Всегда зеленая – мне ясно,
Что пошлая звучит струна...

Мне ясно, что назвавший солнце
Не иначе как красным – туп;
Что рифму истолчет: «Оконце»,
Взяв пестик трафаретных ступ...

У дадзеным кантэксце міжволі ўзгадваецца яшчэ і меркаванне выдатнага чэшскага паэта Вітэзслава Незвала, які не цярпеў любых “пагрэшнасцяў верша” і лічыў, што для паэта выкарыстоўваць “неахайныя” рыфмы ўсё адно што “пляваць у вуха чуйнаму чытачу”. Але ж усё-ткі самае галоўнае, на мой погляд, гэта тое, што падобныя творы не выклікаюць падчас іх прачытання практычна ніякіх станоўчых эмоцый, ніякага эмацыянальнага ўзрушэння і душэўных перажыванняў. У той жа час як адзін з найлепшых амерыканскіх паэтаў Эдгар Алан По ў сваёй вядомай лекцыі “Паэтычны прынцып” (апубл. 1850 г.) слушна казаў, што “твор дастойны называцца паэтычным пастолькі, паколькі ён хвалюе душу, узвышаючы яе”, а паэзію ён вызначаў як “тварэнне прыгожага пры дапамозе рытму, прычым яе адзіны суддзя – густ”.

А колькі яшчэ ў наш час надзвычай слабых, кепскіх, паўграфаманскіх і проста графаманскіх паэтычных опусаў працягвае пісаць вялізная гвардыя тых творцаў (многія сотні ці нават тысячы!), якіх нават з вялікай нацяжкай ніяк нельга назваць сапраўднымі паэтамі. Прычым аднымі з найбольш важных, істотных прычын такой незайздросна-змрочнай сітуацыі можна лічыць не толькі элементарную адсутнасць таленту і паэтычнага густу, пачуцця меры, слабое знаёмства з асновамі вершаскладання, але і недахоп творчай свабоды і ўнутранай раскаванасці творцаў, іх уласную самацэнзуру, свядомае ці неўсвядомленае імкненне абысці ўсялякія “вострыя вуглы” і істотныя сацыяльныя праблемы. Усё вышэйназванае, безумоўна, надзвычай негатыўна адбіваецца на мастацкім узроўні і сэнсавай насычанасці, “напаўняльнасці” абсалютнай большасці паэтычных твораў.

А цяпер пачнём прыводзіць прыклады дэперсаналізавана-дэпачуццёвага (шырэй – шызафрэнічнага) мастацтва, якія адносяцца да мадэрнісцкага кірунку ў айчынай паэзіі. Бясспрэчна, што большасць згаданых тут аўтараў з’яўляюцца неардынарнымі, таленавітымі літаратарамі, якім у гэтых радках удалося, свядома ці неўсвядомлена, адлюстраваць не толькі свой адмысловы ўнутраны псіхічны стан, але і адмысловую “смутную нячуласць”, што пануе ва ўсім сучасным грамадстве. Найбольш паказальныя ў дадзеным кантэксце паэтычныя радкі (тут прыводзяцца або вершы цалкам, або іх асобныя фрагменты) былі ўзятыя пераважна з розных аўтарскіх кніг, якія выйшлі ў свет на працягу 1990-х-2000-х гг. Прычым у мэтах эканоміі месца з творчасці кожнага творцы прыведзены толькі адзін-два тыповыя ўзоры, хаця пры жаданні можна было б прывесці іх значна болей.

Алесь Аркуш: *“...Над пожняй плачуць правады / Амаль галосяць / Бэтонны слуп, як правадыр / Выводзіць восень...”; “...І ты, ахвяра ўласнага нахабства / Вар’ятам аглядаеш сьвет фантомаў / Зьняверлівы ва ўсім, ва ўсіх / Бывай, Тантал!...”.*

Зміцер Вішнёў: *“...але маё амбіцыёзнае вуха-правакатар // зразумее запіша на сваю перапонку / што яно лакатар / я буду глытаць шоргат лісця / і скрыгат зубоў клюста // з задавальненнем вар’ята / Таму дайце! / дайце вушам болей ініцыятывы // і яны ператворацца / у апараты лоўлі гукавых звяроў...”.*

Вольга Гапеева: *“...я буду ляжаць / пад нацягнутымі дратамі / на ўскрайку / усёдаравальнай электрастанцыі / і як ніякая іншая птушка / схаплюся рукамі / дратоў аголеных...”.*

Адам Глёбус: *“Пазабаўляцца б / з такім прывабна-сінім / электрадротам”; “...На дварэ халадэча / свет належыць зіме / котка, цемра і чарка / суцяшаюць мяне...”* .

Юры Гумянюк: *“...Смала асфальт — якая прыгажосьць! / дык лі на галаву калі ахвота / тады як сьвіньні прусакі / палезуць па стале і місках / ня сьпі яшчэ / я раскажу табе пра трактар / або пра тое што ў газэтах / пануе стомлены «фрэйдызм...”.*

Віктар Жыбуль: *“...Сутыкнутыя лбамі гмахі / пазіраюць адзін адному / ў твар і з дзікім рогатам / высалопліваюць языкі / патузаных ветрам штораў / Я стаю-слупянею / праколаты промнямі / прыкуты кроплямі / да папяровай каракаціцы / падобнай да Антарктыды / падчас снегавіхрарвальнага / землятрусу...”.*

Віталь Рыжкоў: *“...Ілбом грукаю ў сьцены / замест дыялёгу зь ценем / Прынцыпова ўсё роўна, скончыцца дождж ці не / тлумачу ілбом сьцяне / бо нікога навокал” ; “Пакуль цябе не было, скончылася вясна / лета, восень, зіма, вясна, лета... / Вусны развучыліся вымаўляць мы, нас, нам / Дзе ты / была? / Усьміхнесься ў сваёй звычайнай манэры / *ля / я – громаадвод, які зазямляе нэрвы”.*

Віктар Слінка: *“...Мой двайнік адкрывае кран / у ваннай, дзе сохне бялізна / і цыркуль шчыльных дзвярэй / на падлозе пафарбаванай праводзіць / пятую частку кола...”; “...І дзічэе душа як кусты ў недагледжаным садзе / калі на мяне заяўляюць правы мінулыя вёсны / але не адняць у мяне травы прыдарожнай...”.*

Віка Трэнас: *“...памнажаюцца думкі, выходзяць крывёю з носа / анемія душы, я не ў стане такое зносіць / як з далонню маёй цалаваліся белыя ружы / уцякаў з галавы новы вершык, нервовы і скрушны...”.*

Паколькі вышэйпрыведзеныя паэтычныя радкі, на мой погляд, не з’яўляюцца аўтарскімі творчымі ўдачамі і вызначаюцца відавочнай хаатычнасцю, сумбурнасцю, пэўнымі цьмянасцю і няўцямнасцю, некаторай вульгарнасцю, адсутнасцю глыбокага зместу (а часам, і амаль поўнай бессэнсоўнасцю) і хоць якой-кольвечы прыгажосці, вытанчанасці, то яны і не выклікаюць у мяне практычна ніякіх душэўных узрушэнняў, ніякага эмацыянальнага і інтэлектуальнага водгуку. І таму ў дадзеным кантэксце адразу ўзгадваюцца слушныя словы прызнанага лідэра беларускага паэтычнага мадэрнізму Алеся Разанава, які ў свой час пісаў, што страта сэнсу – гэта “пэўна, страта усяго”. Іначай кажучы, пры шматгадовым напісанні такіх і ім падобных дэперсаналізавана-шызафрэнічных твораў нярэдка можа мець месца не толькі пэўная страта сэнсу, але і відавочная страта мастацкай каштоўнасці твораў, пачуцця меры і густу, etc.

Пры гэтым важна падкрэсліць, што практычна ва ўсіх з названых тут паэтаў (якія ў паўсядзённым жыцці з’яўляюцца найчасцей прыемнымі, добразычлівымі людзьмі, не схільнымі да экстравагантных паводзінаў і ўчынкаў) ёсць, безумоўна, удалыя, яркія вершаваныя радкі і асобныя вершы, што ў цэлым сведчыць пра іх большую ці меншую літаратурную адоранасць, самабытнасць. І яшчэ неабходна дадаць, што ўсё-ткі рэальнае месца, якое зоймуць гэтыя творцы ў беларускім прыгожым пісьменстве ў бліжэйшай гістарычнай перспектыве, найбольш дакладна змогуць вызначыць не канкрэтныя чытачы, гледачы ці літаратурныя крытыкі, а яго Вялікасць Справядлівы і Бязлітасны Час.

Увогуле, такое дэперсаналізава-шызафрэнічнае паэтычнае мастацтва ўскосна можа сведчыць не толькі пра “смутную нячуласць” саміх аўтараў-стваральнікаў, але таксама і пра адпаведны псіхалагічны стан многіх нашых сугрworldмадзян, якія з’яўляюцца, скажам так, спажывальнікамі мастацкіх каштоўнасцяў. У той жа час усім аўтарам літаратурных опусаў і чытачам, гледачам пажадана было б заўсёды памятаць мудрыя словы Артура Шапэнгауэра пра тое, што “творы ўсіх па-сапраўднаму адораных галоў адрозніваюцца ад астатніх характарам рашучасці і пэўнасці і вынікаючымі з іх акрэсленасцю і яснасцю, таму што такія галовы заўжды дакладна і ясна ўсведамляюць, што яны хочуць выказаць, – усё роўна, будзе гэта проза, вершы ці гукі. Гэтай рашучасці і яснасці не хапае астатнім, і яны адразу ж распазнаюцца па гэтаму недахопу”.

Так што, уяўляецца, стваральнікам многіх паэтычных і празаічных твораў нельга ўзвялічваць сваю натуральную ці штучную цьмянасць, алагічнасць, празмерную ўскладненасць і дэпачуццёвасць, і пры гэтым лічыць дадзеныя рысы праявай высокамастацкай і надта арыгінальнай творчасці. У цэлым, многія з падобных

твораў можна ўявіць у выглядзе своеасаблівага калодзежа, у якім цёмная, непразрыстая вада часам стварае ўражанне глыбіні, тады як насамрэч там зусім плытка і на дне гэтага калодзежа, вобразна кажучы, не знойдзеш па-мастацку каштоўных каменьчыкаў-твораў, якія б уразілі цябе прыгажосцю, мастацкай дасканаласцю і нейкай невытлумачальнай загадкавасцю, таямнічасцю.

У той жа час у сэнсе адмысловага параўнання сучаснага стану нашай паэзіі з сітуацыяй у гэтай сферы сто гадоў таму, відаць, варта было б прыгадаць вельмі самабытную і разнастайную творчасць аднаго з найбуйнейшых паэтаў 20 ст. Гіёма Апалінэра. Сапраўдная веліч і геніяльнасць Апалінэра (які, дарэчы, быў унукам беларускага шляхціча, удзельніка паўстання 1863-64 гг. Апалінарыя Кастравіцкага) заключаецца ў тым, што ён практычна з самага пачатку свайго творчага шляху не абмяжоўваў сваю творчасць рамкамі пэўнага мастацкага кірунку, а ў выніку своеасаблівага сінтэзу апошніх вынайшаў свой уласны ўнікальны стыль, які ўрэшце рэшт назваў “новым рэалізмам”. Ён адначасова быў і традыцыяналістам-класіцыстам (напісаў мноства адносна “простых” і празрыста ясных, дасканалых вершаваных твораў у розных класічных відах і жанрах паэзіі – санеты, трыялеты, тэрцыны, элегіі, балады і інш.), і мадэрністам-наватарам – напрыклад, ствараў графічныя вершы (т. зв. “каліграмы”), у позні перыяд творчасці цалкам адмовіўся ад знакаў прыпынку, напісаў шмат цудоўных верлібраў і белых вершаў, выкарыстоўваў надзвычай смелыя, нечаканыя і дзіўныя метафары і да т. п.

Пры гэтым адна з галоўных прычынаў непахіснага аўтарытэту і сусветнай вядомасці Гіёма Апалінэра заключаецца, на мой погляд, у тым, што ў сваіх шматлікіх творах ён ніколі не баяўся быць розным (амаль адначасова “простым” і “складаным”, вытанчаным і грубаватым, добразычлівым і абураным, наіўным і схільным да філасофскіх разважанняў) і заўжды спрабаваў свае разнастайныя эмоцыі і пачуцці выказаць максімальна поўна, адкрыта і зразумела для сваіх патэнцыйных чытачоў і слухачоў. У выніку атрымалася ўнікальная сітуацыя, калі Апалінэра шануюць ледзь не ўсе больш-менш адукаваныя чытачы – умоўна кажучы, людзі традыцыяналісцкіх паэтычных схільнасцяў яго цэняць як аўтара твораў пранікнёнай любоўнай лірыкі (напр., знакамітага верша “Мост Мірабо”), а мадэрнова-арыентаваныя чытачы – як аўтара наватарскіх па форме і дзёрзкіх па змесце твораў (напрыклад, невялікай паэмы “Зона”).

І таму зусім невыпадкова, што славуты французскі паэт з беларускімі каранямі ў сваім адмысловым паэтычным маніфесце, які па сутнасці стаў і ягоным паэтычным запаветам, “Новая свядомасць і паэты” (1917) адзначаў наступнае: “Паэзія і творчасць тоесныя, паэтам павінны называць толькі таго, хто вынаходзіць, таго, хто творыць – настолькі, наколькі ўвогуле чалавек здольны тварыць. Паэт – гэта той, хто знаходзіць новыя радасці, няхай нават пакутныя”. Акрамя таго, Апалінэр усё новае, незвычайнае хацеў бачыць адначасова і дастаткова “простым” (г. зн. што ў ягоных вершах, прозе маглі суіснаваць побач і прывідныя фантасмагарычныя вобразы, складаныя метафары і зусім незамысловатыя карціны, самыя простыя словы, фразы) і даваў усім творцам слушную параду наконт таго, што заўсёды “трэба быць натуральным, не баяцца ні фантомаў, ні надта простых рэчаў”.

Інакш кажучы, веліч Апалінэра-паэта якраз і заключалася ў натуральным аб’яднанні, спалучэнні розных галасоў, у шырыні творчага дыяпазону і ў глыбіні, дакладней, “стэрэаскапічнасці” ўспрымання і асэнсавання жыцця (якія грунтаваліся на яго надзвычай багатым і драматычным жыццёвым вопыце) ва ўсіх яго магчымых станоўчых і адмоўных праявах. А цяпер, шаноўныя чытачы і аўтары, пасля выкладзеных фактаў і палажэнняў паспрабуйце самі, так бы мовіць, “накласці “матрыцу Апалінэравай творчасці” на саміх сябе і, мяркую, адразу зразумееце рэальны (а не штучна абвешчаны вашымі калегамі-сябрамі і ангажаванымі літаратурнымі крытыкамі) ўзровень і маштаб сваёй літаратурнай творчасці. Таксама

думаю, што ў значнай ступені павінны самі сабой “адпасці” любыя існуючыя ў асяродку айчынных літаратараў самавызначэнні сябе як геніяльных творцаў. Увогуле, сярод усіх дзейсных паэтаў больш за астатніх наблізіліся да ўзроўню геніяў нашыя найбуйнейшыя сучасныя паэты – Барадулін, Някляеў, Разанаў...

Адной з найбольш сумных прыкметаў сённяшняга этапу развіцця літаратуры (найперш паэзіі) з’яўляецца таксама пэўная творчая абмежаванасць сённяшніх мастакоў слова – узгадаем тут у якасці яе антыподу апалінэраўскую адкрытасць усім павевам, пра што ўжо гаварылася вышэй. Сёння міжволі складваецца ўражанне, што адны паэты (традыцыяналісты) не хочуць, баяцца выходзіць за межы даўно вядомых і ўсталяваных нормаў, традыцый, а другія – наадварот, практычна цалкам парываюць з гэтымі традыцыямі і, усталяваўшы свае штучныя ўласныя крытэрыі і арыенціры, таксама не хочуць выходзіць ужо за іх межы. Іншымі словамі, паэты нярэдка самі накладаюць на сябе “творчыя цуглі” і лічаць, напрыклад, што, каб заўжды апраўдваць свой статус “традыцыяналіста” або “мадэрніста”, не варта выходзіць за пастаўленыя самім сабе межы. А вядома ж, што чалавечае жыццё значна шырэй і разнастайней, чым тое, што апісваюць у сваіх творах мастакі, прыналежныя да розных мастацкіх плыняў, кірункаў. Таму пажадана, каб творцы мэтанакіравана шукалі свой адмысловы стыль, свой мастацкі шлях, сваю “паэтычную дарогу”, прычым было б вельмі добра, каб з цягам часу (па меры духоўнага сталення аўтара і набыцця ім жыццёвага вопыту) гэтая дарога станавілася ўсё больш шырокай – у сэнсе пашырэння творчага дыяпазону, павелічэння кола па-мастацку асэнсаваных праблем і адлюстраваных эмоцый, пачуццяў.

Акрамя таго, някепска было б і сёння большасці айчынных літаратараў уважліва прыслухацца да слушнага меркавання нашага выдатнага літаратурнага крытыка Сяргея Палуяна, які яшчэ стагоддзе таму, разглядаючы творчасць Янкі Купалы, дакладна вызначыў як яе слабыя, так і моцныя бакі. Дык вось, у сваім літаратурна-крытычным артыкуле “Беларуская літаратура ў 1909 г.” С.Палуян, аддаючы належнае таленту Я. Купалы, падкрэсліваў, што ў яго ранейшай творчасці сустракалася, на жаль, яшчэ нямала вершаў “неабдуманых, неаброблених” і мелі месца “перапевы” адных і тых жа тэм, сюжэтаў, аднак яго новыя творы “акуратна абдуманы, тэм розных многа, форма лёгкая, усюды артыстычна апрацаваная” [4, с.105-106]. І сапраўды, калі б нашыя аўтары заўжды кіраваліся ў сваёй творчасці падобным падыходам, то айчынная літаратура была б, мяркую, нашмат больш багатая на сапраўдныя бясспрэчныя шэдэўры, на паэтычныя і празаічныя “залацінкі”. А так... маем тое, што маем...

Інакш кажучы, толькі тады можа ўзнікнуць, “нарадзіцца” і “спраўдзіцца” сапраўды вялікі Паэт, калі абсягі ягонай мастацкай творчасці будуць няўхільна пашырацца, а тэхнічнае майстэрства, падмацаванае вострым розумам, эрудыцыяй і, вядома ж, натхненнем, будзе паступова ўдасканальвацца. У адваротным выпадку, калі творца практычна ніяк не імкнецца (не на словах, канечне, а на справе!) да творчых вяршынь, да мастацкага росту і самаўдасканалення, ён не можа мець маральнага права называць сябе выдатным, вялікім паэтам ці тым болей геніем. Такі творца хутчэй за ўсё застанецца ў лепшым выпадку таленавітым паэтам, які да канца не раскрыў свой творчы патэнцыял або ў горшым – можа і ўвогуле “разбазарыць” свой талент і скаціцца ў прорву безгустоўнасці, банальнасці і таннай пафаснасці.

Увогуле, што датычыцца паэзіі традыцыйнага кірунку, то варта адзначыць, што за некалькі тысячагоддзяў было створана столькі шэдэўраў ва ўсіх магчымых паэтычных жанрах і формах, што вынайсці ў гэтым рэчышчы штосьці прынцыпова новае па сутнасці не ўяўляецца магчымым. З другога боку, у галіне мадэрнісцкай паэзіі, якая мае значна больш кароткую гісторыю развіцця, здавалася б, больш верагоднымі могуць быць творчыя знаходкі, удачы, але... Але ж, паклаўшы руку

на сэрца, трэба з жалем канстатаваць, што ўлічваючы неверагодны ўздым мадэрнісцкай паэзіі ў пачатку XX ст. і яе дынамічнае развіццё на працягу ўжо больш чым ста гадоў, магчымасці здзейсніць хоць які кольвечы мастацкі прарыў і тут уяўляюцца бадай што прывіднымі.

У дадзеным кантэксце хацелася б яшчэ ўзгадаць унікальную творчасць выдатнага паэта (які, праўда, поруч з геніяльнымі творамі напісаў нямала і слабых, малакаштоўных, нават кепскіх), аднаго з заснавальнікаў рускага футурызму, вынаходніка паэтычнай "зауми" Веліміра Хлебнікава. У святле яго дзёрзкіх творчых эксперыментаў, пошукаў і знаходак (здзейсненых на працягу менш чым паўтара дзесяцігоддзя!) даволі заўважна блякнуць амаль усе паэты-мадэрністы, якія прыйшлі ў літаратуру пасля ягонай заўчаснай смерці. Дарэчы, відаць, невыпадкова ў нашы дні лідэр беларускага літаратурнага мадэрнізму выпусціў сваю новую кніжку пад назвай "З Вяліміра Хлебнікава", якая складаецца з перакладаў часткі твораў слыннага расійскага паэта. Гэта яшчэ раз даволі яскрава пацвердзіла меркаванне пра тое, што вытокі сучаснай беларускай мадэрновай паэзіі трэба шукаць найперш у творчасці авангардыстаў пачатку XX ст. (у тым ліку і ў надзвычай самабытнай спадчыне В. Хлебнікава)...

Акрамя таго, відавочнай стала і своеасаблівая "страта натуральнасці", характэрная для многіх сённяшніх мастакоў – бо ў іх творах заўважаецца менш шчырасці, спантаннасці, духоўнай адкрытасці і адпаведна больш штучнасці, схільнасці да ўсялякіх "гульняў" і надуманасці. Затое паралельна з гэтым узрастаюць эгаізм (дакладней, эгацэнтрызм) і нахабства многіх творцаў, узмацняецца іх недавер і нават непрыхільнасць да прадстаўнікоў іншых творчых арганізацый, іншых пакаленняў. І гэтыя асаблівасці паводзінаў увогуле характэрныя не толькі для мастакоў, але, відаць, і для многіх "простых" людзей ва ўсім свеце. Нездарма французскі філосаф Рэнэ Генон у сваёй кнізе "Крызіс сучаснага свету" (1927), гаворачы пра ўзвядзенне цывілізацыі на чыста негатыўных падставах, з трывогай падкрэсліваў, што "менавіта гэтая ўсеагульнасць адмаўлення надае сучаснаму свету зусім ненармальны характар, робіць яго сапраўды жахлівым" [5, с.134].

Увогуле, сёння ў сусветнай і айчыннай літаратуры ўсё часцей заўважаюцца праявы шматаблічнага эпігонства, а зрэдку нават і прыхавана-неўсвядомленага плагіяту, што ў сваю чаргу істотна зніжае мастацкую якасць новастpoраных опусаў і адмоўна ўплывае на стан і дынаміку развіцця нацыянальных літаратур. Яшчэ адной распаўсюджанай бадай ва ўсім свеце негатыўнай тэндэнцыяй стала тое, што ўласна паэзія ўсё болей пачынае нагадваць прозу (прычым асобныя ўзоры апошняй часам па сваёй вобразнасці могуць быць нават больш паэтычнымі, чым уласна паэтычныя творы), а проза няўхільна "скукожваецца" ў сэнсе аб'ёмаў твораў і ўсё болей набліжаецца да больш ці менш якаснай эсэістыкі. У цэлым, відаць, не будзе перабольшваннем сказаць, што практычна ва ўсім свеце (і Рэспубліка Беларусь тут не выключэнне) мае месца зацяжны крызіс мастацтва, хаця, безумоўна, ва ўсіх відах мастацтва былі і ёсць сапраўды цікавыя, змястоўныя творы таленавітых аўтараў, але не пра іх зараз вядзецца гаворка...

## Пакутлівыя пошукі выйсця з крызісу

І тым не менш, якія ж можна прапанаваць магчымыя шляхі выхаду з такога крызіснага становішча? І ўвогуле, калі такія сродкі, метады існуюць, то ці могуць яны даць належны станоўчы эфект, прынесці якую-небудзь карысць асобным індывідам і ўсяму грамадству? Адказ на гэтыя пытанні таксама падаецца мне вельмі няпростым, неадназначным і пакутлівым.

У цэлым можна сказаць, што пры надта актыўных і вялікіх намаганнях можна знайсці выйсце нават, здавалася б, з безнадзейных сітуацый. І тут напаўжартам уз-

гадаем вядомыя словы Андрэя Хадановіча з аднаго са шматлікіх ягоных лімэрыкаў пра тое, што "няма безвыходных становішч". На маю думку, аднымі з найбольш эфектыўных шляхоў (пры некаторай іх, магчыма, наіўнасці і рамантычнасці) у гэтым накірунку могуць быць, напрыклад, наступныя.

1. Увядзенне практыкі падрабязнага і шырокага абмеркавання (з удзелам пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў і чытачоў) не толькі цэлых паэтычных і празаічных зборнікаў, але і асобных вершаў, апавяданняў, аповесцяў, раманаў і п'ес вядомых творцаў. Прычым у выніку востра-крытычнага калегіяльнага абмеркавання павінны быць вызначаны як найлепшыя, так і найгоршыя творы кожнага аўтара, не зважаючы на ягонае рэнамэ, вядомасць у Беларусі і ў замежжы. Прычым для кантрасту можна было б паставіць на абмеркаванне і творы малавядомых ці зусім невядомых аўтараў – і паглядзець, дзе і ў чым такі творца нашмат прайграе Мэтру, а ў чым ён, наадварот, трымаецца на вельмі добрым узроўні.

2. Наладжванне чытанняў і затым абмеркаванняў твораў найвыдатнейшых пісьменнікаў розных эпох і народаў пры адпаведным параўнанні іх мастацкіх здабыткаў з творчымі здзяйсненнямі сучасных майстроў мастацкага слова. Падрабязны публічны разгляд творчасці славутых творцаў патэнцыйна мог бы даць шмат надзвычай важнай, каштоўнай інфармацыі не толькі для ўсіх неафітаў, але і для вопытных творцаў-прафесіяналаў.

3. Вызначэнне найлепшых і найгоршых літаратурных твораў па выніках кожнага, скажам, паўгоддзя, года і ўрэшце дзесяцігоддзя на аснове шырокага апытання ўсіх зацікаўленых асобаў. Пераможцаў у гэтых намінацыях можна было б узнагароджваць прэміямі і антыпрэміямі – няхай сабе нават і сімвалічнымі.

4. Больш шырокая і ўсебаковая прэзентацыя ў неабсяжнай Інтэрнэт-прасторы (на розных спецыялізаваных літаратурных сайтах і парталах, якія яшчэ трэба стварыць!) творчых здабыткаў самых таленавітых майстроў слова. А то сёння атрымліваецца парадокс, калі, скажам, многія пасрэдныя, не вельмі адораныя паэты і празаікі шырока прадстаўлены ў віртуальнай прасторы, а "жывыя класікі" нашай літаратуры – зусім слаба, недастаткова.

5. Аднаўленне практыкі літаратурнай вучобы, як гэта калісь практыкавалася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага ў Маскве, а таксама больш частае правядзенне майстар-класаў найлепшых творцаў для пісьменнікаў-пачаткоўцаў. Было б пажаданым таксама стварыць адмысловы "Інстытут паэзіі" (або шырэй – "Акадэмію прыгожага пісьменства") ў выглядзе недзяржаўнай прыватнай арганізацыі, дзе б на грамадскіх пачатках выкладалі асновы літаратурнага майстэрства вядомыя айчынныя Майстры слова.

6. Можна было б у мэтах хутчэйшага выяўлення найбольш адораных творцаў і іх далейшай "раскруткі" ўвесці своеасаблівую праверку пісьменнікаў на ступень мастацкай адоранасці. Дзеля гэтага ўсе ахвотныя творцы (як вядомыя, так і зусім невядомыя) маглі б ананімна прайсці праверку на адмысловым "дэтэктары таленту". Сутнасць падобнага "дэтэктара" каротка можна апісаць наступным чынам. Спецыяльная камісія (у якую ўваходзяць найлепшыя і неангажаваныя літаратурныя крытыкі і карыфеі айчыннай паэзіі) дае заданне ўсім удзельнікам "праверкі" напісаць тры вершаваныя творы – адзін з іх у выглядзе санета (на зададзеную тэму), другі ў выглядзе верлібра, а трэці ў любой форме, якую выберуць самі паэты. Затым на спецыяльным адкрытым пасяджэнні гэтай камісіі абвяшчаюцца вынікі "праверкі", пасля чаго ўпершыню "расшыфроўваюцца" прозвішчы пераможцаў. І так можа стацца, што які-небудзь правінцыйны (і зусім невядомы) паэт выявіць большую творчую адоранасць, большы талент, чым "раскручаны" вузкім колам сваіх прыхільнікаў вядомы сталічны паэт...

7. Вяртанне ў сферу айчыннай літаратуры тых таленавітых асобаў (напрыклад, Л. Галубовіч, А. Мінкін, М. Баярын), якія па розных прычынах і ў розны час "па-

кінулі" паэзію, а таксама тых, хто з'ехаў за межы Бацькаўшчыны і зараз практычна не прадстаўлены ў айчыннай літаратурнай прасторы (напрыклад, В. Морт). Усе гэтыя пісьменнікі яшчэ б змаглі напісаць мноства цудоўных твораў, тым самым павялічыўшы свой унёсак у беларускае прыгожае пісьменства. Іначай кажучы, нам трэба, відаць, кінуць такім "аціхлым" творцам палымяны заклік аднавіць уласную творчасць і болей не пераставаць займацца той справай, якая калісьці атрымлівалася ў іх надта хораша!..

***

Мяркую, што ўсе вышэйназваныя шляхі і сродкі патэнцыяльна могуць быць даволі эфектыўнымі, дзейснымі ў плане выпраўлення агульнай неспрыяльнай сітуацыі. Аднак дзеля справядлівасці трэба прызнаць, што рэалізаваць на практыцы падобныя методыкі ў нашай краіне зараз надзвычай складана, а часам і практычна немагчыма найперш з-за фінансавых, матэрыяльных цяжкасцяў, а таксама з-за, мякка кажучы, не надта спрыяльнага для развіцця літаратуры маральна-духоўнага клімату ў сённяшнім соцыуме.

Улічваючы ўсё гэта, сёння спадзяванні на хуткае змяненне складанага становішча ў лепшы бок выглядаюць даволі сумніўнымі і нават трошкі наіўнымі. Але ж, як вядома, надзея паміраe апошняй, а таму ніколі не будзем яе губляць і ў той жа час у глыбіні сваіх душаў будзем заўсёды спадзявацца на нейкі культурны цуд, духоўны прарыў, а таксама на мастацкі ўздым, патэнцыяльныя магчымасці для якога ўсё-ткі пакрысе выспяваюць (на гэта даюць пэўныя надзеі самыя адораныя маладыя празаікі і паэты). Праўда, чакаць такога літаратурнага ўздыму можна будзе, відаць, толькі ў больш-менш аддаленай гістарычнай перспектыве. А што датычыцца прыведзенага ў самым пачатку нашага эсэ меркавання Карла Ясперса, то адзначым, што на працягу XX-пачатку XXI ст. духоўнасць (шырэй – высокая культура) і сапраўды працягвала гінуць, гібець, але ж, на шчасце, усё-ткі не загінула канчаткова, і мастацтва працягвае жыць, нягледзячы на шматлікія неспрыяльныя абставіны. Ars longa, vita brevis...

Літаратура:

1. Ясперс К. Духовная ситуация времени / Ясперс К. Смысл и назначение истории: Пер. с нем. 2-е изд. – М.: Республика, 1994. – 527 с.
2. Бауман З. Глобализация. Последствия для человека и общества / Пер. с англ. – М.: Изд.-во «Весь мир», 2004. – 188 с.
3. Браэм Г. Психология цвета / Гаральд Браэм; пер. с нем. М.В.Крапивкиной. – М.: АСТ: Астрель, 2009. – 158 с.
4. Палуян С. Лісты ў будучыню: Проза. Публіцыстыка. Крытыка. – Мн.: Маст. літ., 1986. – 215 с.
5. Гл.: Апокалипсис смысла: Сборник работ западных философов XX-XXI вв. – М.: Алгоритм, 2007. – 272 с.

## Слова ад "Дзеяслова":

*Спадзяемся, артыкул Эдуарда Дубянецкага выкліча водгук у чытачоў і жаданне паспрачацца з аўтарам... Друкуем яго ў якасці палемічнага, абсалютна разумеючы і ўсведамляючы, У які час і ў якой краіне жывем. А таму прымаем прапановы аўтара па "выхаду з крызіса" як пажаданне на будучыню. Магчыма, прыйдзе час, калі мы з удзячнасцю імі скарыстаемся...*

Андрэй Масквін



...сплю і не бачу ніякіх сноў –
адзін стары свет якога няма...

# “Майго часу не было і не будзе...”

***Гутарка з Алесем ЧОБАТАМ***

***“СОН У ЛЕТНЮЮ НОЧ”***

сплю – як розум:
коцікі Каця і Саша на пачварныя ловы
пайшлі здаровы

дзе чорт схавае – там участковы прыйдзе
дзе баба гоніць – там вецер вясёлы

як з Шалкевіча песні выходзяць дзяўчаты
і на ўсё прадмесце – ад хаты да хаты –
спяваюць ночкай купальнаю
вясёлую пахавальную:

“калі Польшча не згібела – не было калхоза
а цяпер другое дзела – як за стол з мароза
ідзе дарога – ад плота да Бога
і ад заварота – ад Бога да плота”

гэта было так даўно
калі адны жывыя яшчэ былі
а другіх жывых – яшчэ не было

сплю – як стары лішні розум:
дзед Ілля Аляксандравіч
дзядзя Якуб Станкевіч
з татарскай хаты Джаміль
і ўвесь мёртвы Скідзель
вывернуты на ліхі бок

сплю і не бачу ніякіх сноў –
адзін стары свет якога няма

***– Верш увайшоў у томік “Край мой шчаслівы”. Як з’явілася гэтая кніга?***

– Гэтую кніжку я пісаў для маёй дачкі. Яна цяпер жыве ў Польшчы. Я не ведаю, дзе дакладна, таму што нашы сувязі разарваліся. У яе іншае прозвішча, і нават калі нехта захоча яе знайсці па каранях, не зробіць гэтага. Маё жыццё прайшло, няхай яна спакойна жыве. У яе сваё жыццё. Томік вершаў выдадзены ў 2007 годзе. Я яго падрыхтаваў, а выдавецтва захавала мой фармат. Кніжка, на маю думку, атрымалася някепская.

***– Чытаючы вашую паэзію, складваецца ўражанне, што тэма любові да дачкі ледзь не галоўная…***

– Ёй быў усяго год, калі я пачаў пра яе пісаць. У зборніку “Год” (1992 г.) быў раздзел, які так і называўся – “Дачка”. У вершах я ніколі не згадваў яе імя, але мясцовыя ведалі, пра каго я пішу. Нейкі час, пакуль не скончыла школу і адсюль не з’ехала, яна была галоўным сэнсам майго жыцця.

Цяпер я шмат у чым адчуваю сябе вінаватым. Можа, не заўсёды прысвячаў ёй дастаткова часу, часта бываў у камандзіроўках. Потым уключыўся ў дэмакратычны рух. Калі змянілася ўлада, стаў баяцца, што яна можа пачаць ёй помсціць. Ніяк не магу зразумець, адкуль у нашай улады столькі нянавісці. Па-другому яна не ўмее жыць. Заўсёды выдумвае сабе ворагаў. Шкада, што палітыка моцна ўвайшла ў жыццё беларусаў.

***– Як вы пісалі гэты верш?***

– У мяне няма спецыяльнай тэорыі наконт таго, як пішуцца вершы. Верш або пішацца, або не. Так, як уся работа робіцца: бывае выходзіць, а бывае, што не. Адну працу выконваеш з радасцю, а другую праклінаеш. Паэзія – гэта такая самая праца, як кожная. Я не бачу ў гэтым нічога святога і асаблівага.

***– Атрымліваецца, што паэт – гэта не прафесія?***

– Так, такой прафесіі як паэт няма. Паэзія – гэта хвароба. Бывала, Анатоль Сыс усё пытаўся, ніяк не мог супакоіцца: “Хто лепшы?” Я адказваў, што Максім Багдановіч. Купалу з Коласам прыйшлося займацца палітыкай, публіцыстыкай, круціцца паміж уладамі, выжываць. Я трохі служыў у газетах і нешта пра гэта ведаю. Калі ты хочаш быць адважным, і каб пра гэта ніхто на даведаўся, бяры сабе псеўданім...

***– У вершы ўсё змяшалася: фрагменты песні, знаёмыя вам людзі, каты… Нейкім чынам верш нагадвае карціны Марка Шагала віцебскага перыяду, у якіх рэчаіснасць і фантазія сустракаюцца і існуць побач.***

– Гэта ўсё выпадкова. Паэзія не падлягае планаванню. Гэта да мяне казалі сто разоў.

***– У вершы вы ўзгадваеце рэальных людзей…***

– Так, усе гэтыя людзі жылі непадалёк ад нашага дома. Татарская хата стаіць



*Алесь ЧОБАТ.*

крышку далей ад нашай. Якуб Станкевіч жыў недалёка. Гэта было пакаленне майго дзеда – Іллі Зелянкоўскага. На жаль, я ведаў гэтых людзей у позняй старасці. Мой дзед і яго сябры, Станкевіч і Джаміль, былі несавецкія. А гэта значыць "нястаткавыя". Вядомы пісьменнік Антуан дэ Сэнт-Экзюперы вельмі добра пра гэта напісаў: "Людзі – гэта людзі, калі яны адны, калі ж яны збіваюцца ў зграю (у перакладзе "калектыў"), то гэта ўжо нейкія іншыя істоты".

***– Складваецца ўражанне, што дзед быў для вас самым важным чалавекам...***

– Гэта так. Мой дзед прыехаў у Скідзель у 1922 годзе. Ён скончыў толькі два класы ў царкоўнапрыходскай школе, але ведаў больш за мяне. У яго не было магчымасці вучыцца. Але мог гаварыць на расейскай, польскай мовах і ідыш. Ён заўсёды рабіў тое, што яму падабалася. І зусім не клапаціўся пра тое, што пра гэта падумаюць іншыя. Напрыклад, ён не хацеў сядаць на ровар, але выдатна ўпраўляўся з канём. Час быў іншы.

Дзед паважаў рускую мову. Ён навучыў мяне чытаць у чатыры гады, і рабіў гэта па сваіх чыгуначных даведніках. Вось як пачаліся нашыя заняткі. Аднойчы ён прыйшоў дахаты і сказаў: "На днях я купіў шчуку і шчупака. Шчука пабеларуску пішацца вось так: паставіў тры крэскі, а чацвёртую правёў па нізе. А па-руску замест апошняй адгінаюць кручок. А па-польску трэба напісаць аж чатыры літары. Так я цябе навучу па-руску. Калі табе будзе трэба па-другому, сам як-небудзь справішся". Яно так і выйшла.

Дзякуючы дзеду, я аказаўся хрышчоным. У 1959 годзе ён паклаў мяне ў кошык, у рот засунуў анучу з гарэлкай і завалок да бацюшкі. Зрабіў гэта не ўначы, а ў белы дзень. Яны зрабілі што трэба, селі і выпілі. Я пра гэта не ведаў, пакуль не скончылася савецкая ўлада.

Калі ў 1944 годзе прыйшлі Саветы, дзед пару гадоў, пакуль не прыехаў інжынер, быў начальнікам чыгуначнай станцыі. Пазней прыслалі нейкага камісара, дзед паглядзеў на яго і сказаў: "Чалавек харошы, але бесталковы". Дзякуючы

дзеду, спалены немцамі Скідзель адбудавалі нямецкімі шпаламі. Толькі застаўся невялікі запас на рамонт. Калі дзед гуляў са мной па Скідзелі, усе жыхары ішлі і раскланьваліся яму. А ён кажа мне: “Помняць, чыё мяса елі”.

***– Што вы памятаеце пра сяброў дзеда?***

– Джаміль амаль увесь час сядзеў дома і нікуды не вылазіў. У яго неяк збераглося золата. Гэта было не габрэйскае золата, а менавіта татарскае, сваё, і, як мне здаецца, ёсць і цяпер. Яго часта наведваў мула з Іўя, дзе працавала мячэць. Дарэчы, яе таксама не зачынілі.

Станкевіч падбіваў людзям абутак. Калі ён памёр, брыгада шабашнікаў аж з чатырох чалавек не магла яго замяніць. Палавіна яго хаты была зроблена як майстэрня. Я да яго неяк зайшоў. Старэйшая сястра Тамара папрасіла: “Сходзі да дзядзі Яшы і вазьмі мае басаножкі”. Калі я прыйшоў, той сказаў: “Пасядзі трохі, няхай дасохнуць”. Сяджу, а тут раптам з’яўляецца ўсё скідзельскае начальства. Ну і пачынаецца: “Што гэта такое, чаму прыватная дзейнасць?” Пры Саветах гэта было забаронена. Украсці можна было, а зарабіць капейку нельга. Той крычыць на жонку: “Верка, дзе мой мяшок?” Яна вывалакае мяшок, дзе ўжо былі складзеныя рэчы на Сібір. “Забірайце хоць цяпер”, – кажа Якуб. Начальнікі пашумелі, пашумелі і выйшлі. Я кажу: “Дзядзя Яша, можа ўжо высахлі?” “Саша, пасядзі, гэта яшчэ не ўсё”, – адказаў ён. За хвіліну прыбягаюць жонкі гэтых начальнікаў. Ён раздае: “Гэта зроблена, тое яшчэ сушыцца, а табе я разадраў і перакляпаў”. Вось так было. Шмат чаго можна ўспомніць з таго часу, але я стараюся трымаць у галаве толькі самае-самае.

***– Калі я шукаў ваш дом, то звярнуў увагу, што ён вельмі добра захаваўся. Што гэта за дом, у якім вы жывяце?***

– На жаль, гэта ўжо не дом, а развалюха. А жыву я тут, бо мне няма дзе жыць. У адным месцы правальваецца сцяна. Калі ў 1941 годзе другую сцяну развaліў нямецкі снарад, яе ледзьве сшылі. Як яшчэ страха не працякае, не ведаю. Я яе перакрываў, калі яшчэ быў студэнтам... Гэта дом дзедаў. Раней дзед жыў на хутары, потым быў бежанцам. Адна нямецкая акупацыя, потым другая. Урэшце прыехаў у Скідзель і акалачваўся на станцыі каля чыгункі. А потым сюды прывалокся.

Скідзель быў чыста габрэйскі горад. Тут быў толькі адзін панскі двор. За польскім часам жылі Радзівіловічы, а за царскімі – удава і дзеці Калеты Святаполка-Чацвярцінскага. З палякаў тады быў адзін пан, а з праваслаўных нікога. Скідзель – гэта “скудзель”, а па-славянску – “скотамагільнік”. Тут гіблае месца, сюды звозілі і скідвалі незакапаных нябожчыкаў. На жаль, не магу пахваліцца сваёй малой радзімай. Няма ні ўласнай хаты (дом, у якім я жыву, запісаны на бацьку), няма зямлі, поўнае расчараванне. Што рабіць – такая доля.

***– Гэты дом быў збудаваны дзедам?***

– Можа нават прадзедам. Раней не любілі распавядаць пра былое. Рабілі гэта выключна дзеля бяспекі. Хутчэй за ўсё асцерагаліся, але не за сябе, а за іншага. Не баяліся, а менавіта асцерагаліся. Людзі столькі перажылі! Заўсёды казалі: “На вшэлкі выпадак”.

***– Вы ўзгадваеце Віктара Шалкевіча...***

– Так, у яго ёсць такая песня: “Да хаты, калхозную песню спяваюць дзяўчаты”. Яна мне прыйшлася да рукі. Ён таленавіты чалавек. Бог яго не абдзяліў.

***– Вы не адзін у гэтай хаце. З вамі жывуць вашы сябры – каты. У вершы вы ўзгадваеце Кацю і Сашу...***

– Тады было нават чатыры. Пакуль я быў у шпіталі на аперацыі, Каця двух схавала, а калі была навальніца, то прыцягнула дадому. Я паглядзеў і падумаў, што тапіць нельга. Толькі сам неяк вярнуўся да жыцця, і раптам некага забіць – гэта нядобра. А два іншыя з’явіліся ад Слаўкі. Яна схавала іх мне пад падушку і так на мяне паглядзела, што я нічога не мог зрабіць. Канечне, чорная Слаўка была

самая важная ў маім доме. На вялікі жаль, яе даўно ўжо няма. Яна, напрыклад, не давала мне ноччу заснуць навечна. Калі мне было дрэнна, адчувала гэта, прыбягала і лапкамі лупіла: “Не спі, не спі!” Дзякуючы ёй, я яшчэ жыву...

***– Вось вы наракаеце, што змяніўся час. А калі быў ваш час?***

– Майго часу не было і не будзе. Так атрымалася. Што рабіць, калі цябе не хочуць тыя, якія цябе плодзяць? Дзетдомаўца калечыць дзіцячы дом. І хаця я не быў у дзетдоме, я таксама пакалечаны.

Рускі чалавек кажа: “плетью обуха не перешибёшь”. Менавіта з такой філасофіяй жылі людзі. Такі быў час. Зусім іншыя былі 60-70 гады, я нават гэта памятаю. Але вельмі хутка гэты перыяд скончыўся. Час памяняўся. Быць у апазіцыі да сістэмы і ўлады маглі толькі самыя адважныя. Шмат людзей разумела становішча, перажывала, але нічога змяніць не магло. Большая частка людзей весялілася, піла. А хтосьці, як мой дзед і яго сябры, гуртаваліся і былі ва ўнутранай эміграцыі.

***– Можа тут, на Гарадзеншчыне, таму было асабліва цяжка, бо амаль усе былі прыезджыя. Таму і смяяліся з польскага гімна...***

– Там, дзе напісана, што смяяліся з польскага гімна, гэта я ўпрыгожыў... Тут смяяліся па-скідзельску: “Яшчэ Польска не згінэла, але згінуць мусіць. // Бальшавіцы не забілі, то халера ўдусіць. // Марш, марш, пад плотам, // Тэнды і з павротам”. І так далей. Тут радаваліся. Пачытайце Мікалая Дзелянкоўскага “Скідзель. 500 год гісторыі” (Гродна, 2008). Калі пачалася вайна немцаў з палякамі, тут з’явіліся Саветы, быццам ратаваць ад немцаў. Радаваліся ўсе: дарослыя і дзеці.

Скідзель панёс вялікія страты ў гады вайны. Як толькі пачалася вайна Савецкага Саюза з немцамі, апошнія з’явіліся тут ужо на другія суткі. Усе габрэі загінулі. Як піша Дзелянкоўскі, з габрэяў застаўся Карніловіч і адзін кравец, у якога не было прозвішча. Усе так і казалі: Алег і “кравец”. Чаму менавіта яны засталіся? Тут не было дактароў: ні польскіх, ні савецкіх. Замест доктара быў аптэкар. А ён патрэбны любому рэжыму. Мужчынскі і дамскі кравец таксама патрэбны любому рэжыму. Таму яны пацыху перажылі вайну. Дзякуючы ім, трымалася савецкае і польскае падполле. А так усіх пазмятала: багатых, бедных. Ад старога Скідзеля засталіся, можа, тры камяніцы з трыццаці.

***– На вашу думку, той, мінулы час, лепшы за цяперашні?***

– Наўрад ці той час быў лепшы за цяперашні. Яго проста няма. Хай пра цяперашні хто другі піша. Пра мой час я ўжо адпісаў. Усё вы можаце знайсці ў зборніках “Год” і “Новая Галілея”. Там усё напісана.

У мяне нават была такая гісторыя. Калі ў 1995 годзе выйшла кніжка “Новая Галілея”, адна ўлада скончылася, а другая яшчэ не пачала дзейнічаць. Кніжка ляжала нейкі час у выдавецтве ў Мінску, а потым яе накіравалі ў Маладзечна. Дзякуючы гэтаму, томік вершаў выйшаў без цэнзуры. Там я напісаў пра тое, што адбывалася ў Беларусі прыблізна з 1988 года. У рэдакцыю “ЛіМа” прыйшоў ліст, аўтар якога напісаў, што я расчараваўся ў Беларусі пасля выбараў 1994 года. Шкада, што ў чытача быў такі прымітыўны погляд на маю паэзію.

Жыццё праходзіць. Я лічу, што пісаць дзесяць разоў пра адное і тое самае няма сэнсу. Я шмат гадоў працаваў інжынерам і прывык: зрабіў адну ліцейную форму і ўсё, хопіць. Навошта рабіць другі раз, калі яна пайшла ўжо ў работу.

***– Адкуль у вас такое добрае веданне гісторыі?***

– Я не ўпэўнены, што я яе ўвогуле ведаю. Але калі нешта ёсць, дык гэта ад інжынеркі. У савецкія часы казалі: “металл не обманешь”. Чалавека – можна, а метал зломіцца. Пяць гадоў тэхналагічнага інстытута ў Мінску, восем гадоў на фабрыцы навучылі мяне, што рацыя можа быць толькі адна.

***– Як сталася, што вы пачалі пісаць вершы?***

– Гэта пачалося тады, калі не стала Саветаў. Калі б Савецкі Саюз ляснуўся крыху пазней, было б лепш. На мой погляд, гэта адбылося б не з такім лязгатам і

пылам. На пачатку 90-х гадоў людзі ляцелі хапаць грошы. У мяне была асабістая трагедыя – мяне ледзь не забілі... У той час мяне выкінулі з працы. Бо калі трэба было ісці да начальства і дакладаць такім чынам, каб прайшла мая прапанова, трэба было займацца самацэнзурай. А я не хацеў гэтага рабіць.

З мяне выйшаў страх. Мне дапамагла і ўратавала інжынерка. Я працаваў канструктарам ліцейных формаў. Я мог чытаць любыя дакументы, якія да мяне траплялі: напісаныя на венгерскай мове, японскай... Мог вырашыць любую праблему, зрабіць любы праект. У тыя часы была пустапарожняя савецкая лірыка. Едзеш дарогай і пішаш: справа – бярозы, злева – сосны. Трэбы было скончыць філфак. Той, хто не скончыў, той не чалавек. Гэта пры тым, што Кастусь Тарасаў пачынаў інжынерам, Уладзімір Караткевіч – настаўнікам, Уладзімір Някляеў – буравіком і тэлемайстрам. Васіль Быкаў з Янкам Брылём і Іванам Шамякіным зусім не мелі вышэйшай адукацыі.

З другога боку – гэта мая доля. Тады не было чаго рабіць, не было чым займацца. Таму паэзія мяне ўратавала. Атрымалася ці не – не ведаю. Няхай іншыя скажуць. Ніхто мяне не вучыў. Калі верш не друкавалі, мяне шпурляла. Пасылаў то ў адну, то ў другую рэдакцыю. Вось вам прыклад. Я напісаў верш "Снежань" з нагоды першай чачэнскай вайны (1995 г.) і даслаў яго ў некалькі газет, у тым ліку і ў "ЛіМ". У Гародні да мяне падыходзілі супрацоўнікі гарадской газеты і казалі: "Саша, мы чыталі ўсім аддзелам. Гэта вельмі страшна!" Страшна не тое, што чытаеш. Страшна было на вайне. Праз некаторы час да мяне прыязджае з "ЛіМа" прадстаўнік і пытаецца, чаму я нічога не даю. "Нельга даваць наступнае, трэба чакаць, пакуль апошняе апублікуюць", – адказаў я. Патэлефанаваў Ніл Гілевіч і параіў пісаць на яго імя. Потым я абнахабіў да таго, што пачаў дасылаць яму вершы на 1-2 развароты. Было так, што напрыканцы тыдня я дасылаю, а праз тыдзень ужо друкаваліся.

***– Як жыве паэт Алесь Чобат цяпер?***

– Калі мне было 12 гадоў, бацька выбіў мне левае вока. Які ж пасля гэтага ён бацька? А цяпер я вымушаны жыць з ім пад адной страхой. Добра яшчэ, што адзін аднаго не пазабівалі. Час ад часу ён выклікае міліцыю, у якой дарэчы працуюць палякі. Калі яны прыходзяць да мяне, я ім паказваю часопіс "Наша Вера", у якім ёсць мой верш, прысвечаны Яну Паўлу ІІ. І яны спакойна сыходзяць. Я калека, а калека жыве, як атрымліваецца. Гэта толькі чалавек жыве, як умее.

Цяпер я перачытваю кнігі, новых мне не трэба. Кампутар мне не патрэбны. Нешта пачую тут, нешта там – і мне дастаткова. Я дажываю свой век, навошта мне некаму даказваць, што я ўсё ўмею.

На жаль, Саветы нікуды не падзеліся. Усё што вакол – "небольшой колхоз". Канечне, цяпер маладыя троху жывейшыя. Учора іду і адчуваю, што ў вачах цямнее і падаю. Узяўся за дрэва, падскоквае адзін: "Можа, "хуткую" выклікаць?" "Не, – кажу, – пастаю і зараз пайду". Потым выскоквае з машыны маладая пані і падбягае да мяне: "Мужчына, вазьміце валідол", – і прануўвае падвезці кудынебудзь. Я не згадзіўся, бо ўсё адно трэба адыходзіць самому. Раней, за Саветамі, тым больш тут у Скідзелі, такога не было. Трэба было ляжаць, і ляжаць доўга, каб нехта зацікавіўся. Можна было нават замерзнуць...

Леанід Галубовіч



…Каско ўжо ад пачатку літаратурнай працы быў адмысловым версіфікатарам. Кожнае слова ў яго займала сваё месца, звязвалася і цесна сумоўнічала з папярэднім і наступным…

# На вяршыні дзён

## *Штрыхі да творчага партрэта Алеся КАСКО*

*"Удаў гадоў нікім не папярхнецца;*
*падвольны непазбежнаму суду,*
*з нас кожны думае: "І я ўвайду*
*аднойчы ў спрат, што вечнасцю завецца"."*
Алесь Каско.

Доўга не мог прыступіцца да гэтага тэксту, бо дзесяць гадоў таму ўжо даводзілася пісаць пра творчасць вядомага берасцейскага паэта Алеся Каско. Сказаць, што за гэты час у ім, як у чалавеку і паэце, нешта сутнасна змянілася, не выпадае. Хоць, калі быць дарэшты шчырым, то вульгарная грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне лакалізавала яго творчыя магчымасці і ў пэўнай меры паралізавала яго духоўныя намаганні. Аднак мы добра ведаем, што жыццёвыя нягоды, змаганне, перашкоды і іх пераадоленне якраз акумулююць і трасфармуюць творчую энергію ў выбітныя мастацкія ўвасабленні. Змушаны перыяд беспрацоўя, сямейныя мітрэнгі, страта лепшых сяброў (В. Сахарчук, Н. Мацяш) і як вынік таго – творчы ўпадак, даліся ў знакі натомле-

наму сэрцу паэта... Але, пераадолеўшы гэты своеасаблівы катарсіс, чалавечы і літаратурны негатыў лёсу Алеся Каско неўзабаве праявіўся сваім пазітыўным бокам.



*Алесь КАСКО.*

Ужо ў калектыўным зборніку “Трохперсце” (2008) яго кніжка “Свой камень” выявіла яго новыя жыватворныя абрысы:

Далёка неспакойны бераг,
яго і рэхам не дастаць.
Я тут адзін. Я шчыра веру,
што здатны з чыстага ліста
пачаць жыццё сваё і ваша:
паболей – спраў, паменей – страт...
Мне трэба час быў, каб узважыць
дзве ношы – сумных дзён і свят.

Але то быў усё-ткі “вершаваны збор” з усяго творчага набытку паэта. Адмысловы, дадам, бо як рэдактар і аўтар прадмовы, быў сведкам таго скрупулёзнага і няшчаднага аўтарскага выбару (“а менш нельга?” – умольна пытаўся ён прыглушаным голасам у тэлефонную слухаўку адносна ўласна-выдавецкага аб’ёму зборніка). Ці часта такое пачуеш?!

І вось сёлета Алесю Каско нарэшце ўдалося выпусціць у наш глухі свет сваю чарговую (пасля дзесяцігадовага перапынку, не ўлічваючы, вядома, вышэй абгаворанае выданне) кніжку вершаў “Нічога больш”. Чамусьці паэт любіць падгадваць са сваімі рэдкімі выданнямі якраз да ўласных юбілеяў (папярэднія: “45” і “Трохкроп’е” пабачылі свет адпаведна да яго 45- і 50-годдзяў). Дык вось, даволі аб’ёмны артыкул з нагоды пяцідзесяцігадовага юбілею паэта і яго “Трохкроп’я” я калісьці і выдрукаваў у “ЛіМе”. Што найбольш запомнілася, дык гэта адчайны, не зусім цвярозы, сентыментальны ўсплёск пачуццяў падчас телефоннага званка да мяне сябра Каско паэта Васіля Сахарчука: “Пра мяне гэтак ніхто ўжо не напіша”. Каб жа мог я мець абвостраныя прадчуванні, то напісаў бы тады наўслед і пра творчасць гэтага таленавітага і шчырага майго таварыша з той жа Жабінкі, паспяшаўшыся да яго чорнага ракавога дня 2003 года...

На вячэрнім праменадзе з сабачкам у прылеску Зялёнага Луга чамусьці ўспомнілася мне кароценькая рэцэнзія Міхася Стральцова на вось гэтае чатырохрадкоўе Міколы Федзюковіча:

Я, мусіць, ад чужых турбот адвык –
вунь к*а*ня па-над выганам канае;
але мяне чамусьці не кранае
жалобнай кані неўтаймоўны крык.

Нешта мяне ў ім тузанула, асацыятыўна прывязваючы да творчай постаці берасцейскага паэта Алеся Каско. Стральцоў дамагаўся гармоніі ў паэзіі. Ён хацеў, каб правінцыяльны паэт быў у меру інтэлектуальным, а гарадскі не губляў адпрыроднай натуральнасці (помнае яго “сена на асфальце”). Адносна вышэй працытаванай страфы Міхась Лявонавіч пісаў: “Верш, магчыма, трохі супярэчлівы (і гэта па-свойму добра), але ён гучыць не інакш як адыходная традыцыйнай вясковай ідыліі. (...) І ўсё ж... “дзіця горада” ці “дзіця вёскі”? Пажадаем аўтару суладзіць у сабе і тое, і другое, калі гэта магчыма, вядома...”

Мне здаецца, падобная альтэрнатыва неаднойчы паўставала і перад Алесем Каско. І важна, што ён вырашыў яе гарманічным спалучэннем: не растраціўшы паляшуцкай пароды (натуры), паступова нарасціў "урбаністычны" досвед і інтэлект.

І вось тут, мабыць, варта перапыніцца з літаратурнай крытыкай і для не надта абазнаных, найперш маладзейшых чытачоў пункцірна пазначыць біяграфію паэта. Нарадзіўся Алесь Каско ў 1951 годзе ў дзіўна-казачных палескіх мясцінах, у вёсцы Чудзін, куды (як і ў суседнюю Будчу) летам на цэлы тыдзень ездзілі касіць, а зімой вывозіць адтуль, за дваццаць кіламетраў, сена мой бацька і мужыкі-аднавяскоўцы, распавядаючы пасля ў вясёлай хмельнай кампаніі розныя тамашнія байкі і страшылкі). Бацька казаў, што "чудзінцы – дзівакі". А дзівакі, я думаю, па натуры павінны быць паэтамі. Нездарма збіраў тут казкі, выдаўшы ў 1911 годзе фальклорны зборнік "Сказки и рассказы белорусов-полешуков", і супрацоўнік пецярбургскага Расійскага музея А. Сержпутоўскі. У старэйшых класах мясцовай сярэдняй школы Алесю пашэнціла быць вучнем вандроўнага настаўніка і ўжо тады вядомага (выклятага) паэта Міколы Купрэева, а падчас вучобы ў Брэсцкім педінстытуце імя А. С. Пушкіна кантактаваць з апальным, выгнаным з БДУ за беларушчыну, паэтам Алесем Разанавым. Лёс, калі хоча цябе пазначыць, абы з кім не зводзіць. Пасля пайшлі працоўныя будні і запойна-творчыя святы. Настаўнічаў, быў карэспандэнтам райгазеты, рэдактарам на абласной студыі тэлебачання ў Брэсце. Кіраваў Берасцейскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў. Цяпер зноў у той жа раёнцы адбывае змушаную радоўку ў чаканні пенсіі... Выдаў няшмат кніг, але ўсе яны заўважныя: "Вестка" (у калектыўным зборніку "Нашчадкі", 1979), "Скразная лінія" (1982), "Набліжэнне" (1989), "Час прысутнасці" (1994), "45" (1996), "Трохкроп'е" (2001), "Свой камень" (2008, у калектыўным зборніку "Трохперсце") і вось гэтая, пакуль апошняя, "Нічога больш" (2011). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, прыватнай берасцейскай Мядовай прэміі...

Паэт прыклаў шмат намаганняў, каб на магіле ў вёсцы Федзькавічы паўстаў помнік паэту В. Гадульку, а ў Жабінцы яго імем назвалі вуліцу, як крыху раней тое сталася з увекавечваннем памяці паэта В. Сахарчука. Дапамагаў Ніне Мацяш (праўда, тут сувязь была зваротнай і Ніна Іосіфаўна шмат у чым, прынамсі, і ўладкавацца на цяперашняе яго месца працы, дапамагала яму). Больш турбот, чым задаволенасці, прыносіла праца ў аддзяленні пісьменніцкага саюза, адбірала шмат часу падрыхтоўка і арганізацыя літаратурных выступленняў і выдавецкая дзейнасць, у тым ліку выпускі альманаха "Жырандоля" і рэдагаванне кніжак сяброў абласнога аддзялення СБП... Але не абміналі і радасці, калі там-сям тады-сяды выяўляліся маладыя літаратурныя таленты. Да іх (мясцовых талентаў), трэба зазначыць, яшчэ з часоў Уладзіміра Калесніка на берасцейшчыне заўжды было трапяткое стаўленне. Яно і адчуваецца: А. Разанаў, Я. Янішчыц, М. Рудкоўскі, М. Купрэеў, І. Лагвіновіч, В. Гардзей, М. Пракаповіч, З. Дудзюк, У. Марук, А. Шушко, В. Гапееў, А. Паплаўскі, А. Белы, А. Наварыч, Я. Дашына, С. Прылуцкі... Называю найбольш вядомыя рэспубліканскаму чытачу імёны. Насамрэч іх значна больш. Некаторыя з іх у свой час не былі абдзелены ўвагай і падтрымкай А. Каско.

Што тычыцца ўласна творчасці, то Каско ўжо ад пачатку літаратурнай працы быў адмысловым версіфікатарам. Кожнае слова ў яго займала сваё месца, звязвалася і цесна сумоўнічала з папярэднім і наступным. Класічны традыцыяналіст. Так ён пачынаў. У 1987 годзе пісаў, можа, трохі па-маладому ўзнёсла, але адчувальна пафасна:

О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна

у тую далеч, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.
................................................
Не стане моцы – і няхай! –
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі – і толькі сэрца
пакінь і выказацца дай.

А ўжо гэты, пакуль апошні зборнік (праз дваццаць пяць гадоў), паэт пачынае змушаным скрушным прызнаннем:

Сябе я выказваў –
нічога не выказаў болей.

Хоць, зноў жа, следам спрабуе даць тлумачэнне як свайго паэтычнага прызвання, так і выраку агульнага зямнога чалавечага лёсу:

Былінку слова, каліва пяшчоты
пакіну вам, і гэта дасць вам сілы
змяёй не віцца ў кроку ад магілы
і ўдзячнасць прашаптаць нямоглым ротам.
Але – што потым?

Пагодзімся, пытанне, занатаванае ў апошнім радку, пераважвае ўсе спробы адказаў на падобныя запытанні. (Просьба не дапасоўваць сюды шырокавядомае аналагічнае, але псеўдалірычнае пытанне Я. Яўтушэнкі.)

Зазвычай у большасці рэцэнзій прасочваецца адна і тая ж метода: паэт піша пра прыроду (цытата), пра патрыятызм і любоў да Радзімы (цытата), пра каханне (цытата) і г. д. Наіўна і занадта празаічна было б так пісаць пра творчасць выбітнага паэта, якім сёння з'яўляецца ў беларускай літаратуры Алесь Каско. Калі б я вызначаў яго месца ў берасцейскай паэзіі, то паставіў бы яго паміж А. Разанавым і Н. Мацяш: Алесь – мысляр, Ніна – лірык, а Каско спалучыў гэтыя два літаратурныя разгалінаванні, батанічна кажучы, прышчапіў іх. Безумоўна, што гэта няпроста яму давалася, і перш чым займець вынік, былі пошукі, страты, ломка паэтычных прыхільнасцяў. Гэта не асабліва праяўлялася знешне і не заўсёды візуальна выдавалася ў яго версіфікатарскай практыцы, але ўнутры вялася няспынная цяжкая праца выношвання адмысловага паэтычнага плёну. Як у вершы "Ніва", дзе і над пусткай неўтаймоўна лунае дух творчасці і перастварэння:

Дол спапялёны, і ў чэзлай траве
конік зялёны і той не жыве.
Неба пустое – без жаўрукоў,
жыта сухое – без васількоў.
................................................
Што сёння ёсць – дык надзея на рунь.
Мёртвае поле нанова ўзару,
з ліраю выйду, нібыта з сяўнёй:
ёсць яшчэ зерне не мёртвае ў ёй...

Вершы А. Каско нярэдка маюць пункцірную псіхалагічную аснову, тым самым як бы падмяняючы сабой прыхаваную сюжэтную лінію, накірунак якой і падводзіць чытача да той ці іншай маральнай высновы. У сэрцавіне кожнага яго верша ідзе няўвідная, але карпатлівая інтэлектуальная і мастакоўская праца. Зазвычай, абіраючы тэмы высокія (паднебныя), паэту даводзіцца пераадольваць зямное (нізкае) прыцягненне, на што яму не заўсёды стае сілы. З гэтай прычыны нярэдка з'яўляюцца кампрамісныя рашэнні, што даюць магчымасць знаходзіць пункты ўнутранага і знешняга замірэння і праявы мастацкай гармоніі...

На тым і трымаецца кніжка – паміж зямлёй і небам – на разрыве душы і сэрца (між прагай да жыцця і прадчувальным развітаннем з ім)... Натуральнасць стылю, балючасць чалавечага існавання ў гэтым свеце, калі паэт з усім сваім зямным-крэўным па-рубцоўску адчувае “самую кровную, самую смертную связь”... Мажліва адсюль і шчымлівыя прызнанні ў сваёй чалавечай і творчай недасканаласці:

Самота – на вяршыні дзён самота,
дагэтуль імітацыя была:
ты цемрай заварожваўся, а ўпотай
душа шчымела ў шчылінцы святла.
..............................................................
І так далёка ўсе, каму б ахвотна
на споведзі душа распавяла
пра гэтую – праўдзівую – самоту,
што калісь імітацыяй была.

Безумоўна, Алесь Каско паэт нацыянальны, з балючымі праявамі грамадзянскай адазнасці. Асабліва вобразна і ярка выявіў ён патрэбу чалавека, як непаўторнай асобы ў грамадстве, у вершы “Човен”. Таксама не наўпрост, хоць пры неабходнасці і выпукла-публіцыстычна, а найперш выразна метафарычна акрэслены ім прывід цяперашняга беларускага часу ў вершы “Асацыяцыя”:

Уздоўж вуліцы Леніна – плот,
дзе-нідзе над варотамі дрот,
ля падваротні – ваўчысты сабака,
на скрыжаванні – плячысты “ваяка”
ў партупеі, з дубінкай і рацыяй.
На вуліцы вусцішна, бы ў канцэнтрацыі, –
так апынаешся сёння міжволі
ў няволі
гэтакай асацыяцыі.

Але мяне-чытача смутак адольвае і пры больш шырокім поглядзе, туды – у пространь, за край нашага рэжымнага краю. І там таксама адчуваецца вострая паэтычная недастатковасць. Як ні дзіўна, і ў саміх вершах нашых усё менш паэзіі. А, галоўнае, усё менш паэзіі ў кожным канрэтным чалавеку... Гэта непакоіць і насцярожвае. Аднак вышняя сіла не дазваляе чалавеку пазбегнуць свайго кону:

Скрозь сумніў, у азарэнні,
спасцігаеш: неадольны
камень слова – важкасць долі,
сутнай у незамірэнні.
Верыш вераю адною:
толькі гэта слова скажа,
толькі гэты камень ляжа
над магілаю тваёю.

Ды, дзякаваць Богу, даастатку не перавёўся яшчэ паэтычны род. Вось і слынная постаць таленавітага берасцейца Алеся Каско пра гэта гаворыць. Перачытайце яго лепшыя вершы і нічога больш, апроч душэўнай чытацкай удзячнасці яму, вы не выкажаце... Як і за ўвесь яго трыццаціпяцігадовы творчы плён. Прынамсі я на тое спадзяюся і раю прыхільнікам паэта прыпыніцца на такіх выбітных вершах з яго новай кніжкі: ***“Сваю – даснаваў я да спадчыннай долі...”, ***“Травою быў – а нехта ў небе сінім...”, ***“За паўвеку ўжо далёка чалавеку...”, ***“Чым менш застаецца да роднага дому...”, ***“Зямной непаўторнасці мала...”, “Ніва”,

“Памкненне”, “Човен”, “Вандроўнік”, “Змяіны кароль”, ***“Звіняць і травы ўсе, і дрэвы – Спас...”, “На руінах”, “Дзве зары”, ***“Дзень так пакорліва сыходзіць...”, ***“Ступаецца асцярожна...”

На днях давялося сутыкнуцца з наступным. Час ад часу я тэлефануюся, мабыць з самай старэйшай (у наступным годзе ёй споўніцца 90 гадоў) нашай вядомай пісьменніцай Аленай Васілевіч. Перапыніўшыся ў напісанні гэтага артыкула, таксама набраў яе нумар, каб перавесці дух. Яна адразу ж спыталася, ці пішацца мне што сваё? Стаў іранічна апраўдвацца, маўляў, усё іншых фіміямам абкурваю... Каго? Ды во, пішу пра новы зборнік Алеся Каско, якому неўзабаве шэсцьдзясят стукне... “То чаго ж жаліцца, якраз у гэтым выпадку ў вас выдатная місія: Алесь вельмі таленавіты паэт, натурысты, вылучны з усяго Палесся... Люблю яго вершы. Калі маеце якую сувязь з ім, дык перадавайце маё вітанне і віншаванне”.

Перадаю. І гэтым падкрэсліваю, што ў Алеся Канстанцінавіча не толькі шырокае кола чытачоў, але і адметны шэраг знатакоў яго творчасці.

А напрыканцы працытую вось гэтую страфу паэта, якая адкрывае, на мой погляд, самую сакраментальную сутнасць яго творчай асобы:

Які сёння хціва свет,
якія ў ім ходзяць чуткі!..
Чысцюткія незабудкі
пакіне, між тым, паэт.

Радкі прысвечаныя Міколу Купрэеву – дзіваку з таго ж племені, што і Алесь Каско. Здароўя, Канстанцінавіч! Натхнення і ўдачы табе!

---

“Дзеяслоўцы” далучаюцца да гэтага віншавання
шаноўнага Алеся Канстанцінавіча Каско
і ад сябе зычаць яму плёну і доўгіх гадоў працы
на карысць роднай Беларусі!

Кацярына Безмацерных



…Беларуская культура – Атлантыда.
Яе трэба спасцігаць і спасцігаць,
мы толькі пачалі гэта рабіць…

# «І ў прафесіі, і ў жыцці ёсць такая рэч, як адданасць…»

***Гутарка з мастакамі Вольгай ГАРДЗІЁНАК-КІРЭЕВАЙ і Ігарам ГАРДЗІЁНКАМ***

***Не кожную жанчыну хочацца акрэсліць як "разумная!". А графіка і жывапісца Вольгу Гардзіёнак-Кірэеву – хочацца. Вольга ўпэўнена разважае і пра сістэму адукацыі, і пра літаратуру, і пра беларускую культуру ў цэлым. Муж Вольгі Ігар Гардзіёнак, таксама жывапісец і графік, аматар беларускай гісторыі, кажа пра жонку: "Акрамя агульных інтарэсаў, застаецца прадчуванне чагосьці нечаканага ад Вольгі. Адчуванне свежага паветра."***

**"Жылі гэтакім дзіцячым домам"**

*Сваё студэнцтва ў Беларускай акадэміі мастацтваў Вольга і Ігар узгадваюць з захапленнем.*

***Вольга:*** Я вучылася з 1988 па 1994. Ігар з 1989 па 1995. Сябравалі не групамі, а плынямі. З намі вучыўся графік Павел Татарнікаў, рэжысёр Дзяніс Скварцоў і іншыя.

***Ігар:*** Мастакі ад 35 да 45 гадоў – гэта нашае пакаленне.

***В.:*** У нас была такая цікавая кампанія. І ў мяне, і ў Ігара. Мы ўсе сябравалі! Не было такога, каб нехта выпадаў. Усе былі свае, усе ў адным рэчышчы. Было і такое, што ўсе з адной міскі сёрбалі. Жылі гэтакім дзіцячым домам.

***І.:*** Першае, што ўзгадваецца з маладосці, – часу хапала на ўсё! І на падарожжы, і на сустрэчы, і на госці, і на працу. Дзень быў невычэрпна доўгі. Вучоба ў Акадэміі была вельмі насычаная: дзве практыкі толькі за лета трэба было зрабіць, выставіцца. Але часу на ўсё хапала!

*– А як завязаўся ваш саюз?*

***І.:*** Нашыя майстэрні былі побач на адным графічным аддзяленні.

***В.:*** Ездзілі разам на практыку ў Гальшаны. Гэта нейкае кармічнае месца! Чаго мы толькі там не рабілі! Мы мусілі маляваць, але чаго толькі не рабілі! Не пабачыць адзін аднаго ў нас не было аніякіх шанцаў.

*І вось ужо дваццаць гадоў Вольга і Ігар разам. Гадуюць дачку Яніну і сына Севярына – Севярусіка.*

***В.:*** Мастацкія саюзы вельмі трывалыя. Так шмат агульнага пройдзена, што гэта трэба берагчы!

***І.:*** І ў прафесіі, і ў жыцці ёсць такая рэч, як адданасць. Калі чалавек адданы, то ён і будзе дасягаць нейкіх вышыняў. Вядома, можа, прасцей зараз было б стаць будаўніком, эканамістам ці яшчэ кімсьці. Тое самае і з сям'ёй. Можа быць, было б прасцей пайсці пашукаць шчасце дзе-небудзь яшчэ...

*А Вольга смяецца: "Думаеш, гэта было б прасцей?"*

## "Падтрымліваем любую культурную нацыянальную ініцыятыву"

*Ігар Гардзіёнак родам са шчодрай беларускай зямелькі – Віцебшчыны, Ушацкага раёна. Ды і яшчэ... былы сусед Рыгора Барадуліна*

***І.:*** Мама ўвесь час паказвала мне на адну цётку, называючы яе першым каханнем Барадуліна. Людзі вясковыя заўжды з павагай ставяцца да сваіх славутых землякоў, ганарацца. І тое, што мы землякі Барадуліна, заўжды ўзгадваюць. А таксама Быкаў недалёка, сястра ягоная цяпер жыве праз возера.

*З цікаўнасцю гутарылі мы пра беларускую літаратуру. І беларускае выяўленчае мастацтва ім даспадобы, патэнцыял у ім адчуваюць.*

***І.:*** У нашым пакаленні ёсць вельмі цікавыя людзі, і іхнія дасягненні міжнароднымі ўзнагародамі пацверджаныя. Наколькі сучаснымі, наколькі актуальнымі былі выставы таго ж Цвіркі і Кішчанкі! Ім абавязкова павінны быць выдзеленыя дзве залы ў Музеі. Той жа самы Цвірка... Была выстава, паглядзіце ў якім стане захоўваюцца яго працы! Яны проста чарнеюць, яны проста асыпаюцца, яны проста знікаюць... Яны настолькі сучасныя, настолькі нават авангардныя, можна сказаць! Наколькі смелыя, што зараз многія мастакі, якія сыходзяць з камерцыі, проста сціплыя ў параўнанні з тым, што рабілі гэтыя майстры. Абсалютна актуальныя мастакі!

***В.:*** Я лічу, што беларускае савецкае мастацтва ўвогуле вельмі цікавае. Трэба было больш месца яму аддаць у Нацыянальным мастацкім музеі. Увогуле, мы падтрымліваем любую культурную нацыянальную ініцыятыву з задавальненнем. Нават сабе ў страты гэта часта робім. Беларускія дзеці не ведаюць сваіх нацыянальных герояў! Працы для мастакоў тут, для культуры рабіць не перарабіць...

*– Вы сябры суполкі "Пленэрыя". Распавядзіце, што гэта за суполка такая?*

***І.:*** Гэта яшчэ адна спроба стварыць другі фронт культуры. "Пленэрыя" – дзей-



*Ігар і Вольга ГАРДЗІЁНКІ.*

насць па арганізацыі і правядзенні мастацкіх пленэраў. Час ад часу мы вяртаемся да гэтага праекта, але і адрываемся ад яго, бо дзеці нараджаюцца. Мы нязменныя ўдзельнікі, запрашаем сяброў, таварышаў. З блізкімі, а не чужымі людзьмі цікавей гэта рабіць. Мы арганізоўвалі шэраг пленэраў. Напрыклад, Будслаўскі. А яшчэ на Гродзеншчыне арганізавалі пленэр, прысвечаны Дарагастайскаму. Быў пленэр ў гонар Астрожскіх. Але мы самі сябе пазабаўлялі, дзяржаве гэта не было цікава...

*– Вольга, вы выкладаеце ў каледжы-гімназіі мастацтваў імя Ахрэмчыка, а вы, Ігар, у Акадэміі. Назавіце прозвішчы таленавітых!*

***І.:*** Давайце паставім тут шматкроп'е. Кагосьці мы назавем, кагосьці прапусцім. Гэта будзе проста несправядліва.

***В.:*** Да мастацтва ставішся з павагай у любых праявах і прозвішчах. Я так стаўлюся. Нават калі не твая сфера!

### Паштоўкі і беларуская кніжная графіка

*– Спадар Ігар, вы вядомыя сваімі паштоўкамі...*

***І.:*** Апошнім гэта былі такія прыватныя замовы для кампаніяў, фірмаў. У продаж яны не паступалі. Таксама рабіў для "Белпошты" да юбілею Андэрсана паштоўку

з партрэтнай выявай і сюжэтам з казкі. Каляндар для “Белросбанку” рабіў. Сёлета быў першы Новы год, калі не было замовы. Я сам сабе паштоўку рабіў!

*Гутарылі пра кніжную графіку. На XII Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы «КНІГІ БЕЛАРУСІ – 2005» па выніках конкурсу «Мастак і кніга» за ілюстрацыі да «Спрэчак анёлаў» Ірыны Жарнасек Ігар Гардзіёнак атрымаў вышэйшую адзнаку конкурсу. Нядаўнія праекты мастака – гэта ілюстрацыі да зборніка духоўнай паэзіі, што будзе выдавацца саборам Пятра і Паўла. А таксама ілюстрацыі да гістарычнай кнігі Алеся Краўцэвіча па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.*

***І.:*** Цяпер асвойваецца кампутар і рукамі ўжо менш малююць. Вось, напрыклад, уся школьная, навуковая літаратура. Раней рабілася мастакамі, а цяпер спрабуюць кампутарныя тэхналогіі прымяніць. Гэта танней, гэта хутчэй, адразу лічбавы фармат. Кліп-арты, калажы розныя... Напрыклад, нядаўна ў выдавецтве запыталіся: што мы робім? Я высылаю, а яны кажуць: “Нам такое не падыходзіць, вы паглядзіце, калі ласка, нашае выданне.” Я паглядзеў. Ад мастацкай кнігі там нічога не засталося! Проста набор карцінак з кампутара, па тэме набліжаных, каб недзе супадалі з тэкстам. Гэта нейкі віток часу зараз такі... Пачытаць таго ж Міларада Павіча. У розны час розныя галіны развіваюцца. Цяпер мы на тым вітку, калі гуманітарныя дысцыпліны адыйшлі на другі план. Зараз больш усё тэхналагічнае, інжынерная думка, камерцыя. Будзем чакаць лепшых часоў!

***В.:*** Практычна няма аўтарскай ілюстрацыі. Сёння была на кніжнай выставе. Што там ляжыць з беларускага? Дзіцячая ілюстраваная кніга – адна-дзве. Мала! Што такое адна-дзве для краіны, для дзяржавы? Апошняе, што прыцягнула ўвагу, гэта кніга “Чароўны свет”, ілюстраваная Славуком. Нашая малая нават у школу яе панесла.

***І.:*** У Літве юбілей Грунвальду – гэта цэлая праграма. Пачынаецца з таго, што чалавек заходзіць у краму набыць цукерку, а яна ідзе з фірмовым лагатыпам, прысвечаны гэтай падзеі – Грунвальдскай бітве. Не кажучы ўжо пра розныя культурныя з’явы, культурныя праекты, паштоўкі, плакаты...

### “Мастацкая адукацыя не замінае ніводнай прафесіі на гэтай зямлі”

*– Як ставіцеся да нашай акадэмічнай мастацкай адукацыі?*

***І.:*** Мастацкая адукацыя не замінае ніводнай прафесіі на гэтай зямлі!

***В.:*** Адзін наш сябар вучыўся на графіцы, а стаў рэжысёрам. Мастацкая адукацыя сапраўды не замінае. Я станоўча стаўлюся. Насамрэч нашая базавая акадэмічная вельмі неблагая. Яна сістэмная: пачынаеш спачатку, паступова ідзеш да больш складанага. Адзінае, што зараз ёй замінае, – бясконцае адміністраванне. А зерне нашай акадэмічнай адукацыі даволі моцнае. Я не толькі з мастакамі кантактую. Нядаўна прыехаў чалавек, які вучыўся ў Кембрыджы і абараніў там дысертацыю па біялогіі. Ён сказаў, што будзе вялікая бяда, калі нашая адукацыя стане такая, як заходняя. А мы да гэтага ідзем! На Захадзе грунтоўнай мастацкай адукацыі няма, толькі нейкія праекты, нейкія асобы. Умовы дыктуе рынак. Мы цяпер таксама ідзем у той бок. Будзе вельмі шкада, калі разбурыцца тое, што ёсць. Нейкія Балонскія канвенцыі, усё астатняе, на мой погляд, мала што даюць. Вось ёсць прыклад Латвіі: была школа латышскага жывапісу і гэта быў адзін з напрамкаў іх эканомікі. А зараз нічога не засталося. Усе мастакі на Захад з’ехалі, і прапала нацыянальная школа.

*Доўга, з захапленнем Вольга і Ігар распавядалі пра свае літаратурныя густы.*

***І.:*** Шмат чытаць бракуе часу. Але ў майстэрні працую, паралельна слухаю кнігі. З нядаўняга прачытанага вельмі спадабаўся Сяргей Пясецкі – “Каханак Вялікай Мядзведзіцы”. Твор пра кантрабандыстаў.

***В.:*** Ён вельмі эмацыйны. І не пра што як быццам бы: чалавек ходзіць у лесе туды сюды праз мяжу. Але настолькі захапляльна, хаця і трыста старонак.

***І.:*** Нашая малая разам з беларусамі, якія святкавалі юбілей Караткевіча, слухала аўдыёкнігу "Чорны замак Альшанскі". У нас увесь час "вайна": колькі ёй паставіць перад сном хвілінаў паслухаць?

***В.:*** Увогуле, мае стасункі з літаратурай цяпер такія, што часцей пампую кнігу з Інтэрнэта, бо не ўгонішся ўсё набываць.

*– А якія літаратурныя ўражанні здараліся з вамі на працягу ўсяго жыцця?*

***В.:*** Я, калі малая была, нічога не чытала. Ужо крыж на мне паставілі. Пачала чытаць толькі ў чатырнаццаць гадоў. Андрэй Платонаў – першая кніжка. Дзіця, якое не чытала, раптам села і прысохла да кніжкі Платонава! Першыя беларускія кнігі – "Чорны замак Альшанскі" і "Каласы пад сярпом тваім". У мяне пасля гэтых твораў проста крылы выраслі. Прарыў у свядомасці! Набокаў, Бунін падабаюцца. Не люблю Каэльё, але "Алхімік" спадабаўся, асабліва аўдыёкніга, прачытаная Міронавым. Добрыя Рубіна, Уліцкая, але не ўсё. У іх вельмі свой менталітэт. "Бяскрылая птушка" Бернэ вельмі спадабалася. Не горш за "Вайну і мір". Хаця і ландшафтным дызайнам Бернэ займаўся, але напісаў такую добрую кнігу. Адзін чалавек "Ночны дазор" параіў пачытаць, але не змагла!

***І.:*** Адкрыццём быў раман "Майстар і Маргарыта" Булгакава, потым "Шляхціц Завальня" Баршчэўскага, "Новая зямля" Коласа, паэзія Арсенневай, Гілевіча. Таксама люблю Набокава: адчуваеш колер, пахі, пыл. Падабаецца Павіч – гэта проста кіно, анімацыя для мяне. Усе бледныя побач з Павічам.

***В.:*** Не, проста ў Павіча складаная вобразная мова пасля якой астатнія аўтары не вельмі ўспрымаюцца.

### "Гісторыя – гэта і дэтэктыў, і рамантыка"

*– Яшчэ два вашыя моцныя інтарэсы – гэта рэлігія і гісторыя...*

***І.:*** Рэлігія і мастацтва заўсёды ішлі разам. А што можа быць цікавейшым за гісторыю? Гісторыя – гэта і дэтэктыў, і рамантыка.

***В.:*** Гісторыя – гэта неаранае поле. Асабліва ў Беларусі. Можна капаць і капаць. Для многіх людзей гэта ўвогуле нешта касмічнае.

***І.:*** Гістарычная самаадукацыя ў нас увесь час адбываецца. Я і Вольга любім гістарычныя фільмы, гістарычнае дакументальнае кіно. Сярод апошніх прыдбаных намі аўдыёкніг – "Пытанні па гісторыі" Ермаловіча.

*– А што такое Бог?*

***І:*** Бог ёсць любоў.

***В.:*** І я тое самае скажу!

*– Як прыхільнікі беларускай культуры і мастакі, скажыце, чым беларуская культура адрозніваецца ад усіх іншых?*

***В.:*** Неспасцігальнасцю! Яна багатая, вобразная, цесна звязаная з еўрапейскай культурай. Яе трэба спасцігаць і спасцігаць, мы толькі пачалі гэта рабіць. Беларуская культура – Атлантыда. Мы ёй вельмі абавязаныя. Яна ўся раскіданая. Было б жаданне толькі збіраць. Беларусы сярод еўрапейскіх народаў самыя занядбаныя і несвядомыя. Чэхі з нуля вярнулі сваю культуру...

***І.:*** ...Для нас беларуская культура – гэта не толькі культура вёскі і даматканыя посцілкі. Гэта і радзівілаўскія партрэты, і архітэктура барока. Скласці нейкі адзіны вобраз немагчыма.

*Напрыканцы гутаркі прыходзіць дачка-школьніца з сяброўкай – тут, у майстэрні, яны займаюцца маляваннем.*

*Ігар на развітанне дарue каляндар з рэпрадукцыямі "Марыя – святыня Духа Святога": дзеці і прафесійныя мастакі, сярод якіх ёсць і герой інтэрв'ю, а таксама Лада Шчасная, Тацяна Сіплевіч, Павел Кандрусевіч, адлюстравалі будслаўскія краявіды й святыні, якія я буду з удзячнасцю разглядаць увесь наступны год...*

Алеся Лапіцкая



…нельга знішчаць
праявы вольнай думкі
і мастацкага самавыяўлення…

# Напярэдадні "БУБ-новай" літаратуры

***Шчур Макс. "Ліст, знойдзены на папялішчы": апавяданні. – Познань: Белы крумкач, 2011. – 203 с.***

Макс Шчур – беларускі паэт, празаік і перакладчык, які жыве ў Чэхіі, дзе ў 2004 годзе атрымаў прэмію Юркі Юхнаўца за раман "Там, дзе нас няма", дагэтуль не выдадзены ў Беларусі. Кніга прозы Макса Шчура – "Ліст, знойдзены на папялішчы" – пабачыла свет сёлета ў выдавецтве "Белы крумкач".

Варта адразу адзначыць, што зборнік твораў атрымаўся цікавым – на працягу стагоддзяў і нават нягледзячы на дэклараваны надыход постмадэрнізму менавіта гэтая ўласцівасць вызначае поспех кнігі ў чытача. Цікавасць выдання тлумачыцца тэматычнай і жанравай разнастайнасцю твораў, а таксама ўсведамленнем аўтара "залежнасці сучаснага чытача ад сюжэтнага "глютамату натрыя" – і здольнасцю пабудаваць складаныя захапляльныя сюжэты, якімі вызначаюцца творы з раздзела "Жанравыя практыкаванні". Таленавіты пісьменнік заўсёды здольны раскрыць героя праз паводзіны, дыялагічнае маўленне і імгненныя рэакцыі не менш рознабакова і глыбока, чым праз працяглы ўнутраны маналог.




Кніга атрымалася цікавай яшчэ і таму, што аўтар штурхае чытача то ў самую экзатычную, то ў самую будзённую рэчаіснасць – будка на чыгуначнай станцыі, асяроддзе беларускіх эмігрантаў у спякотнай Аргенціне, таямнічая Прага, спякотная чыгуначная станцыя, зноў беларускія эмігранты, ужо сістэматызаваныя ў энцыклапедычны даведнік... Да таго ж, пісьменнік любіць гуляць з рознымі ўзроўнямі мастацкай рэальнасці: віртуальнае альбо нібыта цалкам уяўнае, сканструяванае аўтарам, раптам робіцца значна больш сапраўдным, чым уяўлялася чытачу, а пасляслоўе стварае арыгінальны кантэкст, у якім зыходны тэкст набывае нечаканы сэнс. Прачынаецца геймер, які ў доўгім сне трапіў у свет улюбёнай страялкі – і бачыць, што над ложкам стаіць "апрануты ў чорнае ніндзя", ніндзя-забойца, якога так моцна чакаў герой, нудзячыся аднастайнасцю гульні ("Экспедыцыя ў Шынан"); расповед пра ўдзел Надзі ў порнакастынгу робіцца фельетонам, на які адгукаецца "дырэктар камерцыйнай тэлевізіі" з вельмі нават постмадэрновай крытыкай аўтара ("Твар").

"Ліст, знойдзены на папялішчы" – адзін з найбольш удалых твораў, дзе адмыслова скрыжоўваецца некалькі рэальнасцяў. Трымаючы ў руках зборнік апавяданняў, чытач часта не ведае, адкуль пачынаць чытаць: з пачатку, з канца, з раздзела пад самай арыгінальнай назвай... Адзін з магчымых варыянтаў – звярнуцца найперш да таго тэксту, які даў назву зборніку, – і ў выпадку з Максам Шчуром гэта будзе, бадай, найбольш слушна. "Ліст..." распачынаецца зваротам да Прэзідэнта ЗША і датуецца 15 лістапада 2010 г. Адмысловец, які "вывучаў амерыканістыку ў Пражскім універсітэце" піша "з мэтай прадухіліць катастрофу" – і распавядае пра татуіроўку-іерогліф, якая мае вельмі пагрозлівы сэнс: знішчэнне белай расы 12 снежня 2011 года. Пошукі ўладальніка татуіроўкі скончыліся ва ўлюбёнай лацінасамі карчме, дзе герой абмяркоўвае асаблівасці індзейскай культуры з агентам кубінскай спецслужбы, які некалькі гадзінаў таму памёр.

Галоўны герой – "завучаны інтэлектуал з затоенай прагай прыгодаў" і "проста шыбздзік" з пункту гледжання нармалёвых людзей, адразу робіцца вельмі сімпатычным – магчыма, праз сваю непасрэднасць, магчыма, праз схільнасць да самаіроніі. "І ўсё гэта пад поліўкай майго тыповага гумару й здольнасці да інтраспекцыі, з дэталёвымі апісаннямі штодзённага жыцця, якія мне найбольш падабаюцца," – тут нам застаецца адно цытаваць Аўтара (не блытаць з Максам Шчуром), які перапыняе друкаванне свайго будучага бестсэлера, аўтаматычна ўключае тэлевізар і пасля навінаў чуе анонс пра "найноўшы галівудскі блакбастэр", у якім будзе і майскі каляндар, і канец свету ў 2012 годзе...

Асацыяцыі між назвай і зместам – чый у рэшце рэшт ліст і на якім папялішчы яго знаходзяць – могуць быць самымі рознымі. Магчыма, ліст Аўтара з пачаткам задуманага ім твора дзіўны чынам захаваўся на папялішчы "белай" цывілізацыі, між руінаў псіхіятрычнай лякарні (Аўтар, даведаўшыся пра зняты блакбастэр, пачынае "пісаць абураную скаргу ў Галівуд", што ёсць таксама сімптом). Магчыма, пачатак Аўтаравага бестсэлеру, дый наогул кожны сучасны літаратурны твор – гэта ўсяго толькі невядома каму адрасаваны ліст на папялішчы культуры, бо як інакш назваць час, у якім Аўтар прысвячае тры месяцы даследаванню пэўнай тэмы, а пасля нечакана бачыць сваю ідэю цалкам рэалізаванай іншым крыэйтарам, які гэтаксама вырашыў скарыстаць "фактар масавага псіхозу" дзеля набыцця каліфарнійскай вілы?..

Іншы твор, які таксама пакідае яркія ўражанні, мае сімпатычнага галоўнага героя і крута "абломвае" чытача – "Звяз патрыётаў" з раздзела "Жанравыя прак-

тыкаванні”. Буэнас-Айрэс, баксёрскі рынг, буркатлівы чалавек над друкарскім варштатам, шыкоўны банкет на сядзібе ў бацькі аргенцінскай эміграцыі, беларускі эмігрант Паскевіч, крыху нехлямяжны і сарамлівы, тактоўны, не надта ўпэўнены ў сабе – і раптам стрэл падчас полькі, забойства “правадыра”, усё рассыпаецца і захапляльная прыгодніцкая аповесць альбо цікавы палітычны раман ператвараецца ў дэтэктыў. Добры, мілы Паскевіч, які – колькі разоў ні чытай – не дае падставаў сябе ў нечым падазраваць, робіцца забойцам, што даўно і дэталёва прадумваў сваю помсту, а друкар-паэт пачынае суха і падрабязна тлумачыць, як дзейнічаў злачынца, і праз некалькі рэплік выводзіць Паскевіча на чыстую ваду. Высвятляецца, што “правадыр аргенцінскіх беларусаў” быў “кіраўніком гітлераўскай паліцыі ў Маладэчанскай акрузе” і асабіста кіраваў выкананнем загаду па спальванні жыхароў адной з вёсак. Сярод вяскоўцаў былі жонка і дачка эмігранта – і менавіта жаданнем помсты жыў Паскевіч з часу іх смерці.

Пасля ўсёй аргенцінскай экзотыкі крыху ніякавата ўспрымаюцца дакладныя і лаканічныя звесткі пра спальванне людзей і зусім ужо “не глядзіцца” фотаздымак жанчыны з дзяўчынкай, на якім “абедзве чамусьці ў валёнках”. У дадатак да гэтага Паскевіч-забойца ўжо нічым не нагадвае ранейшага Паскевіча – ён абыякава ўдакладняе дэталі свайго ўчынка, бо гэта проста чалавек, якому няма куды вяртацца і якому ўсё роўна, што будзе далей. Пісьменнік цалкам пазбаўляе свайго персанажа нейкіх характэралагічных рысаў – пры тым, што героі, для якіх “усё ўжо скончана” часам бываюць вельмі своеасаблівымі, Паскевіч робіцца сапраўдным “пустым месцам”. Між тым, заключны маналог, які абгрунтоўвае назву твора, належыць дэтэктыву-друкару. “Вайна ўсё перакруціла, усё знішчыла... Той, хто не бачыў яе на ўласныя вочы, ужо назаўсёды страціў повязь з радзімай. А можа, праўда яшчэ больш жорсткая, і ніякай радзімы болей няма... Які ўжо тут “звяз патрыётаў”...”

Камусьці нечаканая развязка спадабаецца, хтосьці пашкадуе, што пісьменнік перапыніў прыемнае і захапляльнае чытво. Макс Шчур яшчэ ў прадмове папярэджвае пра тое, што ў адрозненне ад аўтараў, якія дагэтуль імкнуцца “задаволіць у пэўнай меры негалоснае “патрабаваньне мастацкасці”, асабіста ён трапна заўважыў за “смерцю вялікіх наратываў” яшчэ і “клінічную смерць “вялікіх дэскрыптываў”. Такім чынам, Макс Шчур не імкнецца да асаблівых стылёвых вынаходстваў, таму тыя чытачы ці, яшчэ горш, крытыкі, якія аўтаматычна выпісваюць з тэкстаў удалыя метафары, могуць адкласці асадкі ўбок. Разам з тым, пісьменнік часта ўжывае слоўцы з моладзевага слэнгу (можна нават сказаць, выконвае высакародную справу яго рэканструкцыі і выдумлення), а дыялогі ў ягоных творах вельмі жывыя і натуральныя. Апавяданні Макса Шчура чытаюцца лёгка і хутка, пры гэтым пісьменнік, бясспрэчна, мае ўласную творчую манеру.

Праўда, калі ўзгадаць яшчэ і аматараў фіксаваць трапныя думкі з прачытаных тэкстаў, то колькасць вольных старонак у іх нататніках таксама наўрад ці паменшыцца. Можна, вядома, зацытаваць некалькі рэплік розных персанажаў (“Я сярод індзейцаў жыў – дабрэйшых людзей у сьвеце не сустракаў. Толькі што і іх цяпер таксама спойваюць, як і нашых сялян-беларусаў”), альбо перапісаць пару іранічных выказванняў эмігранта Канстанціна Касцяка (“Вяртанне на радзіму было б самагубствам. Але і ад’езд з радзімы таксама быў самагубствам. Пры ўсім жаданні, самагубства нельга ўчыніць двойчы”), альбо прывесці некалькі ўрыўкаў з “плыні свядомасці” (“Немагчымасць быць такім, як хочуць астатнія, але й немагчымасць быць такім, як хочаш ты сам... Любы выбар ў такой сітуацыі – няшчырасць, хлусня, параза, самападман. <...> Самае страшнае – гэта апынуцца ў становішчы, калі адмяніць уласнае рашэнне больш немагчыма, калі адчуваеш, што жыццё выдалася наперад у нейкім адным, магчыма, памылкова абраным кірунку...”) – але пісьменнік безумоўна не схільны бясконца здзіўляць

чытача ўласнымі досціпамі і сентэнцыямі. Зрэшты, навошта патрэбнае рознае мудрагельства, калі аўтару хапае зместу твора для выяўлення сваіх ідэй?

Прыкладам, апавяданне "Паэтка" – самае ўдалае ў раздзеле "Пра жаночае" – абавязкова спадабаецца тым, хто падобна да герояў Макса Шчура, заўсёды чытае надпісы ў дарозе і тым больш звяртае ўвагу на часам вельмі арыгінальныя творы сучаснага фальклору, якія могуць быць накрамзоленыя на любой прыдатнай паверхні. Пісьменнік шчодра цытуе творы "народнай паэткі" са сваёй вёскі, часам "наіўна-манументальныя", але пераважна прысвечаныя інтымнай тэме. Распавядаючы пра аўтарку, якая "выкладаецца на муры, нястомна шукаючы рыфмы й словы, каб даць выхад празмернай энергіі свайго яшчэ здаровага й неспрактыкаванага цела", пісьменнік, па-першае, засведчвае ўласцівую постмадэрнізму павагу да тэксту, якая вызначаецца не толькі яго мастацкімі вартасцямі, і, па-другое, канстатуе, што ў свеце, дзе большасць людзей "у жыцці не толькі не напісалі, а магчыма й не прачыталі ніводнага верша", нават разняволеныя натуралістычныя радкі з простай рыфмоўкай робяцца "адчайным маніфестам грамадзянскага непадпарадкавання бязмежнай вакольнай тупасці". Мясцовая паэтка мае адметны стыль, але ейныя творы шануюцца аднавяскоўцамі не больш за творы элітарных пісьменнікаў, а таму ў рэшце рэшт замазванне ейных вершаў ёсць вандалізмам, бо нельга знішчаць праявы вольнай думкі і мастацкага самавыяўлення.

Тэме творчасці прысвечаныя і "Сямнаццаць імгненняў музы, альбо Бататуйская літаратура XX стагоддзя ў эміграцыі ад "А" да "Я". Энцыклапедычныя артыкулы, якія распавядаюць пра жыццё і творчасць бататуйскіх літаратараў, могуць мець самую розную інтэрпрэтацыю (вызначальным тут будзе ўзровень літаратурнай падрыхтаванасці чытача) і падштурхнуць да даволі крытычных высноваў пра родную класіку. Пісьменнік нібыта вылучыў усе самыя абсурдныя, парадаксальныя, супярэчлівыя і няпэўныя моманты ў гісторыі беларускай літаратуры, якія хутка забываюцца і такі патрабуюць падагульнення – зрэшты, гэта ўсяго толькі асабістая здагадка, бо задума пісьменніка была, магчыма, значна больш шырокай.

Падчас чытання твораў Макса Шчура, аднак, не атрымліваецца прасякнуцца нейкім абсалютна новым сэнсам: у прадмове да зборніка аўтар паўстае апалагетам постмадэрнізму, і ў сваёй творчасці практычна не выходзіць за кола постмадэрновых ідэй. Між тым, даўно ўжо лічыцца, што значнае месца ў літаратуры – нацыянальнай і, тым больш, сусветнай – займаюць не паслядоўныя прадстаўнікі пэўнага напрамку, а стваральнікі, заснавальнікі новых эстэтычных сістэмаў, альбо адмысловыя творцы, якія імкнуцца да максімальнага выяўлення ўласнага светаўспрымання і мала зважаюць на розныя стылёвыя патрабаванні. Макс Шчур дэманструе шматлікія пісьменніцкія здольнасці, але перапыненыя практычна напачатку "Звяз патрыётаў" і "Ліст...", з якіх маглі б атрымацца арыгінальныя раманы, фактычна сведчаць пра тое, што аўтару нецікава доўга нанізваць на нітку сюжэта падзеі і пры гэтым уважліва ўглядацца ў аблічча героя. А менавіта зацікаўленасці і натхнення, нейкага моцнага ўнутранага імпульсу не хапіла Бібу, Сірогу і Шчуру-персанажу, каб у рэшце рэшт напісаць свае "найвялікшыя шэдэўры".

Варта спадзявацца, што лёс Шчура-аўтара будзе значна адрозным ад лёсу ягонага героя.



Дзяніс Марціновіч



...росквіт патэнцыялу аўтара
дасягае свайго піку ў сталыя гады,
калі да творцаў нарэшце прыходзіць прызнанне...

# Што мы бачым праз акуляры?

***Виктор Леденев. Очки: пьесы, рассказы, стихи. – Минск, Ковчег, 2010. – 316 с.***

Не будзе памылкай сцвярджаць, што кніга “Очки” стала для Віктара Ледзянёва своеасаблівым падвядзеннем творчых вынікаў: сёлета яе аўтару споўнілася 70 гадоў. Яго біяграфія ўражвае багаццем убачаных краінаў і засвоеных прафесій і, несумненна, з’яўляецца крыніцай творчага натхнення аўтара. Выпускнік факультэта журналістыкі БДУ, ён з’яўляўся супрацоўнікам сваёй “Alma mater”, удзельнічаў у баявых дзеяннях у Паўднёва-Усходняй Азіі, працаваў журналістам, сцэнарыстам, мастацкім кіраўніком рэкламнай кампаніі, загадчыкам літаратурна-драматычнай часткі Рускага драматычнага тэатра ў Мінску...

Друкавацца як празаік В. Ледзянёў пачаў у 1970 годзе (першая публікацыя на старонках газеты “Знамя юности”). Напісаў больш за 30 сцэнарыяў дакументальных і навукова-папулярных фільмаў. У 1990-я гады ў яго выйшла некалькі кніг крымінальнай прозы (“Адская машина”, “Вьетнамский коктейль” і “Неделя на ликвидацию”).

Новая кніга Віктара Ледзянёва атрымалася надзвычай




шырокай па сваім жанравым дыяпазоне: у яе ўключаныя дзве п'есы, ваенныя і сучасныя апавяданні, дэтэктывы, фантастыка і вершы. Кожны з іх па-свойму дэманструе арыгінальнасць і адметнасць мыслення аўтара. Але, на маю думку, аб'яднанне гэтых розных жанраў у адным выданні выглядае дастаткова спрэчным. Для таго, каб патлумачыць сваю пазіцыю, дазволю сабе ў разважаннях крыху адысці ў бок.

Занятак творчасцю ў нечым падобны да вывучэння замежнай мовы. Калі звярнуць увагу на рэакцыю асяроддзя, пісьменніку, музыканту ці акцёру, як і інтэлектуалу-паліглоту, гарантавана рэпутацыя эрудыта і адначасова дзівака. Але падабенства праяўляецца і ва ўнутраных асаблівасцях. У абодвух выпадках часовы адыход ад роднай мовы (ці ад рэальнай прасторы) патрабуе адпаведнага мыслення. То бок чалавек абавязаны думаць па-англійску ці жыць катэгорыямі паэзіі, для таго, каб мець поспех у абодвух сферах. Агульнапрызнана: замежную мову прасцей за ўсё вывучыць у маладосці. Свежае мысленне і не загружаная празмерна памяць дае магчымасць хутчэй увайсці ў іншую сістэму. Гэткая асаблівасць датычыцца і ведання адначасова некалькіх моваў. Але чым далей ідуць гады, тым складаней чалавеку вывучыць той жа English ці Deutsch. Нешматлікія выключэнні толькі пацвярджаюць правілы.

Бадай, тая ж тэндэнцыя ўласцівая і мастацкай літаратуры. Мысленне, якога патрабуе пэўны жанр (паэзія, проза, драматургія, крытыка), выкрышталізоўваецца ў маладосці. Росквіт патэнцыялу аўтара дасягае свайго піку ў сталыя гады, калі да творцаў нарэшце прыходзіць прызнанне. Таму менавіта сярод маладых досыць пашырана творчая праца ў некалькіх сумежных сферах. З цягам часу яны або выбіраюць адну галіну, або з поспехам развіваюць "наступленне па ўсіх франтах" (напрыклад, У. Караткевіч пісаў прозу, паэзію, п'есы, сцэнарыі для фільмаў). А вось спробы прадстаўнікоў сталага пакалення засвойваць новыя жанры далёка не заўсёды прыносяць ім поспех, бо іх аўтары працягваюць пісаць у кагэгорыях і вобразах ужо засвоенага мыслення. Прыведзеныя разважанні непасрэдна датычацца творчасці Віктара Ледзянёва.

Нагадаю, усе тры кнігі, раней напісаныя аўтарам, з'яўляюцца дэтэктывамі. Якія ж асаблівасці ўласцівыя гэтаму жанру? Злачынства як завязка падзей, іх імклівае разгортванне, "закручаны" сюжэт. Але адначасова стэрэатыпнасць паводзінаў персанажаў і пэўная схематычнасць герояў. Пасля прачытання кнігі "Очки" не пакідае ўражанне, што асаблівасці пабудовы дэтэктыву як жанру перанесены ў пераважную большасць тэкстаў. Уласную думку праілюструю на прыкладзе двух п'ес – "Очки" і "Лицензия на убийство", якія займаюць ладную частку выдання.

Пры знаёмстве з імі неабходна ўлічваць, што В. Ледзянёў – не апошні чалавек у беларускім тэатральным свеце. Так, на сцэне Нацыянальнага драматычнага тэатра імя М. Горкага доўгі час ішла п'еса "Дземетрыус, Або крывавае вяселле ў Маскве", прысвечаная асобе Лжэдзмітрыя І. У свой час за распрацоўку тэмы ўзяўся знакаміты Ф. Шылер, але паспеў напісаць толькі 1-ю дзею. Фактычна, В.Ледзянёў ажыццявіў паспяховую інтэрэпрэтацыю ідэі нямецкага драматурга, што прынесла спектаклю прэмію Шылераўскага фестывалю ў Германіі (1999).

На мяжы стагоддзяў В. Ледзянёў ажыццявіў таксама новы пераклад і інсцэніроўку п'есы "Перад заходам сонца", напісаную нобелеўскім лаўрэатам па літаратуры Г. Гауптманам (прэм'ера адбылася ў Нацыянальным драматычным тэатры імя М. Горкага ў 2002-м). Пастаноўка, якая і цяпер ідзе на сцэне, уражвае высокім узроўнем ігры акцёраў і асабліва Р. Янкоўскага, выканаўцы галоўнай ролі. Трагедыя яго героя 70-гадовага Маціаса Клаўзэна, які пакахаў 20-гадовую дзяўчыну і сустрэў агрэсіўную рэакцыю грамадства і сваёй сям'і, у нечым нагадвала лёс

караля Ліра і набывала маштабы сусветнай трагедыі. Але ўжо ў тым спектаклі хаваліся падводныя камяні. Некаторыя сцэны, якія абсалютна не вызначалі ход дзеяння, можна было скараціць, бо сам спектакль пры ўсіх станоўчых якасцях успрымаўся крыху зацягнутым.

Чаму ж прысвечаны названыя творы аўтара? П'еса "Очки" распавядае пра спробу прадаць з аўкцыёна акуляры Джона Ленана, памяці якога і прысвечаны твор. Сюжэт "Лицензии на убийство" куды больш захапляльны, а яго аснова больш глыбокая. Дзеянне п'есы адбываецца ў будучым, у 2232 годзе. На Зямлі ўведзена пакаранне за яшчэ толькі спланаванае забойства. Чалавека, які прызнаецца ў такім жаданні, могуць адправіць на катаргу на далёкую планету. А ў выпадку, калі там выжыве, ён атрымлівае магчымасць забіць любога чалавека без пакарання. Праз такую сітуацыю праходзіць галоўны герой твору, Віктар Кендал. Пасля вяртання на Зямлю высвятляецца, што пераважная большасць яго родных, сяброў і знаёмых учынялі да яго подласці, і таму хтосьці з іх можа стаць патэнцыйным аб'ектам пакарання.

Зразумела, адна справа – прачытаць п'есу ў зборніку, і зусім іншая – бачыць з глядзельнай залы. Але па прачытанні відавочна, што п'есы чытэльныя, але наўрад ці сцэнічныя. Яны хутчэй нагадваюць спробу аўтара перанесці ў драматургію асаблівасці дэтэктыўнага жанру. Дзеянне ў іх разгортваецца імклівa, героі размаўляюць натуральна. Але праблема ў тым, што амаль усе дзейныя асобы ў абедзвюх п'есах абмаляваны досыць схематычна. Складваецца ўражанне, што яны надзеленыя толькі некалькімі рысамі характару (тупы і жорсткі турэмны наглядчык Андэрсэн, зайздросны і палахлівы Эрык Макрыцкі – у "Лицензии..."). Акрамя таго шэраг сцэн (у прыватнасці, з'яўленне асоб з КДБ і ФБР у "Очках", змагара за народнае шчасце Адольфа і прапаведніка Глосэра ў "Лицензии...") уведзены хутчэй для знешняга эфекту. Пры іх скарачэнні логіка развіцця п'есы не зменіцца, што сведчыць пра некаторую штучнасць іх з'яўлення.

Больш цікавымі падаліся празаічныя творы (сучаснай, ваеннай, фантастычнай тэматыкі). Найбольшай удачай, на маю думку, сталі апавяданні "Вечер в «Паласе»" і "Нет, и все". Першае, прысвечанае падзеям, якія адбыліся аднойчы з саксафаністам Чарлі, перадае амерыканскую атмасферу яркімі, натуральнымі мазкамі. Другое малюе ўтопію, у якой жыхары аднаго рэгіёну адмаўляюцца ад грошай і будуюць свае адносіны на сумленні і даверы.

У пераважнай большасці апавяданняў пра вайну дзейнічаюць прадстаўнікі спецслужбаў (НКУС і СМЕРШ), якія ламаюць лёсы герояў. У лепшым з твораў ("Грязная высота") адчуваюцца быкаўскія матывы. Герой твору, капітан Кузняцоў, вымушаны рабіць выбар, коштам якога ў любым выпадку з'яўляецца жыццё: ці сваё, пры страце якога ён захоўвае гонар, ці чужое. Сітуацыі ва ўсіх апавяданнях намаляваныя натуральна, што прымушае суперажываць дзейным асобам.

Але найбольш удалым раздзелам, у якім асаблівасці дэтэктыўнага жанру працуюць найбольш выразна, падаўся якраз адпаведны раздзел, прадстаўлены пяццю творамі ("Последний полет", "Кораблекрушение", "Убийство по расписанию", "Улыбка" і "Мизансцена").

Каб падагуліць уражанні, вярнуся да сваёй ранейшай думкі. У чым жа бачыцца спрэчнасць аўтарскага падыходу? Магчыма, для кагосьці выкарыстанне ў разнастайных жанрах асаблівасцяў аднаго з іх выглядае прыкметай аўтарскага стылю. Але, як мне здаецца, дэтэктыў – усё ж не той накірунак, варты такога пашырэння і ўвагі, які мы назіраем у кнізе "Очки". Не сумняваюся, што прыхільнікі дэтэктыву атрымаюць сапраўднае задавальненне ад знаёмства з творамі В. Ледзянёва. Але тыя, хто прызвычаіліся да большай сэнсавай глыбіні і разнабаковасці герояў, на жаль, застануцца крыху расчараванымі.

# Буслан і Жабміла

...Час ніколі не бывае ні сур'ёзным, ні смешным, ні добрым, ні дрэнным. Ён можа быць жорсткім або мяккім у дачыненні да чалавека – і тады чалавек маштабіруе дыяпазон пачуццяў, каб звесці ўспрыняцце свету да так званага нармальнага. І пры гэтым застаецца незадаволенасць жыццём, якая ў творчай іпастасі выяўляецца ідэалістычнымі меркамі да падзеяў, а ў абывацельскай – імкненнем да падвышэння бытавога ўзроўню. Такія мы – напалову мясцовыя, напалову прыхадні невядомага паходжання. І дзякуючы гэтаму чалавечая цывілізацыя супярэчлівая і стракатая. Такой ёй наканавана быць...

А цяпер плаўненька гэтак пераходжу... да твора, які досыць унікальны для беларускай літаратуры. Першая яго прыкмета – калектыўнасць. Такія творы ёсць, ды іх няшмат. Другая – інтэрактыўнасць. І гэтым літаратура не абцяжараная. Напісанае дасылалася электроннай поштай, з дапамогай яе ж перакідваліся магчымыя варункі сюжэта, персанажы і г. д. Раздрукоўка была адна-адзіная – каб перадаць на прафесійную вычытку, бо да любой работы трэба ставіцца з адказнасцю.

На працягу года (з кастрычніка 2010 па кастрычнік 2011) я песціў так званы СМС-праект: рассылаў вершы-карацелькі знаёмым творцам. Пачалі паступаць адказы, узнікаць дыялогі. Закідваў радкі, якія трэба было на свой густ і разуменне дапісаць, давесці да нармальнага чатырохрадкоўя. Часам атрымліваў СМС-кі, на якія патрабаваўся адказ ад мяне. Зразумела, праект гэты ўнутраны, хоць і не закрыты, а таму належыць да так званай кулуарнай, экспромтнай літаратуры.

А таму частка "Перадпаэмнае" і ўтрымлівае фрагмент з СМС-перапіскі, які прывёў да стварэння калектыўнай паэмы-рэмейка "Буслан і Жабміла".

Усе аўтары-стваральнікі – удзельнікі суполкі "Літаратурнае Прадмесце", якая пад кіраўніцтвам Людмілы Рублеўскай і патранажам Віктара

Шніпа ўжо стала гістарычнай з’явай для нацыянальнай літаратуры. Хоць пакуль належным чынам і неацэненай – што звыкла...

Зразумела, прапанова ўдзельнічаць у СМС-праекце паступіла большай колькасці творцаў, чым рэальныя яго ўдзельнікі. Аднак людзі ёсць людзі – часцей вялікім і важкім здаецца тое, што перад вачыма і пра што праз год не ўспомніш. Таму пэўная інертнасць (у перыяды агульнай няпэўнасці – даравальная) назіралася. Ды і не кожны здольны злезці з уласнага прыручанага зацуглянага Пегаса хаця б на нейкі час. Некаму, пэўна, здавалася, што калі з раніцы зрабіць прабежку, то не застанецца моцы соўгацца по “больш сур’ёзных” справах. А часам і асабістыя жыццёвыя накладкі заміналі.

Так ці інакш, хацелася б асобна падзякаваць юнай ліцэістцы Аліне Агрэніч, дзякуючы творчаму імпэту якой, я змог выкарыстаць свой літаратурны досвед і жыццёвы сарказм. І папрасіць прабачэння за тое, што безапеляцыйна і бесцырымонна правіў-выкідваў-замяняў дасланае. Зрэшты, пра гэта адразу папярэдзіў: адзінаначалле ў калектыўнай творчасці дазваляе аб’яднаць і ўніфікаваць твор, а да таго ж – сканцэнтраваць адказнасць.

Аўтарства ў паэме пазначана ініцыяламі, каб менш перашкаджала чытанню. Таму расшыфроўку даю тут:

І. К. – Іра Карэліна, Ю. Н. – Юрась Нераток, М. К. – Мікола Кандратаў,
А. А. – Аліна Агрэніч, А. Е. – Алесь Емяльянаў, Н. К. – Наталка Кучмель.

**Юрась Нераток.**

## Перадпаэмнае

*(СМС-праект)*

*Ад І. К.:*
Прапаную зрабіць вясковы цыкл
Беларускі адказ Лукамор’ю:
“У Глыбачанах ёсць бяроза,
Гліняны кубачак і стол.
І днём, і ноччу дзед цвярозы
Лунае побач і вакол”.

*Адказ І. К.:*
Дык зробім!
Толькі па парадку:
Пакуль тупы – раблю зарадку.
Для цыкла, пэўна, як скарбонку,
Мы скарыстаем электронку.

*Ад І. К.*
Дык мы на пушкінскую тэму
Дамо вясковую паэму?

*Адказ І. К:*
Ды што нам тое Лукамор’е,
Калі паэтаў ў нас сузор’е?
Фінал прадбачыцца празрысты,
Бо сярод нас ёсць ліцэісты.

*Адказ І. К. (праз гадзіну):*
Здаецца, твой зачын сасватаў.
Рассылкай зоймецца Кандратаў.
Хапаю ў рукі, быццам сцяг,
Лукаморскага верша працяг.

## Буслан і Жабміла

*Калектыўная электронная паэма*

Ад “а” да “я”, ад “альфы” да “амегі”
Ўсё перабралі папярэднікі-калегі!
Аднак і мы не нэндзы і не лохі –
Чамусьці дзесь вучыліся патрохі.
Замуцім так, як захацелі.
На старт... Увага... Паляцелі! *(Ю. Н.)*

***

У Крынічанах ёсць бяроза,
Гліняны кубачак і стол.
І днём, і ноччу дзед цвярозы
Лунае побач і вакол. *(І. К.)*

Ён хлапчуком яшчэ калісьці
Бярозу тую пасадзіў.
Пад ёй да старасці няблізкай
Вучыўся, працаваў і жыў. *(М. К.)*

Сівенькі ўвесь, але рухавы,
Жывуць з ім рыжанькі хамяк,
Каза і кот... Такія справы...
Ён любіць іх, без іх – ніяк!

Дзед даў казе імя Гражына,
Ката свайго Кастусь заве,
А Вінцэнт – мілы хамячына –
На свеце дзесяць год жыве.

Гражына – дзеўка баявая,
Яна бароніць дзедаў двор,
Агонь у вочках не згасае,
Любому можа даць адпор.

Кастусь – каток высакародны.
Бывае, сядзе дзед піць чай,
А кот на чай, халера, згодны,
Кіўне на міску: “Налівай!”

А Вінцэнт дык звярок ва ўзросце
(Не хамячыных ён гадоў),
І часам ломіць яму косці,
Але пульсуе хомы кроў.

...Такая дзедава маёмасць,
Плюс дрэва, кубачак і стол.
Шчаслівы ён – таму цвярозасць,
Лунанне побач і вакол... *(А. А.)*

Ды ўсё-ткі нечага бракуе:
Ціш, лад, спагада і спакой...
Таму ідылію такую
Разбурым жорсткаю рукой!

Ёсць лук у дзеда самаробны,
Якім ён б’е цецерукоў.
Сабака, да ваўка падобны,
Цягае з пушчы вепрукоў.

Там сцежкі блытае нячысты:
Сто крокаў пройдзеш – з ног валісь!
Там шашаль точыць дуб вячысты,
Што Вітаўт вывернуў калісь.

Растуць пад вываратнем гэным
Смарчок, паганка, мухамор.
Суп варыць з галюцынагенаў
Ляснік здзічэлы – Глюкамор...

Ды зрэшты, што рабіць у лесе?
І ў горадзе жыццё цячэ!
А ў лес у развіцця працэсе
Мы хутка вернемся яшчэ. *(Ю. Н.)*

...У мегаполісе ў “хрушчоўцы”
Жыве нястрыжаны юнак.
Яго не гладзяць па галоўцы,
Бо ўсё ў яго ідзе не так.

Нязграбны, слабы і цыбаты,
Філфак сканчае хутка ён.
Як зранку выйдзе хлопец з хаты –
Трапляе ў роспачы палон.

Заўжды спазняецца “на пары”,
Губляе рэчы, посуд б’е.
І трапяткія песціць мары,
Што дзесь каханая жыве. *(А. А.)*

Як прыйдзе ўвечары дахаты –
Адно гітара ў галаве!
І песні гусляра Кандрата
Спявае, нібы салавей: *(Ю. Н.)*

“У гэтай Прыгажосці я ніхто:
Здаецца, зніклі здольнасці і талент,
А думкі, нібы воблакі, расталі,
На дне душы заціх салодкі стогн.

У гэтай Прыгажосці я слабы:
Так моц яе душу маю скарыла,
Што зніклі і Купала, і Скарына.
І сталі салаўямі галубы.

У гэтай Прыгажосці я нямы,
Са струнамі парванымі гітара...
Ды спадзяваннем лёсу не спраміць –
Для гэтай Прыгажосці
я пачвара...” *(М. К.)*

У марах пра фантом-каханку
Засне, бы выпіў к'янці гляк.
Само сабой, заспіцца зранку
І сабярэцца абы-як. *(Ю. Н.)*

Бяжыць, губляючы канспекты,
У чырвоных конверсах сваіх
Па Неакрэсленым праспекце
І ўспамінае ўсіх святых.

“Ну, што, святыя, зноў падстава?
Аблом, няпруха, каламуць?”
“Буслан, алегра-прэста-жвава! –
Яго сакурсніцы завуць. –
Няўжо ты сёння не спазніўся?
Ах ты, Бусланчык, наш Буслан!”
З мянушкай гэтай хлопец звыкся...
Усё-ткі лепш, чым Пелікан *(А. А.)*
Ці Певень, Дзяцел і Варона
І нават Сокал ці Арол –
І ад знішчэння абарона,
І класны каларытны флёр. *(Ю. Н.)*

А дома матухна пілуе:
“Нявеста, сыне, дзе твая?
Чаго крывіначцы бракуе?
Разумны, гожы... Ну, як я!

Але спакойны ты занадта,
З дзяўчатамі – ні “бэ” ні “мэ”.
Дык слухай, хлопец, сваю матку,
Бо добры план ёсць у мяне”. *(А. А.)*

...Здаецца, цягнецца ўсё звыкла:
Без эпатажу і турбот.
Таму для ажыўлення цыкла
Прыменім рэзкі разварот.

Пачатак быў амаль звычайны,
Аднак не “ламца-гоп-ца-ца”:
Радзімай сталі Крынічаны
Для маці нашага хлапца. *(Ю. Н.)*

– Ты, сыне, з'ездзі ў Крынічаны,
Туды, дзе дзед вякуе твой,
Заўжды разумны і адчайны,
Душы тваёй ён дасць спакой.

Там паплавы, палі і рэчка,
І старажытны лес глухі.
Вакол лагода з пахам грэчкі
І песні – з кожнае страхі.

Калі была я маладая,
У лесе нехта варажыў.
Калі ж у дзеда запытаеш –
Ён накірунак не забыў.

...Буслан, калі ў таксоўцы ехаў,
Матулі словы ўспамінаў.
Аднак таксіст Стасітай Пэхай
Настрой студэнту ўсё збіваў.

Вадзіла страшны, валасаты
Ўчапіўся ў руль, нібы мядзведзь.
Аж падалося, што паддаты:
З кумірам намагаўся пець:

– Здаецца, у цябе гітара?
А “Мурку” можаш мне сыграць?
Была ў мяне калісьці мара:
Блатныя песенькі стварäць...”

Тады ўздыхнуў студэнт з палёгкай:
Мінуў, відаць, Стасіты час.
“Шшас зробім...” Языком пацёхкаў:
“Тусляр Эміль.
Шансон для вас!” *(А. А.)*

Чахол раскрыў, дастаў “інструмант”,
Шлясь – медыятрам па губе!
– Сур'ёзны хлопец, фіглі думаць,
Усё, як трэба, у цябе! *(Ю. Н.)*

“Дазволь мне пабыць закаханым,
Пачуццямі закатаваным,
Нудзіцца ў прыемных пакутах,
Да сэрца твайго быць прыкутым
Дазволь, калі ласка, дазволь...

Ты мне падарыла натхненне,
Дазволь жа хаця б на імгненне
Пабыць у чаканым палоне,
Трымаць у далонях далоні,
Дазволь, калі ласка, дазволь...

І б'ецца, і б'ецца, і б'ецца,
Бы птушка, юнацкае сэрца.
Дазволь жа мне быць закаханым,
Адзіным, жаданым, абраным
Дазволь, калі ласка,
дазволь...” *(А. Е.)*

І выслухаў таксіст з увагай,
І падмармытваў-падпяваў.

Прапанаваў яму кулагу,
А на дарожку яблык даў. *(А. А.)*

– Няпросты яблык той, чароўны.
Насі з сабой яго заўжды.
Калі туга ці шлях няроўны,
Ён выведзе з любой бяды! *(Ю. Н.)*

...Цяпер з валізамі, з гітарай
Юнак шукае дзедаў дом.
Паветра набрыняла парай,
Яшчэ крыху – і будзе гром!

"Пакуль што пад бярозку стану,
Нямоцны дождж павінен быць".
Тут выйшаў нейкі дзед на ганак:
"Не чуеш, неба як крычыць?
Каб не намок – заходзь у сенцы
І непагадзь перачакай!"
Буслан на вузкія акенцы
Зірнуў.
А дзед: "Сюды давай!"

Зайшоў юнак у домік. Цёмна...
Гарыць там свечачка адна.
На печцы – кот, каза і хома.
І з фотакарткамі – сцяна.

І бачыць ён на фотаздымках
Нібы даўно забыты сон:
Ён, маці з бацькам у абдымках
Трымаюць жоўты парасон... *(А. А.)*

Заўважым, што стыкоўка гэта
Невыпадкова стала ў верш:
Зямля – маленькая планета,
А Крынічаны – трошкі менш.

Калі ж звярнуцца зноў да прозы,
Прытым, што бура за акном,
То дзед, які заўжды цвярозы,
Унука частаваў віном. *(Ю. Н.)*

А потым гутарылі доўга,
Гарбату з кубачкаў пілі.
Распавядалі жыва, многа,
Дзе што рабілі, як жылі...

Спытаў урэшце дзеда хлопча:
– А хто ў вас можа чараваць?
– Чаго ж ты ад вядзьмаркі хочаш?
– Ды мне б... Каханне адшукаць! *(А.А.)*

– Ну што ж, калі зусім пагана,
Давай, унучак зробім так:
Вядзьмарка ёсць. Завуць Раганай.
Яна – мясцовы чорны маг. *(Ю. Н.)*

У лесе чараўніцы хата.
Імхі, дрыгва, гадзюкі, гнюс.
Не знойдзеш сам... Тут праважаты
Патрэбен. Завядзеш, Кастусь?

Каток ласкава пасміхнуўся,
Зялёным вокам падміргнуў.
Буслан здзівіўся-схамянуўся,
Кастусь са згодаю кіўнуў. *(А. А.)*

– Ну што ты, дзед! Няўжо кашлаты
Ў вандроўцы здольны весці рэй?
– Ноў проблем!
Толькі бліснуць пяты!
Саскочыў кот і –
да дзвярэй... *(Ю. Н.)*

Буслан прамармытаў: "Няквёла..."
І за катом пацёгся ўслед.
"Разумны звер! Дрэсуры школу,
Як Куклачоў, адкрыў бы дзед..."

Пасля і не здзівіўся моцна,
Як коцік жартачкі травіў,
Падзеі паказалі хлопцу –
Што цуды ўсюды,
дзе б ні быў. *(А. А.)*

Кастусь як след ужыўся ў ролю –
Тэлепатычна сцвердзіў: "Йес!"
...Прайшлі гарохавае поле.
За ім і пачынаўся лес. *(Ю. Н.)*

І паглыбляліся паціху
Ў таемны змрочны той гушчар.
Адно вароны, каб ім ліха,
Сварыліся паміж імшар.

А за размовай несціханай
(Кот быў заўзяты балбатун!)
Знайшлі вядзьмарскі кут Раганы,
Дзе добра пагуляў Пярун.

Бо як па-іншаму тлумачыць,
Чаму трава тут не расце,
А з долу дух ідзе гарачы,
І ў той жа час вятрыска б'е?

Хаціна чорная, благая
(Пачвары-елкі па-над ёй!)
Малым акенцам пазірае,
Што ледзьве бачна
пад страхой. *(А. А.)*

Штыкеты з костак – плот Раганы.
Над галавою – плоймы мух,
Вужы слізгочуць пад нагамі,
І спрэс –
п'янкі балотны дух. *(Ю. Н.)*

Хоць быў пейзаж і варты страху,
Не здрэйфіў гарадскі Буслан.
Узяў ён коціка пад паху
І пераскочыў праз паркан.

– Што, вырашыў мяне наведаць?
Звярка з сабою прывалок?
Якраз у самы час абедаць...
І ты, і кот – у кацялок! *(А. А.)*

Зірнуў Буслан на гаспадыню:
Сказаць, што страшная – дык не.
Адно што голас, як у злыдні...
– Ёсць тэмка мутная ў мяне! *(Ю. Н.)*

– А што з табой плявузгаць,
хлопча?
Мне трэба паднавіць паркан!
– ...Бабуля, мо гароху хочаш?
Гарох – далікатэс раган! –
З-пад пахі коцік піскнуць здолеў.
– Ай, госці, ведалі, што браць!
– Мы пешкадралілі праз поле,
Дык як тут трохі не нарваць?

Старой вядзьмаркі твар змяніўся,
Змякчылася Рагана ўраз:
– Ну дык чаго сюды з'явіўся? –
З увагай слухала адказ.

– Ніякай асаблівай працы –
Цяпер ад радасці скачы.
Іспыт – па профілі вядзьмарцы.
Змарную пяць хвілін – лічы!

Калісьці я не тое ўмела...
Патрэбна пасма валасоў.
Чыіх? Тваіх, то ж зразумела!
Дзе мой секатар?
Чык! – гатоў! *(А. А.)*

Пачыкільгала да хаціны.
Буслан і кот – за ёй шпарчэй.
...У змроку, тхліне, павуціне
Ўладарыць падчарка начэй...

Мармыча-шэпча чараўніца,
А потым – рэзкі віск і храп!
Падкідвае ў кацёл дурніцы,
Хвасты мышэй, галовы жаб... *(Ю. Н.)*

З катла нарэшце вылятае
Паперка, змятая ў камяк.
Яе вядзьмарка падымае:
– Каханне тут тваё, юнак.

Хапай жа, на! Я ўсё зрабіла!
А дзякаваць не трэба мне,
Бо ўсё адно табе – магіла...
Ці падабаецца, ці не?! *(А. А.)*

Зарагатала сіпла, жорстка,
Затым крутнулася ваўчком,
Зрабілася куніцай порсткай –
За печку шуснула маўчком.

Сляпуча жахнула маланка,
Раскаціста шарахнуў гром!
...І вось стаяць сярод палянкі
Буслан
з правадніком-катком. *(Ю. Н.)*

– Вой, гаспадар! Бяда якая!
Вядзьмарка – шкодніца аднак.
Напэўна, загубіць жадае!
Крычыць пачварна дзесьці грак...
Вой, гора! Зблытала сцяжынкі!
І дрэвы ўжо не там стаяць...
Яшчэ ж казала пра памінкі!
Буслан, нам рана паміраць!

– Чаго ж мой Коця панікуе? –
Буслан дастаў чырвоны шар. –
Чароўны яблык уратуе –
Прарвёмся праз любы гушчар!

Па купінах, затым па траўцы
Панёсся дзіўны яблык-шар.
Быў рух яго агністым танцам
Сярод хмызоў, ялін, імшар.

Ды раптам храбуснуў ім хтосьці
І яблычак чароўны знік...

– Хоць недарэмна трэсла косці
Па родным лесе... Фрукт – залік!

І смачны плод, і сакавіты –
Ух, цёпла ў страўніку цяпер!
...Чаго заціхлі, паразіты –
І ты, юнак, і дробны звер? *(А. А.)*

То Патарочы Салапятай
Патрапіў яблык пад руку.
Буслан і кот маўчаць зацята...
А тая зноў:
– Merci beaucoup! *(Ю. Н.)*

Ну, з'ела яблык, з'ела, румзы!
Галоднай бабе вам шкада,
Каб трошачкі набіла пуза?
Кадук! Тут скнары! Жах! Брыда!

Прыбегла раптам купка моху,
Агнём страляла з вочак-дзір:
– До, Салапятая, палохаць!
Шаноўныя! Я – брыгадзір!

Галоўны ў лесе я нячысцік,
А Патароча – служка мне.
Я злы, бясстрашны і мясісты!
Супернікаў таплю ў віне!

– Хто раскрычаўся ў ціхім лесе?
Зноў экстрасэнс дурны Кадук?
Хамло, пачвара! Знікні ўрэшце!
Адбіўся, паразіт, ад рук! *(А. А.)*

І раптам – трэск! Як быццам з дуба
Мядзведзь ламаў сабой сукі.
І рогат безразважна грубы:
– А ну звалілі, байструкі! *(Ю. Н.)*

Кадук прапаў, з ім Патароча...
Які адсюль прагнаў іх мор?
Кажу для тых, хто ведаць хоча:
То быў здзічэлы Глюкамор.

Асілкам быў ляснік мясцовы
З даўжэзнай чорнай барадой.
Калісьці лёгка гнуў падковы,
Страшыдлаў мыў
святой вадой. *(А. А.)*

З глуздоў зляцеў у куламесе
Перабудовачных часін.
Жыў – ад граху далей – у лесе
Сярод жывёлін і раслін. *(Ю. Н.)*

Ды потым вар'яцеў пацíху,
Бо цяжка адзінокім быць.
А дзе тут шчасце, дзе тут ліха –
Ці нам пра тое гаварыць? *(А. А.)*

Аднак далёкі быў да скону
Дастаў аднекуль – ё-маё! –
"Вянок" Максіма, як ікону.
Хаця апавядаў сваё:

"Ў краіне светлай ўміраюць хутка:
За пяць хвілінак адзін канае.
Ў ёй ўсё спакойна, ў ёй ўсё ціхутка
Хоць нават Месяц слязьмі брыняе.

Ў краіне светлай заціхла песня,
Ў краіне светлай не бачна зорак.
Замест паветра – ў ёй тхло і плесня,
Замест прасторы – турэмны дворык.

Ў краіне светлай пануе Ліха,
З ім ў параўнанні Рагана – фея.
А мне ўсё пофіг – ў мяне ўсё ціха:
Звару грыбочкаў – не помню дзе я!

Ў краіне светлай анёлам крылы
Або спалілі, або зламалі!
Забыць кут мілы не маю сілы...
Але задралі,
дальбог задралі!" *(Ю. Н.)*

Сябры на дзеда пазіралі,
Не ведалі, што ім рабіць.
За вершык "дзякуй" мармыталі...
Пачаў стары ім гаварыць:

– Не трэба лясніка пужацца –
Шукаю пятага вугла!
Адсюль вам трэба выбірацца,
Бо шмат і ў лесе служак зла.

Вачыма заіскрыў. Няйначай,
Таксама трошкі чараўнік!
"Буслан, бутэлечку з удачай
Трымай!" – сказаў
і раптам знік. *(А. А.)*

"Дзе тут удача, што чакае? –
Буслан шкляны пакручваў гляк. –

На выгляд быццам бы пустая,
Але ж не выкінеш –
ну як?!” *(Ю. Н.)*

І тут заўважылі героі
Праменьчык светлы між ялін.
Пакрочылі за гэтай мрояй...
Мо дойдуць
да сваіх мясцін? *(А. А.)*

І хоць пакуль каток з Бусланам
З чытацкіх не сышлі вачэй,
Пераляцім у Крынічаны,
Бо з аўтарамі ўсё хутчэй. *(Ю. Н.)*

...Не на мятле і не на возе,
На “Лексусе” – аж пыл слупом –
Нясецца з поля па дарозе
Калгасны новы аграном.

У Крынічанах толькі тыдзень,
А ўжо ўцячы адсюль карціць:
Паспеў яе мясцовы злыдзень
Жабмілай злёту ахрысціць.

О так, наш аграном – дзяўчына!
Чаму адна і на сяле?
На тое важкая прычына –
Студэнты ведаюць яе.

Для тых, хто не зусім у тэме,
Тлумачу жартам і ўсур’ёз:
У нетрах сельгасакадэмій
Нястача гёрлз і плойма бойз.

Магла, вядома, выйсці замуж,
Ды не сустрэла суджанка.
Ды зрэшты, трапіла не ў яму ж,
А ў перспектыўны СВК!

Тут ёсць кафэ і цэнтр гандлёвы,
Што выглядае з-за адрын,
ДэКа шыкоўны, хоць не новы.
І нават клуб начны – “Найт-Крын”!

У Крынічанах ёсць і хата –
Катэдж памерам сем на пяць.
Адно што трохі сумнавата,
Як стане вёска заціхаць.

Пакуль кароў падояць бабы,
Яна ідзе да азярца,
Дзе квакаюць нястомна жабы
І карасі даюць нырца.

Вось каля жаб мясцовы гіцаль
(Дзе праменадзіла штодня)
Яе засёк. У тон традыцый
Ён перайначыў ёй імя...

Як сонца за лясок кульнецца,
Жабміла вернецца ў катэдж.
Прысядзе з кніжкай бліз вакенца,
Наталчын пачытае верш: *(Ю. Н.)*

Неба ў бляску сляпучым стыгне,
Жоўтым вокны шкліць.
Без цябе пражыўшы тры тыдні,
Так і звыкну жыць.

Але ў вечар, ветрам напяты
Над ламаным грэбнем дамоў,
Тонкі твар, бы з іконы зняты,
Узгадаю зноў.

Што ты? Дзе ты? Месяц замглёны
Крэпне між аблок.
У завулку блукальнік сонны
Прыцішае крок. *(Н. К.)*

Як вузкі месяц знікне ў хмарах,
Туман апусціцца дымком,
Папстрыкае па трох праграмах
І ўрэшце падключае комп.

Вядома, нік стары змяніла,
Як на гумор змяніла злосць.
Цяпер яе завуць Jabmila.
Няхай так будзе, раз так ёсць!

Зноў у прасторы пераскочым
На кіламетра паўтара,
А ў часе – на чатыры ночы:
Да ціхамірнага двара.

Сцямнела. Вечар – адпачынак,
А ноч – здаровы моцны сон.
То не банальны напамінак,
Хоць так было вякоў спакон. *(Ю. Н.)*

На дзень справункаў тут багата:
Збірай грыбы, касі траву...
Пад вечар дзед сядзіць пад хатай
І падпірае галаву. *(І. К.)*

Не спіцца, дзеду, палкі-ёлкі!
Напэўна, адаспаў бакі.
Глядзіць: як падлыя анёлкі,
Ідуць бухія вахлакі!

“Хто? Што? Дзе? Як?” –
пытанні ўмомант
У дзеда ў галаве ляцяць.
– Куды? – “Найт-Крын”.
– Чаму? – Ноў комент,
Бо зразумела – дабаўляць. *(Ю. Н.)*

Адзін у шэрым гарнітуры,
Кудлаты, быццам бармалей,
Другі – насуплены і хмуры,
Бурчыць пад нос яму: “Налей!”

А трэці – вые, як ваўчара
(А каб не псіхануў – “пяе”),
Пра тое, што на сэрцы хмара,
Бо побач з ім няма Яе.

Наш дзед, дапытлівы не ў меру,
Прыбор наладзіў слыхавы.
Пачаў размову той, што ў шэрым,
А скончыў той,
што гучна выў. *(І. К.)*

Як rus in urbe, urb у вёсцы,
Бы прышч на попніцы тырчыць –
Не будзе месца нават косцы,
Каб жаніхоў пералічыць!

...Ветэрынар, пастух аблудны,
Мент адстаўны – туды ж, а як?
Бо трэба ж недзе і хахлюдам
Разбавіць самагону гляк?!

Знікалі сілуэты, словы...
Дзед толькі крэкнуў: “Цыркачы!”
Таму астатнія размовы
Пачуюць толькі чытачы. *(Ю. Н.)*

– Чакайце, хлопцы! Дай запалкі...
Дзімонік, чуеш ты ці не?!
Здаецца, што даярка Галка
Цяпер не першая ў сяле!

Я ўчора бачыў... Шобла, слухай!
Анёл ляцеў у сельсавет...
Якая постаць! Тварык! Рухі!
Няўжо дарма я скончыў Вет?

Я раскажу ёй пра жывёльны...
Ды што жывёльны? – цэлы свет!
Я ёй канцэрт наладжу сольны,
Хоць і не бард, і не паэт!

Сябры, блін, дайце мне параду:
Куды багіню запрасіць?
На поле зранку пасвіць статак,
Або адразу на Га-іць? *(І. К.)*

– А не пашле цябе ці на фіг
Канкрэтна старшыня Вінтоў?
Вісіць у кабінеце графік...
– Ну на фіг вас усіх, мянтоў!

Ты адслужыў сваё – і не фіг!
Цяпер харэ панты кідаць...
Пастух улез, былы электрык:
– Заглухніце – “Найт-Крын” відаць!”

Пастух, дарэчы, быў той самы,
Што каля возера блукаў.
Хоць больш бадзяўся каля крамы
І сабутэльніка шукаў.

Быў прайдзісветам, сібарытам,
Філосафам, жартаўніком...
Каб карацей, са слоў эліты
Мясцовай – проста ...аўнюком.

Каго мянтом ашальмавалі
(Бо сапраўды здаў пісталет!),
Цяпер у вёсцы паважалі
І выбіралі ў сельсавет.

Ён мог суцешыць небараку,
Парадак здольны быў “блюсці”,
Бо ведаў кожнага сабаку
І ўмеў з усімі лад знайсці...

Ветэрынар мясцовы – трэці –
Звычайны быў спецыяліст.
Аднак у мінулым леце
Сябе праславіў як самбіст.

Быў чэмпіёнам на Дажынках –
Шпурнуў партнёра за кілім!
...Там не бывае паядынкаў?
Ну гэта ж казка, холер з ім!

Вось у каго з іх болей шанцаў?
Хто больш Фартуну раззлуе?

...“Найт-Крын” сустрэне абажанцаў
Жабміліных – і ім налье.

Няхай зальюць, як трэба, вочы!
Мы ж віртуозны зробім крок:
Па часе зноў уперад скочым,
А па адлегласці – убок.

Там цягнецца каток з Бусланам
Праз грозны нагаломны лес.
Шанцуе часцяком прафанам –
Здаецца, што відаць прагрэс,
Бо скрозь балоты і паляны
Людскім павеяла жытлом.
За ўзлескам шэрым – Крынічаны...
Яны – ускач, амаль бягом! *(Ю. Н.)*

Дабеглі ўрэшце да дарогі,
На плечы звесіўшы язык.
Скакалі, дзякавалі Богу,
Што не прыйшоў
па іх кірдык. *(А. А.)*

...Хаця “кірдык” – не наша слова.
Як з джунгляў – лес,
ці з хаты – чум...
Брэйнстормінг лёгкі – і гатова:
Па-беларуску – карачун!

...Узбоч гарохавага поля
Нясецца новы аграном.
Здаецца, звыклай стала роля,
І нават кіраваць – не ў лом.

І абжываецца патроху...
А што далей? Далей – пасля!
А хто ж там прэцца па гароху
Жардзінай, бачнаю здаля?! *(Ю. Н.)*

Па тармазах і па клаксоне!
Наладжу зараз вам нагон...
Адразу сцяліся гулёны –
Забрала немач у палон... *(А. А.)*

Зніякавелая адчайнасць
Жабмілу збіла ўадначас:
– Сядайце. Хоць да Крынічанаў
Падкіну я між справай вас.
А коцік ваш? Які разумны! –
Яна пагладзіла катка. –
Прабачце, дзень занадта тлумны –
Усё газую з лакатка.

Усеўся хлопец у машыну,
Туды ж і Костуся ўсадзіў,
Адчуў чароўны пах шыпшыны...
“І чым я гэта заслужыў?”

Затым усё нібы ў тумане –
І разгубілася душа!
Буслан адчуў: прыйшло каханне,
Хоць не здалося так спярша.

– Я... тут... да дзеда, дзе бярозка... –
Буслан здранцвеў, бы ў спіне лом.
– Дык ведаю! А вось і вёска...
А я – мясцовы аграном...

Што там Карнегавы вучэнні,
Калі пачуцці цераз край!
Ледзь мармытнуў: “Да пабачэння...”
На энергічнае: “Бывай!” *(Ю. Н.)*

Як толькі ён сышоў з дарогі,
Насустрач крочыць дзед:
– Здароў!
І дзе цябе насілі ногі,
Чаму прыйшоў пазней кароў?
Адкуль падвезла аграномка?
Ці мо завёў з ёй шарм і блат?
Счакаліся Гражына, хомка...
– Дзядуля, не грузі зашмат,
Бо я за межамі он-лайна...

Хацеў быў адказаць каток
Замест Буслана бойка, хвайна –
Ды толькі выдаў “м-мяў!” раток.

– Буслан! У краму па бутэльку
Забег? Як гэта разумець?
Малы! Патраціць каб капейку,
Мо трэба глузд хоць нейкі мець?

– Ды не, дзядуля, тут удачу
Мне лесавік закаркаваў!
Яшчэ паперачку ў прыдачу
Ў Раганы я адваяваў... *(А. А.)*

– А-а, Глюкамор! Пракуднік гэты
Калісьці пашумець любіў!
Ды зрэшты, і мінулым летам
Ласю-бамбізе рогі збіў.

Хацеў прадаць у нашым свеце,
Але сустрэў яго Вінтоў...

Цяпер вісяць у кабінеце –
Ажно на дваццаць пяць вілкоў!

З Раганай я вучыўся ў школе –
Разумнай дзеўкаю была!
Ды прывучыцца аніколі
Да дысцыпліны
не магла! *(Ю. Н.)*

...А што ў паперцы? Прыгажуня?
Жартуе, чорт яе калі!
– Ды сам не ведаю, дзядуля.
Глядзець мне не было калі! *(А. А.)*

– Цяпер час ёсць. Чытай паперку!
– Ды лепш спачатку, дзед, я сам...
Дзед меў у выхаванні мерку:
– Ну, добра...
І пайшоў Буслан. *(Ю. Н.)*

...Бач, мадэрновая вядзьмарка!
І крынічанскі змрочны лес
Скарыла інтэрнэта марка –
Прарыў вялізны і прагрэс! *(А. А.)*

Ад'ехаўся шукаць спакою
У заімглёны гэты край,
А тут у лесе пад рукою –
І Гугл, і Яндэкс і Тутбай! *(Ю. Н.)*

Я думаў, што загадка будзе.
І ці знайду яшчэ адказ?
...Рагана – адрас мне на блюдзе
Ад пошты электроннай...
Клас! *(А. А.)*

Ды зрэшты, хто нашто патрэбны,
Калі навідавоку ўсё?
...Хоць не заслоніць водар хлебны
Кіндзаку Мацуо Басё!

Аднак філфакаўскія згадкі
Вярнулі хлопца на зямлю.
– Урэшце навядзём парадкі,
Бо трэба ведаць,
што раблю! *(Ю. Н.)*

Пакрочыў наш герой у хату,
Узяўся рэчы разграбаць:
"Гітара, шорты, э-э-э... гарбата...
А вось і ноўт!" Ахвота спаць...

Ды нельга! І пачаў хлапчына
З паперкі адрас набіраць.
"Без фотаздымка... Звяць Jabmila.
А я – Buslan!
Што напісаць?" *(А. А.)*

***

А што далей? Усё празрыста:
Спазнаюцца пасля нягод.
Не трэба талент раманіста,
Каб прадказаць банальны ход.

Перамагчы трох канкурэнтаў
Буслану лёс наканаваў...
А як з асілкамі студэнту
Расправіцца? Вось гэта – ваў!

Аднак і тут адметны тонус
Не трэба – быў бы такт і густ,
Бо ў казцы чарадзейны бонус
Пад трафарэтны ляжа куст.

За намі – цэлая дружына:
Апроч таго, што дзед і ўнук, –
Хамяк Вінцэнт, каза Гражына...
А ў дзеда – самаробны лук,
Сабака, што кныроў ганяе,
(Хаця маўчыць, калі свае)...
Раскладка поспеху спрыяе.
Магчыма іншае што? – не!!

Яшчэ ў загашніку Буслана
Бутэлечка з удачай ёсць...
Задзейнічаць – не так складана:
Айк'ю ўключыце! Або злосць...

У беспардонным перапудзе
Крутнём нязмушана штурвал:
Вяселле, несумненна, будзе –
Класічны казачны фінал!

Адбудзецца вяселле ўвосень,
Калі гарачы час міне.
Магчыма, нас туды запросяць...
Прыпромся, а чаму б і не?!

Падорым ім трохпакаёўку,
Пуцёўку ў месячны круіз...
У казцы (нагадаем зноўку!)
Няма праблем – любы капрыз!





*На здымках: аўтары паэмы – Аліна Агрэніч, Алесь Емяльянаў, Мікола Кандратаў,*

А як жа з'ехаць з Крынічанаў
Раней пазначаных гадоў?
Міжзнак і гэта адзначалі:
Замужжа плюс спадар Вінтоў!

...Вось і раскладзены ўсе карты
І злепкі зроблены з ключоў.
І думаецца, што не варта
Дурыць галовы чытачоў.

Ніякай асаблівай лажы
Ў паэме не было пакуль.
Ёсць накірунак, персанажы –
І чытачам у рукі руль.

Бо пачуццё аб'ёму, меры
Даецца творцам нездарма.
У нас – брак часу і паперы,
Бы ў матэматыка Ферма,
Які, да слова, быў юрыстам
Да дыфзлічэння адкрыцця...

А так – пісалася са свістам,
Назло бязглуздасці жыцця. *(Ю. Н.)*

***

Як праспяваў казе Баян:
"І мы не лепім з гліны бяшак!"
...Здаецца, той Баян – Гусляр.

А зрэшты, дзе наш ганарар –
На інтэрнэт
і пару пляшак?! *(Ю. Н.)*






*Іра Карэліна, Наталка Кучмель, Юрась Нераток.*

дзеяпіс

# Словы ў голым полі

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***

**Барадулін Рыгор. Толькі б яўрэі былі!.. : кніга павагі і сяброўства. Склад. Н. Давыдзенка, прадм. В. Нікіфаровіча; заўв. І. Сляповіча. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 244 с.**




Кнігу народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна склалі эсэ, артыкулы і ўспаміны пра вядомых дзеячаў яўрэйскай культуры, пераклады паэзіі Х.-Н.Бяліка, М. Надзіра, М. Шагала, І. Харыка, Х. Мальцінскага, Р. Рэлеса і многія інш., якія нарадзіліся і жылі ў нашай краіне. Унікальны апошні раздзел зборніка. У ім вершы і дарчыя надпісы, большасць з якіх друкуецца ўпершыню, творцам, блізкім сябрам і калегам – А. Дракахрусту, Н. Кісліку, Я. і М. Серперам, В. Нікіфаровічу, Б. Забораву, Д. Сімановічу і інш., а таксама вершы, прысвечаныя яўрэйскім святыням.

**Беларус. Літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа. Выдавецтва “Беларус”, Нью-Ёрк, 2011.**




Чацвёрты нумар альманаха сабраў пад сваёй вокладкай ужо вядомых па папярэдніх выпусках беларускіх аўтараў, што жывуць у далёкім і блізкім замежжы. Свае новыя творы і пераклады прапанавалі знаёмыя нам і па публікацыях у “Дзеяслове” Ірына Варабей, Віталь Воранаў, Якуб Лапатка, Іна Снарская, Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Тарановіч, Юрась Шамецька, Макс Шчур... Апякуецца выхадам альманаха Марат Клакоцкі, які ў прадмове да гэтага нумару выказаў надзею, што, улічваючы “прысутнасць у замежжы беларускіх літаратараў, што хацелі б друкаваць свае творы ў гэтым выданні”, выпуск штогадовіка будзе працягнуты. Мы таксама спадзяемся на гэта, бо выданне паспела займець папулярнасць не толькі ў замежжы.

**Гілевіч Ніл. Збор твораў у 23 тамах. Том 17. Паэты і пісьменнікі замежных краін: штрыхі да партрэтаў, эсэ, эцюды, абразкі. – Мінск, 2011. – 568 с.**




Чарговы 17 том Збору твораў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча ўвабраў у сябе артыкулы, эсэ, літаратурна-крытычныя эцюды, абразкі, штрыхі да партрэтаў і міні-абрысы пра паэтаў і пісьменнікаў Расіі, Украіны, Балгарыі, Польшчы, Славеніі, Венгрыі і іншых краін свету. Асаблівая ўвага аддадзена, вядома ж, творцам нашых блізкіх суседзяў, а таксама не такой і далёкай Балгарыі.Талент Ніла Гілевіча крытыка, літаратуразнаўцы і... сябра праявіўся ў гэтай кнізе найяскрава.




**Дубянецкі Эдуард. Душы маёй нясканчаны палёт: кніга паэзіі. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 124 с.**

Першая кніга паэзія аднаго з пастаянных аўтараў "Дзеяслова", больш вядомага як навукоўца, літаратуразнаўцы, крытыка, эсэіста Эдуарда Дубянецкага ўражвае сваёй шматграннасцю, шматжанравасцю, шчырым роздумам, болем і заклапочанасцю аўтара "драматычным лёсам роднага краю", а таксама "спадзяваннямі на асабістае шчасце і мары пра духоўнае ўзвышэнне чалавека". У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя за апошнія дваццаць гадоў: з 1990 па 2010 гг.




**Лукашук Аляксандр. Сьлед матылька. Освальд у Менску. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2011. – 390 с.: іл.**

Падрабязная гісторыя двух гадоў жыцця ў Мінску Лі Гарві Освальда – амерыканскага грамадзяніна, які стаў забойцам 35-га прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі, і за якім "дзень і ноч сочыць вока і вуха дзяржбяспекі", заснаваная на ўнікальных фактах і дакументах, сабраных аўтарам Аляксандрам Лукашуком. У беларускім друку яшчэ не было падобных даследаванняў, прысвечаных падзеям нядаўняй гісторыі. Жыхарам Мінску яно будзе цікавым яшчэ і як дакументальнае падарожжа ў беларускую сталіцу 1960-х гадоў. Кніга цудоўна аформлена мастаком і дызайнерам Генадзем Мацурам.




**Мілаш Чэслаў. Даліна Ісы; пер. з пол. Марыі Пушкінай; Нобелеўская лекцыя; пер. з пол. Яўгена Бурага. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 376 с.**

**Мілаш Чэслаў. Выратаванне: выбраныя вершы і паэмы; пер. з пол., уклад. А. Хадановіч. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 376 с.**

**Мілаш Чэслаў. Зямля Ульра; пер. з пол. Марыны Казлоўскай; Руіны і паэзія; пер. з пол. Марыі Мартысевіч. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 388 с.**

**Мілаш Чэслаў. Родная Еўропа; пер. з пол. Марыны Шода. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 412 с.**

Чатыры тамы твораў Чэслава Мілаша – падарунак усім беларусам ад супольнасці перакладчыкаў, выдаўцоў, супрацоўнікаў Амбасады Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь і Польскага Інстытута ў Мінску да 100-годдзя з дня нараджэння слыннага аўтара, лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Ці варта казаць, што гэтакі шырокі і поўны збор твораў замежнага аўтара выходзіць у суверэннай і незалежнай Беларусі ўпершыню. І, што важна, зроблены ён без падтрымкі беларускай дзяржавы...




**Максімюк Ян. Словы ў голым полі: беларуская літаратура 1990-х у снах, успамінах і фотаздымках. – Мінск, Логвінаў, 2011. – 224 с. – (Галерэя «Б»).**

Ян Максімюк вядомы ў Беларусі найперш як аўтар перакладу "Уліса" Джэймса Джойса і журналіст Радыё Свабода. Большасць тэкстаў гэтай кнігі – адметных і запамінальных – знаёмыя беларускім чытачам па публікацыях у розных выданнях, і ў іх аўтар паўстае ў новым абліччы, як удумлівы назіральнік, "сведка і суўдзельнік" тых літаратурных працэсаў, "буйства формы і зместаў", што адбываліся ў Беларусі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Жанр кнігі Ігар Бабкоў у прадмове акрэслівае як «крытычныя ўспаміны пра эпоху», што азначае "аўтар распавядае пра сваё асабістае падарожжа па часе і прасторы, але ўсё, з чым ён сустракаецца ў сваім падарожжы. значна большае і істотнае, чым проста асабістае".




**Някляеў Уладзімір. Кон: вершы двух стагоддзяў, выд. пашыр. – Мінск: Лімарыус, 2011. – 296 с.**

Своеасаблівае выбранае выйшла да 65-годдзя з дня нараджэння вядомага паэта і аб'яднала пад адной вокладкай вершы, напісаныя на працягу больш як сарака гадоў: леншае са зборнікаў «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Знак аховы», «Наскрозь», «Прошча», «Так»... Увайшлі ў кнігу і новыя творы «Лісты да Волі» (турэмныя вершы), напісаныя на працягу апошняга года, які быў для Уладзіміра Някляева дужа насычаным на падзеі...




**Рублеўскі Сяргей. Маўчанне на ўвесь Божы свет: пратэстныя настроі на Лепельшчыне падчас перапісу насельніцтва СССР у 1937 годзе: нарыс. – Мінск: Медысонт, 2011. – 88 с.**

Беларуская гісторыя нядаўняга XX стагоддзя мае нямала “белых плям”, адну з якіх узяўся даследаваць пісьменнік і журналіст Сяргей Рублеўскі. Аказваецца, падчас ардынарнай з’явы – перапісу насельніцтва СССР у 1937 годзе – у Беларусі, а канкрэтна ў Пышнянскім і Стайскім сельсаветах Лепельскага раёна, адбываліся неардынарныя падзеі, пра якія нават было паведамлена ў Крэмль самому Іосіфу Сталіну. Дзясяткі жыхароў некалькіх беларускіх вёсак адмаўляліся адказваць на пытанні перапісу – адмоўчваліся... Аўтар паспрабаваў разабрацца ў прычынах гэтага, наведаўшы цяпер тыя самыя мясціны і пагутарыўшы з жывымі сведкамі тых падзей.




**Стагановіч Аляксандр. Успаміны пасла; прадм. А. В. Пашкевіча, камент. А. В. Пашкевіча, А. Э. Гардзіенкі. – Мінск: Лімарыус, 2011. – 270 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка; вып. 1.)**

Гэтая кніга – “першая ластаўка” новай кніжнай серыі “Беларуская мемуарная літаратура”, заснаванай сёлета выдавецтвам “Лімарыус”, у якой мяркуецца сабраць “успаміны, дзённікі, эпісталярыі, пакінутыя беларусамі або выхадцамі з беларускіх земляў пра падзеі, што адбываліся ў Беларусі, у блізкім і далёкім замежжы цягам апошніх стагоддзяў”. У першае выданне ўвайшлі “Успаміны пасла” Аляксандра Стагановіча і яго артыкулы, якія маюць выразна мемуарны характар.




**Тарановіч Алесь. Берлінская мазаіка: эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 256 с. – (Бібліятэка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 13.)**

Даўні аўтар “Дзеяслова”, мастак і пісьменнік Алесь Тарановіч, які цяпер жыве ў Берліне, нарэшце выдаў сваю першую кнігу на радзіме, прысвечаную жыццю на чужыне, сучаснай Нямеччыне і немцам, а таксама Беларусі і беларусам... Погляд зблізку і здалёку адрозніваецца “сваёй лірычнай паэтычнасцю і метафарычнай вобразнасцю, якія дзіўна спалучаюцца з вострай сацыяльнасцю, надзённасцю і ўражваюць назіральнасцю аўтара”, – гаворыцца ў анатацыі да кнігі.

# Нашыя аўтары

**Антановіч Дана** – паэт, празаік. Пераможца літаратурнага конкурсу «Зорачкі Прыдзвіння». Творы друкаваліся ў мясцовым літаратурным выданні «Полацкі каўчэг». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Беланогая Тацяна** – паэт, бард. Аўтар альбомаў «Там, дзе мы», «Пабачыць сьвет», «Дзьвюхкроп'е», «Ніткі». Афіцыйная старонка www.bielanohaja.org. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бураўкін Генадзь** — паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг паэзіі «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Варта вернасці», «Пяшчота», «Паміж зоркай і свечкай», «Чытаю тайнапіс вачэй» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Шуляціна на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Вежнавец Ева** – празаік. Аўтар кнігі «Шлях дробнай сволачы». Нарадзілася на Любаншчыне. Цяпер жыве ў Польшчы.

**Варабей Марына** – паэт. Студэнтка трэцяга курса філалагічнага факультэта БДУ. Папярэдне скончыла Мінскі дзяржаўны тэхналагічны каледж (фатограф). Спявае ў гурце «Трызна» (3-Zna). Нарадзілася ў 1988 годзе ў вёсцы Раманаўшчына на Мядзельшчыне.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Донаў Павел** – перакладчык. Выпускнік БДУІР па спецыяльнасці «штучны інтэлект». Перакладае з ангельскай і ўкраінскай моваў. Працуе інжынерам-праграмістам. Пераможца конкурсу перакладаў лірыкі гурта «Metallica» на Еўрарадыё. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Оршы.

**Дубянецкі Эдуард** – культуролаг, псіхолаг, гісторык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг «Таямніцы народнай душы», «Цяжкі шлях да адраджэння», «Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён», «Культуралогія» і інш. Вершы друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Ганцаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лапіцкая Алеся** – крытык, празаік, публіцыст. Студэнтка філфака БДУ. Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Лянкевіч Уладзь** – паэт, перакладчык. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (беларуская філалогія) і Беларускі Калегіюм (аддзяленне філасофія/ літаратура), у час навучання ў калегіюме пачаў наведваць перакладчыцкую майстэрню. Цяпер вучыцца ў аспірантуры. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Марціновіч Дзяніс** – гісторык, літаратурны і тэатральны крытык, журналіст. Закончыў гістарычны факультэт БДУ і магістратуру пры ім. Аспірант гістарычнага факультэта БДУ. Аглядальнік газеты «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Нераток Юрась (Гарбачоў Юрый Юр'евіч)** – паэт, празаік. Аўтар кніг вершаў «Фотаальбом», «Споведзь струны», кнігі прозы «Закуцце». Нарадзіўся ў

1961 годзе на Мастоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000 г.). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», прозы «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Пашкевіч Алесь** — паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Нябесная сірвента», «Пляц волі», «Зваротныя дарогі», «Круг» і інш. Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Прыходзька Мікіта** – паэт. Скончыў мазырскую гімназію імя Янкі Купалы. Цяпер студэнт БДУІР. Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.

**Пятровіч (Лянкевіч) Алена** – перакладчык. Выпускніца філалагічнага факультэта БДУ і магістратуры пры ім. Лаўрэат літаратурных конкурсаў імя У. Караткевіча (2005) і К. Шэрмана (2009). Перакладае з польскай, украінскай, ангельскай і чэшскай моваў. Пераклады друкаваліся ў часопісах «Паміж», «Дзеяслоў”, «Arche». Нарадзілася ў Віцебску ў 1985 годзе. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», а таксама «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Стэфановіч Андрэй** – перакладчык. Паводле адукацыі архітэктар. Перакладае з ангельскай, французскай і нямецкай моваў. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Жыве ў Лондане.

**Усеня Алесь** – паэт, празаік, сатырык, выдавец. Аўтар кніг «Я хачу на сваю планету», «Здань на хутары», «Дзежка дзёгцю, «Пустадомкі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Пасека на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Чайкоўская Вольга** – паэт, журналіст. Аўтар кнігі «Лупы». У 2007 годзе разам з Юрыем Круглікавым стварыла арт-праект МЯТNA. Першы музычны альбом дуэта «Спрэс гуло» выйшаў у 2008 годзе, у 2010 годзе пабачыў свет другі альбом «Мітрэнгі». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Цімафеева Юля** – перакладчык. Выпускніца факультэта ангельскай мовы МДЛУ. Перакладае з ангельскай мовы. Пераклады з'яўляліся ў часопісах «Паміж» і «pARTisan», «Arche», «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1982 годзе на Брагіншчыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Укладальнік кніг: «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960-2003)», «Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954-1971)» (разам з Н. Давыдзенка), кнігі паэзіі Р. Барадуліна «Перакуленае/Опрокинутое». Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча за двухтомнае даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Янкута Ганна** – перакладчык. Выпускніца філалагічнага факультэта БДУ (беларуская філалогія), магістр філалагічных навук (ангельская літаратура). Перакладае з ангельскай, польскай, нідэрландскай моваў. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску.

**Ярмольчык Наталля** – празаік. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, факультэт французскай мовы. Пасля навучання на франкамоўным аддзяленні факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта ў 2006 годзе атрымала дыплом Інстытута кіравання прадпрыемствамі Універсітэта Парыж-1 Пантэон Сарбона, спецыяльнасць «міжнародны бізнэс». Працуе перакладчыкам. Нарадзілася ў 1980 годзе ў вёсцы Купяцічы на Піншчыне. Жыве ў Пінску.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (50-55) за 2011 год

***Тэатр***



***Дэбют***



***Пераклады***



***Конкурсы***



***Архівы. Дзённікі.***

***Памяць. Згадкі***



***Час. Юбілеі***



***Спадчына***



***Інтэрв'ю***



***Эсэ***



***Мастацтва***

***Крытыка. Кнігапіс.***



***Практыкум***



***Дзеяпіс***

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.

Тэксты, музыка, гітара, вакал – Тацяна Беланогая
Гукарэжысэр – Эдуард Іваноў
Афармленьне – Максім Кароль ©

Прысьвячаю гэты альбом маім бацькам – спадару Аляксею і спадарыні Зоі

Дзякуй: Пётру Бакалю, Марыі Беланогай, Кацярыне Безмацерных, Яраславу Берніковічу, Мацею Вільчыньскаму, Пётру Дудановічу, Зьмітру Занеўскаму, Эдуарду Іванову, Вользе Кастрамінавай, Настасьсі Маркавай, Іне Перасецкай, Дзянісу Пугачу, Зьмітру Саўку, Кацярыне Юркевіч.

З нагоды арганізацыі канцэртаў можна зьвяртацца:
тэл.: +375-29-567-24-41
З нагоды замовы дыскаў можна звяртацца:
тэл.: +375-29-567-24-41
ўэб: bielanohaja.org



Lyrics, music, guitar, vocals – Taciana Bielanohaja
Sound engineer – Eduard Ivanoŭ

Design – Maksim Karoĺ ©

I dedicate this work to may parents – Aliaksiej and Zoja

Thanks to: Piotr Bakaĺ, Maryja Bielanohaja, Jaraslaŭ Biernikovič, Kaciaryna Biezmaciernych, Piotr Dudanovicz, Eduard Ivanoŭ, Kaciaryna Jurkievič, Voĺha Kastraminava, Nastaśsia Markava, Ina Pierasieckaja, Dzianis Puhač, Źmicier Saŭka, Maciej Wilczyński, Źmicier Zanieŭski.

To arrange a concert please use the contact information below:
Phone: +375-29-567-24-41
If you wish to purchase this CD call +375-29-567-24-41
Web: bielanohaja.org



## Тацяна Беланогая
## Ніткі

1. Вены каханьня
2. Болей ня трэба
3. Каменны горад
4. Зьнітаваныя
5. Сны
6. Дождж і птах
7. Малітва
8. Горы
9. Белае воблака
   *прысьвячаецца Алесю Адамовічу*
10. Сэрца ў аўтобусе
    *прысьвячаецца Алесю Камоцкаму*
11. Калі няма сьцяны
12. На падваконьні кветка
13. Зіма. Вакзал
14. Я веру ў любоў

Агульны час: 39:00

## Taciana Bielanohaja
## Threads

| | |
|---|---|
| Veins of Love | 3:10 |
| That is Enough Now | 2:49 |
| A City of Stone | 3:01 |
| Bound Together | 2:54 |
| Dreams | 3:09 |
| Rain and a Bird | 2:12 |
| Prayer | 2:46 |
| Mountains | 2:55 |
| White Cloud | 3:24 |
| *To Alieś Adamovič* | |
| A Heart on a Bus | 2:44 |
| *To Alieś Kamocki* | |
| When There's no Wall | 3:30 |
| A Flower on My Window | 2:00 |
| Winter. Train Station | 2:02 |
| I Believe in Love | 2:24 |

Total time: 39:00



Threads
Taciana Bielanohaja
Тацяна Беланогая
Ніткі



Праэкт рэалізаваны ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!»